Мікола Гіль

# КАМАНДЗІРОЎКА Ў ВІШАНЬКІ

*Апавяданні,*
*аповесці*



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# АПАВЯДАННІ

## НІХТО НЕ ПРЫЯЗДЖАЎ

Пасля абеду брыгадзір паслаў Пятра баранавацъ бульбу. Палетак пад бульбай быў ладнаваты — раскінуўся між дарогай, якая звівалася-паўзла па Краснай горцы, і сценкай, што пралегла пад могілкамі. Гэта — удоўжкі. А ўшыркі — ад Рыгоравых дадаткаў да Глінішча. Ганяў Пятро свайго «Беларуса» ад дарогі да сценкі — бульба была ўжо вялікаватая, дык баранаваў толькі ўдоўжкі, каб не вырваць часам якое каліва. Хацелася скончыць клін сёння ж — надакучыла з ранку да вечара каторы ўжо дзень душыцца пылам на гэтым баранаванні. А заўтра, казаў брыгадзір, пэўна, пойдуць ужо на луг і на канюшыну, бо надвор'е, дзякаваць богу, усталявалася.

Дарога — сценка, сценка — дарога... Пятро круціўся туды-сюды і думаў аб тым, што гэта будзе вельмі здорава, калі заўтра, урэшце, паедзе пляжыць канюшыну: там паблізу рэчка, дык можна будзе адлучыцца на хвіліну ды пабоўтацца, а то палова чэрвеня, глядзі, мінецца, а ён і ў рэчку ні разу не злазіў...

Незабаранаваны клін усё вузеў і вузеў. Пятро з нецярпеннем прыкідваў нават, колькі кругоў засталося яму яшчэ зрабіць. Пад'язджаючы да дарогі, заўважыў, што з боку вёскі, падаткнуўшы пад раму казу-складанку, коціць на веласіпедзе брыгадзір, здалёк махае рукой — прыпыніся. Хлопец развярнуўся, прыглушыў матор, саскочыў на зямлю, колькі разоў з асалодаю пацягнуўся, закурыў.

Пад'ехаў брыгадзір, кінуў веласіпед пад куст, загаварыў:

— Канчаеш ужо? Маладзец! Тут, ад дарогі, і пад Глі-

ішчам, дзе ніжэй, можа, яшчэ па разу праедзеш? Удзірванела, халера! А яшчэ дажджы прыпляскалі!

— А не, дзядзька! Мякка ўсюды. Пад Глінішчам толькі трава больш адскочыла — ведама, ніжэй. Але ўсё роўна мякка. Як пух...— І не вытрымаў, спытаўся: — Дык што, дзядзька, заўтра на канюшыну?

— Не, брат, заўтра ты яшчэ Страхаву гару даб'еш. Там пясок, дык паездзіш па разу, скарынку знімеш... А на сена ў панядзелак рушым. Яно-та можна было б і заўтра, але ж бабы яшчэ з буракамі не ўправіліся. Заўтра-то, пэўна, ужо даполюць, тады і на сена.

Брыгадзір памаўчаў, ступіў колькі крокаў на палетак, нагнуўся, тузануў каліва бульбы, зноў павярнуўся да Пятра:

— У цябе курыць ёсць што? Пасылаў бабу ў магазін, дык, ліха на яе, не прынесла, забылася...— Ён хацеў нешта яшчэ сказаць, але чамусьці змоўчаў.

Пятро дастаў пакамечаны, замурзаны пачак «Севера», пасля падаў у далонях запаленую сярнічку. Брыгадзір, зацягнуўшыся, выдыхнуў разам з дымам:

— Ну, дык бачыў ужо ці не?

— Каго?

— Хіба не чуў? Да Васіля Рыгоравага брат прыехаў. Іван... Кажуць жа, бацька твой... Доўга не паказваўся...

— А-а-а,— Пятро змоўк, закамечыў у пальцах папяросу, не ведаючы, што казаць.

— Пэўна ж, захочаш пабачыць? — спытаўся быў брыгадзір, але, зірнуўшы на хлопца, раптам заспяшаўся: — Ну, то я паехаў. А ты глядзі тут, канчай памаленьку...

Пятро пастаяў, шмыгаючы згаслай і растрыбушанай папяросай, аж пакуль брыгадзір не схаваўся за кустамі на Краснай горцы, пасля нейк паволі, нязграбна палез у кабіну...

Зноў сценка — дарога, дарога — сценка... Вечарэла. Пятро не прыкідваў больш, колькі кругоў яшчэ трэба яму зрабіць, не спяшаўся, не зважаў на нязвычна гарачы ўвечары і церпка-горкі пыл, што сляпіў вочы, хрумсцеў на зубах,— усё думаў пра тое, што сказаў брыгадзір. Тое першае ўтрапенне мінулася, Пятро быццам і супакоіўся, але ўсё роўна думаў аб тым жа. І не хацеў думаць, і стараўся скіраваць думку на што іншае, на тую ж Страхаву гару, якую паедзе заўтра «дабіваць», на канюшыну, да якой з касой не падступіцца і якую давядзецца пляжыць яму, Пятру.

«Кажуць жа, бацька твой...» А то хто ж! Канечне, бацька... Не сам жа я на свет паявіўся... Ды і людзі не так сабе плявузгаюць...

«Доўга не паказваўся...» Не паказваўся, хаваўся. А можа, баяўся? Каго? Мяне ці мамы? Быццам нам што трэба ад яго! Але ж не вытрымаў, прыехаў... На радзіму пацягнула, брата праведаць... Пра мяне наўрад ці спытаецца. А можа... Зайсці-то, канечне, не адважыцца. Можа, нават і дзядзьку Васілю нічога не скажа... Ну, але той сам здагадаецца, пакажа яму на мяне хоць пальцам праз акно...

«Пэўна ж, захочаш пабачыць...» А што, калі самому зайсці? А што — вып'ю дзеля смеласці чарку і зайду. Біцца ж не будзем. Пагляджу, і ўсё, што там за бацька ў мяне такі, што і не ўспомніў ні разу, не азваўся нават...

* * *

З поля Пятро прыехаў пазнавата — маці ўжо карову даіла. Ён скінуў майку, збегаў цераз вуліцу да калодзежа, памыўся да пояса — выліў на сябе цэлае вядро вады. Памкнуўся павесіць пустое вядро на паркан, але перадумаў, зноў скокнуў да калодзежа («Маме заўтра не трэба будзе раніцою па ваду ісці...»), пасля пайшоў у хату галіцца.

Прыйшла маці. Цэдзячы сырадой, спыталася:

— Чаму ж так позна сёння?

— Канчаў бульбу пад Глінішчам. Заўтра на Страхаву гару, дык каб не ездзіць лішні раз.

— У Жырблевічы збіраешся? Там жа вяселле, кажуць, сёння. Чула, Жэнька Якубаў матку падганяў, каб сарочку папрасавала.

— Пагляджу. Можа, сваю вечарынку наладзім. З горада ж панаехала.

Маці выйшла — пэўна, панесла ў кладоўку малако. «Пра яго не пытаецца,— падумаў Пятро.— Не пытаецца... Значыць, так трэба. А чаго пытацца...»

Ён пераапрануўся, пырскнуў у твар адэкалонам. За вячэрай не ўтрымаўся, папрасіў маці:

— А можа, ёсць крышку?

Яна хацела запярэчыць, прысароміць сына, сказаць, што брыдка будзе яму пасля чаркі падысці на той самай вечарынцы да якой-небудзь дзяўчыны, але чамусьці прамаўчала і, уздыхнуўшы, прынесла з каморы прыхаваную

на ўсялякі выпадак пляшку. Пятро наліў сабе ў стограмоўку, наліў, яна бачыла, не шмат, але ўсё адно аж скаланулася ўся, гледзячы, як ён выпіў і гідліва зморшчыўся...

Хлопцы сапраўды збіраліся ў Жырблевічы, гойсалі адзін да аднаго на веласіпедах, падбівалі ў кампанію дзяўчат. Пятро ў апошні момант ехаць адмовіўся.

«Чаго я там не бачыў? Каб хоць клуб людскі быў, а то таўчыся ў духаце. Ды і цягнуцца за свет...»

Хлопцы пасадзілі на рамы дзяўчат, паўключалі ліхтарыкі і панесліся ўніз, да моста, да павароткі на Жырблевічы. Доўга яшчэ былі чутны іх галасы — крыкі, рогат, віск дзяўчат. Пасля ўсё аціхла: толькі далекавата, відаць, на Ямішчы, скакалі ў цемры мітуслівыя водбліскі ліхтарыкаў...

Пятро таксама скіраваўся вуліцаю ўніз. Мінуў масток. Паціху дайшоў да Ямішча. Адсюль, з узгорка, зноў убачыў агеньчыкі — хлопцы былі ўжо далёка, за балотам, пэўна, пад самымі Жырблевічамі. Ён пастаяў на Ямішчы, пакурыў. Аб нечым зацята-няўцямна думаў...

Гэтак жа паволі, як ішоў сюды, вяртаўся і ў вёску. Мінуўшы масток, ён, аднак, не пайшоў вуліцаю дахаты, а завярнуў у вулачку, што ішла ўздоўж рэчкі. Мінуў лазню, пасля калгасную кузню, перайшоў па кладцы рачулку і спыніўся перад хатаю дзядзькі Васіля. І, мусіць, толькі тут даўмеўся, што ўвесь гэты час думаў пра тое, каб зайсці сюды, што толькі дзеля гэтага выпіў дома і што дзеля гэтага адмовіўся ехаць разам з хлопцамі ў Жырблевічы...

Ён ведаў, што цяпер у хаце дзядзькі Васіля якраз будзе гасцяванне, што там якраз павінны сядзець за сталом, што заходзіць туды, можа, і не зусім ёмка, але — піхнуў ад сябе калітку.

«Што я скажу там? Як сустрэнуць мяне і дзядзька Васіль, і цётка Верка, і ён сам?..»

Пятро ўзышоў на ганак, бразнуў клямкай. З-пад хлява азваўся сабака. Хлопец аж уздрыгнуў, нібыта ад спалоху, адчуў, як пахаладзела ў яго між лапаткамі, а далоні сталі непрыемна ліпкімі...

У хаце сапраўды гасцявалі. За сталом сядзела чалавек пятнаццаць, але Пятро адразу ўбачыў яго — бацька сядзеў між дзядзькам Васілём і цёткай Веркай...

— Добры вечар у хату,— прамовіў Пятро, і ўласны голас падаўся яму нейкім чужым, занадта гучным.

Борздзенька падхапіўся з-за стала дзядзька Васіль — аж перакулілася, загрукатала па падлозе табурэтка.

— А-а, пля...— ён запнуўся, закашляўся, хуценька загаварыў: — А-а-а, Пецяя-я...Ну, сядай, сядай з намі, раз, гэта самае, зайшоў, заглянуў, як кажуць... Сядай, сядай...

«Хацеў сказаць — «пляменнічак»,— падумаў Пятро,— як заўсёды, калі сустракаў мяне. Але не сказаў. Не рашыўся...» Ён ступіў крокі са два на хату, прамовіў:

— Не, дзядзька, дзякую. Я на хвілінку... Толькі... Ну, на бацьку зірнуць... Я...

Пятро ўбачыў, што бацькаў твар уздрыгануў, што па ім прабег цень нібы радасці, і хлопец ступіў яшчэ крок да стала, сказаў гучней і цвярдзей:

— Здароў, бацька!

Бацька не падняўся з-за стала. Ён толькі каўзануўся на крэсле, вусны яго тузануліся, вочы забегалі па суседзях — усе цяпер глядзелі на яго, а не на Пятра.

— Хто гэта? — нарэшце прагаварыў ён, павярнуўшыся да брата.

Той кінуўся да яго, схіліўся, зашаптаў:

— Супакойся, Ваня, супакойся... Гэта ж, тое самае, ты ж ведаеш, я ж табе казаў... Людзі кажуць... Вось хлопец, тое самае, і паверыў... Ты ж ведаеш, усе гаварылі... Як ты тады пайшоў, ты ж, гэта самае, ведаў ужо...

Пятро быццам не бачыў і не чуў нічога. Ён глядзеў на бацьку і не разумеў, чаму той маўчыць... І хлопец зноў паўтарыў:

— Дык здароў, бацька!

Бацька адарваў ад стала кулак (тут толькі Пятро заўважыў, што ў яго адна рука), тыцнуў сябе ў грудзі:

— Ты гэта, хлопец, да мяне?.. Да мяне? Выбачай, брат, ты памыляешся. Я не ведаю, хто твой бацька. Нешта ты блытаеш, брат...

Пятро адхіснуўся, апусціў руку. Можа, ён не разумее?.. Зноў стала холадна між лапатак. Пятро павёў вачыма па стале, па тварах тых, што сядзелі за гэтым сталом. Ён убачыў, што ўсе яны ўпіліся вачыма ў яго, Пятра, і не разумеў, чаго гэта яны — быццам ніколі не бачылі. «Што здарылася? Чаму? Не можа таго быць! Я ж прыйшоў проста паздароўкацца. Як мужчына з мужчынам... А ён не прызнаецца нават! Хлусіць мне! Хлусіць перад сваім братам, перад дзядзькам Васілём, які заўсёды зваў мяне пляменнікам!»

Яму раптам забалела галава...

Пятро перавёў дых. Так, усё правільна. Во сядзіць дзядзька Васіль, цётка Верка, цётка Міхаліна, дзядзька Міхалка. Ён не памыліўся, ён чуў сапраўды, што бацька сказаў:

«Нешта ты блытаеш, брат...»

Пятро крутнуўся быў да дзвярэй, але спыніўся.

— Значыць, я блытаю? Значыць, гэта няпраўда? — Погляд Пятра спыніўся на твары Васіля, і ён ступіў да дзядзькі, тузануў яго за плячо: — Дзядзька Васіль, дык гэта не мой бацька?

Пятро выпрастаўся, адышоўся ад стала, усміхнуўся:

— Чаго ж вы маўчыцё? Я ж і праўда памыліўся, я ж пажартаваў. Мой бацька загінуў на вайне. Мне яшчэ маленькаму мама, і дзед, і баба гаварылі, што мой бацька герой, што ён не вярнуўся з вайны... Чаго ж вы маўчыцё?

Ён павярнуўся і паволі пайшоў да парога. Узяўшыся за клямку, зноў абярнуўся, прашаптаў:

— Малі бога, бацька, што ты калека... А то б...— І тузануў дзверы.

Ужо за каліткай яго дагнаў дзядзька Васіль, учарэпіўся за руку:

— Ты, пляменнік, таго самага... Ці ж можна так? Ты не крыўдуй, гэта самае... Брат жа мой... Ты не крыўдуй... А можа, і ў яго душа баліць, га? Што ж ты маўчыш, тое самае? Га, чаго маўчыш? Я ж цябе не крыўдзіў, пляменнік... А ён... Можа, і ў яго душа баліць.

Пятро рвануўся:

— Баліць?! Ану — адыдзі! А не то...

— Ты чаго, гэта самае? Ну, удар, удар, пляменнічак... Можа, і мне лягчэй, таго самага, стане... Удар...

— Эх ты, дзядзька! Нічога ты не разумееш...

Пятро кінуўся ў завулак...

* * *

Аб тым, што Пятро заходзіў да Рыгоравага Васіля ў хату, назаўтра ведала ўся вёска. Жанчыны, сышоўшыся дзе-небудзь, толькі пра тое і гаварылі.

— Гэта ж, ведаеце, зайшоў ён у хату ды адразу і бух з парога: «Здароў, бацька!» А Іван падскочыў на лаве ды як закрычыць: «Сабака табе бацька, а не я!..»

— А ці праўда гэта, бабы, кажуць, быццам Пецька і біцца кінуўся?

— А то няўжо ж! Мужчыны расцягнулі... Дык Пецька заплакаў ды пабег з хаты...

— Заплакаў? Бедненькі! Яно ж і пэўна. Дармо, што сам сталы. А ўсё ж бацьку мець хочацца. А тут бацька адварочваецца...

— Ат, бабы, лішняга і не кажыце! І не біўся там ніхто, і нічога такога не было. Мне ж Міхаліна ўсё расказала, яна ж там была сама. Пецька толькі паздароўкаўся, і ўсё. І за стол нават не садзіўся. А бацька рукі яму не падаў...

— Мала што Міхаліна можа нагаварыць! Сваячка ж, ведама! А Пецька хлопец гарачы, мог і сарвацца, не сцярпець...

— А вот жа, бабачкі, не вытрымаў, прыехаў паглядзець... Пэўна ж, і сына хацеў пабачыць. Дармо, што адцураўся, не прызнаваўся. Якое там дзіця ні было, але ж — дзіця, не чужое ўсё ж...

— Ат, чужое — не чужое! Яму ўсё роўна! Хіба гэта чалавек? Ці Пецьку што трэба ад яго? Малы быў, дык тады трэба была і ласка, і абарона, і гасцінец... А цяпер... Пецька сам на сваіх нагах даўно... А ён як змоладу быў, дык і цяпер круцялём застаўся, хоць і калека, даруй госпадзі...

— Праўду, Волька, кажаш! А Гілена як? Лёгенька хіба ёй? Не можа ж яна сыну забараніць, каб бацьку не пабачыў... Ды і сама, бабачкі...

— Ай, ты ўжо не кажы! Каб прасіў-маліў, дык Гілена б і на парог не пусціла б...

І аціхалі бабы, калі падыходзіла сама Гілена, Пятрова маці... Ды хіба яна не здагадвалася? Хоць і даўно тое было, аб чым цяпер бабы сакочуць на сяле, хоць, здавалася, і заснула ўсё ў душы, зачэзла, хоць і не ўспамінала Гілена ўжо колькі гадоў таго, што было перад самаю вайною, а ўсё роўна зноў балюча... Бо вунь жа прыехаў, гасцюе ў Васіля, у брата свайго, увечары да мужчын выходзіць... Куды ж ад гэтага ўцячэш? І людзям хіба закажаш, каб языкі не часалі?

Гнала Гілена прэч думкі пра ўсё гэта, а яны ўсё адно не давалі спакою. Застанецца адна, адвернецца штонебудзь рабіць, і ўсё пра тое ж, пра той час, калі была маладой-маладзенькай і дружыла-сябравала з тым Іванам Рыгоравым...

«Ласкавы быў, уважны... Усё Леначка ды Леначка... А колькі гора ды сораму нацярпелася...»

Прыгадвалася зноў і зноў, як сказала яна тады Івану, што зацяжарала, і як падалося ёй, што спалохаўся ён, і як не хацела яна гэтаму верыць; як вымушана была таіцца ад людзей і ад маткі, пакуль можна было; як плакала тады матка і праклінала дачку, так праклінала, што нават і ўнуку не ўзрадавалася; і як неўзабаве пайшоў Іван з мужчынамі на вайну, не зайшоўшы да яе нават развітацца, а сама саромелася пайсці разам з бабамі на той дзядзінец, дзе быў мітынг са слязьмі і песнямі, ляжала ў пуні на свежым сене і галасіла ціха, каб людзі не ўчулі...

Прыгадваліся гады, калі яна з Пецькам на руках колькі разоў уцякала праз Лучкі і Роўніцу ў глухі балоцісты лес-дзіч, і як даводзілася сядзець у тым дзічы галоднай і халоднай днямі і начамі, і як вярталася аднойчы з таго дзіча, уратаваўшыся нейк ад карнікаў, і палохалася, бачачы трупы людзей — знаёмых і незнаёмых, і як ішла тады па лесе, адна, апухлая і засмяглая. Пецька кусаў пустыя грудзі, ішла, і жахалася, і галасіла без голасу...

«Божачка мой, і як тое вынеслі-выцерпелі людцы! Ні хатак не пазаставалася, ні варыўні якой, каб хоць на час прытуліцца. Адны галавешкі ды коміны... Дзеткі ад голаду заходзіліся...»

Па тым часе былі яшчэ рухавыя бацька з маткай. Агоралі нейк зямлянку, на карову ўзбіліся, а пасля і на хацёнку... Памаленьку і крыўда іх на Гілену забылася. Матка ці бацька самі не з'ядуць, а ўсё ўнучку, усё Пецьку...

«А ён рос спраўненькі. І холадна было, і голадна, а не хварэў, не нэндзаў. Ні цукерчыны не ведаў, ні чаго там іншага...»

Пасля вайны не многа вярнулася дадому тых мужчын і хлопцаў, што пайшлі па гравійцы з таго дзядзінца. Не вярнуўся і Іван Рыгораў. Як там ні было ў іх, а чакала яго Гілена, думала: «Ведама, тады малады быў, дурное ў галаве... А цяперака, як прайшоў праз гора, як слёз і крыўды людской нагледзеўся, пэўна ж, і паразумнеў. Каб вярнуўся, дык і сыну быў бы рады. Во які ладненькі выгадаваўся. Скора і памочнікам у хаце будзе...»

Але Іван не вярнуўся. І плакала па ім Гілена, як па мужыку, як іншыя бабы-салдаткі плакалі, і чакала яго, як чакалі іншыя — тыя, што «пахаронак» не атрымалі...

І рада ж была, калі дачулася, што жывы Іван. Гэта тады, калі ён раптам прыслаў брату, Васілю, пісьмо...

Але мінуўся час, і стаў Іван не то жывы, не то мёртвы. Пайшла пагалоска, што лячыўся ён недзе за Масквою і там ажаніўся. Быццам узяў медсястру тую, што яго выходжвала. Балюча было тое чуць Гілене. Каб жа хоць сам пісьмо напісаў, сам пра ўсё расказаў, а то ўсё — з чужых вуснаў, з тых пісьмаў, што да Васіля прыходзілі. Хацела сама да Васіля пайсці, каб хоць дазнацца, ці праўда тое, што людзі гавораць. Здаецца, лягчэй было б, каб на свае вочы пісьмо пабачыла, бо, можа ж, так сабе, ад злосці ці чаго там яшчэ, людзі нагаворваюць, можа, дзе лечыцца Іван, і спадзявалася, што — быць таго не можа, каб не прыехаў... Ну, няхай на яе крыўду за што затаіў, няхай да другой спадніцы прыслепіўся, дык жа ведае, што сын расце, яго ж сын, а не чый-небудзь...

А гады тыя пасляваенныя, хоць і цяжкія, галодныя былі, а беглі. За работай і часу Гілена не заўважала. Бацька і матка на вачах састарэлі, аслабелі. Засталася ў хаце адна работніца, а ратоў — чатыры. І накармі ўсіх, і адзень. Кідалася Гілена — і на конях працавала, і коксагыз расціла, і на жняярцы сядзела. І ў гэтых турботах і клопатах нейк памаленьку, пакрысе, быццам само сабой, забывалася, астуджвалася ў душы і крыўда ранейшая, і боль. А калі і ўспаміналa Івана, дык так сабе, без жалю: «Сілком не прыцягнеш... А так... Можа, яно і к лепшаму. Хто ведае, як яно б там было... Ды і не адна такая, вунь колькі баб адны, без мужыкоў, пекаюцца...»

Бацька і матка памерлі нейк у адзін год. Пецька тады ўжо ў другую групу бегаў. Раілі тады бабы Гілене прымака браць: і сыну бацька будзе («Можа ж і добры чалавек надарыцца»), і сама ж яшчэ не старая, сáма ў сіле. Але яна нейк вагалася. Колькі разоў заходзіў да яе Сымон Жаўнер з Жырблевіч: у таго жонка памерла, трое дзяцей засталося. Ды не пайшла Гілена. І не таму, што дзяцей чужых баялася — спагадала ў душы Сымону, сірот яго шкадавала, але — не рашылася: «Мне ўжо гэты замуж і патрэбен надта! А сыну як там будзе, хто яго ведае. Ён жа не маленькі, разумее ўсё...»

Праўда, у другі раз ледзь ужо і зусім не выйшла Гілена замуж. Прыслалі ў іх калгас заатэхніка. Сталы чалавек, а без сям'і. Што там у яго здарылася, Гілена, папраўдзе, і не ведала толкам, не распытвала, хоць той заа-

тэхнік і кватараваў у яе хаце. Добры чалавек быў. I па гаспадарцы паможа, з сынам і дроў напілуюць, і сена накосяць. Кватарант і хату Гілене адрамантаваў: атынкаваў звонку і знутры, страху перакрыў.

I аж спалохалася Гілена, калі адчула раптам, што не проста прывыкла да чалавека, што ніякавата становіцца ёй, калі застаецца з ім сам-насам. Ды і людзі гэта заўважылі, нагаворваць сталі, што быццам пачала Гілена прычапурвацца, нават завіўку зрабіла — як дзеўка.

Маўчала Гілена. А як з'ехаў нейк раптоўна той заатэхнік, дык толькі тады пахвалілася жанчынам: «Бабачкі, угаворваў, каб жыла з ім, каб за жонку была... Як сказаў тое, а сына якраз дома не было, бегаў недзе, дык я аж забаялася... Мусіць жа, і шчыра казаў, бо голас аж дрыжаў... А я і рабіць што — не ведаю. I сябе шкада стала, і яго... Пасля ноччу не спала, усё ўздыхала. Ну добра, прыму яго, а Пецька мой як? Ды і сорамна перад ім маладзіцца, сам во, глядзі, хутка нявестку ў хату прывядзе... Думала-думала, ды і адмовіла чалавеку...»

I вось, на табе, Іван заявіўся... Гілена дык і не бачыла яго, знарок не ходзіць у той канец вуліцы, за рэчку, дзе хата Васілёва. Бабы, праўда, казалі, што мала чым і змяніўся, такі ж, як і быў, толькі пасівеў ды пуза нагадаваў. Ей, Гілене, то і ўсё роўна, які ён там, а сын вось, бачыш, захацеў паглядзець, пазнаёміцца. I што яму скажаш? Свая галава на плячах. Хаця — які ён яму бацька? Але ж — хіба загадваць будзе? Не маленькі, дзякаваць богу...

* * *

Пятро ляжаў на канапцы і пад пошум дажджу чытаў кнігу. Неўзабаве пацішэла. У акно, што выходзіла ў агарод, заглянула нізкаватае — ужо вечарэла — сонца. Пятро падняўся, расчыніў акно. Дажджу не было. Толькі гулка падалі на лісце лопуху рэдкія кроплі. Недзе шастала маці — пэўна, прарывала буракі.

З вуліцы пачуліся галасы — ішлі, гамонячы між сабой, жанчыны. I згледзелі, мусіць, у гародзе маці, бо...

— Гілена, чуеш, не? Паехаў жа твой... Васіль вунь павёў на аўтобус... Што ж ты з Пецькам не пайшла правесці?..

Пятро пазнаў — гаварыла цётка Ганна. На яе, відаць, зашыкалі бабы, бо Ганна абарвала сябе на паўслове.

— Да нас, Ганна, ніхто не прыязджаў,— голас маці быў роўны, спакойны.

Стала ціха. Зноў было чутна, як падалі са страхі на лісце лопуху дажджавыя кроплі.

# ЯЗЭПКА

Доўгі час у нашай вёсцы быў пастухом дзівакаваты Язэпка. Вяскоўцы наймалі яго, звычайна, кожную вясну, абяцаючы тры пуды бульбы, колькі кілаграмаў жыта і тры рублі грашыма ад каровы. За цялят і коз Язэпка браў палавіну гэтай платы. Яму давалі ў дапамогу двух надпаскаў, кармілі па чарзе, і за гэта ён хадзіў за статкам усё лета — з ранняй вясны, калі можна было выганяць у поле, да першага снегу.

Язэпка быў шчуплы, невысокі, нібы падлетак, мужчына, з вузкімі, як у дзіцяці, плячыма і востранькім мышыным тварыкам, на якім амаль нічога не расло. Толькі на барадзе вілося некалькі рэдкіх бялявых валасін. Язэпка іх ніколі не збрываў, а зрэдку — ад лазні да лазні — падразаў нажніцамі.

Ён быў ціхі, спакойны, рахманы чалавек, не курыў, не піў, не лаяўся. І справу сваю рабіў спраўна. Труба яго заўсёды будзіла вёску на самым золку, задоўга да таго, калі сонца пачынала распальваць свой ярка-барвовы пажар, не асмельваючыся выпаўзці з-пад Чырвонага бору. Тады ж, калі пажар гэты ахопліваў паўнеба, калі пачынаў трапятацца полымем сцяжок на трубе цагельнага завода, Язэпка са статкам бываў ужо далёка — у куп'істым кутку Доўгага балота ці аж на самой Роўніцы, за Смаляковымі раўкамі.

І хоць ніколі Язэпка нічога дрэннага не зрабіў і не сказаў, хоць ніколі нікога не пакрыўдзіў, у вёсцы яго не тое што недалюблівалі ці зневажалі, а от проста — пацяшаліся і жартавалі. Часам, праўда, вінаваты ў гэтым быў сам Язэпка. Просіцца ён, напрыклад, адпусціць яго «на дзянёк». Усе ведалі, што ў гэты дзень Язэпка мяркуе пайсці ў лазню. Ведалі, але абавязкова пыталі:

— А што здарылася, Язэп?

— У лазеньку трэба схадзіць,— ціха, нібы саромеючыся, гаварыў ён,— па гаспадарцы штокольвечы зрабіць...

— Якая там у цябе гаспадарка...— казаў у такіх вы-

падках хто-небудзь з мужчын.— Усю прадаць і за дзень на цукерках праесці можна. Жаніўся б ты, Язэп, га?

Яго адпускалі, заўсёды вось так жартуючы — без кпінаў, без злосці, і проста па звычцы. І ў жартах гэтых было, бадай, больш лагоднасці і спагады, чым крыўды і зняваі.

Язэпка камячыў шапку, колькі хвілін стаяў, потым зноў, нібы просячы, гаварыў:

— Ну, дзякую, людцы. А вы там па радоўцы пастушка лішняга дайце: хай утрох папасуць...

І Язэпка ішоў дахаты.

Жыў ён ля рэчкі, у самым канцы вёскі, за мастком, у старэнькай бацькавай хаціне, з бабкай Даркай.

У той свабодны дзень, калі Язэпка, як жартавалі на вёсцы, «браў водпуск», ён амаль увесь час сядзеў на прызбе і аб нечым думаў. А ўвечары ішоў у лазню. Там ён залазіў на палок як вышэй і падоўгу цёр і хвастаў сябе венікам. Нам, дзецям, памятаю, асабліва дзіўна было тое, што Язэпка ў лазні ніколі не знімаў шапкі. І таму мы, не зважаючы на штурхалі, стараліся трапіць у духоўку,— паглядзець, як Язэпка, падстаўляючы пад венік то адзін бок, то другі, крэкча, вохкае і просіць:

— Мужчынкі, хто там унізе, сыпніце яшчэ жменьку...

Пасля лазні Язэпка зноў садзіўся на прызбу, накінуўшы на плечы кароценькі палатаны кажушок, і да позняга вечара перадражніваў драчоў, што рвалі рыззё ў бярэзніку ўскрай Доўгага балота.

Відаць, гэтыя забаўкі яго і былі прычынай, што на сяле часта можна было пачуць:

— От, дурань, бы Язэпка-пастух!

Але, зноў-такі, гаварылася гэта без злосці...

Я, па-шчырасці, нават і тады, дзіцем, не разумеў, чаму пра Язэпку казалі так,— хоць часам і сам з хлапчукамі мог назаляцца Язэпку. Я любіў быць у яго падпаскам. І не толькі таму, што ён ніколі на мяне не крычаў, не замахваўся пугай. Было ў нас з ім яшчэ адно, тое, што запомнілася, засталося на ўсё жыццё. Я не ведаю цяпер і не ведаў тады, як ставіўся Язэпка да іншых хлапчукоўпадпаскаў: ці быў ён з імі такім, як са мной. Тады, прынамсі, думалася, што толькі мяне вылучаў ён сярод аднагодкаў.

Цяпер, па сённяшні свой розум, дык, можа, і нічога такога не было, можа, проста была ў яго звычка хоць з

кім-небудзь пагаварыць за доўгі летні дзень, а я якраз аказваўся ўважлівым слухачом. Апавяданні яго былі неверагодныя, паверыць у іх было цяжка. Можа, таму і сумняваліся падпаскі, крыўдзілі Язэпку сваёй няўвагай. Язэпка ж бажыўся, што ўсё — чыстая праўда. Я не тое што верыў яму, а толькі не спрачаўся, слухаў.

Яшчэ я любіў хадзіць з ім па лесе, куды часта ганялі статак, пакуль у калгасе не ўпраўляліся з сенакосам. У лесе Язэпка ведаў шмат цікавых мясцін, дрэў. І заўсёды, паказваючы мне што-небудзь, гаварыў ціха, таямніча, нібы баяўся, што яго падслухоўваюць.

Памятаю, паказаў ён мне аднойчы алешыну-рагач. У рагач гэты нейк убілася асіна. Дрэвы раслі, алешына сваімі сукамі-абцугамі душыла асіну, а тая не паддавалася, таксама цягнулася да сонца. Вецер гойсаў у вяршалінах, і дрэвы жаласліва скрыпелі, абдзіраючы кару, нібы плакалі, нібы скардзіліся.

— Бачыш, дзіцятка, і яны нечага не падзялілі. І трэба ж было так сашчапіцца! Каб малыя былі, то можна было б і рады даць, а цяпер... Шкада асінку, задушыць яе алешына...

І Язэпка сумна глядзеў на дрэвы, на іх сплеценыя ствалы. Пасля, нібы схамянуўшыся, неўспадзеўкі казаў:

— Ідзі, дзіцятка, ззаду паціхеньку, глядзі, каб цяляткі ў гушчары не пазаставаліся. Дурненькія яшчэ, трубы не разумеюць...

Я ішоў, ледзь не за хвасты цягнуў дурных лабатых цялят і думаў пра Язэпку, думаў пра тое, што гэта ж ён паказаў мне, дзе ў нашым лесе лепшыя грыбныя куткі, дзе раней за ўсё выспяваюць суніцы і арэхі, дзе лепш за ўсё аблюбаваць сасонку, каб надраць з-пад яе на кошык пахучых, гнуткіх карэнняў. Ён, Язэпка, паказаў мне і некалькі вавёрчыных гнёздаў-дуплаў, лісіныя норы і нават адно воўчае логава. Паказваў усё гэта Язэпка ахвотна, але пасля, просячы, папярэджваў:

— Ты ж толькі, дзіцятка, не пайдзі потым па арэшкі вавёрчыны... Навошта ж крыўдзіць звярка? Каб ты ведаў, як яна старанна працуе, арэшкі носіць, грыбкі сушыць. Усё лета, усю восень шчыруе. Як чалавек.

Часам, убачыўшы ўздзёрты мох, ён нейк смешна, падзіцячы круціў галавой і журботна, ціхенька казаў:

— Ай-яй-яй! І чаму ж толькі бацькі не лупцуюць такога падшыванца! Вырас грыбок — дык зрэж яго. А смаркача, што і з моху яшчэ не выбіўся, навошта псаваць?

Бачыш, навыдзіраў! Вось і не вырасце тут больш баравічок!

Аднаго разу кіўнуў мне Язэпка на стары, спарахнелы пень:

— Тут, дзіцятка, вуж жыў. Вялікі, тоўсты такі. Кароў ссаў.

— Ссаў?

— Ссаў, дзіцятка, як цялё. Усё чысцютка высмакча. Вось палягуць кароўкі — раскажу.

Я ледзь дачакаўся, пакуль каровы палеглі жаваць жуйку, падсеў да Язэпкі. У полі ён чамусьці ніколі не лажыўся, а выбіраў купіну, камень ці проста сухі грудок, садзіўся і падпіраў галаву рукамі і пугаўём. Я падсеў і папрасіў:

— Дзядзька Язэп, дык раскажы пра вужа...

— А тут, дзіцятка, і расказу таго нямнога. Помніш, можа, у Ганны Каўлаёвай карова была. Букетка, рыжая такая, у белыя латы? Добрая карова была, вымя тое, што цэбар, аж ногі раскірэчвае. Шмат малака давала. А тут раптам прапала яно. Дзень — няма, другі — няма. Ганна на мяне пачала наракаць. Што за навалач, думаю, дай — папільную. Аднойчы паляглі кароўкі, як цяпер якраз, а тая Букетка бокам-бокам ды ў кусты. Ну і я за ёй цікую. Падыходзіць яна да таго пня і замыкала. І тут, дзіцятка, з-пад пня, з нары вуж выпаўз. Абкруціўся ў Букеткі вакол нагі і за вымя. Адну цыцку высмактаў, потым за другую ўзяўся. На вачах яго распірае. Злосць мяне ўзяла. Ах ты, думаю, поскудзь гэтакая! Зрабіў гэта я рагачык і ўшчаміў гада. Прыходзіць Ганна карову даіць, я і паказваю ёй. Вось хто, кажу, тваю карову выдойвае. А яна яшчэ і не верыць. «Ты ўжо,— кажа,— Язэп, мусіць, і зусім звар'яцеў». Ага, ледзь не зазлаваў я. Глядзі, кажу, хто звар'яцеў... Як ударыў па вужу палкай, а з яго — малако, як са збана, палілося. Вось, дзіцятка, якое бывае! Я і сам не паверыў бы, каб сваімі вачыма не пабачыў. А людзі мне і цяпер не вераць. Смяюцца, кажуць: «Выдумляеш ты, Язэп!..» А навошта мне выдумляць?

Язэпка змоўк, нібы хацеў пачуць ад мяне адказ на гэтае ягонае — «А навошта мне выдумляць?».

Жанчыны прыйшлі даіць кароў. Стэпка Банукова прынесла Язэпку полудзень — паставіла перад ім гладышык шчаўя, міску яешні-баўтухі, бутэльку малака. Язэпка глядзеў, як Стэпка прыгатаўляла ўсё гэта, усміхаўся і неяк вінавата гаварыў:

— А Стэпачка, гэта ж касцу абед, а то і двaім! Навошта ж так? Я толькі малачка пап'ю.

Ён выпіў з паўбутэлькі малака, закусіў хлебам.

— Дзякуй, Стэпачка. А ты, дзіцятка, бяжы дадому, таксама папалуднуй. Кароўкі яшчэ з паўгадзінкі паляжаць. Не баўся толькі.

Я і так доўга не забавіўся б. Мне карцела быць разам з Язэпкам і слухаць яго дзіўныя гісторыі. Тады я забываўся, што ў вёсцы з яго пасміхаюцца. А калі ўспамінаў, мне станавілася ад таго сорамна...

* * *

Шмат пазней ад маці я даведаўся, што з Язэпкам у дзяцінстве здарылася бяда, здарылася з-за бацькі.

Бацькі яго я не памятаў. Маці ж расказвала, што ён быў высокі, плячысты мужчына, цягавіты і ўпарты, як стары, натруджаны конь. Хадзіў ён вечна прыгорблены, ад чаго рукі яго з чырвонымі вузлаватымі кулакамі здаваліся занадта доўгімі. Яго злыя, бясколерныя вочы вечна глядзелі ўніз на крывыя, збітыя пальцы парэпаных ног, якія ад першай веснавой да апошняй асенняй баразны не ведалі аніякага абутку.

З-за яго, казала маці, і здарылася з Язэпкам тая бяда.

Здарылася тое даўно, яшчэ за старым часам, да рэвалюцыі. Маці гаварыла, што ёй тады, тым летам, споўнілася шэсць гадоў, а Язэпку было на год ці на два болей — ён быў трохі старэйшы за яе, ужо мог бы, як на цяперашні лад, восенню пайсці ў школу.

Бацька Язэпаў меў на той час дзве каровы. Маці нават памятала, як іх звалі — Панядзёха і Аўтарэня. Тым годам адна з іх гуляла перадойкай. І вось у разгар лета Язэпаў бацька павёў карову ў суседнюю вёску да быка. Прывёўшы яе назад, ён падаў павадок Язэпку:

— Вядзі, папасі сёння, бо ў чараду нельга пускаць. Вядзі ў Лучкі, пад Паповы раўкі. Я туды па дровы прыеду, дык Сівога патрымаеш, а то авадні сякуць дужа.

Язэпка наматаў павадок на руку і пайшоў з каровай у Лучкі. Там, у кустах, густа парос парыннік, які ў нашай вёсцы завуць рабіннікам, і чмялёўнік — каровіны ласункі. Язэпка адпусціў павадок, галінкаю вольхі ганяў аваднёў са спіны і пахвін каровы і слухаў, як яна сакавіта хрумстала росную ў кустах траву, захопліваючы яе шчурпатым языком-шчоткай.

Неўзабаве па сцежцы, унізе, заляскаталі калёсы — ехаў бацька.

— Тата, я тут...— азваўся Язэпка.— Мне ўжо ісці?

— Прывяжы карову! — гукнуў знізу бацька.

Калі Язэпка падбег да яго, ён ужо накладваў на калёсы альшэўнік. Язэпка ўзяў каня за аброць, адламаў галінку ганяць з бруха Сівога аваднёў. Але конь усё роўна не стаяў, тузаў калёсы. Язэпка бачыў, што бацька злуецца, і як мага стараўся стрымліваць Сівога, які траха не вылузваўся з аглабель.

І раптам Сівы рвануўся так, што Язэпка ледзь не ўпаў. Аброці ён не выпусціў, але калёсы ўсё ж крыху пракаціліся. Бацька з альшэвінай у руках пахіснуўся, не паспеў адскочыць, і кола праехала па яго босых пальцах. Ён войкнуў, выпусціў альшэвіну і кінуўся да каня.

Заехаўшы аплявуху Язэпку, бацька выхапіў з-пад сядзёлкі пугу, ірвануў з рук сына аброць і пачаў лупіць пугаўём Сівога па галаве. Сівы хроп, кідаўся, падымаўся на дыбкі, біў нагамі па перадку і аглоблях, а бацька вар'яцеў усё больш і больш, і ўсё хвастаў і хвастаў пугаўём па крывавай і пеністай конскай мызе.

Язэпка заткнуў вушы і, забыўшыся на боль, са страхам глядзеў на бацьку і Сівога. І тут ён убачыў, як з-пад пугаўя выскачыла сіне-белае конскае вока і з вочнай ямкі палілася кроў. Сівы захроп і жаласліва заіржаў.

— А-а-а! — нема закрычаў Язэпка і кінуўся бегчы. Ён бег напраскі, па нечай бульбе і жыце. Рот яго быў раскрыты, але хлопчык ужо не крычаў, а толькі бязгучна, з усхліпамі, вякаў. Перад вачыма яго ўсё стаяла сіне-белае конскае вока і бацька, які з аскаленымі зубамі разпораз узмахваў пугаўём.

Язэпка захварэў. Доўга праваляўся ў пасцелі. Ён застаўся жыць, але, як казала маці, у галаве яго нешта развінцілася. Ён усіх баяўся, асабліва бацькі, забіваўся куды-небудзь адзін і ціхутка сядзеў там, пакуль маці ці хто з суседзяў не знаходзілі яго.

З гадамі страх той прайшоў. Язэпка пасталеў, паспакайнеў. Але да бацькі так і застаўся ў яго не то страх, не то нянавісць. Нават хаваць яго Язэпка не пайшоў: у той дзень некуды сышоў з дому.

Неўзабаве хлопчык асірацеў. У іхнюю старую хаціну прыбілася аднекуль бабка Дарка, тады яшчэ, казала маці, нестарая жанчына, і Язэпка жыў пры ёй. А калі ад-

нойчы вяскоўцы падраджалі пастуха, Язэпка падахвоціўся ганяць чараду. З тае пары ён шмат гадоў хадзіў за вясковым статкам.

* * *

Нядаўна ў водпуск я правёў некалькі дзён у роднай вёсцы. Дзіўная гэта рэч — пасля доўгай ростані пабываць дома. Радасная і адначасова сумная. Ідзеш вуліцаю, дзе калісьці кожны камень пакінуў мецiну на тваіх босых нагах, і не пазнаеш, і здзіўляешся, і ўспамінаеш. Хаты амаль усе новыя. Бярозы, клёны, ліпы, рабіны ўздоўж вуліцы выцягнуліся, разрасліся, а здаюцца чамусьці меншымі, нязграбнымі. Разумееш, што не так гэта, што мераеш усё тым, ранейшым, дзіцячым ростам і позіркам, разумееш, а не можаш пагадзіцца. Ну вось — няўжо тая самая Банукова ліпа з буслянкай наверсе? Шапка валілася тады, калі глядзелі мы на бацяноў, што прыносяць у хаты дзяцей. А цяпер? Так сабе, звычайнае, не дужа тоўстае і не дужа высокае дрэва. Пад ліпай бярвенцы. Няўжо тыя самыя? Быць не можа! Так і ёсць, не тыя. Відно, што акораны нядаўна, хоць і паспелі пасівець, хоць ужо і выслізганы дзецьмі. Яны і цяпер, дзеці, тут. Гэтак жа, як і мы некалі, гуляюць у свае дзіцячыя гульні...

За дні, што прабыў дома, пахадзіў я тымі сцежкамі і мясцінамі, дзе бегаў у дзяцінстве. Схадзіў у лес, у Лучкі, пад Смаляковы і Паповы раўкі, забрыў уздоўж рэчкі на Доўгае балота. Паменшаў, парадзеў лес, надараліся ў ім маладыя, незнаёмыя палянкі і прагаліны. Апаўзлі Паповы раўкі. Крынічка, што выцякала з іх, зарасла, заплыла тванню. Замест чыстай, празрыстай крынічкі стаіць, дрэмле невялікае балотца з лапінкай вады.

Думалася пра тое, што назаўжды застаецца з чалавекам ягонае маленства — час высокіх дрэў і бясконцых сцежак, час бясхмарных уцех і балючых крыўд, доўгіх сонечных дзён і кароткіх начэй, і што час гэты прыходзіць да нас салодка-шчымлівымі ўспамінамі — нязбытнымі і незваротнымі. Усё гэта навявала ціхі смутак.

Затое дужа ўзрадаваўся, натрапіўшы на тую алешыну-рагач, якую паказаў мне некалі дзядзька Язэп. Асіна не загінула. Яна выцягнулася і дружна шапацела на ветры вяршалінай.

І вельмі блізка нагадаўся дзядзька Язэп — пастух Язэпка. І захацелася расказаць пра яго...

# НАД ПОЛЕМ КРЫЧАЛІ ВАРОНЫ

Хавалі Габрусіху чужыя людзі, бо радні ў яе не было. У апошнюю дарогу яе сабралі старая Іваніха і Марыля — суседкі. Іванішын сын Васіль зрабіў дамавіну. Ён жа завёз нябожчыцу і на могілкі. Калі забівалі цвікамі вечка, калі апускалі дамавіну ў дол, ніхто не галасіў. Толькі Іваніха, сыпнуўшы ў дол прыгаршчы жвіру, які гулка забарабаніў па дошках, сказала:

— Хай жа табе добра тут будзе, Ганначка! Можа, і я хутка збяруся.

Сыпнулі людзі ўслед за Іваніхай па жмені пяску, пастаялі крыху моўчкі і разышліся, пакінуўшы на могілках Васіля з сынам-падлеткам — насыпаць над магілай грудок і паставіць крыж.

Я таксама пайшоў, але не ў бок вёскі, а пад Глінішча...

Памерла бабка Габрусіха непакутліва і нечакана. І дня не памучылася. Яшчэ заўчора, казалі, выходзіла на вуліцу, сядзела каля Іваніхі з бабамі. Толькі і паскардзілася, што няможацца нешта. А назаўтра і памерла, у самы абед. Іваніха аж не паверыла, думала — заснула суседка, разбудзіць яшчэ спрабавала...

Сцежка вывела мяне пад Смалякоў роў, на грудок, парослы калекамі-сасонкамі ды ядлоўцам. Сярод цвітучага жаўтамоху трапляліся тут лапінкі чарніц — ніжэй, там дзе туліліся кволыя, пакручастыя, хоць і пярэстаркі, бярозкі. Я сарваў некалькі ягад — яны былі дробныя, засмяглыя — ведама, на санцапёку, прысеў на камень, спусціўшы ногі ў размытую вясновай паводкай баразну-канаўку. За канаўкай, падступаючыся да самага жаўтамоху, стаяла жыта — рэдкае і чэзлае, каліва каліва гукае. На добры лад, дык і ці трэба было б забірацца з трактарам так высока, так ашчадна абворваць гэты пясчаны грудок, на якім быццам бы былі некалі могілкі. Але ж — абворвалі, хоць ніколі тут і не расло нічога. Хіба толькі грэчка.

Прыгравала сонца. Вакол стаяла цішыня і млоснасць. Здавалася, час спыніўся, растварыўся ў гэтай душнай, даўкай — хоць бы ветрык дыхнуў! — млявасці. І думкі ў галаве плылі такія ж млявыя, самотна-шчымлівыя.

Памерла бабка Габрусіха. І над яе магілай ніхто не галасіў, ніхто не спяваў...

Дзіўна: то ж сапраўды не спявалі. А раней жа, памятаю, колькі ні хавалі ў нашай вёсцы людзей, заўсёды над імі спявалі. І спявала сама... Габрусіха. Малечай будучы, мы нават здзіўляліся: чаму гэта так, што ўсе плачуць, а яна, бабка Габрусіха, спявае нейкую «алілую». Падраслі — даведаліся, што некалі бабка Габрусіха спявала ў царкоўным хоры і там навучылася гэтай самай «алілуі». Так і спявала яна над усімі нябожчыкамі — прасілі яе аб гэтым ці не. А сама вось памерла — і ні галашэнняў, ні спеваў...

Я дастаў папяросу, паспрабаваў закурыць, але не курылася — пэўна, ад таго, што добра-такі прыпякала сонца. Вакол было ціха, як уначы. Толькі са Смаляковага рова часам даносілася сонная, лянівая важданіна птушак.

Памерла бабка Габрусіха...

Яе хата была непадалёк ад нашай. І я памятаю бабку Габрусіху, пэўна, з таго ж самага часу, як і сваю маці. Памятаю яе ўнука Алёшку — майго равесніка і сябрука. Быў у мяне на самым пачатку жыцця і яшчэ адзін сябрук — Толік дзядзькі Якуба. З імі я і сябраваў — па чарзе. Не паладжу з адным, іду да другога. Калі я прыходзіў да Алёшкі, бабка Габрусіха частавала нас смачнымі ранетаўкамі, агрэстам, чырвонымі, але кіславатымі гронкамі парэчак. Саміх у гарод нас яна не пускала — нават Алёшку. А калі мы ўсё ж туды патыкаліся, сярдзіта крычала і рабіла выгляд, што шукае каля плота крапівы. Мы выкульваліся з агарода на двор. Бабкі не баяліся. Ведалі, што праз хвіліну яна сама прынясе нам у прыполе яблыкаў, агрэсту, парэчак. Прынясе і скажа:

— Во, ешце, а самі не лезьце. А то вы не так тых парэчак напукáеце, як шкоды наробіце. Агурочнік пасцягаеце, фасолю збэрсаеце...

Раптам нада мной пачулася прарэзлівае «кар-р-р! кар-р-р!». Крыкі былі трывожныя, заклікальныя — сюды ўсе, хто чуе. Сапраўды, праз хвіліну нада мной лятала ўжо некалькі птушак: «кар-р-р! кар-р-р! кар-р-р!» Я зварухнуўся. Вароны закрычалі яшчэ галасней, але, не скончыўшы нада мной круга, падаліся ў кусты, за Смаляко́ў роў.

Ага, значыць, напалохаў іх я: не прывыклі бачыць, каб тут, на гэтым грудку, хто-небудзь сядзеў. А можа — на бяду? Вароны крычаць на бяду. Гэта запомнілася з дзяцінства. Глупства, канечне...

Бабка Габрусіха... Дзіўна — Габрусіха ды Габрусіха.

А звалі яе, аказваецца, Ганнай. Помніць пра гэта, мусіць, адна Іваніха. Разам гулялі ў дзеўках... Вароны крычаць па бяду... Пры чым тут вароны? Глупства нейкае лезе ў галаву! Можа, ад гарачыні?

Бабка Габрусіха — бабка Ганна. Не, нязвычна. Усе звалі яе Габрусіхай. Пэўна, бацька ці мужык зваўся Габрусём. У яе быў Алёшка, унук Алёшка, мой равеснік і сябрук. Алёшкі даўно няма. Не ўнук пахаваў бабку, а яна ўнука. А я жыву. І мог мець, на добры лад, ужо сына. Большага, чым быў тады Алёшка. Я — выжыў, а Алёшка — не. Чаму? Мы не маглі тады ўратавацца самі. Нас ратавалі. Мяне ўратавалі. Хто? Усе, каго я ведаў, і каго не ведаў, і каго не ўведаю ніколі. Уратаваў дзед Кароль, дзядзька Якуб, бабка Габрусіха... Я ж памятаю, добра памятаю, хоць і меў тады ледзь-ледзь пяць гадоў...

За могілкамі, на якіх сярод сасонніку бялелі, сівелі і чарнелі вялікія і малыя крыжы, быў у нас кар'ер. Незадоўга перад вайной адтуль вазілі пясок — гэта тады, калі ў нашай вёсцы, ратуючыся ад патопу, брукавалі вуліцу. (Цяпер той кар'ер амаль зруйнаваўся: берагі апаўзлі, усё вакол зарасло хмызам.) У тым кар'еры нас і ўзялі ў палон: мяне, маіх двух братоў і дзвюх сястрычак. Старэйшаму з нас, Косціку, было дванаццаць, малодшаму, Сашку, тры. А між імі быў я і дзве сястрычкі.

Немцаў было таксама пяцёра. Не, пяцёра было ўсіх, а так — чацвёра немцаў і адзін паліцай. Гэта я таксама добра запомніў, бо нават Сашка, які тады яшчэ і гаварыць толкам не ўмеў, ведаў ужо, што калі ў чорным — гэта паліцаі, а калі ў шэрым — то немцы. Чорных мы, здаецца, баяліся болей, чым шэрых. Пэўна, таму, што чорныя гаварылі па-нашаму, і таму, здавалася, яны ўсё ведаюць, ад іх не схаваешся, не ўцячэш.

Як мы апынуліся ў тым кар'еры, я, папраўдзе, дык і не памятаю. Памятаю толькі, як ішлі адтуль у вёску, як стаялі на Крыжавых. А як і калі забрылі мы туды, у той кар'ер, не засталося ў памяці. Пазней маці расказвала:

— Прачнулася я тою раніцаю, а мне як быццам хто на вуха шэпча: ратуй, Марыля, дзяцей. Чаму ў галаву тое ўбілася, дык і сама не ведаю. Рупіць усё`ды рупіць. Можа, як той казаў, сэрца наперад благое чула? Можа, сасніла што? Ну, я і паадзявала вас, паабувала, Косціку — старэйшы ж самы, разумеў ужо — посцілку дала і выпра-

віла. Вядзі, кажу, сынок, меншых за могілкі, у яму тую, адкуль людзі пясок вазілі, гуляйце там. Пакуль я не прыбягу, не вылазьце, і сам па кустах не бегай. Па кустах страляюць. А я з Лёнікам дома буду. Калі што якое — дык хоць вы ўцалееце...

Ляпілі мы ў тым кар'еры печкі, пяклі з пяску бліны. Часам не мірыліся, і тады нас Косцік страшыў:

— Не раўсці! Немцы пачуюць — паб'юць!

Мы на хвіліну змаўкалі, насцярожваліся, ці не ідуць тыя немцы, але праходзіла мінута-другая — і мы зноў валтузіліся, сварыліся з-за ямак і печак, плакалі, а калі каму перападала, здавалася, болей і калі цябе апаноўвала вялікая крыўда, гукалі на дапамогу маму.

У гульнях, у спрэчках са слязьмі, у крыўдзе на Косціка, які часам не шкадаваў нам і балючага кухталя, мы і не пачулі, як усчалася страляніна. Усчалася яна, відаць, далекавата, і напачатку тут, у яме, за сасоннікам, мы, пэўна, і не маглі яе ўчуць. Але раптам над намі нешта прагуло, а пасля ззаду, недзе за ямай, цяжка вухнула. Я, малы Сашка, Валя і Ніна не паспелі зразумець, што гэта такое, як Косцік усхапіўся на ногі, згроб нас у кучу і папхнуў пад высокі абрывісты бераг — пад той, з якога боку прыляцела тое, што прагуло над намі і цяжка вухнула.

— Сціхніце і сядзіце тут, як мышы! — загадаў нам Косцік.— Немцы страляюць. З гарматаў. Міна ззаду разарвалася.

Мы сцішыліся, прыціснуліся адзін да аднаго і сапраўды сядзелі, як тыя мышаняты ці птушаняты. Над намі яшчэ некалькі разоў прагуло-прапішчала, а пасля наступіла цішыня. Мы напружвалі слых, але нічога не было чутно. Нам надакучыла куксіцца пад абрывам — туды не заглядвала сонца, там было сыравата і халаднавата, і мы парываліся зноў на сярэдзіну, дзе быў сухі жоўты пясок, але Косцік шыпеў на нас:

— Сціхніце! Не варушыцеся! Зараз пачнуць зноў страляць!

І сапраўды, неўзабаве над нашымі галовамі заціўкалі пчолы — цэлы рой. Ціў-ціў-ціў! — праляталі яны над намі. Мы задзіралі галовы, узіраліся, але нічога не бачылі. А Косцік сцябаў нас:

— Дурні! Якія пчолы? Гэта ж кулі ляцяць! Ляцяць і ціўкаюць.

Мы смяяліся. Скажа таксама — кулі! Хіба кулі ціўка-

юць? Хлусіць, канечне, Косцік. Выхваляецца, што старэйшы, палохае нас, каб сядзелі ціха, каб яго слухаліся. Добра, будзем слухацца...

Ціўканне тое як нечакана пачалося, так нечакана і скончылася. І як ні прымушаў нас Косцік сядзець пад абрывам на намоклай посцілцы, мы не слухаліся, румзалі, пагражалі пажаліцца маме. Ён махнуў рукой:

— Ну, ладна, ладна: калупайцеся ў пяску. Толькі бліжэй да гэтага берага будзьце. Чуеце? Каму кажу!

Мінула, здавалася, шмат часу. Валя і Ніна паспелі ўжо «выпаліць» у печы, прыгатаваць «сняданне», запрашалі нас — мяне і Сашку — «да стала»: мы, мужчыны, «хадзілі касіць», а пасля «ездзілі ў дровы». Але «паснедаць» мы не паспелі. На беразе раптам пачуўся тупат ног. Мы задзерлі галовы і аслупянелі: над абрывам стаяла пяцёра фрыцаў. Яны трымалі ў руках жалезныя рагаціны — пасля я даведаўся ўжо, што тыя рагаціны называліся аўтаматамі — і пазіралі на нас. Відаць, іх здзівіла тое, што мы адны, без дарослых.

Паліцай падняў рагаціну, сказаў:

— Рукі ўверх!

Косцік устаў і падняў рукі. Немцы зарагаталі, загергеталі:

— Пуф-пуф! Парцізан!

Паліцай зноў сказаў:

— Вылазьце!

Косцік ускарабкаўся наверх, стаў перад немцамі. Рук ён не апускаў. Немцы браліся за жываты ад рогату, паўтаралі свае «пуф-пуф». А паліцай махнуў нам рукой:

— А вы? Вылазьце! Ды хутчэй!

Косцік таксама павярнуўся да нас, сказаў:

— Чаго расселіся? Вылазьце! Ніна, памажы Сашку!

Мы палезлі наверх, але самі вылезці не маглі — бераг быў круты, пясок абсыпаўся, і мы спаўзалі ўніз. Тады да нас скочыў немец і павыкідаў на бераг — аднаго за адным.

Мы выйшлі з сасонніку на леташняе бульбянішча і спыніліся, бо спыніліся немцы і паліцай — яны засталіся стаяць на ўзмежку...

Ага, вось чаму мне ўбіліся ў галаву тыя вароны! Так, так, тады таксама над полем крычалі вароны, крычалі гэтак жа трывожна і заклікальна — нібы збіралі пасля пярэпалаху сваякоў і блізкіх...

— Як прозвішча? — спытаўся паліцай.

— Вашкевічы,— адказаў Косцік.

— Дзе бацька?

— Тата на фронце.

— А дзе партызаны?

Косцік маўчаў.

— Што маўчыш? Ёсць у вашым лесе партызаны? — паліцай павысіў голас.

Мы зарумзалі. Косцік сыкнуў на нас, прамовіў:

— Не ведаю, дзядзечка. Цяпер грыбоў няма, дык я ў лес не хаджу...

— Ану — марш!

Мы пайшлі ўніз, да вёскі. Пакуль узбіліся на мяжу, я, Сашка, Валя пагублялі галёшыкі. Я хацеў выцягнуць свае з гразі, каб несці ў руках, але немец балюча пхнуў аўтаматам, закрычаў:

— Шнэль, шнэль! Цурук!

Вядома, тады я не ведаў, што азначаюць гэтыя «шнэль» і «цурук», але подбегам кінуўся да Косціка, які ішоў першым. Немец зарагатаў:

— О, я, я! Бегам, бегам!

Калі ўжо адышліся далекавата такі ад могілак, Ніна раптам спынілася:

— Косцік, мы ж там посцілку забыліся. Мама крычаць будзе. Я збегаю,— і яна кінулася назад.

Дарогу ёй перагарадзіў той жа немец, што падганяў і мяне:

— Цурук!

А паліцай дадаў:

— Ты куды? Назад!

— Мы там посцілку забыліся, дзядзечка, я збегаю... Я хуценька...

— Марш назад!

Ніна заплакала, паплялася апошняй, узяла на рукі Сашку, які выбіўся з сіл.

Мы мінулі Сялібную, аселіцу, перабраліся цераз рачулку, што цякла ля самых гародаў, і выйшлі якраз да лазні дзеда Караля...

Лазня дзеда Караля... Сюды я часта прыбягаў «памагаць» дзеду грэць гэтую лазню. Дзед Кароль быў добры, не праганяў мяне. Толькі тады, калі ён выкочваў з каменнай печы чырвоныя, распаленыя да жаўцізны валункі і вялізнымі абцугамі апускаў іх у бочкі з вадой, адганяў мяне:

— Брысь, жэўжык, а то і да бяды недалёка.

Далёка я не адбягаўся: дужа ж цікава было пагля-дзець, як з бочак узляталі спачатку пыркі, а пасля над імі ўзнімаўся вялізны слуп пары. Калі ўсе камяні аказ-валіся ў бочках, дзед Кароль зноў дазваляў падысці блі-жэй. Я падбягаў і слухаў, як у бочках нешта доўга-доўга булькала, шыпела, крактала — нібы тыя бочкі дыхалі...

Ого, дзед Кароль і яго лазня! Хто з хлапчукоў не ха-цеў бы паглядзець, як пад канец, калі прагаралі дровы, дзед выгортваў з печы доўгай качаргой зыркае вуголле і, заліваючы яго вадою, казаў мне:

— Во, жэўжык, вала можна засмажыць!

А тое, як пасля, калі з лазні праз дзверы і адно-адзі-нае малюсенькае акенца сыходзіў дым, дзед Кароль асця-рожна пырскаў на печ венікам — змываў пыл і копаць, правяраў, ці ёсць чад і які будзе дух!

Апошнім часам, перад самаю вайною, я ўжо хадзіў у лазню разам з татам і Касцікам, і дзед Кароль сустракаў мяне заўсёды адным і тым жа жартам:

— Ну, жэўжык, куры не адклявалі твайго стручка? Не адклявалі, бачу, бачу. Тады — заходзь, заходзь, бу-дзем спрабаваць дух. А дзе ж твой венік? Ай-яй-яй, жэў-жык, як жа так? У лазню прыйшоў і без веніка!

Я стрымгалоў кідаўся да таты, хапаў у яго з рук ве-нік і нёс дзеду:

— А во!

— А-а-а... Ну, то пайшлі. Мы з табой, жэўжык, пале-зем на палок першымі. А то ж яны не ўмеюць як след і духу даць. І сам не папарышся, і вош не заб'еш. Пайшлі, пайшлі, жэўжык...

Калі мы падышлі да лазні дзеда Караля, у ёй гаспа-дарылі немцы і паліцаі. Яны выцягвалі з лазні клункі і патрашылі іх. З клункаў вывальваліся розныя адзежы-ны: сарочкі, спадніцы, хусткі. З аднаго клунка пасыпалі-ся кнігі...

То былі Касцікавы кнігі. Ён схаваў іх на гарышчы лазні. Памятаю, я памагаў яму пасля збіраць параскіда-ныя і парваныя кніжкі, памагаў складваць іх у скрынку і закопваць тую скрынку на гародзе, у кусце парэчак. Касцік падпусціў мяне памагаць, але пасля сурова папя-рэджваў, каб я, крый бог, не прагаварыўся, дзе ён зака-паў свой скарб. Я, здаецца, не сказаў нікому, але кніжкі ўсё ж прапалі: калі мы вярнуліся ў родную вёску, на га-родзе знайшлі толькі аскабалкі дошак ад той скрыні, а вакол было мноства дзірак, праколатых штыкамі. Казалі,

што штыкамі карнікі нашчупвалі ў зямлі, дзе людзі прыхоўвалі свой скарб...

Пад канвоем мы выйшлі на вуліцу. Яна была пустая — нідзе ні душы. Мы пайшлі ў канец вёскі, да Крыжавых дарог. Тут стаяла шмат падвод. Немцы і паліцаі насілі на падводы мяшкі, кошыкі яек, курэй, парасят... А ўсе нашы былі на школьным двары. Наперадзе стаяў дзед Кароль — яго я пазнаў здалёк. Пасля ўбачыў і маму з Лёнікам на руках. Яна кінулася нам насустрач перш, чым паліцай, што ішоў з намі, паспеў спытацца:

— Чые гэта дзеці?

— Мае, паночку, мае!

— А дзе твой мужык?

— А дзе ж яму быць! На фронце! Можа, ужо дзе і галаву злажыў!

Мама загаласіла.

— А мужык не бандыт? Не партызан?

— На фронце мужык, паночку! Разам з мужчынамі пайшоў.

— А чаму баялася? Чаму дзяцей у кар'ер адправіла?

— Баялася, паночку... Страляніна ўсчалася... Яны ж малыя яшчэ, жыцця не бачылі...

— Стараста,— гукнуў паліцай,— гэта баба праўду кажа?

— Праўду, пан паліцай,— азваўся дзед Кароль.— Васіль яе на фронце. Разам з іншымі мужчынамі пайшоў...

Так, дзед Кароль быў у вёсцы старастам, нямецкім старастам. Нічога гэтага я тады, вядома, не разумеў...

— Брэшаш, стары! — раптам закрычаў паліцай, падыходзячы да дзеда.— Усе вы тут бандыты і бальшавікі. Кажы праўду: дзе бандыт гэтай бабы? У лесе туляецца? Так?

— Я кажу праўду, пан паліцай. Брахаць не навучыўся,— адказаў ціха дзед Кароль.— Яе Васіль на фронце. Узялі разам з іншымі мужчынамі. На трэці дзень вайны.

— Ён быў бальшавік?

— Бальшавік! Гэтакі ж, як і я, пан паліцай. Разам зямлю аралі, разам баранавалі, разам касіць хадзілі...

— Брэшаш! — паліцай размахнуўся і ўдарыў дзеда па твары. Пасля падышоў да немца,— відаць, начальніка, і нешта сказаў яму. Той кіўнуў. Дзеда Караля схапілі і паставілі пад сцяной школы. А паліцай і немец падышлі да бабкі Габрусіхі:

— Ты, старая, гавары: хто мужык гэтай бабы?

— А божачка ж мой, дык хіба ж вам не казалі? У кожнага чалавека спытайцеся. Пайшоў яе Васіль на вайну. Разам з мужчынамі пайшоў. І з таго дня ні слыху ні дыху. Побач жа жывём, што — я не ведаю? Праўда ж, людцы? — бабка Габрусіха паварочвалася да людзей, што моўчкі стаялі на школьным двары.— Ці ж я вас баяцца буду? На фронце яе Васіль...

Бабка Габрусіха таксама апынулася побач з дзедам Каралём пад сцяною школы. Пасля там сталі цётка Ганна, цётка Верка і дзядзька Якуб...

Дзядзьку Якуба я любіў, мусіць, гэтак жа моцна, як і дзеда Караля. Іх хата стаяла побач з нашай, лічы, што ў нашым агародзе. Толік дзядзькі Якуба быў маім сябруком. Асабліва мы любілі гуляць з ім на пярэклеці іхняга свіронка. Перад самай вайной дзядзька перасыпаў той свіронак на варыўню. Гэта мы з Толікам запомнілі вельмі добра. Дзядзька Якуб збіраўся ехаць у Стайкі па мох. Пакуль ён снедаў, мы з Толікам забраліся ў калёсы — паважыліся ехаць таксама ў тыя Стайкі. Колькі ні ўгаворваў нас дзядзька Якуб злезці, мы і слухаць не хацелі. Я то, канечне, злез, бо які б добры дзядзька Якуб ні быў, а ўсё ж не тата, трэба слухацца. А Толік заўпарціўся. Ужо і маці ягоная выйшла на ганак, пачала ўгаворваць, нават мяне прасіла, каб я Толіка падгаварыў пайсці на рэчку лавіць сліжыкаў, а Толік ані блізка. Бацька паспрабаваў ссадзіць яго сілком, але ён так зароў, што было чутно, відаць, аж на Крыжавых. Тады дзядзька махнуў рукой, ускінуў у калёсы і мяне, і мы паехалі. Але даехалі толькі да крамы. Тут дзядзька спыніў каня, сунуў нам з Толікам па рублю і скамандаваў: «Ану, парасяты, марш па цукеркі! А моху я і сам прывязу. Прыеду — памагаць скідаць будзеце. Згода?» Канечне, згода! Чаго, каб хто сказаў, ехаць у нейкія Стайкі, па нейкі мох, калі можна пайсці ў краму і купіць цукерак? У краме мы доўга выбіралі, што купіць. Спынілі свой выбар чамусьці на сухарыках — дужа выдаваліся салодкімі і смачнымі...

Я глядзеў на тых, што стаялі пад сцяною школы, і нічога не разумеў. Чаму яны там стаяць? З імі хочуць зрабіць нешта благое? Канечне ж, благое! Хіба могуць немцы зрабіць нешта добрае? Ага, іх паставілі, напэўна, за тое, што і дзед Кароль, і бабка Габрусіха, і дзядзька Якуб казалі немцам няпраўду. Канечне, няпраўду! Хіба яны не ведалі, што іх за гэта пазабіваюць? Ну, добра, цётка Верка і цётка Ганна — гаранскія, не нашы, канчанскія, яны

могуць і не ведаць, што наш тата не на фронце, а ў лесе, а бабка Габрусіха, дзед Кароль, дзядзька Якуб? Яны ж з нашага канца, яны ж ведаюць. Дзед Кароль нават аднойчы аб нечым шаптаўся ўначы з бацькам. Гэта тады, калі тата неяк заглянуў дадому. Я прыкінуўся, што сплю — моцна-моцна, а сам усё чысцютка чуў...

— Апошні раз пытаюся: дзе бацька гэтых дзяцей? Хто ён? Бандыт, бальшавік?

Мы стаялі вакол Косціка — маму да нас так і не пусцілі, стаялі і маўчалі. Я не плакаў, хоць мне і вельмі шкада было бабку Габрусіху, дзеда Караля, дзядзьку Якуба. А што, калі іх заб'юць з тых жалезных рагацін? Я нават спытаўся пра гэта ў Косціка, але ён так ушчыкнуў мяне, што я ледзь не войкнуў, стаяў і глытаў слёзы ад крыўды на Косціка: няўжо ён хоча, каб забілі бабку Габрусіху, і дзеда Караля, і дзядзьку Якуба, і тых гаранскіх цётак?..

Іх не забілі. Паліцай штосьці шапнуў немцу — таму, начальніку, той нешта палапатаў, і немцы, што былі паднялі аўтаматы, апусцілі іх, адышліся да падвод. Адышоўся і той немец, які не пускаў да нас маму. Яна хуценька схавала нас сярод людзей.

Немцы неўзабаве паехалі. Людзі разыходзіліся са школьнага двара. Мама, памятаю, кідалася то да аднаго, то да другога, плакала, за нешта дзякавала. Да яе падышоў дзед Кароль, сказаў:

— Кінь, Марыля. Супакойся. Дзякаваць богу, што ўсё абышлося. Каб іх зямля не насіла, вылюдкаў...

Праз нейкі час бацька забраў нас да сябе ў лес, і мы там жылі — у буданах і зямлянках — аж да таго дня, пакуль праз нашы Крыжавыя не ішлі «красныя»...

З тае пары мінулася ўга колькі гадоў. А той наш палон застаўся ў памяці, застаўся назаўсёды: нас, пяцёра малых, трымаюць пад канвоем на Крыжавых, не пускаюць да маці... Хто яго ведае, можа б, гэты эпізод і сцёрся з памяці — усё-такі я быў зусім малеча, калі б не маці, якая часта паўтарала:

— Каб не абаранілі нас людзі, то і не ведаю, што было б з намі. Пэўна ж, расстралялі б.

Бацька ж часам пярэчыў:

— Людзі-то, канечне, абаранілі. Каб хто звягнуў, што я ў партызанах, што былы сельсаветчык, то, яно, канечне, вас бы ўсіх расстралялі. Палажылі б і тых, што пад сцяной школы стаялі. Але ж і другое праўда. Вінаватых

яны не шукалі. Проста — лёс ужо, мусіць, такі. Суджана было жыць...

Так, вінаватых яны не шукалі. Тым разам, праўда, яны нікога не забілі і нічога не спалілі. А пасля? Вёску нашу спалілі датла. А людзей, хто не паспеў уцячы і схавацца, расстралялі. Забілі дзядзьку Якуба разам з Толікам і маткай, забілі цётку Верку — тую, гаранскую, што стаяла тады побач з дзедам Каралём, забілі сына бабкі Габрусіхі, яе нявестку і ўнука Алёшку. Дзед Кароль таксама не дажыў да прыходу «красных» — фашысты павесілі яго за сувязь з партызанамі...

Дык, мусіць, большая мацерына праўда: не лёс, а людзі... Дзед Кароль, дзядзька Якуб, бабка Габрусіха, гаранскія цёткі...

...Сонца хілілася к заходу, але было па-ранейшаму душна, парна, млосна. Відаць, на дождж. Бо вось жа зноў усхадзіліся ў Смаляковым рове вароны.

Я падняўся, атрос ад пяску пінжак, перакінуў яго цераз руку і паціху пайшоў разораю праз жытнёвы палетак да травяністага калёснага прасёлка. Па крыссі мякка шасталі каласы, з ціхім шоргатам асыпаўся з-пад чаравікаў пясок.

## РАНІШНІЯ СНЫ

От жа бывае так: прысніцца ўночы нешта і потым цалюткі дзень з галавы не выходзіць. Здаецца, і не думаеш пра тое, і робіш нешта зусім іншае, а яно не-не ды і зноў усплывае. І тады пачынаеш міжволі прыгадваць, што ж такое прымроілася табе ноччу, шукаць у ім пэўны сэнс і, смешна казаць, нават патаемную сувязь паміж тым сном-неадчэпам і тым, што можа чакаць цябе сёння альбо заўтра.

Сёння, пад самую раніцу, мне снілася блакада. Быццам ляжым мы з братам у лесе, у халоднай і смярдзючай балотнай рудаўцы, бачым, як ідуць, пераскокваючы з купіны на купіну, немцы і паліцаі, чуем, як паліцай, падрабляючыся пад тутэйшую гаворку, галёкае на ўвесь лес: «Марыля, дзе ты? Пойдзеш сягоння ў Стайкі? Го-го-го, Марыля-а!», ведаючы, што ў кожнай вёсцы знойдзецца жанчына, якая завецца Марыляй, і спадзеючыся, што

гэта самая Марыля можа падумаць, што гукае яе хто-небудзь свой — сусед ці проста знаёмы... Потым снілася, што быццам сварыўся на мяне дзядзька Тодар. За тое, што незнарок сыпнуў жменю пяску ў саганок з заціркай-скваранкай, які нехта пакінуў ля вогнішча ненакрытым. Толькі сварыўся чамусьці голасам дзядзькі Андрэя, майго цяперашняга суседа...

Хто яго ведае, чаму раптам прыснілася ўсё тое — наш стайкаўскі Барок, блакада, дзядзька Тодар. Нечага ж от спамянулася, як маці сказала б. І зацірка яшчэ. Не бачыў я таго закапцелага саганка ля вогнішча. І пяску сыпаць у яго зусім не хацеў і не збіраўся. Ляпіў ля зямлянкі печкі і сыпнуў жменю. Проста так, убок сыпнуў, а патрапіў у саганок. Дзядзька Тодар хацеў мяне нават дубцом сцебануць — так раззлаваўся, але я ўцёк. Раптам і зацірка спамянулася...

Пэўна, ніхто ў нашым доме не падымаецца раней за дзядзьку Андрэя. Яно, канечне, можа хто і раней калі ўстане, але хто пра тое ведае? От хоць Франака возьмем, з трыццаць дзевятай кватэры. Ён шафёрам — на аўтобусе — робіць. Дык як ідзе ў першую змену, ледзь не сярод ночы падымаецца, але ж то — не кожны дзень. У дзядзькі Андрэя няма ні першай змены, ні другой. У яго і выхадных, здаецца, няма. Штодня ўстае ледзь свет і адразу ж, як сам кажа, на вахту сваю заступае. А вахта яго — на балконе. От і атрымліваецца: як хто ні рана з дому выходзіць, а з ім з першым здароўкаецца.

З дзядзькам Андрэем мы жывём на адным — другім — паверсе. І балконы нашы побач, у двор выходзяць. Таму я кожнай раніцы чую (зранку яшчэ няма ў двары шумлівай дзіцячай шчабятні), як ён гамоніць з суседзямі.

От і сёння. Толькі прачнуўся, яшчэ, пэўна, і сямі няма, а ўжо чутно:

— А, Марыначка! Здаровачкі была, любачка! Ужо бяжыш, ё-маё! Ці дня мала, каб хвасты сваім кліенткам накруціць? Не рана, ё-маё, выбралася, кажу?

— Ой, што вы, Андрэй Кірылавіч! Там з шасці вочарадзь стаіць!

Гэта, бегучы на работу, з дзядзькам Андрэем здароўкалася Марына з чацвёртага пад'езда, майстар жаночай цырульні. Праўда, цётка Віцця кажа, што зваць дзяўчыну не Марынай, а Гэляй, што Марынай яна стала тут,

у горадзе — каб не быць «дзеравенскай». Можа, і праўда, бо і сам чуў, седзячы неяк на балконе, як гэта самая Марына казала суседцы: «Табе, Жэнечка, гэта прычоска не йдзець. Яна робіць цябе надта дзеравенскай». І дзядзьку Андрэя Марына заўсёды заве толькі Андрэем Кірылавічам — таксама «па-гарадскому».

Не аціх яшчэ дробны цокат Марыніных абцасаў па асфальце, як зноў чутно:

— Здароў, дзядзька Андрэй! Калі ты перапляцеш іх ужо, сеткі свае?

— Здароў, Алік, здароў! Галава, хлопец, не баліць? Ці падлячыў ужо? Учора ты, хлопец, быў, ё-маё...

— І ты ўгледзеў? Напарнік у водпуск ішоў, дык, гэта самае... Жонка напару з цешчай пілавалі. І так моташна, а яны яшчэ...

— А ты хацеў, каб яны, ё-маё, пахвалілі цябе, апахмяліцца падалі?

— Угадаў, дзядзька Андрэй. Цешча, душа добрая, не вытрывала, гледзячы на мае пакуты, наліла сотачку. Дык аж у галаве пасвятлела. Ну, я пабег!

— Бяжы, хлопец, бяжы. А сетачка і табе хутка спатрэбіцца. Угадаў?

— Ага, ліха на яе! Бог тройцу любіць. От і наспявала дурная баба!

— Разумная, брат, а не дурная. Дзе двое, там і трое. А глядзіш — рубля лішняга на чарку і пашкадуеш...

Алік — з нашага пад'езда, з самай верхатуры. Дзе робіць, дык я, папраўдзе, толкам і не ведаю. Здаецца, бульдазерыстам на будоўлі. Хлопец, на пагляд, і ніштаваты — ціхі, сарамяжы, рабацяшчы. Вясною пабяліў у двары ўсе яблыні і ігрушыны, абгарадзіў нізенькім штыкетнікам кветкі, каб не дратавалі дзеці. Адно — часам прыходзіць дадому «пад мухай», і тады падоўгу «высвятляе адносіны» з цешчай і жонкай. Высвятляе «пры зачыненых дзвярах» — так кажа дзядзька Андрэй... Аліка, калі ён вяртаецца дамоў нападпітку, не пускаюць у хату. І от тады пачынаецца тое высвятленне адносін пры зачыненых дзвярах: ён — па адзін бок, на лесвічнай пляцоўцы, жонка і цешча па другі, у кватэры. Больш крычыць адзін бок — жаночы. Адтуль, з-за дзвярэй, можна пачуць і «прымака», і «галадранца», і «апівоху». Алік жа адно ціха ўгаворвае: «Мама, Люська, не смяшыце людзей, адчыніце». Кажуць, верхаводзіць у кватэры цешча. Яна, урэшце, адчыняе дзверы, і ўсё супакойваецца...

Пасля, недзе каля васьмі, з дзядзькам Андрэем гамоніць цётка Вікця.

— Харошы дзянёк,— гукае яна знізу.— Звечара бытта і ветрылася, а во якая цяплынь і парнасць з самой ранічкі. А ты ўсё пляцеш?

— Пляту, Вікторыя Лазараўна,— адказвае дзядзька Андрэй.

Я ўсміхаюся сам сабе. Відаць, толькі адзін мой сусед называе так цётку Вікцю. У доме, ведаю, яе недалюбліваюць — за доўгі язык, і часцей, за вочы, клічуць лапатухай. Што б дзе ні здарылася, цётка Вікця заўсёды ўсё ведае. Недалюблівае яе і дзядзька Андрэй, але знарок звяртаецца да яе так уважна: Вікторыя Лазараўна.

Цётка Вікця, аднак, не заўважае іроніі ў голасе суседа і, відаць, спыняецца.

— Аднаму і пенсіі хваціла б,— кажа яна,— а на пяць ратоў дык і шнуркі гэтыя трэба шморгаць, вочы сляпіць.

— Ну, цяпер абы раток, а хлеба знойдзецца кусок. Але ж — трэба, Лазараўна,— памяркоўна адказвае дзядзька Андрэй, хоць я ведаю, што ён не любіць, калі хто напамінае яму пра яго пяць ратоў: дзядзьку Андрэю пад шэсцьдзесят, а дзеці — два хлопчыкі і дзяўчынка — зусім яшчэ малеча, адно пад адным.

— А не так жа іх пракарміць, як адзець-абуць,— сыпле цётка Вікця.

— Яно, ё-маё, ведама, малое — малым,— бубніць дзядзька Андрэй.— І то, Лазараўна, праўда. З трыма малымі не пазагараеш. То там дзірка, то тут нешта трэба. От і пляту таму. Якая б капейчына ні была, але, як той казаў, свежая. Ты, Лазараўна, куды так рана?

— Куды ж я хаджу яшчэ?! Ні ён, ні яна не сходзяць, да гатовенькага прывыклі. Ад стала да стала. А ты і па магазінах палётай, і ў кулінарыі паштурхайся, і згатуй, і памый, і дзяцей дагледзь... Казалі ўчора, курэй будуць даваць, дзяшовых. Дык падбягу. Малым на булён. Сабе дык які той наедак з курыцы!

— Ну, але ж! А дзіцяці, ё-маё, добра!

— То, можа, і табе парачку захапіць? Я ж ужо хлопца туды паслала. Калі чарга будзе, каб пастаяў. Дык жа лянота! Ледзь успарола... Ты ўчора чуў ці не? Зноў жа цятр быў. Ну, з Алікам вашым. Да поўначы ў хату не пускалі. Гадаўкі, а не бабы. Заездзілі чалавека. Точ, як прымак даўнейшы. Самі за яго гарбом трыбухі паадга-

доўвалі, а яшчэ і здзекуюцца. І людзей не стыдзяцца, на ўвесь дом лямантуюць.

Не бачу, але адчуваю, што дзядзька Андрэй ад гэтых слоў хмурыцца — не любіць ён, ведаю, такіх гаворак. Пэўна, ніжэй схіліўся над сваёй сеткай, пасапвае, ківае галавой. Урэшце, чую:

— А табе, Лазараўна, тое бытта баліць пайбольш?

— Каб мне яшчэ балела? Ды няхай яны там пазадушваюцца! Каб мне яшчэ балела...

— Чаму ж так злосна, Лазараўна? Да ўсяго табе дзела, усё табе трэба ведаць і асудзіць. А ці ведаеш, Лазараўна, як цябе клічуць от за гэтае самае?

— Як трэба, так і клічуць,— ужо крычыць лапатуха.— Ці не сам першы і наплявузгаў на мяне, га? Думаеш, сам добранькі? Го, сказала б я табе, ды людзей сорамна, няшчасны! Лепш во на балконе, дык і ліпі. Знайшоўся мне ўказчык! Жонцы сваёй, гаротніцы, указвай. А то яна, бедная, радачкі не знаходзіць, як з пятлі выбавіцца. Я старая, і то ніколі не рашылася б на такое. Цьфу на цябе!

Чутно, як яна пашлэпала па двары...

Счакаўшы крыху, выходжу хутка на балкон, кажу:

— Добры дзень, дзядзька Андрэй!

— Здароў, Раманавіч! — Колькі часу маўчыць, пасля падымае галаву, сіліцца ўсміхнуцца: — Чуў, ё-маё? От жа шкодлівая баба. Не проста абгаворыць, а яшчэ і ўкусіць. І за самае балючае месца... Ну, што новага?

Я дастаю з кішэні цыгарэты, не спяшаючыся прыпальваю.

— Не ведаю, дзядзька Андрэй. Нічога такога.

Сусед, відно, рады забыцца на тое, што было, бо падхоплівае:

— А я ў шэсць слухаў радзіва. Апошнія ізвесція. Нічога, як ты кажаш, такога. Непанятна мне, Раманавіч, толькі адно. Да якой гэта пары будзе тое, ё-маё, у В'етнаме? Гэта ж колькі гадоў ужо!

Дзядзька Андрэй, ведаю, не чакае адказу. Ён больш за мяне, відаць, чытае газет і слухае радыё, пытаецца проста так, дзеля таго, каб я падтрымаў яго гамонку. Таму я пацiскаю плячыма:

— Цяжка сказаць, дзядзька Андрэй. Па ўсім відаць, не скора там ціха будзе.

— Я ж от сяджу, слухаю тое радзіва і думаю. Людзі цяпер не дурныя, вайну перажылі, ё-маё, паразумнелі.

І не адны ж мы перацярпелі. Дык чаму ж гэта ўсім разам не сказаць: до — вайны, до — слёз, до — смерцяў? От хоць бы сабе тыя амерыканцы. Не ўсе ж яны фашысты, Раманавіч?

Я ківаю галавой.

— І я ж так лічу,— хуценька кажа дзядзька Андрэй.— Ведама, не ўсе. Сярод фрыцаў і то людзі трапляліся. Хоць рэдка, але траплялiся.

Я маўчу. Зноў прыгадаўся сон, а з ім — тая апошняя блакада, тое, як мы, ацалелыя, выходзілі пасля блакады з лесу, як натыкаліся на забітых і павешаных нашых людзей — жанчын, старых, дзяцей... «Траплялiся сярод іх людзі, дзядзька Андрэй, але вельмі і вельмі рэдка. А яшчэ радзей абуджалася людское ў тых людзях...» — думаю.

Сусед таксама маўчыць, адкладвае ўбок чаўнок, разблытвае шнурок, потым, беручыся зноў за работу, кажа:

— Ведаеш, Раманавіч, што мой Толік учора адчудзіў? Падыходзіць да мяне і пытаецца: «Табе, тата, на вайне ногі адарвала, праўда?» Праўда, кажу, сынок. Дык ён вазьмі ды скажы: «А ты, татачка, не пайшоў бы на тую вайну, ды і ўсё». Што ты скажаш? Ісці на вайну, кажу, трэба было, сынок. Ён зноў: «Чаму?» От, ё-маё. Кажу яму: «Трэба было, каб больш вайны не было, каб табе, сынку, не давялося ісці». Аціхла маё птушанё, прыхінулася да мяне, але бачу — думае аб нечым. І точна, Раманавіч. Бліснуў ён вачанятамі і гэтак хітра кажа: «А мяне ж, тата, яшчэ тады не было!» Разумны ўжо, жэўжык!.. Куды, куды ты лезеш? — закрычаў раптам дзядзька Андрэй.— Табе, табе кажу! Чуеш, Сяргейка?

Зірнуў — каму гэта ён? Аказваецца, на яблыньку, учарэпіўшыся за ніжнія сукі, лезе хлапчанё. Учуўшы дзядзьку Андрэя, жэўжык саскочыў на зямлю, сунуў рукі ў кішэні і, пасвістваючы, павалі пайшоў да крэсла-гушкалкі.

— Бач ты яго, лета ў сілу не ўвабралася, а ён ужо зялепухамі ласуецца. Жывот сапсуеш, памаўза! — крыкнуў дзядзька Андрэй.— От жа матка, можа, і бачыць недзе з акна, а, ё-маё, маўчыць. Гэта Грышы Ваўчка, з апошняга пад'езда. Ведаеш — чарнявы такі, з вусікамі, на шчотачнай фабрыцы робіць?

Я не ведаю Грышы Ваўчка. Дзіўна, але за тры гады, што жыву тут, я ведаю зусім нямногіх сваіх суседзяў. А можа, так яно і павінна быць? Горад, кажуць, адначасова і згуртоўвае людзей, і раз'ядноўвае. Але ж ці так гэта? Вось жа дзядзька Андрэй, бязногі чалавек, які рэд-

ка калі пакідае сваё куросанне на балконе, каб пасядзець з мужчынамі ў двары, ведае ў доме ўсіх, нават от гэтага падшыванца, сына Грышы Ваўчка, чарнявага, з вусікамі, які робіць на шчотачнай фабрыцы.

— Ну, ты-то можаш і не ведаць яго. Раніцой пойдзеш, увечары прыйдзеш. А я ж тут, ё-маё, ад усходу да захаду...

Я слухаю дзядзьку Андрэя, а сам чамусьці пачынаю думаць пра іншае. Пра тое, што люблю нашу гарадскую ўскраіну. Люблю за тое, што тут шмат прасторы, шмат сонца, паветра і маладой зеляніны. А яшчэ за тое, што людзі, якія жывуць тут,— той жа дзядзька Андрэй, Алік, Франак, нават цётка Вікця — не страцілі, не разгубілі — ні ў гаворцы, ні ў паводзінах, ні ва ўяўленнях — таго, што было вынесена імі з вясковай хаты, з роднага бацькавага кута. Няхай сабе гэта падасца каму смешным і наіўным, але — вельмі ж шчымліва затрымціць душа, калі раптам паплыве з расчыненых насцеж вокнаў недзе на пятым паверсе любая матчына песня; аж страпянешся часам, калі гарадская бабулька прыкрыкне раптам на ўвішнага гарадскога ўнука цюцелька ў цюцельку так, як крычала калісьці на мяне бабка-нябожчыца: «Угамонішся ты ці не? Дальбог жа, злаўлю і крапівою так зжыгаю, што ўжо не сядзеш, дык не сядзеш!..»

— Ты што, не чуеш? — кажа раптам дзядзька Андрэй.— Дык от я і кажу: як пасядзіш тут, ё-маё, цэлы дзень, дык і наслухаешся, і нагамонішся. І што я табе, Раманавіч, хачу сказаць. Часам мяне одум бярэ. Вазьмі вайну. Табе тады колькі было? Гадоў сем-восем? Ну, то ты, хлопец, мала чаго і помніш. А маю жызню, ё-маё, вайна напалам пераламала. З хрустам, Раманавіч, з болем...

Я крыху ведаю лёс дзядзькі Андрэя. Да вайны ён жыў у вёсцы, рабіў у калгасе конюхам. Меў жонку і двое дзяцей. І матка старая з ім жыла. А вярнуўся — нікога не знайшоў. Суседзі расказалі, што ў адзін дзень карнікі ўсіх паклалі. Паўвёскі загінула. Усе, хто не паспеў уцячы ў лес. Каб яшчэ не калецтва, то, можа, і вытрываў бы Андрэй. А так — махнуў на ўсё рукой, запіў. Гадоў дзесяць жыў, не ведаючы, дзе спаў, што з'еў. Зімой ля вакзалаў, ля сталовак аціраўся, летам — ля базараў. Аж пакуль не стрэлася жанчына адна. І маладзейшая за яго, і здаровая, а от сталася так, што прыняла Андрэя да сябе, вымыла, апранула, сказала: «Жыць трэба». Так і жы-

вуць. Траіх дзетак нажылі. Жонка на заводзе робіць, а ён, дзядзька Андрэй, у камбінаце надомнай працы. Пляце сетачкі для дзіцячых ложкаў, авоські, тэнісныя і валейбольныя сеткі... Пра ўсё гэта я чуў ад той жа цёткі Вікці. Можа, што і не так было, хто ведае — дзядзька Андрэй сам гаварыць пра тое не любіць...

— Дык слухай. Я не пра сябе. Цяжка людзям жылося — не давядзі бог! І ў вайну, і пасля. А от жа не азвярэлі. Чуеш, Раманавіч? У самога каторага гора, але і другому паспагадае, падзеліцца апошнім. А цяпер, здаецца, не тое.

— Што, горшыя сталі?

— Не, я таго не скажу. Людзі розныя былі. І добрыя, і благія. Але от здаецца мне, што мы бытта пачалі забывацца. На гора пачалі забывацца, Раманавіч. На тое, што было, што перажылі. Мяккасці, спагады ў людзей бытта паменела, ці што. Абнадзеіць, паспачуваць чалавеку, слова добрае сказаць — дробязь гэта, а не кожны з нас і на гэта здатны. Яно, бытта ў горадзе гэта і не прынята, людзі з усяго свету пасабіраліся, але ж, ё-маё...

— Вы ж, дзядзька Андрэй, не забыліся...

Сказаў я гэта і пашкадаваў, бо сусед мой нейк схіліўся раптам, быццам яму пільна спатрэбілася ўгледзецца ў толькі што завязаны вузел, потым шумна выдыхнуў паветра і сказаў, не падымаючы галавы.

— Я, хлопец, не забыўся. Не магу забыцца, каб і хацеў. Во,— ён паварушыў сваімі кульцяпкамі,— не даюць забыцца. Ледзь што якое — смыляць, спаць не даюць.

— Даруйце, я не тое хацеў...

— Нічога, што ж тут крыўдаваць,— дзядзька Андрэй зняў з кручка гатовую сетачку, разгарнуў яе, агледзеў, шпурнуў у кашолку. Асноўваючы новую, знячэўку спытаў: — Ты, Раманавіч, з-пад Загорска? Быў я некалі ў вашых мясцінах. У сорак чацвёртым. Як немца гналі. Драпаў фрыц — угнацца не маглі... Помню вёсачку адну. От як цяпер вуліцу бачу, доўгую, дажджамі размытую. Каменняў на вуліцы шмат было. А на скрыжаванні, пасярод вёскі, царква. Адна сцяна ад яе ацалела...

У маёй роднай вёсачцы вуліца таксама вечна размывалася дажджамі. І на ёй таксама, нібы свінні, ляжалі вялікія белыя камяні. І царква ў нас таксама была. Пасля вайны ад яе засталася адна толькі сцяна. Яна стаяла доўга, аж пакуль старшыня калгаса не запрасіў аднекуль сапёраў, і тыя нейк пад вечар узарвалі сцяну... Мо-

жа, пра маю родную Карпілаўку гаворыць дзядзька Андрэй?

— Назвы, хоць забі, не помню. А от саму вёску добра запомніў. Спыніліся мы ў ёй на некалькі хвілін. Якраз каля царквы. Пасаскоквалі з машыны, людзі нас ураз акружылі. Пэўна, усе збегліся, хто на той час дома быў. Плачуць, смяюцца. Ашчаперыла мяне бабулька адна, а слова сказаць не можа, слязьмі заліваецца... Ты помніш хаця той час, Раманавіч?

Я спахопліваюся, адказваю:

— Помню, дзядзька Андрэй. Той час я ўжо добра помню.

— Дык от слухай. Адышоўся я крыху ўбок, прысеў на камень пад той царкоўнай сцяной — нераабуцца, бо нешта ў боце муляла...

Я насцярожыўся. Нешта раптам гарачае хлынула пад грудзі, хутчэй затахкала сэрца, а галаву свідравала адно: «Няўжо?»

У той дзень мы выйшлі з гнілога куп'істага лесу на сухі пясчаны Барок да сваіх зімовых зямлянак — блакада скончылася. На старым месцы, сярод чатырох абсмыленых слупкоў, неўзабаве запалала вогнішча. Посцілку на тыя слупкі не нацягвалі — быў яркі цёплы дзень. Над вогнішчам у вялікім чорным катле варылася мяса — непадалёк ад зямлянак знайшлі забітую карову. Яна была падстрэлена, відаць, пару дзён назад, бо паспела ўжо засмярдзець, а на разарваным бруху была плойма мух. Але цётка Юстына сказала:

— А што, бабы, можа, паспрабуем? Гэта ж не ад хвораспі, не падла. Усмажыцца, упрэе, дык і пах той адаб'е.

Цётка Юстына і аднарукі дзядзька Тодар былі над усімі намі начальнікамі. Асабліва цётка Юстына. Яе слухаўся нават дзядзька Тодар. Адмовілася свежаваць тую карову толькі цётка Волька, матка Пецькі Рабатага:

— Не, я ўжо лепш галодная буду, а есці не буду. Не магу, бабачкі. Ванітуе мяне. Паспрабую схадзіць дадому. Можа, у каго хлеба расстараюся, пакуль вы тут будзеце валаводзіцца.

І яна, пакінуўшы Пецьку сярод нас, пайшла ў вёску. Жанчыны ж хуценька ўправіліся з каровай, нарэзалі лепшых кавалкаў, накідалі повен кацёл.

У нас, дзяцей, быў свой занятак. Спачатку мы аблазі-

лі спаленыя зямлянкі, спадзеючыся там што-небудзь знайсці. Пасля памагалі дзядзьку Тодару цягаць яловую кару — ён майстраваў вялікі, адзін на ўсіх, будан, каб можна было ўкрыцца ад дажджу. Але скора нам тое надакучыла, і мы разбрыліся, хто куды.

Я з Толікам Каптуром пайшлі да старога калодзежа, з якога бралі ваду да блакады. Цяпер браць з яго ваду не рашыліся — баяліся, што калодзеж атручаны. Цётка Юстына з маёй маткай выкапалі другі. Месца, дзе капаць, паказаў дзядзька Тодар,— там, дзе канчаўся соснік і пачынаўся ельнік. Калодзеж атрымаўся гэткі ж, як і стары — квадратная яма глыбінёй з метр, і вада ў ім была амаль такая ж, як і ў старым, хоць дзядзька Тодар і спадзяваўся, што тут, бліжэй да грудка, яна будзе лепшая.

Стары калодзеж быў паўнюсенькі — з берагамі. Вада — чорная, бяздонная, з рудымі масляністымі пацёкамі поверху. Па ёй бегалі-мітусіліся чорна-бліскучыя жучкі. Нам вельмі карцела даведацца, атручаны ён ці не. Але як? Толік даўмеўся праверыць гэта на жабе. Ён умудрыўся злавіць вялікую зялёную рапуху і ўкінуў яе ў ваду. Жаба няўклюдна выбралася на другі бераг. Мы зноў спіхнулі яе ў калодзеж — жаба зноў вылезла. Некалькі разоў мы спіхвалі жабу ў ваду. Нарэшце Толік заявіў:

— Ага, я ж казаў, што не атручаны. Жаба во набралася вады, аж раздуло яе, а хоць бы хны. Давай нап'ёмся?

Але піць мы не сталі: і не хацелася, і не было як падступіцца да вады — бераг быў сыры, балоцісты, непрыступны, нельга было не толькі прылегчы, але і апусціцца на калені. А тут яшчэ Толік успомніў, што перад блакадай ён закапаў пад сасной некалькі кавалкаў слюды. Неяк старэйшыя хлопцы хадзілі на Падлужжа, дзе ўпаў фашысцкі самалёт, і прынеслі адтуль шмат розных цацак і слюды. Увечары мы запальвалі кавалкі гэтага гаручага шкла і насіліся з сіненькімі агеньчыкамі па лесе. Таму цяпер, калі Толік успомніў пра свой клад, мы адразу забыліся і на стары калодзеж, і на тоўстую зялёную рапуху. От здорава будзе, калі знойдзем! Нікому не скажам, пакуль не ацямнее. А тады...

Але апаролі мы пясок, пэўна, вакол пяці сосен, ды слюды не знайшлі. Я ўжо злавацца пачаў на Толіка — мусіць, выдумляе ён усё, ніякай слюды ён не хаваў, мо-

жа, у яго і зусім яе не было, але Толік бажыўся, што закопваў, і гробся ў пяску яшчэ старанней.

Мы перайшлі да шостай сасны, як раптам пачулі крык. Паднялі галовы — па сцежцы з боку вёскі бегла цётка Волька, бегла, колькі сіл мела, аж матлялася, і крычала:

— Людцы, ратуйцеся! Немцы-ы!

Цётка Юстына таўханула нагой кацёл. Вочапка сарвалася, ён асунуўся на вогнішча і перакуліўся. Вогнішча затрашчала, зашыпела, задыміла густа і смярдзюча...

Апомніўся я ўжо тады, калі бег поруч з маці, якая трымала мяне за руку. Побач бег Толік з маткай, цётка Волька з Пецькам Рабатым, з вялізным хатулём на плячы чвякаў босымі нагамі па гразкай балотнай сцежцы дзядзька Тодар. Беглі ўсе. Беглі туды, адкуль прыйшлі некалькі гадзін назад — туды, дзе па пояс у вадзе праседжвалі блакаду.

Ці доўга мы беглі, я не памятаю. Памятаю толькі цяжкае дыханне маці (у яе за спіной быў ладнаваты клунак, а на руках трохгадовы Сашка, мой меншы брат), глухое звяканне трох лыжак і дзвюх медных конавак у хатульку, якія я трымаў у руцэ, а яшчэ памятаю, як дзядзька Тодар усё паўтараў на бягу:

— Нам бы, бабы, толькі да пунькі Хвэлькавай... Толькі б да пунькі... Далей яны не палезуць...

А потым мы зусім нечакана і вельмі ўжо блізка пачулі стрэл. Праз мінуту прагрымеў другі, пасля трэці. Усе пападалі долу, проста на хлюпатную балотную сцежку. І тады пачулі знаёмы жаночы голас:

— Стойце! Куды вы прэцеся? Стой, такую вашу маць!

А яшчэ праз хвіліну з-за елак выскачыў конь. На кані мы ўбачылі цётку Паліну, жонку камандзіра партызанскага атрада. Перад блакадай атрад пайшоў на поўнач, на злучэнне з іншымі атрадамі (так тлумачыў нашым маткам дзядзька Тодар), а цётка Паліна засталася разам з намі, з бабамі і дзецьмі. Учора ўвечары яна некуды знікла, а от цяпер сядзела перад намі на кані. Валасы ў яе былі раскудлачаны, у руцэ быў пісталет, а рот смяяўся.

— Бабы! Тодар! Адурэлі вы, ці што? Нашы ж прыйшлі! Чуеце, нашы! Чырвоныя ў Карпілаўцы!

Яна ўзмахнула рукой, бабахнула з пісталета — аж спудзіўся, ледзь не ўпаў на калені конь,— закрычала:

— Ура, бабы!

Першай апрытомнела цётка Юстына. Яна паднялася, абцягнула мокрую, усю ў балотнай твані спадніцу, закінула за спіну клунак. Колькі хвілін яна тапталася на сцежцы, пераступаючы з нагі на нагу. А потым шмякнула аб мох клункам, успляснула рукамі і, закрычаўшы нешта незразумелае, кінулася па сцежцы назад. За ёю сарваліся з месца ўсе.

Я вырваў руку з матчынай. Поруч са мной апынуўся Толік. І мы панесліся па сцежцы, распырскваючы твань — адкуль толькі сілы ўзялося. Мы імчаліся і колькі моцы было крычалі:

— Ура! Нашы прыйшлі! Нашы! Ура-а-а!

Беглі мы аж да дарогі, што вяла з лесу ў вёску — пакуль духу хапіла. Тут мы на хвіліну прыпыніліся — аддыхацца. І тут жа вырашылі, што пойдзем не па дарозе, а па сцежцы, што вілася ўздоўж рэчкі — так будзе бліжэй. А галоўнае — сцежка выходзіла якраз на скрыжаванне, дзе і павінны быць «нашы».

Мы звярнулі на сцежку і зноў пабеглі — праўда, ужо не так шпарка: не хапала дыхання. А тут яшчэ штаны перашкаджалі: калашыны былі мокрыя, цяжкія, каляныя. Перад кладкай, што каля Юркавай лазні, мы зноў прыпыніліся — падкасаць штаны. Толік збочыў са сцежкі пад куст і там згледзеў гняздо, а ў гняздзе птушанят, чацвёра, ужо ў пер'і, на вылёце. Мы, не згаворваючыся, ухапілі па птушаняці і зноў паджгалі да вёскі. Нашто мы іх бралі — не ведаю...

На скрыжаванні сабралася ўся наша Карпілаўка. Мы з Толікам ледзь праціснуліся між спадніц і сукенак наперад. Па вуліцы адна за адной ішлі машыны. Велізарныя, з высачэзнымі бартамі-драбінкамі, з дзвюма восямі ззаду. Куды да іх той палутарцы, якая была да вайны ў нашым калгасе і якую мы з Толікам крышачку помнілі. За машынамі цягнуліся «пушкі» і розныя прычэпы на двух колах. Некаторыя з гэтых прычэпаў былі з круглымі жалезнымі комінамі, з якіх цягнула дымком. Нашаму здзіўленню не было канца: дым на колах! Толькі пасля мы ўжо даведаліся, што гэта былі паходныя салдацкія кухні.

За адной з машын беглі сабакі. Ды каб жа адзін ці два, а то добрых дваццаць. І кожны быў на асобным ланцужку. А сабакі! Такіх мы і не бачылі раней. Як ваўкі: вушы тырчаць, хвост трубою, спіны цёмна-сівыя, а бру-

ха святлейшае. Мы з Толікам аж прабеглі крыху за той машынай...

А людзі нашы як ні пашалелі. Усе махалі рукамі, нешта крычалі, кідалі ў машыну кветкі. Тут жа, узбоч вуліцы, стаялі сталы, а на іх — вёдры з вадою, жбанкі з малаком, яйкі і букеты кветак. Усё гэта было вынесена на вуліцу для байцоў. Але машыны не спыняліся. Толькі час ад часу падымаўся ў кузаве то адзін баец, то другі, перагінаючыся цераз борт, кідаў пад ногі бабам кавалачак мыла, карабок сернікаў, пачку махоркі.

Цётка Юстына і тут была быццам галоўнай. Яна выбягала на дарогу, лезла пад самыя колы машыны, крычала:

— Малачка, хлопчыкі, папіце, халодненькага!

З машын ёй усміхаліся, махалі пілоткамі, адказвалі:

— Спасіба, мамаша, некагда!

У адным з байцоў, што цесненька сядзелі адзін каля аднаго ў кузаве машыны, цётка Юстына «пазнала» раптам свайго Аркадзю. Машына тая ўжо мінала крыжавыя, калі яна кінулася за ёю і нема закрычала:

— Аркадзя-а!

Машына не спынілася, і цётка Юстына бегла за ёй аж да мастка, а потым упала тварам у пясок. Помню, як яе вялі назад жанчыны, трымаючы пад рукі, і маці мая ўгаворвала:

— Супакойся, Юстынка. Не было там твайго Аркадзі. Памылілася ты, прытрызнілася табе. Ці ж я твайго Аркадзю не пазнала б...

Адна з машын звярнула з дарогі да царквы і спынілася. Усе кінуліся туды. Бабы абдымалі байцоў, плакалі, дзеўкі сарамліва совалі ім кветкі, старэйшыя і смялейшыя чмокалі іх у няголеныя, запыленыя шчокі, дзядзька Тодар падыходзіў да кожнага і моўчкі падаваў кожнаму сваю адзіную левую руку.

Пасля, калі крыху аціхла мітусня першых хвілін сустрэчы, мы ўбачылі, што адзін з байцоў адышоўся ў цень, пад сцяну царквы, прысеў на камень і пачаў разувацца. Мы акружылі яго, моўчкі, не зводзячы вачэй, глядзелі на яго.

Не магу, пэўна, перадаць тое, што адчувалі мы, дзеці, гледзячы на таго байца. Гэта быў ён, адзін з тых, каго мы звалі «нашы» і каго чакалі так, як, пэўна, нікога і ніколі на свеце. Хай толькі прыйдуць нашы!.. З гэтым мы звязвалі ўсё. Перш-наперш яны, вядома, прагоняць немцаў.

А пасля... А пасля будзе такое, чаго мы і ўявіць сабе не маглі. Што пачнецца, як яно будзе пасля таго, як прыйдуць нашы, мы, канечне, не ведалі, але былі ўпэўнены: прыйдуць нашы і ў нас будзе ўсё-ўсё, што захочам. Будзе хлеба — многа-многа хлеба, столькі, што пачнеш есці і ніколі яго не з'ясі; будуць штаны — сінія, з кішэнямі і з рамянём; будуць чаравікі — скураныя, чорныя, бліскучыя, са шнуркамі; у мяне і ў Толіка будзе па ножыку-складанчыку — з двума лязамі, з шылам, з касцянымі тронкамі... Го, хай толькі прыйдуць нашы!..

І вось яны прыйшлі, і адзін з іх сядзіць перад намі на камені і разуваецца...

Баец зняў пілотку, запхнуў яе пад рамень, падняўся, прайшоўся босымі нагамі па траве.

— Вы ведаеце, як гэта здорава — ступаць босай нагой па зямлі? Га, жэўжыкі? — сказаў ён, усміхаючыся.

Мы паглядзелі на свае босыя, парэпаныя ногі і таксама ўсміхнуліся. Што ж тут такога — хадзіць босым? Мы во ўжо ад снегу босыя бегаем! Па траве добра гойсаць, мякка, а ў лесе босайназе, дзядзька, і не вельмі здорава: то шышка сухая падаб'ецца, то сучок які ўпорацца — аж прысядзеш...

Не ведаю, ці думаў я так тады, ці гэта падумалася цяпер, праз дваццаць з гакам гадоў. Можа, і не думаў тады нічога такога, бо ніхто з нас не прамовіў ні слова. Зрэшты, мусіць, увогуле не дайшоў да нас сэнс таго, што сказаў баец. Мы проста стаялі вакол і елі яго вачыма. Яго пілотку, зорачку на ёй, бліскучыя цацкі на грудзях — мы тады яшчэ не ведалі, што тыя цацкі завуцца ордэнамі і медалямі. А вось твару байца я не помню. Не ведаю, быў ён чарнявы ці русявы, з вусамі ці без вусоў... Гэтага нічога не помню. Помню толькі, што быў баец, што сядзеў на камені босы, што ногі ў яго былі нязвычна белыя, апрэлыя...

— Дык ты слухай, Раманавіч. Перакруціў я анучы, а заадно і перакусіць вырашыў. Дастаў хлеб, тушонку адкрыў. А вакол мяне — падшыванцы. Абступілі і глядзяць. Насцярожана глядзяць, баязліва. Помню двух. Па гадоў сем-восем. Худзенькія, у штоніках са шлейкамі, мокрыя калашыны падкасаныя да калень. А мурзатыя — страхоцце! Бытта ў балоце выкачаліся. Адно — вачаняты.

І ведаеш, Раманавіч, што запомнілася? Гэта да мяне не адразу дайшло... Што галодныя былі тыя вачаняты. От ем і бачу, што і яны кожны мой кавалак адкусаны да рота праводзяць... Ё-маё, думаю: вось вам і радасць найбольшая ад вызвалення — кавалак хлеба... Я пальцам тым двум паківаў — падыдзіце, ё-маё, бліжэй. Падышлі. Што, кажу, есці хочаце? Маўчаць мае чарцяняты. Адрэзаў я ім па скібцы хлеба. Узялі. І ведаеш, Раманавіч: адразу не накінуліся. Стаяць, маўчаць. Гляджу я на іх, ажно бачу, нешта ў іх у кулачках ёсць. Пакажыце, кажу, што там у вас? Паказваюць. Паверыш, Раманавіч, ці не — па птушаняці. Па птушаняці ляснога канька. Узяў я ў рукі аднаго, сэрцайка так і б'ецца, ледзь не выскачыць. І так я, Раманавіч, расчуліўся, ё-маё. Ліха яго ведае, ад чаго, але — аж сляза нагарнулася... А пасля пытаюся ў іх: «Дзе ўзялі?» Там, кажуць. Дзе гэта там, кажу? А ля кладкі, адказваюць. Навошта ж вы іх, кажу, бралі? Маўчаць мае героі. Потым адзін смялейшы, відаць, кажа: «Вам, дзядзя!» Ах вы, чарцяняты мае, дадумаліся — такі падарунак байцу паднесці! Дзе гняздо, кажу, запомнілі? Запомнілі, кажуць. Дык вось вам, кажу, мой загад: бягом туды, адшукаць гняздо, палажыць птушанят і далажыць. Ясна? Павесялелі чарцяняты. Ясна, кажуць, і з месца сарваліся...

Так... Значыць, то і праўда быў дзядзька Андрэй. Значыць, гэта яму падаваў я тым ліпеньскім днём сорак чацвёртага года птушаня? Значыць, гэта ён даў нам з Толікам па лусце хлеба з тушонкай? Тады мы, канечне, не ведалі, што то была тушонка, мы звалі яе халодным мясам, але ж смаката была — аб'ядзенне. Мы ўтрубілі той хлеб у мінуту, як толькі пабеглі выконваць загад. Няўжо мы былі такія галодныя? Няўжо дзядзька Андрэй пабачыў на нашых вачах, што мы хацелі есці? Мы, здаецца, і не глядзелі на той хлеб. Мусіць, памыляецца дзядзька Андрэй. А астатняе — усё праўда. Я таксама памятаю, як ён хадзіў босы па траве, і як выняў з брызентавай торбы паўбуханачкі хлеба (такога хлеба мы і не бачылі раней — быццам паўцаглінкі), і як ножыкам-складанчыкам адкрываў бляшанку з той смачнай тушонкай, і як распытваў нас, дзе мы ўзялі тых птушанят, і як загадаў аднесці іх назад, пакласці ў гняздо...

Дабеглі мы тады да Юркавай лазні, перайшлі па клад-

цы на другі бок рэчкі, а дзе той куст — не ведаем. Адзін абшасталі — няма, другі, трэці — таксама нідзе.

— Можа, адцураліся? — выказаў я здагадку.— Дзядзька ж Тодар казаў, што калі зачэпіш яйкі, то птушка таго гнязда адцураецца. Помніш?

— Адцураецца, адцураецца! — Толік зазлаваў на мяне.— То ж птушаняты, а не яйкі. Ад птушанят не адцураюцца.

— Дык, можа, яны астатніх птушанят звялі?

— Дурань ты! Ну, хай птушанят звялі, а гняздо куды падзелася?

Ну і праўда дурань! Гнязда ж птушкі з сабой не маглі ўзяць.

Мы зноў пачалі шукаць. І трэба ж — знайшлі яго ў кусце каля самай-саменькай кладкі. У гняздзе сядзелі і астатнія птушаняты. Мы пасадзілі да іх сваіх двух і — галопам у вёску: далажыць, што заданне выканана.

Але на крыжавых ужо нікога не было. Толькі на пяску засталіся сляды машын ды ў паветры яшчэ стаяў пах перапаленага бензіну.

Помню яшчэ, што, калі я прыйшоў дадому, мне папала ад маці: яна хапілася, што мяне нідзе няма, і спалохалася — ці не ўмудрыліся мы з Толікам убіцца ў машыну і паехаць з салдатамі...

— От і ўсё, Раманавіч. Больш я нічога не бачыў. Праз некалькі хвілін мы пайшлі далей. А жэўжыкі і вёсачка тая засталіся ў памяці. Дай ты веры — птушанят салдату прынеслі, га, Раманавіч? Жэўжыка аднаго як цяпер помню. Дужа ж на майго Алёшку змахваў. Не на гэтага, на таго Алёшку — першага майго таксама Алёшкам звалі. Канапаценькі такі ж, рыжанькі, і шчэрбіна наперадзе... Недзе ж, пэўна, жывуць птушаняты. Раз выжылі, дачакаліся нашых, дык жывуць, канечне. А ці помняць салдата таго, што сядзеў на камені пад сцяной царквы, і ці палажылі ў гняздо птушанят ляснога канька? Як думаеш, Раманавіч?

— Помняць, дзядзька Андрэй. Канечне, помняць. І птушанят на месца аднеслі. Толькі...

А болей я нічога не сказаў, хоць, можа, і трэба было нешта сказаць. Але — што? Што то была мая вёска і што адзін з тых мурзатых, галодных падшыванцаў — вось ён, перад ім? Што Толік — канапаты, рыжы, са

шчэрбінай наперадзе, Толік Каптур, мой сябрук дзіцячых ваенных гадоў, Толік, які нагадаў дзядзьку Андрэю яго Алёшку, таго Алёшку, ад першай жонкі,— што ён таксама стаў ахвярай вайны, падарваўшыся тым жа летам сорак чацвёртага на міне?

Сказаць пра гэта я чамусьці не рашыўся... Мо калі іншым разам...

Дзядзьку Андрэя жонка паклікала снедаць. Ён на руках перанёс сваё грузнае цела цераз парожак і знік у пакоі. Я застаўся на балконе — дасмактаць цыгарэту.

Двор ажываў. Унізе, пада мной, занялі ўжо сваё звычнае месца — на сонечнай лаўцы — бабулі-пенсіянеркі, маладзіца з чацвёртага пад'езда выкаціла ў садок і паставіла ў засені яблыні дзіцячую каляску, прыкрыўшы яе зіхатліва-белай карункавай накідкай — хай спіць малое, хай дыхае свежым ранішнім паветрам...

Ну, а мой сон? Меў ён якое-небудзь дачыненне да таго, што пачуў раніцою ад дзядзькі Андрэя? Не ведаю. Ведаю толькі адно: тое будзе прыходзіць у мае сны неаднойчы...

## СТАРАЯ ЯБЛЫНЯ

Яшчэ з зімы старой Ганулі нядужылася. І сама не ведала, чаго раптам тая хвароба прыслепілася. Ды каб жа і хвароба як хвароба, а то...

Праўда, перад тым была яна застудзілася. Пэўна, як з лазні ішла. Заўсёды брала з сабой ватнічак, каб пасля, як памыецца, грудзі ахінуць. А на той раз не ўзяла. І думала ўзяць, ды пасля паленавалася лезці па яго на печ, падумала: ат, абыдзецца, зіма як і не зіма ўсё адно, даўно каляды мінуліся, а снегу так і не падсыпала. І не чула, здаецца, каб да грудзей той холад пракраўся, як ішла з лазні паўз гароды, але ж от, мусіць, праняло ўсё ж. Назаўтра кашаль прыкінуўся — сухі, дзяркаты, спадысподу недзе, як бы і не з грудзей. Як зойдзецца, дык, здавалася, нутро выварочваецца і ў левым баку наколвае.

Ну, але папіла яна разы са тры на нач чаю з малінай, прапацела, і, здаецца, адлягло, мінулася ўсё тое: і кашаль прапаў, і між лапаткамі перастала ціснуць. Яна ўжо і на вуліцу выходзіла, каб з бабай каторай словам перакінуц-

ца, і Лысуху колькі разоў даіла, і дроўцаў, каб увечары ў грубцы прапаліць, прыносіла. На прастуду тую і забылася.

Ажно праз нейкія тыдні са два ці тры прачнулася раніцаю Ганулля, паднялася, як заўсёды, борздзенька, каб ногі долу спусціць, і знячэўку ў вачах у яе пацямнела, млосна зрабілася, у грудзях нешта цёплае разлілося, дыханне перахапіла. Не сказаць, каб яна спалохалася. Ці мала што можа быць? Мо з'ела што благое, а мо ляжала кепска. Не ўпершыню так. Колькі разоў здаралася, яшчэ і тады, калі маладзейшая была, што цямнела ў вачах. Бывала, рачкуе над баразной разоранай бульбы, грэбаецца, а разагне спіну — і ледзьве ў баразну тую не абсунецца: у вачах свет так і счарнее. І як ля каровы, доячы, на дыбачках пасядзіць, то таксама было — устане, і раптоўна тая халодная гарачыня ў грудзях разліваецца, да галавы падкочваецца, а ногі бы ватовыя робяцца.

Адвалілася Гануля зноў на падушку, паляжала, аддыхалася. Думала, што мінецца слабасць, што ачомаецца яна, ажно — не! Паспрабавала зноў сесці, быццам і асцярожна, памаленьку, на локцях падымалася — і зноў млоснасць адчула. Але ўсё ж села. Павяла вачамі на хату, а хата кружыцца, плыве. І сэрца так хуценька б'ецца, няйначай як у курыцы, калі яе знянацку ля карыта ўловіш. Прыклала далонь да грудзей, паслухала хвіліну — скача, б'ецца сэрца, і так, нібыта блізенька, пад самаю рукой, бы не ў грудзях, а толькі пад скураю. Хацела Гануля нешта сказаць сама сабе, ды не змагла — языком варухнула, а на словы дыхання не хапіла. Пахаўкала раскрытым ротам седзячы, а пасля нямогла зноў абсунулася на падушку.

Ляжала моўчкі, сцішана, похапкам, бы рыбіна тая, дыхаючы, аж пакуль Зоня не паднялася. Але адразу да дачкі не азвалася — счакала, пакуль тая на двор схадзіла. А як зайшла ў хату, падала Гануля голас:

— Нешта мне, дачушка, зноў не тое. Усё баліць, і бакі і грудзі, як быццам мяне бык пакачаў рагамі.

— Я ж казала, мама, паляжаць трэба было. А табе ўсё не церпіцца... Чаго было на вуліцу цягацца? І хто цябе прасіў Лысуху даіць? Ці ж бы сама не ўправілася? — Зоня, апранаючыся за перагародкай, гаварыла, як заўсёды, зласнавата.

— Хто ж бо ведаў, дачушка? Здаецца ж, адпусціла было,— Гануля як апраўдвалася.

— «Адпусціла, адпусціла...» — перадражніла дачка.— Як малая! — Зоня выйшла ўрэшце з-за перагародкі, зірнула ў баковачку за грубку, дзе спала маці.— Мо Соньку схадзіць паклікаць?

— Хто ж яго ведае. Мо і дала б якіх кропель ад дыхаўкі... Але ты не рупся, дачушка. Рабі што снедаць, парсюку занясі, курам дай... А Соньцы скажаш, як на работу пойдзеш. То ж не к спеху. А мо і так аддыхаюся.

— «Аддыхаюся, аддыхаюся!» — зноў перадражніла матку дачка.— Не надарвецца твая Сонька, калі і прыйдзе! Схаджу ўжо.— Зоня крутнулася, каб выйсці.

— Не рупся, кажу! — Ганулея быццам таксама ўсердавала.— Рабі во па хаце, а то, як заўсёды, паснедаць не паспееш, на хаду будзеш дакусваць. А да Сонькі і Кастусь сходзіць, як падымецца. Чуеш, сынок?

Кастусь, нечакана для Ганулі, адгукнуўся адразу ж:

— Чую, не сплю ўжо...

Зоня, нічога больш не сказаўшы, пайшла ў першую хату. Гануля чула, як яна бразнула вядром, як пасля рыпнулі дзверы і ляпнулі веснічкі — дачка, пэўна, пайшла да калодзежа. Некаторы час у хаце было ціха. А потым нечакана прарэзліва рыпнулі і застагналі спружыны — падняўся, абуваў боты, седзячы на ложку, Кастусь. Ён цяжка пратупаў па хаце, прарыпеў маснічынамі ў сенцах, выходзячы на двор. Да маці больш не азваўся, і Гануля, лежачы ў ложку, думала, ці сын зоймецца чым-небудзь у двары, ці адразу пойдзе па Соньку...

На душы трывогі ці страху не было. Ці ж яна і праўда малая? Сонька, хоць і фельчарка ўсяго, а не дакторка, дзяўчына сур'ёзная. Нездарма ж людзі кажуць, што не горай за якога доктара лечыць. Той раз прыйшла, паслухала, на руку анучку чорную наматала, таблетак дала і ніць нешта, дык ёй, Ганулі, аб дзень палягчэла. Хай і сёння прыйдзе, мо таксама паможа.

Але ведала Гануля і іншае: што ёй ужо тыя лекі і трэба, і не трэба. Прыйшла, мусіць, і яе пара. Міхаліна вунь — яшчэ летась прыбралася. А яна ж, Гануля, ці не старэйшая за яе. Ды пэўна ж старэйшая! Як Міхаліна за Тодара свайго ішла, дык яна, Гануля, ужо з Васілём пабраўшыся была. А бо, ці ж яна не помніць! На вяселле да Міхаліны яна ўжо з Алёшкам на руках прыходзіла, і Алёшку ўжо ці не гадкі два было. А Міхаліне, як па-

мерла, было, казалі, семдзесят восем. Дык жа ёй тады ўжо ўсе восемдзесят. І так, дзякаваць богу, пажыла. І на здароўе не жалілася.

Яно, вядома, усяго было, але яна не прывыкла скардзіцца. Ды і не было каму. Васіль і замалада не надта шанаваў яе, як іншы мужык жонку. І да гаспадаркі не вельмі каб упадаў — усё больш стругаў-габляваў. Ці граблі каму трэба былі, ці касу асадзіць — усё да яго ішлі. Праз гэта мо і да чаркі лішні раз прыкладваўся. А яна і з сярпом, і з канём. А пасля, пры калгасах ужо, дык ён і зусім ад дому адбіўся: брыгадзірам зрабілі. Дняваў і начаваў то ў полі, то на канюшні, то на таку.

Мо ён, Васіль яе, і не быў бы такім, калі б не бяда тая чорная, што як трасца якая прыслепілася да іх: дзеткі адно за адным паміралі. Алёшка, першынец яе, на пятым годзіку зайшоўся з крываўкі. А за ім і Толічак, і Антоська, і Васілёк. Не памагло і тое, што далі сыну бацькава імя: гэта ж кажуць, што на жыццё. Ацалелі во толькі апошнія — Кастусь і Зоня.

Яна ўжо была і душой акрыяла — і Кастусь вышэй бацькі вымахаў, і Зоня ў нявесты бралася. Дык, як на тое, другая бяда звалілася. Васіль у самай сіле памёр. За год да вайны. Прыйшоў неяк абедам з поля. Якраз на другі дзень спасу. Яна хлеб у той дзень пякла. Ужо з новага жыта. Васіль і дарваўся да тога хлеба. Некалькі лустаў — яшчэ гарачага, пара ішла — з маслам з'еў, паверх конаўку малака перакуліў. А надвячоркам жывот яго ўзяў. Памучыўся ноч і памёр. Ад завароту кішок. Гэта стары Мароз так сказаў. А іншыя баялі, што ад свежага хлеба. Быццам той хлеб кішкі Васілю парваў — бы рошчына, што, падыходзячы, з дзяжы лезе. Тады ж не ведалі, як зараз, каб «хуткую помач» з раёна вызваць. Забалеў жывот, дык што ж там такога? Пабаліць і пройдзе. А яно і не прайшло...

Засталася яна ў хаце з Зоняй, бо Кастусь, пры бацьку яшчэ, але тым жа годам, у армію служыць пайшоў. На смерць бацькаву не прыязджаў. Старшыня, Сымон Баўтрукоў, казаў адбіць тэлеграму, але што з тае тэлеграмы, калі Кастуся так далёка заслалі, ажно ў Сібір недзе, што ехаць тыдзень трэ было, а гарачыня стаяла, каб і хацеў, дык не ўтрымаеш нябожчыка столькі часу ў хаце.

Не паспела яна звыкнуцца з доляй удовінай — як вайна. Гаварылі пра яе ўсё, гаварылі, але ж як папраўдзе, дык ніхто і не чакаў. Нават той Сымон Баўтрукоў

хоць і ведаў, пэўна, болей, чым хто-небудзь, а і ён да апошняга дня супакойваў людзей. Усё казаў: «Дадуць немцу па зубах, дадуць...»

Яшчэ ў той дзень, як немцы ў сяло прыйшлі, Сымон зранку казаў, што быццам затрымалі, спынілі немцаў, што сюды, да старой граніцы, яны не дойдуць. А граніца да вайны была ад іх зусім недалёчка, каля Вяпратаў. Ды, пэўна, нічога не ведаў і Сымон, дарма што старшыня. Пад абед пабачылі людзі, быццам нешта запыліла ў тым баку, дзе Вяпраты. Няйначай як машыны пыл паднялі. Ва ўсіх усярэдзіне ўсё абарвалася: немцы пруць! Адзін Сымон толькі і не верыў. Яшчэ і пасміхаўся: «Якія немцы! Гэта наша жалезная дывізія манеўры робіць...»

А праз нейкую гадзіну на вуліцы немцы гергеталі. Пасля, як праехалі яны, мужчыны кпілі з Сымона: «Вось твая і жалезная...»

У той жа дзень, помніць Ғануля, і калгас падзялілі. Не надта, праўда, яго і дзялілі. Сымон паспрабаваў быў гаварыць, каб па-людску, без спеху абрахаваць усё, дык дзе там! Знайшліся гарладзёры, што і слова сказаць яму не далі. Так і сталася, што хто спрытнейшы і дужэйшы, дык той і ўрваў.

І з крамай тое самае. Яе, праўда, спачатку немцы абчысцілі — якраз з таго боку ехалі, дзе крама за сялом стаяла. А як паехалі з сяла, дык ужо і людзі, каторыя больш прагавітыя, туды рынуліся. Паспелі і солі некаторыя нацягаць, і газай заліцца. Яна, Гануля, прыбегла туды ў свіныя галасы. Адно што комінак да лямпы знайшла. Несла яго дадому і ўсё дзівавалася, як яго не раструшчылі — там жа столькі ног перабывала.

Той комінак ляжаў у яе на паліцы ці не гады са два, ажно пакуль партызаны не папрасілі. Гэта ж, пэўна, ужо ў сорак трэцім, пасля першай блакады. Казалі, што ніводнай лямпы ў іх не ацалела, пры «смаркачках» сядзяць.

Хай яе людцы ніколі больш не ведаюць, вайны той! Гэта ж цяпер, як столькі гадоў мінула, дык ужо быццам і не верыцца, што ўсё тое было. Маладыя, каторыя пасля вайны нарадзіліся, дык і зусім як дурныя. Для іх каторых тое — смешачкі. Бабы пачнуць на вуліцы ўспамінаць пра вайну, дык каторае дзяўчо адно выскаляецца-рагоча. Надта ж ёй смешна, што нябожчыца Антаніна, пералякаўшыся, уцякла ў лес з калаўротам — так ашалела баба... Ды што хацець з таго дзяўчаці, калі і стары

каторы быццам забыўся ўжо, як людзі ў лясах хаваліся, як хаты, бы свечкі, палалі, што і галавешак не аставалася, як стары і малы пад смерцю хадзіў.

Цяпер загамоняць бабы, а часам і мужчыны, пра тое, дык усе здзіўляюцца, чаму гэта тады так сабакі па вёсках вылі. Ужо быццам і няўцям тое. А вылі ж, бо гарэла ўсё наўкол. Гэта ж ці была калі ноч спакойная, каб без зарыва. А сабакі ж заўсёды на пажар выюць. І на смерць людскую...

Іх сяло неяк выстаяла ў вайну, толькі некалькі хат згарэла, тыя, што за рэчкай стаялі. Хаты ацалелі, дык затое ўсё іншае немчура пападчысціла. Дзе якая адзежына была прыхавана ці дабро якое, усё папазнаходзілі, павыпорвалі, з-пад зямлі павыкалупвалі. Але ж вось дзіўна! Цяпер баба каторая анучыны пашкадуе, не выкіне, а на плот павесіць — мо прыдасца калі, а тады нічога, здаецца, не шкадавалі. Ліха з ім, з дабром, самім бы ацалець! Як пройдзе чутка, што немцы едуць, дык уцякалі ў лес, у балота адно ў чым былі. Калі хто і хапаў што з сабой, дык зрэдзь часу — абы-што, як тая Антаніна калаўрот...

Уцякала ў лес і яна з Зоняй. Укінуць у торбу акраец хлеба, конаўку якую — і бегма напраcткі, праз аселіцу, у Банадысёў расцяробак, а адтуль, балотным хмызом, у Панізоўскі лес. Сёй-той і не ўцякаў, спадзеючыся, што неяк абыдзецца. Сусед іхні, Дамянік Папкоў, казаў: «А чаго я ўцякаць буду? Я ў начальства ніякае не лез, што яны мне зробяць? А забяруць што з жыўнасці ці з дабра, дык і так забяруць...» А яна, Ганулян, не рашалася аставацца. Адно што брыгадзірства Васілёва помніла — а раптам хто звягне пра тое? — і проста так баялася. Найперш — за Зоню. І немцам тым, і паліцаям веры няма. Звяры, а не людзі. Як, звера стрэўшы, не ўгадаеш, што ў галаве ў яго, так і гіцляў тых. Ёй, старой, трасцу яны зробяць, не ўкусяць, адно — забіць могуць, а з дзеўкай маладой? Не, лепей далей ад іх. Вось яны і ўцякалі. У лесе было неяк надзейней. А нашто разумны Дамянік даседзеўся аднойчы, што абодвух яго хлопцаў — Грышку і Анціка, пагодкаў, аднаму пад шаснаццаць бралася, а другому пад семнаццаць — злапалі і ў Германію пагналі.

Аднаго разу, думала, і Зоню яе той жа лёс напаткае. Тады немцы знянацку сяло ачапілі, ніхто не паспеў нікуды адбегчыся. Яны з Зоняй сунуліся былі за гумно, а на

іх з-за пуні немец з аўтаматам: авэк, цурук!.. Сагналі ўсіх на выган, пад капліцу, і пачалі сартаваць: маладых у адзін бок, а старых з дзецьмі — у другі. Усе ўжо і прашчацца пачалі: вядома, маладых у Нямеччыну пагоняць, а старых і дзяцей тут жа, ля капліцы, паложаць з кулямётаў.

Ды неяк на той раз бяда прайшла бокам. Маладых, хлопцаў і дзевак, пагналі, праўда, у Гіневічы, у гарнізон, каб адтуль у Мінск на машынах везці, але ўвечары на Гіневічы наляцелі партызаны і ўратавалі ўсіх. Хлопцы тыя ці не ўсе, а за імі і дзеўкі каторыя, у лес разам з партызанамі падаліся, а Зоня яе дадому прыйшла. Надта ж нясмелая дачка была. Без маткі — ні кроку. Праз тое і ў дзеўках, пэўна, асталася. Бо каб жа не ўцякла тады з горада, дык, можа, і чалавек які б знайшоўся...

Ачомалася Гануля ад думак, учуўшы ў першай хаце галасы. Прыслухалася — Соньку пазнала. Значыцца, схадзіў Кастусь, наказаў. Хацела падняцца, каб хоць валасы троху прыгладзіць, а фельчарка ўжо і тут, у яе бакоўчацы-закутку.

— Што, цётка, зноў пагорала? — ставячы на табурэтку свой чамаданчык, спытала Сонька.

— А не кажы, дзіцятка! Думала ўжо, што на вясну выйду, аж во нешта сціснула, дыхнуць не дае, млявасць нейкая,— адказала Гануля і памкнулася сесці.

— Ляжыце, цётка, ляжыце.— Дзяўчына таропка расчыніла чамаданчык, прысела на ўскраек ложка.— Зараз паслухаем вас, ціск змераем, паглядзім, што з вамі такое...

Як і тады, тым разам, паслухала яе фельчарка са спіны, потым да грудзей доўга прыстаўляла сваю трубачку, зноў руку шорсткай анучкай сціскала. Урэшце выпрасталася фельчарка, паднялася.

— Што ж вам сказаць, цётачка? У лёгкіх як бы і нічога няма. Хрыпы трошкі праслухоўваюцца, праўда, але не надта. Мо тую сваю прастуду не вылежалі. А вось сэрца ў вас слабенькае. І ціск павышаны. Але ж то не страшна,— Сонька нясмела, бы вінавата, усміхалася.— Абы не хваляваліся. Паляжыце спакойненька, адпачніце, дык і палепшае. З сэрцам вам у бальніцу добра было б паказацца, каб праверыць як след...

Гануля, не даслухаўшы, замахала рукамі:

— А бо, дзіцятка! Не хапала таго, каб яшчэ і ў бальніцу! Куды мне, старой, па бальніцах цягацца? Во паляжу, як кажаш, дык, калі не пара, і ачуняю.

Сонька зноў усміхнулася:

— Ачуняеце, цётачка, ачуняеце!.. Толькі вы ўжо не рабіце нічога. Не падымайце чаго, не нагінайцеся... Самае лепшае лякарства — паляжаць вам трэба...

Зоня, што ўвесь час стаяла ля грубкі моўчкі, азвалася — не то да маці, не то да Сонькі:

— Ці ж яна ўлежыць?! Сыду з хаты, дык і яна ўсцягнецца. Быццам я ўжо тут не дагледжу чаго!

— Ай, дачушка, не кажы абы-што. Пamру, дык тады наляжуся,— Гануля адмахнулася ад даччыных слоў, а сама як усміхнулася Соньцы.

— Што пра тое думаць, цётачка? Папраўіцца трэба... Я тут вам таблетак прынесла, перад ядой будзеце глытаць па адной, мікстуру — каб дыхалася лягчэй,— казала Сонька, збіраючы свае прычындалы.

Адыходзячы, яшчэ раз азірнулася на Ганулю, сказала:

— Папраўляйцеся, цётка!

— Дзякую, дзіцятка! Мне ўжо, здаецца, палягчэла...

Ёй і праўда быццам палягчэла, і калі Зоня спытала, ці будзе яна снедаць, Гануля ўжо зусім бадзёра сказала:

— Пасля, дачушка. Ты не турбуйся, я і сама потым што-небудзь знайду. А ты ідзі снедай, каб не бегчы на вуліцу з кусаном у роце, як паклічуць на работу. А Кастусь дзе?

— Адкуль я ведаю, дзе твой Кастусь? Як пайшоў, дык і няма. Мо ўжо хлебча дзе! — Зоня, матлянуўшы фіранкай, што аддзяляла баковачку ад хаты, выйшла.

Гануля не пакрыўдзілася. Прывыкла ўжо, што не мірацца між сабою Зоня з Кастусём. Брат і сястра родныя, а грызуцца каторы год. Напачатку і сарамаціла іх Ганулся, і сварылася на іх, а пасля абрыдла ўсчынаць гаворку пра адно і тое ж. Ды і стамілася. Не пераробіць яна ўжо нічога. І сілы на тое няма, і яны ўжо не тыя, каб перарабліваацца — сівеюць абое ўжо. Не даў бог лёсу яе дзецям. Як праклён чыйсьці. І не зломкі, і не калекі, а вось жа не собіла ні Кастусю, ні Зоні сям'і завесці. А яна ж, Ганулся, два вякі жыць не будзе. Памрэ во заўтра — як яны будуць у хаце, хто разбароніць?

Пра Кастуся дык яна меней чамусьці непакоілася. І сама не ведае чаму, але неяк не так ёй балела тое, што

ён і першым годам, як з вайны вярнуўся пакалечаны, і другім, і трэцім усё ніяк сабе пары не падабраў. Хварэў тады Кастусь, на галаву штодня жаліўся, казаў, што баліць надта пасля кантузіі. Але ж — піць пачаў. Спярша, праўда, не надта. Усё казаў: «Мамачка, не злуйся, галаву трошкі падлячыў. Як вып'ю, дык тады не так баліць, адпускае...» Па кроплі-другой, здаецца, і браў, а — уцягнуўся. Цяпер жа і зусім без яе не можа. Як капейчына якая завядзецца, дык усё — на пахмелку. Пенсію сваю спусціць, а потым да Зоні прыстае: дай рубля! У хаце ўжо даўно галавою дачка, у яе і грошы ўсе, і схованкі, ды Зоня не надта і дасць. Ды яшчэ не прамаўчыць, а агрызнецца, апівохам абзаве яго... Дык Кастусь — біцца кінецца. Як яна, Ганулягя, дома, дык разніме. А калі няма, дык Зоні і перападзе кухталёў.

Раней дык хоць пад настрой магла даць таго рубля, а цяпер — нізавошта, ніколі.

З Зоняй каторы год не гаворыць Кастусь. Як бы яе і ў хаце няма. Нават і тады, калі цвярозы. А ёй, Ганулі, Кастуся дык шкода. Кепска, вядома, што гарэлка яго так засмактала, праз яе ж, пэўна, і сям'ёй не абзавёўся, і ў людзей пашаны не займеў — смаркачы і тыя не дзядзькам завуць, а ўсё Кастусь ды Кастусь, як бы ён ім роўня. Але ж розумам, а найперш сэрцам адчувала Ганулягя: душа ў Кастуся добрая. Лепшая, чым у Зоні. Дачка на матку і вызверыцца можа, і благое што сказаць, а Кастусь — ніколі, нават калі ледзьве дахаты дапляцецца. Наадварот: як п'яны, дык усё мамачка ды матулька...

Не, не па бацьку, не па Васілю пайшоў Кастусь. Няхай сабе і Васіль выпіць любіў, але ж — гультаяваты быў. А Кастусь — ого! Як у кішэні пуста, дык робіць — як вол, і ў калгасе, і дома. Ля хаты, у гародзе — усё чысцютка паробіць. Дроў вунь — на некалькі гадоў назапашана, усе падстрэшшы як запячатаны. А сад у каго ў сяле лепшы? А ні ў кога! Ды хіба толькі гэта? Яна пойдзе ў гарод граду якую прапалоць, дык ён яе прагоніць і сам над градою павісне. Ды так чысценька, так акуратна павыполвае, што каторая кабета не дакажа. Колькі гадоў назад на пчол быў замахнуўся, два вуллі раздабыў, рой купіў, але не паявіліся ў яго пчолы. Упарціўся, хацеў сам сабе даказаць, што будуць у садзе пчолы, усё кніжкі нейкія чытаў, а — не паявіліся. Вясною неяк папрадаваў вуллі, а ёй, мацеры, прызнаўся: «Не будзе з мяне пчаляра, пчолы паху гарэлкі не любяць, за вярсту чуюць...»

Не пачула Ганулю, як пайшла Зоня на работу. Здаецца, на вуліцу не выходзіла, веснічкамі не ляпала. Пэўна, загуменнем падалася. Ціха і на вуліцы, і ў хаце. То і добра. Яна паляжыць, адпачне, акрыяе. Есці ані не хочацца. Мо Кастусь не надта выпіты прыйдзе, дык тады яна паспрабуе падняцца — і яго пакарміць, і самой што з'есці. Ён жа як пры матцы, дык хоць чым-небудзь душу прычэпіць, а так можа і цалюткі дзень напчаком валэндацца.

Ляжыць Гануля, а думкі, бы чаўнок, сюд-туд бегаюць: то пра Кастуся, то пра Зоню. Здавалася б, даўно ўсё перадумана, пераасновано і ператкана, ды чаўнок той не стамляецца, бегае і бегае...

Смешна казаць, але нават і цяпер спадзяецца Гануля, што мо хоць на старасці гадоў прыхінецца Кастусь да якой-небудзь кабецiны, што мо знойдзецца такая, што не паглядзіць на ягоную хваробу, паразумеецца з ім, пашкадуе. А вось пра Зоню думка такая не высноўваецца. Доля яе, пэўна, такая — векаваць адной, але не-не ды і падумае Гануля, што ў нечым Зоня і сама вінаватая. Ваўкаватай натуры яна, дачка яе. Грэшна такое казаць пра дачку, і нікому пра тое не гаварыла Гануля, а як астанецца сама з сабой, вось як зараз, дык і такое ў думках яе прагаворвалася. Ці не на цётку Ганну, Васілёву сястру, падобна яе Зоня? Першы раз, даўно ўжо, мільганула такая думка ў Ганулінай галаве. Тады яна ажно зжахнулася. Ганна ж таксама звекавала адной. Не дай бог нікому такой долі... Выраклася яна іх: і Васіля, і братавай. Ні да іх у хату Ганна не заходзіла ніколі, ні да сябе не запрашала. Яшчэ ў маладосці як пасварыліся, бацькаву паўвалоку не падзяліўшы, дык на ўсё жыццё. І вось жа скажы: Зоня яе быццам Ганнін нораў узяла. І не дзяліла, як даўней, з Кастусём нічога, і жывецца ж во цяпер няблага, і хлеб ёсць, і да хлеба, а пасварылася — бы адрэзала. З чужым чалавекам, у адным сяле жывучы, словам не абмовіцца цяжка, а тут — з братам, у адной хаце...

Пасля вайны наважылася была Зоня ў Мінск падацца. Тады ж ездзілі вярбоўшчыкі, угаворвалі маладых падавацца ў горад на будоўлю. Зоня з Шурай Мікалаевай сябравала. Ну, абедзве і падрадзіліся ў Мінск. Гануля асабліва і не пярэчыла. Яно, праўда, нязвычна было адпускаць дзеўку адну ў свет, але ж тады многія ехалі. Дык і яна, Гануля, змірылася. Паехалі Шура з Зоняй.

Дык Шура во і жыццё зжывае ў Мінску, і мужыка сабе неўзабаве знайшла, трое дзетак займела, дарослыя ўжо ўсе. А Зоня ці то праз тры тыдні, ці то праз чатыры дамоў прыехала. У чым паехала, у тым і вярнулася, і без капейчыны ў кішэні. Спытала Гануля: «Што ж так?» А яна адно буркнула: «Не хачу!» І не расказала нічога. А пасля Шура, прыехаўшы, расказала Ганулі: «Ой, цётка, я ж не ведала, што Зоня ваша такая недапечаная! На работу з дому — за руку, як малое дзіця. І з работы дамоў — таксама за руку. У магазін сама не сходзіць. А дзе-небудзь затрымаюся, ну, у кіно з дзеўкамі пайду ці ў парк, дык яна дома галодная сядзіць. І ўсё плача... Дык я цярпела-цярпела, а пасля завяла яе на Камароўку і пасадзіла на машыну, папрасіўшы шафёра ссадзіць яе ля павароткі на Гіневічы...»

Не засмуцілася Гануля надта праз тое. Не ўжылася ў горадзе Зоня, дык і ліха з ім, з тым горадам! Неяк жа будзе, жывуць жа і тут людзі. Але ж Зоня і ў сяле нейкая як не ўсе дома. Ніколі не падумала пра тое, што дзеўка яна маладая, што адзецца часам лепей трэба, і на вечарынку ці ў кіно схадзіць, як іншыя. Толькі і бачыла адно што работу, ніколі для яе ні свята не было, ні адпачынку. Але ж хіба гэта загана якая, што яна праз работу свету не бачыла? Горш тое, што Зоня з людзьмі жыць не ўмела і не навучылася. Не ставала яе ні на жарт, ні на ўсмешку, ні на песню. Ці ў кампаніі, у бяседзе якой, ці на рабоце — вечна надзьмутая, слова ад яе не дачакаешся... Вось і гібее адна, заўчасна пастарэўшы. І балюча ёй, Ганулі, глядзець на дачку...

Не дачакалася Гануля Кастуся, задрамала, знямогшыся ад гэтых думак невясёлых...

Дзень быў зусім вясновы. Калі б зяленіва болей, дык і летавы — сонейка прыгрэла надта ж ласкава. Гануля не ўлежала, паднялася з ложка, абула суконныя бурачкі з галёшамі, пад ватоўку паддзела безрукаўку, зверху хусткай шарсцяной ахінулася і высунулася на ганак. Тут, на ганку, сонейка было яшчэ ласкавейшае, чым выдавала ў хаце праз акно. Пастаяла старая, аддыхалася. Памкнулася была на вуліцу выйсці, прысесці на лавачку пры гародчыку — мо будзе ісці якая кабета і прыстане, пагамоніць, але ўгледзела за дрывотняй, на гародзе, Кастуся. Той сядзеў на нейкім круглячку, побач з уторкну-

тай сякерай, курыў. «Чаго б яму там?» — падумала. І не пайшла на вуліцу, а паківалася па двары, ужо зусім падшэрхлым, да сына.

Кастусь, учуўшы за спіною крокі, павярнуў галаву:

— Чаго, мама, устала?

— Калі ж абрыдла, сынок. Каторы дзень паленам валяцца,— хаўкаючы ротам, сказала Ануля.

— Палепшала, дык не спяшалася б.— Кастусь, кінуўшы недакурак, падняўся.— Першы сонечны дзень, а ты ўжо і вылезла хутчэй...

— Анічога, абыдзецца,— Ануля справілася ўжо з адышкай, сказала лягчэй.— А ты што надумаўся? Пабачыла, што сякеру ўзяў...

— Плот глядзеў. З Папковага боку некалькі праслаў мяняць трэба. І не самі праслы, а слупкі. Падгнілі, ледзьве стаяць. Дык во гляджу, мо з гэтых круглячкоў які падыдзе.

— А бо, сынок, не спяшаўся б. Яшчэ, пэўна, і на раллю не ўзбіцца — гразка.

— Ды не, не гразка. Сонца не было, дык вецер падсушыў.— Кастусь вырваў з кругляка сякеру, адкаціў яго пад сцяну варыўні, на сонца.— Сядай, мама, там зацішней будзе.

— Дзякую, сынок.— Ануля з ахвотай і ўдзячнасцю апусцілася на цёплы, гладкі, даўно акораны круглячок.— Але такой бяды, усё адно не спяшаўся б. Зробіш яшчэ, пакуль бульбу садзіць. Тут жа зноў бульба будзе?

— Не, мама, я думаў, каб тут ячмень пасеяць. Ліха з ім, калі якая курыца ўскочыць, увесь пасеў не з'ядуць.

— Глядзіце ж самі,— Ануля, бы згаджаючыся, кіўнула галавой.— Адсюль, ад двара, мо які загончык канюшыны пасей, а далей ужо ячмень.

— Можна і так,— Кастусь не звярнуў увагі на тое, што маці сказала не «глядзі», а «глядзіце» — пра яго і пра Зоню. Ён даўно звыкся з тым, што ў хаце гаспадыня сястра, а ён толькі «парабак». Гэтым словам ён называў сябе, калі прасіў у Зоні траяка ці рубля. Цяпер ён быў заняты іншымі клопатамі і зважаць на тое не хацеў.— Я, мама, хачу яблыню гэтую ссекчы.

Ануля нечакана для сябе азвалася на прапанову надта борзда:

— Навошта ж, сынок?

— А што яна тут тырчыць? Наедку з яе, як сабаку з мухі, а з канём вечна натузаешся тут, пакуль бульбу па-

садзіш ці абгоніш.— Кастусь зрабіў колькі крокаў да яблыні, стукнуў абушком па яе старым, парослым мохам камлі.

Яблыня здрыганулася, з кроны, што выкінулася высока, пасыпалася сухое голле.

Стук абушка па старой яблыні азваўся ў Ганулiных грудзях болем. Яно быццам і праўду кажа сын. Наедку з яблыні няшмат. Ды ён і не патрэбен, той наедак. Сад іхні — па другі бок вуліцы. Малады яшчэ сад, у самай сіле. А гэтай старой патырчасе уга колькі гадоў! Абкрышылася ўся, абламалася, перунамі не раз абстралянная. Вунь, то́лькі і ацалеў адзін сук, якога чамусьці ўгору выперла... Праўда і тое, што замінае яна тут. Каб расла ўжо ці ля самой варыўні, ці далей ад сцяны, а то ж каню не завярнуцца. І, пэўна, калі б іншай парой, хоць бы летась ці залетась, сказаў сын пра тое, прамаўчала б Ганулі. А зараз раптам штосьці ў душы як зварухнулася ад тых сынавых слоў і сама душа бы паўстала супраць. Не адразу зразумела старая, чаму раптам забалела ёй у грудзях, чаму той стук нібы токам яе працяў. Адно падняла галаву, зірнула на Кастуся, выдыхнула:

— Памру я, сынок, калі ссячэш!

Кастусь здзіўлена і няўцямна зірнуў на маці, памаўчаў хвіліну, а потым, як не ўсміхаючыся, прамовіў:

— Ну, мама, ты і скажаш!

А Ганулі ўжо не магла стрымацца:

— Дальбог, памру, сынок! Чуе маё хворае сэрца!

Кастусь з той жа няўцямнай ухмылкай зноў адмахнуўся:

— От не кажы, мама, глупства!

Пакруціла старая галавой, як бы сілячыся сказаць, што не выдумляе яна, што гэта чыстая праўда, якая нечакана для яе самой адкрылася, а сказала іншае:

— І грэшна ж, сынок. Напроці цвету ссякаць... Гэта ж зацвіце і сёлета.

— Дык яна ж штогод цвіце, мама.— Кастусь абышоў яблыню, быццам абтоптваючы вакол камля пульхную раллю.

І Ганулі панікла, махнула рукой:

— Як хочаш, сынок! Веку ёй няшмат асталося.

Кастусь азваўся жвавей:

— Дык я ж і кажу! Што, ты хочаш, каб, чаго добрага, рухнула калі-небудзь?

— Нічога такога я не хачу, сынок. Рабі як знаеш.

Змоўкла Ганулян. Больш не азывалася да Кастуся. Бачыла, што не адгаворыць сына. Ды і гаварыць раптам зрабілася цяжка. Сэрца чагосьці забілася як і тады, нараyку, калі Сонька прыходзіла. Сцялася, сашчаміла пальцы рук, апусціла галаву на грудзі і быццам задрамала, прыгрэўшыся на сонейку.

Не азвалася, нават вачэй не падняла, калі Кастусь рашуча сказаў:

— Ссяку зараз, дык яшчэ і пень выкарчую, пакуль араць.

Не зварухнулася Ганулян і тады, калі Кастусь ударыў па камлі — ужо не абушком, а лязом. Удар быў глухі, з чвяканнем: адзін, другі, трэці... А яна драмала і бачыла сябе маладой. Такой, якой прыйшла сюды, да Васіля. Тады і яблыня гэтая была маладая, у самым росквіце, галіністая і надта шчодрая на маленечкія, чырванабокія, крыху сапкаватыя яблычкі-рэпкі. Яна, Ганулян, любіла забегчы сюды, пад яблыню, восенню, ранічкаю, выганяючы ў поле карову, і нашча схрумстаць некалькі расяных паданак, церануўшы папярэдне іх аб падол. Пад гэтай яблыняй гушкаліся ў начоўках і яе першынец Алёшка, і Толічак, і Антоська, і Васілёк.

Калыхала яблыня і Кастуся з Зоняй і частавала іх сваімі няхай не надта панаднымі, але ўсё ж неблагімі яблычкамі...

Састарэла яна сама, састарэла і яблыня. Анягож! Нездарма ж кажуць, што век яблыні роўны веку чалавечаму. Сад, пасаджаны дзедам, унуку паслужыць толькі ў маленстве. А падрасце ўнук, стане на ногі — павінен саджаць свой сад. І нічога тут не зробіш. Такое яно, жыццё. А яблыня з чалавекам не толькі па тым радня, што аднолькавым векам іх бог надзяліў. Як і чалавек, яблыня таксама да апошняга працуе. Вось і гэта. Адну галіну зберагла, ды ўсё адно штогод аквечвала яе... Наедак з яе, вядома, невялікі, толькі ж і яна сваю службу несла. Не лішняй была яна і поруч з тым, што цераз вуліцу, садам. Там ужо даўно ні яблычка, а на гэтай да самай позняй восені, на пакровы і пазней, вісяць высока ўгары чырванабокія, бы снегіры, рэпкі. Мо і зберагаліся так позна, што надта высока падняла іх старая яблыня.

Праз тое і смачныя яны дужа былі, бо не зрываліся раней часу.

А сякера гахала па камлі і гахала...

Праз некалькі дзён Гануля памерла. Памерла лёгка, бы заснула. Памерла раніцаю. Апошнюю ноч у хаце праспала ў труне. А назаўтра, калі сонца павярнулася з поўдня, завезлі Ганулю на могілкі.

Адтуль усе, хто праводзіў старую ў апошнюю дарогу, вярнуліся ў хату — за жалобны стол. Кастусь, наўздзіў усіх, а найперш наўздзіў Зоні, выпіў толькі адну чарку — першую. Гэтую, кажуць, трэба выпіць абавязкова.

Сядзеў за сталом, ціха плакаў сабе і ўсё прыгаворваў:

— І што мне закарцела? Хай бы стаяла, хай бы яшчэ пацвіла...

# КАМАНДЗІРОЎКА Ў ВІШАНЬКІ

Не думаў Мамойка ехаць у гэтыя Вішанькі...

Прыйшоў на работу, толькі сеў за стол, як зазваніў тэлефон — нечакана, нязвычна прарэзліва ў ранішняй цішыні, і Мамойка з нейкай нервовасцю схапіў трубку.

— Мамойка? — трубка спытала рэдактаравым галасам.— Зайдзі да мяне, калі ласка!

Мамойка пайшоў.

Рэдактар махнуў рукой на крэсла, папрасіў яго сесці і, падаўшы надарваны канверт, сказаў:

— Прачытай.

Мамойка сеў, дастаў з канверта ліст. Гэта было пісьмо ў рэдакцыю. Пісаў, па ўсім відаць, школьнік. Ён паведамляў, што ў саўгасе «Вішанькі» адкрыўся музей працоўнай і баявой славы і што ў тым музеі ёсць шмат цікавых экспанатаў. Радкі аб тым, што сярод экспанатаў ёсць пісьмы з фронту і сшытачак з вершамі аднаго маладога хлопца, які загінуў вясною сорак пятага пад Берлінам, былі падкрэслены чырвоным — пэўна, рэдактарскім — алоўкам.

— Ну, што скажаш?

Мамойка паціснуў плячамі:

— А што? Музей у калгасе ці ў саўгасе — не навіна. Вы сшытачкам зацікавіліся?

— А ты, бачу, не?

— Хто ведае, якія там вершы. Можа, вучнёўскія практыкаванні. Каб што цікавае, дык...

Рэдактар, не даслухаўшы, крутнуў галавой:

— А раптам? Карацей, вось што, брат. Бяры камандзіроўку і едзь у Вішанькі. Пісьмы, вершы пачытай, мо родзічы, сваякі таго хлопца жывуць, аднавяскоўцаў парапытай... Ды ці вучыць цябе?!

— Калі ехаць? — толькі і спытаў Мамойка.

— А хоць і сёння, калі цябе нічога не трымае,— рэдактар усміхнуўся.

Вось ён і паехаў. Не сказаць, каб з ахвотай. Лепш было б паехаць куды ў горад, а не ў нейкія Вішанькі. Што зараз, кастрычніцкаю парою, рабіць у тых Вішаньках? Гразь мясіць? Ды ліха з ім, неяк будзе...

Аўтобус шпарка каціўся па шашы. Імкліва, ажно пярэсціла ў вачах, адбягалі назад прыдарожныя маладыя прысады, а лес на небасхіле, наадварот, кружыўся ў карагодзе бы напярэймы. Мамойка, гледзячы ў акно, міжволі слухаў гамонку суседзяў ззаду і паперадзе. Ззаду сядзелі дзве дзяўчыны, амаль яшчэ дзеўчынёхі. Ён бачыў, як яны сядалі ў аўтобус. Абедзве ў кароткіх плашчыках, з-пад якіх матляліся вакол ног шырокія калашыны штаноў з манжэтамі, на плячах у іх віселі бліскучыя, спартыўнага крою сумкі. Цяпер тыя сумкі ляжалі ў дзяўчат на каленях, а дзяўчаты, схіліўшы галовы з доўгімі, рассыпанымі па плячах, валасамі, нямоўчна шчабяталі між сабою. Праўда, шчабяталі яны, відаць, зважаючы на яго, напаўголасу, каб тое, пра што гаварылі, не надта даходзіла да ягоных вушэй. Ён і сапраўды чуў пятае праз дзесятае, міжволі ўлоўліваў толькі асобныя словы. Затое дзве пажылыя кабеты, што сядзелі паперадзе, гаварылі гучна, мо аж занадта, іх каб і не хацеў, а даводзілася слухаць. Гаварыла больш адна, тая, што сядзела ля акна, насупраць Мамойкі, другая ж, ківаючы ў знак згоды галавой, толькі зрэдку прамаўляла сёе-тое.

«Маёй маме восемдзесят сёмы. Так яшчэ, дзякаваць богу, і нічога сабе. Але ж праўду, Ганначка, кажуць: старое — як малое. Памяць пачала губляць. Я прыехала неяк, пытаюся ў яе: «Што, мама, не пазнаеш?» А яна смяецца: «Чаму ж, кажа, не пазнаю? Ты дачка мая, Верка!» І рада, бачу, што прызнала, хоць і Веркай мяне назвала. А пасля заплакала: «Ты не думай, дачушка, што я ўжо саўсім знасілася. Я яшчэ і паем, і пасплю добранька. Толькі ножкі мяне ўжо не хочуць трымаць...» — «Дык яно ж так. Мы з табой, Валя, па столькі не пражывём...» — «Дзе ты бачыла, Ганначка! Цяперашні чалавек

не раўня даўнейшаму. Стрыжань у нас не той. Узяць хоць бы нас з табой. Здаецца, бабы яшчэ як бабы, а крануць — трухля адна».— «Але ж...» — «Я ж, казала табе, ад дачкі еду. Праведала, а то ўлетку не магла вырвацца. Добра мая Нюра жыве. Гэта ж і граматы асаблівай не мела, а калі добры чалавек палучыўся, дык і без граматы той... Гэта ж, Ганначка, пахвалюся, і машыну сяголета купілі. Нядаўначка саўсім, яшчэ, лічы, і не каталіся. Троху самі сабралі, троху я памагла. Цяпер, казалі, і да мяне часцей будуць наведвацца...»

Слухаў Мамойка гамонку жанчын, глядзеў у акно, і нейкая заспакоенасць на душу сыходзіла. Ад чаго — і сам бы не сказаў, але нечакана злавіў сябе на тым, што думае пра Вішанькі, куды едзе. Уяўляліся яны невялікай, утульнай, у садах вёсачкай, з парослай травою вуліцай, на якой ля платоў улетку кешкаюцца куры, са старой — у аеры і чароце — сажалкай, з абымшэлымі палямі ад колішняга млына. Вёсачкай, дзе і цяпер яшчэ збіраюцца вечарамі дзе-небудзь на лаўцы альбо на выслізганым, сівым ад часу бервяне, пад якое падкладзены два пляскатыя камяні, дзяўчаты і спяваюць не абрыдлыя, зацяганыя па радыё да агоркласці песні, а нешта сваё, напеўнае і мілагучнае, мо нават трошачку самотнае, ды затое надзіва суладнае, суадпаведнае і гэтай ціхай, не надта раскалашмачанай машынамі вуліцы, і гэтай навісі вішнёвых садоў, і гэтай маркотнай сажалцы. Ну, можа, хоць бы песню пра зялёную вішню, што з-пад кораня выйшла. Песня прыгадалася, пэўна, таму, што Мамойка любіў яе, часам нават сам спяваў пад добры настрой, хоць да спеваў быў не надта здатны, а мо таму, што ехаў у Вішанькі?

«Ай, Ірка, дурная ты! Я б нікада не пацярпела такога нахала!»

Гэта, забыўшыся, пэўна, на яго суседства, гучна сказала адна з дзяўчат, што сядзелі ззаду, і Мамойка ўсміхнуўся. Усміхнуўся з самога сябе, са сваіх блазенскіх трызненняў пра незнаёмыя Вішанькі. Дзе ім быць, у якім такім кутку захавацца?! Мо вось гэтыя шыракаштанныя і простаўласыя стрынадкі і едуць якраз у тыя Вішанькі. Вось і чакай, што яны праспяваюць табе ўвечары на тым выслізганым сівым бервяне тваю любімую «Зялёную вішню»!..

За Лішчыцамі — прачытаў на прыдарожным указальніку — пачаўся дождж. Ціхі, дробны, надакучлівы. І ці

то з гэтае прычыны, ці таму, што вось так нечакана збеглі ад яго зялёныя, ціхія і ўтульныя Вішанькі, Мамойка засумаваў. Ён па-ранейшаму глядзеў у акно, на тое, як беглі назад мокрыя, ужо амаль голыя кусты, як кружыліся ў карагодзе на дальнім лузе стагі, няўцямна слухаў гамонку пярэдніх суседак (яны гаварылі пра нейкую Уліму, якая паддобрывалася пад брыгадзіра, каб памог перад выхадам на пенсію ўладкавацца на больш грашовую пасаду), а думкі яго плылі ў іншым кірунку.

Думаў пра сябе. Пра тое, што жыццё ягонае ўсё яшчэ коціцца неяк само па сабе, без высілку, без разгону, нават без перашкод і, акрамя ўсяго таго, без належнага накіроўніцтва. Бярэцца пад трыццаць, а ён усё яшчэ нішто. Чалавек — галава і два вухі! Нават сям'і не завёў. Халасцякоўствам сваім, якое ж, канечне, зацягнулася, тут маці праўду кажа, ён, аднак, не засмучаўся. Дзяўчына, якую кахаў, пахінулася да іншага і неўзабаве выйшла замуж. Ён доўга не мог у тое паверыць... Надараліся іншыя дзяўчаты, але таго ранейшага, трымклівага і шчаслівага пачуцця не ўзнікала, а без яго — у тым быў перакананы — ні пра што сур'ёзнае думаць нельга. Так і жыў, так неўпрыкмет і беглі год за годам. Горш было тое, што пакрысе гэтакім жа самацёкам пайшло і другое яго жыццё — яго работа.

Пасля універсітэта трапіў ён у рэдакцыю рэспубліканскай газеты. Аднакурснікі ці не зайздросцілі яму. Напачатку ён, бадай, і сам сабе зайздросціў. З якім душэўным хваляваннем пісаў ён свае першыя рэпартажы, нарысы, замалёўкі, з якой бояззю, мо нават і не з бояззю, а з нейкім унутраным трымценнем здаваў ён свае журналісцкія спробы загадчыку аддзела! Дзе ж яно падзелася, куды прапала тое хваляванне, тое трымценне?

Тады, па першым часе, ён не мог выседзець у рэдакцыі і месяца, усё рваўся ў камандзіроўкі, не выбіраючы месца, не чакаючы нейкай асаблівай нагоды. Чаму ж цяпер ён ужо выбіраецца ў дарогу толькі тады, калі папросяць ці падгоняць? Раней, вярнуўшыся з камандзіроўкі, ён мог па некалькі начэй не спаць, пішучы нарыс ці артыкул, пакутліва думаў над кожным словам, цярпліва высноўваў радок за радком. Цяпер жа з чыстым сумленнем проста «адпісваўся». Пра большае ўжо не думаецца. Газета жыве адзін дзень. Дык ці ёсць патрэба, ці можна ўвогуле ствараць шэдэўры-аднадзёнкі?..

«Вось, Ганначка, і прыехалі...»

Мамойка схамянуўся. Сапраўды, пад'язджалі да райцэнтра. Пэўна, сотню кіламетраў адлічылі колы, а ён, бач, усё корпаўся ў самім сабе. Занятак, аказваецца, не дужа прыемны. І што раптам найшло на яго? Здаецца ж, не было прычыны. Відаць, проста паўплываў восеньскі настрой: счарнелае ржышча, сіратлівая буслянка, што прамільгнула ля нейкай вёскі, рагі дажджу на шыбах, масляністыя лужыны на асфальце ды яшчэ вось гэтыя, ужо зусім «гарадскія» суседкі-стрынадкі, што едуць, можа быць, таксама ў Вішанькі...

У гарадку Мамойка перш за ўсё зазірнуў у гасцініцу. Як заўсёды, вольных месцаў не было. Дзяжурная спачувальна паківала галавой, сказала без асаблівай надзеі ў голасе:

— Падыдзіце ўвечары, мо хто выедзе.

Колькі разоў чуў ён падобныя фразы ў маленькіх, без асаблівых выгод, аднак чамусьці заўсёды ўтульных і цёплых раённых гасцініцах! Незалежна ад таго, ці выязджаў хто, ці не выязджаў, вечарам месца знаходзілася. Калі не ў пакоі з горача напаленай грубкай, дык на калідоры, спрэс застаўленым раскладанкамі. Пэўна, знайшлася б раскладанка і тут, але Мамойка парашыў не чакаць вечара, не выпрабоўваць сваё шчасце, а адразу падацца ў Вішанькі, калі яшчэ можна сёння туды даехаць. Разважыўшы так, зноў пайшоў да аўтастанцыі.

Яму пашанцавала: неўзабаве ў кірунку Вішанек выпраўляўся маленькі, з аднымі пярэднімі дзверцамі аўтобусік. Людзей у яго набілася — як зачыніць. Уплішчыўся неяк і Мамойка — ці не апошнім, стаяў на прыступцы, прываліўшыся плячамі да дзверцаў.

Ехаць так, на шчасце, было нядоўга, прытым па шашы-асфальтоўцы. Ён не паспеў нават і прыцерціся сярод спін, як аўтобус, скрыгатнуўшы тармазамі, спыніўся. Мамойка павярнуў галаву і праз шкло дзверцаў убачыў на ўзбочыне драўляны слупок з шыльдачкай: «Вішанькі, 0,5 км». Дзверцы расчыніліся, і Мамойка задам ледзь не zываліўся на ўзбочыну. Следам за ім выпхнуліся з аўтобуса, наўздзіў Мамойку, і стрынадкі са спартыўнымі торбамі. Ён не стрываў, усміхнуўся. «Вось так, брат, як у ваду глядзеў»,— сказаў сам сабе і ў нейкай бы злосці, нават не зірнуўшы на іх, пакрочыў да вёскі.

Да Вішанек вяла прамая і шырокая, не надта даўно пракладзеная — яшчэ не ўсюды паспелі зарасці травою адхопы — дарога-насыпанка. Уздоўж яе ў тры рады бы-

лі высаджаны (таксама нядаўна, мо сёлетняй вясной, бо яшчэ не паспелі пачарнець калочкі, да якіх прывязаны дрэўцы) бярозкі, на іх сям-так трымаліся яшчэ дробныя, скурчаныя лісточкі. Дажджу тут, мусіць, не было — пад чаравікамі шаргацеў сухі жарсцвяк, ішлося бадзёра і спорна, і Мамойка праз нейкую хвіліну быў у вёсцы.

Вішанькі паўсталі перад ім зусім не такімі, якімі мроіліся ў аўтобусе. Паабапал шырокай чыстай вуліцы стаялі новыя, ашаляваныя і пафарбаваныя хаты пад шыферам. Платы ад вуліцы таксама былі пафарбаваны — светла-зялёнай фарбай, і не проста пафарбаваны, а размаляваны ўзорамі — сінімі і жоўтымі ромбамі.

Пасярод вёскі было нешта накшталт плошчы. Тут, справа, стаяў двухпавярховы цагляны будынак дырэкцыі саўгаса (Мамойка здалёк прачытаў шыльду), а злева — аднапавярховы, але таксама цагляны, з калонамі, клуб. Пры клубе стаяў невялікі акуратны дамок з белай сілікатнай цэглы. Над дзвярыма дамка Мамойка прачытаў кароткае слова: «Музей». Ён міжволі зрабіў некалькі крокаў да яго, але, угледзеўшы на дзвярах замок, завярнуў да саўгаснай канторы.

Аднак і тут яму не пашанцавала. Дзяўчына-сакратарка ў прыёмнай дырэктара сказала:

— Дырэктар і парторг у раёне. А вы па якой справе і адкуль?

Дзяўчына, даволі сімпатычная, у чырвонай кофтачцы, якая шчыльна аблягала грудзі, і ў сініх, з маланкай наперадзе, таксама ў абцяжку, штанах, падобная на ўсіх сакратарак, якіх ён пабачыў нямала, паднялася з крэсла, выйшла з-за стала і пазірала на Мамойку сваімі падсіненымі вачамі з непрыхаванай цікавасцю. Яму гэта не спадабалася, і ён буркнуў:

— Ды так...

— Не хочаце — не гаварыце.— Дзяўчына быццам не заўважыла яго няласкавасці.— А чым жа магу памагчы?

Мамойка, крыху патаптаўшыся ў нерашучасці, нечакана таксама ўсміхнуўся:

— Калі можаце, адчыніце мне ваш музей. Альбо падкажыце, дзе я магу знайсці загадчыка.

— Ах, музей? А што вас зацікавіла? — І, бачачы, што хлопец зноў спахмурнеў, сцепанула плячамі.— Музей наш пакуль без загадчыка. А ключы ў парторга. А парторг, я вам ужо казала, у раёне.

— Дык што ж мне рабіць?

— Пачакаць.

— Тут, з вамі?

Дзяўчына ўспыхнула, але знайшлася:

— Можаце і тут. Толькі не са мной. Я ўжо іду дадому.

Мамойка зноў усміхнуўся:

— Шкада... Ну, а ўсё-такі, мо якое-небудзь начальства засталося і тут, не ўсе ж у раёне?

Дзяўчына крутнулася да акна, махнула кудысьці ўбок:

— Падыдзіце да брыгадзіра. Як выйдзеце, дык налева. Цагляная хата пад шыферам з сінімі вокнамі. Ён павінен быць дома.

— І на гэтым дзякуй.

Брыгадзірава хата была непадалёк. Жалезная брама ў двор была насцеж расчынена, у двары вуркатаў «Беларусь» з прычэпам. Трое мужчын насілі з прычэпа ў варыўню мяшкі з бульбай. Угледзеўшы Мамойку, адзін мужчына — у палінялай афіцэрскай палявой гімнасцёрцы паверх штаноў, запраўленых у боты,— ступіў да яго, спытаў:

— Вы да мяне?

Мамойка назваў сябе, сказаў, што прыехаў паглядзець іхні музей, ды крышачку не пашанцавала — ключы ў парторга, а яго няма, у раёне. Мужчына зняў з галавы кепку, прыгладзіў валасы, неяк абыякава зноў спытаў:

— А вы сёння і назад хацелі?

— Ды не.

— Дык чаго ж тады бедаваць? Заходзьце ў хату, пасядзіце троху, пакуль мы тут... Бульбу ўрэшце выбраў. Жонка пячонкі ад'ела: «Усе павыбіралі даўно, а твая ў полі!..» Брыгадзір жа! І пасадзіць апошняму, і выбраць. Дык во ўжо сёння завіхнуліся... Мы тут хуценька. Тады і павячэраем разам. А заўтра і ў музей сходзіце... Ідзіце ў хату!

Мамойка збянтэжыўся:

— Ды не, дзякую, вы не турбуйцеся. Пайду я.

— Куды ж вы пойдзеце? Ужо ж во і змяркаецца. Не агледзішся, як і ноч нахопіцца. Ідзіце, кажу, у хату!

— Не, не, дзякую, паспею яшчэ ў раён, а заўтра з раніцы пад'еду.— Мамойка чамусьці заўпарціўся.

— Навошта ж перабівацца? Калі ўжо так, то чакайце. Алёшка! — клікнуў брыгадзір. З хаты выйшаў хлапчук гадоў дванаццаці.— Пакажы таварышу нашу гасці-

ніцу, а па дарозе заскоч да Анэты Андрэйчыкавай, скажы, што пастаялец прыехаў, хай зробіць там што трэба...

Гасцініца была побач, на той жа плошчы, што і музей з канторай і клубам, толькі далей ад вуліцы. Месцілася яна ў невялікім фінскім дамку. Было ў ім тры пакойчыкі. У першым стаялі шафа, канапа-тахта, засланая зялёным пакрывалам, стол і некалькі крэслаў. Сюды, у гэты пакойчык, выходзіла дзверцамі-топкай грубка-стаячок. А злева і справа ад грубкі было двое дзвярэй — у два іншыя пакойчыкі. Цётка Анэта (мо ўжо і не цётка, а бабуля, бо было жанчыне пад шэсцьдзесят), прывёўшы Мамойку сюды, у гэты першы пакойчык, загаварыла:

— Во, бачыце, якая ў нас гасцініца? Мусіць жа, не такая, як у горадзе, але пераначаваць можна. Вам у якім пакойчыку паслаць? У тым, каторы злева, адзін ложак. Як калі жанчына ці дзеўка якая прыязджае, дык туды яе. А справа мужчынскі, там ажно тры ложкі. Але ж як вы адны, дык можаце ў левы, калі хочаце.

Мамойка адно і сказаў:

— А ўсё роўна.

Цётка Анэта (Мамойка ўсё ж схільны быў да цёткі, зважаючы на свае трыццаць), нібы парашыўшы для сябе нешта важнае, махнула рукой:

— Пасцялю я вам, дзіцятка, у меншым. Цяплей будзе, бо ночы ўжо халодныя, пад раніцу на траве шэрань — ажно шорстка. Але ж, у меншым. Там і ложак лепшы.

Яна дастала з шафы бялізну, пайшла ў левы пакойчык, пакінуўшы Мамойку тут, у пярэднім пакоі. А выйшаўшы зноў да яго, сказала:

— Трэба ж і грубачку прапаліць. Не так мо для цяпла, як каб дыхалася лепей, а то ці цеперся не прапальвалася ў хаце.

Мамойка памкнуўся быў сам схадзіць па дровы, але не паспеў і спытаць, дзе тыя дровы. Цётка Анэта ўвішна крутнулася за дзверы і праз хвіліну апусціла ля грубкі бярэмца сухіх, ажно чырвоных альховых паленцаў.

— Я, дзіцятка, сама і надпалю, а вы ўжо прасочыце, каб прагарэлі. Мне ж трэба яшчэ дадому падбегчы, сёетое дагледзець. А юшку закласці я прыйду.

Неўзабаве Мамойка астаўся адзін. Ужо і добра сцямнела, можна сказаць, сцямнела, але ён не запальваў святла. Падсунуў да грубкі крэсла, сеў, адкінуўшыся да спін-

кі і выцягнуўшы ногі, і глядзеў у агонь, які весела лізаў дровы. Дзверцаў не зачыняў — цяга была добрая і дым на хату не кідаўся. Сядзеў і думаў аб тым, што яно зусім, здаецца, няблага — вось так пасядзець перад палаючай грубкай, адчуваючы на каленях, на руках і на жываце ласкавае цяпло; што ўжо забывацца пачаў на такое адчуванне, калі ў спіну халаднавата, быццам волка, а ў твар, у грудзі, у калені дыхае зыркім полымем; што добра зрабіў адмовіўшыся пайсці ў брыгадзіраву хату, дзе зараз мужчыны селі, пэўна, вячэраць і дзе ён, чужы чалавек, гадно б замінаў, змушаў бы людзей і гаварыць не тое, і паводзіць сябе не так, як яны недзе зараз гавораць і паводзяць сябе.

Згадка пра брыгадзірава запрашэнне нагадала яму аб вячэры. Перакусіць — яно было б і няблага. Мамойка падняўся, уключыў святло, расшпіліў партфель і дастаў з яго прыхопленую з сабой кілбасу, колькі лустаў хлеба, пару памідорын. Спахапіўся, што і на гэты раз у яго няма сцізорыка — каторы час наказвае сабе абзавесціся і ўсё забываецца. Расклаў прыпасы на разасланай газеце, прысеў да стала, але ўкусіць не паспеў — дзверы расчыніліся і зайшла цётка Анэта. Угледзела яго ля стала і тое, што было на стале, і яшчэ ад парога загаманіла:

— А я ж, дзіцятка, як ведала. Думаю: а ці ж галодны чалавек спаць ляжа? Нічога такога яшчэ і нямашака, каб пачаставаць. Толькі во малачка прынесла — і салодкага, і кіслага, толькі што сквасілася, сала скрылёк, хлеба акраец. Добра, што паспела якраз. Гэта ж,— гаварыла яна, выстаўляючы на стол з чорнай сумкі,— ледзьве не запазнілася, старога свайго пакуль пакарміла. З-за таго тэлевізара дык і паесці па-людску не можа, усё похапкам, быццам хто падганяе.

Мамойка зноў, у каторы раз, збянтэжыўся, угледзеўшы на стале два слоікі з малаком, сала, гуркі, яйкі.

— Навошта ж вы так? Як госцю якому! — сказаў ён.

— Дык жа і госць! — Цётка Анэта, паставіўшы пустую сумку ля парога, шуравала ўжо качаргой у грубцы.— Гэта ж, дзіцятка, не ў горадзе. Там дык у сталоўку любой парою заскочыць можна, а ў нас... Буфет у канторы ёсць, але ж ён зачынены даўно, і што там з'ясі, у тым буфеце?! Бедны і ў мяне пачастунак, але ж перакусіце.

— Ого, бедны! — Мамойка крутнуўся разам з крэслам да цёткі Анэты.— Не ведаю, з чаго і пачаць!

— Ешце, дзіцятка, ешце на здароўе! — Цётка Анэта ўсё яшчэ корпалася ў грубцы.

— То мо і вы са мной? — сказаў Мамойка.

— Дзякую, дзіцятка, я са старым сабралася,— адказала. Ставячы пры грубцы качаргу, дадала: — Прагарэлі ўжо, праз нейкае паўгадзіны і закладаць можна будзе. Як заскачуць па прысаку сіненькія агеньчыкі-язычкі...

— У той бы прысак бульбы ўсыпаць,— сказаў Мамойка. Сказаў так сабе, як бы згадаўшы нешта, зусім без таго, каб і сапраўды сыпаць у грубку бульбу.

Аднак цётка Анэта зразумела тое па-свойму і адразу ж падхапілася:

— Дык я зараз, дзіцятка! Чаго-чаго, а бульбы... Скокну да Анькі Барэйшыхі, тут блізенька, нават і вуліцы пераходзіць не трэба.

Вярнулася цётка Анэта хутка, як бы і не хадзіла нікуды,— у прыполе, у фартуху, было з дзесятак бульбін. Высыпаючы іх ля грубкі на бляху, якой была абабіта падлога пры топцы, сказала:

— Во, і ў хату нават не заходзіла. У Анькі на ганку кошык стаяў, дык выбрала колькі лепшых. Зараз мы адгорнем галавешкі, а яе ў прысачак, у прысачак. Яна тут як бачыш спячэцца!

— Калі так, дык я і вячэраць не буду! Пачакаю печанай бульбы. Бо ні кілбаса, ні што іншае таго не дакажа.

Цётка Анэта ўсміхнулася:

— Ну, кілбаса кілбасой, а печаная бульба дык і праўда смачная. Гэта ж і з'есці зараз ёсць што, а мы са сваім старым узімку часта бульбу ў грубцы пячом. Як выпаліцца, дык я туды тузіна паўтара бульбін, а праз паўгадзіны і юшку закладу. Дык пасля і дух такі смачны з грубкі ідзе! А бульбачка каб хоць адна падгарэла! Выгарнеш яе ў начовачкі, лушпайкі так і шалясцяць — усе чысцютка паадставалі, абірай — і ў рот. Дык я за тыя начовачкі і на печ, да старога. Ядзім і тэлевізар глядзім. Тады і за печ не сварымся. А то ж не мірымся, яму ўсё месца мала на той печы.

— З печы тэлевізар гледзіцё? — не стрываў, здзівіўся Мамойка.

— А што? Каб зручней было, стары яго падняў, разам з ножкамі на стол паставіў. Дык самы раз. Я гляджу-гляджу, калі і засну там, на печы, а стары пазлуецца-пазлуецца, але тады ўжо сам лезе выключаць, як кіно тое

кончыцца, а то мяне ўсё гоніць,— цётка Анэта весела смяецца.

«Скажу каму, дык не паверыць»,— падумаў Мамойка сам сабе, а спытаў іншае:

— А вы што, удваіх жывяцё?

— Удваёчку, дзіцятка! Параз'язджаліся ўсе. Пяцёра было ў хаце, а ніводнага не асталося. Разам дык ці і збіраліся калі. Далейшы прыедзе, дык бліжэйшага пашлюць на той час куды-небудзь ці наадварот. Хлопцы ўвогуле рэдка прыязджаюць. Дачка адна ў нас, а часцей адведвае, чым усе яны, хоць іх і чацвёра... А ў вас жа хаця матка-бацька жывуць?

— Маці жыве, цётка Анэта. І таксама, як вы, адна ў хаце. Яна і зусім адна. Бацька памёр нядаўна.

— Охо-хо,— уздыхнула цётка Анэта. Яна ўжо даўно ўкінула ў грубку бульбу, сама ямчэй уселася на крэсла.— Гэта ж, дзіцятка, у нас во... Сёнияка якраз пахавалі кабету адну. Нінку Сцяпанаву. Такая бяда ў чалавека!.. Мы, бабы, між сабой ужо казалі, што як яму тое і вытрываць. Такі ўжо гаротнік. Гэта ж трэба, дзіцятка, другую жонку пахаваў... З вайны прыйшоў ён маладым хлопцам. Прыйшоў, а дома нікога не застаў. І бацьку, і матку, і сясцёр яго, братоў — усіх немцы паклалі. І хату спалілі... Сцяпан вярнуўся на пустое дворышча. Ну, але жыць жа неяк трэба было. Талакой хату паставілі, хлеў, пуньку агараў. І дзеўку сабе знайшоў — Веру з суседняй вёскі, з Якубавіч, мо чулі? — Данілаву дачку. Добра жылі між сабою. Чатырох дзетак займелі. І дай жа гору такому зваліцца: Вера яго нешта кволіцца пачала і ці не аб годзе зайшлася. Белакроўе ў яе, казалі, было. Што Сцяпану рабіць? З чатырма малымі на руках, і самаму меншаму — толькі на трэці гадок перайшло... Каб жа гэта матка ці хоць бы цётка была, а то ж — нікога! Дзетак яго ўладкавалі: старэйшых забралі ў школу-інтэрнат, а двух меншых — у дзіцячы дом... Ну, а праз год-другі Сцяпан зноў сабе гаспадыню ў хату прывёў. Нінку-нябожчыцу, хай ёй добра будзе. Мы ў Вішаньках не ведалі гэтай Нінкі, хоць яна родам таксама зблізку, з Замосця. Напачатку дык і нядобрае пра яе гаварылі. Маўляў, наквапілася баба на ўдаўца, дзеці якога не пры бацьку, а каб дома былі, дык ці была б такая порсткая! Але ж Нінка кабета аказалася — пашукаць! Гэта ж не мінулася і месяца, пэўна, як яна да Сцяпана перабралася, а пазабірала дадому, да сябе, усіх чатырох Сцяпанавых — і са

школы, і з дзіцячага дома. І дальбог жа, дзіцятка, дай бог, каб родная матка так сваіх дзетак глядзела, як Нінка — чужых. Не толькі меншыя Воўка з Валерыкам, але і старэйшыя, Маруся з Іванам, яны ж дарослыя ўжо, Нінку маткай звалі. Мы ўжо казалі між сабой, па-бабску: «Гэта Сцяпану ўжо нагарода за лёс...» У іх жа, у Сцяпана і Нінкі, і яшчэ двоячка знайшлася — дзяўчынкі. Жывіце, здавалася б, людцы, і радуйцеся. Дык вось, сённяка і Нінку пахавалі. У самым цвеце баба, а туды ж... І ад якой хваробы, дзіцятка, каб спыталіся? Ад гэтага самага апендзіта, ці як там яго, вымавіць не магу. Гэта ж забалеў ёй жывот. Ну, дзень баліць, другі. Дык, дурная баба, не да доктара, а так пакутуе: то пагрэе, то пап'е чаго... І на работу ж да канца хадзіла. Памятаю, дні за два да смерці, кажа: «Усё рэжа і рэжа там нешта, колікі па ўсім целе...» І Сцяпан той не падумаў пра што благое. А спахапіліся, дык — позна. Завезлі ў бальніцу, зрабілі аперацыю, а адратаваць не змаглі, па ўсіх кішках пайшло... І Сцяпан у другі раз аўдавеў. Ці ж гэта, як кажуць, не лёс, дзіцятка?

Цётка Анэта змоўкла, глядзела на Мамойку так, быццам чакала ад яго адказу, і ён, седзячы перад ёй на тахце-канапе, прыгнуў галаву:

— Можа...

Цётка Анэта нечакана ўспляснула рукамі:

— Ой, я ж і забылася, дзіравая мая галава! Гэта ж закладаць пара!

Яна хуценька, амаль уподбежкі, пайшла ў правы, «мужчынскі» пакой. Мамойка чуў, як яна пстрыкнула там уключальнікам, як адчыняла дзверцы, соўгала юшкай у коміне, як выключала за сабой святло. Потым, вярнуўшыся, падышла да грубкі, адчыніла дзверцы і, прыгнуўшыся над топкай, уцягнула ў сябе паветра. Выпраставшыся, сказала:

— Чаду, здаецца, нямашака. А бульбачкай так і пахне. Не чуеце, дзіцятка?

Мамойка падняўся з канапы, таксама падышоў да грубкі, удыхнуў гарачы дух, усміхнуўся шчасліва, як некалі, у дзяцінстве:

— Ага! Быццам у руках гарачую разламаў!

— То ўжо мо і паглядзіце, мо паспела?

— Можа, хай яшчэ трохі пасядзіць?

— Ну, счакайце хвіліну.— Цётка Анэта зноў апусцілася на крэсла, але раптам зірнула на Мамойку запы-

тальна, сказала: — А мо я вам, дзіцятка, надакучыла ўжо?

— Ну што вы, цётка Анэта?! Што б я без вас рабіў тут? — Мамойка сказаў тое шчыра, ад душы.

Яна неяк добра пасміхнулася сама сабе, злажыла на грудзях рукі, сказала:

— От дастану бульбачку, каб вам не пэцкацца, а тады і пайду.

— Калі не спяшаецеся, цётка Анэта, дык пасядзіце. Вечар жа доўгі.

— Дык жа дзед мой раўнівы,— зноў пасміхнулася хораша цётка Анэта.

— Тады — маўчу! — Мамойка прыкрыў даланёю рот.

Цётка Анэта і праўда заспяшалася дадому, як толькі выгарнула на бляху пры грубцы спечаную бульбу. Абцёршы яе, кожную паасобку, фартухом, яна высыпала бульбу на стол, на якім ляжала не пачатая Мамойкам кілбаса, пажадала яму добрай ночы і, напаследак сказаўшы, што ключ тырчыць у дзвярах, пайшла.

А Мамойка сеў вячэраць. Вячэралася з апетытам. З'еў абедзве прывезеныя з сабой памідорыны, прынесены цёткай Анэтай агурок, выхлябтаў з гарачай бульбай амаль увесь слоік сыраквашы. Пакаштаваў і сала з бульбай, і яно таксама кусалася са смакам, хоць было старое і елкаватае.

Пасля, прыбраўшы злёгку са стала і прыкрыўшы газетай тое, што не з'еў, прылёг на канапу і закурыў. Дзіўна, але ад настрою, з якім сядзеў днём у аўтобусе, не асталося і следу. Было такое адчуванне, быццам ён, Мамойка, зрабіў нешта добрае і яго за тое пахвалілі. Добра думалася пра цётку Анэту, пра яе непаказную дабрыню і ласку, пра яе спагадлівы да бедалагі Сцяпана расказ, пра тое, як яна са сваім старым сядзіць зімою на печы і адтуль глядзіць тэлевізар, які дзеля такой нагоды паднялі на стол-шафку. Потым думка яго перакінулася на брыгадзіра, з якім паспеў абмовіцца толькі некалькімі словамі, але пра яго таксама думалася добра. З добрай усмешкай прыгадаў дзяўчыну-сакратарку з канторы саўгаса, адзначыўшы між іншым, проста так, што дзяўчына не проста сімпатычная, але і прыгожая. Добра думалася і наогул пра Вішанькі, у якія вось так нечакана патрапіў. А падумаўшы так, нечакана ў зусім іншым святле ўбачыў і таго маладога хлопца, які загінуў вясною сорак пятага пад Берлінам і чые пісьмы і спытачак

вершаў ляжаць недзе ў музеі, і Мамойка ўжо ці не з нецярплівасцю і хваляваннем уявіў сабе, як заўтра будзе чытаць тыя пісьмы і вершы...

Спаць не хацелася.

## ІВАН І ВАЛОДЗЬКА

Яны ўжо даўно сядзелі за сталом: Уладзімір Антонавіч з жонкай Галінай Сямёнаўнай, Іван са сваёй Надзяй і маці. І ўсе ўжо даўно сабраліся, не даўшы рады ўсяму, што маці падала на вячэру. На стале ружавелі нарэзаныя тонкімі скрылікамі паляндвіца і любовіна кумпяка, жаўцелі масла і падсушаны сыр, дастывалі пакалупаная яечня і залітая тукам, пасыпаная ўкропам бульба, чэзлі без расолу, як рыба без вады, маласольныя пузырыстыя гурочкі, пакрывалася сіваватым налётам так амаль нікім не кранутая гарадская «доктарская» кілбаса, пускаў жаўтлявую слязу — таксама бы ў крыўдзе на тое, што ён тут не ў пашане,— гарадскі «расійскі» сыр. Галіна Сямёнаўна і Надзя паспелі ўжо выпіць і па кубку сырадою. Маці наліла сырадою і Уладзіміру Антонавічу з Іванам, але яны не спяшаліся пасоўваць да сябе кубкі: перад імі стаялі неапарожненыя чаркі.

Бяседа за сталом ішла лянотная. Больш гаварыў Уладзімір Антонавіч. Зрэшты, не так гаварыў, як распытваў маці пра вясковыя навіны, пра сваякоў і суседзяў, пра тое, што чакаецца сёлета ў полі і на гародзе. Маці адказвала на яго роспыты ахвотна, але скупавата: маўляў, што ж тут шмат гаварыць, каму тое надта і цікава, што ў вёсцы робіцца, і што наогул тут можа рабіцца асаблівае. Галіна Сямёнаўна і Надзя з Іванам адмоўчваліся, зрэдку абзываючыся якім-небудзь словам на мацерын расказ ці падтрымліваючы роспыты Уладзіміра Антонавіча. Прыехалі яны да маці ўранку — Уладзімір Антонавіч з Галінай Сямёнаўнай гадзін у дзесяць, а Іван з Надзяй — а палове дзевятай, першым аўтобусам, усе абавязковыя навіны адно пра аднаго — пра дзяцей, пра здароўе — ужо ведалі, і таму зараз, за вячэрай, гамонка вялася чыста бяседная, аб усім, як кажуць, і ні аб чым.

І, можа, так, троху пасядзеўшы, і спаць разышліся б, калі б не Іван. Ён раптам ускінуў галаву, трасянуў сваім

белявым, яшчэ зусім без прыкмет сівізны, чубам і сказаў:

— Што мы, як на памінках, сядзім склаўшы рукі? Валодзя, бяры чарку! А то ўжо ты такім анцілігентам задзелаўся, што і каньяку не хочаш выпіць. Нашто ж вёз яго?

Маці хацела прамаўчаць, не любіць яна тых, што выпіваюць, каб яе ўлада, забараніла б яна і выпускаць, і прадаваць гарэлку, віно і каньяк гэты самы, але ж — яго Валодзька прывёз, яе адукаваны і вядомы на ўвесь Мінск сын, і яна агукнулася:

— А і праўда, сыночкі! Дзяўчаты ўжо, малака папіўшы, хай так пасядзяць, а вы вазьміце пакрысе...

Уладзімір Антонавіч любіў зрэдзь часу прыехаць вось так да маці. Часцей за ўсё — улетку, на самы пачатак маладой бульбы і маласольных гуркоў. Прыязджаючы, спаў ён толькі ў пуні, нават і тады, калі сена ў ёй было яшчэ небагата — некалькі рэзгінаў з узмежкаў. Любіў пасядзець і вось так за сталом, паставіўшы сярод мацерыных пачастункаў пляшку каньяку ці якога-небудзь іншага прыстойнага пітва. Праўда, заўважаў, што і брату Івану, і маці як бы ўсё роўна, якую пляшку ён даставаў са свайго пузатага — толькі для дарогі — партфеля, але ён не крыўдаваў на іх за гэта: маці пітва таго толькі панюхае, а Івану ўсё адно, што кульнуць — абы пякло і п'яніла. Маці, ён ведаў, ганарылася ім, ніколі не праміне сказаць каму, што сын яе «робіць кіно», радавалася кожнаму яго прыезду і старалася дагадзіць і яму і ягонай Галіне Сямёнаўне як найлепей. Маці ён таксама не крыўдзіў. Штораз, прыязджаючы, прывозіў сякі-такі падарунак (пра гэта турбавалася Галіна Сямёнаўна) і даваў дваццаць пяць альбо і трыццаць рублёў. Казаў: «На розную дробязь». Аддаваў грошы маці звычайна перад самым ад'ездам. Яна заўжды адмаўлялася, казала, што ёй не трэба, што ёсць у яе грошы, але ён не зважаў на тое — клаў грошы ёй на далонь і заціскаў іх мацерынымі пальцамі. Тут, у матчынай хаце, ягоны аўтарытэт, адчуваў, непарушны. Ды і не толькі ў матчынай хаце, а і ў вёсцы. Усе, каго б ні сустрэў на вуліцы, Антонавічам клічуць. Ды што там чужыя! Брат Іван хай і старэйшы, а і то на яго ніколі ні словам, ні знакам. А Надзя, братавая, дык — смешна казаць — забудзецца і сяды-тады пачне выкаць да яго...

— Дык чаго ты маўчыш? Бяры чарку, кажу! — зноў гукнуў Іван.

— Выпіць, канечне, можна,— Уладзімір Антонавіч каўзануўся ў крэсле, крактануў,— толькі, як той казаў, ці ёсць патрэба?

Іван не прыняў жарту, усклікнуў:

— Ай, слухай, кінь! У матчынай хаце сядзім, ці часта і збіраемся разам, а ты — ці ёсць патрэба!

Уладзімір Антонавіч усміхнуўся і памяркоўна ўжо сказаў:

— Твая праўда. Збіраемся не надта часта, хоць у тым віны нашай няма... Што ж, давай вып'ем. За тое, як казаў паэт, каб дома бываць часцей!..

Яны чокнуліся і выпілі. Уладзімір Антонавіч адшчыкнуў кавалачак «расійскага», Іван укінуў у рот скрылёк паляндвіцы. Уладзімір Антонавіч зірнуў на брата, жартаўліва паківаў галавой:

— Цемната ўсё ж ты, браце! Каньяк мясам заядаеш... Трэба ж, каб у роце смак аставаўся, каб ты адчуваў, што выпіў. Ты б яшчэ селядцом закусіў!

Іван зарагатаў:

— Яшчэ і якая цемната! Каб не ты, дык ці ведаў бы, як той каньяк і пахне. Сказаць, калі я першы раз яго пакаштаваў? Ведаеш? На тваім банкеце!

— Тады, як прэмію адхапіў?

— Ага.

Уладзімір Антонавіч зірнуў на жонку, яшчэ раз паківаў галавой, але ўжо інакш, быццам нешта гаворачы сам сабе, а ўголас прамовіў:

— Шчаслівы ты чалавек, брат: памятаеш да гэтага часу, калі каньяк каштаваў.

Іван прапусціў гэта міма вушэй. Быццам нечаму абрадаваўшыся, ён кінуўся ва ўспаміны:

— Насупраць мяне нейкія старыя сядзелі. Трое. Сівыя ўжо, але выпіць яшчэ маглі. І ўсё гэты самы каньяк пілі. Чарачку за чарачкай. І мне наліваюць. Нальюць, падміргнуць: «Давайце, Антонавіч!..» Альбо: «За поспехі вашага брата, Антонавіч!..» Нехта, мусіць, сказаў ім, што я брат... Дык я, пэўна, чарак пяць з імі кульнуў. Добра, што яны малюпасенькія былі, тыя чаркачкі, а то б...

Нечакана ажывілася маці, таксама загаманіла:

— Я ж, сынок, таксама ніколі не забудуся пра той банкет. І памру, а такога застолля болей не ўбачу. Столькі ўсяго на сталах было панастаўлена, і посуд такі прыгожы, дарагі, што да яго і дакрануцца боязна, і госці ўсе такія культурныя, адзін аднаго толькі па бацюшку, не

абы-як... Гэта ж каб не Галіна Сямёнаўна во, дык я ж бы там галоднай і прасядзела, не рашылася б пакаштаваць чаго, а яна ўсё мне падкладвала ды падкладвала...

— Ну, мама! — азвалася Галіна Сямёнаўна.— Што ўспомнілі! Затое вы тост такі сказалі, што ўсе ў ладкі запляскалі.

— Ай, Галечка, які там ужо і тост, што я ўжо там і сказала! — Маці, быццам баючыся пачырванець, закрыла твар далонямі.— Язык як палена ў роце зрабіўся, што і казала — не памятаю!

— Не, мама,— Уладзімір Антонавіч, зноў перакінуўшыся поглядам з жонкай, павярнуўся да маці,— не кажы! Вельмі добра сказала! Мне не было сорамна за цябе.

І вось тут Іван, сагнаўшы з твару сваю добрую, трохі блазенскую ўсмешку, нечакана сур'ёзна спытаў:

— А каб не патрапіла, дык што? Сорамна было б?

Уладзімір Антонавіч зірнуў на Івана, крутнуў галавой, хвіліну памаўчаў. Шмаргануўшы па рукавах пінжака, бы закасаўшы іх — з-пад іх выплылі манжэты сарочкі з бурштынавымі запінкамі, ён аблакаціўся на стол, уздыхнуў:

— Ну чаго ты, браток, як у вас кажуць, лезеш у бутэльку?

Сказаў і толькі пасля, згледзеўшы, як перасмыкнуўся Іванаў твар, зразумеў, што сказаў не тое, што трэба было б адказаць жартам, як заўсёды.

Іван жа, сапраўды, «палез у бутэльку».

— У нас кажуць? А ў вас? Што ж ты не па-вучонаму са мной? Баішся, што не зразумею?

Не хацеў Іван сварыцца і думкі такой не меў. Але ж як бы нешта падштурхнула яго знянацку і — не стрываў, сарваўся. Маці, бы адчуўшы нядобрае, кінулася на паратунак:

— Ванечка, сынок, не крычы! Чаго сварыцца? Што Валодзька сказаў такое?

Надзя таксама тузанула Івана за руку, шапнула:

— Не задзірайся!

Але Іван, адмахнуўшыся ад жонкі, закрычаў:

— Ён ведае, мама, што сказаў! Ведае, шэльма!

Сцепанулася Галіна Сямёнаўна, ускінула вочы на Івана, сказала з дакорам:

— Ваня, навошта ж вы так?

Але, разумеў Іван, што не трэба было б усчынаць гэтай гаворкі, што трэба было б аджартавацца, як і з той

самай «цемпатой», і тады, як заўсёды, калі яны збіраліся разам у маці, спакойна павячэралі б... Ён, пэўна, і аціх бы, узяў бы ў рукі сябе, калі б не Галіна Сямёнаўна. Яе ж словы, а найбольш лагодна-паблажлівы тон, з якім яны былі вымаўлены, зноў нібы сцебанулі яго, прымусілі агрызнуцца з'едліва:

— Што, Галіна Сямёнаўна, пакрыўдзіліся за свайго святога Уладзіміра Антонавіча? А ён, каб вы ведалі, шэльма і ёсць! Ага, шэльма!

Надзя зноў тузанула яго за руку і на гэты раз не шапнула, а прыкрыкнула:

— Перастань, Ваня!

Іван адсунуўся разам з крэслам ад стала, дастаў папяросу і закурыў. Памаўчаўшы крыху, сказаў ужо спакайней:

— Я ў бутэльку, як ён кажа, не лезу. А ён хай не робіць з мяне дурня.

Маці падхапілася са сваёй табурэткі, абегла стол, абняла Івана за плечы:

— Супакойся, сынок, не трэба злавацца. Ні з тога ні з сёга ўзарваўся, быццам уджалены... І ты, сынок,— яна зірнула на Уладзіміра Антонавіча,— таксама не бяры тога да галавы, памаўчы лепей.

— Я і маўчу, мама,— стомлена, знарок абыякава сказаў Уладзімір Антонавіч і падняўся з-за стала.— Пайшлі, Сямёнаўна, на сена. Мама, ты паслала там?

— Паслала, сынок, паслала...

Калі Уладзімір Антонавіч з Галінай Сямёнаўнай, а следам за імі і маці выйшлі з хаты, Надзя не закрычала — маглі яшчэ ўчуць, а зашыпела на Івана:

— Чаго ты надзьмуўся, як той індык? Што ты даказаць хочаш? Што і ты разумны? Дык жа не дакажаш! І каму, каб хто спытаў? Маці ж на яго моліцца!

Іван ужо ўзяў сябе ў рукі. Сказаў спакойна:

— Ну, не стрываў, сарваўся... А гэта ты дарма. Мама ўсё разумее.

Надзя, адчуўшы, што ён супакоіўся, уздыхнула:

— Ай, што яна разумее! Для яе найперш — Валодзька! Ты прыедзеш, дык і ладна, прыехаў, дык і прыехаў, а ён як злітасцівіцца паказацца, дык мама ўжо не ведае, як сустрэць, чым пакарміць, дзе пасланаць. Хіба я не бачу?

— Ну, а што ты хочаш? Сынок — кінарэжысёр! Хто калі думаў пра такое?! — Іван затушыў папяросу, хвілі-

ну намаўчаў, дадаў: — Гэта тут яна так. А на зіму ўсё адно да нас едзе, а не да яго.

— Дык жа і крыўдна! Як зрабіць што, дык — Ваня, а як...

Надзя хацела сказаць яшчэ нешта, але зайшла ў хату маці, падышла да стала.

— Ляглі госцейкі,— сказала.— Прасілі разбудзіць раненька, хочуць першым аўтобусам ехаць, у восем.

— А дровы рэзаць? — спытаў Іван. Спытаў, канечне, знарок — усярэдзіне ўсё яшчэ нешта казытала яго.

— Ай, сынок, зноў ты за сваё,— маці апусцілася на табурэтку.— Ты ж ведаеш. Адвык ён ад нашай работы.

— А можа, і не прывыкаў? Га, мама? — Іван як пацвельваўся.

І маці, мусіць, улавіла гэтую смяшлівую нотку ў яго-ным голасе, бо сказала лагодней:

— Што цяпер тое ўспамінаць!

— Але, што цяпер тое ўспамінаць,— кіўнуў галавой Іван.— І ўвогуле...

Маці, акінуўшы вачамі стол, спытала:

— Ну што, дзеткі, будзеце яшчэ што есці ці прыбіраць, каб не псавалася?

Яны абое — і Надзя і Іван — амаль у адзін голас адказалі:

— І так не здыхацца, куды ўжо есці!

Маці, быццам чакаючы гэтага, адразу ж паднялася. Збіраючы са стала талеркі, казала:

— Дарма толькі рэзала і крышыла. Во колькі паасталалася. Трэба, пэўна, у склеп спусціць, шкада ж...

— А ты ж казала, што прадушыну там адчыніла, дык мо каты палазяць? — спытаў Іван.

— А я ў скрынку пакладу...

Пакуль маці прыбірала са стала і лазіла ў склеп, Надзя паслала пасцель і лягла. Іван, сеўшы ля расчыненага акна, зноў закурыў.

Урэшце маці ўправілася, вярнулася ў хату.

— Лягай, сынок,— сказала да Івана.— Заўтра мо і праўда перахопіш у Смаляка той тарахцёлкі ды пярэжаш круглякі, пакуль гразі няма.

— Лягаю, мама,— азваўся сын.— Учора недаспаў, позна лёг быў, і сёння рана ўспароўся, каб білеты на аўтобус узяць... А дровы парэжу. Са Смаляком дамовіўся. І з Сяргеем гаварыў. Казаў, паможа. А пакалоць калі не

наспею, дык не бяда. У любы час, як выдасца, падскочу і пакалю.

— Як-небудзь паколюцца. Танчэйшаму чаму мо і сама рады дам, а таўсцейшыя паколеш, другім разам прыехаўшы.

— От не смяшы людзей, мама! Ужо яна сама калоць будзе! Пакуль у пліце ёсць што паліць. Нават і грубку, калі трэба, можна прапаліць тым суччам, яго на ўсю восень хопіць.— Іван падняўся, прайшоў да стала, раструшчыў пальцам недакурак у попельніцы і, выпрастаўшыся, сцягнуў цераз галаву тэніску...

Стаяла над сялом жнівеньская ноч — расяная, без ліпеньскай задухі, але і не халодная. З гарода праз расчыненае акно плыў у хату пах гурэчніку, кропу і мяты. Сяды-тады даплывалі з начы і галасы — то дзявочы смех, то хлапечы гоман. Але найбольш перашкаджала радыё. Маці ніколі не выключае на сцяне дынамік, і ён ціхенька гамоніць-спявае, колькі можа. Днём дык яго не надта і чуваць, а ўначы, калі і муха не дзумкне, гоман яго даволі гучны. Лягаючы ў маці спаць, Іван звычайна выключаў дынамік, а сёння забыўся на яго. Ды ўставаць не хацелася. І ён ляжаў і цярпліва чакаў, калі гадзіннік на Краснай плошчы праб'е дванаццаць і дынамік, хвіліну пасіпеўшы, змоўкне.

Жонка, адчуваў па дыханні, даўно спала. Як лягла, адвярнуўшыся да сцяны, так і спіць — на левым баку. А яго сон чамусьці не браў. Ляжаў на спіне, падклаўшы рукі пад галаву, і думаў...

Спачатку ўсплыла была думка пра тое, што забыў спытаць у Смаляка пра бензін. Мо раптам няма ў яго. Тады трэба будзе ранічкаю бегчы да Віцькі Фэлькавага: яго аўталаўка заўсёды ля хаты начуе, мо хлопец не будзе ўпарціцца, адшкадуе колькі літраў.

Пасля прыбегла думка пра дзяцей. Нэла ў апошнім пісьме так напісала, што яны з Надзяй і не разабраліся, ці хаця добра ў яе там. Хлопец, здаецца, неблагі трапіўся. Летась, як пажаніліся, прыязджалі, некалькі дзянькоў пагасцявалі, і сюды во, да бабы, з'ездзілі. Упадабалі хлопца і тут, у сяле. Пэўна, нездарма, бо калі што — кабеты тут жа абгаварылі б. І спецыяльнасць добрую мае, і так чалавек быццам сур'ёзны. Ужо больш як год не бачыліся. А Нэла нешта не такія пісьмы пачала пісаць.

Вось і апошняе. Нібы хоча нешта сказаць і недагаворвае. Надзя дык і паплакала над тым пісьмом. Добра было б з'ездзіць, але — на край свету забралася дачка. Ажно на Алтай, у горад Рубцоўск. Ён дык і не чуў такога горада, а казалі, і немалы, як наша Маладзечна. Трэба будзе ўзяць водпуск і з'ездзіць. Хоць аднаму, калі з Надзяй не ўдасца.

З Ромам — лягчэй. І не толькі таму, што хлопец. Лёс не такі, як у Нэлы. Дачка вучыцца ленавалася, лічы, на троечках ехала. А Рома — па дзядзьку пайшоў, па Валодзьку. З першага класа па дзесяты пяцёркі дадому прыносіў. Студэнтам стаў. Зараз недзе па Палессі, у студэнцкім будаўнічым атрадзе. Пісаў, што абкладваюць дзёрнам адхоны каналаў. У політэхнічным вучыцца. Валодзька параіў паступаць туды. Сказаў, што ў яго там ёсць знаёмы — калі што, дык дапаможа. Не ведае Іван, ці спатрэбілася тая помач яго Рому, ці сам паступіў. Валодзька пра тое маўчыць, а пытацца няёмка, хоць і брат. Калі і памог, дык нашто лішні раз напамінаць? Кажуць жа, за такое па галоўцы не гладзяць.

Вось так, праз дзяцей, думка яго зноў вярнулася да брата.

Двое іх было ўсяго ў маці: ён і Валодзька — меншы. Усё Валодзькам быў, а вось ужо і Уладзімір Антонавіч. А ён як быў Іванам, так ім і астаўся. А Валодзька, бач, у людзі выйшаў. Як каму што на раду напісана — старыя людзі кажуць. Ды, пэўна, не зусім яно так. Ён, Іван, таксама быццам няблага вучыўся, і хто ведае, што было яму на раду напісана, калі б не вайна. Да вайны скончыў пяць, а пасля вайны ўжо і зусім не думаў у школу ісці. Адно што перарос свой шосты клас, а другое — за кім было ісці? Каб бацька вярнуўся, дык яно, вядома, можна было б і вучыцца, як некаторыя пераросткі вучыліся. А так гаспадаром у хаце зрабіўся. І маці пра школу надта не надакучала. Але настаўніца, яшчэ даваенная, Ганна Фёдараўна, угаварыла, паслала яго адразу ў сёмы, абышоўшы шосты. Дык ён той першы для іх пасляваенны, а ўвогуле яшчэ ўсё ваенны год правучыўся, атрымаўшы дакумент аб заканчэнні сямігодкі. А далей не пайшоў. Узяў коней і да арміі рабіў у калгасе. А пасля арміі падаўся ў Мінск, на трактарны. Паслалі яго вучнем у ліцейны — пэўна, зважаючы на тое, што быў хлопцам ёмкім, шыракаплечым, дужым. З той пары ў ліцейцы і парыцца. Уцягнуўся, прывык — работа як работа. Мо і

праўда не з лёгкіх, але затое заробак неблагі. Там, на трактарным, неўзабаве ажаніўся, кватэру атрымаў. Спачатку жыў з Надзяй у пакойчыку з агульнай кухняй, а пасля асобную кватэру, двухпакаёвую, далі на вуліцы Стаханаўскай, паблізу ад завода,— гэта як Нэла ў іх паявілася.

А Валодзька... А Валодзька за яго, Іванавай, спіной у школу пайшоў. У сорак шостым. Ён — асянчук, яму якраз тым вераснем стукнула сем. І загадваць нікому не трэба было, само так сталася, што ён над Валодзькам клопат узяў. Лічы, бацькоўскі клопат. Ці купіць што жэўжыку, ці памагчы-падказаць што — яго, Іванава, турбота была. Перапынак быў толькі на час службы ў арміі, а потым зноў на сябе той клопат узяў. Надзя, малайчына, ніколі насуперак не ішла ні ў чым: не папракала ні ягонымі частымі наездамі да маці, ні грашыма, што траціў на абновы Валодзьку, на ягоныя школьныя прычындалы.

Пасля сямі класаў Валодзька, перагаварыўшы з маці, наважыўся быў да яго перабрацца — на завод. Але Іван адгаварыў. Вучыцца хлопец добра, дык хай вучыцца. Час такі надыходзіць, што сем класаў — невялікі набытак. Работа не ўцячэ, а мо пасля дзесяці ўдасца паступіць куды? І рады быў Іван, як за сябе, калі Валодзька стаў студэнтам. І не абы-чаго там, а універсітэта! Інтэрната, праўда, хлопцу не далі, ды засмучацца не даводзілася: к таму часу Іван ужо меў хату, канапу ў зале Валодзька заняў. Так усе пяць гадоў і праспаў на ёй студэнт.

Пасля універсітэта, наўздзіў Івану і маці, трапіў Валодзька на кінастудыю, а неўзабаве паехаў у Маскву — зноў вучыцца. Вярнуўся адтуль і нешта надта хутка пайшоў угору. Ці не на другі год прэмію за свой фільм атрымаў. Глядзеў той фільм і Іван, але каб надта спадабаўся — дык не. Тады ж, пасля фільма, і кватэру Валодзька атрымаў. І не такую, як у Івана: трохпакаёвую, ды амаль што на праспекце...

Зайздросціў яму Іван? Глупства, вядома! Не зайздросціў, а радаваўся, ганарыўся. Вунь які ў яго брат! Ды дай жа веры: бег час, і пачаў заўважаць Іван, што ўсё далей і далей адыходзіць ад яго Валодзька — як чужы робіцца. Усё радзей зазіраў да Івана на Стаханаўскую. Бывала, па паўгода не паказваўся. Апошнім часам і зусім забыўся. Гэта ж гады ўжо тры, як не заходзіў. Але ж, га-

ды тры! Як заходзіў, калі Рому семнаццаць было — тады Іван бяседу рабіў,— дык болей і не адведваў. Пакрысе і Іван забыўся дарогу ў Валодзькаву хату. Калі ні зойдзе, яго вечна няма, усё недзе прападае. Галіна ж Сямёнаўна надта не пагаворыць. Адно не забудзецца чарку наліць, быццам ён, Іван, толькі таго і прыходзіў, каб чарку тую выпіць.

І як бы нейкая крыўда на Валодзьку пачала расці ў душы Іванавай. Разумеў, канечне, што заняты ён чалавек, што клопат у брата не такі, як у яго: адрабіў свой час і — вольны казак. Але ж думалася і другое. Быць таго не можа, каб яны ўсе былі такія, кіношнікі тыя. Няўжо яны толькі сваім клопатам і жывуць? І не так за сябе гэтая крыўда была, як за маці. Яны што? Яны — браты, у іх свае сем'і, свае клопаты, лішні раз, мо і праўда, адно пра аднаго не ўспомніш. А маці? Колькі жыць старой асталося? Адно суцяшэнне — як хто прыедзе. Дык зноў жа: Валодзька і да маці, як кажуць, гады ў рады. Што з таго, што грошай ёй дасць? Тыя грошы ёй не надта і трэба.

Не кажа нічога Іван пра тое, што Валодзька начыста забыўся, каб памагчы маці зрабіць што. Тут ён, Іван, мо найперш і вінаваты. Сам жа ашчаджаў Валодзьку, як малы быў, ад работы, адно патрабаваў, каб вучыўся. Але ж гэта тады было. А цяпер павінен жа разумець, што маці сама і сена таго не накосіць, і дроў на зіму не назапасіць, і гарод не абгародзіць. Валодзьку ўсё гэта — да лямпачкі! Усё ён, Іван, павінен. А чаму ён? Чаму ён павінен быў і тады і цяпер? Хоць і вучоны, а ці ж гэта ганьба, калі сена маці накосіць?

Не, ён, Іван, разумее, што справа тут не ў ганьбе ці лянотнасці. Уся загваздка ў тым, што Валодзька іхні — Уладзімір Антонавіч. І не толькі для іншых, але ўжо і для жонкі і для сябе самога. Яму, Антонавічу, да ўсіх тых дробязных турбот інтарэсу няма.

Вось таму і не прапусціў Іван тых Валодзькавых слоў пра маці. Пра тое, што яму, бач, не сорамна было за маці. Відаць, не хацеў Валодзька таго гаварыць, само, пэўна, сказалася. І ў спрэчку не палез. Ён, Іван, таксама не палез у бутэльку, хоць Валодзька і папракнуў яго. Навошта? Нічога б ён сваркай не даказаў, толькі маці балюча зрабіў бы. Яна хутчэй за Валодзьку здагадалася, што не жартачкі між імі ўсчаліся, і кінулася на ратунак. І аднаго астудзіла, і другога.

«Ах, мама, мама! І ў сорак пяць мы астаёмся для цябе дзецьмі. І як добра, што ты ёсць, што жывеш у гэтай, пастаўленай бацькам хаце. Калі б не было цябе тут, не было б для нас і гэтай хаты, і гэтай магчымасці пабыць тут, пасядзець за адным сталом разам з братам. Як добра, што твая старэнькая, сухенькая ўжо рука астуджвае нашы гарачыя, хоць і пасівелыя галовы...»

Не спалася і Уладзіміру Антонавічу. Спачатку непрыемна казытала ўсярэдзіне згадка пра тое, што было за сталом. Але пакрысе супакоіўся, скіроўваючы сябе на іншае, і неўзабаве ўжо ажно ці не расчулена, хоць, пэўна, залішне, па-кіношнаму прыгожа, думаў аб тым, што ўсё ж няблага вось так час ад часу прыязджаюць сюды — хоць бы дзеля таго, каб пайсці ў пуню спаць, намацваць у поцемках чыстую халаднаватую пасцелю, слухаць шоргат сена і свіргат цвыркуна, дыхаць густым, церпкаватым і надзіва лёгкім настоем палявых смолак, званцоў, мядунак і чарнобылю.

«Аднак жа... Аднак жа ўсё гэта прыносіць радасць толькі таму, што бываеш тут рэдка, што гэтыя наезды — як хвілінная стрэча з дзяцінствам, звароту ў якое няма і не будзе. Пупавіна, якая звязвала цябе з тым, што некалі яднала ў дарагім адзінстве парог бацькоўскай хаты, вёску і наваколле, з кожным годам робіцца ўсё танчэйшаю, і аднаго разу ты не заўважыш, як яна станчэе і перарвецца. А можа, і ўжо абарвалася? Чалавек жыве паўнакроўным жыццём там, дзе працуе, дзе паядноўваюцца і скрыжоўваюцца з інтарэсамі іншых людзей яго асабістыя інтарэсы, дзе ён адчувае сябе патрэбным у тым кругабегу дзён, які завецца жыццём. А ўсё гэта, што зараз акружае цябе, усяго толькі трызненне душы, салодкі сон. Заўтра ты паедзеш адсюль — і сон мінецца...»

Падумаў пра тое, каб не забыцца заўтра пакінуць маці грошы. Што яшчэ, апроч грошай, ён можа зрабіць для маці? Памочнік па гаспадарцы з яго кепскі. Зрэшты, і непатрэбны: Івану ўсё тое зрабіць і зручней, і, пэўна, лягчэй. На добры лад, маці даўно трэба было б перабрацца да іх у горад. Чаго ёй тут адной сядзець, трымацца гэтых добра такі спарахнелых вуглоў? Магла б спакойна жыць ці ў яго, ці ў Івана, урэшце. Дык — не ўгаварыць. На зіму пару разоў перабіралася ў горад, але і то хапала яе толькі на самыя лютыя месяцы, а як толькі сонца паварочвала на вясну,— ехала дадому.

І нічога тут не зробіш, уздыхаў Уладзімір Антонавіч. Капрыз старога чалавека — гэта горш, чым капрыз малога. Апошняга можна ўгаварыць альбо прымусіць. Калі ласка: пару разоў прыязджала — і ўсё да Івана. Чаму? Заўпарцілася старая, няйначай. А мо саромеецца ягонай Сямёнаўны, падумаў нечакана? Мо было калісь паміж імі што-небудзь? Не, не падобна! Адкінуў тут жа гэтую думку. Яго Сямёнаўна заўжды ўмела ўгадаць любое жаданне маці і нічым не выявіць перад свякрухай сваёй незадаволенасці. Значыць, звычайны старэчы капрыз...

Паволі цела апаноўвала млявасць — падкрадваўся сон. Ужо ў дрымоце ці не пасміхнуўся Уладзімір Антонавіч, нечакана зноў падумаўшы пра Івана, пра іхнюю сутычку за сталом.

«Парашыў падкузьміць!.. Братка ты мой, харошы ты хлопец! Я назаўжды зберагу ў сэрцы шчырую і цёплую ўдзячнасць да цябе за ўсё, што ты зрабіў для мяне, але... Але не лезь туды, куды не трэба. Што дазволена Юпітэру... Ах, якія яны былі мудрыя, старажытныя!..»

І, канчаткова супакоены, Уладзімір Антонавіч заснуў.

Прачнуўся Іван рана, яшчэ да таго, як загаварыў дынамік. Стараючыся не пабудзіць Надзі, ссунуўся з ложка, нацягнуў штаны і выйшаў на двор. Сонца было поўен двор — ён ажно зажмурыўся. Ухапіў вядро, збегаў да калодзежа. Тут жа, у двары, памыўся, няўмела (усё ж адвык) паліваючы сам сабе з кубка. Галіцца не стаў — паголіцца перад ад'ездам. Скокнуў у хату, апрануў тэніску і пабег да Смаляка.

А калі на каламажцы прыпёр ад Смаляка рухавічок і станок з цыркуляркаю, убачыў у двары Валодзьку.

— Здароў, шэльма! — гукнуў, заходзячы ў двор.— Як спаў?

Уладзімір Антонавіч павярнуўся, скрывіўся:

— Што, ад учарашняга не адышоў?

— Ды не, братка! Жартую! Мо пабарукаемся?

Уладзімір Антонавіч усміхнуўся:

— Ці ж гэта будзе сенсацыяй, калі вагранщчык пакладзе на лапаткі гнілога інтэлігента?

— Так ужо і гнілы! Цяльпук — дай бог! — Іван моцна тыцнуў брату кулаком у грудзі.

— Ад цельпука чую! — выгукнуў Уладзімір Антонавіч і таксама пару разоў збаксіраваў Івану ў жывот.

Іван, знарок корчачыся, быццам ад болю, застагнаў:

— Так і кішкі парваць можаш, артыст! — І, нечакана зарагатаўшы гучна, ад душы, загаварыў: — Галя паднялася? Тады пайшлі снедаць. Бо і вам не трэба марудзіць — аўтобус можа пабегчы, і мне няма калі расседжвацца.

Сняданак быў лёгкі, на скорую руку. Зрэшты, есці ніхто і не хацеў. Адно — з ахвотай папілі малака. Не сырадою, а ўчарашняга, вячэрняга — халоднага.

На вуліцу выйшлі разам — Уладзімір Антонавіч, Галіна Сямёнаўна, Іван і маці. Браты падалі адзін аднаму рукі, Галіна Сямёнаўна пацалавала маці, кіўнула Івану галавой. І разышліся. Уладзімір Антонавіч з Галінай Сямёнаўнай паволі пайшлі вуліцаю ўгору, да аўтобуснага прыпынку, а Іван, хвіліну паглядзеўшы ім услед, шпарка пакіраваў у адваротны бок — уніз, за рэчку: будзіць Сяргея, які абяцаў яму пасабіць парэзаць круглякі, што ляжалі на вуліцы ля мацерынай хаты.

# АПОВЕСЦІ

## ТАЦЯНІН ЧЭРВЕНЬ

*Серада, 28 чэрвеня*

Рыта прыехала нечакана — сярод тыдня. І аўтобус выбрала нейкі нязвычны. Яна, Тацяна, дык і не ведала, што ёсць такі аўтобус, каторы ўдзень прыходзіць. Алёшка, як прыязджаў, калі яшчэ матацыкла не меў, то заўсёды вечарам дадому прыходзіў, зрэдзь часу ажно понначы. А то ж во — днём, у самы полудзень. Тацяна якраз з поля ішла — Падласку даіла, у хату не паспела зайсці, на вуліцы сустрэла нявестку з унучкай.

Яна б, вядома, і ў хату зайшла б, і малако паспела б працадзіць, калі б не суседка — Каця Шулякова. Ужо і цераз варотцы перахінулася, каб кручок скінуць, ажно пачула, што яе гукае са свайго гарода Каця:

— Танька, пажджы!

«Чаго ўжо ёй»,— падумала яна, так і не скінуўшы кручка з прабойчыка. Паставіла даёнку на лавачку пры гародчыку-кветніку, сама прыхінулася плячамі да слупка. На лаўку не села, бо не паспела раніцою пыл сцерці. Здаецца, і пагода не надта каб стаяла, але ж машыны гойсаюць праз вёску, трактары сноўдаюцца, дык ад пылу не абярэшся, платы ўсе сівыя, а на лаўцы — цэлым пластом. Стаяла і злавала, гледзячы на суседку. Тая рапуха — як нежывая! Пакуль выпіхалася разораю на вуліцу, пакуль спадніцу атрасала і шлэпала, валочачы ногі, да яе, Тацяны, дык, дальбог жа, можна было б і да студні збегаць, і назад вярнуцца,— успомніла, што няма ў хаце халоднай вады, каб малако паставіць.

Падышла ўрэшце Каця, спыталася:

— Ты, чула, у Пётры была, каня прасіла?

— Была. А што?

Азвалася не надта лагодна. Не любіць яна Каці, хоць тая і суседка. А хто яе любіць, каб у каго спытацца? Квактуха нейкая, а не баба! Усё ў яе хваробы-немачы розныя. Маладзейшая за яе, Тацяну, на гадоў восем, пэўна, а кнэгае, бы на ўсе пятнаццаць старэйшая. Вядома — Шлёпіха! Нездарма ж людзі ахрысцілі. Не ідзе, а ўсё — шлэпшлэп!.. Але — дарма! Хворая-то яна хворая, а вунь якія бэбахі разгадавала. Жывот аж пад грудзі падпірае, бы затаўсцела баба на старасці, сораму людскога не пабаяўшыся.

Але Каці гэтая яе, Тацяніна, неласкавасць ні да галавы, ні да чаго там яшчэ.

— Даў жа хаця? — зноў спыталася.

— Вечарам, сказаў, Аркадзеў хлопец пад'едзе і абгоніць,— адказала.

Шулячыха бліжэй падсунулася, зацерабіла Тацяніна рукаво:

— Дык слухай, Танька, што я папрашу. Як гэта, каб заадно і маю абагнаць, га? А то ж перарасце, а тады пахрабушчыцца ўся. Ужо барозны ўкрыла. Яе ж, на добры лад, трэба было і раней абагнаць. Ведама, у гародзе, не на полі... Я ж, ведаеш, не хачу да таго роўлы ісці. Мо і дасць, але ж спачатку горла пападзярэ. Дык каб заадно з табой, га? Траяка якога і я хлопцу не пашкадую.

«Ага, ты не пашкадуеш!» — падумала Тацяна, а ўголас сказала:

— Добра, Кацярына, скажу. Колькі там і бульбы ў мяне. На пятнаццаць хвілін работы.

— Дык жа і ў мяне во — толькі ля студні! — падхапіла Шулячыха, махнуўшы рукою на свой гарод, ажно затросся пад завэдзганым каптанам жывот.— Сотак дзесяць! Там, ад аселіцы, канюшыну пасеяла, ты ж ведаеш.

Яна, Тацяна, памаўчала, пашкрэбала нага аб нагу — ці то сляпень у полі ўкусіў, ці то абдзерла лытку аб нешта, таксама махнула рукой:

— А бо! А заўпарціцца хлопец, дык хай толькі коні прыгоніць — самі абгонім. Ты мне паводзіш, я — табе.— Голас яе гучаў ужо зусім спакойна, нават памяркоўна. Хочаш — не хочаш, а куды дзенешся? Суседка ж! Ды і не адстане Шлёпіха гэтая! Хіба яна яе не ведае? Усё адно будзе пільнаваць таго хлопца Аркадзевага.

— От дзякую, Танька! — Каця выпусціла яе рукаво, абцягнула на сабе каптан.— А то ж не столькі работы таей, як клопату: хадзі, прасі, кленчы...

— За што ўжо ты так раздзякавалася? — падышла да іх Манька Барысікава. Таксама ад каровы — у руцэ вядро, завязанае жаўтлявай марляй.— Чым вы ўжо адна аднэй так дагадзілі?

— Бульбу во збіраемся абганяць,— адказала Шулячыха.

— А-а-а,— Манька паставіла вядро на лаўку, сцепанула рукою, варушачы зацёклымі ад жалезнай вочапкі пальцамі, спыталася ў Тацяны: — І ты падаіла ўжо? А чаго ж гэта я цябе ў полі не бачыла?

— Не ведаю. Падласка нешта сёння даіцца не давалася — сляпні, пэўна, заелі. Дык я ў кустох даіла.

Яна памкнулася ўзяць з лаўкі даёнку, але Манька перахапіла яе руку, штурханула пад бок:

— Не спяшайся! Дзеці не плачуць, а кот не здохне, калі і пагамонім троху.

— А хай цябе з тваімі гамонкамі! — Тацяна ўсміхнулася.— Ніколі ты не нагамонішся!

Манька — высокая, ледзь не ўдвая вышэйшая за Тацяну, шырокая ў косці, няскладная і па-мужчынску дзябёлая — плюнула-свіснула праз зубы:

— А дзе ж, трасцу табе ў бок, і не пагаманіць, як не на вуліцы? Дома ж мы ўсе совамі жывём!

Халера на яе, Маньку гэтую! Заўсёды пра адно і тое ж. Жыццё зжывае, а ўсё не звыклася, што адна. Як быццам ад таго, што пажаліцца-пакрычыць, нешта зменіцца, палягчэе ёй, ці што? Яно, вядома, Маньцы больш і дасталося, і дастаецца, чым ёй, Тацяне, ці Шлёпісе во гэтай. Яны совамі, як яна кажа, пааставаліся, а Манька, лічы, усё жыццё адна. Кавалера нават не собіла мець. Перашкодзіў, пэўна, рост-азяродзіна. Ды і натуры не жаночай. Плакала ж аднойчы на плячы ў яе, прызнавалася, што ўсё дзевачкай ходзіць. Ну, але тое даўно было, ужо колькі гадоў усе яны — што дзевачкі, порхаўкі старыя! Ды цьфу на тое! У галаву што ўзбрыло! Гэта ж Манька ўсё. Заўсёды так. Ледзь гаворка якая, дык так і зверне на нешта такое...

А вось жа — найлепшая яе, Тацяніна, сяброўка. З малалецтва самага сяброўка. Яна, Тацяна, дык і расла пад яе прыглядам і заступніцтвам, хоць Манька на нейкія два гады і маладзейшая. Манька яе на вуліцы нікому ў крыўду не давала. Калі якія падшыванцы чапіліся, як дзеўчынёхамі ўжо былі, дык Манька так адшые катарага, што дзесятаму закажа. Дарма, што дзеўка! Дужая і

ўвішная была Манька. Што казак той! Казаком жа і дражнілі. Яна, Тацяна, помніць, як яны з Манькай, не зважаючы на матчыны вокрыкі, пачалі патроху ацемнявацць на вуліцы, бегаючы па падаконню хаты-чытальні, у якой рыпеў гармонік і прагіналіся пад абцасамі маснічыны. Калі б не Манька, дык яна, Тацяна, наўрад ці і швэндалася б там да паўночы. Манька ўсё яе зводзіла...

Яно і цяпер Манька мае над ёю верх. Тацяна дык і звыклася з тым. Ці купіць што, ці зрабіць — да Манькі ідзе, нібы яна матка ці сястра. І шкадуе яе, як родную. Але цішком шкадуе. Бо скажы што Маньцы пра жаласць тую, дык рада не будзеш. «Мне яшчэ тваёй жаласці не хапала, трасцу табе ў бок!..» Чула Тацяна такое ад яе, не адзін раз чула...

— Слухайце, дзеўкі, прыходзьце вечарам у суботу да мяне,— шырокі, скуласты, троху рабаваты Маньчын твар яшчэ болей шырэе ва ўсмешцы.

— А што ў цябе ў суботу — кошка акоціцца?

— Угадала! Зноў брухатая, хай яна выпруціцца! — Манька ўжо зусім рагоча.— Толькі я, Танька, не жартую. Дзень нараджэння ў мяне. Роўна паўсотні лясне. Вось і пагуляем. У сяле такой завядзёнкі раней не было, але ж цяперака і мы можам, га? Пагуляем, дзеўкі!

Тацяна ажно галавой крутнула:

— Кажаш абы-што! Я во і не помню таго дня свайго.

— Ну і дарма! У горадзе штогод адзначаюць, а мы што — горшыя ці бяднейшыя?

— Ат! Каб пра што разумнае, дык і пагаманіць можна. А пра такое... Папалуднаваць, свінчаці даць — і глядзі, што Міця будзе ехаць.

— Каця, скажы ты ёй, што я дурное кажу?! — Манька тузанула за каптан Шулячыху.— На добры лад Куніцкі з парторгам тэлеграму мне павінны былі б адбіць і падарунак даць. А яна — «кажаш абы-што!». Паўста, дзеўкі, гадоў адгуляла на гэтым свеце ваша таварышка.

— Ага, адгуляла! Так адгуляла, што і валасы ссівелі ад гуляў тых, і рукі пакарчэлі, і ногі ад вузлакоў-жылаў папруцянелі.

— Дармо, Танька! І хай! А цяперака от і гульнём! Самы час! — Манька казала тое вясёла, але ўжо ранейшай весялосці ў голасе яе не было.— У суботу падоіце кароў і — да мяне!

— А няхай на цябе, мая ты Манечка! Рабі свае госці, калі ўжо табе так прыспічыла. Але ж пара не жджэ...

Павярнулася Тацяна, каб даёнку з лаўкі ўзяць, і — угледзела Рыту з Алачкай. Спярша дык і не пазнала. Ідзе нейкая кабета з дзіцём, а хто — не ўгадвае. І Каця з Манькай таксама абазналіся. Шулячыха дык сказала нават:

— Ці не Смалякова нявестачка? Іж ты на яе, штаны ўздзямбурыла!

А яна, Тацяна, глядзіць і вачам не верыць: якая ж нявестка Смалякова, калі гэта Рыта з Алачкай! І як нешта раптам у грудзях заныла, бы ўсярэдзіне нешта адарвалася. І думкі ні пра што благое не было, здаецца, а сэрца раптам нечага замлела, як спынілася.

Паставіла яна назад, на лаўку, даёнку, ступіла колькі крокаў насустрач нявестцы і ўнучцы — яны зусім блізенька былі,— прысела на дыбачкі пасярод вуліцы, рукі да малой выставіла:

— А хто ж гэта так харашэнька тэпае ножкамі? А чые ж гэта вачаняткі з-пад шапачкі бліскаюць? А чые ж гэта зубкі, чый раток так смяецца? А-а-а, гэта ж Алачка да сваёй бабкі прыехала! І разам са сваёй матачкай... Ну, хадзі, хадзі, хадзі ж да мяне, мая ты ласачка, мая ты кветачка ненаглядная! — Падхапіла Алачку на рукі, зноў загаманіла-засакатала: — Ну, дай жа бабцы буську... Ай, якая смачная буська! Дай жа і я цябе пацалую, мая ты ўнучачка! Во, во і во! І ў носік яшчэ, во, і ў лобічак...

Рыта стаяла побач — у блакітных, вузенькіх уверсе і шырокіх унізе, штоніках і ў каптанчыку ў чорна-белыя пасачкі, стаяла і, здавалася, збянтэжана, неяк скрыўджана ўсміхалася. Калі яна, Тацяна, урэшце апусціла малую з рук, Рыта адной рукой (у другой быў невялічкі пярэсты чамаданчык з маланкай-замком) абняла яе, дакранулася вуснамі да шчакі:

— Дабрыдзень, мама!

— Здрастуй, Рытачка! — яна таксама пацалавала нявестку.— А я саўсім не чакала. І ў хаце не прыбрала, і не прыгатавала нічога. Як жа гэта вы даўмеліся сярод тыдня?

— Надумаліся. Селі на аўтобус і прыехалі.

— Дык і дзякаваць богу! А ў аўтобусе хаця ж не цесна было?

— Не. Чалавек дзесяць усяго і ехала.

— Ну, то і добранька,— Тацяна папраўіла на галаве хусцінку, падабрала за вушы валасы, што выбіліся з-пад

грабянца.— Пойдзем жа, а то пасярод вуліцы прыпыніліся...

Каця і Манька ўсё стаялі ля яе, Тацяніных, варотцаў. Калі яны з Рытай павярнуліся да іх, Манька сказала:

— От бачыш, і нявестку з унучкай сустрэла. А то ж — настаяць не хацела.

— А не кажы! — Яна махнула рукой, узяла з лаўкі даёнку.— Пайшлі, дзеткі, у хату. Табе, унучачка, малачко во свежанькае, толькі што ад кароўкі...

— Чакай, Танька, дай жа хоць з малою паздароўкацца.— Манька прысела перад Алачкай.— Ну, што бабцы прывезла, кірпатая? Ці вы прывыклі толькі ад бабкі?.. На каго гэта ты падобна, га? І ў бацькі ж не такая бульбіна, і ў маткі во...

— Не слухай ты гэтай дурной цёткі, Алачка! — Шулячыха адпіхнула Маньку, ажно тая ледзь не гэпнулася азадкам у пясок, таксама ўкленчыла перад малой.— На самую сябе, скажы, я падобна. А бацька дзе, чаму разам не прыехаў? Ага, на рабоце ён? Ай, малайчына! Прыйдзеш заўтра да мяне, вунь мая хата, бачыш? — цукерку дам. Добра?

Манька хмыкнула:

— Патрэбна ёй цукерчына твая! Але ж во, скажы, і цыганё! Ні трошку не баіцца...

Рыта маўчала. Адно што паздароўкалася з жанчынамі, як падышла, а то маўчала, не азывалася ні на даччыну «бульбіну», ні на тое, чаму разам бацька не прыехаў, ні на гэта самае «цыганё». Стаяла і перакідвала з рукі ў руку пярэсты чамаданчык.

Маўчала і Тацяна. Глядзела на Алачку, на Рыту, слухала бабскую гамонку з малой, а ў грудзях тая трывога не міналася, што зварухнулася з першых хвілін сустрэчы. Твар нявесткі быў спакойны, нават быццам абыякавы, ды бянтэжылі яе вочы — нейкія не то заплаканыя, не то напалоханыя. Раней не бачыла яна такіх вачэй у нявесткі. Рыта ж у яе — весялуха-шчабятуха! Як Алёшка прывёз яе першы раз, дык жанчыны казалі ёй, Тацяне:

— Вясёлую дзеўку адхапіў сабе твой Алёшка. З такой не засумуе!

Яна і сама тое бачыла, і падабалася ёй нявестка за гэта, бо не любіла яна людзей-тумарнікаў, заўсёды насупленых і кіслых, бы яны пахавалі каго. А Рыта — як ластаўка тая. Што ні скажа, дзе ні ступіць — усё з усмешачкай, з радасцю быццам.

Палюбіла Тацяна Рыту. З першага разу ўпадабала, як угледзела. Зайшла Рыта ў хату — Алёшка яе першай цераз парог падштурхнуў, яшчэ і слова сказаць не паспела, а яна, Тацяна, кінула вокам і зарадавалася — быццам такой і жадала бачыць нявестку. Вось такой лёгенькай, пруткай, шустрай і вясёлай. І кабеты ўпадабалі Рыту. Казалі ёй, Тацяне, што бачылі, як Алёшка з ёй вуліцаю ішоў: адразу відаць, што любіць хлопца дзяўчына, бо не абы-як за ім пляцецца, а з гонарам ідзе, поплеч выступае. Тацяне тое было не ў адкрыццё, сама бачыла, сэрцам адчула, што любіць сына нявестачка, але слухаць было радасна.

Смех смехам, а вось жа ўбачыла ранічкою, падняўшыся Падласку падаіць і ў поле прагнаць, як спалі яе госцейкі дарагія: Рыта ляжала, уткнуўшыся носам у Алёшкавы грудзі,— убачыла, і прыемна было ёй тое. І Тэклю Жыляніну, сваю сяброўку партызанскую, успомніла. Гэта ж неяк напаткала яе ў краме, да павароткі на Замошша разам ішлі, дык Тэкля хвалілася-жалілася:

— Мой жа сабе дзеўку са свету прывёз. Яно, можа, і добра ўсё ў іх, а вось жа чуе сэрца, што не любіць яна майго Лёніка. Ну, скажы, Тацянка, дзе гэта відана? Кладуцца спаць, дык яна круць, ад Лёніка адвернецца да сцяны і спіць сабе. Я думала спярша, што мяне стыдаецца, пакуль святло ў хаце, ажно ж — не!.. А што гэта за жонка, калі змалада ад мужыка адварочваецца?..

Успомніла тую гаворку Тэкліну і ўсміхнулася сама сабе: яе нявестачка вунь як да Алёшкі горнецца! А ёй, матцы, што болей трэба? Абы любіліся, шанавалі адно аднаго.

Аднойчы толькі бачыла Тацяна нявестку заплаканай. На вяселлі. Наплакалася Рыта тады — ага! Алёшка спярша, за сталом яшчэ, суцяшаў, а пасля і ў яе, у Тацяны, на грудзях паплакала колькі. Цяперашнія ж маладыя не любяць плакаць на вяселлях. Калі і ўсхліпне каторая, дык толькі пад песню даўнейшую, жаласную. Але Рыта разжалобілася не пад песні, хоць жанчыны і напялі іх у сенцах тры мяхі пад завязкі. Маладую сват праслязіў. Тады, як дарыць пачалі, каравай дзяліць. Яна, Тацяна, ужо і сварылася пасля на свата.

— Дурны ты, Пятрусь,— казала,— хіба ж так можна? Ці ты сваё вяселле ўспомніў?

— Хацеў жа, Тацяна, як лепей. Каб разжалобіць гасцей, каб шчадрэйшыя сталі...

Гэта ж трэба! Падняўся за сталом, папрасіў цішыні і пачаў гнусявіць, быццам над нябожчыкамі:

— Дарагія госцейкі, абдорым маладую і маладога, так як яны завязваюць сёння сумесную супружную жызню і так як абое яны сіроты горкія і ні яму, ні ёй татачка з мамачкай не прыдбалі нічагуткі...

Вось і расплакалася тады Рыта. І не так ад жаласці, той, як ад сораму — пра тое Алёшка ёй потым сказаў. Ёй, Тацяне, дык і не вельмі да душы прыйшлося тое. Спярша была і падумала пра сарамлівасць нявестчыну: бач ты, багатырка знайшлася!.. Ды пасля адумалася: перад людзьмі яно нібы і няёмка. Быццам без тых падарункаў Алёшку і Рыце не было б за што рук зачапіць. А бо! Капейка, вядома, прыгадзілася, але ж... І без яе б абышліся! Яна, Тацяна, дык і зусім не хацела таго дарэння: каб потым не казалі, што дзеля яго і вяселле рабіла. Ды Манька ўгаварыла. Сказала:

— Не выдумляй!Бацька з маткай сына жэняць, і багацейшыя, табе не раўня, а не адмаўляюцца, кожнаму пакладзенаму рублю жадны, а ты будзеш адмаўляцца! Хоць расход свой трохі апраўдаеш!

Яна і паслухалася. Анягож! Патрацілася нямала. І падсвінка закалола, і цялятка купіла, бо свайго ўжо здала была, і гарадскіх прысмакаў розных накупляла. А пітво адно колькі пацягнула?.. І хапіла ўсім, ніхто не пайшоў у крыўдзе... Не, няма чаго бога гнявіць, вяселле было — не горай, чым у людзей...

Схамянулася Тацяна ад успамінаў, на Кацю і Маньку ледзь не прыкрыкнула:

— Хопіць вам дзіцяці назаляцца!

Манька паднялася, атрэслася:

— Вядзі, вядзі ў хату, частуй сырадоем цыганё гэтае! — Узяла з лаўкі вядро і, не сказаўшы больш ні слова, памаршыравала вуліцаю.

Каця таксама пашлэпала да сваёй хаты.

Тады яна, Тацяна, скінула ўрэшце кручок з прабойчыка, адчыніла варотцы-веснічкі, прапусціла наперадзе сябе Рыту з Алачкай. Пасля ўжо забрала з лаўкі даёнку. Зачыняючы за сабой варотцы, казала Рыце:

— Ідзіце, ідзіце ў хату, замочак проста так вісіць, для чужога вока...

У хаце яна замітусілася — як бы нялоўкасць нейкую адчула перад нявесткай за непарадак. Яно, сказаць, дык чэрці і не пагулялі, але ўсё адно. Яна не любіла вэрхалу

і пільнавалася чысціні і парадку. А сёння як знарок тое выйшла, што нават міску, сподак, відэлец — як снедала раніцою — са стала не прыбрала: Міця якраз запіпікаў на вуліцы.

— Вы йдзіце на чыстую палавіну пакуль. Распранайцеся, аддыхайцеся з дарогі. Ты ж ведаеш, Рытка, дзе там што. У шуфлядцы, у правай, тэпці якія знайдзі, хай ногі адыдуць, а то ў гэтых клумпах адзеравянелі, пэўне... А я хуценька малачко працаджу і перакусіць чаго пашукаю.

І зноў жа — неяк уразіла яе тое, што Рыта не азвалася ні словам, цішком пайшла з Алачкай на чыстую палавіну, і ад таго ў яе не тое што не праходзіла, а ўзрастала тое першапачатковае ўтрапенне-трывога. Яна адмахвалася ад думак пра нешта благое, ды яны ўсё адно не прападалі, сядзелі ў галаве.

Працадзіла яна малако, наліла адзін гладыш, паставіла на табурэтку ля прыпечка — «пасля ў ваду апушчу», другі, меншы,— на стол. Злазіла на гарышча, адрэзала ладнаваты, на пядзю, брус палядвіцы, кавалачак — «каб зара́з з'есці, а то зваляецца» — кумпяка, выбраўшы больш любовы бок, выцягнула з печы бляху, на якой жаўцеў падсушаны сыр, збегала ў кладоўку па яйкі і масла, запаліла ў сенцах керагаз і ўзбіла на патэльню некалькі яек. Пашкадавала, што нічога не паставіла раніцою ў печ — ні булёну якога, ні тушанкі, было б добра цяпер падаць на стол чаго гарачанькага... Ну, але такой бяды, увечары ўжо прыдумае што, а цяпер хопіць перакусіць. Зняла з патэльні покрыўку, наліла на яйкі смятаны — Рыта любіць яйкі ў смятане, пачакала, пакуль смятана забулькала, пускаючы вакол жаўтлявыя скалачкі, урэшце прыкруціла керагаз, узяла патэльню чапелькай-ручкай, панесла ў хату. Ля стала таксама трошку пастаяла — ці не забылася чаго? Мо віно дастаць? Дурная завядзёнка, толькі ж... Шмыгнула за перагародку, дастала з шафкі пляшку віна, паставіла на сярэдзіну стала. Вось цяцер, здаецца, усё.

Пайшла на чыстую палавіну. Рыта была ўжо ў халаціку. І Алачку пераапранула — зняла з яе камбінезончык з замочкам, адзела чырвоную сукеначку ў белыя гарошынкі.

— То пайшлі, дзеткі, за стол. Вы ж з дарогі, праглядаліся, пэўне, ды і я ўжо вымерхалася...

За сталом гаманіла з унучкай:

— Еш, дзіцятка. Каб усё чысценька з'ела, а то баба будзе злаваць. Падумае, што Алачцы ў яе ўсё нясмачна... А ты, Рытачка, чаго сядзіш? Даставай во мяска, сыр... Ці яешню падцягвай. А мо сырое яйка прынесці?

— Не, мама, дзякую. Вы не турбуйцеся, мы і не галодныя надта.

— Як гэта — з дарогі і не галодныя? Ешце от! Ай, саўсім дурная зрабілася! Паставіла і забылася. Давай жа мы з табой віна пакаштуем. Волька, крамшчыца, казала, што салодкае, бабскае.

Яна здзерла нажом з бутэлькі металічную покрывачку, наліла ў шклянкі віна:

— Давай, дачушка, за ўсё добрае!

Рыта раптам заплакала:

— Няма, мама, нічога добрага. Няма...

Яна і чарку апусціла: вось яно, чула яе сэрца! Быццам не верачы ў тое, што пачула, спыталася ці не шэптам:

— Што ты кажаш, Рытачка? З Алёшкам што?

Рыта, змахнуўшы пальцам слязу, уздыхнула:

— Нічога, мама, жывы і здаровы... Толькі ў нас з Алачкай няма ўжо Алёшкі. Няма, мама!

Сядзела яна за сталом, глядзела на нявестку і нічога не разумела. Як гэта — няма? Што яна кажа? Праглынула камяк, перапытала:

— Ты толкам скажы, што з ім. Як гэта — нямашака? А дзе ж ён?

Рыта падняла галаву, зірнула на яе ва ўпор і выпаліла:

— Скруціўся ваш Алёшка! Да другой пайшоў! Вось...

Адняло язык у Таццяны. Хоча нешта сказаць і не можа. Глядзіць на Рыту, сіліцца сказаць, а язык не слухаецца. Ці ж можна даць таму веры? Яе Алёшка... скруціўся? І няўжо гэта Рыта сказала пра яго такое? А людцы мае! Як гэта можа быць, ні з таго ні з сяго? Млосна ёй, ажно ногі пад сталом абмяклі, бы не свае.

Урэшце перасіліла сябе, наўздзіў спакойна сказала:

— Супакойся, дачушка, не трэба так... пры Алачцы. І саўсім не трэба. Пасля пагаворым. А цяперака еш. І віна выпі. Брэшуць, што супакойвае яно, але выпі, дадушка!

Маўчала Рыта. З чаркі трошку глынула, паляндвіцы скрылёк пачала жаваць. Моўчкі глынула віна і яна, Та-

цяна. Думала, што пасля яго мо з'есца што, ажно — не, нічога ў рот не палезла. Пасядзела за сталом, кавалачак скуры ад кумпяка пасмактала і паднялася. Рыце сказала:

— Ты — еш! І не думай аб тым. Стол пасля абрусам захіні, каб кот не палазіў. А мне трэба свінчаці даць, бо на сцяну ўжо лезе, а і Міця ж скора запіпікае...

Пабегла ў гарод, нарвала бацвіння, ужала на ўзмежку жменю крапівы, замяшала ў сенцах. Занёсшы мешанку ў хлеў, зняла з плота вядро, збегала да студні. Не хацела ў хату пакуль заходзіць, каб лішні раз на вочы нявестцы не лезлі — «хай хоць з'есць што!», ды ўсё ж мусіла — гладыш у ваду апусціць. Зайшла, а Рыта ўжо і стол закрыла.

— Чаго ж так, дзіцятка? Ці пад'елі хаця?

— Дзякую, мама, наеліся.

— Так і наеліся!

— Наеліся, мама. А дачка ажно два кубкі малака выпіла. Салодкае, казала.

— Малачко добрае, праўда. Хто ні піў, дык усе казалі, што і салодкае, і густое. І вяршок добры. За гэта і Падласку трымаю... Толькі Алёшка адвык ужо. Кажа, магазіннае лепшае...

Сказала тое і пашкадавала: навошта было пра Алёшку? Як хто за язык цягнуў! Каб неяк загладзіць нялоўкасць, хуценька загаманіла:

— А цяперака, Рытачка, бяры малую і ў садок ідзіце. Посцілку вазьміце, у шафе на ніжняй палічцы. Расцяліце і паляжыце. Мо і паспіце з дарогі... Я зараз сама дам, а то ты шукаць будзеш...

Пакуль шукала і даставала з шафы посцілку, жанчыны за акном загаманілі — пэўна, ехаў Міця. Накінула на галаву хусціну і, выбягаючы з хаты, яшчэ раз наказала:

— Ідзіце ж у садок! Бо ў хаце мо і муха якая завялася, і духата, сонца якраз у вокны смаліць...

У кузаве яна маўчала. Усё старалася думку сваю спаваць, ды збівалася: бабы і дзеўкі як не пашалелі ад рогату і віску. Раскешкаліся, бы квактухі, у сене (Міця здагадаўся ўкінуць некалькі ахапкаў) і рагочуць абы з чаго, як дурныя. Шулячыха ўзяла з сабою пару агурочкаў (пэўна, сын каторы прывёз, бо сваіх няма яшчэ), а тут

нейкая рапуха кульнулася цераз борт і ботам-гумовікам па тыя агурочкі,— вось і рагочуць, ажно заходзяцца.

Ёй было не да смеху. Пра чужога чуць такое — радасць невялікая, як кажуць, а тут — пра Алёшку. Ды ад каго? Хто, каб веры даць, набрахаў ёй пра тое? Каб жа хто чужы! А то — нявестачка. Прыехала і такую радасць матцы прывезла. Яе Алёшка — скруціўся! Яе Алёшка? Рыту крыўдзіць, Алачкі выракся? Не, не можа таго быць! Мо паспрачаліся, пагарачыліся. Вядома, маладыя. Ён — адно слова, яна — два... А маткі побач няма, каб прыкрыкнуць на каторага ці на каторую, хваста накруціць. Вось табе і пасварыліся назусім. Ні дзеці ім ужо нішто, ні тое, што людзі падумаюць...

Пэўна, нешта такое і ў Рыты з Алёшкам было. І, пэўна ж, несур'ёзна ўсё гэта. Мо што і сказаў Алёшка ў злосці, а Рыце ўжо і другая прымроілася. Бо дай ты веры! Калі ж гэта яны ўдваіх прыязджалі да яе? Ці не перад жаночым святам? Але ж! Ёй жа, Таццяне, яшчэ і падарунак прывезлі — будзільнік. Харошы такі, быццам куфэрачак. А блішчыць — хоць ты ў яго глядзіся. І не звініць, а іграе, барыню вызвоньвае. Яна першыя дні ніяк прывыкнуць не магла — падхопіцца спрасонку і ў акно пазірае: хто гэта там іграе... Дык хіба ж бы яна не прыкмеціла, калі б што? Калі б і праўда між імі кошка прабегла? Ці ж яна сляпая альбо не матка ім? Дзіця ад маткі не схаваецца, не! А яна ж помніць: усё добра было тады між імі. І гаварылі лагодна, і жартачкамі ўсё перакідваліся... Хаця, здаецца, Рыта не надта на яго жарты агукалася, усё больш з Алачкай загаворвала. Так, так, ці ж яна не помніць! І спаць жа яна, Рытка, лягла раней. Сказала — Алачку прыспаць. А раней жа ніколі адна не кладася, Алёшку чакала. Алачка, дзіця тое залатое, заўсёды сама засынала. Пакладзеш яе, пагугукаеш над ёй, вось дзяўчынка і спіць. А то ж...

Але мо ўжо гэта і здаецца ёй? Абы-што вярзецца! Цяпер і тое трызніцца, і другое. А тады дык і думкі мо ні пра што такое не было. Пачні во так, дык ліха яго ведае, да чаго дадумацца можна. Галава кругам пойдзе. А ці ж варта прыплятаць тое, чаго не было? Ці ж яна Алёшкі свайго не ведае? Ці ж ён сам не гадаваўся без бацькі, каб на такое рашыцца? Не, хто-хто, а яе Алёшка — нізавошта! Вачэй у сабакі пазычаць не пойдзе, не!

І нібы супакоілася Таццяна троху. Быццам трывога, прадчуванне благога недзе глыбей схавалася. Ды на сэр-

цы ўсё роўна цяжка. І ў скронях ціснe. Яна, пэўна, з твару зблажэла ўся. Бабы, праўда, нічога не заўважылі праз рогат свой, а Манька — угледзела. Яна пазней села, ужо ля самага задняга борта прыткнулася, далёка ад яе, Тацяны, але як толькі злезлі, так і да яе:

— Што з табой, Танька?

— А што? — як мага абыякава перапытала яна. Яшчэ ў кузаве седзячы, наважылася пакуль што нічога не казаць нават Маньцы: а можа ж, усё тое выдумка, сварка дзіцячая?

— Ты, дзеўка, не залівай! Ці ж не бачу? Скуксілася ўся! — Манька шэптам тое, каб бабы не ўчулі.

— Нічога, Манечка, мо на сонцы перагрэлася. Галава нешта разбалелася.

— Дык а чаго паперлася?

— А бо! Пабаліць і перастане. Ці ж упершыню?

— Глядзі, дзеўка! Мо і галава, ды не ад сонца. Як учадзелая ты нейкая.

— Ат! Шчаўя насёрбалася, а во на машыне пратрэслася... Пайшлі, бо ўжо вуньдзека бабы!

— Трасцу табе ў бок, а няпраўду кажаш! — Манька паперадзе пашыбавала, граблямі размахваючы.

Толькі пачалі варочаць сена, як пад'ехаў на матацыкле Пётра-брыгадзір. Паставіў свайго траскуна на крывульку-нагу, задраўшы яму лыч, махнуў кабетам:

— Ідзіце сюды!

Першая Манька падышла і, як заўсёды, пачала:

— Па лузе во гойсаеш, па ржышчы, а бруха ніяк не растрасеш!

— То ж не кісель, як у Каці вунь.

— А ты хацеў, каб у цябе бабскі каўбух вісеў?

— Які вісіць, такі і добра! Мне ён не замінае, і хопіць увагі майму жывату... Вось што, бабы і дзеўкі. Варочаць не трэба. Нешта барометр падае, каб дажджу не нагнала... Дык гэта давайце ў копы. Раскідаць пасля і падсушыць няцяжка будзе. А ты, Тацяна, ты, Манька, і вы абедзве,— ён тыцнуў пальцам на дзвюх Адарчыных дзевак-пярэстарак — Францусю і Марусю,— гайда пад Карчаватку. Стог там будзем кідаць, дык вы будзеце за грабілкай падграбаць. Ясна?

Пётра завёў і асядлаў свайго траскуна і панёсся напрамкі, па сене, якое яны варочалі да абеду, пад Карчаватку. Пайшлі туды і Манька з дзеўкамі Адарчынымі, і яна, Тацяна.

На гэтым канцы лугу, ля Карчаваткі, было тлумна. Перагукваліся мужчыны, мосцячы стажар'е, вурчаў стагаскід, трашчаў, бы Пётраў матацыкл, трактарчык-бегунок, сноўдаючыся сюд-туд з грабілкай... Ды яна, Тацяна, тое чула і не чула. Галава была занята сваім. Падграбала яна каслаўкі сена, што аставаліся пасля ўвішнага бегунка, і ўсё аб тым жа думала, што і ў машыне. Неяк надта ж знячэўку звалілася на яе гэта ўсё. Не думала і не гадала ніколі, што праз такое галава будзе балець у яе. Гэта ж каб яшчэ спачатку, неўзабаве пасля вяселля... А то ж — Алачцы трэці гадок пайшоў, Рыта сваім чалавекам стала, усё адно як і роднае дзіця. Ды пэўна ж — чаму не роднае? Яна, Тацяна, дык прывыкла да Рыты за гэтыя гады мо больш, чым да Алёшкі таго. Пра ўсё — што купілі, прыдбалі там, як на кватэры той, ці гаспадыня не крыўдзіць часам — пра ўсё ж гэта найперш з Рытай перагаворыць. Па-бабску, па-простаму. Алёшка ўжо як быццам і збоку. Яму то часу няма, то паляўнецца, то яшчэ якая трасца, а нявестачка калі не кожнай суботай, то праз адну — да яе, да Тацяны. А як тоўстая хадзіла, дык і зусім жыла ў Тацяны. Тут жа і Алачку нарадзіла. Алёшка ў горадзе быў, яму тэлеграму давалі. Яна, Тацяна, ажно плакала, як Рыта з малой ад'язджала. Прывыкла, што ў хаце чалавек ёсць, не адна. Ёй жа і палёгка тады была, мала што Рыта з малой няньчылася. Гэта ж не дзеўка, а агонь! І малую дагледзіць, як ляльку тую прыбірала, пялёначкі ды распашоначкі штовечар перапалошча і па хаце колькі работы пераробіць. Пакуль яна, Тацяна, з работы, дык Рыта і парсюку занясе, і бульбы наабірае, і ў грубцы запаліць, і вады трое судоў наносіць, каб і карове хапіла, і на раніцу было... Не, такую ўжо нявестачку бог даў ёй, што пашукаць. Усе бабы зайздросцілі... І вось, на табе, цяпер хай пазайздросцяць! Гэта ж учуюць, дык хоць вачэй не паказвай...

— Ну як, дзеўка, галава твая? — гукае Манька.

— А хай цябе, ажно спалохалася! Дзякую, Манечка, адпусціла быццам,— Тацяна спахопліваецца.

Манька падыходзіць бліжэй — чуваць, як шлэпаюць па худых Маньчыных лытках шырокія халявы гумовікаў — і кажа ўжо спакайней, без заўсёднай сваёй грубаватасці ў голасе:

— Дык што, Танька, нявестачка? Хіба што благое прывезла?

Маўчыць Тацяна хвіліну, бы вагаючыся, казаць ці не

казаць. Ад Манькі нічога не ўтоіш. А й чаго ўтойвацца? Не языкатая Манька. Тады, як з машыны злезла, не сказала нічога не таму, што баялася — разнясе Манька. Проста не магла сказаць. Надта ж тое было — бы снег на галаву, быццам яе хто абухом аглушыў... Уздыхнула, прамовіла:

— Благое, Манечка. Сказала, быццам Алёшка да другой пайшоў.

— Алёшка?

— От жа і павер!

— Ну, дзеўка, і радасць табе прывезла!

— Ды ўжо ж...

— А што, чаго раптам? Харашэйшую знайшоў?

— Не ведаю, Манечка. Не гаварылі... І я расстроілася, і яна збалелая ўся. Толькі плача. Мо вечарам раскажа што...

— Забі мяне пярун на гэтым месцы — нікому б не паверыла! Усё ж так добра ішло ў іх. І Алёшка... Няўжо на якую сучку паквапіўся?!

— Што ты кажаш, Манька!

— А хіба ж бы добрая дзеўка адбівала мужыка ў другой?

— Хто ж яго ведае, што там і як... Пэўне ж, і сам у пятніцу прыедзе.

— Дык мо і да галавы не бяры надта? Можа, яшчэ і не парашона ўсё ў іх?

— Дай жа бог! Я во кажу табе, а сама не веру ўсё...

— Дзе ж ты паверыш! Гэта ж не чужое...

Пастаяла Манька, галавой паківала, пайшла далей грэбацца. І яна, Тацяна, таксама ўзялася за граблі, камяк у горле каўтануўшы. Пагаварыла з Манькай, і быццам лягчэй на душы зрабілася. А з кім жа яшчэ ёй пагаварыць? Няма з кім. Няма больш нікога ў Тацяны. Бацька яшчэ да вайны памёр, матка — па вайне ўжо, на пятым годзе, Алёшка яшчэ зусім малеча быў. Брат быў яшчэ, дык вайна забрала. Загінуў у апошнія дні, перад прыходам нашых. Разам, у адным баі з яе, Тацяніным, мужыком... Мужыком... Не паспела яна прывыкнуць да гэтага слова. Што ж тады казаць пра іншых? Яна ведае, пасміхаліся ў сяле з яе замуства. Гэта цяпер аціхлі, бо колькі часу мінулася, а тады, па прыходзе нашых, уга як пацяшаліся. І не толькі бабы, а і мужчыны каторыя. Нават Пііп-нябожчык, хай яму добра будзе, падцінуў быў яе, хоць і старшынёй сельсавета рабіў. А хіба ж яна

вінаватая? Ці Пецька яе? Каб ацалеў у той калатнечы, дык ці пасмеў бы хто што сказаць, а так, вядома...

«Партызанская нявеста...» Гэта пра яе, Тацяну. Быццам гэтым крыўдзілі яе, зневажалі. Што з дурняў возьмеш! А мо яна ганарыцца такой сваёй мянушкай? Была і нявестай партызанскай, і жонкай. Партызанскай, вядома, бо Пецька Раманкевіч кім быў, калі не партызанам? Ого, яшчэ якім партызанам. Падрыўніком! Толькі на чыгунку і хадзіў з хлопцамі... Дык на тое, што яна жонкай была, забыліся, нават верыць не хацелі, як Пілiп той, а пра нявесту — помняць! Хай. Ад гэтага ёй ні млосна, ні вусцішна. Пецька Раманкевіч быў яе мужыком, і галасіла яна па ім, як і ўсе іншыя бабы па сваіх гаспадарах галасілі. Галасіла ў той дзень, калі ўсе радаваліся, весяліліся, абнімаліся і цалаваліся,— тым днём праз іхнія Жылічы ішлі на захад, у тую праклятую Германію, нашы... А яна, Тацяна, галасіла. А побач з ёй млела і матка — разам з Пецькам Раманкевічам хавалі ў той дзень і іхняга Пецьку, яе, Тацянінага, брата. Яго таксама Пецькам звалі. Мо з аднаго кулямёта і скасіла іх абодвух. Аднаму грудзі і жывот прашыла, і другому гэтаксама...

Яна, Тацяна, на свой бабскі розум дык і не мірылася з тым, што паперліся яны ў той свой апошні бой. Не, не толькі яе абодва Пецькі, а ўсе партызаны. Чаго ўжо ім так трэба было ісці туды? Толькі з блакады выйшлі, радаваліся б, што ацалелі ў тым пекле, дык — не! «Паможам нашым немчуру вытурыць з райцэнтра!» Вось і памаглі. А немчура тая і без іх там бы не ўседзела, бо яе з усіх бакоў падсмальвалі...

А яна ж, Тацяна, як рада была, калі ўбачыла Пецьку пасля блакады жывога і нават непараненага. Гэта ж усё разам былі, і ў балота тое бясконцае разам адыходзілі, рассталіся мо на пятнаццаты дзень, калі іх — жанчын, дзяўчат, дзяцей — павёў у аднаму яму вядомае месца Банадысь з Замошша, бацька Тэклі Жылянінай, а ўсе мужчыны і хлопцы пайшлі на злучэнне з іншымі атрадамі, каб разам прабівацца за шашу. Банадысь, хай яму мякенька ляжыцца, харошай душы быў чалавек. Гэта ж каб не ён, то ці і выжыў бы хто з іх. І вывеў усіх, дзяцей на плячах выносячы, і ад голаду ўратаваў. Яна, колькі жыць будзе, не забудзецца, як Банадысь, наказаўшы ўсім сядзець ціха, бы і знаку іх тут няма, знікаў кудысьці наўперад ночы, а пад раніцу паяўляўся з клункам за пля-

чамі, у якім быў то бохан хлеба, то пара гарцаў мукі на зацірку, а то і скрылік сала. Гэтак і выцыўкалі, пакуль ужо можна было смялей з балота нос высунуць, бо немцам ужо не да блакады зрабілася.

Вось тады яна і сустрэла Пецьку свайго. Самой сябе не бачыла, не думалася пра тое, што высахла-ўчарнела ўся, а Пецьку згледзела — зжахнулася: скура ды косці. А зарос, што і не пазнала адразу, сам яе аклікнуў. Ён і так быў не надта каб ёмкі хлопец, а то ж зусім як дзіця — так высмактала з яго ўсё. Толькі рукі выдавалі, што не падлетак, а мужчына ўжо — доўгія, і далоні вялікія, не па-дзіцячы шырокія. Толькі нейкія два ці тры дні і адсыпаўся-ад'ядаўся. Пасля паўночы пайшлі, а ў полудзень прывезлі іх, знерухавелых ужо...

«Мой жа ты Пецечка!..»

Мо і не ўголас вымавіла яна гэтыя тры словы, мо толькі падалося ёй, што варухнула языком знячэўку, але — ажно здрыганулася ўся, і не ад таго, што сказала, што мог учуць яе хто, а ад таго, што магла тое сказаць. Даўно ўжо яна не турбавала яго вось так, каб паклікаць ці ўздыхнуць па ім, быццам па жывым. І ад гэтага яшчэ болей зніякавела і зноў, ужо, напэўна, зусім наяве, паўтарыла:

— Мой жа ты Пецечка!..

Колькі разоў было з ёй: сядзе залатаць што ці кіно якое па тэлевізары паглядзець і задрэмле неўспадзеўкі. Колькі таго і сну, толькі раз-другі дзеўбане носам, а за тую хвіліну прысніцца такое, што дзіву даецца: як тое ўсё магло мільгануцца ў галаве? Так і зараз. Вымавіла гэтыя тры словы, а ў памяці, нібы бліскавіцай, высвеілілася ўсё яе жыццё з Пецькам...

Быў красавік — бурны, імклівы. Ён быццам спяшаўся нагнаць тое, што не паспеў зрабіць першы вясновы месяц — сакавік. Той быў маруда і надта ўжо нясмелы. Выблісне на дзень-другі пяшчотным сонцам, дыхне ласкавым, а як на ўгрэве дзе-небудзь дык і зусім цёплым — нібы з грубкі пасля начы — подыхам, пусціць шчодрую слязу з дрэў, з прыстрэшшаў зямлянак, часам нават на булькатлівага ручайка-жэўжыка не паскупіцца, а пасля неяк раптам збянтэжыцца, засаромеецца гэтае свае ласкавасці, ахінецца коўдраю нізкіх хмар, і наўкола зноў ледзь не на поўную моц, ды яшчэ з прымешкам крыўдлівай

злосці, ягоны старэйшы брат — люты: так і віхурыць, так і млее звесці на нішто работу малодшага. А красавік — упартага нораву хлопец. За нейкі тыдзень спусціў снег і ваду ў рэчкі, запаліў жаўтлявыя свечачкі на вербах, падсушыў вышэйшыя грудкі. І птушак збудзіў. Заценькалі, заспявалі на розныя галасы, дружна і заўзята...

Не яе, не Тацяніны, гэта словы. Гэта Пецька мог іншым часам наплесці такое. Як разгаворыцца, дык толькі слухай. І пра птушак тых... Смешна казаць, але ж яна, хоць і вырасла ў лясной старане, не навучылася адрозніваць, якая з іх ценькае, а якая пазвоньвае, быццам з вышыні кідае ў чыстае крышталёвае азерца кроплю за кропляй. Яна адно знала, адчувала, што лес павесялеў і што весялосці гэтай надалі яму тыя птушыныя ценьканні і званочкі-пасвісты.

Той красавік і парадніў іх...

З Пецькам яна дружыла даўно, яшчэ з давайны. У школу разам хадзілі. Пецька ў іхнія Жылічы з Замошша бегаў. У школе, праўда, нічога такога між імі не было — сямігодка ўсяго, пахінуліся адно да аднаго праз гады два, як ужо на вечарынкі пачалі зазіраць. Яна спачатку не вельмі каб і гарнулася да яго — нейкі ж узвейвецер быў Пецька Раманкевіч. Казалі, што па бацьку пайшоў, усе кропелькі пабраў. Кастусь Раманкевіч, бацька яго, і ў пяцьдзесят мог аблатошыць з падшыванцамі яблыню ў чужым садзе. «Стары, а дзяцініцца!» — казалі пра Кастуся Раманкевіча. Ну, а які бацька, такі і сын. Яно нібы і праўда. Іншыя падлеткі са скуры вылузваюцца, каб пад старэйшых падрабіцца — самакрутку пацмыгаць, а то і чарку дзе панюхаць, а Пецька наадварот — гарэзаваў, быццам яму не шаснаццаць, а нейкіх дванаццаць. Ну, але гэта толькі на людзях. З ёй жа рабіўся надзіва маўклівы і ціхмяны. Мо гэта і падабалася ёй — улюбіўся, значыцца. А мо і проста прывыкла. Так ці інакш, той апошняй перад вайной вясною яна з Пецькам ужо дружыла «сур'ёзна» — Кастусь Раманкевіч пры стрэчы зваў Тацяніну матку не інакш як сваццяй.

Хто яго ведае, як бы ўсё павярнулася, калі б не вайна. А ці да дружбы-любосці было тады? Па першым часе як анямелі ўсе, усё болей ля дому аціраліся. Пецька некалькі разоў паказваўся, праўда, у Жылічах, але не настырваўся, каб сустрэцца. Быццам у сне, мінуліся лета, восень і зіма таго сорак першага. А ў сорак другім, пад восень, Пецька Раманкевіч нават і ў хату да іх пачаў

заходзіць. Быў ён тады ўжо ў атрадзе і часам, больш начы, то адзін, то з дружкамі наведваўся ў Жылічы. Матка дык і злавалася на гэтых запаўночнікаў: посцілкі збірай, каб вокны завесіць, перакусіць што шукай — галодных жа з хаты не выпусціш, адкуль прыйшлі і куды пойдуць — хто іх ведае. Матка пабурчыць-пабурчыць, але і пакорміць, і анучы сухія, мякчэйшыя і цяплейшыя, дасць замест каравак, а калі надаралася, дык і па чарцы самагонкі паставіць — каб цяплей было пасля.

А неўзабаве ў маткі і зусім злосці не стала. Гэта як Раманкевіч звёў з сабою іхняга Пецьку. Пачуе шкрэбанне ў шыбіну і хутчэй бяжыць адчыняць: а можа, і яе Пецька пад акном стаіць? Праўда, іхні Пецька рэдка калі зазіраў дахаты, па нейкіх іншых дарогах хадзіў, але матка ўжо і на Раманкевіча злосці не мела. Адно што прывыкла, а яшчэ і думала: можа, і яе Пецька вось так у чыю хату шкрэбаецца?

Гаварыў Пецька Раманкевіч і з ёй, Тацянай, бываючы ў іхняй хаце, але не пра дурноцце рознае, пра што хлопец з дзяўчынай загаворвае, а пра тое, што на свеце робіцца, як яны немцаў лупяць, як жывуць там, у лесе. Ад Пецькі і пачула яна, што ў лесе ёсць жанчыны і дзяўчаты, што многія з іх нароўні з мужчынамі і хлопцамі ходзяць на заданні. Пасля аднае такой гаворкі і падумала: а што, калі і самой туды? Дома аціраца, дык яшчэ ў Германію забратаюць. Перад маткай не заікнулася, ведала, што і слухаць не захоча, а Пецьку — прызналася. Ён зарадаваўся:

— Правільна! Я даўно хацеў табе сказаць, ды маткі пабойваўся. Я пагавару з начальствам...

І восенню сорак трэцяга апынулася яна ў атрадзе, у лесе за Сярпілавічамі, кіламетраў пятнаццаць ад Жылічаў. Матка, вядома, і сварылася, і кляла, і плакала, а пасля не стрывала:

— Галавой ты налажы! Да Пецькі захацела? Ну дык і ідзі, калі ў цябе сораму няма шака! Калі табе матка не матка, не шкода табе яе...

І загаласіла па ёй, як па нябожчыцы.

Плакала і яна, Тацяна. Але хіба яна маткі сваёй не ведала? Праклінаць-то праклінала, але калі цёмнай верасьнёўскай ноччу ішла яна з Пецькам у лес, дык матка і сабрацца памагла, і хустку сваю — яшчэ дзявоцкую, су-

конную, у чорныя і чырвоныя клеткі, з кутасамі, купленую некалі ў Барысаве,— аддала ёй, і торбачку паладавала.

Адно прасіла:

— Глядзі, дачушка, галавы не губляй. Дзе не трэба — не лезь. Ведай бабскае дзела — зварыць, за параненым пахадзіць. А вінтоўкі і ў рукі не бяры, бо яна, кажуць, раз у год і так страляе, а не ўмеючы, дык ці далёка да бяды?

Сказала яна тады:

— Добра, мамачка, не думай нічога благога, глядзі сябе.

А матка толькі галавой крутнула:

— Ат, што са мной зробіцца! Хіба які сабака збрэша, што дзеці ў лесе... Але ж во пакуль абыходзілася, дык мо і абыдзецца...

Не паслухалася Тацяна і таго апошняга мацерынага наказу. Напачатку, праўда, пры лагеры была — на кухні, у лазарэце, а потым і ў разведку хадзіла, і ў засады. А што ж? Хіба яна горшая за тую Тэклю Жыляніну, якую напаткала ў атрадзе? Тэкля раней у атрад прыйшла і такой партызанкай зрабілася, што дай ты веры! Валасы абрэзала, штаны надзела, боты, кубанку — ніхто і не скажа, што дзяўчына. І імя свайго выраклася — Фенькай назвалася, а дзе ў чужой, незнаёмай вёсцы, дык і Федзем сябе называла, быццам яна і напраўду хлопец. Няхай гэта і не вельмі было па душы Тацяне, але затое зайздросціла Тэклі ў іншым — смелая, баявая яна была. Яшчэ і хлопцам каторым за ёй было не ўгнацца, калі на чыгунку ці на шашу хадзілі... Скора і яна, Тацяна, ад яе не адставала. І з вінтоўкі страляць навучылася, і з нагана — за колькі крокаў у сасну цаляла. З Тэкляй яны здружыліся неўзабаве. Найчасцей разам у разведку хадзілі. Толькі Тэкля ўжо хлопцам не прыкідвалася, апраналася, як і Тацяна, пад жабрачку-пагарэлку...

Пасля, як успаміпала калі-небудзь Тацяна тое, дык ажно дрыжыкі яе праціналі: як гэта яны тады не баяліся? Колькі страху было наўкола, а яны ж, дальбог, і не зважалі. Што значыць — маладыя былі! Не бяздумныя яны былі з Тэкляй, ведалі, куды і на што ідуць, ды ўсё адно аб небяспецы не думалася. Не хацелася думаць. Як гэта з імі можа што здарыцца? Хто-небудзь іншы, вядома, можа і на засаду напароцца, і на благіх людзей нарвацца, але — не яны з Тэкляй...

І вось жа скажы — абышлося, не напароліся і не нарваліся. Мусіць, ужо планіда іхняя такая — ацалець — была. Бо вунь жа — і Раманкевічу Пецьку, і іхняму таксама доўга шанцавала, а напаткалі смерць сваю, калі ўжо і не думаў ніхто аб тым...

Там, у партызанскім лесе, і палюбіліся яны. Пецька дык і раней, ведала, любіў яе. А сама пахілілася да яго толькі там, у лесе. Мо і раней трошку, як яшчэ дома была, а ён сяды-тады заходзіў да іх, пачала яна глядзець на Пецьку іншым вокам, але сэрца трымцець пачало там, у лесе. Па першым часе і верыць таму не хацела. Думала: ці да таго цяпер, ды хіба яна і Пецькі не ведае, ветраніка гэтага? Але ўсё часцей зазначала сама сабе, што не той, не ранейшы Пецька Раманкевіч, што паявілася ў ім і разважлівасць, і сталасць, і нават суровасць нейкая. Яна, Таццяна, неяк бы малодшай сябе перад ім адчула, бянтэжыцца, губляцца пачала, калі надаралася ім удваіх астацца. А тут і хлопцы пасміхвацца пачалі. Праз гэта яна яшчэ болей бянтэжылася. Аднаго разу нават камандзір іхні, Мацылевіч, знячэўку кінуў ёй — яна тады па сталоўцы дзяжурыла:

— А твой Пецька малайчына! Важнага фрыца ўпаляваў!

Пачырванела яна, а самой — радасна зрабілася. Нібы і яна на таго фрыца палявала.

А пасля той красавік надышоў. Сорак чацвёртага года. Ужо ўсе партызаны казалі, што апошнюю вясну ў лесе сустракаюць, што ўлетку Чырвоная Армія пачне наступленне і фрыцам прыйдзе капут. Настрой ва ўсіх быў радасны. Прыйдуць раніцою хлопцы з задання, дык смеху, жартаў — на цэлы дзень. А ў яе яшчэ болей радасці праз тое, што Пецька побач, што вярнуўся з хлопцамі цэлы: з некаторай пары пачала непакоіцца, як ішоў ён куды ў ноч. Пойдзе, а ёй усё нейкія благія думкі ў галаву лезуць...

Пабыць з ім адзін на адзін не надта і выпадала — дысцыпліна ў атрадзе вайсковая была. Толькі, мусіць, аднаго разу і заседзеліся яны позна. Сядзелі, слухалі, як дыхалі ў будане коні, як нейкая птушка падавала голас то ў адным месцы, то ў другім, і не пачулі, як падышоў да іх... сам Мацылевіч. Але не раскрычаўся. Пастаяў, паўзіраўся ў іх, намагаючыся, пэўна, пазнаць, урэшце загадаў:

— Падыдзіце!

Падняліся яны з Пецькам, падышлі.

— Любіце адно аднаго ці так?

Яна маўчала, ад страху і сораму калацілася ўся, а Пецька і выпаліў:

— Любім, таварыш камандзір!

— А калі любіце, дык чаму нам на вяселлі не пагуляць, га? Зробім вам партызанскае вяселле. На Першага мая. Згода?

Мацылевіч і напраўду пажаніў іх. Сам сватам быў. А перад тым быў мітынг першамайскі, і ў канцы Мацылевіч сказаў:

— Сёння ў нас яшчэ адна ўрачыстасць. Уступаюць у шлюб маладыя партызаны Пятро Раманкевіч і Таццяна Колік. Яны ствараюць новую савецкую сям'ю. Павіншуем іх, таварышы, і зробім усё для таго, каб гэты дзень запомніўся ім на ўсё жыццё, якое, мы не сумняваемся, будзе ў іх доўгае, светлае і радаснае, як гэты сонечны, вясновы дзень...

А дзень і праўда быў харошы — ціхі, зусім па-летняму цёплы. На ёй была белая шаўковая сукенка — Мацылевіч недзе расстараўся парашутнага шоўку. Яна і не здагадвалася, дзеля чаго жанчыны мерку з яе знімалі, ажно во — кроілі і шылі тую сукенку. Раніцою толькі і паказалі. Прынеслі, апранулі — лепш і не трэба! А к вяселлю і вэлюм прынеслі, і лодачкі — праўда, трошку велікаватыя. Дзе і знайшлі толькі! І Пецьку добра ўбралі. Нават і гальштук пачапілі...

А застолле якое зрабілі! Па тым часе і матка з бацькам такога не прыдумалі б. Яна расплакалася, як Мацылевіч — з ручніком цераз плячо — пачаў віншаваць іх... Адно што ні яе, ні Пецькавых бацькоў не было, а так вяселле зрабілі ім самае сапраўднае. Нават каравай дзялілі — спяклі салодкі пшанічны бохан. Пецьку некалькі капшукоў надарылі, запальнічку з патрона, а ёй ажно ці не тузін ручнікоў і посцілак. Быў у атрадзе дзядзька Хведар, не тутэйшы, недзе з няблізкага свету, дык зрабіў ён ім і пярсцёнкі. Дарма, што з пятакоў, але так ужо зіхацелі. І музыка добрая была: і гармонік, і бубен. Скакалі ўсе да ўпаду ля зямлянак...

А ёй, ніколі не забудзецца, надта ж сэрца балела ў той дзень. З саменькай раніцы разбалелася. Прыйшлі жанчыны, сукенку прынеслі, пачалі прымерваць, а ў яе ў душы як заныла нешта, дык і не пераставала. І сама не ведала, з чаго б тое. Адно што — за Пецьку непакоі-

ласяя. Яго і не пасылалі, сам напрасіўся пайсці ўпачы на чыгунку — зрабіць немцам першамайскі гасцінец. І вось ужо мітынг скончыўся, полудзень, а яго з хлопцамі ўсё няма. Збалелася яна тады: Пецька ажно надвячоркам вярнуўся. Казаў, што ўсё добра было, цягнік падарвалі ўдала, а па дарозе на засаду напароліся, давялося ладнага кругаля даваць...

Ад вяселля засталася і цяпер у яе памятка — кніжачка з шэрага кардону. Яе ўручыў за сталом ёй і Пецьку камісар Дзяруга. Прыгожы быў мужчына, шыракаплечы, рослы. Бараду пышную насіў. Казалі, што ў блакаду трапіў пад бомбу, дык на кавалачкі яго разарвала. Дзяруга і ўручыў ім тую кніжачку. Сказаў, што гэта часовае шлюбнае пасведчанне, якое яны павінны абмяняць пасля вайны на сапраўднае.

Так і не абмяняла яна яго...

А праз два тыдні пасля вяселля пачалася блакада, і рассталася яна з Пецькам, можна сказаць, назаўсёды, бо тыя тры дні пасляблакадныя засталіся ў памяці, як сон: быццам былі яны і не былі. Пецька як прадчуваў, што не вернецца адтуль, з-пад райцэнтра, усё казаў:

— Калі будзе ў нас хлопчык, дык назаві Аляксеем — у гонар свата. А калі дачушка, хай Таняй будзе. Абяцаеш?

Яна ці не засмяялася тады па-дурному, бо і сама не ведала, ці будзе што ў іх. Засмяялася, а ў самой ажно захаладзела ўсё ўнутры ад ягоных слоў. Папракнула Пецьку:

— Што ты — як развітваешся?

Ён прыгарнуў яе, усміхнуўся:

— Не, Тацянка, цяпер я абавязкова вярнуся. Раз блакаду прайшоў, дык цяпер грэшна прападаць...

Але ўсмешка была невясёлая. Пэўна, прадчуваў нешта. Мусіць, праўду кажуць, што чалавек смерць сваю наўперад чуе, як і іншае благое што. Пэўна, нешта і Пецька прадчуваў. Інакай чаго б ён раптам пра дзяцей пачаў гаварыць?..

«Мой жа ты Пецечка, а не было ў цябе ні сына, ні дачушкі...»

Ачомалася яна ад думак-успамінаў тых, калі Маруся Адарчына гукнула ёй:

— Цётка, канчаем! Стог ужо вершаць!

Падняла яна галаву, зірнула — і праўда. Не агледзелася, здаецца, а стог вырас. Пётра вунь ужо камандуе Даніку Аленчынаму:

— Закругляйся! Ды не блазнуй, асцярожна спускайся!

Так яго Данік і паслухае! За сорак чалавеку, а сталасці — ні на знак. Нездарма ж і Данікам завуць, бы малога. Лепш ужо яму не кажы нічога, бо ўсё роўна наадварот зробіць. Во! Каб не казаў Пётра нічога, то, можа б, і спусціўся асцярожна, а то ж зляцеў — як уджалены, з рогатам і яшчэ цераз галаву кульнуўся. Але ж і ўмее, халера! Па стозе дык і не пазнаць, дзе ён уніз слізгануў.

— Ну, бабы, падбярыце вакол, пагрэбкі ў капу скідайце, а самі туды, на той канец. Міця туды пад'едзе,— сказаў Пётра, заводзячы матацыкл.— Калі там яшчэ не ўправіліся, дык падсабіце.

Мужчыны, што стог клалі, паўплішчваліся ў кабіны да трактарыстаў, а яны, бабы, пачэпалі туды, дзе, відаць было, яшчэ завіхаліся з граблямі астатнія. Яна, Таццяна, ужо і не хацела туды ісці, думала адразу дадому падацца, але Манька адгаварыла.

— Ат, не выдумляй! Скарэй не будзе. Пакуль дапляцешся, дык Міця пяць разоў сюды і назад згойсае,— сказала.

Яно так і выйшла. Яны і прысесці ля апошняй капы не паспелі, а Міця тут як тут. Паўкульваліся ў кузаў — і назад паджгаў. Дык яна і рада была, што паслухалася Манькі, не пайшла нацянькі, бо магла б і размінуцца.

А жанчыны, нябось, прыціхлі. Гэта ім не па абедзе выскаляцца абы з чаго. Пагрэбшыся столькі, панасіўшы перад сабой пластоў сена — не да рогату. Шулячыха во і носам дзяўбе — на сон пацягнула. Адна Манька не шманае. Прычапілася да дзевак Адарчыных: надта ёй цікава, чаму яны замуж да гэтай пары не павыходзілі.

— А ты, цётка, чаму не знайшла сабе жаніха? — агрызаецца старэйшая, Франуся.

— А ты быццам не ведаеш? — дражніцца Манька.

— Не ведаю.

— Бо ніякі дурань не пасватаўся,— уздыхнуўшы, лагодна адказвае Манька.

— Дык і да нас жа, цётачка,— азываецца меншая, Маруся.

— Ніхто-ніхто? — у вачах у Манькі адна спагада.

— Ніхто, цётачка. Да мяне быў заходзіў адзін... Казік з Альхоўкі, Юліся Бараноўскага старэйшы... Пася-

дзеў, нават чарку з бацькам выпіў, але ж нешта зганьбаваў.

— А ты б, дзеўка, куфар яму свой паказала,— ужо рагоча, не вытрымлівае Манька.

Маруся крыўдуе:

— А ну цябе, цётка!

Нехта з жанчын кажа:

— Цяпер і пяць куфраў не памогуць, калі...

— Куфры, куфры! — раптам злосна кажа Манька.— Дзе цяперака тыя куфры? Маруся — дурнейшая, мо і не ведае, а Франуся добра разумее, што ў іх за ганьба!

— Што, што?! — узгарэлася, ускочыла на калені Франуся.

— А тое, што скнары вы! Не з'ясце, не зносіце, а ўсё пад сяннік... Я во баба старая, а ў такой спадніцы, у такой караўцы, як на табе, пасаромелася б у людзі выйсці.

— А табе што, муляе? Ты на тым сенніку спіш?!

— І языкатая ты к таму ж! — падцінала Манька Франусю.

Яно, здаецца, і праўду Манька кажа. Былі б дзеўкі нішто, каб не такія ваўкаватыя. Гэта ж возьмуць у поле з'есці што, дык не сядуць, як іншыя, і не з'ядуць, а ўсё з кулака. Кусане — і ў кулак, кусане — і ў кулак. Як баяцца, што адбярэ хто.

Думае так Тацяна, ды, угледзеўшы, што Маруся зашморгала носам, таўханула Маньку пад бок:

— Не трэба, чуеш? Што табе да таго сенніка іхняга?

— Я ж праўду кажу!

— Праўду ці няпраўду, а перастань! І праўду не ўсякую казаць можна...

Мацей, Франусін і Марусін бацька, дык і неблагі чалавек. У дачок жа гэта ўсё ад маткі, ад Адаркі. Вось яна — гадаўка, а не баба! Яна, Тацяна, век не забудзе, як Адарка ёй удружыла. Хоць і даўнавата тое было, а — помніцца. Каб ведала, дык свінням бы тое малако выліла, а не пацягнулася б з ім у Мінск. Ніколі, ні да таго, ні пасля, не ведала яна большага сораму. Хоць скрозь зямлю праваліся было...

Гэта ж пасля вайны вазілі яны ў Мінск малако прадаваць — каб хоць хлеба колькі баханак купіць. Вазілі зімою, вядома, бо летам і не давязеш — скісне, і летам у горад той вырвацца паспрабуй, калі работы процьма. Ну, а дзе ж ты цэлы бітон малака назбіраеш ад адной каровы? Вось і дадумаліся: згаворваліся чатыры, а то і пяць

кабет і ездзілі па чарзе. Адзін раз малако адной злівалі, другі раз — другой... Колькі разоў цягалася яна з тым бітонам у горад, і заўсёды ўсё было добра. Намерзнецца, намучыцца, але ж прывалачэцца дахаты, а ў бітоне, як зачыніць, хлеба цаглінкі мерзлыя. Яна ж і трымала яго пасля ў кладоўцы мерзлым. Як на іхнюю сям'ю — матка ды яна, едакі,— дык на паўмесяца, ашчаджаючыся, а то і на болей.

І тым разам прахапілася яна яшчэ да пеўняў — трэба ж і карову падаіць, бо матка ўжо нядужая была, і жанчын абабегаць, каб ранішні ўдой забраць, і перакусіць што на дарогу. Хуценька парабіла ўсё, апранулася, бітон на саначкі паставіла, вяроўкай прывязаўшы яго, упрэглася — і да гравейкі. А там і пашанцавала: доўга не стаяла, узяў яе на лесавоз шафёр. У самую пару і на базар трапіла, і зноў пашанцавала — зусім няшмат жанчын з малаком. Прыстроілася і яна з саначкамі, пачала прадаваць. Ведае, малако свежае, добрае, дык спакойна сабе прадае і пахвальвае. А й хваліць не надта трэба было, і без таго пакупнікоў ледзь не чарга выстраілася. І ўсё б, пэўна, добра было, каб...

Падыходзіць да яе кабета адна, падстаўляе бітончык і кажа:

— Налі, дзеўка, мне тры літры.

Чаму ж не наліць! Наліла. Кабета грошы заплаціла, адышлася на колькі крокаў, а потым раптам вяртаецца і кажа:

— А што гэта ў цябе ў малацэ плавае?

Яна і не падумала ні пра што такое, спакойна адказвае:

— Лёд, пэўне. Ля гарлавіны падмерзла троху.

А кабета голас павышае:

— Які лёд? Сена нейкае! А мо і гной!

Тут і іншыя пакупнікі ўзбурыліся, акружылі яе, пачалі крычаць па-ўсякаму: што яна вады ў бітон чабохнула, што сумлення ў яе няма — за кроўныя капейкі людзям ледзь не атруту падсоўваць, што судзіць такіх трэба...

Скончылася тым, што падышоў да яе міліцыянер і пацягнуў тое малако на праверку, а там прызналі, што яно разведзенае, і, пэўна, сырой вадой, бо тое, што ў ім плавала, не іначай як бросня калодзежная, мох са зруба, і давялося ёй вывернуць бітон на памыйцы... Плакала яна, бажылася, што не вінавата, ды чым дакажаш? Трэс-

лася ў кузаве ад сіверу пранізлівага і ад крыўды на Адарку. Бо хто ж, акрамя яе, мог такое зрабіць? Кольні разоў ездзіла, ніхто ніколі слова кепскага не сказаў, наадварот, хвалілі, што добрае малако, густое і тлустае, а тут — на табе! Дык жа раней не было ў іхняй кампаніі Адаркі. А гэта ж напрасілася. Яна, Тацяна, дык і падумала была, што нешта ці не зашмат малака Адарка прынесла — паўнюткае вядро ўвечары і раніцою яшчэ гладыш ладны, на літраў шэсць. Але ж бажылася:

— Даліпан, Танька, ні кроплі сабе не пакінула, нават кату паласавацца не дала, усё чысцютка табе...

Не паехала яна пасля таго ў горад. Як Манька ні ўгаворвала, як ні казала, што і дурная яна, калі думае, што да яе зноў тая самая мінская баба падыдзе,— а не паехала. Везлі іншыя жанчыны малако, дык прасіла каторую і яе колькі літраў прадаць — на пару кулідак хлеба. А з Адаркай і гаварыць перастала. Як угледзіць яе, дык ажно ўсярэдзіне ўсё пераварочваецца: адразу Камароўка тая ўспаміналася і як яе вёў міліцыянер на праверку...

Пакуль думала пра тое, дык і ў сяло прыехалі.

Рыта з Алачкай у хаце былі. Малая ў шуфлядцы з цацкамі корпалася, а нявестка ў чамаданчыку сваім нешта парадкавала.

— Дык вы і не позна, мама,— сказала, калі Тацяна ў хату зайшла.

— Але ж. Парою ўправіліся. Ну а вы? Ці паспалі ж хаця?

— Падрамалі крыху. Алачка, здаецца, і добра выспалася. Так дык укласці днём не магла, а тут адразу заснула.

— Ведама! На свежым паветры дык і соладка спіцца. А й здарожылася. Колькі тае дарогі, а як малой, дык і досыць. Ці мо на ручкі прасілася?

— Не, усю дарогу сама тэпала, як вялікая.

Яна, Тацяна, ухапіла малую на рукі, прыгарнула яе:

— А я, скажы, ужо і вялікая. Во якая! — падняла ўнучку ажно пад столь.— Што вячэраць будзем, га, Алачка? Кажы, што хочаш, каб бабка прыгатавала?

Забаўлялася з унучкай, а самой усё карцела да Рыты загаварыць, распытаць пра ўсё, ды не рашалася. Мо паспееца, думала, мо і сама раскажа, без прынукі, яна ж у яе гаваркая была. Лепш пакуль пра што іншае, хай аб-

выкнецца, супакоіцца. Нябось, і ў самой кошкі на душы скрабуцца. Хай яны адна адной не крыўдзілі, але ж — не да роднай маткі прыехала, ведала, як гэта будзе лёгенька і ёй, нявестачцы, і свякрусе.

Хай, паспеецца...

Апусціла долу малую, да цацак падштурхнула, сама да Рыты павярнулася:

— А й праўда, Рытачка, што на вячэру прыдумаем?

— Што там выдумляць, мама. Вунь у абед нічога не з'елі, дык і вячэра будзе.

Азвалася нявестка ахвотна і, падалося, нават лагодна, як і раней, і ад гэтага палягчэла на душы і ёй, і сама яна загаварыла праз тое весялей:

— А не, Рытачка! Тое само сабой, не ўцячэ ад нас, а трэба нешта гарачае згатаваць. Мо дранікаў напячом?

— Ой, мама, нашто лішні клопат? Нанач наядацца... Бульбы зварыце. Я пару селядцоў прывезла.

— Ну, калі так... Я зараз прынясу, наабіраю, керагаз запалю.

— Я сама наабіраю, вы толькі прынясіце. А самі што іншае зрабіце па гаспадарцы,— Рыта паднялася.

— Сядзі от! Якая тут гаспадарка? Карова прыйдзе з поля, дык падаіць. А цяперака толькі курам ды парасяці даць. Дык усё ж гатова, замяшаць толькі. Хіба во толькі Валерык Аркадзеў пад'едзе. Маніўся пад'ехаць, але ж хто яго ведае... А ты сядзі, кажу, з малой во забаўляйся.

— Ну што вы, мама, усё сядзі ды сядзі! І насядзелася, і наляжалася. Пакуль вы бульбы прынясеце, дык я пайду вады схаджу. Але я без каромысла. Не ўмею. Як на плячо бяру, дык паўвядра выплеснецца.

Пакуль Тацяна схадзіла ўварыўню, навыбірала лепшай бульбы, бо парасла — ажно па сцяне папаўзлі хрупаткія белыя парасткі, Рыта збегала да студні разы са тры, пэўна, бо і абодва вядры былі поўныя, і тазік у сенцах, у якім яна, Тацяна, лушпайкі трымае, і начоўкі за сенцамі, і нават карыта ля ганка — курам піць. Хоць студня і блізенька, за Шулячышынай хатай, але ж праўду кажуць бабы — агонь-маладзіца!

Села Рыта бульбу абіраць, а яна ў сенцы выйшла — курам і парасяці замяшала, пасля па гнёздах палазіла, яйкі сабрала. Вярнулася ў хату, прысела на ўслонік напроці нявесткі.

— От і па гаспадарцы... І ты ўжо канчай, досыць будзе,— сказала да Рыты.— А я пайду керагаз запалю.

Ажно тут з вуліцы гукнуў Валерык Аркадзеў:

— Цётка, вароты адчыняйце!

Яна ледзь не падскочыла на ўслоне:

— Яй-бо, прыехаў!.. Дык я, Рытачка, пабягу, павадзіць коней трэба, з паркай у садку не павернецца, а ты ўжо тут сама. Я ж там не доўга...— Памкнулася ў сенцы, ды з парога вярнулася.— Грошы ж трэба ўзяць...

Пакорпалася ў шуфлядцы, знайшла траяк, піхнула яго ў кішэню пінжака і пабегла з хаты.

А на вуліцы ўжо Шулячыха каля хлопца Аркадзевага круціцца. Яна, Тацяна, яшчэ з ганка пачула, як тая бобам рассыпалася перад Валерыкам:

— А можа, Валерычак, мне спачатку? Во, і ехаць нікуды не трэба, адразу за парканам...

Пачула і не стрывала:

— Ну як табе не брыдка, Кацярына? Ужо табе і спачатку трэба! Схадзіць папрасіць паленавалася, а тутака ты смелая, ужо і раскамандавалася... Заязджай, Валерык! — адцягнула ўбок варотцы.

І ўсцешылася, калі хлопец Шулячыху адшыў:

— Вам, цётка, і зусім не абганю сёння. Замарыўся ўжо. Сёмую бульбу абганяю. І коні галодныя.

— Што ты кажаш, Валерычак! Дзіцятка, ужо як-небудзь, адным заходам. Колькі тае бульбы ў мяне.

— Ладна! Калі ўпраўлюся.

— А бо! Сонца яшчэ вундзека! Я і адыходзіцца нікуды не буду. Чуеш, дзіцятка?

Валерык ужо заязджаў у яе, Тацянін, гарод.

Хадзіла яна пульхнымі baрознамі, якія прыемна студзілі босыя ногі, тузалася з коньмі — яны і праўда згаладаліся, бо і зацугляныя хапалі на поўніцу то бульбоўнік, то траву з узмежка, і на Шулячыху злавалася. Тады прысунулася, дык хоць ты да раны прыкладзі: «А можа, як-небудзь, Танька, і я пасля абганю...», а цяпер ёй ужо і раней трэба. Але дзе ты з гэтым Валеркам будзеш думаць пра што іншае? Такі ўжо хлопец — кроку не ступіць моўчкі. Гаваркі, як дзед каторы! Не паспееў і баразны прагнаць, а ўжо гукнуў да яе:

— Хто вам садзіў, цётка?

— Данік Аленчын. А што?

— Вузкавата троху.

— А хто ж яго ведае. Яно, здэцца, і праўда на дзве баразны болей сяголета, чым заўсягды. А хіба зашкодзіць?

— Не, не збуяла ж. Але плужок на руках трымаць трэба, бо на ўсю не запусціш.

— Табе ж відней, дзіцятка.

— А ў Рыты што, водпуск? — зноў спытаў неўспадзеўкі.

— Не, проста так прыехала,— адказала яна і спахапілася.— А можа, і водпуск. Я ж дык і не папыталася. А што?

— Нічога. Гэта я таму, што сярод тыдня. А Алёшка ў пятніцу прыедзе?

— Пэўне ж.

— А хату яны ўжо маюць ці ў падсуседзях усё яшчэ?

— Дзе ж ты бачыў! Чакаюць усё.

— Як палучаць, дык і вы, цётка, у Мінск?

— Што мне, старой, там рабіць? Мне і тут добра.

— А колькі, цётка, Алёшка палучае? — не сунімаўся Валерык.

— Хто ж яго ведае, Валерка. Неяк раней пыталася, дык казаў, што і па сто пяцьдзесят каторы месяц выходзіць.— Казала тое ўжо з невялікай ахвотай. Каб пра што іншае гаманіў Валерык, а то ж...

— Ха, сто пяцьдзесят! Такія грошы і тут можна зарабляць! А скажыце, цётка, чаму ён гультай такі, ваш Алёшка? Што, не мог прыехаць і абагнаць гэтую бульбу? А то — Данік садзіў, я — абганяю...

Прамаўчала яна. Хацела сказаць, як і заўсёды казала, калі хто пытаўся, чаму Алёшка не пасабляе ёй па гаспадарцы,— а чым ён можа пасабіць, хто яго паслухае, хто яму таго каня дасць? — хацела тое сказаць, ды прамаўчала. Яно ж і праўда: Алёшка ніколі не меў клопату аб тым, каб памагчы маці, як іншыя дзеці, што таксама ў горадзе. Іншыя прыедуць да маці, дык толькі і стараюцца, каб што зрабіць. Во, Валодзьку Шулячышынага вазьмі. Каб не ён, дык што тая Шлёпіха і рабіла б! І так часта прыязджае, а як водпуск, дык цалюткі месяц штолета ў маткі. І дроў навозіць, і сена накосіць. Дроў дык, пэўна, на гадоў пяць назапасіў. Ды што казаць! У Параскі вунь зяць, а й то не раўня Алёшку. Амаль штотыдзень прыязджае, не саромеецца і гной выкінуць, і пакасіць схадзіць. А кажуць жа, што і не просты чалавек, вучоны... Ну, няхай яму лацвей, таму Парасчынаму зяцю, у яго свой легкавічок, але ж ездзяць неяк і іншыя, не ўсе ж машыны маюць. Алёшка во з матацыклам цяпер, а ўсё роўна. Не, ён, адчувала, не рваўся дадому і раней, і ця-

пер. Бывала, па месяцу і па болей не прыязджаў. Яна дык і не наракала. Маладому маладое ў галаве. Адрабіў на заводзе, дык і пагуляць хочацца. Прыехаў, зрабіў што — добра, не зрабіў — такой бяды, сама не зломак. Яно, вядома, перад людзьмі і нялоўка часам было. Як жа: свой мужчына ў хаце, а йдзе да таго ж Даніка Алепчынага, каб гарод узараць. Але ж, падумаўшы, дык яно так і не так. Ён жа не дома — у Мінску! А прыездзе адведаць матку, дык і на тым дзякуй, на матку не забываецца. Не, не такі ўжо і благі яе Алёшка! Памагаў ці не памагаў — каму які клопат? Ёй тая помач яшчэ не надта і трэба. Знядошліцца — хай тады памагае. Тады як сабе хоча: ці тут хай матку глядзіць, каб не акалела адна, ці хай у той Мінск забірае. А пакуль яна сама сабе гаспадыня. Ці ж яна не бачыць, што Алёшку яшчэ і яе падмога патрэбна? Ці яблык той, ці скварка — каму ж яшчэ, як не Алёшку? Часам і капейку дасць. У горадзе, вядома, большы расход... Ат, няма чаго і думаць пра тое. Людзі часам абы-што звягаюць, і Валерык гэты таксама. Смаркач яшчэ, каб яе Алёшку бэсціць...

— Усё, цётка! — сказаў, атрасаючы плужок, Валерык.— Паеду, абганю яшчэ і Каці, ліха з ім!

— Дзякую, Валерык,— толькі сказала, спахапіўшыся. Згадала, што ў кішэню траяк узяла, гукнула: — Чакай жа, вазьмі во на кіно ці яшчэ на што.

— Ай, што вы, цётка! — хлопец адвярнуўся, сцебануў коней.

— Вазьмі, кажу! — яна дагнала яго і ледзь не сілком пхнула яму ў кішэню пакамечаную паперку.

Валерык усміхнуўся неяк загадкава, зноў замахнуўся пужкай:

— Ай, цётка, выдумляеце!

— Едзь, едзь,— сказала ўжо ці не са злосцю, быццам прамовіўшы сама сабе: бяры і не балабонь абы-чаго!

Пайшла ўслед за ім, зачыніла на вуліцу варотцы, зноў вярнулася ў гарод. Думала прайсціся баразнамі, аправіць дзе бульбоўнік, ужо і ў разору ступіла і нагнулася, ды пачула — каровы на вуліцы зарыкалі. Парашыла: заўтра ўранку аправіць.

Загнаўшы ў двор Падласку, зайшла ў хату — даёнку ўзяць. Убачыла ў сенцах — бульба ў каструльцы на керагазе кіпела ўжо.

У хаце не стрывала, сказала Рыце:

— От і добра, дачушка, што здагадалася паставіць.

Хай варыцца. Я толькі кароўку падаю, і будзем вячэраць.

Так да вячэры і не пагаварыла пра тое з нявесткай. І за вячэрай таксама болей маўчалі ці так, абы-што гаварылі. У рот, як і абедам, нічога Тацяне не лезла. Яна чагосьці, сама не ведае, раней з-за стала падхапілася, а за ёй і Рыта — Алачку спаць павяла. Ды і пасля, калі ўжо і Алачка заснула, і яна, Тацяна, прыбраўшы са стала і ўзяўшы дзверы ў сенцах на кручок, вярнулася ў хату, доўга маўчалі. Рыта на краёчку ложка, пры соннай дачцэ, прымасцілася, яна — на канапе, пад люстэркам. Сядзелі і маўчалі. Яна, Тацяна, ужо і злавацца на сябе пачала. Быццам у жмуркі адна з адной гуляюць!

Урэшце варухнулася на канапе, сказала, абы не маўчаць:

— Можа, тэлевізар уключыць?

Рыта не азвалася, як не пачула, і яна, Тацяна, зноў маўчала, ажно пакуль нявестка раптам не ўсхліпнула:

— Ой, мама, што мне рабіць?!

Тады кінулася Тацяна да яе, на ложак побач прысела, абняла яе за плечы:

— Ціха, дачушка, не трэба плакаць. Ты раскажы, усё раскажы. І самой палягчэе, і мне...

А Рыта яшчэ мацней расплакалася, плечы хадуном захадзілі.

— Перастань, дачушка! А то і Алачку разбудзіш, заснула во як салодзенька... Вытры слёзы. Ты мне скажы, як і што ў вас... Гэта ж не аб адным дні зрабілася...

Рыта адхінулася, адкінула з ілба валасы.

— Даўно, мама,— яна мо ўпершыню за сённяшні дзень зірнула ёй у вочы, і Тацяна чамусь не стрымала, адвяла свой пагляд — нібы збянтэжылася раптоўнае здагадкі, што гэта ж і яна, пэўна, вінавата ў той бядзе.— Як Алачка нарадзілася. Скора пасля таго... Я і не думала ні аб чым спачатку. Ці мала што можа быць? Мо на рабоце з кім пасварыўся, не паладзіў, яшчэ што якое. Прыйдзе, бачу — не ў настроі. Пытаюся: што, Алёша? А ён: адчапіся! Выпіты пачаў прыходзіць.

— Гэта злыбяда давядзе! — Яна, Тацяна, як сцепанулася — па спіне пабеглі дрыжыкі.

— Не, мама, не так каб і піў ён. Цяпер зачасціў, а раней нават і палучку прыносіў сухама.

— Дык а што, Рытачка?

— Не ведаю, мама. Які раней добры быў, дык такі

зрабіўся, што і не пазнаць. Як падмянілі. Раней ці купіць што, ці зрабіць, дык пагаворым, параімся, а цяпер толькі і гыркае. То я лішнія грошы растраціла, то — лепш у сталоўку хадзіць, чым есці тое, што я наварыла, то яшчэ што... Ты, кажа, мне свет завязала.

— Які ж ты яму свет завязала?

— Каб жа я ведала!.. А ўсё пасля Алачкі. То радаваўся, як хадзіла ёй,— а то неўзлюбіў. Ноччу ні разу да яе не падняўся. Хварэла яна малой, і не адзін раз, дык я ўсю ноч не засну, над ёй сяджу, то ў калясцы трасу, то на руках гушкаю, а ён адвернецца да сцяны, каб святло было не ў вочы, і спіць... Вы не думайце, я не нагаворваю. Але ж і крыўдна. Ён на работу ходзіць, і я хаджу. А трэба ж і Алачку з ясляў забраць, і па магазінах з ёй набегаць, у чэргах пастаяць, і на вячэру што зрабіць, і памыць, а яму гэтага быццам нічога не трэба...

— Я ж казала, дачушка, пакінуць Алачку ў мяне. Да школкі магла б тут пасвіцца.

— Што б вы з ёй рабілі, мама! Каб хоць на пенсіі былі. А то ж і ў саўгас ходзіце, і карова, кабан... А там жа, у яслях, іх і вучаць.

— Ці ж іншыя не аддаюць? А ўдваіх лацвей было б, пакуль кватэра будзе. Мо ўжо ж і чарга блізка?

— Мусіць, блізка. Летась нешта каля сотні паперадзе нас было. Але мне ўжо і кватэра тая няміла, калі жыцця няма.

Рыта зноў заплакала.

Слухала Тацяна гэтую блытаную гаворку нявесткі і нічога не разумела. Ну, пасварыліся раз-другі, дык жа сёння сварацца — заўтра мілуюцца. Да дзіцяці не падняўся, не ўпадабаў таго, што зварыла,— дык ці праз гэта сям'ю рашаць? Пэўна, недагаворвае нечага Рыта, не рашаецца сказаць.

Спытала, абы спытацца:

— Ну, а палучку хоць прыносіць?

Рыта адразу не адказала, доўга носам шморгала, вочы церла, пакуль прамовіла:

— Якую палучку, мама! Каторы месяц ні капейкі. Я, можа, і да вас не паехала б, калі б... Водпуск у мяне цяпер.

— Дык што ты, Рыта, бытта стыдаешся? — Тацяна ледзь не прыкрыкнула, ды спахапілася, зірнуўшы на Алачку.— Гаворыш, гаворыш нешта... Кажы прама, дачушка, што з Алёшкам?

— Дык жа я казала, мама. Кінуў ён нас, да другой пайшоў,— Рыта таксама як агрызнулася.

— І даўно?

— А ўжо месяцы два.

— Чаму ж адразу не сказала? Ці я табе чужаніца?

— Ай, мама, лёгка казаць! Ці ж я паверыць магла? Усё спадзявалася, што адумаецца, што скрут галавы ў яго нейкі,— Рыта апусціла галаву.

А на яе, Тацяну, як спакой які сышоў. Дагэтуль усё не верыла, што тое праўда, думала, што мо проста кошка дарогу ім перабегла, а цяпер — паверыла. Няйначай, нешта ў паглядзе Рыціным убачыла, у голасе яе адчула. Злосць у голасе нявесткі была, чаго раней ніколі не заўважала. Спытала ў Рыты:

— Ну, а табе сказаў хоць што?

— Што ён, мама, скажа! — Рыта таксама быццам паспакайнела.— Колькі разоў спрабавала пагаварыць. Дык як цвярозы — адмоўчваецца, а выпіты — біцца кідаецца. Сказаў, што дурны быў, пагарачыўся жаніцца, што трэба нам разводзіцца, бо палюбіў другую.

— А мо яшчэ і трэцюю ўпадабае?! — злосць ці хутчэй нейкая крыўда апаноўвала Тацянай.— Харошы сыночак! Добрую матцы вестачку прыслаў. Ды яшчэ з нявесткай! — Памаўчаўшы, спытала: — А ты да начальства яго хадзіла? Мо прыжучылі б?

— Ай, мама, не хачу так. Начальства прывяжа яго да мяне, ці што? — Рыта паглядзела на яе нібы з папрокам.

Яна сумелася ад таго пагляду, уздыхнула:

— Маё ж ты дзіцятка, ведама. Але як топішся, дык і за саломінку хапаешся... Ну, а тая — што за краля? Сама бачыла ці людзі што казалі?

— І бачыла, і людзі казалі. Чорная, насатая... На дзесяць гадоў за Алёшку старэйшая!

— А божачкі мае! Рытачка, што ты кажаш? Ажно на дзесяць гадоў?

— Можа, і на ўсе пятнаццаць! — злосна адказала Рыта.

І яна, Тацяна, аж плечы ўгнула. Пакрыўдзілася на яе нявестка. Падумала, пэўна: ага, матцы зусім іншае баліць, ёй сына шкада!.. Зніякавела ад таго. Што ж тут зробіш? Апраўдвацца не будзеш. Ёй, вядома, адно баліць, а матцы... Хіба ж не дзве болькі ў яе, Тацяны? І іх, Рыты з Алачкай, шкада, але ж і Алёшкі таксама. Сын жа! Ну, валацуга, ну, скруціўся, як Рыта кажа, але ж, здаецца,

лягчэй было б, калі б тое неяк больш па-людску зрабілася, каб з раўнёй сабе. А то — на дзесяць гадоў старэйшая! Як гэта да галавы дабраць? Скруціўся і яшчэ з кім!

Зірнула ўрэшце на нявестку і ўгледзела ў яе вачах як бы адчужанасць нейкую, угледзела і спахапілася, ажно кроў да твару прыліла. Таропка падалася да Рыты, ашчаперыла яе:

— Не злуйся на мяне, дзіцятка, не мела я нічога благога да цябе. Ты ж ужо сама матка...— І расплакалася, не стрывала болей.— Мне ж таксама цяжка. Які ж гэта заварот на яго найшоў? Чаму гэта вочы яго не туды глядзелі?

— На машыну глядзелі, мама,— Рыта вымавіла гэта спакойна, абыякава.

— На якую машыну, Рытачка? — яна спачатку і не зразумела, мо праз хвіліну перапытала.

— На «Масквіча», мама. Тая насатая «Масквіча» мае, і кватэру ледзь не на праспекце, і сама адна ў бацькі з маткаю,— Рыта гаварыла зласнавата, бы шпурляла ў свякруху слова за словам.

І не так самі словы, а тое, як вымаўляла іх нявестка, зноў быццам ацверазілі Тацяну, у вачах яе раптам пасушэла, рука паціху спаўзла з нявестчынага пляча.

— Ай, Рытачка, мо гэта людзі напрасліну кажуць? Ці ж ужо мой... Ці ж ужо Алёшка,— прапусціла яна слова «мой»,— такі прапашчы, каб на такое пакваціцца?

— Пакваціўся, мама.

— Не, дачушка, не! Не можа таго быць. Назвягалі табе людзі.— Яна паднялася з ложка, ступіла колькі крокаў на хату, быццам шукаючы вачамі нечага, але тут жа вярнулася назад, зноў прысела.

Рыта пакруціла галавой, буркнула:

— У яго самога спытайцеся.

— Спытаюся, дачушка, ой, спытаюся!..

І змоўкла. Бы раптам прапалі словы ўсе. Сядзела і маўчала. Бы скамянела. Глядзела ўтрапёна ў адно месца — на тое, як кружыўся, апякаючы крыльцы, вакол лямпачкі матылёк, і не дыхала, здаецца, і не думала ні аб чым. Яно, мусіць, думала, але ніводная з тых думак не затрымлівалася ў галаве, не праяснялася, не даходзіла да памяці. Доўга так сядзела. А потым уздыхнула глыбока і шумна, з нейкай няпэўнай рашучасцю паднялася з ложка і сказала, ледзь не загадала:

— Лягай спаць, дачушка!

Ступіла да дзвярэй, намацала, не гледзячы, выключальнік і пстрыкнула кнопкай...

Задрамала яна той ноччу, пэўна, пад самую раніцу. Лягла так, як сядзела з Рытай,— нават сукенкі не скінула. Ногі пад коўдру сунула, скруцілася абаранкам і сцішылася. Ды хіба да сну было? Чула, што доўга не засынала за шафай — усё ўздыхала ціхенька, каб не выдаць сябе, варочалася з боку на бок — нявестка, і сама таксама ўздыхала ў падушку і асцерагалася паварушыцца, асцярожна выцягвала з-пад сябе здранцвелую руку,— каб лішнім рухам не выдаваць сябе і не турбаваць Рыту. Думкі раіліся ў галаве, блыталіся. І пра Алёшку думала, і пра Рыту з Алачкай, і пра сябе. Пра сябе, дай ты веры, больш за ўсё. Як успомніць што, дык тая згадка, быццам нітка, сучыцца і сучыцца.

А яшчэ — пра Пецьку. Як і на лузе, збалеўшыся ўся ад таго круту ў галаве, зноў прастагнала-прашаптала нема: «А мой жа ты Пецечка!..»

Абодвух яе Пецькаў — і мужыка, і брата — пахавалі на адных могілках, у тым кутку, дзе ў сорак трэцім пахавалі сямёра іншых партызанаў. Партызаны хацелі хаваць іх самі, але ні Таццяна з маткай, ні Кастусь Раманкевіч не пагадзіліся. Чаго гэта, каб хто сказаў, іх будуць хаваць чужыя людзі, калі ўжо нашы вярнуліся?

Кастусь Раманкевіч так і сказаў партызанскаму начальству:

— Дзякуем, але ўжо не турбуйцеся. Памагчы чым, дык яно — калі можаце, а так мы ўжо самі. Іх не прыждалі, сынкоў нашых, але ж самі во дажылі, што дрыжэць не трэба. І я, і нявестка во...

Але, Кастусь Раманкевіч зваў тады яе, Таццяну, нявесткай. І пасля яшчэ калі-нікалі абзываўся да яе словам, хоць адчувала, што з кожным разам у слове тым было ўсё болей жарту. Мо і горкага, але жарту. Добры чалавек быў, свёкар яе нязнаны. Дарма, што часта дзяцініўся. Яе, Таццяну, ніколі і словам не зачапіў, не скрыўдзіў...

Нагаласілася яна тады! Дзве дамавіны паставілі побач, абапал шырокай — на дваіх — ямы, і абедзве тыя дамавіны родныя. Людзей сышлося шмат, партызанаў. Але што ёй усё тое? Кінецца, адну дамавіну ашчаперыць, по-

тым да другой укленчыць, а тут матка заходзіцца... З Пецькам, з Раманкевічам, дык як след і не развіталася. Прыпала да яго ў астатні раз, а ўжо мужчыны века паднялі, каб труну забіваць, дык яна толькі рукі яго халодныя цалавала. Рукі тыя і запомніла болей за ўсё: нязвычна гладкія і белыя, спалатнелыя, з надта чамусьці доўгімі пальцамі, чужымі, нягнуткімі.

Ажно ледзь не захварэла тады. Яно, пэўна, і хварэла, але не да хваробы было, на нагах яе перахадзіла. Мо ёй здавалася толькі, але ж думала, што ў яе з Пецькам павінна было нешта быць. І самой быццам здавалася, і жанчыны казалі, што нібы так яно пачынаецца. Але ж няпраўда, мусіць. Пэўна, нічога і не пачыналася, бо няўжо, як бабы кажуць, перагарэць можа ад гора ўсё? Не, байкі, пэўна! Чаго ж яно пасля не перагарэла, калі сама не хацела? Ці ж яна забылася, як знарок цабэрак цяжкі падымала, матцы нічога не кажучы? Дык жа не перагарэла і не сарвалася? Матка пасля, як уведала, нават сварылася на яе. Казала:

— Ці ты, дачушка, галавы не маеш? Сорам вачэй не выесць, а здароўе б падарвала. Дык не была б нікому патрэбна і без дзіцятка таго...

Тую хваробу сваю яна і хваробай не лічыла. Гэта цяпер папрывыкалі: ледзь каторому што забаліць, дык адразу да доктара. А тады? Ці мала чаго можа нядужыцца! Ды і маладая была, каб хварэць, вылежвацца. А там жа праз нейкі месяц і зусім не да хваробы зрабілася. Яшчэ людзі душой не акрыялі, ад вайны не адышлі, а за калгас узяліся, аднаўляць пачалі. «Полымем», як і да вайны, назвалі. А з чаго той калгас рабіць было? Нейкія тры кані-здыхляціны ды пяток авечак, якіх у гарнізоне немцы не паспелі зжэрці. А да ўсяго — ні хлявоў, ні пуні, ні вупражы, ні плуга ці панарада якога. Адна назва — калгас! І раптам зваліўся ўвесь той клопат на яе...

Старшынёй стаў Юлісь Качан. Быў ён у партызанах недзе ў другім атрадзе. І надта ж не пашанцавала яму. Параніла яго аднойчы. Лёгка параніла, у руку. Ён наган трымаў, і ў гэтую руку куля пацэліла, далонь прабіла. Качан на рану асабліва не зважаў — перавязку зрабілі, і ўсё тут. А яна вазьмі ды пачні гнаіцца, і скончылася тым, што адрэзалі яму руку ледзь не па локаць. Расказваў, што рэзалі звычайнай нажоўкай. Навастрылі, як брытву, і рэзалі. Казаў, сам глядзеў спачатку, а пасля зняў, у вачах пацямнела. Яна, Тацяна, як слухала, дык

сама ледзь не ўмлела. Гэта ж казаў, што нават і пасля, як і беспрытомны быў, усё роўна чуў, як піла па косці скрыгатала...

Стаў Качан старшынёй і зайшоў аднаго разу да яе, Тацяны.

Падтрымліваючы сваю куксу, якая ўсё яшчэ балела, пачаў:

— Не палохайся, дзеўка, што скажу, дзела ест да цябе.

— Што такое, дзядзька Юлісь? — сама яшчэ не ведаючы чаго, насцярожылася яна.

— Прыйдзецца табе, дзеўка, у брыгадзірах пахадзіць. Першай брыгадай будзеш камандаваць. Сваім канцом. А ў тым канцы сяла будзе стары Папковіч.

— Ты што, дзядзька, здурнеў? — яна ажно сумелася.

— Не здурнеў, і ты не дурней. Пакуль больш нікога няма. Дык і пабудзеш брыгадзірам. Ты дзеўка вучоная, у партызанах троху абцерлася, у крыўду сябе не давала... Адным словам, будзеш камандаваць брыгадай!

Тут і матка яе не стрывала:

— Ты, Юлісь, часам не выпіў? Які з Танькі брыгадзір? Хто яе слухаць будзе? Што яна ўмее?

А Юлісь на матку ажно ботам па падлозе грукнуў:

— Цыц! Не цябе сватаю! З дачкой гавару. Да яе ў мяне дзела! — І да яе, Тацяны: — Стараваты я ўжо з табой жартаваць. Лічы, што зацверджана. Зразумей, дзеўка, няма больш каго ставіць. Вернуцца мужчыны, тады пабачым.

З тым і з хаты пайшоў. А яны з маткай — у слёзы. Які з яе брыгадзір? Гэта ж людзі засмяюць. Што гэта Юлісю ў галаву ўбілася? Думае яна гэтак і плача. А матка памагае:

— Не згаджайся, дачушка. Ты не парцейная, нічога яны табе не зробяць. Не згаджайся, і ўсё тут!

Вядома, нічога не зробяць, калі адмовіцца, але ж, мусіць, Качан не сам па сабе да яе прыйшоў.

А матка і палохаць пачала:

— Здарыцца што, дык яшчэ і пад суд пойдзеш! Чуеш, Танька?

Хліпала яна і маўчала. А матка тое яе маўчанне пасвойму зразумела, пачала бэсціць дачку: што яна і гультайка — пасцелі за сабой не засцеле, і недарэка, і такая вучоная, як авечка, што ў іх да вайны была,— усё свайго двара не пільнавалася. Тацяна не стрывала і агрызнулася:

— Але ж да мяне прыйшлі, а не да каго!

Матка адно сказала ў злосці:

— Ат, што з дурнем гаварыць! Папомніш мае слоўцы, ды позна будзе!

А яна, на злосць матцы, парашыла: пагодзіцца. Хай гультайка, хай недарэка, хай авечка дурная, а — пагодзіцца!..

А сустрэла Качана, дык той смеласці як і не было, слова вымавіць не магла. Адно выціснула з сябе:

— Не, дзядзька, не змагу я. Дальбог жа, не змагу.

Качан быў у добрым настроі — пэўна, не надта балела кукса, бо не раскрычаўся, а моўчкі ўзяў яе за локаць, сціснуў лёгенька пальцамі левай рукі, спакойна сказаў:

— Бачу, дзеўка, што надумалася, рашылася. І правільна! Пра цябе ўжо гаворка там была... Адно — не палохайся. Дзела, вядома, для цябе новае, але ж будзем неяк рабіць, разам думаць. Людзей жа ты ведаеш...

І пачала яна хадзіць у брыгадзірах. Цяпер успамінаць тое і горка, і смешна — ужо як і не верыцца, што была яна брыгадзіркай. Але ж — была! Хто можа забыць, а толькі не яна. Гэта ж не было за што рук зачапіць. Ні ўзараць, ні пасеяць. Жыта па зернетку збіралі той першай восенню. А вясной зноў па хатах хадзіла, упрошвала жанчын, каб адшкадавалі бульбы хоць па кошыку...

Ат, што цяпер тое ўспамінаць! Каму гэта ўсё цікава? Хіба што такім, як сама яна, Тацяна. Бо маладзейшым іншае ў галаве. Ім што? Было дык было, даўно быллём парасло. Ці казку ім расказвай, ці праўду кажы — пасміхаюцца толькі. Алёшка во — усё дурыў галаву з матацыклам: вось добра б было, не трэба ў аўтобус ціснуцца, калі захацеў, тады і падскочыў у сяло... І купіла ж! Думала, каб дзешавейшы які, а ён сваё:

— Не, мама, калі ўжо купляць, дык каб машына была, не драндулет...

Шэсцьсот, здаецца, выдажыла. Гэта ж і пядаўна зусім было, вясной леташняй, а во ўжо, Рыта кажа, на машыну паквапіўся. Няўжо праўда?

Не ішоў сон да Тацяны. Ніяк не ішоў...

### *Чацвер, 29 чэрвеня*

Але ж і світае хутка ў чэрвені! Толькі, здаецца, пашарэла ў хаце, а ўжо, глядзі, і сонца выкаціцца. Гэта ж нейкіх хвілін пяць назад не магла даўмецца, што там вісіць,

між шафай і вушаком, нічога ж, здаецца, не вешала, узіралася ў ранішнюю ці то яшчэ начную бялёсасць, што панавала ў хаце, і не магла разгледзець, а вось ужо зусім добра відаць — халацік Рыцін. Вунь, гузікі нават відаць — матава-беленькія, з дзвюма дзірачкамі, і жоўценькія кутасікі на кішэнях, і такая ж жоўценькая аблямовачка на каўнерыку, на крыссі.

Адкінула яна коўдру, спусціла ногі на падлогу, намацала тэпці. Адчула нагамі мяккі, цёплы ворс і ў каторы ўжо раз падумала-пасміхнулася сама сабе, што гэтая гарадская завядзёнка з тэпцямі зусім і неблагая. Гады, мусіць, са тры назад купіла сабе гэтыя тэпці — скураныя, на тоўстай мяккай падэшве і з ворсам усярэдзіне. Добра ў іх і па хаце тупаць, і можна ўлетку, як суха, на двор выйсці.

Зірнула на нявестку, на Алачку. Рыта спала, па-дзіцячы падлажыўшы руку пад шчаку. Унучка ж з-пад коўдры вылузалася, на жывоціку спіць, абняўшы падушачку ручкамі. Падышла Тацяна да ложка, малую прыкрыла, ціхенька ўздыхнула. Падумала была пра Рыту: вось спіць сабе і не чуе, што дачушка побач акалела ўся, голенькая. Ды зірнула зноўку на нявестку, і нейкая цёплая хваля падкацілася да сэрца:

— Матачка ты матачка! І сама яшчэ дзіця горкае. Прыехала пажаліцца, і не да мамкі роднай, а да...

І варухнулася ў яе, Тацянінай, галаве думка: не дасць яна Рыты ў крыўду! Як яно будзе, што там на самой справе ў яе з Алёшкам зрабілася, а — не дасць!

З гэтаю думкаю выйшла ў першую хату, асцярожна прычыніўшы за сабою дзверы: хай пасняць яшчэ.

Раніца пачыналася для яе звыклымі, заўсёднымі клопатамі. Падаіла Падласку і прагнала яе ў поле, малако працадзіла, з Шулячыхай троху пастаяла, як вады хадзіла, пасля бліны ўчыніла — і Рыта, і Алачка любяць іх з маслам, бульбы саганок наабірала — «мо з'ядуць з кіслым малачком», схадзіла пад паветку, прынесла дроў, у печы зладзіла, нават трэсак падклала — пасля астанецца толькі сярнічку паднесці, урэшце, абуўшы гумовікі, пайшла ў гарод — пакуль спаць будуць яе госці, прабяжыць яна па баразнах, аправіць бульбу па ранішняй волкасці.

Гэта ж самае рабіла яна і ўчора, і заўчора, гэтым былі заняты ўсе яе ранкі,— да той пары, калі будуць ісці на работу жанчыны і гукнуць яе з вуліцы, і тады яна, Та-

цяна, укусіўшы што на скорую руку альбо і так, нашчаком, укіне ў прабойчык сяней замок, ключ ад якога згубіўся яшчэ ці не пазалетась, кінецца іх даганяць. Аднак сёння рабіла яна ўсё як няўцямна, без адчування таго, што гэта трэба рабіць, а з нейкаю не то абыякавасцю, не то роспачнасцю — трэба ж нешта рабіць! Непрыемна, надакучліва наколвала ў скронях — бы там хто малаточкамі стукаў, смактала пад грудзямі. Мо ад таго, што амаль не спала? А мо ад думак гэтых неадчэпных? Без ахвоты і смаку, а так, з надзеяй, што будзе лепш, сербанула колькі лыжак сыракваншы — перад тым як ісці ў гарод, але ўсё адно было млосна, усярэдзіне як пякучка пякла. Рачкавала ў бульбе, кідала ў кошык, абрываючы карэньчыкі, зелле і паламанае каліўе бульбоўніку — будзе ў абед што свінчаці даць, корпалася ў пульхнай і цёплай з начы — ажно дзіўна — зямлі, а ў галаве доўжыліся-снаваліся тыя ж, што і ўначы, думкі-згадкі...

Брыгадзірства яе пачалося са... школы.

Да вайны ў іхніх Жылічах была добрая школа. Перад самай вайной і збудавалі яе — вялікі, прасторны будынак на месцы былой валасці, сярод старых, высачэзных таполяў. Яна, Тацяна, ужо і не хадзіла ў тую новую школу, у старой адвучылася, дзе было ўсяго тры класы, а ў новай — ці не ўсе сем і настаўніцкая. Добрая школа была! Надта па-людску і дарэчы ўсё было даведзена: і выфарбавана, і выбелена, вакол нізенькі штыкетнічак пастаўлены, вапнай пабелены, масткі драўляныя ад вуліцы да ганка і па двары школы пракладзены. Тацяне здаецца, што і ва ўсім раёне лепшай школы не было.

І трэба ж — згарэла новая школа. У першы ж дзень, калі праз сяло немцы ехалі. Спыніліся яны ў школе ці на адпачынак, ці на нараду якую, ненадоўга, мо на гадзіну, а як паехалі, дык пакуль людзі на вуліцу павылазілі, пакуль агледзеліся, школа палала — не падступіцца. Амаль нічога і не ўратавалі. Адно — парты ацалелі. Іх павыносілі на лета ў двор, каб дзе каторую падрамантаваць і перафарбаваць. Неўпрыкмет людзі парасцягвалі парты па дварах. Хто ў гародчыку цэлую паставіў, а хто, адрэзаўшы і пашчапаўшы на дровы сталы з вечкамі, пакінуў для якой патрэбы толькі лаўкі са спінкамі. Памятае яна, Тацяна: тады, у вайну, ледзь не ля кожнага ганка стаяла лаўка — ці вядро вады паставіць, ці калі і самому прысесці.

Ну, а тады, у сорак чацвёртым, як нашы прыйшлі, вырашылі адкрыць школу ў хаце Данілы Лобіка. Быў у Жылічах кулак такі — Даніла Лобік. Як калгас арганізоўвалі, яго з сям'ёй вывезлі — казалі, у Котлас. Яна добра помніць, як забіралі з Лобікавага двара дабро. Шмат вазоў было ўсяго: і жыта, і бульбы, некалькі панарадаў новых і саней, вопратка розная, палатно. Але найболей запомнілася, як рагаталі людзі, калі з гарышча Лобікавай хаты знялі ці не тры капы пяньковых і лыкавых лапцяў. Цэлы панарад з коптарам накідалі! І яна, Тацяна, рагатала разам з усімі, а чаго — дык і не ведае. Мо ўжо і тады разумелі людзі, якое гэта багацце — лапці, няхай іх і тры капы?

Лобікава хата была вялікая, на дзве палавіны. Між імі былі сенцы — без падлогі, але з печчу. Зрабілі ў хаце пасля калгасныя яслі. У сенцах была кухня, на адной палавіне дзеці абедалі і гулялі, а на другой — спалі: уздоўж сцен пароблены былі тапчаны-палаці.

У вайну хата ацалела. Нават і страха не надта каб пякла. Адно што лежакі на гарышчы папрэлі, паразваль-валіся. Вось у ёй, былой Лобікавай хаце, і надумаліся адчыніць школу. Часу да верасня аставалася мала, а на падлогу дзяцей не пасадзіш. І тады нехта ці не з падлеткаў успомніў лаўкі са спінкамі, што стаялі ледзь не ў кожным двары. І то праўда! Сабраць тыя лаўкі, пазбіваць з дошак сталы-казлы — хай яно і не вельмі, але вучыцца можна.

Чаму даручылі сабраць па сяле тыя лаўкі ёй, Тацяне, яна і сама не ведае. Пэўна, не было каму. Дырэктар школы, калі не забылася, быў прызначаны ўжо — хворы на сухоты Антон Трухан, па мянушцы Квочка. Які там настаўнік быў з яго. Да вайны скончыў у суседняй Гайнаўцы дзевяць класаў. Ну, але ж тады і такіх няшмат было. Хлопец ён, праўда, быў начытаны, болей за яго ці прачытаў хто тых кніжак у Жылічах. Ён і ў вайну кніжкі чытаў. Пайшоў быў у партызаны, але прабыў там нядоўга — прастудзіўся ў лесе, і яго, ледзь жывога, прывезлі да маткі. Ён, мусіць, і павінен быў збіраць тыя лаўкі, але ўсё ў раёне прападаў, каб кніжак якіх ды сшыткаў расстарацца. Мусіць, таму і сказаў ёй Качан:

— Запражы Дэраша, ён дужэйшы і спраўнейшы, і праедзь па сяле. У каго ўгледзіш — забірай! Раз яны казённыя, дык, дзела такое, не цырымонься.

Яна і паехала. Памочнікаў у яе сабралася — ці не цэ-

лая рота: ад пяцігадовых жэўжыкаў, якім яшчэ і не да школы было, да падлеткаў, што і яе, Тацяну, перараслі. Дык яна сама нават і на двор ні да кога не заходзіла. Хлапчукі навыперадкі адзін перад адным усё абшнырацы: і двары, і дрывотні, і загуменні. Ды людзі і самі выносілі тыя лаўкі.

Адзін толькі Гэрц гвалт падняў. Калі дзеці панеслі з яго двара лаўку, ён выскачыў на вуліцу, размахаўся перад Тацянай кулакамі:

— Ты мне, гэрц, свае партызанскія замашкі не паказвай!

Яна сумелася ад неўспадзеўкі такой, але не стрывала:

— Гэта ж не тваё, дзядзька, школьнае!

Але Гэрц разышоўся:

— Ведаю, што школьнае, але на маім двары стаіць, і ты без спросу не руш! Начальніца мне, гэрц!

Што з таго Гэрца возьмеш? Гэрц і ёсць Гэрц. Змалада хваробу сабе займеў — грыжу — і насіўся з ёй, як дзіця з цацкай. Праз гэта, пэўна, і дзеўкі яго ганьбілі, бо ажаніўся Гэрц позна, ці не пад сорак гадоў, і прывёз сабе жонку аднекуль здалёк — маўклівую, быццам рыба, і непрыгожую, рабатую Марылю. Яе ў сяле, пэўна, на здзек, Лялькай ахрысцілі. Іначай ніхто і не зваў. Адно яны самі сябе па імёнах звалі: яна яго — Алісейкам, ён яе — Манюняй. А ўсе — Гэрц і Лялька. І за вочы, і ў вочы. А яны і не крыўдавалі, адгукаліся. Яна, Тацяна, спачатку спрабавала была зваць яго дзядзькам Алісеем, ды часта забывалася і, бачачы, што яму тое ўсё роўна, перастала пільнавацца. Гэрц, як яна памятае, ніколі нічога ў калгасе не рабіў. Ды і дома болей адседжваўся, каб калі вядро вады Ляльцы прынёс. Калі што хто казаў часам, чаму ў калгас на работу не ходзіць, Гэрц уздыхаў і ледзь не са шкадаваннем казаў:

— А мне, братка, няможна на пуп браць. І хацеў бы, а не магу — кішкі ўніз збягаюць.

Сёй-той, не стрываўшы, кідаў:

—А Сымон Паўлінін? У яго ж таксама грыжа, а робіць, як усе!

На тое Гэрц, быццам выхваляючыся, быццам з гонарам, адказваў:

— Дык жа ў яго, гэрц, у адной пахвіне, а ў мяне — у абедзвюх!

Лялька ж яго рабіла і за сябе, і за яго, і дома, і ў кал-

гасе. А Гэрц днямі на лаўцы, каля свайго гародчыка-кветнічка, адседжваўся. Сядзіць, цярэбіцца, бы курыца ў пяску, і другіх павучае. Па ім дык і тое не так зрабілі, і гэта не па-гаспадарску парашылі.

Да вайны на Гэрца асабліва не зважалі — было каму рабіць і без яго. А па вайне, калі паасталіся адны бабы, дзеўкі ды падлеткі, не лішнім аказаўся і Гэрц. Качан і пачаў быў яго прыструньваць. Ды нічога не атрымалася. Адбрэхваўся Гэрц:

— Ты ж ведаеш, Юлісь, які з мяне работнік. Каб мог, то ж я б, гэрц... Мяне ж і на вайну не ўзялі, а ты, гэрц, кажаш...

— То ты б хоць пастаяў пры жанках, падказаў што, параіў! Усё ж мужчына ты, здаецца,— казаў Качан.

— Ну, падказаць, параіць — гэта, гэрц, я магу.

І зрабіўся Гэрц, як смяяліся ў сяле, «інструктарам». Радзей і Гэрцам пачалі зваць, а ўсё — «бабскі інструктар» ды «бабскі інструктар».

Але і інструктар з Гэрца быў такі ж, як і работнік. Помніць яна, Тацяна, як перавозілі зруб з дзядзінца на Лобікава гумно, каб якую канюшню і аўчарнік агарадць. Пачалі той зруб раскідаць. Камандаваў жанчынамі ды падлеткамі Гэрц. І дакамандаваўся: скацілася зверху бервяно і прыціснула самога інструктара. Не надта, праўда, але пакульгаў тыдні са два. Дык пасля і ад інструктарства адмовіўся, зноў заняў свой пост на лаўцы пры гародчыку.

Ліха б з тым Гэрцам было, надта б і ўспаміналa яго Тацяна, каб ён языком не мянціў! Хіба яна не ведае, хто пра яе пагалоску — пра «партызанскую нявесту» — па сяле пусціў? Вядома, хто — Гэрц! Але і за тое яна на яго не злавалася. Хай сабе пабрэша, калі так хочацца. Чаго яна дараваць яму не магла, дык гэта таго, што ён Алёшку ў вушы ўвёў. Стары чалавек, а на такое рашыўся!

Алёшку гадоў сем было. Пераняў яго Гэрц на вуліцы і пачаў:

— Дык ці ведаеш ты, гэрц, хто твой бацька? Ага, партызан, значыцца. Так мамка сказала. Але, але, гэрц, што ж яшчэ яна скажа табе! Дык жа ведай, гэрц! Ніякі ён не партызан, а... Ды што я табе казаць буду? Ты, гэрц, пра тое ў яе самой спытай. Тады і будзеш ведаць, ці ты бацькаў сын, ці байструк. Бяжы і спытайся...

Памёр Гэрц не так даўно, пра мёртвых нельга блага казаць, але і сёння не забылася яна на сваю крыўду.

Як успомніць, дык і злосць ранейшая ажывае: рана тая зноўку баліць.

Гэта ж прыбег тады Алёшка дадому. Дурненькі яшчэ быў, не разумеў нічога. Прыбег і пытаецца:

— Мама, дык мой тата не партызан?

— Скуль ты ўзяў, сынок? — не знайшлася што больш сказаць яна, перапалохалася, хоць і ведала, хоць і чакала, што некалі спытаецца сын пра тое.

— А дзядзька Гэрц казаў, што байструк я, што тата мой не партызан.

Не адвяла яна вачэй сваіх, глядзела проста ў сынавы вачаняты, хоць і пакутліва было тое.

— Не слухай ты, сынку, таго дзядзькі дурнога! Я ж табе казала. І сама я была ў партызанах, і тата наш. Там, у партызанах, і ты ў нас знайшоўся. Гэта ж усе людзі ведаюць. І Гэрца ты не слухай. Ён хоць і стары, але дурны. Абы-што брэша.

Не ведае яна, паверыў ёй тады Алёшка ці не. Пэўна, паверыў. Але па сынавых вачанятах зразумела, што засталася ў Алёшкавай душы і нейкая кропля сумнення, і баялася, і чакала, што некалі зноў сын прыбяжыць да яе з тым жа пытаннем.

А ўсё — праз Гэрца. Людзі ж ашчаджалі яе і сына, не лезлі сляпіцаю з насмешкамі ці падцінаннямі. Нашто ўжо дзеці да розных крыўдлівых мянушак здатныя, і сваркі ў іх часцей надараюцца, а неяк жа так абыходзілася, што да таго Гэрца яе Алёшку, здаецца, ніхто не папікнуў байструкоўствам.

Яна так і не сказала Алёшку праўды. Малы быў, дык казала тое ж, што і тады, пасля першай Гэрцавай брахні, а потым, як падрос, дык, мусіць, і сам нешта зразумеў, перастаў пытацца. Так і вялося: ён маўчыць і яна маўчыць. А як пасталеў, дык, мусіць, саромеўся пытацца. Вядома, саромеўся!..

Пачула Тацяна, што быццам клямка бразнула. Ці Рыта выходзіла на двор, ці мо хто прыходзіў? Разагнулася яна ў баразне, атрэслася, пайшла да ганка.

Зазірнуўшы ў хаце на чыстую палавіну, угледзела, што Рыта з Алачкай на нагах ужо. Унучка нават адзета была, а нявестка ложак засцілала. Тацяна азвалася да іх з парога:

— Хай жа бы яшчэ паспалі. Так раненька ўспароліся.

— Выспаліся, мама. Мы і там заўсёды ў сем падымаемся,— сказала Рыта.

У голасе яе Тацяна не пачула ні ніякаватасці, ні крыўды. Наадварот, падалося, што нявестка, няйначай, акрыяла, павесялела за ноч. І таму ўздыхнула Тацяна і палёгкай, і быццам адразу ж пакінулі вызвоньваць сваю чачотку малаточкі ў скронях.

— Ну, то і добранька. Зараз я ў печы запалю, блінкоў напяку. Пакуль будзеце бліны есці, дык і бульба паспее, і яешня... Ну, то і добранька,— паўтарыла, прычыняючы дзверы.— Гуляйце пакуль.

Чырканула яна сярнічкай, паднесла да трэсак — тыя ўраз успыхнулі. Выцягнула з коміна юшку. Хоць і лета, але комін закладвала. Не адразу, як выпаліцца ў печы, а пазней, часам і па абедзе — так, здавалася, лепшы дух у хаце. Падняла на прыпек і падсунула да агню два чыгуны з паронкай — курам і свінчаці на сёння і на заўтрашняе паўдня. Чыгуны можна было б паставіць і пазней, калі дровы прагараць, але ж іначай бліноў не спячэш, блін полымя любіць, а між чыгунамі зручна патэльню прытаркнуць. Пакуль угарацца дровы, адхінулася замяшаць і занесці свінчаці. Ажно і Рыта выйшла да яе ў запечак.

— А што мне рабіць, мама? — спыталася.

— Ат, дзіцятка, а што табе рабіць?

— Вы, мама, заўсёды так. Самі ж нешта робіце. Цэлую раніцу на нагах,— Рыта стаяла ў праходзе, расхінуўшы дзве палавінкі паркалёвай занавескі, што адгароджвала запечак.

— А хай цябе кот убрыкне, з дзяўчынай! — Тацяна ажно ўсміхнулася.— Ну і праўда ж, таўкуся цэлую раніцу. Як карову прагнала, так і таўкуся. У бульбе троху пакорпалася, бо ўчора поцемну няможна было... Хочаш, дык мо падлогу падмяцеш?

— А можа, памыць?

— А не, Рытачка, не трэба. Яна чыстая, нядаўна мыла, пяску толькі нанасілася. А пачні мыць, дык на мокрую яшчэ болей набярэцца. Так падмяці, калі не лянуешся. Малой во лепш будзе гуляць, яна ж усё на падлозе... Венік у сенцах! — гукнула мацней, бо Рыта ўжо валакла на двор ходнікі вытрасаць.

Як толькі Рыта ўправілася з падлогай, Тацяна паклікала яе і Алачку за стол.

— Ідзіце, дзеткі, ешце, пакуль гарачанькія. Я й шмат

напякаць не буду, бо халодны блін — сабаку хіба. Масла не шкадуйце, не куплёнае.

— А вы, мама, чаму самі не сядаеце? Нам усё носіце і носіце, а самі і не прыселі,— нявестка падсунула да стала табурэтку.— Сядайце!

— А не, дзіцятка, я троху пазней,— яна зняла фартух, выцерла рукі.— Вы ешце, на мяне не зважайце. Я падбягу, гляну, які нарад сёння. А мо і на вуліцы каго сустрэну, дык тут жа і вярнуся, не паспее астынуць.

Ёй і праўда не давялося бегчы туды, пад Пётраву хату, дзе ён на слупе вывешваў нарад,— якраз ішла адтуль Маруся Адарчына. Дзеўка і сказала, што і сёння ўсім жанчынам — на сена, толькі ўжо не ў Карчаватку, а на Лугавінне, за канаву. Дык Таццяна і ў хату тут жа вярнулася.

Рыта і Алачка даснедвалі. Прысела за стол і Таццяна. Наліла сабе малака кіслага, бульбіны ўкусіла. Есці не хацелася, хоць уга ўжо каторы час на нагах. Наранку ёй нешта ніколі есці не хочацца, у абед, зазвычай, заадно і снедае. Хутчэй для блізіру, каб нявестка лішне не думала, пажавала троху. Падумала, што возьме з сабой кілбасы нявестчынай — мо ў полі з'есца смачней. Сядзела за сталом моўчкі. Адно — унучку ўпрошвала, каб малачко выпівала да дна.

Толькі пасля ўжо, калі Рыта з Алачкай дзякуй сваё сказалі, калі прыбірала, спяшаючыся, са стала, бо, чула, жанчыны ішлі вуліцаю і трэба будзе іх даганяць, прамовіла:

— Заўтра ж, пэўне, і Алёшка прыедзе.

Сказала, зусім забыўшыся, як і ўчора, што Рыта не так, як раней, з ёй снедала. Сама сабе веры б не дала, што можа быць такое, што надыдзе на яе насланнё такое — начыста забылася. І ачомалася, калі здзівілася, што Рыта на яе словы не азвалася, і ажно пачырванела ад няёмкасці, быццам яе заспеў хто за нечым непрыгожым.

Жанчын яна не дагнала ўжо. Добра, Манька здагадалася пачакаць яе. Дык разам ішлі на Лугавінне. Яна, Таццяна, усё яшчэ не ачомаўшыся ад таго наслання, пра яго ж і з Манькай загаварыла.

— Мая ты Манечка, дальбог жа, памяць адняло. Усю раніцу так добранька было, ні яна да мяне пра тое, ні я да яе, от так, здэцца, усё, як і раней у нас. А пад канец самы, калі ўжо з хаты выходзіла, вазьмі ды ляпні.

А Манька, як заўсёды, толькі плюнула:

— Трасцу на цябе, як ты з ёй носішся! Пакрыўдзіла! А што, каб хто спытаў, ты кепскае сказала?

— Дык жа я, Манечка, не кажу, што кепскае. Проста — не хацела тое казаць, а сарвалася. Я ж думала, хай адыдзе дзеўка, акрыяе, дык пасля і сама раскажа.

— Ну, а хоць што гаварыла?

— Што ж яна скажа. Тое, што і ўчора.— Тацяна перавяла дух.— Што пайшоў Алёшка да другой. На машыну бытта пакваліўся.

Яны ішлі далёка позаду жанчын і не баяліся, што іх могуць пачуць,— гаманілі ўголас.

— Што, ва ўхажоркі машына ёсць? — перапытала Манька.

— Анягож!

— Матацыкл прыеўся ўжо, машыны захацелася! — Манька сказала зласнавата, і яе, Тацяну, гэта здзівіла. Ведала: любіла яна Алёшку, малога песціла больш, чым яна сама, і пасля заступалася за яго, нават перад ёй, Тацянай. А вось жа — асуджае. А што ж тады чужыя скажуць?

— Хто ж яго ведае, Манечка,— сказала, памаўчаўшы.— Можа, сам прыедзе, тады ўжо...

— Прыедзе,— буркнула Манька. Спакайней дадала: — Ну, а Рыта чаго прыехала? Пажаліцца табе ці яшчэ чаго?

— Пажаліцца... Пажаліцца да роднай мамкі едуць,— Тацяна ўздыхнула.— Як ты, Манька, не разумееш! Куды ж ёй яшчэ было ехаць? Водпуск жа ў яе. Алёшка каторы месяц ні рубля не дае, а і за кватэру, і за яслі, а колькі Рыта і палучае...

— Дык што, з работы сарвалася?

— Водпуск жа ў яе, кажу!

— Дык на месяц і прыехала?

— А хто ж яе ведае...

Некаторы час ішлі моўчкі. А калі мінулі Буду і пераходзілі па дрогкіх жэрдачках канаву, за якой пачыналася Лугавінне, Манька сказала:

— Ты ўжо лішне не бядуй. Неяк жа будзе. Алёшкі пачакай. А да Рыты мо і праўда з роспытамі тымі назаляцца не трэба.

Яна адно і прамовіла:

— Дык я і кажу, Манечка. Хай адыдзе...

На пакошы раса апала ўжо, і жанчыны ўвішна, адна

перад адной, пачалі раскідваць копы — не растрасаць, а толькі раскідваць, бо сена было амаль сухое: хай трошку праветрыцца, дачахне, дык пасля абеду можна будзе спакойна стагаваць.

Не ўспамінала яго Тацяна, даўно ўжо не ўспамінала. Старалася не ўспамінаць, гнала прэч ад сябе думкі, калі ён часам і згадваўся, выкрасліла яго са свайго жыцця яшчэ з тае пары, як уцёк ён, на партфель свой забыўшыся. І каб во не з Алёшкам тое, дык ці ўспомніла б. А вось зараз нечакана згадалася ўсё, ажно да драбніц. Пераходзіла ад капы да капы і, сама таго не жадаючы, вярталася памяццю ў першае пасляваеннае лета, калі была яна брыгадзіркай і калі ён навязаўся на яе галаву...

Ліха яго ведае, як яно тады і рабілася, але ўсё ж адсяяліся яны неяк той першай і апошняй яе брыгадзірскай вясной. Ячмень і авёс, памятае, прывозілі аднекуль, з нейкага фонду, а бульбы дома, па хатах, сабралі. Кожную бульбіну на тры, а то і на чатыры-пяць кавалачкаў рэзалі — колькі вочак у той бульбіне было. Не бульбу садзілі ў баразну, а лушпайкі. Не дужа і вырасла тая бульба, бо адкуль сіле быць у лушпайках? Памятае, восенню выбіралі, дык дробненькая была, бы пацеркі,— на насенне толькі. А коней тых колькі было? У яе брыгадзе — дзве паркі. Адна партызанская — аднавокі Лысы і кабылка Мурка, а другую салдаты пакінулі ў сорак чацвёртым — Дэраша і Ганса. Дэраш ніштаваты конь быў, толькі надарваны, а Ганса ледзьве выхадзілі, у заднюю нагу паранены быў, і нешта надта доўга тая рана не гаілася. Праўда, к вясне паспраўнелі і Дэраш той, і Ганс, але што гэта — дзве паркі? А зямля за вайну аблогай ляжала, колькі палеткаў і зусім вольхай ды ляшчынай занялося. Калі б не трактар, якога Качан расстараўся ці не на тыдні два, дык што б яна зрабіла з тымі коньмі? Адно — бульбу б пасадзіла. А так хоць і няшмат, мо палову таго, што да вайны абворвалі, неяк адужалі.

А людзі як памучыліся! На сотках жа і нагі таго каня не было. Хто пад рыдлёўку бульбу садзіў, хто кароўку, у каго была, у плужок ушчамляў, а рэшта — саматугам. Пяць-шэсць баб у пастронкі — і аруць. Тут табе і слёзы, і рогат дурны. Дальбог жа, паверыць цяжка, але ж і рагаталі, адна з адной пацяшаліся, бо каб жа не смех той, дык ці вытрывалі б усё?

Маладая была яна, мала што і разумела. Адно ведала — трэба! Вось і прасіла:

— Бабы, дзеўкі, а што рабіць? Трэба ж! Не зробім мы, дык хто за нас зробіць?

І рабілі. Гэта цяпер, на сталы розум, часам думаецца, што іначай і быць не магло. Вайну такую страшную перабыўшы, надта ж людзі жыць хацелі. А і іншае: згаладаліся за вайну па рабоце гуртавой. Таму ёй і не надта трэба было ўпрошваць жанчын, самі на работу ішлі. Гэта пасля, як колькі гадоў запар рабілі амаль дарма, дык разленаваліся людзі, ледзьве не пад прымусам дзеўку ці бабу на работу выправоджваць трэба было. А тады, па першым часе,— не! Галодныя, голыя, а ішлі.

Тады, той вясною, прыехаў у іхнія Жылічы ўпаўнаважаны. Па сяўбе. Пазней іх шмат перабывала ў калгасе. І па жніве, і па сяўбе, і па сенакосу, і пазыках, і па мясе, і па малацэ — быццам без іх не было б ні той сяўбы, ні малака ці мяса. Зараз мо і смешна тое, але ёй, Тацяне, няйначай, шкада было іх, упаўнаважаных тых. Ходзяць з партфелямі па сяле, у канторы пасядзяць, на поле сцягаюцца, на таку ці на канюшні патаўкуцца. І чамусьці здавалася ёй, што яны і самі не ведаюць, чаго яны тут маракуюцца. Шкада было іх і па другой прычыне. Мо памыляецца яна, але здавалася ёй, што найбольшы клопат іхні быў — дзе б гэта папалуднаваць. Здаецца, так і стаіць у іхніх вачах гэтае пакутлівае пытанне: хто сёння запросіць іх паабедаць — ці сам старшыня, ці брыгадзір, ці мо пашлюць да якой кабеты? Цяпер скажы катораму пра гэта, дык пасмяецца, і ўсё. А тады? У краме — соль, гарэлка і пячэнне, не надта наабедаешся. А каб жа гэта чалавек на паўдня ці на дзень прыехаў! Па тыдню, па два, бывала, сядзелі ў сяле. Вось і глядзелі ў рот старшыні...

Упаўнаважаны па сяўбе быў невысокі, шчуплы мужчына гадоў пад трыццаць пяць, маўклівы, нават, падалося ёй, сарамяжы. Здзіўлялася, што і чырванець умеў, як дзяўчынка. Але гэта пазней заўважыла. А тады, як першы раз у канторы яго ўбачыла, дык толькі і асталося, што худы ён, кволы, бы заморак нейкі.

Качан пазнаёміў іх. Сказаў ёй і старому Папковічу:

— Гэта, таварышы, ест упаўнаважаны па сяўбе. Таварыш Дубіцкі, Іван Пятровіч. Ён зараз і пагаворыць з намі, правядзе інструктыўную нараду. Сяўба, наша першая сяўба, ест дзела важнае. Падыдуць праўленцы, тады і пачнём...

Гаварыў Дубіцкі тое, што пасля гаварылі ўсе ўпаўнаважаныя: спачатку пра падзеі на франтах — вайна канчалася, але яшчэ не скончылася, пра міжнароднае становішча, а пасля пра пасяўную, пра тое, што трэба правесці, яе як мага больш арганізавана, у кароткія тэрміны, рападняць на гэтае дзела ўсе наяўныя сілы і рэзервы, рашуча змагацца з лайдакамі і з тымі, хто залішне распускае язык, робіць падкопы, дэзарганізуе...

Сядзела яна, слухала, і нейкае дваістае пачуццё расло ў душы. Гэта ж як гаварыла з Качаном, з людзьмі пра тую пасяўную, дык неяк не так страшна было. Цяжка, вядома, будзе, але, быць таго не можа, нешта і пасеюць, і пасадзяць. А ён як нагаварыў усяго, дык яна зноў тыя матчыны словы ўспомніла і падумала, што ёй і праўда не трэба было згаджацца на гэтае брыгадзірства. Гэта ж калі што здарыцца, дык з ёй цацкацца не будуць. Во, гэтак і кажа:

— Гэта, таварышы, не проста гаспадарчая, а ў першую чаргу вялікая палітычная кампанія, і не трэба забывацца...

І ўсё, здаецца, на яе пазірае: маўляў, табе кажу гэта найперш, бачу, што ты маладая і нічога не разумееш.

Здранцвелая выходзіла яна з канторы. Ужо была на ганак выйшла, як нехта сказаў ёй:

— Вярніся, Тацяна, цябе Качан кліча.

Вярнулася яна. Качан падміргнуў выйсці ў сенцы і сам за ёй выйшаў, папярэдне сказаўшы ўпаўнаважанаму:

— Пачакайце хвілінку, таварыш Дубіцкі.

У сенцах Качан зашаптаў ёй:

— Трэба ж, дзеўка, некуды чалавека прыткнуць. Мо да якой бабы завядзеш?

— Ой, дзядзька Юлісь, не ведаю. Да каго ж гэта?

— Не ведаю і я, дзеўка. Да сябе б павёў, дык і спаць няма дзе палажыць. Ты ж ведаеш — дзеці. Мо да Анці?

— А не, дзядзька, сораму не абярэшся пасля. У яе ж і клапоў, і вошай.

— Дык жа гэтага багацця ці не ва ўсіх хапае.

— Яно ёсць, але каторая беражэцца... Куды я, дзядзька, павяду яго? Да сябе хіба?

— Дык я так і думаў, дзеўка! Хай у цябе пабудзе. Месца хопіць,— Качан памкнуўся пайсці.

— Месца хопіць, ведама, але чым жа я карміць яго буду? Чужы ж чалавек!

— Што самі з'ясцё, то і яму. Заціркі якой, бульбы, шчаўя ўжо можна назбіраць...

І ўвечары прывяла яна Дубіцкага дамоў. Ложак яму свой уступіла, сама перабралася на палаці ля печы.

Памятае, клікала яго тады, першы раз, вячэраць. Дык пачырванеў ён і адмовіўся быў:

— Дзякую, Тацяна Кірылаўна, я ўжо, можна сказаць, павячэраў. У мяне сёе-тое ў партфелі было.

Яна толькі ўсміхнулася сама сабе: ці ж не бачыла таго партфеля? Калі б у ім што-небудзь было, дык не быў бы такі пляскаты! Сказала яму:

— Не выдумляйце! Ідзіце во і паешце. Прысмакаў няма, а чым багаты, тым і рады.

Хваліўся толькі, што вячэраў. А хіба яна не бачыла, з якім апетытам глытаў клёцкі са скваркамі? І праснака ладны кавалак з'еў. Пасля чаю з мятай напіўся. Павячэраў, і калі ўставаў з-за стала і дзякаваў, дык угледзела — пачырванеў. І ёй, Тацяне, дзякуй сказаў, і матцы.

Аднекваўся Дубіцкі толькі тады, у першы вечар. А пасля — не! Лішні раз напамінаць, каб за стол ішоў, не трэба было. Быццам сем'янін — і снедаў, і абедаў, і вячэраў з імі. Самі чаго не з'ядуць, а яму пададуць: вядома, чужы чалавек і, акрамя таго, начальства.

І вось жа — спадабалася. Прыехаў пасля на сенакос, дык сам прыйшоў у хату, яна ўжо і не прыводзіла. Прыйшоў, пачырванеў, пажартаваў:

— Не прагоніце, Тацяна Кірылаўна?

К таму часу вайна скончылася. Ад таго не пабагацела ў сяле, але людзі неяк больш душою акрыялі, спадзяванак нейкі займелі, што, можа ж, мужчыны хутка вернуцца, што павінна неяк жыццё весялей пайсці. Не забылася яна, ніколі не забудзецца, як плакалі людзі, калі 9 мая мітынг быў у сяле. Ад радасці плакалі. Пасля мітынгу і вечарынка ў школе, у той Лобікавай хаце, была. Болей таўкліся на ёй падлеткі, дзеўкі з дзеўкамі, але і старых шмат сабралася, і жанчын. Шулячыха ўсіх смяшыла: мужыком пераадзелася, вусы сажай падмалявала і дзяўчат у круг вадзіла. Некаторыя бабы і паўпіваліся. І яна, Тацяна, у той вечар чарку ўзяла. У Качана. Але ад таго было ёй чамусьці не весела, а горка. Пецька ўспомніўся: як яны пасля блакады сустрэліся, як хавала яго... Глядзела, як выдурвалася Шулячыха, як круціліся ў польцы дзеўкі і падлеткі, і не весялілася, а плакала. Без слёз плакала, нутром...

«Не прагоніце, Тацяна Кірылаўна...» Каб ведала, чым яно скончыцца, яго пастаяльства, дык... А так у яе тады, здаецца, нечага і настрой быў добры і, ліха яго ведае, мо троху і прывыкла да яго. Сказала прыветліва:

— Заходзьце, Іван Пятровіч, даўно не былі ў нас. Ці ж мы з мамай такія злыя, што людзей праганяем?

Ён усміхнуўся. Усмешка ў яго была нейкая жаласлівая. Сказаў:

— Дзякую. А то вагаўся: мо ўжо я вам і абрыдзеў.

Пэўна, ён і матцы нечым прыйшоўся па душы, бо на тыя яго словы азвалася:

— Чаго ўжо там, распранайцеся.

Той летняй парой спала яна не ў хаце, а ў свіронку. Бацька яшчэ за аднаасобніцтвам паставіў той свіронак, глухой сцяной да вуліцы, а пярэклецца ў двор. Некалі быў ён падзелены на засекі, але дошкі-перагародкі яны з маткай павыкідалі яшчэ да вайны і складалі ў свіронку дровы — на правай палавіне, а на левай — абы-што: валяліся там бочка з-пад капусты, плеценая з лазовага дубца паўасьміна, аднаногая мяліца, прасніца. Паскідала яна ўсё тое ламачча ў кут і нацягала ў свіронак, на левую палавіну, сена. Добрага сена яшчэ не было — знесла ў свіронак ахапкі, нажатыя маткай на ўзмежках. Спаць на тых ахапках і мулкавата было — вядома, дуддзё рознае, бадылле і калючкі, але соладка. Трава з узмежкаў пахла і мятаю, і дзядоўнікам, і рамонкам, і чарнобылем, і шмат яшчэ чым. А падаслаўшы пад бок посцілку-рызаўку, паклаўшы пад галаву падушку, дык і зусім добра было.

Прабыў тады Дубіцкі ў іх ці не месяц. Разы са два адлучаўся на дзень-другі ў раён, але ў нядзелю, надвячоркам, зноўку заяўляўся ў хату...

Тым днём, памятае, субота была. У Жылічах палілася лазня. Сена стагаваць канчалі. На гэтым самым Лугавінні кідалі апошні стог. Яна, памятае, жанчын прасіла:

— Давайце ўжо ўсё даб'ём, бо сёння лазня, дык дарэчы і пот, пыл гэты змыць...

У лазні ў іх і тады, і цяпер завядзёнка такая, што спярша мужчыны мыюцца, а пасля жанчыны. Бабе трэба і карову з поля пераняць, і на вячэру што зрабіць. Вось пакуль яны кешкаюцца, то мужчыны і памыюцца. І тады так было, хоць тых мужчын па пальцах можна было пералічыць.

Вяртаюцца яны з маткай з лазні, а Дубіцкі ў хаце сядзіць, піша нешта. А як паклікала матка яго вячэраць,

дык выйшаў з чыстай палавіны хаты з паўлітэркай. Паставіў яе на стол і кажа:

— Вось, Тацяна Кірылаўна, і вы, маці, колькі ў вас жыву, а ні разу не давялося і чаркі ўзяць, нават за знаёмства. Дык мо сёння, пасля лазні, не грэх?

— Што вы, Іван Пятровіч? Знайшлі кампанію! — сказала Тацяна, а самой быццам і прыемна было. Ад таго, што ён вось так да іх, да яе з маткай, папросту, па-чалавечы.

— А што ж такога, Тацяна Кірылаўна? Чаму не кампанія? І гаспадыня, і брыгадзір. Работу скончылі, нядзеля заўтра, ды і пасля лазні... Я ж таксама быў, не думайце. Добры дух!

Вячэралі яны з яго паўлітэркай. Яна і выпіла нейкую кроплю, але адчула, што ў галаве зашумела. Аж самой зрабілася няёмка: падумае, што ўпілася дзеўка. А дзе ты не ўп'ешся, калі цэлы дзень аб адным посным шчаўі? Дубіцкі мужчына, а і то расчырванеўся адразу. І разгаварыўся. Гэта ж упершыню пачаў расказваць ёй і матцы пра сябе. Казаў, што адзін астаўся на цэлым свеце. Бацька да вайны памёр быццам, а матку, брата, сястру і бліжэйшых сваякоў немцы расстралялі за сувязь з партызанамі. Ён, Дубіцкі, пайшоў быў у сорак першым на фронт, але павayваць не паспеў, трапіў у палон, адкуль уцёк у партызаны. Партызаніў не тут, у іхнім раёне, а па той бок Бярэзіны...

Расказваў усё гэта не так матцы, як ёй, Тацяне, і ўсё яе Тацянай Кірылаўнай называў. Яна ажно не стрывала, сказала:

— Ай, Іван Пятровіч, што вы ўсё — Кірылаўна ды Кірылаўна? Танька, і ўсё тут! Якая я Кірылаўна яшчэ?

А ён нібы і чакаў гэтага — больш ні разу не назваў так, пачаў зваць па імені, але не Танькай, а Таняй.

Позна сядзелі. Прымусіў Дубіцкі яе з маткай яшчэ па кроплі ўзяць. Сказаў, што не салідна гэта — утраіх вячэраць і адной пляшкі не адужаць. Матка была сказала, што бабы яны, не мужчыны, дык ён уздыхнуў:

— Ой, маці, бабы, як вы кажаце, больш за мужчын цяпер цягнуць. Усё ж на іх плячах!

Матцы тое спадабалася, забожкала, заківала галавой:

— От бо праўда ваша! Усё, усё чысцютка на бабе. Яна і з сякерай, і з плугам, і з калясьмі... Гэта ж во Тань-

ка мая ў брыгадзірах ходзіць. А ці ж дзявочая работа?

— Ну, Таня ваша — малайчына! У яе ў брыгадзе больш парадку, чым у якога мужчыны.

Яна, Тацяна, ад тых слоў уся чырванню залілася, быццам перад палаючай грубкай пасядзела. Дурная, ой якая дурная была! Думалася ж тады, што ён і напраўду пахваліў яе.

Ён гаварыў, шмат курыў, а табака смярдзючая-смярдзючая, дым — як атрута, і яна, Тацяна, урэшце паднялася з-за стала, бо і без таго дыму галава нешта разбалелася, усё цела млявасць разабрала — адно ў пасцель. Вылезла з-за стала і пайшла з хаты, на сваё лежбішча ў свіронку.

Яна ўжо, здаецца, і драмаць пачала, калі пачула, што нехта бразнуў клямкай і выйшаў на ганак. Ён ці матка? Па тым, як зарыпелі прыступкі, здагадалася — ён. Дубіцкі прайшоўся па двары, схадзіў на гумно — чула, як адшчэпліваў варотцы, вярнуўся назад. Патаптаўшыся ля ганка, зрабіў колькі крокаў да свіронка. Яна не бачыла, але пэўна ведала — падышоў да пярэклеці. І праўда: ступіў яшчэ колькі крокаў і сеў. Сядзеў і, мусіць, смактаў папяросу, бо цягнула дымам. Сядзеў і маўчаў. Маўчала і яна, баючыся паварушыцца. Нейкае быццам утрапенне найшло на яе. Нікому не казала, нават Маньцы не прызналася, што тады, як ён сядзеў і курыў, яна раптам падумала, што калі да яе падыдзе, дык не прагоніць яго. Ляжала, прыслухоўвалася не так да яго, як да самой сябе, а ўтрапенне тое не міналася, як сляпіца якая. Здрыганулася ўся, бы локцем на асцюк які накалолася, ажно ўнутры аддалося, калі пачула знячэўку:

— Вы спіцё, Таня?

Яна не азвалася, але ён, пэўна, здагадаўся, што не спіць. Па дыханні яе здагадаўся. Як спіць чалавек, дык дыхае роўна, а яна, памятае, ледзь не хаўкала ротам, бы тапячыся. Здагадаўся, сказаў зноў ціха:

— І мне вось не спіцца. Быў лёг, ды выйшаў пакурыць.

І яна тады азвалася. Азвалася па-дурному, нібы якая зялепуха:

— А чаго вам, Іван Пятровіч, не спіцца?

— Эх, Таня! — ён, пэўна, выдыхнуў гэта разам з дымам, павярнуўшыся да дзвярэй свіронка, бо яна зноў пачула пах табакі.— Калі б вы ведалі...

— Што?

Брыдка, надта ж брыдка цяпер усё тое ўспамінаць. Што з ёй тады рабілася, ніяк зразумець не можа. Каб жа хоць падабаўся ён ёй, той Дубіцкі, а то ж... Кацяня хрыпатае, а не мужчына, а вось жа — дай веры. Сама, можна сказаць... Хіба ж яна не памятае, як тое «што?» сказала? Каму-каму, а сабе самой можна прызнацца: памятае! Бо, здаецца, больш ужо нікому так яна не гаварыла.

Скрыпнула дошка на пярэклеці, потым ужо ў свіронку, і адчула яна на сабе яго рукі, і адзначыла для сябе са здзіўленнем, што ён хоць і нядошлы на выгляд, але дужы, жылаваты, і сама абхапіла яго, і зайшлася ў дрыготлівай бяспамятнай знямозе — быццам ад бясконца радаснага смеху...

А пасля бы раптоўна ацверазела яна. Ляжала моўчкі і ўжо ці не з агідаю слухала, як дыхаў ён побач, брыдка было дакрануцца да яго. І на душы ў самой таксама было брыдка. Хацелася плакаць, хацелася, каб хто — толькі не ён, нават не матка — абняў яе, прытуліў, пашкадаваў. Жахнулася, калі знячэўку прыгадаўся Пецька і калі раптам бліснула маланкай у галаве: гэта ж ці не год якраз мінуўся, як пахавала яго... І ў страху сцялася ўся, і зноў мільганула ў галаве, што з ім, з Пецькам, тое было зусім іначай...

Моўчкі ляжала, здранцвелая, і баялася выдаць сябе чым, баялася, каб не здагадаўся ён, пра што яна думае, стрымлівала сябе, каб не заскрыгатаць зубамі ад пякучага болю, крыўды на самую сябе, ад сораму. Сон як рукой зняло. Адчувала, што і ён не спіць. Не спіць, а — маўчыць. Хоць бы слова сказаў, мо палягчэла б.

І калі ён раптам, павярнуўшыся, прыпадняўся на локці і пацягнуўся да яе, яна, як падкінутая спружынай, села і, хапіўшы яго за плечы, колькі сілы мела, адштурхнула ад сябе:

— Задушу!

Ёй падалося, што яна крыкнула, і спалохалася, бо яшчэ споўдаліся, чутно было, па вуліцы пашавэлкі — маглі ўчуць... Але па тым, як прашаптаў: «Ты што, Таня?» — не ўскрыкнуў, а прашаптаў,— здагадалася, што і яна не крычала. Зноў прашаптала:

— Не лезь! Задушу!

Ён падняўся, атросся. Капошачыся ўпоцемку з вопраткай, сказаў:

— Ашалела, ці што?

А яна ўжо не магла супакоіцца. Усхапіўшыся на ногі, яна штурхнула яго да дзвярэй, прастагнала:

— Прападзі ты пропадам! Каб духу твайго тут не было!..

Яна так і не ведае, куды ён тады падзеўся. Пэўна, поначы паваloкся ў раён, а мо па дарозе недзе ў стозе да сонца праваляўся. У хату не заходзіў, і на канапе астаўся ляжаць яго пляскаты, з двума замкамі, партфель. Больш Дубіцкі ў іхнім калгасе не паяўляўся. Чаму — яна не пыталася. Пэўна ж, не яна была таму прычынай. Быць таго не можа, каб яна! Бо што яна яму? Мо ў кожным калгасе меў каханку. Жаліўся, што адзін на цэлым свеце, а пасля ўведала: меў Дубіцкі жонку і двое дзяцей. Але маці пра тое яна не сказала. А партфель ускінула на гарышча. Было ў ім некалькі пакамечаных паперын, у якія загортваў, пэўна, сала, і хлебныя крошкі...

На Лугавінні яна не ўмешвалася ў бабскія гаворкі. Краем вуха чула, вядома, аб чым яны перагукваліся, ды не зважала на тое. Што ёй да таго, што Ганулін Васіль купіў машыну? Купіў дык купіў. Каб не Гануля, дык дулю б ён купіў? Не надта ён там, у Мінску, і раскашуецца, каб яшчэ і на машыну завінуцца. Каб не матка, якая во ўжо каторы год цялятніцай робіць і вунь якія грошы палучае, дык ці сабраўся б на матацыкл, як Алёшка. А пасля ці не гадзіну абгаворвалі Таісу Змітракову і яе Косцю. Быццам разводзіцца Таіса з Косцем. Дык хто за яе, а хто — за яго. Ён, кажуць, хоць і п'яніца, а чалавек добры, мухі не пакрыўдзіць, і дзяцей любіць. Найбольш Адарчына старэйшая, Франуся, за Косцю заступалася, дык бабы і рагаталі ўжо: ці не меціць яна на Таісіна месца? А Франуся праз тое яшчэ больш распалялася. Дурная Франуся, не разумее, што не можа п'яніца добрым чалавекам быць. І дзеці яму — ці ёсць, ці няма, бо ён не іх, а гарэлку любіць. А Таісу шкада, вядома. Колькі ўжо гадоў за тым Косцем гарue! Траіх дзетак нажылі, а ён усё роўна за розум не можа ўзяцца.

Але што ёй, Тацяне, да таго? І бабы маглі б пра тое памаўчаць. Калі б Таіса тут была, дык, нябось, не гаварылі б, а за вочы дык адна перад адной. Пра чужое ўсім лёгка гаварыць. Тут табе кожны і суддзя, і пракурор, а як каторай сваё што забаліць, дык тады, як той казаў, і язык праглыне.

З Манькай, лічы, таксама не гаварыла. Потым ужо, калі ішлі з Лугавіння дадому, дык абмовіліся колькімі словамі, кілбасу, што яна, Таццяна, брала з сабой, з'елі. Так і да крамы дайшлі.

Ля крамы спытала Таццяна ў Манькі:

— Ты зойдзеш?

— Не,— адказала Манька.— Хлеба ўчора ўзяла, а так — што там купляць?

— А я забягу. І хлеба трэба свяжэйшага ўзяць, і хачу паглядзець што ўнучачцы.

— А грошы ёсцека?

— А я заўсягды з сабой дзесятку, а то і дваццацьпятку нашу, каб пры нагодзе не бегаць, не перахопліваць у каго,— яна, Таццяна, прыставіла да сцяны граблі.

У краме, акрамя Волькі-крамнічыцы, была толькі Гэрцава Лялька.

Старая жалілася Вольцы:

— Хутчэй бы да Алісейкі. Не трымаюць ногі. Было два кані, ды з'ездзіліся. Думала — не дайду.

— Дык вы б, цётка, папрасілі каго,— казала Волька.

— Пэўна, Волечка, можна было б і папрасіць, але ж і самой хочацца па сяле прайсці.

Яна, Таццяна, паздароўкалася, падышла да прылаўка.

— Насып мне, Волька, цукерак. Толькі паглядзі, каб лепшых якіх,— папрасіла.

— Якіх вам, цётка? «Вавёрачкі» ці самых даражэйшых — «Тузіка»?

— Гэта з сабачкам на паперках?

— Ага.

— Давай іх. Малой забаўка будзе,— кіўнула галавой.

— Што, унучка прыехала?

— Але ж.

— А я думала, сабе выбіраеце,— усміхнулася Волька.— І думаю: во распанела цётка Таццяна, «Тузіка» захацела.

— А ці ж мне хто ў рот глядзіць? Толькі я не надта і люблю іх,— Таццяна глядзела, як Волька важыць цукеркі, потым зноў папрасіла: — І паглядзі, дзяўчына, мо ёсць у цябе сандалікі якія?

— Таксама ўнучцы?

— А каму ж.

— А што, босая прыехала?

— Ат, босая! У туфельках прыехала. Але ж іх шкода тут насіць. Хай у сандаліках па сяле бегае. І панчошкі

паглядзі. Мо ёсць такія, забылася, як іх завуць, каторыя па каленькі?

— Гольфы, цётка!

— Ага! Паглядзі, каб харашэйшыя былі! Мо ў палосачку якую ці хоць з рубчыкам-аблямовачкай.

— Ёсць, цётка. Во, глядзіце самі. Якія ўпадабаеце, такія і выбірайце. Гэтыя, сіненькія? Нясіце сваёй унучцы,— Волька падала ёй пакуначак.— Усё ці яшчэ што?

— Хто ж яго ведае. Можа, кансерву якую ўзяць? Помніш, ты мне некалі давала, дык смачная была. Не ў тым совусе, не люблю я яго, а ў алеі рыбкі маленькія плаваюць.

— Шпроты, цётка?

— Во, во! Падай бляшанку. Ну, і ўсё, пэўна. І стаяць жа нямашака часу... Во, ледзьве не забылася. Хлеба ж дай баханачку!

Расплацілася, паспяшалася да дзвярэй...

Рыта з Алачкай былі на агародзе, ляжалі на посцілцы пад яблыняй. Нявестка, угледзеўшы яе, Тацяну, паднялася, пахвалілася:

— А я, мама, градку буракоў апалола. Паглядзіце, ці добра?

— А бо, Рытачка! Яшчэ пытаешся! Я ўжо здалёк бачу. Так ужо чысценька, нідзе ні травіначкі. Адно што прарваць іх троху трэба б было. Але я тое ўвечары сама зраблю. На во, мерай Алачцы абноўкі.

Пасядзела хвіліну, цешачыся з унучкі, ды падхапілася:

— Пабягу Падласку даіць. Гэта ж на добры лад трэба было б дадому прыганяць, дзень во, як год, дык усё наўкол засеяна, няможна ганяць, увечары кругом гоняць дадому. Пабягу. А ты, Рытачка, калі не лянуешся, запалі керагаз і яечак звары. Не шкадуй, дзесятак кладзі. Што да шчаўя будзе, а што так з'ямо.

— Добра, мама.

— Пабягу ж. Бо сёння і абед кароткі. Брыгадзір і адпусціў, каб толькі кароў падаіць...

На абед яна зрабіла халаднік са шчаўя, дастала з печы гаршчочак смажаных макаронаў з яйкамі і тварагом, бляшанку тых шпротаў адкрыла. Рыта з Алачкай дык не вельмі і накінуліся, больш шчаўе сёрбалі ды макароны дзяўблі, а яна, Тацяна, рыбак тых ледзь не ўсіх з алею вылавіла. Пасля іх і шчаўя з ахвотай паела — замест пiцця, бо хай тыя шпроты і не надта салёныя, але ж кансер-

ва ёсць кансерва, пасля яе заўсёды піць хочацца. А нявестка з унучкай макароны ўпадабалі.

— Надта ж смачна,— гаварыла Рыта.— Праўда, Алачка?

— Нам такія ў садзіку давалі,— сказала малая.

— Але ж там не такія смачныя былі? — Рыта смяялася.

— І там смачныя, і тут смачныя,— Алачка стаяла на сваім.

Яна, Таццяна, пагарнулася да малой, сказала:

— Правільна, і там смачныя, і ў бабы смачныя, калі есці хочацца. А як не хочацца, дык і піражнае нясмачнае.

— Не, піражнае ўсё роўна смачнае!

— А няхай цябе кот убрыкне, мая ты разумніца! — засмяялася і Таццяна.

— О, мама, вы не ведаеце, якая ў мяне Алачка хітрая,— ахвотна падтрымлівала гаворку і Рыта.— Помню, купілі мы з ёй дзве цукеркі, вялікія такія, паштучна прадаюцца яны, «Селена» называюцца. Адну ёй, а другую мне. Дык Алачка і шэпча мне на вуха: «Я сваю, мамачка, спярша з'ем, а пасля мы тваю напалам падзелім».

— Ай-ай-ай, дык гэта ты і жмінда такая? Мая ж ты кветачка, мая ж ты ягадка! Бабка жартуе, дзіцятка! Ты, мамка, скажы, вялікая, а вялікія цукерак не любяць, праўда?

— Ага!

— От, чула, матачка? Алачка ўсё знае, усё разумее.— Яна чмокнула малую, паднялася.— Але ж мне расседжвацца няможна. Занясу парасяці і пабягу. Не дай бог, захмарыцца...

Два стагі злажылі да надвячорка, а яна не надта каб і натамілася. Але ж, хоць і адчувала сябе лепш, чым уранку, усё адно думкі пра тое не пакідалі. То думала, што каб хаця заўтра Алёшка прыехаў, бо пасля цэлы тыдзень зноў у паняверцы быць, то зноў вярталася памяццю назад, калі нарадзіўся ў яе Алёшка і калі думкі не было аб тым, што некалі стрэнецца з такой бядой, з такім клопатам...

Затаўсцела яна пасля той начы ў свіронку. Нікому б веры не дала і думкі такой не дапускала, неўзабаве з галавы тое выкінула, каб і не ўспамінаць, а яно во як павярнулася!

Доўга не хацела верыць, хоць ужо і тая першая прыкмета азвалася, хоць і блажыць яе пачала ўжо. Думала, што здаецца ёй, што слабасць тая ад работы, ад недасыпання, ад нішчымніцы заўсёднай. Матцы — не прызналася. Маньцы толькі сказала. І пакрыўдзілася на сяброўку, што тая ўспрыняла ўсё спакойна.

— Ну і што? — сказала.— Не ты першая, не ты апошняя. Цяперака вунь колькі без мужыкоў!

— Як ты можаш, Манька, казаць такое?

— Дык и якую трасцу ты хочаш? Ідзі тады да Параскі ў Арэхаўку!

Думка пра Параску скаланула яе. Чула, што нібы кабета тая цішком ратуе дзевак. Лёгка сказаць: ідзі да Параскі! А ці не праз тую Параску памерла Дуся Клёцкава! Усе ж тады казалі, што праз яе сышла дзеўка крывёю. Каб жа гэта як само сабой, каб сораму таго не ведаць? Спрабавала яна сёе-тое, зелле піла, але нічога не памагло...

Тым часам вярнулася ў сяло некалькі мужчын. Мала вярнулася, лічаныя з тых, што пайшлі туды, напачатку, і пасля, як нашы ў Жылічы прыйшлі. Яна, Тацяна, ніяк зразумець не можа аднаго: чаму гэта з тых, што ў сорак чацвёртым пайшлі на фронт, вярнулася дадому меней, чым з тых, што ў сорак першым? Гэта ж дай веры: адны ўсю вайну прайшлі і ацалелі, а другія пад канец — і галовы злажылі. Жанчыны дык казалі, што пагінулі яны праз тое, што на чужой зямлі ваявалі, у Германіі той праклятай, дзе з-за кожнага куста стралялі, з кожнага акна. Можа, і праўда, хто яго ведае...

А з тых, што ў сорак першым пайшлі, вярнуўся Каляй Бабок. Яна, Тацяна, як дачулася, дык адразу пабегла да Качана. Каляй жа і да вайны быў брыгадзірам, дык чаго яна будзе тыкацца, як сляпое кацяня?

Качан, праўда, заўпарціўся быў спачатку:

— Што ты, дзеўка, скачаш? Ну, прыйшоў Каляй, дык і што? І яму ест работа.

— Дзядзька Юлісь, то ж вы самі казалі — пакуль мужчыны вернуцца! — ці не са слязьмі прасілася яна.

— Ну і што, калі казаў? Колькі тых мужчын? А будавацца трэба. Ты ж іх там не заменіш.

— Дзядзька Юлісь, коней лепш вазьму, абы не брыгадзірства.

І Качан здаўся:

— Што з табой зробіш!

І пачала яна рабіць, як усе бабы. Датуль рабіла, пакуль магла. Думала, што не перажыве таго сораму, і старалася як мага адцягнуць, аддаліць той дзень, калі прыкмецяць людзі, што з ёй. Сечка асабліва ў знакі далася. К таму часу былі ўжо ў калгасе і каровы, чорна-белыя, іх усё галандкамі звалі, аднекуль здалёк прыгналі. Каровам сечку з саломы рэзалі ўсю зіму. А гэта ж не цяпер, што маторы ўсюды, звычайнай сячкарняй рэзалі. Адно што шост быў прыладжаны ад махавіка да сцяны, каб можна было чацвярым, а то і пяцярым узяцца. Махалася яна вакол таго шаста нароўні з іншымі да апошняга, аж пакуль неўмагату зрабілася. І нічога, не надарвалася. Дужая была, здаровая. Цяпер адной Падласцы пойдзе якую жменю зрэзаць, дык і дух займае, а тады...

І неяк жа перажыла той сорам. Кажуць жа, што чалавек з усім звыкаецца, нават з самай цяжкай бядой. Звыклася і яна. Але ж, памятае, усё адно хавалася ад чужога вока, без патрэбы на вуліцу не патыкалася.

А напрадвесні нарадзіўся ў яе Алёшка. Яшчэ толькі-толькі сонца на цяпло паварочвалася, на ноч пад стрэхамі ўжо цырбулі вешала, а ўдзень прымушала тыя цырбулі плакаць. Яна зусім не думала, што тым днём родзіць. Зранку паднялася, як і заўсёды, матцы яшчэ ля печы нешта пасабляла, а ў абед раптам штосьці спіна забалела, самы крыж: быццам там хто пару цаглін прывязаў, і яны ціснуць усё на ніз і ціснуць. А яшчэ праз некаторы час усю яе курчыць пачало. Пакутуе, а матцы нічога не кажа. Але ж хіба ад матчынага вока схаваешся? Пабегла яна па Аленку, сяброўку сваю яшчэ з дзявоцтва. Прыйшла старая і пачала яе, Тацяну, вучыць-ратаваць:

— Ты, дачушка, не палохайся, не думай ні пра што благое. І не наструньвайся, не пруцяней. Ад таго яшчэ болей баліць. Ты ляж і расслабся. І дыхай, дачушка, глыбока. Не палохайся, усё абыдзецца...

Надвячоркам, ужо сінела ў вокнах, радзіла яна. Пацямнела на хвілінку ў вачах у яе, а калі, вярнуўшыся да памяці, расплюшчыла вочы, дык пачула плач. Убачыла: бабка Аленка трымае на руках маленькі, чырвоненькі, маршчыністы камячок. І дзіўна: у тую мінуту нічога не зварухнулася ў ёй. Ні жалю да яго не адчула, ні замілавання. Ляжала знясіленая, спустошаная, як сама не свая, і глядзела на ўсё так, нібы яна не мае да ўсяго таго, што рабілася ў хаце, ніякага дачынення.

І толькі пасля, калі бабка Аленка палажыла Алёшку

пры ёй і калі ён цёпленькім і бяззубым роцікам усмактаўся ў грудзі — толькі тады перавярнулася нешта ў яе душы, быццам гэта не ён, Алёшка, нарадзіўся, а яна сама нанова нарадзілася на свет, і ўсміхнулася яна такой усмешкай шчаслівай, якой, пэўна, датуль ні разу не ўсміхалася. Помніць, нават бабка Аленка, гледзячы на яе, сказала таксама з добрай, бяззубай усмешкай:

— Прывыкай да сыночка. Добрай парой ён у цябе знайшоўся, перад вясенькаю, калі дзянёк дужэе. Знацца, на шчасце...

А матка нічога не сказала, толькі ўздыхнула і, здаецца, змахнула з вачэй слязу. А мо і не, мо толькі здалося тое Тацяне, мо матка проста адкінула з лоба пасмачку валасоў...

Назвала яна сына Алёшкам. Не таму, што некалі Пецька прасіў назваць гэтак сына. Алёшка — гэта ў гонар дзеда, матчынага бацькі. Сама яна мо і не дадумалася б да таго, ды бабка Аленка падказала. Шапнула неяк ёй, зайшоўшы ў адведкі:

— Імя прыдумала ўжо ці не? Калі не прыдумала, дык хай Алёшкам, Ляксеем будзе. Па дзеду. І матка твая ласкавей на яго глядзець будзе, а то ж... Крыўду яна мае на цябе, дачушка. Ты не думай нічога, матчына сэрца адходлівае, але ж пакуль...

Хай будзе Алёшка, пагадзілася яна. Чым не імя? Дзеда свайго яна не памятала, матка казала, што маладым памёр, яшчэ да той германскай вайны, аднак жа — хай будзе Алёшка. Дзень, другі мінуўся, дык ужо здавалася, што і сама так думала, каб Алёшкам назваць. А прозвішча наважылася даць Пецькава — Раманкевіч. Ён жа вельмі сына хацеў. Як падумала пра тое, дык і кардонкі тыя партызанскія ўспомніла — пасведчанне іхняе шлюбнае.

Памятае, дастала яго з куфра і пайшла ў сельсавет. Не саромелася ўжо — Алёшку з сабой узяла, на руках праз сяло несла. Нічога ж благога не было ў яе наўме, калі думку тую выспельвала — запісаць сына Раманкевічам. Не бачыла ў тым граху. Гэта ж не абы-чыё прозвішча бярэ, а мужыкова.

Таму і сказала Піліпу, старшыні, калі ён спытаўся, як пісаць малога:

— Пішыце: Раманкевіч Аляксей Пятровіч.

А Піліп галаву падняў, вочы вылупіў:

— А чаму — Раманкевіч?

— А як жа яшчэ, дзядзька Пілін? Мужык жа мой — Пецька Раманкевіч.

А Пілін хмыкнуў:

— Ну, ведаеш! Знаем мы такіх мужыкоў. Вайна!.. Во і я сабе ледзь другую бабу не займеў. У шпіталі...

Яна зазлавала:

— Чаго вы, дзядзька Піліп, выскаляецеся? — І тыцнула яму пад нос кардонкі партызанскія.— А гэта вы бачылі? Хто мне Пецька быў, калі не мужык?

Піліп доўга разглядаў шлюбнае пасведчанне, урэшце сказаў:

— Ты, гэта самае, не крыўдуй, Тацяна. Каб жа я ведаў... Але як бы табе гэта сказаць, яно... Ну, добра, Пецька быў тваім мужыком, усё правільна. Ну, а малое тваё? Што Пецька да яго ці яно да Пецькі?

Яна разгубілася, не знаходзіла, што сказаць. Скрозь слёзы прамовіла:

— А ці ж грэх які будзе, дзядзька Піліп, калі я на яго прозвішча запішу?

— Пры чым тут грэх? Але чаму, скажы, на яго прозвішча? Чаму Раманкевічам?

— Дык жа і я, дзядзька, Раманкевічыха!

— Але, але. Гэта ты цяпер, дзеўка, успомніла, што ты Раманкевічыха. А па шнуравой кнізе ты хто? Колік Тацяна Кірылаўна! І не выдумляй ты, Тацяна, таго, чаго не трэба. Я не кажу, дакумент як дакумент, хоць, каб ён сілу меў, яго даўно трэба было б абмяняць. Але ж гэта каб Пецька быў жывы...

Слухала яна і пагаджалася. Праўду кажа Піліп. Яна ж і не ўспамінала пра тое пасведчанне, ляжала яно ў куфры, і ўсё. Калі б не Алёшка, дык ці шукала б яго? І ўсё ж зноў пачала прасіць Піліпа:

— Дзядзька Піліп, а ці можна, каб усё ж Раманкевічам запісаць?

Піліп крутнуў галавой, сказаў ужо зласнавата:

— Можна ці няможна, можна ці няможна... Калі Пецька твой загінуў? У сорак чацвёртым! А цяпер які год? Сорак шосты! Дык што ты хочаш, Тацяна? Так доўга ён у цябе на свет прасіўся?

Яна, седзячы на табурэтцы па другі бок стала, апусціла галаву. І тады Піліп выйшаў з-за стала, паклаў ёй на плячо руку:

— Яно і другое, Тацяна. Нашто, каб хто спытаў, табе клопат лішні? Ведаеш, як людзі могуць пераверпуць усё?

Пойдуць гаворкі: дзіця на нябожчыка запісала. А Пецьку тваймy тое ўжо ўсё роўна, як усё роўна і Алёшку.

Яна адно толькі ўздыхнула:

— То ўжо хоць бацьку пастаўце Пятра. Хай будзе Пятровіч.

Піліп усміхнуўся:

— Гэта — можна! Гэта тваё права. Пятровіч дык Пятровіч. Яму, Тацяна, «Пятровіч» яшчэ не скора прыдасца.

— Некалі ж прыдасца.

— Гм, ведама...

А з маткай яна за Алёшку цэлы бой вытрымала. Гэта ж маўчала-маўчала, а аднойчы і скажы:

— Што ты сабе, дачушка, думаеш? Хлопцу другі месяц, а не хрышчоны!

Яна чакала, што матка некалі пра гэта скажа, і таму спакойна адказала:

— Дык і што?

— Як гэта, дык і што? Ці аглухла? Дзіця ў хаце нехрышчонае да якой пары будзе, пытаюся?

Яна ўздыхнула:

— Ай, мама, якая розніца, хрышчонае ці нехрышчонае?

— Танька, пабойся бога, не брашы! Ты што, парцейная, што такая вумная зрабілася? Ці ты хочаш, каб бог дзіцяці долі не даў?

Тацяна ведала, што калі яна будзе агрызацца, дык матка не перастане, з маткай трэба рашуча, як і тады, калі выбіралася ў лес, і таму сказала, як адрэзала:

— Як даў радзіцца, так і долю дасць! І хопіць пра гэта, мама!

Божа мой, як яна любіла Алёшку, як дрыжала над ім! Наглядзецца, нацешыцца не магла. Радая была, што пайшоў ён не па ім, а па ёй: такі ж русявы, круглатвары, кірпаценькі. Толькі лоб не яе. У яе, Тацяны, лоб невысокі, без залысін, а ў Алёшкі, як трэба мужчыне, круты, шырокі, чысты. Як валосікі пачалі адрастаць, дык яна ўсё старалася іх угору зачасаць, каб лабок яшчэ больш выдаваў. Памятае, пакупае яго, прыадзене, валосікі зачэша, прыкладзе да грудзей і сама ўсё глядзіць ды глядзіць на яго. І так усцешыцца, што, здаецца, заціскала б яго, зацалавала б. А ён рос такі ўжо ласкавенькі, такі ўжо лізунок. Гаварыць яшчэ добра не ўмеў, а яна спытае: «Як Алёшачка маму любіць?»,— дык ён абдыме яе

за шыю, так ужо шчыльненька прыціснецца і буську дае то ў адну шчаку, то ў другую. Ажно ў яе сэрца заходзіцца. Бабы, Манька тая ж казалі:

— Ну, Танька, ён у цябе такі ўжо мамчын пестунок!

А чый жа яшчэ? Вядома, мамчын. Мамчын і бабчын. Бабка, матка яе, таксама яго любіла. Яна ж, Тацяна, калі Алёшку яшчэ і годзіка не было, з коньмі пачала рабіць, а з коньмі вядома якая работа: як паедзе раніцою, дык на цэлы дзень, не заўсёды і на абед прыязджала, толькі ўвечары дома стыкалася. А Алёшка — з бабкай. Цялушку яны ў сорак сёмым прыдбалі, дык Алёшка з бабкай і ў хляве, і на гародзе, і на аселіцы, дзе матка тую цялушку навязвала. Куды матка, туды і ён. Матка яго, памятае, усё Хвосцікам клікала.

— Мой ты Хвосцік,— казала,— што б гэта я рабіла без цябе?

Робіць яна, Тацяна, у полі — ці арэ, ці барануе,— а ўсё пра яго думае: каб жа хаця нічога не здарылася, каб жа хаця якая бяда не звалілася... Не ведае чаму, але ўсё ёй у галаву дурное нешта лезла. Ажно ці не да шаленства даходзіла! Ляйчыну конь нагой перастүпіць, пастронкі заблытаюцца, загваздку ад калёс згубіць — гэта, няйначай, на бяду, на кепскае варожыць, нешта з Алёшкам там. Сілком сябе стрымлівала, каб не рынуць усё ды дадому не паперціся. Прыедзе ўвечары, дык не на канюшню, а пярвей дадому — як ён? Ухопіць яго на рукі — і адлягала ад сэрца...

І, дзякаваць, ні разу варажба тая не спраўдзілася. Ні хвароба, лічы, ні разу не прысляпілася, ні якая іншая навалач. Дужа спраўненька рос.

А ёй праз яго ой як даставалася! Гэта ж пакуль яго не было, дык ніхто пра тую «партызанскую нявесту» і не заікаўся. А як знайшоўся Алёшка, дык і пайшло. «Нагуляла Танька аднаго, нагуляе і другога...» Хіба яна не чула такога, хіба не даходзіла да яе? Колькі яна такіх крыўд выцерпела, хто калі падлічыць!

Памятае, малацілі на таку. Алёшку, пэўна, гадоў пяць было ўжо, а можа, і меней. Яна, Тацяна, снапы ў малатарню падавала, а яе коньмі хлапчукі салому адцягвалі. Прыглушылі ўрэшце трактар на абед. Качан тады ўсё яшчэ старшыняваў, наказваў:

— Глядзіце, дзеўкі, не баўцеся. Кароў падоіце, перакусіце — і сюды. Бо, дзела такое, час не жджэ, забяруць малатарню, а тады хоць за цэп хапайся.

Тады ж парадкі іншыя былі. І поначы, памятае, малацілі. Дзе трактар сваім вокам свеціць, а дзе і ліхтары — іх чамусьці «лятучымі мышамі» звалі. На людзей не зважалі. Колькі машына выцерпіць, столькі і рабілі.

На абед не ўсе дахаты пайшлі. Хто з сабой якога агурка ўзяў ці яблыка, дык тут, на таку, перакусілі і прыleглі ў саломе адпачыць. Не хадзіла дадому і яна, Тацяна. Кульнулася са стала на торп, рукі знямелыя раскінула і, здаецца, прыдрамала на сонейку. Спахапілася ад таго, што нехта па грудзях яе мацае, каптанчык расшпільвае. Не датумкала, ці то гэта ёй саснілася, ці направуду, як нехта наваліўся на яе і ў вусны ўпіўся. Прахапілася — ажно Сяргей Клёцкаў. Дальбог жа, не магла дацяміць, чаго гэта ён за пазуху да яе лезе, твар сліняsвіць.

— Сяргей, ты што — здурнеў? — быццам спакойна яшчэ спытала.

— Другім можна, а мне — не? — прахрыпеў хлопец.

Лінула кроў да галавы ў яе, у горле перасохла.

— Ах ты, смаркач! Ах ты, апоўзлік!

Не помнячы сябе, з усіх сіл штурханула хлопца ад сябе. Так штурханула, што ён толькі войкнуў і пакаціўся з торпа. Пачула, як грымнуўся вобзем. А сама перакулілася на жывот і загаласіла нема.

Колькі тады было яму, таму Сяргею Клёцкаваму? Пэўна, гадоў шаснаццаць. Дадумаўся ж, смаркач! Наслухаўся іншых... Яна тады, як адышла троху, дык і спалохалася: ці не пакалечыўся хлопец?

Нікому не сказала пра тое. І брыдка было прызнавацца, і не хацела, каб з хлопца смяяліся. А ён пасля таго ўсё яе пазбягаў, стараўся на вочы не трапляцца. Ажно праз шмат гадоў, калі ўжо ў Мінску быў, жонку і дзяцей меў, загаварыў з ёю. Ішоў вуліцаю, няйначай, на падпітку, а яна на лаўцы сядзела, дык прыпыніўся, прысеў побач, сказаў:

— А я помню, Тацяна.

Здагадалася, пра што ён, ды адно ўсміхнулася:

— І ты нічога не помніш, і я...

— Мо і твая праўда,— Сяргей уздыхнуў чагосьці.

А што яна яшчэ магла сказаць? Што не помніць, дык — няпраўда. Як не думае, як іншым галава занята, дык яно вядома — даўно ўсё тое забылася, як сон, што знячэўку пад раніцу нахопіцца. Здаецца, і снілася нешта,

а што — не згадаць. А як пачне ўспамінаць пражытае, дык усё чысцютка прабяжыць перад вачамі, быццам было ці не цеперся, а ўчора...

Рыта і Алачка глядзелі па тэлевізары нейкую дзіцячую перадачу. Яна яшчэ на вуліцы здагадалася: чутна была музыка, смех і гамонка дзіцячая. Зайшла ў хату, прачыніла ціхенька дзверы ў другую палавіну — так і ёсць. Умасціліся абедзве на канапцы і так захапіліся, што і не пачулі, як яна зайшла. Гэтак жа ціхенька зачыніла дзверы — хай глядзяць. Пакуль яны заняліся там, дык яна пamaленьку работу паробіць, а там прыйдзе Падласка, то астанецца толькі падаіць і вячэраць можна будзе.

Яна занесла курам, у хлеў занесла, бо каторыя і на курасадні паселі, потым збегала на гарод, нарвала бацвіння, пасекла яго секачом у ражцы, замяшала і занесла парасяці. Пасля корпалася ў сенцах з вячэрай, стараючыся не грукаць лішне, каб дзяцей не трывожыць. Рыта і не пачула нічога. Выскачыла з той хаты, калі ўгледзела, што Падласка ля варот зарыкала. Выскачыла і сумелася:

— Ой, мама, і вы ўжо дома?

Яна прызналася:

— А я ўжо і даўнавата прыйшла, але не азывалася да вас. Гледзіцё, думаю, дык і глядзіце.

— Мульцікі паказвалі.

— Дык бяжы дагледзь да канца. Вячэра ўжо гатова, толькі Падласку падаю.

— Ужо кончыліся. Алачка там нешта другое глядзіць. А праз паўгадзіны кіно будзе. Пра індзейцаў,— сказала Рыта.

— Дык от павячэраем і паглядзім. Ідзі да яе, а я тут скоранька...

Вячэралі похапкам — каб заспець пачатак таго кіно пра індзейцаў. Але яна так і не пабачыла, чым яно пачыналася,— малую спаць укладвала. Рыта хацела сама, але Таццяна замахала на яе рукамі:

— Глядзі ўжо, глядзі! Адно — цішэй зрабі, каб заснула хаця.

Сядзела на краёчку ложка, Алачку люляла, а кіно тое глядзела і не глядзела. Толькі потым ужо, калі заснула малая, перасела на канапу да Рыты, утаропілася ў экран.

Ды што там і глядзець было? Носяцца на конях тыя індзейцы, у пер'е паўбіраныя, быццам чэрці, і ўсё. Што да чаго, дык і не разабраць. А яшчэ і слоў тых ледзь чуваць: Рыта зусім ужо сціхла. Сядзела, глядзела, а сама бы драмала. Што кіно тое, калі ў галаве іншае? Хацела спытаць у нявесткі, што было спачатку, чаго гэта яны свараюцца так, індзеец гэты голы з чалавекам тым, што ў капелюшы, з пісталетам пры боку, але сказала зусім другое:

— Гэта ж, дачушка, я ва ўсім вінаватая.

Рыта ці недачула, ці не зразумела, што яна сказала, бо не адразу павярнулася да яе, счакаўшы троху, спахапілася:

— Што вы сказалі, мама?

— Нічога, дзіцятка. Кажу, гэта ж, мусіць, я ва ўсім вінаватая.

— У чым, мама?

— А ў тым...

І замаўчала. Бо і сама не ведала, як і што сказаць. Здаецца, круціцца нешта ў галаве, праясняецца, а ўлавіць ніяк не можа. І ўчора, і сёння цалюткі дзень пра адно і тое ж думае, а ўсё туман у галаве. А вось жа, здаецца, каб выгаварыцца, каб выкласці ўсё, што перадумала, дык бы і палягчэла на душы. Ды як тое зрабіць? Як сама з сабой гаворыць, дык быццам усё ясна, а з Рытай — не выходзіць. Чалавека ж нішто так не крыўдзіць, як слова. Праўду гавораць: слоўца не б'е, а забівае. Скажы што неўпапад, то яшчэ пакрыўдзіш зьнячэўку.

Ды ўсё ж нешта цягнула яе за язык. Доўга маўчала, урэшце зноў уздыхнула:

— Мая ж ты дзевачка, ведаю, што і табе не соладка, але ж і мне, матцы, не саладзей. Не хацела б я чуць таго і думаць пра тое. Хай бы ўсё добранька было ў вас, каб мне, матцы, адно ведаць, што радавацца, з дзетак цешыцца. А от жа...

Бачыла, адчувала, што слухае яе Рыта, хоць і маўчыць, што кіно тое глядзіць так, як і яна, краем вока.

— От ты маўчыш, і я маўчу, і як бытта няма нам чаго сказаць адна аднэй. А я, дачушка, думаю от, думаю. Мне ж цябе ці не болей шкода...

— Дык жа я, мама...

— Ведаю, ведаю, Рытачка. Што ж тут... Толькі не пра тое я...

І зноў замаўчала. Гарцавалі на конях, куляліся цераз

галаву на ўсім скаку паўголыя седакі, трапна стралялі з лукаў, і стрэлы з пер'ем упіваліся, ажно, здаецца, чвякалі ў спіны і грудзі людзей са стрэльбамі ў руках, а думкі яе былі ад усяго таго далёка-далёка...

— Я гэта, дачушка, чаму кажу? — яна загаварыла быццам да Рыты, але болей, пэўна, да самой сябе.— От, помню, пайшоў Алёшка ў школку. Я на рабоце з цямна да цямна — ведама, як пры конях. Ну, але ж нейк вучыўся. Не надта добра, каб сказаць, але ж і не горай за другіх. І тройкі былі, і чацвёркі. Да пятага ці шостага класа вучыўся — не скажу нічога благога. А потым заленаваўся. Двойкі пасыпаліся, і настаўнікі пачалі на яго скардзіцца. А да ўсяго, дачушка, стаў мяне не слухацца. Адмоўчыцца, калі што скажу, а назаўтра зноў штуку якую выкіне. Што мне было рабіць? Біць, лупцаваць яго? Дык жа і біла, Рытачка! Адлупцую, ссяку да пісягоў, а потым сама ноч не сплю, галашу ў падушку. К таму часу людзі ўжо добра пачалі жыць. Нашы гарадскія папрыязджаюць з дзецьмі, дык дзеткі тыя вунь як разадзеты, ім ужо абы-якая цукерка не ў смак. А я ўспомню, як мой Алёшка гадаваўся: ні той цукерчыны малым не ведаў, ні гэтых убораў. Штанёнкі якія матка сашчэпіць, сарочачку — от і бегаў. А яшчэ і праз тое даставалася, што без бацькі. Дык я вазьму тое да галавы, наплачуся, а тады і думаю: гары яна гарам, вучоба тая, каб праз яе я яшчэ і біла яго!

А яшчэ, каб ты ведала, быў ён нейкі не такі, як усе дзеці. Іншыя на рэчку ці не за тры вярсты папруцца, надвячоркам цікуюць, каб яблыню ў каго абтрэсці ці дапасці ў гарод з бручкаю, а ён — не! У школе дык мог насвавоііць, настаўніку катораму паназаляцца, а так бытта і ціхмяны быў, усё больш дома прападаў. То аўтамат які сабе майстраваў, то самакат... А от каб што дома зрабіць, памагчы мне — не. Адно што — радоўку адбудзе. Я, дачушка, дык і не прымушала. Ат, думаю, наробіцца яшчэ за свой век. А ён жа во і цяперака, хоць ты нікому не кажы, і касіць не надта, і араць не ўмее. Паспрабаваў быў, дык плужок у яго ўлукаткі ходзіць, скача і скача...

От, дзіцятка, так і вялося. Школку скончыў, у дзявяты ў Гайнаўку не схацеў хадзіць. Я не пярэчыла. Каб гэта вучыўся, як вунь Сымонішыны хлопцы, дык яно б — хай! З тройкамі ды двойкамі дык якая розніца, ці восем, ці дзесяць? А тут пабачыла, што ён пачаў з Іллюком Бодзікам дружыць. Усё каля трактара яго аціраўся. А пасля

і ў полі пачаў з Іллюком прападаць. Прыйдзе дадому ўвечары — страх глянуць, такі мурзаты. Пачну сварыцца, а ён: «А мне ўжо Іллюк руль даваў...» Круціўся так, і дай веры — ці не праз год напарнікам Іллюковым зрабіўся. Я дык і рада была. Другія во школку паканчаюць і ў горад, а ён — дома, не адна я ў хаце...

Так да арміі і рабіў на трактары. І зарабляў няблага. Я, праўда, з грашыма неназалялася. Яму і адзецца трэба, і абуцца — ведама, малады. Касцюм сабе купіў, паліто модны такі — зверху бытта скура, а падшэўка — як аўчына стрыжаная, боты купіў, чаравікі... А яшчэ ж — курыць пачаў і выпіваць патроху. Што будзеш рабіць? Сварыцца на яго? Дык жа неяк павялося так. Аддзячыць чалавеку за што, дык — паўлітэрку на стол. Прывязе ён бабе дроў прычэп — яна за стол кліча. Улетку, як на камбайне рабіў, едзе з работы, а каторая пярэйме: «Алёшка, дзіцятка, тры мэндлікі ўсяго, знарок да аселіцы знесла, каб не круціцца па загуменні,— змалаці...» Ну, прапусціць тыя мэндлікі праз камбайн, а пасля ці ў кішэню пляшку, ці ў хату кліча... Дык спачатку, як патроху выпіваў, я нічога не казала. Сказала раз была, дык пакрыўдзіўся: «Ты мяне калі п'янага бачыла?» А пасля, дзіцятка, усё часцей і часцей. Ужо, гляджу, і зусім п'яны калі прыедзе. Адзін раз, дачушка, напалохалася — ноч не спала. Прыехаў пад хату, чую — матор заглушыў, а ўсё ў хату не ідзе. Выйшла я, глянула, а ён усё нешта вакол трактара тупае, абмацвае яго. А ноч цёмная, хоць вока выкалі. Я гукнула яго. Пайшлі ў хату. Зірнула пры святле — а божачкі, увесь ён у крыві, лоб рассечаны. Што з табой, дзіцятка, кажу. «Нічога, мама, ярунда!..» Якая ж, думаю, ярунда, калі такі пабіты? А бачу — добра выпіты. Заплакала я, сыночак, кажу, даброж гэта не скончыцца... Змоўчаў ён, памыўся троху, раздзеўся і лёг. А ранічкою, зацёмна яшчэ, пабег да Іллюка, і пасля ўвесь ранак каля таго трактара тупалі, усё нешта грукалі, ляпалі, бразгалі... Так і не сказаў мне нічога. Ажно пакуль Іллюк не расказаў. У Арэхаўцы ў Юзіка Савіцкага павячэраў добра, ехаў дамоў і каля Яськавага моста ў канаву паляцеў...

Рыта не азывалася, нічога ні разу не перапытаўшы. Нават не паварочвалася да яе, Тацяны,— быццам ёй тое кіно вельмі цікава было глядзець. І яна была ўдзячна ёй за гэтае маўчанне, бо наўрад ці змагла б гаварыць пра ўсё, калі б Рыта ў вочы ёй глядзела. А так выходзіла,

нібы яна сама з сабой гаварыла, сама сабе спавядалася. І ўсё гаварыла і гаварыла...

— Дома спачатку, не буду маніць, не выпіваў. Усё — недзе, з некім. А неяк, гляджу, зайшоў у хату з Іллюком, памуляўся троху, а потым выпхнуў мяне ў запечак і папрасіў: «Нам бы чаго закусіць, мама...» Што мне аставалася? Каб хоць чалавека чужога ў хаце не было. Дык пасля таго і асмялеў бытта, ужо не чакаў, пакуль я ў запечак пайду ці ў сенцы...

А вясной неяк, тым годам, як у армію пайшоў, познім вечарам прыносіць у хату паўмяшка ячменю. Адкуль гэта, сынок? — пытаюся. А ён усміхнуўся: «На працадні, мама, цяпер не даюць...» Здагадалася: украў! Гэта ж пасяўная ішла, ён ячмень сеяў, от і прыхаваў. І спалохалася я, і абурылася. Кажу: як ты мог, сынок? Ці ж мы не абыдземся без ячменю гэтага? Ці ж я цябе калі вучыла гэтаму? Я ж пасля вайны галодная хадзіла, дух падцяггвала, спадніца на мне не трымалася, а калі хоць бульбіну ўзяла? Маўчаў ён, а пасля агрызнуўся: «Ай, матка, ці табе дагодзіш!..» Насварылася я на яго, па-ўсякаму нагаварыла. Занясі ты, кажу, ячмень гэты куды хочаш, каб ён мне вочы не мазоліў! Дык жа і занёс. Да Адаркі...

Ну, той восенню, як бульбу выбралі, позва яму прыйшла. Бяседу я зрабіла. Думала, што мо толькі яго аднагодкі, сябрукі збяруцца, а дзе ты бачыла! Гэта ж ужо завядзёнка пайшла, што ці ў армію праводзіць, ці вяселле рабіць — усё роўна. Два дні, лічы, гулялі, бо ў раён паехалі яны на другі дзень ажно пад вечар, далей іх адпраўлялі ўначы.

Вусцішна мне стала ў хаце. Паверыш, ажно ката завяла. Не любіла я іх, памаўзоў гэтых. Помню, матка была яшчэ жывая, дык быў у нас кот. І займеў, падла, моду — спаць у мяне ў нагах. Засну я, а ён у нагах скруціцца і курну сваю завядзе. Дык я, бывала, як турну яго, ажно ён заенчыць. А матка, памятаю, сварыцца на мяне. Як табе, кажа, не стыдна, гэта ж жывое стварэнне... А тут во сама ў Манькі кацяня ўзяла. Яно каля ног круціцца, мяўкае — усё весялей...

А завезлі яго служыць далёка, аж на поўнач. Там жа, думаю, не соладка. Але маладзец быў: пісьмы часта слаў. І ўсё ў кожным: не бядуй, мама, служба ідзе нармальна, мне нічога не трэба. Ну, але ж я ўсё роўна: то пасылачку, то дзесятку вышлю. І рада была, як у водпуск ён прыехаў. Я й не пазнала б, калі б дзе сустрэла. І пад-

рос, і паправіўся. Мужчынам зрабіўся... Пагуляў колькі дзён, пару разоў на вечарынкі схадзіў... Адзін толькі дзянёк мы з ім дровы парэзалі. Я думала, мо большае што зрабіць паможа — хляўчук трэба было б перасыпаць, а то аб'ехаў саўсім, у пуні страха засвіцілася, але такой бяды, думаю, нейк зробіцца. Добра во, што і так прыехаў, паказаўся матцы.

Зноўку я пісьмаў тых чакала, дзянькі лічыла. Я ж і не думала, што ён надумаецца пасля арміі ў Мінск. Усё пісаў: адслужу, мамачка, прыеду дамоў, зноўку сяду на трактар, а можа, і на машыну, я тут шафёрскія правы атрымаў. А прыехаў, прабыў троху — бачу, у Гайнаўку, у кантору, не ідзе. У нас ужо тады саўгас зрабілі і ў Гайнаўку кантору перавялі. А ён і кажа мне неяк: «Паеду ў Мінск, мама. Я і дакументы на Мінск выпісаў...» А я ж не ведаю, ці праўда тое, якія там дакументы яму выпісалі. Заікнулася была, што, можа, не спяшаўся б, што і тут работа знойдзецца, а ён толькі ўсміхнуўся. Неяк так, як тады, калі з ячменем тым у хату прыйшоў. Адно сказаў: «Што ты, мама, кажаш? Смаркачы вунь усе ў Мінску, а я...»

І паехаў. Нешта з тыдзень яго не было. А потым прыехаў і кажа: «Усё, мама, я ўжо на рабоце. На бульдозеры раблю, на будоўлі. Месца ў інтэрнаце далі...» Ну, то і дзякаваць богу, сынок,— кажу,— памаленьку, паціхеньку і асталюешся... Ад'язджаў ён, дык я дзвесце рублёў дала. І жыць да палучкі трэба, і касцюм які купіць, чаравікі, бо ўсё яшчэ ў вайсковым хадзіў — тое, што да арміі справіў, малое ўсё парабілася...

Паехаў ён, а мне ўсё думкі дурныя ў галаву лезуць. Днём дык хоць на рабоце, з бабамі, а дамоў прыйду, раблю што і ўсё думаю і думаю. Як ён там, што з ім, ці вячэраў сёння... Пра ўсё перадумаеш, пакуль па хаце тупаеш, пакуль у ложку тым не сагрэешся ды не заснеш. Ад думак сны благія сняцца, дык прачнуся і зноўку думаю: каб жа хаця ўсё добра было ў яго, малады яшчэ, нічога, акрамя арміі, не бачыў. Тры дні нямашака, дык мне ўжо і саўсім спакою няма. Прыедзе, спытаюся: сынок, чаму доўга не было? А ён на жартачкі ўсё пераводзіць. «Табе,— кажа,— каб за спадніцу трымаўся, як маленькі...» Прыскочыць у суботу, на вечарынку куды згойсае, у Гайнаўку ці ў Замошша, там з хлопцамі і чарку знойдзе, а ў нядзельку паснедае і бяжыць на аўтобус. Кажу: чаго ж так рана, сынок, мог бы і пасля абеду паехаць.

Дык адмахнецца: «А чаго я буду ўвечары ціскацца ў аўтобусе? Цяпер свабодна заеду...» Ведама, вечарам усе едуць, але ж людцы вунь і з дзецьмі не баяцца паціскацца, а ён... Спытаюся, ці грошы хаця ёсць. Ёсць, кажа. А ўсуну чырвонца ў кішэньку, дык і нічога, і добра, не адмовіцца. Самой дык бытта і крыўдна зробіцца: гэта ж ніколі не спытае, ці мне што трэба, як я тут адна, мо што зрабіць набегла...

Паўгода, мусіць, парабіў на тым бульдозеры. Прыскоквае неяк у суботу, селі вячэраць, а ён і кажа: «А я, мама, ужо на заводзе». Чаму так, сынок? Гэта ж, пэўне, блага, кажу, бегаць з месца на месца? Засмяяўся: «Нічога ты, мама, не разумееш! А хто там затрымліваецца, на будоўлі?..» Папыталася: ну, а на заводзе што, ляпей будзе? «Цёмны ты чалавек, мама»,— кажа. Цёмны дык цёмны. Табе відней, кажу, сынок...

Тут, на заводзе, і цябе напаткаў. Я ж і не ведала нічога ўвесь час, ажно пакуль не сказаў: «Мама, як ты глядзіш, калі я ажанюся?» Ну, я думала, жартуе. Кажу: а бо, сынок, пра гэта цяперака ў матак не пытаюцца. А ён: «А я вось пытаюся!..» Бачу, не жартуе. Кажу: можа, ранавата яшчэ, не ўцячэ гэта нікуды, паспееш ачалавечыцца, ні сам во нічога за душой не маеш, ні яна — пра цябе кажу — таксама. А ён зноўку жартачкамі: «Ранняй жаніцьбы, як і ранняй сяўбы, не кайся...» Ты не крыўдуй, Рытачка, ні пры чым ты была, але ж, прызнаюся, не хацела я, каб ён жаніўся. Сям'ю заводзіць гэта ж не раздва, і гатова. Пакуль вас двое, можна і ў чужым кутку. А, дасць бог, дзіцятка знойдзецца? Хай сабе якія добрыя людзі будуць, але каму гэта радасна, калі дзіця чужое ў хаце? Загаварыла пра гэта, дык зноўку смешачкамі адбыўся: «Ты, мама,— кажа,— памудрэй заўкома...»

Ну, а скора ж і цябе прывёз на агледзіны...

Даўно скончылася кіно, бубнеў аб нечым, хуценька варушачы губамі, мужчына ў акулярах, надта ж падобны на іхняга Квочку, а яна, Тацяна, усё гаварыла-спавядалася...

*Пятніца, 30 чэрвеня*

Задрамала яна ўчора позна. Ужо, здаецца, і не думала ні пра што, гнала ад сябе думкі, дык, як на тое, галава разбалелася. І не ў скронях, як уранку, а ў патыліцы — быццам свінцом налілася. Хацела ўжо ўставаць, каб па-

шукаць якую таблетку, але і ленавалася з-пад коўдры вылазіць, і нявестку турбаваць не хацелася. Ляжала паленам, ажно пакуль, урэшце, сон не змарыў.

А прахапілася, дык спалохалася. У галаве быццам шумела нешта. Болю не чуваць, а ўсё шуміць і шуміць. Расплюшчыла вочы, прыслухалася — не мінаецца той шум. «Што за насланнё?» — думала нейкую хвіліну. А пасля дацяміла, што шуміць тое зусім не ў галаве — гэта ж дождж за вокнамі. Дацяміла і падхапілася з ложка: падмроілася, што праспала. Прабегла, забыўшыся на тэпці, да стала, зірнула на будзільнік. Было палова на пятую. Дзякаваць богу, не заспала! Прыцемак у хаце ад таго, што хмарна. Вярнулася да ложка, уздзела сукенку. Ужо за дзвярамі, у першай хаце, усунула босыя ногі ў гумовікі, узяла даёнку і выйшла на ганак.

Дождж ішоў ціхі, не густы, але спорны. Пачаўся, відаць было, нядаўна: пясок на падворку не мокры, а тольկі быццам курамі падзяўбаны. І пад капяжом нават суха яшчэ было. Гэта ж, пэўна, дождж яе і разбудзіў.

Памкнулася была ў хлеў, ды схамянулася. Вярнулася ў сенцы, каб пашукаць у вядры, куды скідала са стала аб'едкі, скібку хлеба ці кавалак бліна. Падласка так прывыкла, што яна, Тацяна, прыходзіць да яе ўранку з якімнебудзь ласункам. Не пакладзеш што на язык, дык не падоіш спакойна — усё будзе круціцца, рукі лізаць і ў вочы зазіраць, чакаць, што дасі.

Карова была ўжо на нагах і адразу пацягнулася пысай да рук. Тацяна ўсміхнулася, выпрастала далонь з лустай хлеба:

— На, ласоніца! Жыва не будзеш, калі не прынясу.

І тут жа зазлавала на Падласку — накідала сваіх ляпяхоў, што і не падступіцца. Гэта ж такая чысцёха была, ніколі не наробіць там, дзе ляжыць, а то — быццам сурочыў хто.

— Ах ты, бессаромніца! — Тацяна ўсердавана дала карове грымяка па сцягне.— Розум табе адняло, ці што?

Павесіла даёнку на цвічок у вушаку, узяла з кута шуфель, пашкрэбла ім дошкі, патрусіла па іх трухой з кармушкі. Прысела даіць Падласку ўсё яшчэ ў злосці. Бурчала, прыладжваючыся:

— Стой, паненка! Іш ты на яе, пакрыўдзілася! Чаго касавурышся, га? Мала табе яшчэ перапала!

Ды хутка супакоілася. Дзе ж ты тут будзеш злавацца,

калі так усё разумее? Перажывае, быццам чалавек! Паверне галаву да Тацяны, паглядзіць так разумна, у плячо лізне... Не, дарма кажуць — жывёліна ёсць жывёліна. Гэта ж і не казала нічога, і не прасіла нагу адставіць, калі ўзялася за другія, з таго боку, цыцкі, а Падласка сама здагадалася, пераступіла з нагі на нагу і яшчэ паглядзела, быццам спыталася: ці добра ёй так, Тацяне, ці зручна?

І выпіхала Падласку на двор ужо зусім лагодна, гаманіла, як з чалавекам:

— Ідзі, ідзі ўжо, хопіць падлізвацца, бо вунь ужо і пастушкі занялі, ідзі, каб не даганяць пасля.

Потым вынесла курам, схадзіла пад паветку, прынесла ў хату дроў. Ціхенька парадкуючы іх у печы, у каторы раз з крыўдаю падумала пра саўгаснае начальства — усё яно на газпліткі не ўзаб'ецца. Але ж не, не за тое! Ну, вядома, плітак тых не хапае, але ж хто маладзейшы ды спраўнейшы, дык, нябось, даўно сабе паставілі. Яна, і не толькі яна, а і іншыя бабы, колькі разоў гаварылі брыгадзіру, дык адно адказвае: у іх — сем'і, а вы, адзінокія, можаце і пачакаць. Вядома, яны могуць пачакаць. Але ж каб хоць той самы Пётра падумаў іншым разам і аб тым, каму з тымі самымі дровамі ці брыкетам лягчэй: ці ім, маладзейшым і спраўнейшым, хоць і з сем'ямі, ці ім, адзінокім Танькам і Манькам? Дык жа не, не падумаў! А як бы добра было, каб плітка ў хаце стаяла. Летам печ можна было б і зусім не паліць.

Прыслаціла незапаленую печ і выйшла на двор. Пакуль сёе-тое, дык сходзіць пад Пётру, паглядзіць нарад.

Дожджык, быццам і не пачынаўся, скончыўся — адно што пыл троху прыбіў ды брук памыў. Дык яна і гумовікі скінула — хай не хлябешчуць халявамі па лытках, выткнулася за варотцы басанож. На вуліцы не было ні душы. Толькі ў самым канцы, за рэчкай, нехта нёс на каромысле суды вады, але, як ні ўглядалася, не магла пазнаць, ажно пакуль той нехта не звярнуў да весніц. Толькі тады здагадалася: Волька-крамшчыца. Бацька зрабіў ёй у двары калодзеж, нават не калодзеж, а калонку, з якой ваду рукаяткай трэба пампаваць, але Волька казала, што вада надта нясмачная, дык сабе на патрэбу ходзіць па ваду ў Пупікаву крыніцу...

Пастаяла хвіліну ля варотцаў, валасы прыгладзіла, бо як паднялася, дык і не прычэсвалася дасюль, ступіла на брук і ледзьве не павалілася — паслізнулася. Ды так зня-

чэўку, што аж у баку кальнула. Пэўна, праз гэта сарвалася ў яе нешта з языка, бо пачула раптам:

— Чаго ты мацюкаешся?

Зірнула — Шулячыха з-за паркана паглядае.

— А не кажы! Ледзьве не пляснулася.

— Што, на каравяк наступіла?

— І без каравякоў тваіх слізка. Каменне мокрае, от пята і слізганулася.

— А куды выправілася? — Каця бліжэй падалася да плота.

— Можа, Пётра ўжо нарад павесіў.

Не хацела прыпыняцца, але Шулячыха загаманіла:

— А я іду ў хлеў і чую раптам — нехта мацюкнуўся. Гляджу — ты ідзеш. Дык і думаю: чаго гэта ты? А я ж, Танька, во,— Шулячыха падняла вышэй міску з малаком, якую трымала ў руках,— клопату не мела, парасят купіла. За чацвёра дзве сотні вылажыла, а яны яшчэ каб надта дык і есці не ўмеюць. Нясу во сырадою, нібы дзецям.

— А нашто табе ажно чацвёра?

— Што ты пытаешся! Па адным тром, дык і трое. А і самой жа трэба таксама.

— Каму гэта — тром?

— Як гэта — каму? Ты што, Танька, смяешся? Каму ж яшчэ, як не дзецям?

— Дык жа ты і так стогнеш, што хворая. Хто ж табе паверыць пасля гэтага?

— Анягож не хворая!.. Але ж наша доля такая, Танька. Хто паспагадае, хворы ты ці здаровы? Пакуль цягаемся, дык і таўчомся. А што два ці чатыры, дык якая розніца? Я ж іх і гадаваць, думаеш, доўга буду? Да каляд хіба. А дзеткі, нябось, не адкінуць...

«Усё ёй мала!» — падумала Тацяна, але сказала:

— Нясі сваім сысунам, пакуль цёпленькае.

І заспяшалася. Ішла і на Шулячыху злавала. Гэта ж трэба — чацвёра парасят! Яна ж, Тацяна, каб не гідзілася чужога малака, дык і Падласкі не трымала б. Але ж як праклянцце: нават у Манькі не можа малака ў рот узяць. А і то думала не раз, каб збыць Падласку. Думала, ды рашыцца не можа. Прывыкла. Тады і зусім адна ў хаце астанецца. Так дык і раніцою пагамоніць, і ўвечары, калі доіць. Каб жа яшчэ добры чалавек трапіўся. А то прадасць чорту лысаму, дык хіба ён так дагледзіць кароўку, як яна? А гэта ж, кажуць, і кепска, калі прадаеш

і шкадуеш. Гаворадь, карова праз тое і малако перастане даваць. Дык прадай, і каб пасля людзі на цябе крыўдзіліся? Хай ужо будзе, пакуль можацца...

На склееным з усіх бакоў электрычным слупе вісеў ужо нарад. Яна ўтаропілася ў яго, шукаючы свайго прозвішча. А паспрабуй знайдзі тут што, у гэтых Пётравых кручках! Быццам і хораша піша, кругленькімі літаркамі, але столькі нейкіх кручкоў і завіткоў робіць, што і не прачытаць. З гэтай яго пісаніны колькі ўжо смяяліся. А Пётра не крыўдуе, кажа: «Мне гэтыя кручкі жыццё ўратавалі!»

Ён у сорак чацвёртым на вайну пайшоў, з партызанаў, і служыў пасля ў арміі доўга, нешта гадоў сем. Дык яшчэ як прыйшоў, усё казаў, што почырк яго ўратаваў. Быццам прыглянуўся яго почырк нейкаму начальству, і стаў Пётра пісарам, дык на фронт і не трапіў, і пасля ўсе гады ў пісарах праседзеў.

Пакуль шукала сябе, дык і сам Пётра выйшаў з двара. Падышоў да яе, штурхануў плячом:

— Не тыкай носам! На буракі пойдзеце, у Паддубоўе. Неба, праўда, пасмаркалася толькі, але памякчэла. Пара ўжо і палоць, і прарываць.

Зірнула на яго і ледзьве не зарагатала. Гэта ж праўду кажа яго Томка, што Пётра да сала ласы. Неяк бабы смяяліся, што пуза адгадаваў, а Томка яго вазьмі ды скажы:

— А не есць жа нічога! Усцягнецца, скварку ці кумпяка ўрэжа, з'есць з лустай хлеба, а тады вады нагібкам з вядра пап'е і як пойдзе, дык ажно ўвечары прывалачэцца.

Бабы яшчэ больш рагаталі, бо ведалі, што тая скварка на добры фунт пацягне і што не па адной той скварцы Пётра яе да вечара споўдаецца, што не ў адной хаце перападзе яму за дзень і яшчэ колькі скварак і, вядома ж, чарка. Тацяна ледзьве не зарагатала і цяпер, зірнуўшы на Пётру: губы і барада блішчалі, аж ільсніліся — няйначай, сала еў.

Пётра, згледзеўшы, што яна ўсміхнулася, спытаў:

— А што вясёлага вычытала?

— Ага, вычытала, што ты сала еў. Томка праўду такі казала.

— А-а-а...— Пётра дастаў насоўку, выцерся.— Яна скажа! А што я яшчэ з'ем? Ці яна калі сняданак зрабіла? Прагоніць карову і зноў спаць заваліцца.

— Нічога, ты бедны не будзеш. Знойдзецца каторая, што і пачастуе.

Пётра буркнуў:

— Шмат ты частавала!

— А ты й не заходзіў! — яна зноў усміхнулася.

— Многа вас, каб да ўсіх заходзіць. І так во...

Нешта яшчэ хацеў сказаць, але выйшла на вуліцу Манька, падышла да іх, загаварыла, як заўсёды, гучна:

— Прыходзь, Пётра, заўтра да мяне ў госці.

— Ён не да ўсіх ходзіць,— сказала Тацяна.

— Да мяне зойдзе, па-суседску.

— А што ў цябе за госці?

— Хто прыйдзе, той і будзе госцем,— сказала Манька і таўханула яго локцем у бок.— Юбілей у мяне заўтра, брыгадзір!

— І колькі табе нацыўкала? — Пётра дастаў цыгарэту, прыпаліў.

— Дык жа пра гэта ў баб не пытаюцца! — зарагатала Манька.

— Баба мне знайшлася! Толькі і ўсяго, што ў спадніцы!

— А якая табе розніца? — Манька, быццам не пра яе тое, не ўсердавала.— Табе і адной Томкі зашмат, ментузу такому! Ты б не пытаўся, а прэмію якую-небудзь даў, каб гасціна весялейшая была.

— І сваёй панчохі хопіць,— пасмейваўся Пётра.

Манька таксама не лезла па слова ў кішэню:

— Распатрашу, не пашкадую, толькі прыходзь.

— Клічаш, дык прыйду,— Пётра гаварыў памяркоўна ўжо.— А прэміі ўсё адно не дам. Позна спахапілася. Скажы дзякуй, калі з канторы паштоўку віншавальную прышлюць,— ён падыбаў у канец сяла, дзе быў саўгасны двор.

— Ты ж скажы, каб прыслалі! — гукнула яму ўслед Манька.

Тацяна нават зразумець не магла, сур'ёзна тое кажа сяброўка ці пацвельваецца.

Пастаяла яна з Манькай хвіліну — пара было бегчы дадому, у печы запальваць. Зайздросціла яна Маньцы. Лацвей бабе жыць з такім характарам. Быццам не прымае ўсяго да сэрца. Гэта ж каб Манька яе, Тацяніну, натуру мела, дык даўно б скапусцілася. А яе яшчэ і на жарты хапае. А Тацяна ж ведае, што не так яно напраўду, што Манька сваю бабскую адзіноту балюча пражы-

вае, толькі не паказвае таго, не выдае на людзях, грубацю ды гэтай сваёй знарочыстай бесклапотнасцю прыкрываецца. А сама яна не ўмее так. Як забаліць што, дык і на твары, і на языку — затойвацца не можа...

Прыйшла дадому, прыслухалася — спяць нявестка з унучкай. Асцярожна прачыніла дзверы ў тую хату, зірнула на будзільнік — было сем. Дык ужо ж і не рана, падумала, а яна нават у печы не запальвала...

У Паддубоўі жанчыны пазаймалі кожная сабе дзялкі, а яна поруч з Манькай стала — так весялей будзе, словам перакінуцца можна. Гналі па два радкі. Бурачкі былі яшчэ кволыя. Вырвеш каторы, дык адно — мышыны хвосцік. Але палоць і праўда не рана, бо ўтравелі. Манька рванулася наперад. Толькі і чуваць,— шах-шах. Яна паспрабавала дагнаць, але засаплася. На яе радках нешта часта асот пракідваўся, а яго, каб з каранем вырваць, трэба дзесяць разоў матычкай дзеўбануць. А яна яшчэ кошык з сабой узяла — малачаю ды лебяды свінчаці сабраць, дыкківалася-ківалася, а пасля і гукнула Маньцы:

— Не прыся так, што не ўгнацца!

Манька разагнулася, азірнулася:

— А бо, я й не бачу! Ты ўжо не шчыруй так, пасля ж акучнік пусцяць.

— Поскудзі гэтай і акучнік рады не дасць.

— А ліха з ім! Пакуль зноў выб'ецца наверх, дык і буракі ў сілу ўбяруцца, ім ужо не страшна будзе,— адказала Манька, але ўсё ж замахала матычкай павольней.

А як параўняліся і адна пры адной, рука ў руку, секлі матыкамі зелле, пакідаючы за сабой тры шнурочкі яшчэ кволых, чырвонаватых лісточкаў, Манька спытала:

— Што ж не хвалішся, як нявестка?

— А чым жа хваліцца? — Яна, Тацяна, уздыхнула.— Няма чым хваліцца, Манечка. Усё маўчыць болей.

— А ты хочаш, каб яна перад табой душу вывarочвала?

— Хто ж кажа! Але каб пажалілася па-бабску, ці што...

Манька, не паварочваючы галавы да яе, Тацяны, сказала:

— А можа, яна не пажаліцца да цябе прыехала, а паздзекавацца, дапячы? Яны, цяперашнія, на ўсё здатныя. Іншая ці паехала б з такой радасцю да свякрухі!

Тацяна ці не абурылася:

— Не, Манька, дарма ты! Рыта не такая. Хінулася яна да мяне, бытта і да роднай маткі. Таму і прыехала.

Манька не перабівала. Грэблася матычкай, апраўляла зрушаныя бурачкі, скідала ў кучкі падсечанае і вырванае зелле. Ды нечакана, выпрастаўшыся і ўпёршыся кулаком у знямелую спіну, сказала з ранейшай зласнаватасцю:

— Ат, абое рабое! І яна не анёлак, калі сям'я разважваецца!

Тацяна таксама разагнулася, падцягнула панчоху, што камяком збілася пад пятой, сказала:

— І праўда твая, Манечка, і няпраўда. Як бы там ні было, а баба заўсягды цярплівейшая, чым мужчына. Ці даўнейшая, ці цяперашняя, як ты кажаш, а ўсё адно — баба ёсць баба. Сям'я ёй даражшая, чым катораму. Не, Манечка, напрасліну ўзводзіць на яе дарма.

Манька сашчапіла пальцы, пацерла далоні адна аб адну, атрасаючы з рук зямлю. Беручыся зноў за матычку, кінула:

— Ну, то тады твой Алёшка добрая цаца!

Тацяна прамаўчала і таксама ўрачкавала. На Маньку не пакрыўдзілася. Ведала яна Маньку. Тая заўсёды так: скажа, як мацюкнецца, а ў самой злосці — ні на грош. Яна ж і сама адчувае, што не Рыта — Алёшка вінаваты, усё больш пра тое думае. І вось жа дзіўна: толькі цяпер, пэўна, спахапілася і зразумела, што вырас Алёшка. Раней жа ўсё выдаваў малым. Нават і службу ў арміі, і жаніцьбу яго яна ўспрымала быццам праз сон. Нібы ўсё тое было не з Алёшкам, а з некім іншым. І калі ён рабіў што не так, дык яна не надта і засмучалася. Думала: ат, вядома, дзіця яшчэ, розуму таго, як у вераб'я.

Збянтэжылася, як першы раз маткай яе ў вочы назваў — тады, калі прывалок у хату паўмяшка ячменю. Той ноччу і цюкнула ёй у галаву: падрастае яе Алёшка. Але ж сэрца не хацела з тым мірыцца. Для яе ён усё адно дзіця. «Матка» тая сарвалася з языка ў злосці, няйначай. Хіба ж ён горшы за ўсіх?

А пасля, як у армію пайшоў, дык яна і зусім на тое забылася. Сэрца і без таго балела, ды і Алёшку быццам падмянілі, як зноў маленькім зрабіўся. Пісьмы пісаў, дык усё мамачка ды мамачка. Яна не саромелася чужым чытаць Алёшкавы пісьмы. Хай бачаць, хай ведаюць, які ў яе сынок. Сама сабе па пяць, па дзесяць разоў кожнае

перачытае. І шчаслівая была, як ніколі: здавалася, што раней Алёшка з ёй так памногу і так добранька не гаварыў. А пасля ж неяк так сталася, што ён быццам сам па сабе, а яна — сама па сабе. Ды што хацець? Хлопцы ж з маткамі заўсёды так.

Гнала яна ад сябе ўсё кепскае. Хлопец як хлопец. А што не ўсё па яе выходзіць, дык што ж зробіш? Век другі настаў. Яна не надта перажывала і тады, калі Алёшка валасы адпусціў і калашыны ўнізе растачыў, кліны паўстаўляўшы. Такой бяды, думала. Калі ім такое даспадобы, хай носяць. Цяпер у валасах нічога не завядзецца. Каб у сяле жыў, дык, вядома, па-людску і стрыгся б, і спадніцы б тыя вакол ног не матляліся... Адно кепска — не шануе яе Алёшка грошай. Нібы яны дарма яму даюцца. Гэта ж прыехаў, памятае, яшчэ без Рыты, і пайшлі яны разам у краму, а там людзей мнагавата — якраз выхадны быў. Мужчыны вазьмі ды падкузьмі Алёшку: «Раскашуйся, рабочы клас!» Дык Алёшка як стой і выклаў дзесятку на пітво і яшчэ прыкусіць нешта. Яна, Таццяна, неяк сумелася тады. І не так ёй грошай тых было шкада, як самога Алёшкі. Падумала: «Маё ж ты дзіцятка, так у цябе лішняй капейкі ніколі не завядзецца...» І сябе самой чамусьці зрабілася шкада. Не падумаў, адкуль у маткі тыя грошы бяруцца...

— Я ж, Манечка, больш і вінавачу Алёшку,— азвалася ўрэшце.

— Ага, так я табе і паверыла! Ці нарадзілася яшчэ матка тая?

— Кінь, Манечка!

Яны дабілі занятыя імі чатыры радкі — ад дарогі, што бяжыць з сяла ў Барок, да Якубавага раўка ў Паддубоўі, без перадыху павярнулі назад. Прыпыніліся на хвіліну толькі — нацягнуць на лоб хусткі, каб сонца так не смаліла ў галаву.

— Я, Танька, не выскаляюся,— Маньчын голас палагаднеў.— Але ж не веру я ўсё... Як ён мог рашыцца на такое?

— Мусіць жа, мог, Манечка.

Манька, памаўчаўшы, сказала нечакана:

— Панскай натуры ён у цябе, дзеўка. Табе падмогі ад яго не было і нямашака. І ў мяне адной галава праз усё баліць, і ў цябе.

Таццяна адказала на тое лёгка, як на нешта даўно перадуманае і перабалелае:

— Каб горшай бяды не было, Манечка. Падмогі тае я ад яго і не вымагала. Сама пакуль у сіле.

— Дык чаго ж цяперака енчыш? Выгадавала гультая і абібока, дык сама і вінаватая!

— Ведама, вінаватая,— ціха прамовіла Тацяна.— Толькі ад гэтага не лягчэй, Манечка. Ці ж я яго чаму благому вучыла?

— Благому ён і сам навучыўся. Добраму ты яго не навучыла, дзеўка!

Сказала тое Манька і, як яе хто ўджаліў, ірванулася наперад, толькі камякі зямлі паляцелі з-пад матычкі. А яна, Тацяна, наадварот, як умлела, нібы яе варам усю абліло — так яе словы Маньчыны ўразілі. Не кінулася даганяць сяброўку. Ведала, пачакае Манька, пасядзіць на ўздаражку. Корпалася, падсякала матычкай зелле, машынальна пасоўвала паперадзе сябе кошык — ужо амаль поўны — і ўсё над Маньчынымі словамі думала.

«Добраму ты яго не навучыла...» А чаму ж яна вучыла яго? Усё ж рабіла, каб найлепей яму было. А ці ж добрае можа благім абярнуцца? Але ж чаму ёй сэрца па Алёшку даўно баліць, так баліць, як ніколі раней не балела, нават тады, калі маленькі быў? Сэрца матчына чуе бяду дзіцячую. Ужо не першы год той боль жыве ў яе сэрцы. І не той колішні боль па малым Алёшку, калі ёй усё на бяду варажыла. Боль той, памятае, салодкі быў і мінаўся адразу, як толькі абдымалі яе за шыю яго цёпленькія ручаняткі. А то ж — наадварот! Асабліва з тае пары, як у горад падаўся Алёшка. Прыедзе ён, у хату зойдзе, дык яна і радая, і як бы нейкі страх душу халодніць. Глядзіць на яго, на тое, як ён робіць што, ходзіць, прычэсваецца каля люстэрка, і ўсё ловіць сябе на думцы: чужы нейкі робіцца яе Алёшка. Штораз, з кожным яго прыездам усё болей палохалася яна гэтага незразумелага і неадчэпнага адчування.

Палягчэла троху, калі ажаніўся Алёшка. Мо проста не да таго было, другі клопат быў? Але праз нейкі год-другі страх вярнуўся. І боль. Шчымела сэрца і шчымела. Яна ўжо, хоць ты нікому не прызнавайся, нібы змірылася з тым страхам, быццам і чакала бяды. А яно вось і праўда. Заўчора, як Рыта прыехала, яна, Тацяна, адразу здагадалася, што нешта не тое. Рыта яшчэ і слова не паспела сказаць, і не падышла, каб паздароўкацца, а ў яе сэрца так і забілася: тах-тах-тах, і гарачыня пад грудзі падкацілася...

Дагрэблася яна да дарогі, прысела, а пасля і прылегла, каб спіна адышла. Манька загаварыла да яе зусім не пра тое:

— Чула ты ці не, як учора Гэлька ля канторы ляманталава?

— Не чула я нічога.

— Цырк, і толькі! Яе ж з пошты прагналі. Дык яна злавіла ля канторы дырэктара і давай прасіць, каб даяркай ёй пайсці. А ён вазьмі ды скажы: «Ты ж усе кармы ў свой хлеў перацягаеш!» Дык яна кляла і дырэктара, і Пётру, крычала, што гэта ён увёў дырэктару ў вушы, што зладзейка яна...

Яна, Тацяна, не слухала. Не было ёй сёння справы да Гэлькі ці да каго там яшчэ.

Прыбегла дадому — нявесткі ў хаце не было. Пэўна, у садок з Алачкай пайшла. Яна не стала гукаць іх, узяла даёнку, у кішэню паклала лустачку хлеба і пабегла ў поле. А прыйшла, дык нявестка з унучкай, бы сабраўшыся куды, у двары яе стрэлі.

— Ай-яй, няўжо бабу з малачком чакала? От разумніца мая! Бярыся за вочапку, памагай бабцы, а то баба старая, нядужая...

Так, гамонячы з малой, зайшла ў хату, узялася цадзіць малако. Следам зайшла і Рыта, прысела ля стала. Знячэўку спытала:

— Мама, аўтобус роўна ў шэсць ідзе?

— Каторы на Мінск? Ага, дачушка, у шэсць.

— Паедзем мы.

— Куды гэта? — перапытала яшчэ быццам спакойна.

— Дадому паедзем. У Мінск.

У яе ажно вядро ў руцэ калыхнулася.

— Чаго ж так, Рыта? Ты ж казала — водпуск у цябе.

Нявестка ўздыхнула. Памаўчаўшы троху, сказала:

— Водпуск, канечне. З панядзелка толькі і пачаўся. Але чаго мы тут сядзець будзем?

Сказала і змоўкла, галаву апусціла, шоргала даланёй па стальніцы.

Яна, Тацяна, не дацадзіла малако, адставіла даёнку, сама апусцілася побач са збанком на ўслон, ускінулася:

— Што ты кажаш, Рыта? Як гэта — чаго вы тут сядзеце будзеце? А дзе ж вам яшчэ сядзець? І не думай!

Схамянулася, што не наліла малой. Падхапілася, вы-

цягнула са стала шуфлядку, дастала кубачак, нагібкам пялёхнула ў яго са збанка, падала Алачцы:

— Пі, пакуль цёпленькае. Чысценька толькі, каб дно відаць было.

Рыта раптам заплакала, аблакаціўшыся на стол. Хліпаючы носам, сказала глуха:

— Не магу я, мама. Стараюся, а не магу. Хто я вам? Людзі пачнуць гаварыць...

Хацела Тацяна падняцца, падысці да Рыты, абняць, суцешыць, ды не рашылася чамусьці, у нагах нейкую слабасць адчула. З другога рога стала азвалася:

— Перастань! Прыехала — і добра зрабіла. І мне, старой, весялей, і вам тут не горай. А людзі што? Якое каму дзела? Перастань, дачушка! — І не стрывала, сама ўсхліпнула.— Мне ж таксама не лягчэй...

Слёзы як быццам падзейнічалі на нявестку. Падняла Рыта галаву, выцерла тыльным бокам далоні вочы, сказала смялей:

— Паедзем мы, мама. Пасля абеду збяромся і пойдзем памаленьку.

Маўчала Тацяна. Не ведала, што казаць. Упрошваць, угаворваць, як малую? Дык жа, дзякаваць, ужо сама матка. Хто яе самую, Тацяну, калі пашкадаваў, хто яе калі прытуліў-прылашчыў? Нечакана для сябе самой са злосцю сказала:

— Нікуды не паедзеш! Прыехала от, дык і жыві!

Рыта апусціла галаву, панікла, а ўнучка, адарваўшыся ад кубачка, уставілася на яе, Тацяну, спытала:

— Чаго ты, бабка, крычыш?

Глядзела на ўнучку нейкую хвіліну няўцямна, бы недачула, што яна сказала. Урэшце падалася да малой, правяла рукой па галоўцы:

— Крычу, бо маці твая... Табе ж тутака добранька, праўда? Па пясочку можна пабегаць і на траўцы паляжаць, і малачко во свежанькае... А матка твая ў Мінск ірвецца. Ты ж не хочаш у Мінск?

— Не, я буду ў бабкі,— Алачка ўткнулася ёй у калені.

— Я ж і кажу, што ты ў мяне разумніца. А маці...

— Ай, мама! — матлянула галавой Рыта.

— Што, ай? Чаго ты ехала сюды, га? Каб тым абрадаваць, што сказала? Дык і без цябе ўведала б! Ці, можа, і ты добрая цаца, як Манька кажа?

— Чым жа я вінаватая!

Чула, што нявестка вось-вось зноў заплача, хацела сказаць нешта мякчэйшае, ласкавейшае, аднак па-ранейшаму злосна кінула:

— А не вінаватая, дык сядзі і не рыпайся! Водпуск свой скончыш, тады паедзеш, калі так хочацца!

Устала, даліла малако ў збанок, паставіла яго на стол, прыкрыўшы зверху газетай, каб муха не ўбілася, другі збанок занесла ў кладоўку. Вярнуўшыся ў хату, пайшла ў запечак — замяшаць парасяці і курам. Не бачыла адтуль, а ведала: Рыта сядзіць там, дзе і сядзела,— на ўскрай стала. Сядзіць і маўчыць, і яна, Тацяна, не азывалася, пакуль корпалася ў запечку. А выйшаўшы на хату з вядром у адной руцэ і з міскай у другой, сказала:

— Не думай ні пра што такое, дачушка. Неяк жа будзе.— І, бачачы, што Рыта не падымае галавы ад стала, патапталася на месцы.— Я па даёнку забягала, дык вас не было відаць нідзе. Хадзіла куды з Алачкай ці толькі ў садок?

Рыта паволі падняла галаву, зірнула на яе:

— Па вуліцы прайшлі, да магазіна...

І раптам нявестка падхапілася з услончыка, абняла Тацяну, уткнуўшыся носам у грудзі:

— Мамачка вы мая!..

Разгубілася яна. Ні адштурхнуць, ні абняць — рукі занятыя. Апусціла вядро на падлогу — яно ў левай руцэ было, вочапка глуха дзынкнула аб край, атуліла Рыту гэтай вольнай левай рукой за плечы, а ў правай так і трымала міску. Гладзіла нявестку па валасах, па плячах, шаптала:

— Ну, ціха, ціха... Ну, супакойся, не плач, дзіцятка. Не трэба так...

Потым яны разам выйшлі на двор, разам ішлі да хлява. Яна несла вядро, а Рыта, ідучы ззаду, міску.

— Пастаў от тут, ля карытца, пакуль. Я выллю парасяці, дык сама выкіну, а ты рук не ўрабляй,— казала да нявесткі.— Куры да цябе не прывыкшы, дык усё адно не падыдуць. Пастаў пакуль.

— Добра, мама,— Рыта паставіла міску з тоўчанай бульбай і хлебам, адышлася, села на лаўцы ля сенцаў.

Даўшы курам, прысела побач і яна, Тацяна. Сядзелі, глядзелі, як чубіліся ля карыта куры, і маўчалі. Зайшоў на двор Шулячышын певень, паходжваў зводдаль, намерваючыся далучыцца да кампаніі, баязліва паглядаў на яе, Тацяну, але яна, як бы заўсёды зрабіла, не замах-

нулася на яго, не заакышкала. Наадварот, пасміхнулася сама сабе, быццам сказала: «Дзеўбані, дзеўбані і ты, кавалер. Пасеш жа і маіх...»

А ўголас прамовіла да нявесткі:

— Ну, хай ядуць. Пара і нам за стол.

Пасля абеду Манька не прыйшла на буракі. Як і казала, паехала ў Мінск — надумала ж баба госці рабіць. Кінула-рынула ўсё — і паджгала. А ёй, Тацяне, мо і трэба было б з'ездзіць, дык жа...

Да жанчын яна не пайшла. Раз занялі дзялку з Манькай, трэба яе і дабіваць. Бабы вунь ужо дзе, пад самым Барком рагочуць і перагукваюцца, а яна з гэтага краю, ад сяла, адна кешкаецца. Кошыка пасля абеду не брала. Таго зелля, што ў полудзень прынесла, на два дні хопіць. А без кошыка, хай яно і невялікі замінак, работа спарней робіцца. Яна, глядзі, мо і за абедзвюх управіцца. Яно ж і трэба, раз ужо ўзяліся. Хай Манька пагойсае па Мінску, прысмакаў пашукае.

Пра Рыту з Алёшкам старалася не думаць. Бо што яна можа прыдумаць новае? Прыедзе, то і відаць будзе. Мо ён будзе больш разгаворлівы, чым Рыта, скажа матцы, чаму такую радасць ёй прыгатаваў і што рабіць цяпер.

Не верыць яна, што Алёшка, як Рыта кажа, на машыну паквапіўся. Гарыць хай яна, машына тая, каб на яе чалавека мяняць, матку свайго дзіцяці, калі ўжо не жонку. Не, не гаварыла яна гэтага Рыце, але сэрцам чуе, што не адна машына вінавата. Разлюбіў? Цяпер жа модна, кажуць, стала так гаварыць. Ледзь што — разлюбіў. І суддзі тыя ці хто там — вераць, разводзяць. А не падумаюць пра тое, што як жа гэта можна, каб чалавек дзіця сваё разлюбіў? Што ж гэта за чалавек ён такі, калі праз прыхамаць сваю дзіцяці выракаецца?

Нечакана прыгадаўся Іван Рабцэвіч. Рабіў у эмтээсе ці механікам, ці брыгадзірам. Нейкі год ён нешта часта панадзіўся ў іхнія Жылічы. Яна спачатку і думаць нічога не думала, а пасля ўжо ўведала: той Іван Рабцэвіч быццам нешта да яе займеў. Неяк раз паздароўкаўся, другі, а пасля і загаворваць пачаў. Але яна не звяртала на тое ўвагі. Ён жа нейкі такі чалавек быў, што ні з кім на вуліцы не размінецца, кожнага зачэпіць. Надта ж гаваркі быў. Заўсёды на ім быў плашчык нейкі руды і афіцэрская шапка з бліскучым брыльком — і зімой і летам.

Хутка хадзіў, подбежкам, быццам яму холадна. Бяжыць вуліцаю, каля якога старога прыпыніцца, каб закурыць стрэльнуць, анекдот расказаць, а бабу ці дзеўку каторую стрэне, дык брылёк свой прыпадыме, усміхнецца, хуценька скажа: «Здароў, дзеўка!» — і не размінецца, каб рукою яе не ляпнуць, і не па плячы, а ніжэй, па мякчэйшаму.

І гэта ж дай рады: Рабцэвіч той у сваты да яе прыходзіў!

Яна адно пасмяялася з таго сватання. Вечарам неяк, яна ўжо спаць збіралася, у дзверы нехта пастукаў. Яна ці не спалохалася: значыць, чужы нехта, калі стукаецца. Ажно адчыніліся дзверы, і зайшоў Качан, а за ім — Рабцэвіч. Патапталіся ў парозе, памуляліся троху, а потым Качан і загаварыў:

— Не лягла яшчэ? Гэта ж мы ішлі і вось надумаліся да цябе зазірнуць, дзеўка, паглядзець, як ты тут.

— А што на мяне глядзець? — сказала яна.

— А так сабе,— мармытнуў Качан, і яна раптам сумелася, бо нейкі не такі быў старшыня — быццам бянтэжыўся чагосьці.— То, можа, ватоўку скіну?

Не чакаючы, што яна скажа, Качан сцягнуў з плячэй ватоўку, зняў шапку, павесіў на цвік. Зняў свой плашч і Рабцэвіч. Яна ў недаўменні пазірала на ўсё тое. Калі распранаюцца, дык не на хвіліну зайшлі. Што ім прыспічыла? Час жа не ранні. Яшчэ больш здзівілася, калі Качан раптам дастаў з кішэні бутэльку і паставіў на стол.

Яна не стрывала:

— Што вы надумаліся, дзядзька Юлісь?

— Як бы табе сказаць, дзеўка... Дзела, значыць, ест. Пашукай чаго закусіць, гэта самае.

— Ці цётка Ганна з хаты выгнала?

— Ага, вытурыла! Дык зайшлі да цябе. Ты не прагоніш?

— Так бы і казалі, дзядзька. Зараз пашукаю чаго. А то ж я спалохалася. Хто, думаю, проці начы?

— Мы не кусаемся, каб палохацца. Пашукай што на стол,— Качан ужо асвойтаўся, прысеў да стала, кіўнуўшы і Рабцэвічу на табурэтку.

Яна падала ім скрылёк сала, акраец праснака, цыбуліну, паклала сырых яечак. Мужчыны ажывіліся, заёрзалі — Качан на ўслоне, Рабцэвіч на табурэтцы. Качан сам, не чакаючы яе, сяк-так парэзаў хлеб і сала, Рабцэвіч ачысціў цыбуліну. Урэшце Качан гукнуў яе:

— Сядай і ты, Танька!

Яна адмахнулася:

— Абыдзецеся і без мяне!

— Не, дзеўка, не абыдземся. Сядай, кажу! І чарку сабе дастань.

Яна прынесла трэцюю стограмоўку, прысела да стала. Качан наліў у чаркі. Круцячы ў пальцах сваю стограмоўку, сказаў:

— Дык дзела такое, дзеўка. Ганна нас з хаты не вытурвала, і зайшлі мы да цябе не проста так.

Ён змоўк. Рабцэвіч і зусім слова не сказаў, як у хату зайшоў. Дык яна і не цяміла, што да чаго. Усміхнулася:

— Ладна, дзядзька, зайшлі дык зайшлі. Не аб'ясце мяне, калі во гэтую цыбуліну схрабушчыце.

— Не, ты, дзеўка, чакай. Зайшлі мы не так сабе. Рабцэвіч во інтэрас да цябе мае. Ну, адным словам, сватаць мы цябе прыйшлі, Тацяна.

Яна не прыняла таго ўсур'ёз, зноў усміхнулася:

— А хай вас, дзядзька Юлісь! Захацелі чарку ўзяць, дык і бярыце. Ці ж я праганяю?

Качан адставіў чарку, закруціў галавой:

— Дык жа не проста выпіць, Тацяна! Кажу ж — чалавек інтэрас да цябе мае!

— Хопіць, дзядзька, прыдурвацца! Піце ўжо! — сказала яна і сама кульнула ў рот сваю кроплю.

Качан ніякавата змоўк, зірнуў на Рабцэвіча, крактануў:

— Ну, то калі так... Бяры, вып'ем і мы. За цябе, дзеўка!

Яны выпілі, узяліся за сала. Маўчалі. Рабцэвіч, як вады ў рот набраўшы, так і не падаў голасу. І яна здагадалася, што Качан не прыдурваецца. Гэта ж яны і праўда прыйшлі ў сваты! Таму і бутэльку з сабой прынеслі. У сваты з пустымі рукамі не ідуць. Яна не збянтэжылася і не спалохалася, наадварот — зрабілася чамусьці весела. У яе і думкі не было пра тое. Як Алёшка знайшоўся, дык усярэдзіне бы што завязалася. Нікога і нічога ёй не трэба. Ей і з Алёшкам добра. Каб і найлепшы чалавек надарыўся, дык і то наўрад, а то, дай рады, Рабцэвіч, плашчык руды...

Спрабаваў Качан яшчэ нешта мармытаць у вусы, ды яна абарвала яго:

— Кіньце, дзядзька! Дурасць усё гэта!

Яны пасядзелі троху, моўчкі і поспешкам дапілі тое, што аставалася ў бутэльцы, гэтак жа моўчкі і паспешліва апрануліся і выйшлі з хаты.

Больш ці ўспамінала б Таццяна пра тое, каб Качан не напомніў. Ехала яна неяк снапы вазіць з Храпавіцы, і падсеў да яе ў калёсы Качан. Спачатку так пра нешта гаварыў, а потым і сказаў:

— Ты, дзеўка, падумала тады: здзяцініўся Юлісь. А тут дзела такое... Ён жа і праўда цябе ўпадабаў. Вушы мне пратрубіў: пасватай ды пасватай. Казаў: толькі праз цябе адну і наязджаў так часта ў Жылічы. А яшчэ табе скажу, мо і дарма ты заўпарцілася. Ён, вядома, не надта каб з выгляду, але ж чалавек неблагі. І ў трактарах разбіраецца...

Яна толькі і сказала:

— А мне што да таго?

Качан мармытнуў:

— Табе, вядома, відней.

І больш нічога не сказаў. Усю дарогу маўчаў, хоць і ехалі яны доўга, праз увесь Ліпнік, ажно пад Замошша...

Не думала яна ні пра якое замуства. Ні тады, калі наязджаў у іхнія Жылічы Рабцэвіч, ні пасля. І ў галаве таго не было ніколі. Толькі аднойчы нешта быццам варухнулася ў яе ўнутры. Гэта калі прыслалі ў Жылічы новага дырэктара школы — на месца Трухана-Квочкі, бо той усё хварэў. Прыехаў Рыгор Пятровіч не адзін, а з жонкай і дачушкай. Таццяна не надта і думала пра таго дырэктара новага, бо Алёшка і ў школу не хадзіў. Але ж, кажуць, добрага чалавечка відно і ў запечку. Пэўна, і праўда добры чалавек быў, бо людзі неяк адразу пра яго загаварылі. Надта ж культурны, абыходлівы быў, не праміне, каб «дзень добры» не даць. А яшчэ — працавіты і гаспадарлівы. У школе днямі навылёт прападаў. І дарма, што настаўнік і дырэктар, а ніякай работы не цураўся. Гэта ж тады, пры ім якраз, школу пачалі ставіць, на старым месцы, дзе і да вайны была, дык ён і на зрубе сядзеў з сякерай, і кроквы абрашочваў, і гліну на грубкі замешваў. Такі ўжо просты чалавек быў. Колькі і парабіў у іх, а ўсе людзі ўпадабалі і надта ж шкадавалі, калі ён з'ехаў раптоўна. Праз жонку з'ехаў. Пра тое, што Рыгор Пятровіч кепска жыве з жонкай, ведала ўсё сяло. Дырэктарка не толькі ў хаце з ім грызлася, але і на вуліцы.

Яна, Таццяна, думала пра Рыгора Пятровіча часам.

Але ж «думала» — дык мо і не тое слова. Шкадавала яна яго. Па-бабску шкадавала. Бачыла, што недагледжаны ён пры сваёй Лідачцы — яе ж усё Лідачкай звалі ў Жылічах, жонку яго звяглівую, а пра большае, пэўна ж, і думкі не было, хоць і ніякавата пачувала сябе, калі страчалася з ім на вуліцы. Ды дарма, мусіць. Яго ж усе бабы ў сяле шкадавалі, не адна яна...

У одуме тым не прыкмеціла, як і сонца апусцілася. Яна сама мо і не спахапілася б, але бабы гукнулі:

— Ты што, заначаваць тут хочаш?

Яна паднялася. Бабы ішлі ўжо дарогаю да сяла. Яна таксама гукнула, бо была далекавата, недзе на сярэдзіне загона:

— Ідзіце ўжо, не чакайце! Даб'ю, што пачала!

Жанчыны пасунуліся дарогаю ў лагчынку, пад Юркава балотца. Яна пастаяла, паглядзела на дарогу — не туды, дзе да яе падступала тое Юркава балотца, а правей, на пагорак, дзе дарога выбягала з Барка. Падумала: мо раптам Алёшка з таго Барка пакажацца? Доўга глядзела, ажно ў вачах пачалася мітульга. Сонца, што ўжо збіралася пакрысе садзіцца, усё яшчэ зырка свяціла ў твар. Мо праз тое гэтая мітульга? Глядзела і гадала, ці гэта куст там пры дарозе, ці мо і праўда хто ідзе? Урэшце ўспомніла, што там жа напраўду куст стаіць — ля струхлелага бярозавага пня. Выцерла вочы тыльным — чыстым — бокам далоні і зноўку ўзялася за матычку.

Яна хуценька дапалола канчуры, вырвала ў прыдарожным адхоне касмыль травы, выцерла рукі і матычку. Хацела ўжо ісці ў сяло, але, як хто падштурхнуў яе, азірнулася назад. Азірнулася і замерла: з Барка ішлі людзі. Трое. Пэўна ж, ад аўтобуса. Недзе такой парой якраз і прыходзіць. Здалёк не магла пазнаць тых, што спускаліся з пагорка. Адно бачыла: хлопец і дзве дзеўкі. Не дужа і верыла ў тое, што Алёшка будзе ехаць на аўтобусе. Калі наважыцца прыехаць, дык, пэўна, на матацыкле прыскочыць,— але ўсё ж не спяшалася скрануцца з месца, стаяла і пазірала: а раптам?

Калі тыя падышлі бліжэй, угледзела: ішоў Шулячышын Мішка і дзве дзяўчыны. Пэўна, з Арэхаўкі, а мо і далейшыя. Счакала, пакуль яны падышлі зусім блізка: неяк няёмка было пайсці — чакала-чакала, а цяпер уцякае.

Мішка падышоў, паздароўкаўся:

— Здарова, цётка!

Яна сказала:

— А я падумала: ці не Алёшка мой?

— Не, Алёшка не ехаў. І на станцыі яго не бачыў,— гаварыў Мішка.

Пайшла разам. Ішла і гаварыла да Мішкі:

— Дык я і верыла, і не верыла. Ён жа, пэўна, на матацыкле прыедзе. Але ж, думаю, раптам? От пастаяла і пачакала. А ты, Міша, чаму адзін?

— Сёння цяжка з дзецьмі ехаць, цётка. Сам ледзь упліснуўся — столькі людзей. Як селядцоў у бочцы!

— Мы ж на падножцы ўсю дарогу віселі,— азвалася і адна з дзяўчат.

— Ведама, усе едуць на выхадныя. Буднім жа днём лягчэй. Рыта во наша ў сераду прыехала, дык, казала, саўсім пусты ішоў.

— А чаго яна ў сераду прыехала?

— А водпуск у яе.

— А не разам з Алёшкам?

— Нешта яму не далі.

— Вялікім начальнікам зрабіўся, што без яго не абыліся,— сказаў Мішка.

Яна адчувала, што Шулячышын хлопец пацвельваецца, але сказала памяркоўна:

— Хто ж іх там ведае, чаму так.

Мішка, памаўчаўшы, прамовіў таксама іншым тонам:

— Нешта нейкае, калі разам водпуску не далі. Так жа заўсёды разам даюць, калі нават і не ў адным месцы робяць.

— Я ж і кажу...

Ля самага сяла іх напаткаў Пётра — ішоў насустрач. Спытаў у яе:

— Кончылі там?

— Дзе ты бачыў! — Таццяна прыпынілася.— Мо палавіну.

— А чаго? Колькі там тых радкоў?

— А даўжыня якая? Ажно да раўка Якубавага!

— Ну, то тады і заўтра туды ж. Толькі каб кончылі ўжо.

— Заўтра даб'ём.

Мішка з арэхаўскімі дзеўкамі падыходзіў ужо — бачыла — пад сваю хату, а яна ўсё стаяла з Пётрам. Чаго там і стаяць было, але ж — спытаўся неўспадзеўкі:

— А што ты нейкая, бы мокрая курыца?

Яна ўсміхнулася:

— Што табе здалося?

— Не здалося, бачу.

Яна зноў усміхнулася:

— А не, Пётра. Нешта нездаровіцца.

Ён паглядзеў на яе, паківаў галавой, сказаў:

— Ну, ладна, схаджу на поле.

Яна таксама пайшла. І толькі цяпер схамянулася, што не спытала ў Мішкі пра Маньку: мо бачыў яе? Ды тут жа падумала: наўрад! Тая так рана не ўправіцца, хаця б на апошні аўтобус паспела.

Цераз вуліцу з гумна несла посцілку сена Вера-фельчарка. Летась прыслалі дзеўку ў Жылічы. Ужо ці не чацвёртую? Нешта не трымаюцца гэтыя фельчаркі на іхнім медпункце. Замуж выскокваюць. І хоць за сваіх, жылічкіх, хлопцаў, а з сяла з'язджаюць, бо тыя хлопцы — хто ў Мінску, а хто яшчэ дзе. Прыедзе каторы, на вечарынку раз-другі сходзіць — от і фельчаркі няма. І гэтая таксама хуткая. Летась прыслалі, і летась жа замуж выскачыла. За Толю Кастусёвага. Кастусь дык і не хацеў, каб сын жаніўся. Казалі, што і адлупцаваў кавалера. Але ж — ажаніўся. Пры медпункце перавязачная была, дык там пачалі жыць. Усю зіму там і праседзелі. А нядаўна Толю ў армію ўзялі, дык Кастусь, хоць і муляўся, а ўзяў нявестку да сябе. А дзеўка і не шманае, ганарліва ходзіць. Кажуць жа, загрубела. А мо і няпраўда, калі во посцілкі з сенам цягае?

Падумала: з поўным перайшла, прыедзе-такі Алёшка...

Прыехаў ён пазнавата. Яна ўжо і гаспадарку дагледзела, і на пару з Рытай падворак падмяла. Рыта падбівала і вуліцу падмесці, але яна запярэчыла: сёння падмяцеш, а заўтра і следу таго няма. Дык яны адно каля лаўкі, што пры гародчыку, і каля варотцаў пашкрэблі дзеркачом. І ўнучка памагала, са сваім вядзерцам і грабелькамі круцілася каля іх.

Пасля пайшлі ў хату. Рыта тэлевізар уключыла — кіно нейкае пачыналася. Яна таксама прысела на хвіліну — вось-вось павінна была прыйсці з поля Падласка. Праз тое кіно і не пачула, як затарахцеў і змоўк ля варотцаў матацыкл. Падхапілася, калі пачула, што клямка бразнула ў сенцах. Выйшла ў першую хату, ажно — Алёшка на парозе. У куртачцы балоневай, у шапцы-гаршку на галаве. Весела сказаў:

— Здарова, маці!

— Здароў, сынок! — адказала і замітусілася: паправіла абрус на стале, змахнула анучай-адстаўніцай услон і табурэтку.

Алёшка, распранаючыся, здзіраючы з галавы той гаршчок, казаў:

— Ледзь даехаў. Спачатку падача запартачыла, а пасля счапленне паляцела, дык загараў на дарозе. Во калі прыехаў, хоць і выехаў...

І замоўк на паўслове, бо з другой хаты выйшла Рыта. Вырачыўся на яе, у твары змяніўся. Не так са злосцю, як са здзіўленнем — гэтак падалося Таццяне,— сказаў:

— А ты чаго прыпёрлася?!

Таццяна, трымаючы ў руках анучу, якой выцірала табурэтку, быццам не ведаючы, куды яе прыткнуць, крыкнула:

— Алёшка!

Рыта крутнулася на парозе і шмыганула назад, прычыніўшы за сабою дзверы.

— Не крычы, сынок! А куды яшчэ было ёй ехаць?

Сказала спакойна, спадзеючыся, што і ён астыне, апамятаецца. Ён і праўда быццам збянтэжыўся. Адно прабурчаў:

— Куды хоча...

На вуліцы зарыкалі каровы, і Таццяна абрадавалася таму. Кінулася за перагародку, узяла даёнку. Ідучы праз хату да дзвярэй, сказала нібы сама сабе:

— Пайду ж падаю.

Саскочыла па звычцы з ганка і ледзь не напаролася на матацыкл — Алёшка, як заўсёды, паставіў яго ля сяней. Заўсёды памятала, як прыязджаў, што тут ён ставіць свайго каня на начлег, а сёння забылася.

Падласка была ўжо ў хляве. Крутнулася галавой да яе, пацягнулася пысаю да рук і, не знайшоўшы нічога, незадаволена матлянула рагамі.

— Я табе махну, ненажэра! Абыдзешся! Павярніся, бо стала, што не падступіцца.

Прысеўшы ўрэшце пры боку, злаcнавата тузанула за цыцкі, ад чаго Падласка зноўку здзіўлена азірнулася на яе.

Нечакана ўгледзела ў дзвярах Алёшку. Падышоў, пачапіўся рукамі за вушакі, сам падаўся галавой і грудзямі да яе, у хлеў. Павісеў так моўчкі, потым ціха сказаў:

— Дык што, мама?

Яна не адразу азвалася. Нешта злоснае хацела сарвац-

ца з языка, яшчэ перад тым, як ён загаварыў, але цяпер тое слова захліпнулася — даўно Алёшка не пытаўся ў яе нічога вось так, сцішана і быццам вінавата. Яна апусціла галаву, паклала рукі на калені. Седзячы, як і сядзела, на дыбачках, прагаварыла:

— Гэта я павінна спытацца ў цябе: што, сынок?

Ён маўчаў. Адштурхнуўшыся ад вушакоў, паківаўся, потым сеў ля парога на перавернуты, з дзіркай у дне, чыгун. Яна чакала, што ён нешта скажа, але Алёшка маўчаў, і таму зноў спытала:

— Дык што, сынок?

Ён павярнуў да яе галаву — гэта яна адчула, хоць і не глядзела ў яго бок,— і сказаў:

— Я ж і прыехаў, каб сказаць. А ты, аказваецца, усё ведаеш.

Яна здрыганулася, бо ён сказаў тое ці то з крыўдаю, ці то з папрокам, і яшчэ болей панікла, ніжэй апусціла галаву. Сцяўшыся, прамовіла як мага спакайней:

— Я, сынок, нічога не ведаю. Адкуль жа мне ведаць?

Ён як спахапіўся:

— А што, яна не сказала?

— Хто — яна?

Ён сплюнуў:

— Ну, чаго ты прыкідваешся?

І зразумела яна, канчаткова паверыла, што Рыта сказала праўду: скруціўся яе Алёшка. Да гэтай хвіліны верыла і не верыла, усё яшчэ на нешта спадзявалася. Думала: мо пасварыліся, пагыркаліся па-пустому, ці мала што бывае, жывучы разам, а Рыта па-бабску ўзяла тое да галавы і тую пярэстарку прыдумала і машыну. Ажно ж — праўда! Як цяпер і пра што гаварыць з ім? Ушчуваць, сварыцца? Хіба паможаш?

Млелі, дзеравянелі ногі. Адчувала, што калі яшчэ пасядзіць так нерухома, дык не падымецца, пройме ногі курч. Яна направіла між каленяў даёнку і хуценька, быццам шукаючы паратунку, затузала за цыцкі. Асабліва чыста не выдойвала, паднялася. Курч усё-такі пайшоў па нагах — ад костачак да каленяў па лытках, і яна, як п'яная, ледзь пераступіла цераз парожак і ў нясцерпе апусцілася на яго, выцягнуўшы перад сабой ногі.

— Што, ногі самлелі? — спытаў Алёшка.— Зэдлічак брала б ці калодачку якую.

Яна прамаўчала. Нейкая абыякавасць раптам завалодала ёю.

— Ты, мама, пасядзі, не спяшайся...— пачаў Алёшка.

Але яна перапыніла яго:

— Рыта здагадаецца.

— Хай здагадаецца! Падумаеш, прынцэса!.. Не атрымалася ў нас з ёй. Памыліўся я. Дурань быў, паспяшаўся,— ён закурыў.

Сонца села ўжо. Над могілкамі, дзе яно закацілася, асталася толькі жоўтая палоска, на дварэ ўжо добра-такі пашарэла, і вочы Алёшкавы губляліся пад насупленымі бровамі. Яна спрабавала ўгледзець іх, але марна: ён быццам хаваў іх ад яе. І тады яна перастала глядзець на яго, пазірала прама перад сабой, на агрэставы куст за парканам, угадваючы ў густым, амаль чорным лісці светлаватыя, ужо буйныя ягады.

Голас Алёшкаў быў глухі, яго словы даплывалі да яе як здалёк, яны зрываліся з вуснаў неяк сутаргава, бы чапляліся за язык.

— І не кажы мне, мама, пра любоў. Не маленькі. Усе яны любяць гуляць у любоў, пакуль дзяцей няма... Ты век тут свой зжываеш, нічога іншага не бачыла. Усё жыццё рабіла, адно каб галоднай не быць. Дык што, і мне вахлаком быць? Не, мама, хопіць! Сёе-тое зразумеў... Ды што я табе буду расказваць? Яна ж во паспела расказаць. Яна ж табе і пра машыну паспела наплявузгаць, і пра ўсё іншае... Тады дурнем быў, цябе не паслухаў, у дзевяты не пайшоў. Дык яна ні разу і не напомніла. А Нэлка, мама, адразу сказала, каб восенню ў школу ішоў. Яна інжынерам робіць, завочна інстытут канчае. Праз яе толькі і пабачыў, як людзі жывуць. Нэлка, яна... І не слухай, што старэйшая там, ці што. Цесць правільна сказаў: старэйшая, дык разумнейшая, мужыка пільнавацца будзе... Я, мама, не так сабе. Зразумеў, што жыцця не будзе. Я ж табе не казаў раней. Яна ж мне, ведаеш, што сказала, Рыта твая? «Да трыццаці будзе ў мяне чацвёра дзетак...» Харошая перспектыва! Інкубатарка!.. Прыперлася во, а чаго, каб хто спытаў? Людзям на пасмешышча... Я ад яе нічога не патрабую. Чарга падыдзе, атрымае кватэру і хай жыве.

Яна не перабівала. Сядзела здранцвелая і слухала. А калі ён змоўк, спытала:

— А Алачка?

Ён павярнуўся да яе, перапытаў:

— Што — Алачка?

— Як жа яна будзе... без бацькі?

Ён сказаў спакойна, нават абыякава:

— Цяпер шмат такіх, што без бацькі. Падумаеш!

І гэта быццам апякло яе. Горла сцялася, і яна сказала як не сваім голасам:

— Апомніся, сынок! Ты ж бацька!

Ён зноўку паглядзеў на яе і, шпурнуўшы за паркан пагаслую цыгарэту, выцяў яе яшчэ больш балюча:

— Кінь! А ты? Дзе мой бацька?!

Яна паднялася і паплялася ў хату. Ішла, а ногі не трымалі яе. Хацелася пакаціцца вось тут, на падворку, у гэты шэры, ахаладзелы ўжо пясок і загаласіць.

Але яна стрывала. Зайшла ў хату, машынальна працадзіла малако. Паткнулася была на другую палавіну, нават адчыніла дзверы, ды ўбачыла — Рыта, спінаю да яе, сядзела з Алачкай на каленях на крэсле, плечы яе ўздрыгвалі. Тацяна ціхенька зачыніла дзверы, вярнулася да стала, апусцілася на ўслон і зноў, як там, на парозе, здранцвела.

Ён зайшоў у хату не скора. А мо ёй падалося, што яго доўга не было? Зайшоў, пастаяў ля дзвярэй, потым пайшоў за перагародку, спаласнуў рукі — яна чула, як зацурчала ў бляшанку вада. Калі ён выйшаў на хату, выціраючы насоўкай рукі, яна падняла галаву, зірнула на яго. Ён усміхнуўся неяк крыва і прамовіў:

— Дык што, вячэраць будзем?

Яна сказала ціха:

— Едзь, сынок... Туды, адкуль прыехаў...

Было, пэўна, у яе голасе нешта такое, што змусіла яго здрыгануцца. Яна ўжо не глядзела на яго і не бачыла, але ведала: ён таропка ўскінуў на яе вочы і, мусіць, доўга і няўцямна глядзеў на яе. Але яна не падняла вачэй.

І тады ён, як падкінуты спружынай, сарваўся з месца, кінуўся быў да дзвярэй, ужо і клямкай бразнуў, але спыніўся, матлянуўся да сцяны, дзе віселі яго куртачка і шапка-гаршчок. Ухапіў іх і зноўку кінуўся да парога, штурхануў дзверы. Яны расчыніліся шырока, на ўвесь праём, ён выпусціў клямку з рук, кульнуўшыся без агляду з ганка ў прыцемак двара. Дзверы так і асталіся расчыненыя.

Яна не паварухнулася, каб зачыніць іх. Сядзела і слухала, як шаргануў ён рулём па сенечных дошках, як штурхаў нагою варотцы, выцягваючы матацыкл на вуліцу, як пасля некалькі разоў ірваў-тузаў педаль, заводзя-

чы матацыкл, і як, урэшце, матор завёўся, заверашчаў прарэзліва і злосна.

Яна не паварухнулася, хоць тое тарахценне азвалася ў грудзях пякучым болем. Але, дзіўна, той заўсёдны страх чамусьці прапаў. Недзе падсвядома раптоўна асела ў галаве думка: быць таго не можа, каб не вярнуўся Алёшка, каб не апомніўся рана ці позна...

Сядзела датуль, пакуль трэск матацыкла, глухнучы з кожнай хвілінай, зусім не прапаў у цішы начы.

Тады яна паднялася, выйшла на вуліцу, зашчапіла варотцы, якія ён таксама забыўся ці не схацеў узяць на кручок, зачыніла дзверы ў сенцы і ў хату. Патупаўшы троху ля стала, спакваля, быццам зусім спакойна, разгарнула абрус, дастала відэльцы, сподкі, кубкі, нарэзала хлеба, прынесла з кладоўкі міску, прыкрытую талеркай,— у місцы былі масла і сыр.

Потым, счакаўшы хвіліну, адчыніла дзверы на чыстую палавіну і, усунуўшы туды галаву, паклікала:

— Ідзіце, дзеткі, вячэраць!

# ПУД ЖЫТА

## 1

Нейк няёмка і прызнавацца, аднак жа вось...

Нечакана надта ж моцна захацелася мне з'есці міску — не талерку, а менавіта міску — гарачай, з полымя зацiркі.

Сядзеў, правяраў вучнёўскія сачыненні, ні аб чым такім, здаецца, не думаў, і знячэўку, зусім неспадзявана, без дай, як кажуць, прычыны заплыло ў душу штосьці адтуль, з далёкага ўжо, прыхаванага смугою гадоў маленства — нешта няпэўнае, неасязальнае, што не згледзець і не ўлавіць, не то неўсвядомленая згадка аб чымсьці, не то слова, што не паспела сказацца,— ды толькі ўсё адно варухнулася і затрымцела ва мне ўнутры нейкая патаемная жылка, і раптоўна абрынулася на мяне цёплая хваля салодкай і лёгкай млявасці.

І тады нечакана захацелася тае самае зацiркі.

Захацелася так, як захочацца, бывае, дзіцяці цацкі, якой няма — дай, і ўсё тут, вось цяпер, неадкладна, у гэтую ж хвіліну, бо іначай — зойдзецца плачам, кінецца вобзем, заб'ецца ў несуцешным горы.

Так і я — не стрываў. Падняўся, пайшоў да жонкі ў другі пакой, у прыцемку якога трапяталіся-мільгацелі па сцяне, па шкле серванта блакітныя водбліскі тэлеэкрана, ціха папрасіў:

— Не палянуйся, звары мне зацірку.

Але і жонкі, на жаль, не заўсёды разумеюць нас.

— Не дзяцінься! Не выдумляй абы-чаго, Ваня! — пачуў я ад сваёй Любы Андрэеўны.

Вось так. Ласкава, з любоўю, нават пяшчотна сказала, але — адчапіся, не дзяцінься! Хіба ж не крыўдна?

На экране разблытвалі чарговую, ці не дванаццатую ўжо, крымінальную справу абаяльныя і надта ж удачлівы Знатакі, і, мусіць, мне сапраўды ніяк нельга было патыкацца сюды з зацiркай. Я моўчкі пастаяў і гэтак жа моўчкі пайшоў на кухню і заняўся зацiркай сам. І зварыў, і забяліў малаком, і наліў не ў талеркі, а ў паліваныя гліняныя місачкі, і гукнуў за стол сыноў, і мы ўтрох, заўзята шкрэбаючы па дне лыжкамі, цягаючы адтуль гушчу, з апетытам сёрбалі маё немудрагелістае варыва.

Не вытрывала, прыйшла ў кухню жонка, пастаяла над намі хвіліну, пасміхнулася з мяне і сыноў:

— Ото ўжо смакату бацька зварыў!.. А яшчэ кажуць — не па бацьку пайшлі! Кропелькі пабралі! Нават зацірку, аказваецца, любяць...

Мы ганарліва (а я — найбольш!) прамаўчалі, і яна, ужо ледзьве не пакрыўджаная, вярнулася да Знатакоў.

А я ўжо не крыўдаваў. Я ўжо разумеў яе. З другога краю жонка, не так балюча кранула іхні куток вайна. Ды і маладзейшая яна, мая Люба. І ўжо зусім не тая ў яе эмацыянальная памяць. На нейкіх пяць-шэсць гадоў пазней прыпала яе дзяцінства, а розніца — уга якая!

У маёй памяці жыве зацірка. Жыве не толькі ўсемагутнай карміцелькай, а і ласункам — бо не заўсёды была на стале і яна. А жонка памятае ўжо зусім нешта іншае: зярністае і хрумсткае ад крышталікаў лёду, крыху жаўтлявае марожанае ў вялізнай драўлянай бочцы.

Вёсачка, дзе нарадзілася і гадавалася жонка, была за нейкае паўвярсты ад гарадка. І для маёй — не, яшчэ не для маёй, а для малой Любы найбольшай радасцю было выпрасіць у маці колькі капеек і атрымаць з рук сухарлявай і зласнаватай цёткі ў брудна-белым халаце лыжку-другую халоднай — ажно зводзіла зубы! — і салодкай кашкі. Яна, мая Люба, і цяпер любіць марожанае. Як дзіця. Сыны гэта ведаюць і знарок падбіваюць яе пры выпадку купіць вафельны брыкецік, а пасля дружна адмовяцца і будуць хітравата назіраць за тым, як маці іхняя з асалодаю з'есць той брыкецік сама.

Зацірка ў параўнанні з марожаным, можа, і глупства, ды толькі я ў тым не перакананы. У мяне была — зацірка! І гэтым усё сказана. Яна — безадмоўная і жаданая ратавальніца. І хай сабе жонка іранізуе, хай кпінкуе, хай гаворыць што хоча, а я вось і зараз ем зацірку, і ядуць яе мае сыны, і нам смачна, і нам хораша...

Пасля вячэры вярнуўся я да стала, зноў унурыўся ў сшыткі, але засяродзіцца ўжо не мог. Нешта як замінала мне, неадступна лезла ў голаў, і я з прыкрасцю пачаў заўважаць, што прапускаю памылкі.

А тут яшчэ заверашчаў тэлефон. Я званка не чакаў. Гэта, няйначай, некаму з сяброкоў спатрэбіўся мой старэйшы — Аляксей, яму з некаторага часу звоняць куды часцей, чым мне ці жонцы. Званок праззвінеў раз, другі. Чаму ж Аляксей не ідзе? Чаму і Люба як не чуе — даўся ёй у знакі гэты тэлевізар?! Я ж не хацеў падымацца з-за стала — пасля зноў шукай вачамі недачытаны абзац ці радок — і пачынаў злавацца.

— Ваня, вазьмі трубку, гэта табе! — урэшце гукнула, так і не адарваўшыся ад тэлевізара, жонка.

Ну што ты на гэта скажаш!

Я таропка выйшаў у прыхожую, схапіў трубку.

— Слухаю вас!

— Гэта кварціра Кузьміцкіх?

— Але.

— Дык, можа, гэта Ваня? — Голас у трубцы надрываўся і выдаваў чалавека, які не дужа часта карыстаецца тэлефонам.

Ваня? Чаму — Ваня? Ужо даўно мяне ніхто, акрамя жонкі і сястры, так не заве. Ды, бадай, адна толькі жонка, бо Зоя, сястра, часцей кажа да мяне, як і даўней, Яська. Як усё адно збянтэжыўшыся, я няпэўна мармытнуў:

— Можа, і Ваня. Хто гэта пытае?

— Прывет, Ваня! — гукнула трубка.

— Добры вечар,— адказаў я.

— Прывет, друг, прывет! Нарэшце я знайшоў цябе... А то...

Я перапыніў крыху раздражнёна:

— Даруйце, хто гэта гаворыць? Вы не памыліліся нумарам? Які Ваня вам патрэбен?

Чалавек на другім канцы дроту зарагатаў:

— Не, не абмыліўся, друг! Я цябе адразу пазнаў! А ты не пазнаеш?

— Выбачайце, не пазнаю,— адказаў я. І дадаў: — Мо вы ўсё ж...

— Эх ты, Пісар!

Пачуўшы сваю даўнюю, ужо начыста забытую хлапечую мянушку, я ўжо, мусіць, не толькі збянтэжыўся, але і разгубіўся. Вольнай рукой пацягнуўся да крэсла, падсунуў яго бліжэй і сеў. Што гэта азначае? Хто звоніць? Няўжо... Калюня?

— Гэта... Мікола? — няўпэўнена спытаў я. І не стрымаўся, паўтарыў уголас: — Калюня?

Паўтарыў і ледзь не аблаяў сябе за тое, што і ў мяне сарвалася з языка гэтае колішняе імя былога сябрука, таварыша дзяцінства, і ліхаманкава прыкідваў, як яго называць цяпер — ці проста Міколам, як азваўся ўжо, ці Мікалаем Паўлавічам. Апошняе не надта прасілася на язык, бо за многія гады работы ў школе гэтае імя — Мікалай Паўлавіч — надзейна замацавалася ў маёй свядомасці за іншым чалавекам, за нашым старэнькім, лагод-

ным завучам, і перайначыцца вось так нечакана, раптам я, адчуваў, не змагу.

Але Калюня — гэта быў сапраўды ён — не пакрыўдзіўся, зноў голасна зарагатаў:

— Апазнаў-такі! Ай, Пісар! Ай, брат-манах! Гэта ж колькі гадоў мы не бачыліся?

— Ды гадоў дваццаць, пэўна,— адказаў я ўжо без ранейшае скаванасці.— А я слухаю і думаю: мо хто пад мухай нейкага свайго Ваню шукае...

— Не, друг, я адразу на цябе выйшаў,— смяяўся Калюня.— Ну, як жывеш? Га?

Я пацiснуў плячамі:

— Як усе — пакрысе.

Калюня хмыкнуў, ажно трэснула нешта ў трубцы, закрычаў:

— Знаю, знаю, не прыбядняйся! Універсітэт скончыў, чуў... Дзірэктарам даўно?

Я ўсміхнуўся:

— Скуль ты ўзяў? Проста настаўнічаю.— І спытаў: — А сам як? Дзе зараз?

— А ў Мінску, друг! Трэці год ужо. Даўно хацеў цябе знайсці, ды ўсё, як той казаў... А заўчора мне тэлефончык паставілі, дык вот і званю. Табе першаму, можна сказаць...

— Назусім у Мінск перабраўся?

— Ну дык няўжо ж! Гавару ж — тэлефончык паставілі! Толькі заўчора...

— А дзе што робіш? — пацікавіўся я.

Калюня зноў хмыкнуў у трубку:

— Куды пашлюць, друг! — Пасля дадаў: — У сістэме эсбэ!

— Дзе, дзе? — не зразумеў я.

— У бытоўцы, як у нас кажуць,— Калюня рагатнуў.— У службе быту, Ваня. Заўскладам у атэлье індпашыву...

Дай тут веры, як мая маці калісьці казала,— пазваніў Калюня! Ад каго-каго, а ад яго я званка не чакаў. Якога званка, калі нават пісьма ці паштоўкі ад яго ніколі не атрымліваў!

Даўно разышліся нашы з Калюнем дарогі — яшчэ пасля сёмага класа. Я пайшоў вучыцца ў тэхнікум, а Калюня застаўся ў вёсцы. Гады са два ён аціраўся дома, троху робячы ў калгасе, падмяняючы бацьку ці маці, а пасля завербаваўся і з'ехаў ці то ў Караганду, ці то на

Алтай. Недзе адтуль пайшоў Калюня ў армію і недзе там застаўся пасля арміі.

Пакуль жыла маці, я досыць часта наведваўся ў родную Альхоўку, але былых сябрукоў сустракаў там рэдка — калі хто і з іх завітваў да бацькоў ці да сваякоў, ведаў пра іх збольшага адно з вуснаў маці. Калюні ж, здаецца, ні разу не сустракаў у Альхоўцы і ведаў пра яго ці не найменш. Чуў, што быццам ён пасля арміі быў недзе на Поўначы ці ў Сібіры, а потым нібыта махнуў на другі канец краіны — на Поўдзень, да Чорнага мора, нібыта дом там паставіў... Нечага больш пэўнага пра яго ніхто не мог сказаць — бацька яго, дзядзька Паўлюк, памёр ад сэрца яшчэ гадоў дзесяць па вайне, а гадоў пяцьшэсць назад памерла і маці, цётка Марыля...

І вось нечакана ён пазваніў сам. Малайчына! Як-ніяк, разам пасвіліся-гадаваліся, нават — было! — елі з адной міскі і спалі пад адной коўдрай. Колькі гадоў мінулася, а — не забыўся, пазваніў!

— Дык як жывеш, братка? Сям'я ёсць? — спытаў я.

— Мінімальная,— весела адгукнуўся Калюня.— Нас двое і дачка. Бракадзел, друг! Сына не сумеў...

— А ў мяне — два сыны! — пахваліўся я.

— Знаю! Зойку вашу ўчора бачыў, гаварыла пра тваіх малайцоў... Нада бы сустрэцца, Ваня, пасядзець, пагаварыць. Як на гэта глядзіш?

— Абавязкова, браце! — адказаў я.— Заходзь у любы час. Вечарам я заўсёды дома. Вечарам мы ўсе дома — і жонка і хлопцы. Заходзь, буду рады!

— Дык я, Ваня, заўтра, можа? У гадзінак сем? Га? Дамовіліся? Пабалакаем, успомнім Альхоўку... Даўно там быў? — спытаў ён.

— Ды даўнавата ўжо,— прызнаўся.— А сам?

— Мне ж, друг, няма чаго ездзіць туды,— адказаў Калюня.— Бацька твой, ведаю, даўно памёр. А як маці, цётка Паўліна? Ой, даруй, Ваня, зусім забыўся! Зойка ж казала... Так, друг, асірацелі мы з табой... Ну, ладна, будзь здароў! Заўтра ўбачымся!

— Чакай, брат! Адрас жа запішы,— заспяшаўся я.

Калюня ціхенька засмяяўся:

— Не хвалюйся. Ведаю я твой адрас. Зойка сказала.

— Ну, тады — будзь! Будзь здароў, Калюня! — сказаў я.

— Будзь і ты, Пісар! — адказаў ён тым жа.

Я паклаў трубку, але падымацца з крэсла не спяшаўся. Сядзеў у паўзмроку прыхожай, курыў і думаў пра Ка-

люню, пра сябе, пра нашу Альхоўку, пра даўні і такі, здаецца, блізкі час, калі мы былі такімі, як цяпер мой меншы — Сяргейка, дзесяцігадовымі...

Разблыталі сваю справу Знатакі, нешта і яшчэ пагля-дзела, пэўна, жонка, урэшце паднялася з тахты, выйшла ў прыхожую. Угледзеўшы мяне, здзіўлена спытала:

— Чаго ты тут сядзіш? Хто гэта званіў? Я чула кра-ем вуха — у госці некага запрашаў?

— Званіў сябра дзяцінства. Дваццаць гадоў не бачы-ліся, і вось — пазваніў,— адказаў я.

— І ты яго ў госці паклікаў?

— А як жа! Калюня гэта! — сказаў я.

— Што яшчэ за Калюня такі? — перапытала Люба.

— Хлопец з нашай Альхоўкі. Разам у вайну гулялі, на санках разам коўзаліся, разам зацірку елі...

— А-а-а, дык таму і заціркі табе сёння захацелася... Тэлепатыя,— засмяялася жонка.

— А што ты думаеш! — падтрымаў я.— Усё можа быць. Якраз тады, калі я тоўкся на кухні, ён, напэўна, і думаў пра тое, каб пазваніць мне.

— Дык заўтра ўжо і прыпрэцца?

Жонка, ведаў,назлялася знарок, але я ўсё ж змор-шчыўся:

— Ну навошта ж так! Не прыпрэцца, а — зайсці абя-цаў!

— Во, ужо і надзьмуўся! Добра, добра, хай прыхо-дзіць твой Калюня... Гэта што — Мікола, Коля, так?.. Хай прыходзіць. Прыму па першаму разраду. Ствару ўмовы, каб вы пасядзелі, пагаварылі, дзяцінства ўспомнілі... Як чуні насілі, як шайморы збіралі, як адзін аднаму насы расквашвалі...

— Усё — было! І першае, і другое, і трэцяе! Усё бы-ло, Любачка! — паківаў я галавою.

— Не называй мяне Любачкай! Прыводзь свайго Ка-люню, а Любачкай не называй! — жонка дала мне ў спі-ну грымяка.

У іхняй вёсцы была калісь прыдуркаватая жанчына, і звалі яе Любачкай, і вось да гэтай пары мая Люба не можа забыцца на тую Любачку і злуецца, калі яе хто-не-будзь так называе.

— Не буду, не буду, не буду,— узмаліўся я.— А пра Калюню я табе раскажу. Каб ведала, што гэта за хлопец, што ён не проста мой зямляк, аднавясковец, аднагодак, а і... брат. Ды бадай што брат...

— Пятнаццаць гадоў з табой пражыла, а не ведала, што ў цябе брат быў,— гарэзавала жонка.

— Што ж дзіўнага? — памяркоўна пагаджаўся я.— Ты шмат чаго яшчэ не ведаеш!

— Затое ты — усё!

— Гм, гм... Так і пасварыцца можна.

— Ну, пачынай!

Не, сварыцца мне якраз і не хацелася. Зусім іншы настрой пасяліўся ў маёй душы. Ва мне, саракатрохгадовым выкладчыку роднай літаратуры Івану Сцяпанавічу і бацьку двух вялікіх ужо сыноў, раптам агукнуўся колішні альхоўскі Яська Кузьміцкі, ці проста Паўлінін Яська, ці Пісар, як, сам таго не хочучы, на здзек хлапчукоў ахрысціў мяне бацька, і той Яська ўпарта клікаў мяне туды, у Альхоўку больш чым трыццацігадовай даўнасці, і найперш — у верасень, у кастрычнік, у лістапад і снежань памятнага сорак пятага...

## 2

Вечар. Ходзікі на сцяне — у іх да гіркі для раўнавагі, як маці кажа, нейкім рыжым матузком прывязаны вялізныя, «авечыя» нажніцы — настукалі, пэўна, ужо дзевяць гадзін. Адсюль, ад стала, на якім стаіць газоўка, стрэлак і лічбаў не відаць — сцяна з ходзікамі патанае ў густым змроку. Бацька ці маці, калі вечарам хочуць паглядзець, каторая гадзіна, бяруць са стала газоўку і ў выцягнутай руцэ падносяць яе да ходзікаў. Тады ў жаўтлявай плямцы святла відаць не толькі пабітыя ржой стрэлкі і сям-там аблупленыя лічбы, але і малюнак уверсе — на каньку сіняга даху махае крыллем чырвоны певень.

Ходзікі гэтыя перажылі вайну, дзве зімы і адно лета праляжалі ў скрыні, схаванай на гародзе ў яму. У яму падышла вада, таму яны маюць такі несамавіты выгляд. Бацька па вайне сам разабраў іх, старанна працёр часткі анучкай, змочанай у бензіне, і ходзікі зноў ажылі, весела застукалі на сцяне, на сваім ранейшым даваенным месцы, побач з вялікім, у шырокай драўлянай раме люстэркам, якое таксама ляжала ў той жа яме на гародзе і якому таксама дасталося, і, мусіць, не меней — рама скарэжылася, фарба з яе абсыпалася, шкло ў трох месцах трэснула і памутнела. Бацька і ходзікі і люстэрка заве «інвалідамі вайны», часта пасміхваецца з іх, асабліва калі ў

хату хто-небудзь заходзіць, аднак не выкідвае і кожнае раніцы старанна заводзіць ходзікі, падымаючы рыпучы ланцужок з гіркай і нажніцамі ў самы верх, пад цыферблат.

Яська часцей падыходзіў да ходзікаў зусім не для таго, каб паглядзець, да якіх там лічбаў дайшлі вялікая і малая стрэлкі. Ходзікі цікавілі яго найперш самі па сабе. Хацелася яму разгадаць дзівосную тайну хітрасплячення іх шматлікіх зубчастых колцаў: як гэта яны, чапляючыся адно за адно, пакрысе круцяцца там і чаму стрэлкі, быццам разумныя, ведаюць, калі, у які час ім належыць быць каля той ці іншай лічбы, намаляванай сіняй фарбай на белым выпуклым кружку. Калі маці і бацькі не было дома, Яська падстаўляў табурэтку, узлазіў на яе і, прыклаўшыся правым ці левым вухам да сцяны, зазіраў збоку ў іх нутро. Праз шкельца было відаць, як пасля кожнага маху маятніка з зубчастага колца зрывалася ледзь прыкметная воку маленечкая скобачка і колца паварочвалася — ледзь-ледзь, так, што не заўсёды можна было і заўважыць той паварот, але, тым не менш, з яго паспявала саскочыць і кудысьці знікнуць — няйначай, у загадкавую вечнасць — секунда. Цік — секунда, так — секунда. Яську нават здавалася, што гэта яны, секунды, зрываючыся, і голас падаюць: цік-так. І хацелася спыніць гэтыя бясконцыя ўцёкі секунд, і паглядзець, што здарыцца, што будзе з ім самім і з усім, што ёсць у хаце, калі раптам колца тое замрэ і скобачка не будзе адпускаць яго доўга-доўга. Яська асцярожна падымаў угору гірку з нажніцамі. Напяты дагэтуль ланцужок правісаў, маятнік, паківаўшыся крыху сюды-туды, заміраў. Яська, падтрымліваючы гірку ў руках, азіраўся на хату. Не, нічога незвычайнага не рабілася. Гэтак жа гуляла на грубцы з лялькай, скручанай з анучак, Зойка, гэтак жа мурлыкала побач з ёй кошка Рыска, гэтак жа, як і раней, стаялі на сваіх месцах тая ж грубка, шафа, стол, ложкі: бацькаў, жалезны,— за шафай, мацерын і Зойчын, драўляны,— ля грубкі, яго, Яськаў,— ля дзвярэй, узгалоўем у кут, нікеляваны, з рыпучымі і мулкімі рабрынамі-спружынамі. Яська, аднак, не хацеў з гэтым пагаджацца — як жа так, час жа спыніўся! — і трымаў тую гірку з нажніцамі доўга, усё спадзеючыся на нейкі цуд, аж пакуль не млела рука ці не бразгала клямкай, заходзячы ў хату, маці. Тады ён хуценька адпускаў груз, ланцужок імгненна напінаўся, але маятнік сам па сабе ажываць чамусьці не хацеў —

яго трэба было, ведаў Яська, злёгку падштурхнуць. Спяшаючыся, каб яго на табурэтцы не заспела маці, Яська пальцам штурхаў маятнік, кумільгам злятаў з табурэткі і ставіў яе на месца — між сваім ложкам і акном. І, ужо не гледзячы ў той бок, каб і выгляду не падаць, дзе ён толькі што быў і што рабіў, слухаў, як ходзікі на сцяне зноў цікаюць, па-ранейшаму адсылаючы невядома куды секунду за секундай.

Цяпер, увечары, Яська наогул нічога не меў да ходзікаў, як і да таго, колькі яны націкалі. Раз маці не клікала вячэраць, значыць, яшчэ не позна. Праўда, маці ўжо сагатавала вячэру: ён бачыў, як яна стаўляла ў грубку саганок з вадой. Потым, як вада закіпіць, маці возьме адстаўніцай той саганок, выме яго з грубкі, паставіць яго пры грубцы на зэдлічак, павылоўлівае з кіпню лыжкай трапіўшыя ў яго вугольчыкі — параніласе паставіць саганок да агню, трэба было счакаць, пакуль дровы добра прагараць і перастануць страляць,— і ўсыпле ў ваду перацёртае, пахапанае-пашчыпленае пальцамі на малыя шматкі-друзалачкі цеста, зноў паставіць саганок у грубку. І неўзабаве, праз колькі мінут, будзе гатова зацірка. Забеленая малаком, яна дужа смачна будзе сёрбацца Яськам — гарачая, духмяна салодкая, крыху ажыністая, з ледзь улоўным пахам жорнаў і іхняй белагаловай Аўтарэні. Зацірка варылася і падавалася ў Яськавай сям'і амаль штодня — звычайна забеленая, зрэдзь часу, па заказу бацькі, заскваранная, аднак жа яна не надакучала, не прыядалася, і Яську прыемна было класціся ў пасцель з туга налітым жыватом і, лежачы, слухаць, як яна, тая зацірка, боўтаецца там, пераліваецца, булькоча.

Ну, ды пра зацірку Яська падумаў проста так, яна яшчэ будзе сёння, у гэты вераснёўскі вечар. А пакуль што палалі, страляючы, дровы ў грубцы, і было чуваць, як гарачыя іскры-вугольчыкі падалі ў ваду і шыпелі там, і водсветы з топкі скакалі па падлозе, па спінцы Яськавага ложка, па сцяне; курадыміла, патрэскваючы соллю, газоўка на стале — запраўлена яна была бензінам.

Пра бензін гэты можна расказаць цэлую гісторыю...

Улетку ў Будзе, на лузе за вёскай, некалькі тыдняў стаяла невялікая лётная часць. Ці не дзесятак самалёцікаў-стракозак. Падзея гэтая ўскалыхнула вёску. І пакінула па сабе памяць. Дзяўчаты ўсё ўспаміналі, як прыходзілі лётчыкі на вечарынкі ў пустуючую Франусіну хату (цётка Француся з дзецьмі, ведаў Яська, загінула ў

апошнюю блакаду), а самыя смелыя і рахманыя прыгадвалі, пэўна, і сёе-тое іншае. Казалі, напрыклад, што да Зінкі Аленінай лётчык неаднойчы хадзіў начаваць у пуню. Старэйшыя за Яську хлопцы, каторым па чатырнаццаць-пятнаццаць, бажыліся, што аднаго разу бачылі, гонячы на ранкі кароў, як той лётчык разам з Зінкай крадком выходзіў з пуні. Праўда, такія смаркачы, як Яська, пра якіх старэйшыя казалі, што ў іх яшчэ мамчына малако на губах не абсохла, куды больш цікавіліся іншым. Яны зранку і да самага вечара, ажно пакуль маткі ледзь не сілком турылі іх дамоў, прападалі ў Будзе. Лётчыкі былі добрыя, падпускалі хлопцаў да самых самалётаў, а за сякія-такія паслугі — прынесці вады, малака, яек — нават падсаджвалі на крыло, каб зазірнуць у кабіну, а то і пасядзець у ёй. Там, у Будзе, Яська на свае вочы бачыў, як тая ж Зінка Аленіна, Лёдзя Маслючкова і Верка Юстыніна сядалі ў заднія кабіны, прывязваліся там рамянямі, і лётчыкі разам з імі падымаліся ў неба і рабілі па некалькі кругоў над Альхоўкай і над Будай, і ён, Яська, на свае вушы чуў, як вішчэла Верка ў небе, калі лётчык, які катаў яе, клаўся на крыло ці раптоўна даваў з вышыні нырца ўніз. Вішчэла Верка так, што заглушала гул матора. А Яська і іншыя хлопцы качаліся па траве ад рогату. І моцна зайздросцілі тым дурным дзеўкам. Ах,як яны ім зайздросцілі! І як злаваліся на лётчыкаў! Што яны маюць да гэтых піскліўых дзевак? Знайшлі каго катаць! Вось яго б, Яську, падпялі ў неба (кожны, вядома, думаў пра сябе), пабачылі б, ці запішчаў бы ён са страху! А то — дзевак... Не, бачыць гэта было Яську балюча. Дзевак садзяць у самалёт і катаюць ні за што ні пра што, а Яську, які так стараўся дагадзіць ім ва ўсім,— нізавошта! Колькі ні ўпрошваў Яська, чуў толькі адно: «Мал яшчо! Вывалішся із кабіны — хто адвячаць будзе?!» Ах, як яму было крыўдна! Вось гэта яго даймала. А што нехта некага з некім бачыў уначы, чуў нейкія падазроныя шэпты і гукі — гэта абыходзіла Яську бокам...

Зняліся лётчыкі з Буды гэтак жа нечакана, як і селі, а памяць пра іх кароткачасовую стаянку засталася ці не ў кожнай хаце. Ва ўсіх у сенцах пахла бензінам. Хто хоць пляшку, слоік ці які бітончык, а расстараліся ў лётчыкаў «газы». І курадымілі ў хатах вечарамі газоўкі з абсыпанымі соллю кнатамі — каб, не дай бог, не ўспыхнула, не выбухнула бядою тая чортава «газа».

7 Зак. 2609

Яськава маці за нейкі пачастунак, а хутчэй не за пачастунак, а за работу — пераніцоўвала лётчыкам гімнасцёркі і леіла галіфэ, прывалакла дадому цэлую пляскатую каністру бензіну і выліла яго ў пустой улетку варыўні ў старую бляшаную балею, пазатыкаўшы дзіркі калочкамі, абкручанымі пакуллем. Праз той бензін бацька з маці, памятае Яська, ледзь не пасварыліся. Як ні старанна затыкала маці дзіркі, а бензін усё ж прасочваўся, і пакуль бацька вярнуўся з работы, пакуль шукаў нейкі іншы посуд і пераліваў у яго бензін з балеі, уся варыўня наскрозь прасмярдзела. «Як ты цяпер бульбу туды ссыплеш, моркву ці бурак пакладзеш?» — папікаў бацька маці. А яна апраўдвалася: «Дык сказалі ж: «Хадзяйка, флягу прыташчы назад!» А пад рукою нічога лепшага не знайшлося...» Бацька толькі махнуў рукой: «Ат, бабская твая галава!..»

Як бы там ні было, а ў Яськавай хаце цяпер штовечар гарэла газоўка — колішняя лямпа без камінка. Наліваў бацька ў магазын бензіну, навінчваў рашотку, а ў яе паўнютка, упоравень з кнотам, насыпаў солі. І газоўка гарэла. Спачатку, праўда, маці пабойвалася падазронага, як ёй здавалася, патрэсквання, але пасля бацькавых пасміхванняў аціхла. Яська, зрэшты, думае, што не так падзейнічалі на маці бацькавы кепікі, як тое, што газоўка, хоць і чадзіла, свяціла ўсё ж куды лепей, чым лучына.

Звычайна яна вісела на сцяне, уздзетая дзірачкай у ручцы магазына на цвічок. На стол, на перавернутую ўверх дном драўляную ступку, газоўка ставілася тады, калі Яська сядаў рабіць урокі.

Вось і цяпер газоўка стаяла на стале, на ступцы. З кончыка дрыготлівага язычка-полымя выцягваўся і, звіваючыся, цягнуўся ўгору, аж пад цёмную — там панаваў зморк — столь, шнурочак дыму-чаду. Цікаў на сцяне «інвалід вайны». Стралялі ў грубцы дровы. І пад гэты ціхі вечаровы акампанемент (тады Яська наўрад ці ведаў гэтае слова) хлопец рабіў урокі: у сшытак, зроблены са здзёртых са сцяны шпалераў, перапісваў і рашаў задачкі. Сшытак Яська зрабіў сам з прынесенага бацькам кавалка шпалераў: склаў яго ў восем столак, сшыў ніткамі, а пасля разрэзаў нажом. Ручку таксама сам зрабіў: адшукаў у гародзе ўсохлае малінавае сцябло, абрэзаў акуратна, з аднаго канца ўставіў у мякаць пяро — вось і быў гатовы нескладаны струмант для пісьма. А чарніла

Яську прыгатавала маці — з густа-чырвонага бурака. Доўга варыла яго, доўга настойвала, пасля працадзіла настой. Чарніла, налітае ў бляшанку, выдавала ажно занадта чырвоным, аднак, трапляючы з пяра на паперу, нечакана бляднела, рабілася ружовым. Папера таксама была ружаватая, нават хутчэй рудаватая, і трэба было добра націскаць пяро, шмараваць ім па адным месцы некалькі разоў, каб пасля мець магчымасць угледзець вокам і прачытаць, што там Яська накрэмзаў.

Сядзеў Яська за сталом на лаве, сціпаю да сцяпы. А па другі бок газоўкі, за другім канцом стала, сядзелі адзін насупраць другога бацька і дзед Волесь. Сядзелі і маўчалі. Перад гэтым яны выпілі па чарцы самагонкі (пляшку ў кішэні паддзёўкі прынёс дзед Волесь, тым пасляваенным часам гналі тую атруту многія і пілі, на жаль, таксама многія), прыкусілі агурком са скарынкаю ад ранішняга праспака, а цяпер дымілі цыгаркамі і маўчалі.

Яськаў бацька і дзед Волесь у Альхоўцы — начальства. Першы — старшыня сельсавета, другі — старшыня калгаса, які носіць імя «Іскра». «Іскрай» калгас называўся і да вайны, «Іскрай» стаў і летась, калі яго аднавілі адразу ж пасля прыходу нашых. Яська доўга не мог дацяміць, чаму калгасу далі такое дзіўнае імя. Падумаеш — іскры! Яська, як і іншыя хлопцы, заве іх яшчэ і цыганскімі блохамі. Калі запаляць касцёр на аселіцы, пасучы кароў, і калі раптам хто-небудзь падварушыць кіем галавешкі, дык высока ў неба ўзлятаюць тысячы іскраў, а пасля ціха падаюць долу лёгкімі і цёплымі аплепачкамі-папяляшкамі. Трапляючы на твар, на рукі і плечы, яны пакідаюць на целе чорненькія плямкі-крапінкі — як усё адно блохі абселі... А тут раптам — імя калгасу! Ажно пасля неяк бацька растлумачыў Яську, што да чаго, і ў слове тым — «Іскра» — нечакана адкрыўся яму глыбокі, нават нейкі патаемны сэнс: як бы яно, гэтае слова, не проста жыло ў альхоўцаў само па сабе, а прыйшло ад самога Леніна і таму стала назваю іхняга калгаса, у якім старшынюе дзед Волесь.

Да Яськавага бацькі дзед Волесь прыходзіць часта. То ўранку, нацямочку, калі Яська яшчэ спіць, то, часцей, вечарам — звычайна позна, калі Яська з малой Зойкай, павячэраўшы, лягалі спаць, а маці з бацькам тупалі яшчэ, дарабляючы што-кольвечы, на што не выстачыла дня. Жыў дзед Волесь непадалёк ад іх — праз дзве хаты,

даводзіўся нават далёкай раднёй: жонка дзеда Волеся баба Альжбета была стрыечнай цёткай для Яськавай маці. Заходзіў дзед Волесь у іхнюю хату без стуку, як у сваю, сцягваў з галавы аблезлую, пашытую з чорнай аўчыны аблавушку, вешаў яе на цвік у сцяне пры парозе, расшпільваў паддзёўку з такім жа аблезлым аўчынным каўняром, аднак з плячэй яе ніколі не скідаў, моўчкі праходзіў да стала і сядаў ці на лаву, калі на ёй нічога не было, ці на табурэтку. Сядаў, даставаў капшук, круціў цыгарку, прыпальваў ад газоўкі, сяды-тады гасячы яе, і маўчаў, пыхкаючы на хату дымам. Каторы раз і з хаты пойдзе, вось так папыхкаўшы дымам, пакашляўшы і не вымавіўшы ні слова. Маці ў такіх выпадках не стрывае, на бацьку накінецца: «І чаго, каб хто спытаў, прыходзіў? Ці твайго смуроду ў хаце не досыць?» Яська таксама здзіўляўся: чаго? А бацька памяркоўна адзавецца: «Трэба было спытаць у яго...»

Аднак дзед Волесь бываў і інакшым. Часам на яго, як казала маці, быццам находзіла нешта. Адразу ж, яшчэ з парога, напусціцца на бацьку з якім-небудзь пытаннем.

Памятае Яська, як аднаго разу, здзёршы з галавы аблавушку і чапляючы яе на цвік, дзед Волесь нечакана спытаў: «Скажы мне, Сцяпан, чаму гэта Сталін разумна пачынае, а хранова канчае?» Яська тады адарваўся ад кніжкі і натапырыў вушы: чуць такое пра Сталіна ці даводзілася калі?! Звар'яцеў дзед Волесь, не іначай! І маці, заўважыў Яська, наструнілася, прыпыніла рукою калаўрот, утаропілася на бацьку. А бацька якраз дымам папярхнуўся, зайшоўся ў кашлі. Доўга адкашліваўся і маўчаў. Пасля, як дзед Волесь, расшпіліўшы паддзёўку, усеўся на сваім месцы на лаве, бацька спакойна, быццам абыякава, спытаў: «Чым гэта Сталін табе не ўгадзіў?» Дзед Волесь хмыкнуў у вусы: «Ыгы, мне... Як і табе... Чаго гэта ён, кажу, пусціў іх у Бярлін? Ваякі мне знайшліся! Ну, яшчэ амерыканцы — няхай, дык — і ангельцы туды ж... А дзе яны раней былі?» Бацька сказаў: «Мусіць, так трэба, Волесь. Саюзнікі ж...» Дзед Волесь зноў хмыкнуў: «Саюзнікі, вошы іх заядуць! Не-е, Сцяпан, не кажы! Калі ўжо дайшлі туды, дык трэба было да канца... Усю Германію прайсці, каб гіцлева семя на свет ніколі не выбілася! Хто б нашых астанавіў бы? Ніхто! І амерыканцы не пікнулі б! А іх — у Бярлін...» Дзед Волесь ажно, здаецца, стаміўся, столькі сказаўшы. Змоўк, а Яська яшчэ ўсё ў рот яму глядзеў. Бацька згледзеў гэта, пры-

крыкнуў: «А тваё якое парасячае дзела? У кніжку глядзі!» А дзеду Волесю сказаў: «А ты таксама не будзь дзіцем! Абы-чаго не кажы! Сталін табе трэба!.. Клопату іншага няма!..» Дзед Волесь паківаў галавой, папыхкаў дымам, але больш не азваўся, пасядзеў і пайшоў...

Цяпер, крэмзаючы пяром, Яська таксама раз-пораз кідаў позірк на бацьку і на дзеда Волеся. Абодва яны сядзелі да яго бокам: бацька — правым, дзед Волесь — левым, і Яська абодвух бачыў у профіль. Бацькаў твар — худы, з вострымі скуламі, з буйным, крыху гарбаватым носам, з высокім лобам і гладка прычасанымі светлымі валасамі. Твар дзеда Волеся — зусім іншы: круглы, поўны, маршчыністы, нос у дзеда Волеся тоўсты і кароткі, вусы чорныя, кончыкі задзёрты ўверх, сівыя валасы на галаве злямчыліся, збіліся ў касмылі. Шыя ў бацькі — доўгая, худая, як і твар, жылаватая, тырчыць з каўняра туга зашпіленай цёмнай — камсастаўскай — гімнасцёркі. У дзеда Волеся шыі зусім не відаць: круглая, сівая, паклычаная галава акаймавана аблезлай чорнай аўчынай.

Колькі памятае сябе Яська, памятае і гэтую дзедаволесеву паддзёўку. Яна як прыліпла навечна да ягоных плячэй. Яська нават быў упэўнены: што зведалі дзедавы плечы, тое зведала і яго паддзёўка. Бо вунь жа: відаць на ёй і след ад яловага камля, які дзед Волесь браў, пэўна, некалі на плячо, і след саламянай труханкі з вазка, у які штодня куляецца дзед Волесь, і след напаленай, пабеленай вапнай грубкі, да якой дзед Волесь неаднойчы прытуляўся старэчымі азалелымі плячамі...

Яську было цікава назіраць за бацькам і дзедам Волесем праз дрыготлівае полымя газоўкі. Яно, гэтае кволае, варухлівае, бы жывое полымя, падзяляла іх, было своеасаблівай мяжой двух светаў, з-за якой Яська са свайго свету зазіраў у іхні. Які кволы ні быў агеньчык, ён усё ж ствараў уражанне светападзелу: профілі бацькі і дзеда Волеся бачыліся Яську ў шэра-блакітных воблаках тытунёвага дыму так, быццам сядзелі яны не побач, тут жа, па другі канец стала, а недзе далёка-далёка,— як на экране, на той шараватай прасціне, што развешваецца на сцяне ў ДСК тады, калі ў Альхоўку прывозяць кіно. Зрэдзь часу профілі гэтыя злёгку мяняліся — калі бацька і дзед Волесь падносілі да вуснаў свае суслы-цыгаркі. Яська бачыў, як спачатку на бацькавай правай шчацэ ўтваралася цёмная ўпадзіна, як варушыўся жаўлак і кадык на шыі, як потым адкапыльвалася ніжняя губа — гэ-

та бацька зацягваўся цыгаркай, глытаў дым і праз хвіліну са смакам выдыхваў яго назад, выпускаючы з рота двума шырокімі струменямі — па куточках вуснаў — уверх; нос, вока, залысіна на нейкі час хаваліся ў дыме. Дзед Волесь зацягваўся інача́й — як усім нутром, ад чаго варушылася ў каўняры ўся яго круглая паклычаная вугалава, а выдыхаў ён дым, шырока раскрываючы пад вусамі рот, перад сабой, і хмарка яго доўга вісела над сталом, паволі расплываючыся, ахутваючы і кволы язычок газоўкі, і Яську па другі бок светлавой мяжы.

— Паўліна, можа, прыкусіць што знойдзеш? — падае ўрэшце голас бацька.

— Што я знайду? — тут жа азываецца з другой паловы хаты маці.— Зацірка во скора будзе гатова!

— Зацірка! Зацірка! Мо сыраквашы хоць падай?!

Маці паяўляецца на парозе, выцірае фартухом рукі, зласнавата кажа:

— Што ты нэндзішся, як малое? Ці ж я табе шкадую? Сам жа, як прыйшоў, выхлябтаў з гарнушка! Ці забыўся?

Дзед Волесь разам з табурэткай паварочваецца да маці, прымірэнча кажа:

— Ты, Паўліна, не злуйся. Гэта во мая Альжбета сёння выціснула, дык я... Ну, ішоў сюды і ўзяў пляшку... І не шукай нічога. Агурок во ёсцека...

Маці прысядае ля грубкі, бярэ ў рукі качаргу, поверх гаршка падварочвае дровы, кажа:

— Канчайце от і не гамзайце! Зацірку зараз на стол пастаўлю, дзеці есці хочуць...

Дзед Волесь зноў разам з табурэткай адварочваецца да стала. Бацька бярэ пляшку, разлівае рэшту ў шклянку, якая стаіць перад дзедам Волесем, і ў сівую алавяную конаўку, што стаіць перад ім. Моўчкі выпіваюць абодва, хрумстаюць агурком.

Выцершы даланёй рот і вусы, дзед Волесь кажа:

— Дык што будзем рабіць, Сцяпан?

— З чым? — пытаецца бацька.

Дзед Волесь адказвае не адразу. Спачатку доўга ўзіраецца ў бацьку — быццам не верачы, што той не разумее, пра што ён пытаецца, а пасля, як бы ў чымсьці пераканаўшыся, кажа:

— Пра Марылю кажу. Пра Паўлюкову.

Бацька пацепвае плячамі:

— А што рабіць? Усё ж зроблена!

Дзед Волесь уцягвае галаву ў каўнер і круціць ёю, бы выцірае аб аўчыну ўспацелую патыліцу, потым выпростваецца, падаецца грудзямі да стала, аблакочваецца на вышараваную вехцем стальніцу. Гледзячы на бацьку, гаворыць:

— Дык і што — хай сядае кабета?

Бацька, бачыць Яська, пачынае злавацца — засоўгаўся на лаве, зарыпеў скуранымі леямі галіфэ. Паклаўшы рукі таксама на стол, кажа:

— Што ты, Волесь, пачынаеш, быццам я... Хіба я ўсчаў? Дурніца тая адразу да Ксяневіча пабегла.

Дзед Волесь адрывае локаць ад стала, махае рукой:

— Нічога я не пачынаю! І ведаю ўсё, як яно зрабілася! Я кажу, дык і што — хай сядае баба? Так?

— А што я табе — пракурор? Ці суддзя?

Яська ведае ўжо, што і бацька і дзед Волесь, нягледзячы на сваю вонкавую марудлівасць і памяркоўнасць, абодва ўспыхваюць, як запалкі. Бацьку ў такія хвіліны лепш не трапляйся на вочы — можа агрэць чым папала. А так ён ніколі і пальцам не кране яго, Яську. І дзед Волесь такі ж. Добры-добры, а, як маці кажа, да трох не гавары. Яська чуў не адзін раз, як сварыцца ён з бабай Альжбетай — праз двое загуменняў чуваць! Бацька з дзедам Волесем сяды-тады, седзячы вось так у іхняй хаце за сталом, таксама сварыліся. Нават без чаркі, было, счэпліваліся — схопяцца, бы пеўні. Сядзяць, гамоняць спакойна, а тады раптам як ашпарыць іх хто — слова за слова, і чым далей, тым болей, спуску адзін аднаму не даюць, адно што ў бойку не кідаюцца. Яська ў такіх выпадках голасу не падае, сядзіць ціха, як мыш пад венікам. А маці кінецца іх улёшчваць. Не разбіраючы, дзе свой, дзе чужы, абодвум выдасць, як малым, што насваволілі. І неўзабаве яны зноў ужо мірна, па-сяброўску гамоняць, як быццам нічога перад тым і не было.

І цяпер Яська чакаў, што бацькавага пракурора дзед Волесь не прапусціць міма вушэй. Аднак жа — прапусціў, сцярпеў. Нават усміхнуўся. Яську відаць было, як яго левы вус тарганууся некалькі разоў, а загнуты ўверх кончык палез высока, ажно пад самае вока.

Усміхнуўся дзед Волесь, ад стала адпіхнуўся, сказаў:

— Дурны ты, Сцяпан! Я чаго зайшоў? Выпіць з табой? Дык мог бы і дома, з Альжбетай... А зайшоў парахавацца. Нешта ж трэба рабіць, га?

Бацька таксама тут жа адышоў. Круцячы ў пальцах

новую цыгарку, адгукнуўся на дзедаволесевы словы ўжо спакайней:

— Ага, табе не ўсё роўна, а мне... Быццам я не рос тут і Марылі Паўлюковай не ведаю... Але што зробіш тут?

— Вось давай і падумаем што! — падхапіў дзед Волесь.— Быць таго не можа, каб...

Бацька падняўся, нагнуўся да газоўкі, прыпаліў цыгарку. Апускаючыся зноў на лаву і выпускаючы два струмені дыму ўверх з-пад адкапыленай ніжняй губы, ён раптам ці не тужліва ўздыхнуў:

— Быць таго не можа, каб... Стары ты, Волесь, чалавек, перападала табе не раз, а ніяк паразумнець не хочаш. Што мы, што я ці ты, можам зрабіць? На ражон палезеш?

— А што рабіць беднаму Паўлюку? З двума дзецьмі? Што б ты рабіў, га?

— Ты зноў за сваё! Што Паўлюку рабіць, што б я рабіў... Мая ж во не крала!

Дзед Волесь матлянуўся грудзямі да стала, як не кінуўся да бацькі з кулакамі, закрычаў:

— Што ты гаворыш, Сцяпан?! Твая не крала! І язык паварочваецца казаць такое!.. Крала... Дзеці ад нішчымніцы зайшліся, от і прыхавала баба...

— А калі б кожная так? Што б тады, Волесь? — бацька, разумеў Яська, быццам лавіў дзеда на слове.

Дзед Волесь затрос кулакамі перад бацькавым тварам:

— Дык жа не кожная! Пра Марылю гаворка! Пра Марылю і яе дзяцей! Ці Паўлюк таго пуда жыта не зарабіў?!

У бацькі на правай шчацэ захадзіў жаўлак, пальцы на стале сціснуліся ў кулакі. Сказаў, як прахрыпеў:

— Што ты на мяне крычыш? Ці ты не ведаеш, час які? Што я магу зрабіць?

Дзед Волесь увабраў галаву ў каўнер, глуха, аднак жа спакойна загаварыў:

— Час, Сцяпан, якраз такі, што трэба бабу ратаваць. Досыць жа, нагараваліся, напекаваліся, натрэсліся людзі — па завязку! Вайны ж нямашака, скончылася, дзякаваць богу! Дык жа... Каб усе разам... Ты, я... Пайшлі б, пагаварылі б... Быць таго не можа, каб не...

Бацькаў твар, здаецца Яську, яшчэ больш схуднеў, шчака пабялела, і стала добра відаць, што за дзень ад-

расла на ёй густая рыжаватая шчэць. Бацька таропка робіць зацяжку за зацяжкай, ажно пакуль не апякае пальцаў. Трыбушачы ў попельніцы — аскялепку ад жбанка — канчур, ён кажа:

— Хочаш, каб з партыі паляцелі? Ведаеш, што могуць прышыць? Каго, скажуць, абараняеце? Раскрадальніцу народнага дабра? Таго, хто моц дзяржавы падрывае?.. Ці мне цябе вучыць, Волесь?

Дзед Волесь разводзіць рукамі, нібы ловячы штосьці ў паветры, гаворыць як ужо не да бацькі, а некуды ў пустату:

— Дык і прападай, чалавек!.. Дурная зялепуха вякнула — і ўсё, і рады нямашака...

— Не каркай,— перапыняе яго бацька.— Мо папалохаюць толькі. Ці мала што...

У дзеда Волеся кончык вуса паўзе па шчацэ ўверх — бы ад смеху, але дзед не смяецца, а як перакрыўляе некага:

— Ага, папалохаюць! Як у Лішчыцах: за два пуды — два гады!

Бацька не паспявае што-небудзь сказаць на гэта — азываецца ад грубкі маці:

— Ну, а Сцёпа што можа зрабіць, Волесь? Чаго ты ад яго хочаш? Хіба ж ён не заступаўся?

— Таму і кажу яму, што заступаўся, Паўлінка! — крутнуўся да маці дзед Волесь.— Каму ж заступацца, як не яму? Савецкая ж уласць ён, Паўлінка!

— Гэтай уласці больш дасталося, чым каму! — зласнавата, як падаецца Яську, кажа маці.— Ты добранькі, усе добранькія, а нехта — хай галаву падстаўляе... Кожнаму чужое баліць, пакуль сваё не запячэ...

Тое, што сказала маці, не зусім даходзіць да Яські. Чаму яна сёння ўжо быццам не шкадуе цёткі Марылі? Учора ж, калі ён прынёс у хату вестку аб тым, што цётку Марылю зславілі з жытам, маці вельмі ж бедавала і божкала. Чаму ж яна сёння так?

— Памаўчы, Паўліна,— кажа бацька.— Хай ужо ў нас галава праз тое баліць, чаго і табе ўмешвацца!

— Дык а чаго ж ён?..

— Нічога, маці, памаўчы!

Бацька і дзед Волесь, насупіўшыся, унурыліся кожны ў сябе.

Маці прыносіць нарэшце Яську місачку заціркі. Ён згроб са стала свае паперы, злажыў іх у торбу і ўзброіўся

лыжкай. Зацірка была гарачая, алюмініевая лыжка апякала рот, але Яська не зважаў на тое — старанна дзьмухаў у лыжку, ажно пырскі ляцелі, і, хакаючы, як сабака ў летні поўдзень, вывуджваў гушчу. Міска ўвачавідкі пусцела, і Яська ўжо не зважаў, пра што гаварылі далей між сабой бацька і дзед Волесь.

Потым Яська юркнуў у ложак на калючую і халодную рызаўку, зайздросцячы Зойцы, якая, не дачакаўшыся вячэры, соладка спала на цёплай ляжанцы.

Неўзабаве Яська сагрэўся пад коўдрай. У поўным і тугім, як барабан, жываце адчуваў ён прыемны цяжар. Вейкі змружваліся, цела апаноўвала разморaная, салодкая стома.

Засынаючы, чуў Яська, як бацька гаварыў дзеду Волесю:

— А ты і другое ўлічы. Калі патакаць усім, дык — развалакуць. А з каго спытаюць? З нас! Дзе, скажуць, вы былі, куды глядзелі?

І чуў яшчэ дзедаволесевы словы:

— Колькі ж табе казаць! Не пра ўсіх я, Сцяпан! Я пра Марылю Паўлюкову...

Заснуў Яська з адчуваннем нейкай ці то прыкрасці, ці то трывогі. Падалося яму, што не на бацькавым баку праўда, што дзеда Волеся ён разумее лепш...

Тое, што здарылася з цёткай Марыляй і пра што за сталом гаварылі бацька і дзед Волесь, не было сакрэтам для Яські, як не было сакрэтам для ўсёй Альхоўкі. Вёска другі дзень толькі пра гэта і гаманіла: Паўлюкова Марыля ўкрала паўмяшэчка — дваццаць кіло разам з мякінай — жыта, і цяпер яе, па ўсім відаць, будуць судзіць. У вёсцы нішто не трымаецца ў тайне, і ў той жа дзень пра гэтае здарэнне ведалі ўсе, у тым ліку і дзеці...

Цётка Марыля з Волечкай і Улімай абівалі ў Франусінай пуні (яна, як і хата, таксама пуставала) жыта. Абівалі, сцёбаючы снапамі аб козлы, а пасля, начыста, перылі калоссе пранікамі. Увогуле дык жыта звозілі пад паветку, якую паспелі паставіць на колішнім, спаленым у вайну, калгасным гумне, і там малацілі ручной малатарняй. А некалькі возоў завезлі ў Франусіну пуню і парашылі (дзед Волесь распарадзіўся) абабіць — каб мець кулі і хоць сяк-так прыкрыць аўчарнік і канюшню (невялікія хлеўчукі скідалі са старых, ацалелых будынін

сёлетняй вясной, прыкрыўшы латы да пары яловымі лапкамі).

Першага дня жанчыны без аніякіх звадак паслухаліся брыгадзіркі Гэлі і пайшлі ў тую Францусіну пуню. Але ўжо ці не па абедзе Волечка і Уліма заўпарціліся: не бабская, маўляў, гэта работа — хвастаць снапамі аб козлы.

Ідучы са школы з сябрукамі, Яська сам чуў, як Уліма крычала на вуліцы проста ў твар Гэлі:

— Ідзі сама пуп папарві! Ты маладзейшая! А ў мяне скура на пузе лопаецца!..

Уліму ў Альхоўцы недалюблівалі. Языкатая і, да таго ж, гультаяватая. З дзявочых гадоў. Мо таму, казалі, і замуж яе абышоў. Казалі яшчэ, што да вайны, калі быў ля Альхоўкі вайсковы гарадок, хадзіў было да яе адзін салдацік, пажылы ўжо, аднак да замуства, як у іншых альхоўскіх дзевак, ва Улімы не дайшло. А яна нібыта і спадзявалася, чакала таго салдаціка і ўсю вайну, і каторы час па вайне. Жанчыны дык ужо быццам і шкадавалі яе ў вайну, ужо быццам і верылі, што калі б не гэтая навалач з Нямеччыны, дык была б і Уліміна доля выйсці замуж за таго салдаціка, што застаўся калісьці служыць у Альхоўцы звыш тэрміну. Але шкадоба гэтая зварухнулася ў іхніх сэрцах у вайну, калі не толькі ва Улімы, а ці не ва ўсіх кабет і дзявок папрападалі, склалі галовы іх салдацікі і несалдацікі. А потым жаль той саступіў месца той жа колішняй нелюбові. Тым болей што Уліма з гадамі, старэючы ў адзіноце, рабілася ўжо зусім ваўкаватая і брахала на ўсіх з прычыны і без прычыны.

— Табе, нябось, пуза Ксёндз гладзіць, а мне — надрывайся! — крычала яна на Гэлю.

Гэля, маладая, чарнавокая і светлавалосая, прыгожая і вясёлая дзеўка, залівалася чырванню, душылася слязамі, спрабавала нешта гаварыць і не магла. Гэта ж такую напрасліну ўзводзіць на яе Уліма! Ксёндз той ці не на дваццаць гадоў старэйшы за яе, і не глядзіць на яго Гэля, усе ў вёсцы ведалі, чакае свайго Аркадзя-партызана, якому, нягледзячы на яго раннюю партызаншчыну, трэба яшчэ адслужыць сваё і пасля вайны. А Ксёндз проста кватаруе-сталуецца ў іх з маці. Нябось, Уліма яго да сябе не прыняла, іншыя бабы таксама адмовіліся, спаслаўшыся на дзяцей і цеснату, а ёй, Гэлі, як было адмовіцца, калі брыгадзірка яна?..

Падахвочаная Улімай, бурчала і Волечка — малень-

кая, круглая, як ступка, кабета. За гэтую яе малечасць і звалі яе, пэўна, усе ў Альхоўцы Волечкай, хоць той Волечцы было ўжо ці не за сорак. Уліму і Волечку нават дзеці за вочы называлі Улімай і Волечкай, на дадаючы да іх імёнаў паважнага слова «цётка».

Адно цётка Марыля не жалілася, што ёй цяжка, і не спрачалася. Нават яшчэ і прысароміла Уліму і Волечку:

— Ай, дзеўкі, не брашыце! Чаго ўжо вы? Хто вас у каршэнь гоніць? І колькі яго там, таго жыта?! Некаму ж трэба...

І Уліме і Волечцы як заняло. Па абедзе зноў хвасталі калоссем па козлах. І на другі дзень...

І ў гэты дзень пакацілася па Альхоўцы нечаканая і неверагодная чутка — Паўлюкова Марыля ўкрала паўмяшэчка жыта, злавіў яе сам участковы Ксяневіч!

Яська гэтай чутцы не паверыў. Калі б такое сказалі пра некага іншага, пра тую ж Уліму хоць бы, ён, пэўна, не здзівіўся б. Ад яе чаго хочаш можна чакаць! А цётка Марыля — зладзейка? Не, паверыць у такое ніяк няможна было. Яська ж ведае яе, бадай, гэтаксама, як сваю маці, і любіць яе, бадай, гэтаксама.

У цёткі Марылі і дзядзькі Паўлюка двое дзяцей — Калюня і Тоня. Тоня — малая, гэтакая ж смаркатая, як яго, Яськава, Зойка, а Калюня — яго равеснік і найлепшы сябрук. Яму, як і Яську, дзесяць гадоў, яны разам гуляюць у свае хлапечыя гульні і разам ходзяць у школу.

Яська часта забягае да Паўлюковых. Там яму падабаецца. Падабаюцца яму цётка Марыля і дзядзька Паўлюк. Найперш тым, што ніколі не сварацца між сабою. І на дзяцей не крычаць — на таго ж Калюню і Тоню. Калі б Яська з Калюнем зрабіў такі гармідар у сваёй хаце, які яны неаднойчы падымалі ў Калюневай, яму б здорава ўляцела ад маці. А цётка Марыля толькі памахае над імі хвастачом, што заўсёды вісіць у іх на шастку над прыпекам, памахае так, дзеля прыліку, нават і не дастане да іхніх спінаў яго мяккімі махрамі,— і супакоіцца. Яська і Калюня, вядома, прыціхнуць на нейкі час, нават — каб паказаць, што напалохаліся — зашыюцца ў запечак, а неўзабаве зноў носяцца па хаце, як і раней.

Ну, а дзядзьку Паўлюка любілі ці не ўсе хлапчукі, а не толькі Яська, не зважаючы на тое, што ён моцна кульгаў (левая ступня ў дзядзькі Паўлюка была вывернута ўнутр) і выгляд меў зласпаваты: у яго былі надта ж калматыя і густыя бровы і такія ж густыя і, мусіць, ка-

лючыя вусы. Затое душа ў дзядзькі Паўлюка была надзвычай добрая.

Рабіў ён у калгасе конюхам — і да вайны, і пасля вайны, і гэтую добрую душу дзядзькі Паўлюка адчувалі, пэўна, і коні, бо адгукаліся на кожны ягоны рух і слова і хадзілі за ім, як вялікія і рахманыя сабакі. Хлопцы надакучалі дзядзьку Паўлюку, мусіць, страшэнна, і, тым не менш, ён іх ніколі не праганяў ад сябе і заўсёды пускаў у сані і калёсы, а галоўнае — падсаджваў іх на конскія хрыбціны, чаго яны, вядома ж, найперш і праглі. Машыны ў калгасе тады яшчэ не было, і хлопцы раслі ў сяброўстве з коньмі, і Яська пасля, праз шмат гадоў, помніў мокрую ад поту і цёплую конскую шыю, калі з яе знімалі хамут, вострыя, мулкі крыж, шорсткую, як сухая асака, грыву і гулкае ёканне селязёнкі, калі пад ім пускаўся ўрэшце наўскачкі змораны Мангол ці сляпы на правае вока Цупель. (Быў у дзядзькіпаўлюковай гаспадарцы стары, упарты, але цягавіты конь з такой дзіўнай для чужога вуха клічкай. Да вайны працаваў у Альхоўцы настаўнік па прозвішчу Цупель, і меў гэты настаўнік непамерна вялікую галаву — не галаву, а цэбар, і стаў ён у гады вайны паліцэйскім, і з тае ласкі ахрысцілі ягоным прозвішчам адбітага партызанамі ў немцаў каня — бо меў той конь надта ж вялізную галаву, Цупелеву галаву, ніякі хамут не налазіў, давялося рабіць той хамут спецыяльна для яго, па заказу.)

Дзядзька Паўлюк і да вайны меў да коней вялікую ласку. Сёй-той з вяскоўцаў нават пасміхваўся: маўляў, Паўлюк са сваёй Марыляй не так пяшчотна гаворыць, як з якой-небудзь кабылкай. Але, мусіць, яшчэ лагодней і старанней шчыраваў дзядзька Паўлюк на калгаснайканюшні па вайне — пэўна, таму, што конь дужа прыбавіў сабе людской пашаны і ўвагі. Мала іх было, коней, асабліва ў першыя пасляваенныя гады. Ад таго ж дзядзькі Паўлюка чуў Яська, што да вайны ў канюшні «Іскры» стаяла шэсцьдзесят рабочых коней, не лічачы жарабят, выязной кабылы і жарабка. А восенню сорак пятага дзядзька Паўлюк ганяў да крыніцы, ля якой на козлах ляжаў драўляны жолаб, тры паркі коней. І ўсе яны былі не першай маладосці, усе былі падарваныя ў партызанскіх балотах і на франтавых дарогах, адзін конь быў кульгавы на пярэднюю нагу і адзін — Цупель,— паўсляпы. І ў тым, што гэтыя тры паркі з дня ў дзень штосьці рабілі — аралі, баранавалі, вазілі лес і сена, гной і сало-

му, парадзіх і хворых,— найперш была заслуга дзядзькі Паўлюка. Ён і лячыў-выходжваў іх, і паіў, і карміў, прападаў на канюшні ад ранку да вечара, часта і спаць заставаўся там, у пустой праварыне на посцілцы сена ці саломы.

І вось па Альхоўцы папаўзла чутка тая. Не хацелася Яську верыць, што цётка Марыля магла такое зрабіць. Аднак жа — гавораць! І маці Яськава паверыла таксама не адразу. Калі ён прыбег дахаты і ляпнуў з парога гэтую навіну, маці перапытала:

— Марыля Паўлюкова? Жыта ўкрала? Ад каго ты чуў, сынок?

— Усе кажуць,— адно сказаў Яська.

— Выдумляюць людзі,— адмахнулася маці.

Яська пераказваў пачутае на вуліцы:

— Мусіць, не выдумляюць. Сам Ксёндз, кажуць, злавіў з мяшком на спіне, як дадому несла аселіцай.

Маці жагналася, не верачы, і ўсё прыгаворвала:

— Калі гэта праўда, дык, знаццё, нейкае насланнё на яе найшло. Няйначай Уліма з Волечкай падбілі яе... А самі яны не папаліся?

— Пра іх не гаварылі,— пацiснуў Яська плячамі.

Надвячоркам прыйшоў бацька. Падаючы яму міску бульбы-тушанкі і нязменную конаўку сыраквашы, маці спытала:

— Ці ж праўда гэта, што́ пра Марылю Паўлюкову кажуць? Ты чуў што ці не?

Бацька, хлебчучы з конаўкі, адказаў:

— Чаму ж не чуў! Ашалела баба! Дзяцей асіраціць хоча...

— Што ты кажаш! — Маці таксама прысела да стала.— І як жа яна рашылася?

Бацька быў, памятае Яська, нечым раздражнёны, адказаў маці са злосцю:

— Адкуль я ведаю! Спытай у яе!..

Вельмі блізка да сэрца прыняла Яськава маці бяду, што звалілася на галаву цёткі Марылі. Сябравалі яны — цётка Марыля і Яськава маці. Была між іх добрая паразумеласць — як між сёстрамі. І плён гэтай паразумеласці найперш адчувалі яны, дзеці — Яська і Калюня. Цётка Марыля славілася на ўсю Альхоўку тым, што надта ж удала катала валёнкі. А Яськава маці ці не адна па ўсю вёску мела швейную машынку і ўмела краіць і шыць. Адна вельмі добра дапаўняла другую, і Яська з Калюнем

сярод аднагодкаў хадзілі ў фарсунах. З надыходам халадоў і ў Яські і ў Калюні на нагах былі акуратныя, якраз паназе, цёплыя і мяккія валёначкі, між тым як большасць іх сябрукоў соўгаліся з Бладыкавай гары ў ватовых бурачках. І штаны — найгалоўнейшая рэч, найвышэйшы гонар хлапчукоў-падшыванцаў — былі ў Яські і ў Калюні не такія, як у іншых. Няхай сабе пашыты яны былі з таго ж зрэбнага, пляміста-рудаватага ад альховай кары палатна, аднак штаны пашыты былі адмыслова: з гэстачкай на грудзях, з дзвюма, крыж-накрыж, шлейкамі і, што самае галоўнае, з дзвюма глыбокімі кішэнямі — рукі хаваліся ў іх ажно па локці. А ў іншых хлопцаў былі не штаны, а дзве, сяк-так сашчэпленыя калашыны, якія матляліся на іх, бы на пудзіле, на адной шлейчыне, а то і зусім на вяровачцы. А к школе Яська з Калюнем мелі і суконныя безрукавачкі на гузіках і з кішэнькамі, і падагнаныя па росту ватовачкі-палітончыкі з хлясцікамі (дармо, што перашытыя-пераніцаваныя з бацькавых ці з матчыных неданоскаў), і нават шапкі-вушанкі, якія чымсьці нагадвалі сапраўдныя будзёнаўкі — хлопцы ўмудраліся дамагчыся нават таго, каб на іх былі нашыты вялікія мацерчатыя зорачкі.

Дзяліліся іх маткі і сім-тым з яды. Цётка Марыля магла, разам з катанымі ёю валёначкамі для малой Зойкі, прынесці ў Яськаву хату торбачку льнянога семя (яно, тоўчанае, было вельмі смачнае з варанай бульбай), а Яськава маці, разам з пашытай сукеначкай для Тоні, заносіла цётцы Марылі ў капусным лісці кулачок масла — Аўтарэня не надта залівала сям'ю малаком, але за тыдзень-другі маці ўсё ж неяк умела назбіраць вяршкоў і аскароміць бойку...

Маці сядзела на лаве, ускрай стала, і чакала, што яшчэ скажа бацька. А ён еў і маўчаў. Маці другі раз падступілася да яго:

— Ну што ты за чалавек! Як язык праглынуў! Каб жа пра каго, дык ці пыталася б я?!

— Дык от збегай да яе самой і папытай,— агрызнуўся бацька.— Што я табе яшчэ скажу? Ну, украла, ну, злавіў Ксяневіч...

Пасля цётка Марыля сама расказала Яськавай маці, як чорт падбіў яе на тое, каб нагарнуць таго паўмяшэчка жыта разам з мякінай...

Ну, абівалі яны ўтраіх — з Волечкай і Улімай — тое жыта. Цягалі снапы з тарпы на правай палове пуні, хвас-

талі імі аб козлы і трыбушылі пранікамі на гліняным таку пасярод, насупроць дзвярэй, абабітыя снапы акуратна складалі на левай палове. Троху пра нешта гаварылі, троху праз нешта сварыліся — ведама, бабы як збяруцца, дык не могуць без таго. От і тым днём...

Колькі тых снапоў і папацягалі, а ўжо і абед. Волечка і Уліма, абтрэсшы ватоўкі, паджгалі дадому, а яна, цётка Марыля, засталася прыждаць Гэлі — брыгадзірка абяцалася зазірнуць перад абедам. Засталася адна, і тут на яе як сверб нейкі найшоў. Асабліва як агледзела, што ў кішэні ватоўкі мяшэчак скручаны ляжыць. Тоненькі такі, чысты зрэбны мяшэчак.

Пашыла яго неяк цётка Марыля з рэшты палатна, што засталося ад тканага яшчэ калісь маткай-нябожчыцай. Валяўся той кавалачак у куфры, перакідваўся з месца на месца, пакуль яна не даўмелася пашыць мяшэчак — хай будзе, мо спатрэбіцца пад боб ці пад ячмень, бо пад бульбу ён і малы занадта, і шкада яго пад бульбу, хай будзе чысты ў хаце. Так і ляжаў той мяшэчак на прымурку, за комінам, неўжываны.

А тыдні са два зайшла да цёткі Марылі суседка, Ганна Ыркова, і папытала, ці няма ў яе торбы якой ці мяшэчка малога — гэта ж яе хлопец з Юркам Хрыстыніным збіраюцца заўтра нацямочку ў Даўгінава, дык жа не з пустымі рукамі туды ісці, мо раптам купіць якога паўпуда мукі ці ячменю на крупы. Яна, цётка Марыля, і дала Ганне той мяшэчак. А Ганна як забылася ўсё адно, тыдні са два не аддавала. А ўчора вечарам, калі цётка Марыля вады ішла да калодзежа, раптам Ганна вынесла яго, на вуліцы аддала ёй той мяшэчак. Дык цётка Марыля, не хочучы вяртацца ў хату, скруціла яго тужанька і ў кішэню запхнула, а пасля забылася выняць, так, з мяшэчкам у кішэні, і на работу прыйшла.

І от там, у пуні Франусінай, агледзела яго. Зняла ватоўку з калочка ў сцяне, каб пыл і асцюкі абабіць, аж бачыць — мяшэчак у кішэні ляжыць. І засвярбела душа ў яе: умецця ўзяць! Вунь колькі наадграбалі яны яго граблямі. Гэта ж як знойдзецца. У ім жа якое каліва і зерня будзе, хоць панюхаць будзе цялушцы ці парасяці. Сёлета ж яны з Паўлюком узбіліся ўрэшце на цялушачку і парасятка і радаваліся, як дзеці. Самі ўжо, такой бяды, неяк бы і яшчэ год-другі пракідаліся, але ж Калюня і Тоня на поснасці той зусім засмяглі, свіцяцца наскрозь. Хутчэй бы прыждаць конаўкі малака і якой-небудзь

скварчыны! А ці ж лёгка прыждаць? Цялушачка, праўда, нішто сабе, гладзенькая, вясёленькая, на другое лета мо і пабегаецца ўжо, а парасё без малака і без мешанкі, на адной бульбе і траве, як і дзіця тое — укаржанела, згорбілася, хрыбцінка тонкая, як у ката. Добра будзе прыгаршчы ўмецця ўкінуць у гаршчок з травою — глядзіш, і з'есца смачней.

Так яна і зробіць — насыпле ў мяшэчак. І зробіць ціха, пакуль няма нікога, каб не было лішняй звягі, бо і так звягаюць, што чалавек яе ад коней крадзе, дамоў носіць, а ён жа ніколі ні разочку нічога нават у кішэню не ўсыпаў — курам на ласунак.

І як бы цвярозасць нейкая на яе найшла, на цётку Марылю. Тут жа прыкінула, як яна тое зробіць. За Франусінай пуняй — Юстынін шнурок. Юстына яшчэ не прыбрала з мяжы бульбоўнік — ляжыць учарнелымі кучкамі. Дык яна, цётка Марыля, прыхавае мяшэчак пад крайняй кучкай бульбоўніку, каб не шукаць пасля, а як ацямнее — падыдзе па яго. Загуменнямі, вішаннікам, хоць амаль і голым, неўпрыкмет будзе дома, балазе і вуліцы пераходзіць не трэба — гэта ж пуня Франусіна на іхнім баку стаіць.

І ўкленчыла цётка Марыля на таку, распластала мяшэчак і пагарнула прыгаршчамі ў яго вузкую гарлавінку... не, не ўмецце, а жытцо, хоць і не з таго, чысцейшага, боку, а адтуль, ад умецця. Пагарнула жытцо, бо думала не так пра цялушку і парасё, як пра Калюню і Тоню, пра гарачы і пульхны блін для іх раніцаю ці пра скавароднік-праснак, з акрайчыкам якога куды спраўнейшай будзе міска грыбной поліўкі ці капусты. І грэбла хуценька-хуценька халодна-цёплае зерне ў гарлавінку свайго чысценькага, тонкага, зрэбнага мяшэчка...

Потым паднялася, абтрапала даланямі спадніцу, закруціла, туга перавязала мяшэчак прышытай завязкай-шнурком. Падняла яго не адразу. Спачатку выйшла з пуні, зірнула сюд-туд — ні душы нідзе. Тады, супакоеная, вярнулася, узяла мяшэчак аберуч на жывот і, ужо не азіраючыся, трушком матлянулася за пуню, да Юстынінага бульбоўніку, упала там на калені, апусціла мяшэчак не на мяжу, а ў разору пры мяжы, зверху на яго перакуліла кучку бульбоўніку, а пасля і другую. Паднялася, агледзелася — усё добра, з ніводнага боку не відаць. Проста — ляжыць кучка бульбоўніку, адно што спаўзла трохі з мяжы ў разору. Паволі ўжо ў пуню пайшла.

Там пасядзела троху, пачакала Гэлі. Тая чамусьці не ішла. Тады цётка Марыля паднялася, спакойна зачыніла абедзве палавінкі дзвярэй, усунула ў прабойчык замочак-самаскок, шчоўкнула ім і гэтак жа спакойна, нават, мусіць, марудлівей, чым іншым разам, пайшла дадому. Страху не было...

Калі цётка Марыля па абедзе зноў падышла да Францусінай пуні, дык убачыла там Ксяневіча і Гэлю. Цётка Марыля напачатку нічога благога не падумала. Ці мала чаго Ксяневіч, Ксёндз той, будзе разам з Гэляй? Ён жа ў іх сталуецца... Ёкнула сэрца ў яе толькі тады, калі Ксяневіч, хмура зірнуўшы на яе, сказаў кудысьці ўбок:

— Сама пакажаш, куды схавала, ці будзем шукаць?

Цётка Марыля не прамовіла ні слова — не аднекваляся, не плакала. Моўчкі павярнулася, пайшла паволі да Юстынінай мяжы, нагнулася, асцярожна падняла бульбоўнік, які прыкрываў мяшэчак, паклала яго на ранейшае месца — на жаўтлявую, падапрэлую плямку на мяжы. Ксяневіч хвіліну пастаяў, памаўчаў, штосьці сам сабе прамармытаў. Потым адной рукой узяў мяшэчак за хахол, закінуў яго за плечы і загадаў:

— Пайшлі!

Яны, усе трое,— цётка Марыля, Ксяневіч і Гэля,— пайшлі ў Франусіну хату, дзе месцілася за перагародкай калгасная кантора. Там мяшэчак найперш быў усчэплены на кручок бязмена — пра яго Ксяневіч паклапаціўся загадзя. Заважыў мяшэчак пяцьдзесят фунтаў. Ксяневіч, быццам задаволены нечым, кракануў:

— Колькі ж гэта будзе?

Яму ніхто не адказаў.

— Колькі ж гэта будзе? — паўтарыў Ксяневіч. Павару шыўшы вуснамі, запытальна сказаў: — Роўна дваццаць кілаграмаў? Так і запішам — дваццаць кілаграмаў...

Ён сеў за стол, дастаў паперу і ручку.

Там, у канторы, цётка Марыля і расказала пра ўсё: і пра мяшэчак, і пра тое, як ён апынуўся ў кішэні ватоўкі, і як нагрэбла ў яго рукамі гэтых пяцьдзесят фунтаў жыта, і як прыхавала яго пад кучкай бульбоўніку на Юстынінай мяжы.

Выслухаўшы яе, не перабіваючы, Ксёндз загадаў ёй распісацца і адпусціў. І цётка Марыля зноў пайшла ў

Фрайусіну пуню абіваць снапы, каб можна было пасля збіць з іх кулі і прыкрыць на зіму аўчарнік і канюшню. Думала, што на гэтым усё і скончылася, і бедавала, што не папрасіла вярнуць ёй мяшэчак, а то яшчэ, чаго добрага, прападзе недзе...

Удала цётку Марылю Васіліна, Антосішына выхаванка. Яська ведае, што да вайны Васіліна жыла з маці, паспела скончыць апошняй мірнай вясной пяць класаў. А вясною сорак трэцяга маці яе расстралялі карнікі. Сядзела яна з Васілінай і яшчэ некалькі жанчын з дзецьмі ў рове ў Паддубоўі, да якога рукой падаць з Альхоўкі. Не хацелі кабеты ўцякаць з дзецьмі куды далей, спадзяваліся, што і там адседзяцца. І не пачулі, як над іх галовамі, ускрай рова, затупалі боты. Іх там, у рове, і пастралялі з аўтаматаў.

Цяпер Яська, як і ягоныя сябрукі, пасучы кароў ці швэндаючыся ў Паддубоўе па арэхі, абыходзяць тое страшнае месца, хоць ніхто з іх і не бачыў, як яны ляжалі там, забітыя жанчыны і дзеці з іхняе Альхоўкі. Хапіла з іх і таго, што расказвалі старэйшыя. А расказвалі, што нібыта некаторыя бабы і дзеці і на ногі ўскочыць не паспелі. Тая ж Васіліціна маці як сядзела на ўскрай разасланай на траве посцілкі, так і засталася сядзець, прыхінуўшыся адубянелай спінаю да гонкай алешыны.

А Васіліна ўратавалася. Адна ўратавалася. Кінулася без памяці бегчы куды вочы глядзяць, і не дагналі яе кулі. Маладыя ногі занеслі яе ажно на Лішчанскі пасёлак, ці не за шэсць кіламетраў ад таго Паддубоўя. На трэці дзень прывяла Васіліну ў Альхоўку нейкая лішчанская кабета, калі ўжо матку Васіліціну і іншых пабітых пахавалі людзі ў агульнай магіле.

Прытуліла Васіліну баба Антосіха. Дзвюм адзінокім душам, казалі ў вёсцы, будзе ўсё ж цяплей разам: мо пры старой пакрысе акрыяе дзеўчынёха, а праз гады мо і Антосішына старасць будзе пры Васіліне не такой самотнай. Так і жылі яны, адаграваючыся, адтайваючы душой адна пры адной, так і вызвалення прычакалі.

Восенню сорак чацвёртага Антосіха паслала была Васіліну ў школу, у шосты клас, аднак пахадзіла туды дзеўка нядоўга. Для шостай групы, як казала пасля баба Антосіха, была Васіліна пераросткай, пашавэлкі назаляліся — падкрадзецца каторы і балюча ўшчыпне за добра

ўжо адторкнутыя грудзі (Яська можа пацвердзіць — было такое), а галоўнае, не гарнулася дзяўчына да вучобы. І неўзабаве пайшла Васіліна ў калгас — памагала бабе Антосісе даглядаць і пасвіць авечак. Дзяўчына яна была рабацяшчая, паслухмяная, баба Антосіха не магла нахваліцца ёю. І людзі любілі і шкадавалі Васіліну. Дзед Волесь падказаў Гэлі, якая хадзіла не толькі ў брыгадзірках, але была і сакратаром камсамольскай арганізацыі, прыняць Васіліну ў камсамол. Васіліна з радасцю стала камсамолкай. А сёлета ўлетку, калі ў калгас прыгналі аднекуль да ранейшых шаснаццаці авечак яшчэ ці не пяцьдзесят, Васіліна стала не проста памочніцай у бабы Антосіхі — ужо і ёй як работніцы фермы ішлі працадні. Пра Васіліну была нават невялічкая заметка ў раённай газеце. Бацька, памятае Яська, чытаў увечары тую заметку ўголас, і ён, Яська, доўга не мог уцяміць, што ўсё тое было напісана пра Антосішыну выхаванку — надта ж усё было складна і надта ж непраўдападобна, быццам яна не авечак дурных пасвіла, а рабіла немаведама што...

Выходзіла цётка Марыля з пуні, азіралася на бліжэйшыя гароды і загуменні, нікога, здаецца, не бачыла, а яе, аказваецца, угледзела з аселіцы Васіліна. Авечкі хадзілі па той бок рэчачкі, за кустамі, а Васіліна выйшла чагосьці на гэты бераг, у канец гародаў. Пераскочыла цераз рачулку якраз у той момант, калі цётка Марыля, абняўшы аберуч мяшэчак, высунулася з пуні і пабегла трушком да Юстынінай мяжы. Пазнала цётку Марылю Васіліна. І здагадалася, што несла і чаго плюхнулася яна ля мяжы на калені, што прыхоўвала ўчарнелым бульбоўнікам. І, не раздумваючы, пашылася назад, на другі бераг, а там паза кустамі, уздоўж рачулкі памчалася бягом у вёску — да Ксяневіча. Вось Ксяневіч і сустрэў цётку Марылю ля пуні па абедзе...

— Дык што, могуць і напраўду засудзіць? — усё яшчэ не верыла маці.

— Ксяневіч загарэўся, афармляе справу ў суд, а там, пад гарачую руку, могуць і пасадзіць,— адказаў нарэшце бацька.

Маці падхапілася з-за стала, памкнулася нешта рабіць, але зноў падышла да бацькі, загаварыла:

— Ты б, Сцёпа, зрабіў бы што. З Ксяндзом пагава-

рыў бы, з дурніцай той Антосішынай, калі яна не разумее, што натварыла...

Бацька пахмура адказаў:

— Я, Паўліна, Ксяндзу твайму не ўказ. Ён як абрадаваўся ўсё адно, што недарма хлеб есць... І Васіліны лепш не чапаць. Гэля ёй нешта сказала была, дык уз'елася: «Што, злодзеяў пакрываць? Гэта будзе па-камсамольску?..» Вось і рабі тут што!

Яська больш не слухае. Ён выбягае на вуліцу.

Ужо звечарэла, але над Ырковымі таполямі вісіць у небе амаль круглы месяц, і ў ягоным малочным святле можна было нават угледзець, што нехта перайшоў вуліцу ажно ў канцы сяла, ля Маслючковых. Яська паціху брыдзе вуліцаю, цікуючы за тым, як поруч з ім, крыху наперадзе, сунецца па бруку яго ўласны цень.

Ля Паўлюковых спыняецца — нехта сядзіць на лаўцы, але ў засені страхі не пазнаць хто.

— Чаго глядзіш? Не бойся, не ўкушу,— чуе Калюнеў голас.

Яська падыходзіць, сядае побач. Не ведае ён сёння, пра што гаварыць з Калюнем. Не будзе ж ён пытацца, ці дарабіў Калюня свой аўтамат і ці прыдаўся яму кавалачак меднай трубкі, які даў яму Яська, адшкадаваўшы са сваіх прыпасаў.

Калюня раптам уздыхае:

— Мама з татам сварацца... І Тоня плача.

Яська па-дурному пытаецца:

— Чаго ж яны сварацца?

Калюня паварочваецца да яго, глядзіць на Яську. Зноў адвярнуўшыся, сам пытаецца:

— А ты хіба не ведаеш?

— Ведаю,— не стаў хлусіць Яська.

— Дык чаго пытаешся?

Зноў маўчаць. Потым Калюня кажа:

— Тоньку шкада. Калі маму забяруць... Мы з татам не прападзём. А Тонька малая яшчэ... Цэлы вечар плача...

Яську хочацца сказаць Калюню нешта добрае, але не ведае што. Урэшце гаворыць:

— Можа, яшчэ і не забяруць... А Тоня ваша не малая ўжо. Як наша Зойка. А Зойка ніколі не плача,— хлусіць ён.— І Тоня не будзе... Вось пабачыш!

Калюня сапе:

— Малая... Яна ж спіць з мамай. А маму забяруць, з кім спаць будзе?

Яська на гэты раз не знаходзіць, што сказаць.

Нечакана Калюня саскоквае з лаўкі, кажа:

— Пайду ў хату, скажу, каб не сварыліся. І з Тоняй пагуляю...

І ідзе. А Яська яшчэ колькі часу сядзіць на лаўцы адзін і стараецца ўявіць, як будуць яны — дзядзька Паўлюк, Калюня і Тоня — без цёткі Марылі, як будзе ў іх у хаце без яе, як яны з Калюнем будуць гуляць у той хаце,— стараецца і не можа ўявіць. І яму робіцца шкада ўсіх чатырох — і цёткі Марылі, і дзядзькі Паўлюка, і Калюні з Тоняй, хоць і ведае Яська, што красці — няможна, што гэта брыдка і сорамна, што крадзе толькі той, хто пазычыў у сабакі вачэй...

А ля Маслючковых чуваць гамонка, смех, воклічы. Там, на месцы спаленай фашыстамі школы, на колішнім падмурку сярод тапаляў штовечар збіраюцца хлопцы і дзеўкі. Такіх «смаркатых кавалераў», як Яська ці Калюня, хлопцы бязбожна тураць дахаты, яны разбягаюцца пад іхнімі кухталямі хто куды, але неўзабаве зноў вяртаюцца туды ж, пад школьныя таполі, на цёплыя камяні падмурка — бо дзе яшчэ можа быць цікавей! — і разыходзяцца ўрэшце толькі тады, калі нейкае ўнутранае чуццё падказвае ім, што дома, затрымайся каторы яшчэ хоць на хвіліну, чакае нешта куды горшае, чым нязлосны хлапцоўскі пляскач па рэбрах ці па ніжэйшым месцы.

Падымаецца з лаўкі Яська, ідзе таксама туды. Ціш-ком, каб не надта вытыркацца, прыцягваць увагу да сваёй яшчэ зусім кволай у месячным сяйве постаці, шыецца за дзявочыя і хлапцоўскія спіны, хутчэй нюхам учуўшы, чым убачыўшы, што яго «смаркатая гвардыя» менавіта там. Хлопцы і дзеўкі гавораць пра цётку Марылю і Васіліну. Не гавораць, а зубаскаляць. І найбольш выскаляюцца «лётчыцы» — Зінка Аленіна, Лёдзя Маслючкова, Вера Юстыніна.

— Праўду такі кажуць пра ціхае балота,— гаворыць, пацвельваючыся, Зінка.— Ціхая-ціхая, а за мяшэчак — і ў баразну!

Лёдзя, падхопліваючы, напявае:

— А я жыта не жала, у баразёнцы ляжала...

Верка з прыхліпам смяецца:

— Во ўмлела цётка, Ксяндза ўгледзеўшы!

— Не больш, чым ты ў самалёце! — азываецца хтосьці з хлопцаў.

Верка не крыўдзіцца, заліваецца галасней:

— Ты б і сам там умлеў... А Ксяндза я не забаялася б!

— А чаго табе баяцца! Перабаялася,— хіхікае Міця Кісель.

Хлопцы рагочуць, Верка кідаецца да Міці з кулакамі, але ён не чакае, пакуль яна яго дастане, сягае ў чарноту кустоў. Верка з рогатам бліскае лыткамі ўслед за ім і, пэўна, дагнала, бо стала чуваць, як штосьці па нечым гулка заляпала. Потым Міця, відаць, выкруціўся і аблапіў Верку, і ўжо яна вырывалася з ягоных клешчаў, з тым жа сваім прыхліпам заходзячыся смехам і войкаючы. Назад яны ўжо ідуць мірна.

Нехта ўспамінае Васіліну, і ўсе дружна загаворваюць пра яе — балазе самой Васіліны на падмурку чамусьці сёння няма.

— Убачыла і папёрлася як падсмаленая!

— А чаго? І правільна зрабіла:

— Так ужо і правільна! Засудзяць Паўлючыху, дык будзе табе — правільна!

— Дарма да Ксяндза пабегла...

— Ага! Трэба было, калі на тое пайшло, Гэлі сказаць ці Волесю.

— А чаму і не Ксяндзу?

— Бо Ксёндз жа!

Зноў усе рагочуць.

Смяецца і Яська. Ён, як і Калюня, як і ўсе хлопцы, не любіць участковага Ксяневіча. Не любяць яны Ксяндза і пабойваюцца. Нешта ёсць у яго паглядзе, ва ўсёй яго доўгай, хударлявай і няўклюднай — як на шарнірах — паставе, што выклікае ці спараджае хлапечую боязь. Спачатку, вядома, Ксяневіч выклікаў у хлапчукоў вялікую цікавасць. Найперш — сваёй вінтоўкай, лёгенькай і кароткай — ледзь не ў пояс яму — «галандкай». Калі Ксяневіч паяўляўся з ёй дзе-небудзь, яны навыперадкі шыліся бліжэй, каб хоць калі не патрымаць вінтоўку ў руках, дык хоць бы дакрануцца да яе. Раней, у вайну, у першы год пасля вызвалення, вінтоўкі былі ў Альхоўцы ў многіх, у Яськавага бацькі быў нават рэвальвер, а цяпер ці не ў аднаго толькі Ксяневіча і засталася, дык як жа тут прайсці міма, не падплішчыцца да яе бліжэй? Але Ксяневіч не разумеў гэтага і так аднойчы адшыў назолаў — у Яські таксама доўга смылела сцягно ад ягонага выспятка, што яны пачалі абыходзіць яго. І неўзлюбілі. І адпомсцілі яму — прыдумалі трапную і злую мянушку: Ксёндз. Наколькі была яна злой, цяжка сказаць, што датычыць

трапнасці, дык тут сумнення няма, бо неўзабаве ніхто ў Альхоўцы за вочы не зваў Ксяневіча іначай, як Ксёндз. Зрэшты, ён і праўда, казалі, быў падобны на колішняга лішчанскага ксяндза — такі ж доўгі, хударлявы і занудлівы.

А што да Яські, дык ён быў цвёрда ўпэўнены: калі ў іхняй Альхоўцы здарыцца нешта кепскае — вінаваты ў тым будзе не хто іншы, як Ксёндз. Чаму так здавалася, нікому не растлумачыў бы. Але калі спачатку на вуліцы, а пасля і ад бацькі пачуў, што Васіліна сказала пра цётку Марылю Ксяндзу, Яську асабліва стала шкада яе, цёткі Марылі.

— Цемната вы ўсе,— раптам кажа Мікола Шалак, па мянушцы Прафесар Мамлок — Сачыніцель ваксы.— Красці пагана? Факт! І Васіліна правільна зрабіла. А прыбегла яна да Ксяндза ці да каго іншага — якая розніца?

Міколу ніхто не пярэчыць. Хлопцы з яго хоць і пасміхваюцца, але паважаюць. Ну, а дзеўкі ці не моляцца на яго. Мікола паперачытваў усе кніжкі, якія толькі былі ў Альхоўцы і ў навакольных вёсках, дасылае ў раённую газету заметкі — і іх там друкуюць! — піша вершы. Недарма ж яго празвалі Прафесарам!

Яська Міколу таксама паважае. Аднак сёння ён не можа пагадзіцца з Прафесарам. Хоць ён і Сачыніцель ваксы, але — проста не ведае цёткі Марылі. Бо каб ведаў, дык так бы не гаварыў!

І Яська кажа:

— Цётка Марыля не крала, а ўзяла!

— Гэта хто? Пісар прапішчаў? — паварочваецца да Яські Міця Кісель.

— А ты Кісель-баўдзель! — крычыць Яська і дае драпака.

Міця, не дастаўшы яго, спаганяе злосць на астатняй малечы, і «смаркатая гвардыя» вымушана разбягацца хто куды.

Яська таксама ідзе дахаты. Не хацелася, вядома, ісці, можна было б яшчэ і пасядзець, каб не Кісель, але калі так — трэба ісці, некалі ж усё адно трэба. Затое за Пісара адпомшчана!

Пісарам яго ахрысціў бацька. Без злога ўмыслу, вядома. Аднойчы зайшоў да іх дзядзька з Селішча, з суседняй вёскі — яму нейкая даведка трэба была. І бацька папрасіў Яську напісаць тую даведку — у самога балела параненая рука. Яська ці не з ахвотаю напісаў тую даведку.

А бацька, хукаючы на пячатку і прыціскаючы яе да паперы, сказаў дзядзьку: «Во які пісар у мяне расце!» А ў хаце быў Толя Маньчын, сусед, і ўжо назаўтра на вуліцы Яську праходу не давалі гэтым самым «пісарам». Пажаліўся бацьку, а ён яшчэ і засмяяўся: «А хіба гэта кепска — пісар? Не зважай, хадзі, сын, Пісарам!» Толькі Яську ўсё адно было крыўдна, і ніводнага «пісара» спакойна міма вушэй не прапускаў.

Яшчэ ў сенцах пачуў Яська смачны, гарачы пах смажаных на здоры дранікаў і, адчыняючы дзверы ў хату, не думаў ужо ні пра цётку Марылю, ні пра Калюню, ні пра малую Тоню, якая прывыкла спаць пры маці і якая будзе плакаць, калі маці забяруць, ні, урэшце, пра Міцю Кісяля з ягоным «пісарам»...

Прайшло некалькі дзён. Навіна, што ўскалыхнула вёску, перастала быць навіной і пакрысе сышла з людскіх вуснаў. Не надта гаварылі пра тое, што здарылася з цёткай Марыляй, і ў Яськавай хаце: ні бацька, ні маці. Зрэшты, бацька амаль не стыкаўся дома: сыходзіў з дому рана, калі Яська яшчэ спаў, а вяртаўся позна, і ён, Яська, толькі зрэдзь часу праз сон чуў, як маці дастае з грубкі бацькаву вячэру.

Праўда, сяды-тады рэха ад здарэння з цёткай Марыляй адгукалася.

Аднаго разу, напрыклад, у школе, на перапынку, Калюня нешта не падзяліў з Уладзікам Бычкоўскім, і Уладзік, адбегшыся ад яго, крыкнуў:

— А твая матка — зладзейка!

Калюня дагнаў Уладзіка, збіў з ног, уссеў на яго зверху і давай лупцаваць. Уладзік, баронячыся, зароў на ўсё горла. Але ні Яська, ні іншыя хлопцы не кінуліся іх разнімаць. Вінаваты быў Калюня — ён першы прычапіўся да Уладзіка, адбіраў у яго нейкі шрубок ці гайку. Аднак жа і Уладзіка хлопцы не шкадавалі: быццам ён таксама зрабіў нешта брыдкае, парушыў пэўныя правілы гульні.

Калюню зняў з Уладзіка за каршэнь загадчык школы Хведар Сцяпанавіч і павёў абодвух у настаўніцкую, і там ім абодвум здорава, відаць, уляцела, бо калі яны вярнуліся на ўрок, дык былі чырвоныя бы ракі, якіх толькі што выцягнулі з вару.

А пасля пеяк зайшоў да Яськавага бацькі дзядзька Паўлюк...

Прыйшоў ён рана, у хаце і па дварэ было яшчэ цёмна. Маці, пэўна, толькі што паднялася даіць Аўтарэню. Звычайна Яська такой парою свішча ў дзве дзіркі і не чуе, як яна ўстае, як бярэ даёнку і выходзіць з хаты. А ў той раз чагосьці ці чамусьці прахапіўся, у нейкім трызпенні сеў у ложку, няўцямна паводзячы вачамі па хаце. Маці ўгледзела, што ён сядзіць у ложку, падышла да яго, спытала:

— Чаго ты ўсхапіўся, сынок?

Яська прамармытаў нешта ці не прамармытаў, маці пагладзіла яго па галаве сваёй цёплай мяккай рукой, ціха сказала:

— Спі, спі, сынок, яшчэ рана...

Яська паслухмяна лёг і, пэўна, тут жа заснуў бы зноў, калі б не пачуў у першай хаце галасоў — маці з некім гаварыла. Неўзабаве яна вярнулася сюды, на другую палову хаты, прайшла за шафу, дзе спаў бацька, азвалася да яго:

— Сцёпа, ты спіш? Там Паўлюк прыйшоў.

Бацька заварушыўся — пад ім зашамацеў сяннік, хрыпла спытаў:

— Чаго? Хто прыйшоў?

— Паўлюк жа, кажу! Падымайся, чакае ж!

Маці выйшла з-за шафы, шэрым ценем праплыла міма Яські ў першую хату. Сказаўшы там нешта дзядзьку Паўлюку, бразнула клямкай — пайшла, няйначай, да Аўтарэні.

У хаце стаяў густы, яшчэ, бадай, не світальны, а зусім начны прыцемак — адно што бялёсымі квадратамі свіціліся вокны. Бацька шамацеў за шафай — апранаўся: чуваць было, як шаргануліся па фанеры калашыны штаноў, як зашпільвалася на спражку дзяга.

Нечакана бацька падаў з-за шафы голас — не гучна, усё яшчэ хрыплавата, паклікаў:

— Ідзі, Паўлюк, сюды, чаго там топчашся!

Цераз парог амаль бясшумна слізгануў цень, зрабіў два-тры крокі на хату.

Бацька выйшаў з-за шафы ўжо ў ботах, але яшчэ белы да пояса — у сарочцы, сказаў:

— Здароў! Намацай там на стале газоўку і запалі. Я зараз.

— А не, Пятровіч, не трэба,— шэптам адказаў дзядзька Паўлюк.— Хай дзеці спяць.

— Ну, сядай тады, не стой,— сказаў бацька і пайшоў на двор.

Вярнуўшыся ў хату, ён гэтак жа, як быў, у ніжняй сарочцы прысеў да стала, па другі бок ад дзядзькі Паўлюка, закурыў. Запалка на хвіліну выхапіла яго твар у рыжаватай шчэці, калматыя бровы, прыліплыя да лоба рэдкія, ужо сівыя валасы. Потым свяціўся ў змроку толькі агеньчык цыгаркі, а калі бацька зацягваўся ёю, на кароткае імгненне выхопліваліся з цемры шчокі і кончык носа.

— Што рабіць, Пятровіч? — кашлянуў у кулак дзядзька Паўлюк.— Скора суд, кажуць, будзе.

— А ўжо нікуды не дзенешся, будзе,— адказаў бацька.

Дзядзька Паўлюк уздыхнуў, шмаргануў нагою па падлозе — пэўна, схаваў, як заўсёды тое рабіў, сваю кавялу пад лаву, прамовіў:

— Дык я ж і кажу...

Бацька маўчаў.

— Ты ж мяне, Пятровіч, ведаеш. І раслі разам, і як хлапцамі былі, і ў вайну во... Ну, ты ў лесе быў, я — тут, але ж не выракаўся, памагаў чым мог...

— Гэта я ведаю, Паўлюк...

— Ведаеш, Пятровіч, чаму ж не ведаеш,— дзядзька Паўлюк як павесялеў ці пасмялеў.— Ты ж, Пятровіч, братка ты мой, і мяне і Марылю маю... Ці ж я калі каліва чаго?.. А цяперака во, га? Суду чакаем, Пятровіч! Яна плача, а мне што рабіць? Што, Пятровіч, братка ты мой?

Бацька курыў, маўчаў. Доўга маўчаў. Ажно Яська напружыўся ўвесь у чаканні, калі бацька скажа што-небудзь. Урэшце ён, бацька, зноў высвеціўшы кончык носа і плямкі шчок з куточкамі вуснаў, сказаў:

— Храновае дзела, Паўлюк! Перамяніць тут што... Чаму ты адразу да Ксяневіча не пабег? Можа б, ён не так крута...

Дзядзька Паўлюк як махнуў рукой:

— Дык калі ж... Што да таго Ксяндза ісці, Пятровіч? Ці ж ён, як той казаў... Я да Волеся схадзіў, да цябе во...

— Што — я, што — Волесь! Ксяневіч мне сказаў тады, як паперы напісаў і падпісаў! Па закону ўсё, ка-

жа! — бацька, бы забыўшыся на Яську і Зойку, адказаў грамчэй.

Дзядзька Паўлюк раптам усхліпнуў:

— Гэта я ведаю, Пятровіч... Па закону... А, не дай бог, здарыцца бяда тая, дык мне што? Як быць? З канюшняй, з дзецьмі, з усім?

Бацька падняўся з-за стала, пайшоў за шафу, узяў там гімнасцёрку. Нацягваючы яе праз галаву, глуха сказаў:

— Зразумей і мяне, Паўлюк. Гаварыў я з Ксяневічам. Ведаеш, што ён мне сказаў? Ні ў якую! Яшчэ і голас узвысіў. «Ведаем мы гэтую партызанскую ўсёдаравальнасць!..» Ведае ён яе, партызанскую ўсёдаравальнасць... Мы нічога нікому не даравалі. Падчас нават звычайнай чалавечай слабасці...

— Дык жа, Пятровіч, цяперака ж не вайна!

Бацька абарваў яго:

— А можа, і вайна, Паўлюк! Вораг як быццам невідочны, а перамагчы яго ці лягчэй?

— Які вораг, Пятровіч? Пра што ты, братка?

— Шмат ворагаў, Паўлюк. Голад той самы, рэзрух суцэльны, бядота наша... За што найперш брацца — галава кругам ідзе!

Дзядзька Паўлюк знячэўку ўскочыў з лавы, хапіў бацьку за руку:

— Дык гэта самае... Гэтага, як ты кажаш, Пятровіч, ворага трэба іначай адольваць. Злагадою, ласкаю, ядынасцю ўсіх...

Бацька, абцягваючы на жываце і клубах гімнасцёрку, сіплавата, глуха, як з грудзей, дадаў:

— І строгасцю, Паўлюк! І строгасцю. Ласкі на ўсіх не хопіць.

— А трэба, каб хапіла, Пятровіч! Пасля такой вайны трэба, каб хапіла... Каб акрыялі людзі, адагрэліся... Каб душа іхняя на месца стала, а не матлялася, надарваная... Эх, Пятровіч, братка ты мой!! Пайду я,— нечакана скончыў дзядзька Паўлюк.— Да коней трэба...

У хаце ўжо шарэла, і Яську ці відаць было, ці толькі здавалася, што на твары дзядзькі Паўлюка блукала нешта накшталт збянтэжанай усмешкі. Ён памуляўся трохху, як не ведаючы, падаваць бацьку руку на развітанне ці не падаваць, і ўрэшце не падаў — пайшоў ціха да парога, валочачы па падлозе свой вывернуты, абуты ў чунь ступак.

Бацька ішоў за ім, быццам праводзячы. Ля парога, напаследак, сказаў:

— Выбачай, Паўлюк, сам разумееш...

— Разумею, Пятровіч, разумею,— ківаў галавой дзядзька Паўлюк, і цяжка было Яську даўмецца, што прагучала ў ягоным голасе — крыўда, расчараванне ці, сапраўды, гэтае самае разуменне.

Заснуць Яську ўжо не выпадала. Ляжаў у ложку з заплюшчанымі вачамі і слухаў, як бацька галіўся ў першай хаце — тупаватая, пэўна, брытва не хацела зразаць пругкую шчэць і шастала па шчоках, бы вехаць па гаршку, як пасля ён мыўся, плюскочучы і фыркаючы над вядром, як яшчэ пасля маці цадзіла малако, налівала яго ў конаўку — на сняданак бацьку, як яны аб чымсьці ціха гаманілі між сабою,— і ў другі раз за апошнія дні падумалася Яську пра бацьку з нейкай незразумелай, але, тым не меней, асязальнай крыўдай. Хутчэй нават не з крыўдай, а з горыччу. Упершыню такая недарэчная думка прыйшла да Яські колькі дзён назад, тады, калі бацька гаманіў за сталом з дзедам Волесем. І вось сёння — зноў. Што асаблівага сказаў дзядзька Паўлюк? Чаму Яську хочацца пагадзіцца з ім, а не з бацькам? Было боязна такіх думак. І рабілася да млоснасці горача ад сораму, ад трымклівай згадкі пра тое, што іх, гэтыя думкі, нейкім чынам можа падслухаць ці ўгадаць бацька,— і, бы на самой справе палохаючыся, Яська міжволі ўціскаўся ў падушку і нацягваў на галаву коўдру...

Не, думаць пра бацьку блага Яська не мог. Ён жа любіць бацьку!

Даваеннага яго Яська не памятае. Амаль не памятае. Як праз сон, прыгадваецца яму нешта іншае, звязанае з бацькам...

Прыгадваецца доўгае, чорнае, з надта ж глыбокімі кішэнямі бацькава паліто. Яно, халоднае, з намерзлымі ледзянымі крупкамі на крыссях, вісіць на сцяне ў першай хаце. Потым пад ім на падлозе ўтвараецца невялікая лужынка — калі таялі ад хатняга цяпла і сцякалі вадою тыя ледзяныя крупкі. Бачыць Яська гэтае паліто і чуе голас: «Пашукай там у кішэнях, сынку, мо што знойдзеш...» Да кішэняў з падлогі Яська не дастае. Валачэ, высільваючыся, табурэтку, узлазіць на яе з нагамі і, абапіраючыся адной рукой аб сцяну, другой лезе ў кішэню. Рука апускаецца ўніз, як у бяздонне, ажно пакуль не намацвае там шаматкі папяровы пакуначак. «Знай-

шоў!» — крычыць Яська. Пальцы яго ўчэпіста хапаюць пакупачак і выцягваюць на святло. Тут жа, стоячы на табурэтцы, Яська разгортвае паперу. У ёй — прыгаршчы рознакаляровых духмяных падушачак. Яська спаўзае з табурэткі, бяжыць у другую хату, узлазіць на мацерын ложак, з ложка — на ляжанку. Там высыпае падушачкі на посцілку, якой заслана ляжанка, і раскладвае іх па кучках: у адну кучку — жоўценькія, у другую — ружовенькія, у трэцюю — чырвоненькія, у чацвёртую — беленькія. З якой кучкі пачаць? З жоўтай? З ружовай? Не, так няможна. Шкада! Ён будзе браць з кожнай кучкі па адной падушачцы... Канчаецца тым, што неўзабаве на посцілцы не застаецца ніводнай цукерчыны.

А потым над Яськам схіляецца нешта вялікае — яно засланяе лямпу — і цёплае і крыху калючае, яно пахне нечым зусім іншым, чым маці, і Яська зноў чуе той жа голас, які падказваў яму пашукаць чаго-небудзь у кішэнях: «Усе з'еў? І маме не пакінуў, і бацьку ніводнай на закуску?» Яська смяецца. Хіба маці трэба цукеркі? Хіба маці ядуць цукеркі? А пра яго, вялікага і калючага, і казаць няма чаго. Ён жа вёз іх! Яны ляжалі ў кішэні яго паліто! Дык няўжо ён за дарогу ніводнай не з'еў? Не, гэта ён жартуе, няйначай лічыць Яську зусім малым і дурным...

Прыбягае з туманнай далечы і вузкая пакручастая дарога-сцежка з дзвюма каляінкамі ад калёс, яна паўзе па полі ўсё ўгору і ўгору. Гэтай сцежкай Яська з бацькам кудысьці ідуць. Пячэ сонца. Яськавы ногі не хочуць ісці. Бацька штораз азіраецца, падбадзёрвае яго, а то і пасміхваецца. Ад яго пасмешак Яську крыўдна і балюча, ён ужо зусім не можа ісці — вось зараз сядзе ў цёплы пульхны прысак і будзе сядзець. Але ён не сеў. Не паспеў. Яго рука раптам апыньваецца ў вялікай, гарачай і сухой бацькавай руцэ, бацька моцна сціскае яго руку і кажа: «Давай паспрабуем так. Я цябе буду цягнуць, а ты толькі ножкі перастаўляй. Паспрабуем?» Яська ківае галавой, і яны спрабуюць. Атрымліваецца здорава! Яськавы ногі ледзьве дакранаюцца да зямлі, невядомая сіла імкліва ўзносіць яго на вяршыню пагорка, а там дарога бяжыць-звіваецца ўніз, да кучаравага лазняку, сярод якога блішчыць-зззяе пад сонцам сажалка...

Куды яны і чаго ішлі з бацькам — Яська не ведае. Засталася ў памяці адна дарога, а яшчэ — спякотнае сонца, сухая і шурпатая бацькава далонь і тое шчаслівае ад-

чуванне — трымаючыся за бацькаву руку, можна ісці і ісці далёка-далёка, не толькі да сажалкі, што адкрылася ўнізе, у каёмцы кучаравага лазняку, але ажно за той сіні лес на небакраі, і ісці будзе лёгка і радасна...

І яшчэ адна згадка.

У іхняй хаце — госць. Мацерын брат, а яго, Яськаў, дзядзька. Камандзір. Памятае Яська бліскучыя боты, шырокі рэмень, на рукаве — залаты вугольнік. Дзядзька ехаў да іх пятнаццаць сутак. Адтуль, дзе канчаецца зямля і пачынаецца мора. Называецца тое месца Далёкім Усходам. Чаму Усходам? Дзядзька зусім сур'ёзна кажа, што там з мора ўзыходзіць сонца. Ён прывёз Яську падарунак — шапку-кубанку. Такіх шапак ён ні ў кога дагэтуль не бачыў. Яна круглая, справа і злева ў поўсці намацваюцца кручкі. Калі гэтыя кручкі расчапіць, ззаду апускаецца заслонка, якая прыкрывае вушы і патыліцу. Шапка чорненькая, мякенькая, уся льсніцца, ажно блішчыць. Дзядзька кажа, што пашыта шапка з марскіх коцікаў. Яська не верыць. Хіба ёсць марскія каты? Дзядзька весела смяецца і кажа, што — ёсць. І малюе Яську нейкага смешнага, дзіўнага звера — з маленькай мордачкай, без вушэй і без хваста, з нейкімі кульцяпкамі замест лап. Хіба ж гэта кот? «Марскі кот»,— кажа зусім сур'ёзна дзядзька. Няхай сабе, пагаджаецца Яська, галоўнае — шапка прыгожая. Праўда, крыху яму вялікаватая, але ж то не бяда: Яська падрасце. Маці ім не замінае — яна бегае то з хаты, то ў хату, грыміць па прыпеку патэльняй. А бацькі — няма, ён — на рабоце. Раптам дзядзька пытае: «А ці не схадзіць нам да твайго бацькі? Госць прыехаў, а яго няма. Дарогу ведаеш?» Яська ледзь не плача. Каб ён ды не ведаў дарогі да сельсавета, дзе робіць бацька! І праз хвіліну яны ідуць па вёсцы. Яська, нягледзячы на лета, у новай шапцы-кубанцы — хай усе бачаць, хай усе зайздросцяць! Шапка ж не абыякая, а з марскіх коцікаў!..

Бацька сядзіць за сталом. Угледзеўшы іх на парозе, падхопліваецца, выскоквае з-за стала. Дзядзька абдымае яго, яны цалуюцца. А Яська стаіць побач і тузае бацьку за штаны: чаму ён не бачыць, што ў яго на галаве?..

І — усё! Далей — правал. Як ішлі дадому ўтрох — не памятае. Ці доўга гасцяваў у іх дзядзька — таксама не памятае...

А па-сапраўднаму ён памятае бацьку партызанам. З той першай начы, калі бацька пастукаўся ў акно, ля

якога і тады стаяў, і цяпер стаіць Яськаў ложак. Аднак жа першай ад таго стуку прахапілася маці, а не ён, Яська. Ён выскачыў з-пад коўдры ўжо тады, калі бацька ўжо быў у хаце і маці ў белай сарочцы вісела ў яго на плячах. Бацька ўхапіў і Яську на рукі, паказытаў яго шорсткімі, абсіверанымі вуснамі.

Потым, калі маці завесіла акно ў першай хаце посцілкай і запаліла агонь, Яська ўбачыў, што бацька прыйшоў не адзін, а з таварышам. Яны не распранаючыся пераабуліся — маці падала ім свежыя пакачаныя анучы, потым, зняўшы шапкі, селі за стол, маці сабрала на скорую руку вячэру. І бацька і ягоны таварыш елі прагна, на поўніцу, і Яська, мусіць, з нейкім страхам і здзіўленнем глядзеў на іх, і ці не ўпершыню тады ён скалануўся ад нечакана зробленага адкрыцця: яны былі галоднымі! І не проста галоднымі, як можа быць галодным чалавек, якому штосьці пільнае перашкодзіла своечасова паабедаць, а — згаладалымі...

Потым яны — Яська, маці і малая Зойка — яна нарадзілася ў вайну — жылі ў лесе, у так званым цывільным лагеры, за пару кіламетраў ад лагера партызанскага, і бацьку яны бачылі часта. Ён забягаў, праўда, заўсёды ненадоўга, то адзін, то не адзін, з іншымі партызанамі; забягаў, ідучы на заданне, а часцей — вяртаючыся з задання,— стомлены, зарослы, выкачаны з ног да галавы то ў гразі, то ў снезе, і на яго шапцы-кубанцы (пасля дзядзькавага падарунка Яська ўжо ведаў, што такія шапкі завуцца кубанкамі) заўсёды трымцела шыгалле, а то альховы ці вузкі лазовы лісток. Кожнаму бацькаваму прыходу Яська бясконца радаваўся, кідаўся паліць бацьку на рукі з конаўкі, непрыкметна дакрануцца да яго вінтоўкі, а пасля і да рэвальвера — з кабурой бацька стаў хадзіць тады, як яго прызначылі палітруком роты. А маці штораз плакала, і бацька то цішком супакойваў яе, то часам злаваўся — тады, калі ён прыходзіў не адзін, калі ля ўваходу ў зямлянку яго цярпліва чакалі таварышы. Аднаго разу бацька вярнуўся паранены, і тады, памятае Яська, маці ўжо не ціха хліпала, а плакала ўголас, наўзрыд, а бацька прысядаў на параненай назе і казаў, што ў яго не рана, а драпіна, якая да заўтрашняга дня загоіцца...

Узімку, памятае Яська, яны жылі ў прылеснай вёсачцы Стайкі, у апусцелай дзедавай хаце: усю дзедаву сям'ю фашысты пагналі ў Нямеччыну. Аднаго вечара перапало-

халіся ад гаманы на вуліцы. Выскачылі з хаты. Уся вуліца была запружана партызанамі.

Сядала сонца — зыркае, няйначай на мароз, ад коней і ад людзей ляжалі на снезе доўгія блакітныя цені. І панавала наўкол нейкае радаснае, святочнае ўзбуджэнне. Людзі гучна перагаворваліся, перагукваліся, смяяліся.

Партызаны былі ў вёсцы да ночы: ва ўсіх хатах паліліся печы — варылася бульба, скварчэла сала, ва ўсіх дварах, а то і проста на вуліцы, пры варотах, коні хрупцелі сена з вазкоў і саней. Вёска позна не лягала спаць: ажно пакуль — недзе за поўнач — партызаны не рушылі далей. Яны пакідалі Стайкі некалькімі калонамі, і наперадзе адной калоны ішоў Яськаў бацька — у белым кароткім кажушку, у белых валёнках, у белай аўчыннай кубанцы. І Яська бег поруч з ім да апошняй хаты, дзе бацька выпусціў яго руку са сваёй і загадаў вяртацца дамоў, да маці і Зойкі, а то яны будуць непакоіцца. Яська слухмяна памчаўся па прытаптанай вуліцы дахаты: там, канечне ж, хвалюецца маці! А за бацьку ён не хваляваўся. Не асмеляцца фрыцы зрабіць бацьку што-небудзь благое — вунь якая партызанская сіла пайшла разам з ім! Людзі казалі, што партызаны пайшлі граміць гарнізон у Лядах, аднак праўда гэта ці няпраўда — ніхто дакладна не ведаў. Адно ўсе разумелі, што пайшлі партызаны не на пагулянку...

Яська моцна спаў, калі ўранку партызаны вярталіся назад. Старэйшыя хлопцы расказвалі пасля, што везлі яны вялікія трафеі. Везлі і параненых. А на двух апошніх санях ляжала пяцёра забітых партызан. Яськаў бацька забягаў на хвіліну ў хату, але будзіць сына не дазволіў...

А потым яны доўга не бачылі бацькі. І нашых сустрэлі без яго. Без яго вярнуліся ў Альхоўку, у родную хату. Бацька паявіўся ў ёй на трэці, здаецца, дзень. Яська не адразу і пазнаў яго, убачыўшы ў двары: быў бацька страшэнна худы, правая рука вісела на марлевай павязцы.

Маці купала бацьку сярод хаты ў ночвах, пасля, бы малога, на руках занесла яго ў ложак і пакарміла з лыжкі. Яна ж скруціла яму цыгарку, прыпаліла яе і няўмела падала ў рот. Бацька некалькі разоў прагна зацягнуўся, а потым зняможана падаў левай рукой цыгарку маці:

— Затушы, Паўліна, не магу... Галава кружыцца, у вачах усё плыве...

Яны ўтраіх — маці, Яська і Зойка — сядзелі ля яго, а ён, часта і неглыбока дыхаючы, расказваў:

— Сілы ўжо не было. Тры дні назад з'елі па апошняй жменьцы аўса. Вусны засмяглі, запякліся, патрэскаліся, па горле нібы хто таркай дзярэ... Санлівасць апанавала. Адно — каб легчы і не ўставаць... А зверху самалёты... Многа яшчэ пагінула там, на Паліку... Ну, і пайшлі на прарыў. Усе беглі, і я бег. Адно думаў — каб не ўпасці. Бо калі ўпаду — не падымуся...

Там бацьку параніла. У руку ніжэй локця трапіла разрыўная куля. Болю, пакуль бег, не чуў, казаў, адно толькі млоснай гарачынёй залівала вочы.

Яго пасля, як партызаны сустрэліся з нашымі, хацелі адправіць у шпіталь — настолькі быў знясілены і хворы. Але бацька ўпрасіў адправіць яго дадому. Просьбу ўважылі. Агледзелі рану, перавязалі, і бацька на машыне даехаў з байцамі да Лішчыц. Адтуль, адпачываючы, прыбрыў пешкі...

Сіла да бацькі вярталася марудна. Маці з ног збівалася, каб расстарацца чаго пакарміць яго. А яшчэ бяда — не хацела загойвацца рана. Некалькі разоў, памятае Яська, прыязджаў да іх з Лішчыц стары фельчар Сянкевіч, глядзеў бацькаву руку, цмокаў языком і гаварыў, смешна круцячы галавой:

— Я ўсяго толькі фельчар, усяго толькі фельчар...

А аднаго разу зусім быў напалохаў маці:

— Баюся, маладзіца, каб не давялося рэзаць... Не падабаецца мне рана, хоць я ўсяго толькі фельчар...

Рана не падабалася і маці: яна гнаілася, з яе ўвесь час сачылася нейкая сукравіца. Аднак жа фельчар Сянкевіч памыліўся. Урэшце перастала яна гнаіцца і пачала зацягвацца. І на мітынгу, прысвечаным дваццаць сёмай гадавіне Кастрычніка, бацька ўжо быў без павязкі цераз плячо, хоць рука ўсё яшчэ балела, рабіць ёй што-небудзь ён не мог. Балела яна ў яго доўга. Яшчэ і зараз, заўважае Яська, яна бацьку баліць, ные, асабліва на перамену надвор'я, і тады бацька ходзіць неяк бокам, левай рукой асцярожна падтрымліваючы правую — параненую.

На фронт бацьку не ўзялі. Ён зноў, як і да вайны, стаў старшынёй сельсавета. Будынак сельсавета ацалеў. Пэўна, таму, што стаяў наводшыбе, у самым канцы вёскі, за мастком цераз плыткую і вузенькую Бачылаўку. Было ў ім, праўда, несамавіта — многія шыбкі застаўлены фанеркай ці кардонам, у падлозе былі дзіркі, тынкоўка ў многіх месцах адсырэла і паадвальвалася, аднак

жа гонтавы дах не працякаў, і працаваць можна было.

Першую восень бацька сам грэў у сваім кабінеце грубку, сяк-так абмазаўшы яе, каб не сачыўся дым, белай глінкай, і сам жа насіў туды на плячы, ідучы з дому, бярэмца дроў, -перавязанае раменным паскам. Часам жа гэты клопат — занесці дроў і хоць збольшага прапаліць настылую будыніну — ляжаў на Яську. І ў тыя дні, калі яму выпадаў такі клопат, ён падоўгу аціраўся ў сельсавеце, бачыў людзей, што прыходзілі сюды з розным сваім клопатам, слухаў іх гаворкі з бацькам, і яму было прыемна, што людзі прыходзяць менавіта да ягонага бацькі, пачціва называюць яго Пятровічам, і лічыў Яська, што так і трэба, што іначай і быць не можа, бо яго бацька — не абы-хто, а палітрук роты, адважны партызанскі камандзір.

І як бы ні любіў Яська таго ж дзеда Волеся ці дзядзьку Паўлюка, аднак жа ніколі і думкі не дапускаў, што іх можна параўнаць з бацькам. Ні дзед Волесь, ні дзядзька Паўлюк у партызанах не былі. І хоць яны, бацька неяк казаў, памагалі партызанам, і па гэтай прычыне іх таксама, бадай, можна залічыць да партызан, але Яська з гэтым не пагаджаецца. Што б хто ні казаў, а Яська пэўна ведае, што ў калоне партызан, якія выпраўляліся са Стаек граміць фашысцкі гарнізон у Лядах, ні дзеда Волеся, ні дзядзькі Паўлюка не было, а бацька — быў, і ішоў паперадзе, а не плёўся ззаду, у хвасце. Гэта — раз! А другое — ні дзядзька Паўлюк, ні дзед Волесь ні разу не былі паранены, а бацька — два разы. І, нарэшце, не каго-небудзь, а бацьку паставілі старшынёй сельсавета. Не, бацькаў аўтарытэт для Яські — непарушны!

Дык чаму ж цяпер ён нібыта засумняваўся ў бацьку? Што змушае Яську думаць, быццам дзед Волесь і дзядзька Паўлюк ведаюць і разумеюць нешта большае, нешта важнае і істотнае, чаго не можа ці не хоча зразумець бацька? З ім самім загаварыць пра гэта Яська не рашаецца. Ні з ім, ні з маці. Як ён можа адкрыцца ім, калі сам палохаецца такіх думак? Ён адчувае смутную, але неадступную неабходнасць разабрацца ва ўсім самому. Гэтае адчуванне спараджала надзею, спадзяванне на тое, што павінна здарыцца нешта такое, што прыадчыніць перад ім заслону, высветліць усё да драбніц, расставіць па месцах, і тады ён, Яська, паспавядаецца і перад самім сабой і перад бацькам...

А пакуль што нічога не здаралася. Дарослым хапала клопатаў і ў калгасе і дома: дакапаць апошнія баразны бульбы, давесці да ладу гароды — перабраць кучкі буракоў на градах, пасцягваць з платоў і парканаў ахапкі шапаткой, добра падсохлай фасолі і занесці пад застрэшкі, каб пасля вечарамі пералушчыць яе ў торбачкі ці гарнушкі, засыпаць апалым лісцем ці мяленнем прызбы вакол варывенек. А яны, дзеці, бегалі ў школу, а надвячоркамі гойсалі па вуліцы, лупячыся ў «пікара» ажно да той пары, пакуль ужо не стане відаць таго каменя, які ты павінен збіць сваім кіем.

Ім, Яську і ягоным сябрукам, было па малу гадоў. Палічыць іх яны маглі на пальцах, і яны, вядома, былі ўсяго толькі дзецьмі. Найперш — дзецьмі. Дзецьмі яны былі і ў вайну. Але тады ў іх не было нават «пікара». Было адзінае — страх. Жахлівы, пякельны, недзіцячы страх. Ён аднойчы сціснуў іх сваімі жалезнымі кіпцюрамі і не адпускаў ні на хвіліну — нават уначы, у сне. Пазбыцца гэтага страху, гэтай неадчэпнай жуды — ці было ў іх іншае жаданне? Яны былі дзецьмі ўжо новага часу, іх не вучылі малітвам, аднак жа яны — маліліся. Маліліся моўчкі і ўголас, маліліся раніцамі і вечарамі, і малітва гэтая была кароткая, адзіная і шчырая, як іхнія сэрцы:

— Каб хутчэй прыйшлі нашы!

— Вось прыйдуць нашы...

— А як прыйдуць нашы...

— Хай бы толькі прыйшлі нашы...

— Нічога, нашы прыйдуць, і тады...

— Пабачыш, прыйдуць нашы...

Нашы не маглі не прыйсці!

І яны прыйшлі...

Уранку таго гарачага ліпнёвага дня, як яны прыйшлі, Яська з маці і Зойкай сядзелі ў лесе. Яшчэ ўчора паблізу стралялі. Уначы неба крывавіла зарыва. А ранак наступаў ціхі, сонечны, цёплы. Але Яськава маці, як і маткі іншых дзяцей, ужо не верыла гэтай цішыні. Яны развучыліся верыць нават сонцу, бо вельмі часта наплывалі на сонца чорныя клубы ад пажарышчаў. І разам са сваімі маткамі не верылі той ранішняй цішыні і яны, дзеці.

Учора надвячоркам яны выбраліся з гнілога, балоцістага лесу сюды, на сухі сасновы груд. Іх, некалькі жанчын з дзецьмі, прывёў сюды дзед Цімох са Стаек. Ён згубіў дзесьці ў лесе сваю старую і, блукаючы ў пошуках

яе, набрыў на іх. Яськава маці і яшчэ сёй-той з жанчын ведалі дзеда Цімоха і ўпрасілі яго не пакідаць іх — пры мужчыне ім было спакайней. Дзед бедаваў па сваёй старой, не хацеў важдацца з іх «цыганскім табарам» (так досыць зласнавата ахрысціў ён іхнюю зборню), але пасля як зжаліўся:

— Ладна, так і быць, завяду вас на Пыталеву грыву. Мо і мая авечка даўмеецца туды выйсці. Там гіцлі прайшлі ўжо, другі раз наўрад ці вернуцца...

І яны паціху пабрылі гуськом за дзедам, скачучы з купіны на купіну, раз-пораз зрываючыся нагой з асклізлай патырчакі і па пояс правальваючыся ў затхлую балотную рудáўку. І чым далей ішлі, тым вусцішней рабілася ім.

Там, дзе канчалася дрыгва і пачыналася сушэйшая імшарына, пачалі яны натыкацца на тое, што пакінулі пасля сябе карнікі. Спачатку ўгледзелі некалькі застрэленых кароў. Яны паўздзімаліся ад спякоты і ляжалі бы копы, і над імі віліся плоймы мух.

Потым убачылі чалавека. Жанчыну. Твар яе закрывалі сівыя паклычаныя валасы.

Яська ціснуўся бліжэй да маці і стараўся не глядзець у той бок, а галава ўсё адно паварочвалася туды, і маці сярдзіта тузала яго за руку, каб ён не азіраўся...

Маці адной рукой — на другой руцэ сядзела Зойка — абняла яго, прытуліла да сябе, зашаптала:

— Я ж казала, сынок, не глядзі... Не трэба глядзець, дзіцятка. Ідзі і не азірайся. Не азірайся, сынок, не трэба...

І ён ішоў, тулячыся да маці, і не падымаў вачэй — стараўся глядзець сабе пад ногі.

На Пыталевай грыве дзед Цімох пайшоў ад іх.

— Тут, бабы, блізка да Лозак. Вунь на тую сасну кіруйцеся, не збочвайце, дык і Лозкі будуць. А Стайкі ў тым баку,— махнуў ён рукою ў другі бок.— Да Стаек таксама недалёка. Туды дык і сцежка ёсць. З таго боку грывы... А я пайду, пашукаю старой,— сказаў ён і знік у сасонніку.

Ужо сутоньвалася, і ні ў Лозкі, ні ў Стайкі ніхто з жанчын не пайшоў. Стома валіла ўсіх з ног. Парашылі тут заначаваць, а раніцою будзе відаць, што рабіць.

Спалі яны на сасновых лапках, ахінуўшыся хто чым мог. І неяк пракідаліся да раніцы. А раніцою адны жанчыны пайшлі ў Лозкі, а рэшта — у Стайкі. Яськава маці

таксама наважылася падавацца ў Стайкі — там былі знаёмыя, свае людзі, мо і хата дзедава ацалела.

Спусціўшыся з Пыталевай грывы, яны натрапілі на парослую, затравелую сцежку — няйначай на тую, пра якую гаварыў дзед Цімох. Сцежка забірала то ўлева, то ўправа, і канца ёй, здавалася, не будзе. Другі дзень ніхто з іх нічога не трымаў у роце, аднак есці ўжо як і не хацелася — адно мучыла смага. Каб хоць глыток вады! Ды бутэлька ў мацерыным хатулі была пустая.

Лес скончыўся нечакана. Яны выткнуліся на поле і аслупянелі: па дарозе ў Стайкі — да вёскі было рукой падаць — няспынна, адна за адной пылілі машыны. Немцы! Пасля мінутнай анямеласці яны матлянуліся назад, зноў пад уратавальны схоў узлеску.

Але нешта не тое было ў тым няспынным руху машын. Сюды, на ўзлесак, даплываў гул матораў, і гул гэты таксама быў нейкі інакшы, не такі, які яны прывыклі чуць за ўсе гэтыя тры страшныя гады,— нешта ў ім было як святочнае, радаснае, урачыстае.

Потым нечакана на ўзлеску ля Стаек разануў гармонік...

— Бабы, дык гэта ж нашы!..

Яська не ведае, не памятае, хто гэта крыкнуў. У тую ж хвіліну ён ірвануўся ад маці і на злом галавы панёсся да вёскі — адкуль толькі і сіла ўзялася. Дарма клікала, крычала яму нешта маці: у вушах ягоных стаяла адно — «Гэта ж нашы!..»

Бег ён напрасткі, не выбіраючы дарогі. Не памятае, ці па загоне бульбы, ці па лузе. Неслі яго ногі самі. Ён бег, і, пэўна, нешта крычаў, і з тым крыкам уварваўся ў вёску, і ўшыўся з разгону ў натоўп на крыжавых. Нейкая бабуля, памятае, нечакана затрэсла яго за плечы, павярнула да сябе:

— Дзіцятка, чаго ты крычыш?

Яська не адразу дацяміў, што яна кажа, адно паказваў рукамі на машыны і крычаў:

— Дык жа во яны! Во!

Бабуля плакала:

— Яны, дзіцятка, яны, збавіцелі нашы! Ты не крычы толькі...

Але ён усё адно крычаў, падскокваў і кожнай машыне, якія пылілі па крыжавых, махаў рукамі.

Нашы прыйшлі...

І з прыходам іх дзеці вырваліся з-пад апекі сваіх мацярок...

Доўгія тры гады маці трымалі іх пры сабе неадступна, як неадступна пільнуюць птушкі сваіх птушанят, каб яны не сталі лёгкай здабычай коршака. І яны, дзеці, пакорліва сядзелі пад мацерынымі цёплымі і надзейнымі крыламі, і, будучы галоднымі, умелі не прасіць есці, і, будучы кволымі, умелі трываць, ціха ляжаць нічком і не захлынуцца ў балотнай вадзе між купінамі, без нэндзы плесціся моўчкі ўслед за маці пад сіверам, у восеньскую слату і ў летнюю спёку.

А тым днём, калі яны ўбачылі нарэшце маленькія чырвоныя зорачкі на запыленых, абпаленых і прабітых кулямі пілотках, то як сарваліся з прывязі. Яны ашалелі. Ашалець жа было ад чаго. Ім раптам стала ўсё дазволена. Тое, што было недаступна цэлыя тры гады, стала раптам даступна.

Гойсаць па вуліцы да паўночы...

Гуляць у свае дзіцячыя гульні...

Чытаць кніжкі...

Майстраваць...

Спаць...

Сварыцца і мірыцца...

Як гэта было шмат!

І яны безаглядна кінуліся ў гэты вір — як з высокага берага, з разгону. І маці не стрымлівалі іх. Маці быццам самі раптам абрэзалі ўсе павадкі, на якіх так доўга пільна іх пасвілі. Пэўна, мацяркам іхнім і самім патрэбен быў час для адхлання — каб ацверазіцца, адчуць сябе ўрэшце на гэтым свеце, каб зведаць бязважкую лёгкасць самлелага ўжо не ад страху цела...

Яны, дзеці вайны, быццам свядома разумелі і гэта. І былі непатрабавальныя. Бацькава ватоўка, якая спаўзала з плячэй, не бянтэжыла іх. Старыя апоркі, сяк-так прыбітыя цвікамі да драўлянай калодкі-падэшвы,— чым не абутак! Дзедава аблавушка, знойдзеная на гарышчы, абседжаная курамі, з вылезшымі касмылямі рудаватай ваты,— чым не шапка! Зрэбная торба з вераўчанай шлейкай— чым не партфель! Драўляны пісталет, вычасаны ўласнаручна сякерай з абрэзку аполка,— чым не цацка!

Адзінае, што іх найперш даймала і чым, нягледзячы на ўсю сваю цярплівасць, яны найбольш даймалі сваіх мацярок, была яда. Есці ім хацелася заўсёды. Нават тады, калі вылазілі з-за стала і калі іх жываты наліваліся

ніпчымным пічаўем ці заціркаю па завязку і тырчэлі пад сарочкамі, як гарбузы.

Есці!..

Хачу есці!..

Дайце есці!..

Гэтым нямым крыкам іх лёгкіх, бы перына, схуднелых да слюдзяной прызрыстасці — наскрозь свіцяцца! — цел і была, пэўна, народжана славутая пасляваенная эпапея апусташальных набегаў на чужыя сады і гароды. Аскомная гарчэча парэчкавых ці агрэставых зялепух, мляўкая даўкасць яблыневай завязі, хрумсткая крамянасць бручкі і морквы, сыраватая елкаватасць гароху і бобу — усё гэта ведалі іхнія зубы, і ніпто гэта не палохала іхнія жываты...

Садоў у Альхоўцы пасля вайны было мала. Ігрушыдзічкі ці слівы яшчэ тырчэлі сям-там на гародах, дзе-небудзь на ўзмежках, а сады былі рэдка ў каго. Ды і то — якія там сады! Па пяць-шэсць яблыняў.

Купаціліся яны над градамі ў старога Смаркуля, у дзеда Волеся і ва Улімы. Найбольшай увагай памаўзоў карыстаўся Улімін сад. У яе і яблыкі былі лепшыя, смачнейшыя — чырванабокія, часам ажно рудыя «цыганы» і буйныя, жаўтлява-белыя анісы, і сцерагла свой сад Уліма пільней, чым іншыя.

Да дзеда Волеся Яська і іншыя хлопцы лазіць у сад не рашаліся — старшыня калгаса ён, не абы-хто. У Смаркуля ж раслі адно познія, заўсёды пабітыя чарнатой і дробныя антонаўкі, іх ён не пільнаваў, а калі выпадкова і высочваў каго-небудзь, дык не сварыўся і не кідаўся ўслед з дубцом ці крапівай, а толькі казаў:

— Чаго ж ты грады бэрсаеш, байструк? Я ж бы табе і сам натрос гарчэчы таей, калі табе так закарцела! От матцы скажу!

«Матцы», аднак, дзед Смаркуль ніколі нічога не гаварыў, і «байструкі» ўжо за адно гэта без пільнай патрэбы лішне яго не турбавалі.

А з Улімай у іх ішла сапраўдная вайна. Варожасць была ўзаемная, і ў сродках абодва бакі былі непераборлівыя. Уліма пільнуе сад ноччу? Добра! Яны аблатошаць анісаўку вечарам, на захадзе сонца, калі Уліма, пайшоўшы вады, загамоніцца ля калодзежа з якой-небудзь кабетай ці дзеўкай. Яна апляла плот калючым дротам? Ну, дык яны затое пакладуць той плот на зямлю, на ўзмежак,— усе шэсць праслаў. Яна насыпала пад

крайняй «цыганкай» патрушчаных бутэлек? Няхай! Яны ўдарацъ па той «цыганцы» магутным кіёчным залпам, і хай тады Уліма сама ходзіць па тых шкляных аскялепках і збірае ў кош іхнія абіванкі. Уліма прынесла з Ліпчыц шчанюка? Грэшна губіць жывую душу, яны гэта добра ведаюць, аднак жа не пабаяцца граху і накормяць шчанюка так, што назаўтра ён ужо і не цяўкне.

Уліма штораз пасля іхніх набегаў выбягала на вуліцу і крычала так, што было чуваць у абодвух канцах Альхоўкі:

— Людзі, ратуйце! Зноў гэтыя паліцаі яблыньку пахрабусталі!.. А мой жа ты татачка, а навошта ж ты іх садзіў, навошта ж паліваў-прышчэпліваў?..

Часам яна пазнавала каго-небудзь з «паліцаяў» і тады ішла сварыцца да яго маці. Прыходзіла яна і да Яськавай маці. Памятае ён. Яшчэ не адчыніўшы дзвярэй у хату, Уліма пачала крычаць у сенцах:

— Ты думаеш, схаваўся, уцёк? А мне хіба выслепіла, што гэта быў Паўлінін апоўзлік? Мала таго, што панёс цэлую запазуху, дык яшчэ і сук адваліў... Паўліна! — павышала яна голас у хаце.— Дзе твой вешальнік? Схадзі, паглядзі, што ён натварыў! Схадзі, схадзі! Такі сук на зямлі ляжыць, каб ён сам так па зямлі пластаўся!..

Маці, якая напачатку была настроена памяркоўна і гатова была ўжо паспачуваць Уліме («Ці ж я яго навяжу, Улімка? Упыну няма! І лупцую ж яго, каб ты ведала!..»), нечакана накінулася на Уліму:

— Гэта ж што ты кажаш? Гэта каб маё дзіця пласталася? Гэта табе яшчэ мала таго, колькі ён напластаўся? Ідзі, ідзі з хаты, Уліма, не ўводзь у злосць!

І Уліма ляпала дзвярамі і крычала ўжо на двары і на вуліцы:

— А каб вас разам папластала! І сынка такога, і матку яго...

Нягледзячы, аднак, на такі зыход візіту Улімы, маці ўсё ж адлупцавала Яську.

— Не лезь,— казала,— і ў той бок не глядзі! Не так ты таго яблыка наясіся, як звягі наробіш... А бацьку і без таго дастаецца...

Пра сябе маці ніколі не гаварыла, сама на сябе не зважала...

Зрэшты, Яська не належаў да самых заядлых памаўзоў-зялепушнікаў. У самога і думкі ніколі не было, каб палаташыць ва Улімы анісавак. А вось адмовіцца ад кам-

паніі — не мог. Там уступалі ў сілу іншыя законы. Адмаўляешся? Ага, значыць, баязлівец, мамчын сынок! Заслужыць такую абразу? Ды нізавошта! І Яська шчыраваў, можа быць, больш заўзята, чым той, хто яго падбіваў злазіць у чужы сад ці гарод, і лез туды ці не першым, выказваючы пры гэтым адчайную смеласць і нават нахабства.

Аднойчы гэтая яго дурная смеласць скончылася для Яські ў поўным сэнсе слова трагічна. У час чарговага набегу на Улімін сад ён адважыўся на тое, каб ускараскацца на яблыню і натрэсці сябрукам яблыкаў з верху — самых лепшых. Натрэсці ён натрос, ды злезці з яблыні не паспеў. Уліма спарола яго кіем. Ён ужо зміры́ўся з тым, што той кій добра паходзіць па спіне, калі Уліма абвіла яго руку сваімі сухімі, бы кіпцюры, пальцамі. Але біць яго Уліма не спяшалася. Яна нават, наўздзіў, і голасу не падала. Моўчкі прывалакла яна Яську ў свой двор, на дрывотню, сарвала з яго сарочку і, як ён ні бараніўся, штонікі, пасекла іх сякерай на калодцы і, падаючы яму ашмоцце, сказала:

— На, дзіцятка, занясі матцы!

Божа, каб на той час у ягоных руках была тая сякера, ён бы без жалю пасек бы яе самую на калодзе на дробныя кавалачкі! Так ён ненавідзеў Уліму! Ён вырваўся з яе рук, падхапіў тое, што засталося ад ягонай паркалёвай сарочкі і картовых штонікаў, і прыпусціў не на вуліцу — голы ж! — а на гарод, з гарода — на аселіцу, а там, хаваючыся за кустоўем, крадком прабраўся на сваё гумно і, ахінуўшыся посцілкай, у якой маці зносіла з абмежкаў траву, зашыўся ў пуні ў сена. Маці знайшла яго няскора — ён, сплакаўшыся, заснуў у сене. Яна не стала яго біць, моўчкі завяла ў хату, знайшла нейкія яго колішнія абноскі, падала надзець.

А цётцы Марылі, чуў Яська, сказала неяк пасля:

— Не баба ўсё-ткі Уліма, а га́даўка! Гітлерка! Няма таго, каб крапівай адсцёбаць — адзежу пасекла...

Аднак жа лазіць у чужыя гароды Яська ад таго часу зарокся. Не паддаваўся ні на якія ўгаворы, падбухторванні, кпіны і здзекі. І сябрукі адчапіліся, пакінулі яго ў спакоі...

З прыходам нашых малыя альхоўцы жылі яшчэ троху і вайною. Тыдні са два, пэўна, у лесе, у Паддубоўі, на аселіцах паабапал Альхоўкі, а то і ў чыёй-небудзь лазеньцы пры рэчцы лавілі немцаў, што трапілі ў акружэнне і ба-

дзяліся наўкол, не спяшаючыся здавацца ў палон, баючыся ці ўсё яшчэ на нешта спадзеючыся. Адны з іх былі ўзброены, іншыя — без зброі. Лавілі іх, вядома, дарослыя, але і яны, дзеці, прымалі ў гэтым самы актыўны ўдзел. Прынамсі, калі злоўленых немцаў — аднаго, двух, а то і пяцёх — прыводзілі да сельсавета, каб пасля адправіць далей, у раён, Яська з кампаніяй тоўкся тут неадступна. Немцы ўжо былі зусім не страшныя — абарваныя, зарослыя шчэццю, брудныя, галодныя і надта ж пакорлівыя. Яны ляжалі альбо сядзелі на траве ля сельсавета, і дзеці падыходзілі да іх блізка і пазіралі на іх смела і пагардліва, а немцы стараліся не глядзець на іх, хавалі вочы, апускалі галовы. Цяпер альхоўцы лавілі немцаў, а не альхоўцаў немцы, і Яську, як і іншым хлопцам, было весела ад гэтага, і калі, пакуль немцаў вялі па вуліцы, сёй-той з хлапчукоў мог яшчэ шпурнуць у іх грудкай ці каменем, дык ужо там, ля сельсавета, калі немцы ляжалі ці сядзелі пад старой расахатай вярбой, Яську ўжо рабілася ці не шкада іх.

Вайна, што адсунулася ад Альхоўкі далёка на Захад, азывалася ў вёсцы і пісьмамі. Яны былі і радасныя і горкія, тыя пісьмы. Горкіх, здаецца Яську, было больш. Калі раптам у адным канцы вёскі — у гаранцаў — ці ў другім канцы — у канчанцаў — ці пасярод, паблізу ад Яськавай хаты, чулася жаночае галашэнне і плач дзяцей і вёска сцішвалася, аддаючыся ва ўладу таму горкаму, няўцешнаму галашэнню і плачу, Яська ведаў, што ў Альхоўку і яшчэ нехта не вернецца з тых мужчын і хлопцаў, што пайшлі на фронт неўзабаве пасля таго, як вярнуліся нашы.

І ў іх, дзяцей, быццам хапала такту адкінуць прэч дзіцячую неразумную жорсткасць і хоць некаторы час апчаджаць тых, у чые хаты прыходзілі гэтыя жахлівыя і апошнія пісьмы з фронту.

А пасля быў Дзень Перамогі. Быў мітынг у ДСК — у Доме сацыялістычнай культуры, як тады называўся Альхоўскі клуб, што месціўся ў левай палове будынка сельсавета, быў канцэрт, у якім прымаў удзел і Яська — спяваў песню, у якой былі не зразумелыя для яго словы: «с песнями боряси побеждая», якія ён зразумеў шмат пазней, а тады спяваў менавіта «боряси побеждая», а не «борясь и побеждая», і было кіно «Мы з Кранштата», і былі танцы, і быў плач. Удовы і маці тады яшчэ не саромеліся плакаць уголас на людзях, і толькі пасля ўжо яны

пакрысе прывыкалі да горкага, ціхага плачу ўпачы, прыхаванага ад дзяцей, ад сямейнікаў, ад суседзяў...

І было лета, першае сапраўднае пасляваеннае лета, няхай сабе галоднае, але ж такое спякотнае, ціхае і нанавальнічнае лета — з ягадамі, з каровінымі сцежкамі на выгане, з духмянымі копамі ў Будзе, з вясёлкавымі пырскамі на Бачылаўскім бродзе, з «пікарам» на брукаванай Альхоўскай вуліцы ля Маслючковых, з пульхнымі горамі залацістай саломы ля новай паветкі на новым калгасным гумне.

І была восень — першая сапраўдная пасляваенная восень, няхай сабе турботная, няхай сабе з першымі подыхамі золкіх тумаhoў і сцюдзёнай расы, што апякала буйнымі пырскамі расплаўленага волава босыя парэпаныя ногі, але затое багатая на бульбу, боб, грыбы, бручку, нечакана шчодрая нават і на шурпаты, салодка-церпкі праснак-скавароднік з ячнай мукі (ячмень яшчэ нядаўна стаяў у крыжыках у канцы загона, ля рэчкі, а цяпер Яська з маці ці не штовечар круціць у сенцах жорны), шчодрая нават на новыя, толькі для школы, штаны з сівой чортавай скуры, на пяток сапраўдных сшыткаў у лінейку і ажно на цэлыя два алоўкі.

І калі, здавалася, прыходзіла нарэшце сапраўднае свята і «на нашу вуліцу», калі дарослыя і дзеці толькі-толькі пачалі прызвычайвацца да новага, ціхамірнага жыцця, вёску скаланула тая нечаканая вестка: «Марылю Паўлюкову спаймалі з жытам і будуць судзіць...»

Суд быў у ДСК.

На невялікай сцэне-памосце са збольшага абгабляваных дошак, насланых на два нізенькія козлікі, сядзела за сталом некалькі чалавек. Здаецца Яську — пяцёра. Тры мужчыны і дзве жанчыны. Там жа, на сцэне, але не за сталом, а асобна, у куточку, сядзела на табурэтцы цётка Марыля. А непадалёк ад яе, таксама на табурэтцы, ушчаміўшы між доўгіх каленяў сваю кароткую «галандку», сядзеў Ксяневіч.

У ДСК было поўна людзей. Паперадзе, на лаўках, сядзелі, астатнія стаялі, пічыльна прыціснуўшыся адно да аднаго. Між дарослых пхіўчыліся падлеткі і дзеці, хоць туды іх не надта і пускалі. Выстаяць спакойна дзеці не маглі, і на іх штораз зласпавата сыкалі:

— Убіўся ўжо, дык — замры дух! А то вылеціш куляй!

Аднак яны не надта зважалі на гэтыя пагрозы і штурхалі: вылецець адтуль на вуліцу ўжо нельга было, каб і хацеў, бо і ўнізе, між ног, было не праціснуцца.

Было не толькі цесна, але і тлумна. Альхоўцы ціпіком перагаворваліся, сёй-той і зусім падаваў голас, нехта пасміхваўся, кідаў жарцікі, а нехта некага папракаў, чымсьці абураўся, і тое, што гаварылася на сцэне, Яська чуў пятае праз дзесятае.

Спачатку гаварыў мужчына. Не гаварыў, а чытаў з ліасткоў. Голас у яго быў тонкі, ажно пісклівы, але чытаў ён хутка, асобныя словы як глытаў ці прапускаў, і да Яські, праз галовы і цёплыя спіны, далятаді толькі абрыўкі фраз:

— ...верасня гэтага, тысяча дзевяцьсот сорак пятага года, грамадзянка Бурбоўская Марыя Данілаўна працавала на абмалоце жыта... выкарыстаўшы тое, што на нейкі час засталася адна... мяшок вынесла з пуні і схавала, мяркуючы перанесці яго вечарам дадому... цалкам прызналася ў садзеянным... грамадзянка Бурбоўская М. Д. абвінавачваецца ў тым, што, будучы...

Потым, пасля нейкай замінкі на сцэне і ажыўлення ў зале, сярод альхоўцаў, пачуўся голас цёткі Марылі. Адказваючы, пэўна, на нечае пытанне, яна ціха сказала:

— А што ж мне казаць? Я ўжо казала...

Але яе перапынілі, зноў пра нешта спыталі, і цётка Марыля здаўленым голасам адказала:

— ...Ну, утраіх былі...

— ...сама не ведала, што рабіла...

— ...і занесла, і схавала...

— ...украла ж, пэўна, ці ж я адгаворваюся?..

— ...вінаватая, чаму ж не! А толькі дзеля дзетак я...

Потым на сцэну ўзлезла Васіліна. Ёй там нешта сказалі, і яна, гледзячы поверх людскіх галоў, пачала гаварыць. Гаварыла яна, не ў прыклад цётцы Марылі, гучна, і Яська пачуў амаль усё:

— Авечак я пасвіла. На аселіцы, за кустамі. І не думала ні пра што такое, і не сачыла ні за кім! — дадала яна раптам ці не са злосцю.— А як пералезла цераз рэчку на гэты бок, каб авечкі ў гароды не ўбіліся, бачу — цётка Марыля нясе з пуні мяшок у руках. Данесла да Юстынінай мяжы, апусцілся на калені і пачала нечага там поркацца... Ну, я і здагадалася... І пабегла да таварыша Ксяневіча...

Людзі заварушыліся, зашумелі, і ўжо не было чуваць, што яшчэ гаварыла Васіліна.

Брыгадзірка Гэля таксама падымалася на сцэну і таксама расказвала:

— Я спачатку не паверыла, як Васіліна прыбегла і сказала... Ну, што цётка Марыля жыта ўкрала... Яшчэ і пасмяялася з Васіліны... А Ксяневіч кажа: «Пайшлі!» Ну, і пайшлі да пуні. Прыйшлі, аж бачым — праўда, пад бульбоўнікам ляжыць мяшэчак цётчын...

— А як вы даведаліся, што гэты мяшок належыць грамадзянцы Бурбоўскай? — спытала жанчына за сталом.

Гэля ўсміхнулася:

— Дык жа яна сама сказала! Прыйшла з абеду і сказала...

Волечка насмяшыла ўсіх. Узлезла на сцэну і пачала расказваць, як яны ўтраіх жыта тое абівалі: што ўрадзіла яно добрае, снапы — з-пад жняяркі — цяжкія, тоўстыя, як падняць, часта развязваліся, што Уліма сварылася з Гэляй, чаму не паслала на такую работу якога мужчыну... Урэшце нехта за сталом не стрываў, папрасіў яе:

— А вы бліжэй к дзелу. Бачылі вы, што грамадзянка Бурбоўская прыйшла на работу з мехам?

— Ніякага меха ў яе не было! Хіба торбачка ў кішэні? Дык ці яе ўгледзіш? — бойка адказвала Волечка.

Выступаў на судзе і дзед Волесь. Аднак жа зразумець, што ён хацеў сказаць, Яська не мог: то казаў, што калгаснае дабро трэба берагчы, то гаварыў аб тым, што злодзеяў у Альхоўцы спрадвеку не было, ніхто спрадвеку ў вёсцы не браў на замок ні хаты, ні гумна, а скончыў тым, што паведаміў, быццам таго ніхто не ведаў, што ў Бурбоўскай Марылі двое дзяцей...

І гэта таксама чамусьці развесяліла людзей і зняло дарэшты першапачатковую напружанасць, і ў натоўпе ўжо весялей пачалі перашэптвацца, пераміргвацца, кпінкавацца — ад аднаго да аднаго перадавалася спадзяванне, што ўсё скончыцца добра.

І ўсе, ад малога да старога, былі ўражаны, не паверылі вушам сваім, калі са сцэны пачулася:

— ...заслугоўвае суровага пакарання... да двух гадоў пазбаўлення волі...

Цётцы Марылі далі год. Ксяневіч павёз яе ў раён...

Недзе праз тыдзень, позна вечарам, калі Яська ўжо лёг, бацька, седзячы за сталом у воблаку тытунёвага дыму, ціха сказаў маці:

— Зайдзі заўтра, Паўліна, да Паўлюковых, забяры дзяцей.

Маці, прыхінуўшыся спінаю да цёплай грубкі, нешта вязала кручком пры газоўцы. Яна падняла галаву ад вязання, паўзіралася ў бацьку ад святла ў прыцемак, дзе ён сядзеў, перапытала:

— Ты нешта сказаў, Сцёпа? Якіх дзяцей, ці я недачула?

— Тое, што чула. Трэба, Паўліна! Дзе двое, там і чацвёра. Вошы пойдуць, кароста абсядзе... Паўлюк не дасць рады...

Маці рашуча закруціла галавой:

— Не, Сцёпа! І не думай! Свае галодныя, а ты...

Бацька ўздыхнуў, ціха паўтарыў:

— Трэба, Паўлінка. Як ты не разумееш!

Маці загаварыла галасней:

— Я ўсё разумею! Але — і не думай! Гэта ж не ката ўзяць, Сцёпа! Ты падумаў, што кажаш? А захварэе, не дай бог, каторае? Ці яшчэ што якое... Ты пра гэта падумаў?

— Усё будзе добра, Паўлінка. Неяк пракідаюцца разам з нашымі. Хоць малака кубак будуць мець... Не мог я нічога зрабіць, каб Марылю ўратаваць, дык...

Адклала маці ўбок вязанне, пайшла да бацькі з газоўкаю ў руках, паставіла на стол, сама села насупраць, узлегла грудзямі на стальніцу, ашчаперыла рукамі галаву:

— Не, Сцёпа! Не магу! Не і не! Хай сваякі каторыя...

— Няма ў іх сваякоў, ты ведаеш.

— Ну, а мне што да таго? Чаму я?

— А хто?

Маці памаўчала. Маўчаў і бацька.

— Я ж не жадала Марылі зла. Памагала заўсёды чым магла. Але ж, Сцёпа, як гэта? Дзеці чужыя ў хаце... Не, Сцёпа! Пагарачыўся ты... А што людзі скажуць?

— Анічога, маці. Людзі зразумеюць. Інакш я не магу. У тым, што здарылася, і мая віна ёсць... Я ўжо сказаў Паўлюку...

— І што ён?

— Ні ў якую! Кажа: «Не буду цябе падводзіць, Пятровіч...»

Маці ўспляснула рукамі:

— А што я казала? Паўлюк і той разумее, а ты...

Бацька апусціў сваю руку на мацерыну руку, прыціснуў яе да стала:

— І мы разумеем, Паўліна. Мы з табой заўсёды разумелі адно аднаго...

Маці ўсхліпнула:

— Не пайду я. Можаш сам забіраць. Навошта мне такія збыткі?

Бацька гладзіў мацерыну руку і прыгаворваў:

— Не трэба, Паўлінка. Супакойся. Усё будзе добра...

Сон ад Яські ўцёк. Зноў ён не разумее бацьку! Гэта ж трэба, да чаго дадумаўся: узяць да іх Калюню і Тоню!

Як гэта яны будуць тут? Дзе будзе спаць Калюня? Хіба што з ім, з Яськам? І ўрокі разам рабіць будуць?

Патрэсквала газоўка, цікалі на сцяне ходзікі, і відавочна ўсё ніжэй апускалася гірка з прывязанымі да яе нажніцамі — плыла за вокнамі доўгая восеньская ноч, а бацька з маці ўсё сядзелі, моўчкі схіліўшы галовы, за сталом. І Яська таксама не спаў і ўсё думаў і думаў пра тое, як гэта будзе, калі ў іхняй хаце паявяцца Калюня і Тоня, і брала яго нецярпенне, каб здарылася гэта хутчэй, і хацелася сказаць бацьку, што ён — малайчына!..

Яська спіць з Калюнем, а Зойка — з Тоняй: маці перабралася ў першую хату на палаці, а ім уступіла свой ложак. Ім, малым, лацвей: мацерын ложак шырокі, яны там адна адну шукаюць. А Яську з Калюнем цеснавата. То адзін сцягне на сябе коўдру, то другі. Яны хацелі памяняцца ложкамі, дык малая Зойка не пагадзілася: такое выццё ўзняла, што Яська і Калюня самі адступіліся. Маці параіла ім лягаць валетам. Яно быццам і праўда лепш. Адно што, бывае, у сне лупяць адзін аднаго нагамі, але ж — незнарок, як прысніцца што.

А ўвогуле ў Яськавай хаце ці не весялей зрабілася. Тоня, аказваецца, зусім не плакса. Зойка, мусіць, часцей румзала, чым яна. Цяпер жа і іхнюю нэндзу як падмянілі. Гуляюць сабе ўдзвюх на ляжанцы са сваімі лялькамі, пакуль маці есці не пакліча. Дзве малыя ў хаце, а маці як вальней усё адно стала — абедзвюх можна надаўжэй пакінуць у хаце, чым раней адну. І Калюня, як бацька жартуе, упісаўся ў іхнюю сямейную кампанію.

— Бачыш, маці,— казаў ён неяк,— у нас як бы стала не двое жэўжыкаў, а адзін вялікі хлопец. Калі наш Яська пасцелю засцілаў? А калі ён дроў табе да грубкі прынёс?

Яську слухаць гэта не надта прыемна, бо і праўда —

ложак іхні часцей засцілае Калюня, а не ён, і пра дровы, каб прапаліць вечарам грубку, памятае таксама не ён, Яська, а Калюня.

Затое Калюня не хоча вечарам мыць ногі. Маці ўжо і вады цёплай у тазік налье, думаючы, што ён халоднай баіцца, а Калюня ўсё адно пяты памочыць і хутчэй хапаецца за анучку выціраць іх.

І тут Яська ўжо не ўпускае выпадку, каб не папікнуць Калюню. Лягуць спаць, залезуць абодва — з абодвух канцоў — пад коўдру, і тут Яська таўхане Калюню:

— Чаго мне пад нос брудную нагу падсоўваеш?

А Калюня не стрывае:

— Вуньдзека мае ногі! Гэта ты мне свае капылы пад самую маю бараду пхнеш!

І пайшло і паехала: таўкуць нагамі адзін аднаго, ажно з коўдры пыл курыць, пакуль маці не возьме бацькаву дзягу ды па коўдры той — два разы Яську, адзін раз — Калюню. Тут ужо, хоцькі-няхоцькі, яны сцішваюцца. Ды ненадоўга. Адыдзецца маці, Калюня голас падае:

— А табе болей перапала:

Крыўдна Яську, бо і праўда болей, але ён — маўчыць. Пачні зноў, дык маці ў злосць увойдзе, тады ўжо і не так перападзе, і не праз коўдру — тоўстую, рызавую, бы ватовую коўдру, а па галяку. Гэта Калюня можа агрызацца, а ён, Яська, маці сваю ведае!

Ды, папраўдзе, жывуць яны ўсё ж досыць дружна. А найбольш дружна дзейнічаюць за сталом. З прыходам Калюні і Тоні гаршкі, у якіх маці варыла бульбу і зацірку, пабольшалі, аднак што-небудзь парасяці пасля іх не аставалася. Зацірку маці налівае кожнаму паасобку, а бульбу высыпае ў адну вялікую місу, але і за агульнай місай, і кожны за сваёй яны ўсё адно шчыруюць адзін перад адным навыперадкі. З бульбай — зразумела: больш ухопіш — больш з'ясі. З зацёркай іншае: чым хутчэй апарожніш міску, тым больш спадзяванкі папрасіць дабаўкі. Маці сама не з'есць, а таму, хто першы высербае, ліне яшчэ апалонік, прытым гусцейшай зацёркі, з самога дна.

Гэтак жа дружна, як і за сталом, паводзяць сябе Яська і Калюня і на вуліцы. Іх старыя мянушкі — Гандола і Пісар — забыліся. Хлопцы ахрысцілі іх інакш: братамі-манахамі Кірылам і Мяфодзіем. Калі звяртаюцца да абодвух, дык — гэй, браты-манахі! А калі паасобку, дык Яську клічуць Кірылам, а Калюню — Мяфодзіем. Яны крыўдзіліся, але гэта яшчэ больш падахвочвала хлопцаў

назаляцца, і неўзабаве яны вымушаны былі змірыцца са сваімі новымі імёнамі. Праўда, напускаліся на іх хлопцы толькі ў гурце, а так не надта асмельваліся, бо Яська і Калюня заўсёды ходзяць разам, як спрэжаныя, і калі што, дык кідаюцца на крыўдзіцеля дружна, з чатырма кулакамі.

Неўзабаве Яська і Калюня захапіліся майстраваннем. Спачатку — з лучыны. Сцягвалі з печы, з-за коміна, пук лучыны, выбіралі сырэйшыя, больш гнуткія і падатлівыя, узбройваліся ножычкамі і вечары навылёт выразалі і змацоўвалі пры дапамозе дзірачак і штырочкаў розныя цацкі — лаўкі, крэселкі, табурэтачкі, канапкі, саначкі, калодзежы, хаткі, сплаўляючы «гатовую прадукцыю» на ляжанку — к вялікай радасці Тоні і Зойкі. Замахваліся яны нават на тое, каб зрабіць з лучынак і запрэгчы ў санкі драўлянага коніка, і іх навыперадкі хвалілі і бацька і маці. Заходзіў вечарамі дзядзька Паўлюк, прыносіў ім усім чацвярым па жмені пражанага бобу і таксама хваліў, здзіўляючыся і захапляючыся іхнім умельствам — божкаючы, казаў, круцячы ў пальцах маленькае, але зусім як сапраўднае крэселка:

— Дальбог жа, не паверу, што гэта зрабіў мой Калюня! Ты толькі, Паўліна, паглядзі! Такога крэселка і стары Мароз не выштукаваў бы!

— Дзе ўжо Марозу! — агукалася, усміхаючыся, маці.

А Калюня, а разам з ім і Яська чырванелі ад гонару і толькі моўчкі шморгалі насамі.

Ды хутка іхняя лучынная майстэрня «зачынілася». Адно што і самім абрыдла — малая карысць з гэтых цацак, ужо і Зойка з Тоняй прымаюць іх без ранейшай радасці, а, галоўнае, маці агоркла штовечар вымятаць з-пад стала кучы стружак і вытрасаць іх з Калюневых і Яськавых сарочак, штаноў і валёнак,— сяды-тады яна ўжо і сварылася на іх.

І хлопцы парашылі заняцца чым-небудзь іншым. Вось толькі чым? Памог снег, што нечакана выпаў у адну з лістападаўскіх начэй. Разам са снегам прыйшоў і мароз. І яны парашылі зрабіць на аселіцы калаўрот.

Расчысціць ад снегу круглую пляцоўку і заліць яе вадой — з гэтым яны справіліся хутка. Даўжэй шукалі кол. У Яські на дрывотні нічога такога не знаходзілася. Тады Калюня ўспомніў, што яго бацька акорваў вясною бярозавыя жэрдкі і ўскідваў іх на вышкі ў хляве. Адну з тых жэрдак яны і сцягнулі, адрэзалі з таўсцейшага канца ка-

валак метры са два, востра зачасалі. Атрымаўся цудоўны кол! Баяліся, ці палезе ён у зямлю, аднак баяліся дарэмна — зямля яшчэ мала была кранута марозам, і неўзабаве кол быў забіты, узвышаючыся над лёдам на некалькі пядзяў.

Яшчэ даўжэй шукалі кола. Адна надзея была на кузню — там, здавалася, заўжды валяліся розныя колы. Але к таму часу вярнуўся з фронту дзядзька Андрэй, даўнейны гаспадар кузні, і цяпер там быў поўны парадак, ніякіх колаў нідзе не было. Ды каб і было, дык больш-менш цэлага кола дзядзька Андрэй усё адно не даў бы.

Але корпаліся яны на аселіцы ўжо не адны. Думка зрабіць калаўрот спадабалася многім хлопцам, і клопат раздабыць кола стаўся клопатам усіхным. Як ні прыкідвалі, а ў думках зноў і зноў вярталіся да кузні. І тут Толя Маньчын, Яськаў сусед, успомніў, што некалі бачыў нейкае кола ў крапіве пад хлеўчуком у старога Смаркуля. Рушылі туды. Там сапраўды, прыцярушанае снегам, ляжала кола. І зусім не струхлелае яшчэ, з рэхвамі і акаванае. Уміг прыкацілі яго на аселіцу, крыху падчасалі кол і ўздзелі, крутанулі — кола круцілася хораша.

Адзін прынёс жэрдку, другі — скрутак дроту. Адзін канец жэрдкі прыкруцілі дротам да кола, да другога канца надзейна прывязалі санкі — калаўрот быў гатовы.

Першага на санкі прапусцілі Яську — як-ніяк, ён быў завадатарам. Ён лёг на санкі пузам, хлопцы ўсунулі між спіцаў кій і налеглі на яго. Санкі крануліся з месца і раптоўна панесліся па лёдзе з велізарнай хуткасцю — Яська ледзь паспеў хапіцца за іх, ашчарэпіць рукамі і нагамі.

Санкі не імчаліся, а шалёна лятапі па крузе, Яськавы рукі і ногі дранцвелі, ад мітуслівага мільгацення і посвісту ветру на вочы набеглі слёзы. Яська трымаўся з усіх сіл, а хлопцы, галёкаючы, усё хутчэй і хутчэй бегалі вакол кола. Адчуваючы, што вось-вось сарвецца, Яська закрычаў:

— Досыць! Стойце!

Ды лепш бы ён не крычаў! Падхопленыя азартам — зваліцца ці не зваліцца? — хлопцы прыналеглі на кій. Санкі падскочылі раптам на нейкім гурбяку, Яська на імгненне паслабіў рукі і ногі і — сарваўся. Спачатку ляцеў у паветры, потым грымнуўся грудзямі на зямлю і пакаціўся па снезе.

З цяжкасцю падняўся ён на ногі. Агнём гарэлі здзёртыя да крыві далоні, шчымелі нос, лоб, падбародак, ньылі

ад удару грудзі. Хацелася плакаць, але навокал стаяў такі вясёлы рогат, што і Яська не вытрываў, зарагатаў.

Некалькі вечароў прападалі яны на аселіцы. Не толькі ацемнявалі там, але і абначоўвалі. Маткі не маглі дагукацца іх вячэраць. Але не гэта найперш настроіла іхніх мацярок супраць калаўрота. Найбольшую злосць і незадавальненне выклікала тое, што хлопцы вярталіся з аселіцы, свецячы каленямі і локцямі. У таго, хто зрываўся з санак і добрых дзесяць метраў слізгаў па лёдзе і па снезе на жываце, калені і локці не маглі быць цэлымі, такога шмаравання не вытрымлівала ні чортава скура, ні зрэб'е. А кожны з іх за адвячорак куляўся з санак не адзін раз.

І маткі іхнія не стрывалі. Аднойчы, прыйшоўшы на аселіцу, хлопцы не ўбачылі свайго калаўрота: не было ні жэрдкі, ні кола, а бярозавы кол, на якім яно круцілася, быў ссечаны пад корань. Зберагаючы штаны свайго жэўжыка, нейчая матка такім рашучым чынам пазбавіла ўсіх іх вялікай радасці.

Аднаўляць калаўрот Калюня і Яська не сталі. Але ж сверб, што нечакана прачнуўся ў іх, не праходзіў, і неўзабаве яны знайшлі сабе занятак пад паветкай, на дрывотні: парашылі зрабіць самакат і катацца на ім з Бладыкавай гары.

З альховых чурак вычасалі тры капылы і старанна акавалі іх знізу бляхай — «канькі» для самаката былі гатовы. Са старых варотцаў, што стаялі пад паветкай, адарвалі тры дошкі, абрэзалі іх і збілі трохкутнік — «раму». Два канькі прыбілі да рамы, па канцах карацейшай дошкі, да трэцяга канька прыладзілі старую бярозавую штыкеціну з перакладзінай наверсе — атрымаўся «руль». Заставалася зрабіць сядло і прымацаваць руль да рамы.

Сядло збілі з рэштак дошак хутка, а вось з рулём павалаводзіліся. Можна было, вядома, проста прыбіць руль да рамы, але што гэта будзе за руль? Калі ён не паварочваецца, дык навошта ён? Не, руль ім хацелася мець сапраўдны — каб самакат можна было павярнуць і ўлева і ўправа.

Што яны толькі не пераспрабавалі! Прывязвалі руль да стаяка па раме дротам. Руль, хоць і туга, паварочваўся. Але даволі было сесці каму-небудзь з іх на самакат, як рама са стаяком аб'язджала ўніз і лягала на снег. Прыбівалі да руля і да стаяка падстаўкі, пракручвалі ў іх дзіркі, потым клалі падстаўку на падстаўку, а ў дзіркі

пратыкалі прэнт — як шворан. Усё быццам і добра, але надстаўкі не вытрымлівалі цяжару і адрываліся.

Выручыў дзядзька Паўлюк. Зазірнуў ён надвячоркам і ўгледзеў іх на дрывотні. Самакат ён пахваліў, а руль тут жа ўзяўся прымацаваць сам. І зрабіў гэта хутка і проста, ажно Яська і Калюня ледзь не плакалі ад крыўды і злосці на саміх сябе, што не змаглі даўмецца да таго самі. Дзядзька Паўлюк сагнуў з дроту чатыры прабойчыкі. Два з іх загнаў у руль, загнуўшы канцы па другі бок штыкеціны, каб сядзелі надзейна, а два другія — у стаяк рамы. Потым прыставіў руль да стаяка так, каб ніжнія і верхнія прабойчыкі леглі адзін на адзін, а між імі ўсунуў кавалачак таўсцейшага дроту з пятлёй наверсе. Руль трымаўся надзейна і лёгка паварочваўся направа і налева.

Калі яны ўпершыню прыцягнулі самакат на Бладыкаву гару і, усеўшыся на яго — Яська за рулём, а Калюня — ззаду, ганарліва панесліся ўніз, хлопцы толькі раты паразяўлялі, а Віцька Кацярынін (гэта яго матка, як стала вядома пасля, зруйнавала іх калаўрот) сказаў, прысвіснуўшы:

— Во даюць браты-манахі!

Цэлы адвячорак хлопцы плоймаю бегалі за імі і прасілі даць ім хоць па разу з'ехаць з гары на самакаце. І Яська з Калюнем урэшце здрадзілі сваёй клятве нікому не даваць самаката. Аднак жа, перш чым уступіць яго хлопцам, яны пастараліся прыпомніць ім усе крыўды, якія зведалі ад іх. Хлопцы сарамліва апускалі галовы, і Яська з Калюнем з выглядам пераможцаў давалі ім самакат:

— Прыйшла каза да воза! Наце, нам не шкада!

А ўжо назаўтра самакатаў на Бладыкавай гары было некалькі — і такіх, як у іх, і прасцейшых, зробленых з адной шырокай дошкі, на якіх трэба было з'язджаць з гары лежачы, упраўляючы нагамі ці рукамі. І Яська з Калюнем ужо цешыліся толькі тым, што яны былі першыя і што іхні самакат быў не з горшых.

Праз гэтае сваё майстраванне хлопцы запусцілі вучобу. І калі аднойчы яны зноў пайшлі пад паветку — рабіць лыжы з клёнак ад вялізнай рассохлай бочкі, што стаяла, перакуленая ўверх дном, у пуні, маці адабрала ў іх начынне і пагнала ў хату, накрычаўшы:

— А ўрокі я за вас рабіць буду? Як на гэта, дык у вас і часу хапае, а як за ўрокі брацца, дык...

Аказваецца, перапяла на вуліцы маці Наталля Міхайлаўна, іхняя настаўніца, і паскардзілася, што Яська і Калюня няйначай нечым іншым заняты, а не вучобай,— нахапалі двоек. Яны ў душы не надта пагаджаліся з гэтым, аднак жа з вучобай рашылі падцягнуцца, і тут Яську падахвочваў больш Калюня: ён абяцаў маці, што будзе добра вучыцца. Дзядзька Паўлюк, заходзячы вечарамі ў Яськаву хату, неаднойчы гаварыў Калюню:

— Што-што, а вучыцца ты мусіш так, каб... Каб, гэта самае, тут я клопату не меў, у школку каб мяне не клікалі...

І ці яны напраўду што разумелі, ці так ужо атрымлівалася само па сабе, а, пакуль жыў Калюня ў Яськавай хаце, Наталля Міхайлаўна больш не пераймала маці на вуліцы, каб скардзіцца на іх. І дажылі яны да нечакана хуткага звароту цёткі Марылі, можна сказаць, спакойна, калі не лічыць непрыемнай гісторыі з ходзікамі, у якой найперш быў вінаваты, вядома ж, сам Яська...

Аднойчы ён расказаў Калюню пра ходзікі — пра тое, як пасля вайны бацька сам іх рамантаваў, як для рэгуліроўкі ходу маці прывязала да гіркі нажніцы. А заадно прымусіў Калюню ўзлезці на табурэтку і паглядзець праз шкельца, як з малаточка, які чапляецца за зубчастае колца, злятае секунда за секундай. І Калюня, які дагэтуль, здавалася, не заўважаў, што яны віселі на сцяне, нечакана праявіў да ходзікаў вялікую зацікаўленасць. Асабліва ўразіў яго Яськаў расказ пра секунды, якія зрываюцца з малаточка і падаюць, як у бездань, у вечнасць, каб ужо ніколі не вярнуцца назад.

— Адкуль ты ведаеш, што яны там сядзяць? — вызекрыў ён на Яську вочы.— А можа, іх там няма?

— Як гэта няма? Раз цікаюць, дык і секунды ёсць. Адкуль жа тады яны зрываюцца? — у сваю чаргу запытаў Яська.

Калюня моршчыць лоб, доўга думае, урэшце кажа:

— А калі яны і не зрываюцца зусім? Га?

Яська рагоча:

— Дык ты ж сам бачыў!

— Бачыў... Што там убачыш? Каб гэта добра паглядзець!

— А знімаць са сцяны іх няможна,— уздыхае Яська.

Калюня таксама ўздыхае. Некаторы час сядзяць моўчкі. Не ведае Яська, пра што думае Калюня, але ж, пэўна, пра тое самае, пра што і ён: як бы гэта зазірнуць у

сярэдзіну ходзікаў? Урэшце не вытрымлівае, кажа:

— А можа, знімем?

Калюня разумее, ківае галавой, але пытаецца:

— А не баішся?

— Каго? — храбрыцца Яська.— Думаеш, тата будзе сварыцца за гэтую ламачыну? Ён колькі разоў казаў, што іх даўно пара выкінуць на сметнік — то адстаюць, то наперад забягаюць... Хочаш, зніму?

Калюня паціскае плячамі — маўляў, як сабе хочаш, але ўвесь яго выгляд гаворыць Яську іншае: не знімеш, пабаішся! Пабаіцца? Яська рашуча падстаўляе табурэтку, узлазіць на яе, знімае ходзікі са сцяны, саскоквае з імі ў руках на падлогу:

— Во, бачыш?

Асцярожна кладзе ходзікі на стол. Яська з аднаго боку, Калюня — з другога схіляюцца над імі, спрабуючы зазірнуць усярэдзіну праз бакавыя шкельцы, але сваімі ж галовамі засланяюць сабе святло, разгледзець што-небудзь там немагчыма.

— Чакай,— кажа Яська. Ідзе ў першую хату і вяртаецца адтуль з ножыкам.— Зараз паглядзім, што там такое.— І пачынае круціць стрэлкі.

Вялікая стрэлка пад яго пальцам робіць некалькі абаротаў, малая таксама перасоўваецца на некалькі лічбаў, аднак знімацца з воські яны не хочуць.

— Ты, можа, не ў той бок круціш? — кажа Калюня.

«Не вучы вучонага, з'еш г... капчонага»,— думае Яська, але на ўсякі выпадак пачынае ганяць стрэлкі ў другі бок, і праз некалькі абаротаў яны падаюць на цыферблат!

— Ага, я казаў! — крычыць Калюня.

— Я і сам ведаў,— адказвае Яська.

Ён бярэ ножык і вострай дзюбкай пачынае выкручваць шурупчыкі, галоўкі якіх тырчаць на цыферблаце. Адкручваюцца яны лёгка, бы не ўвінчаны, а проста ўстаўлены. Скончыўшы з шурупчыкамі, Яська лёгка знімае цыферблат разам з фанеркай. Нутро гадзінніка — перад імі. Хлопцы вымаюць з пазкоў бакавыя шкельцы, каб не заміналі, і зноў схіляюцца над ходзікамі. Яська і Калюня расчараваны. Нічога асаблівага ў сярэдзіне ходзікаў няма. Усё тое ж, што было відаць і тады, калі ходзікі віселі на сцяне: воські і зубчастыя колцы розных памераў.

— Ну, дзе сядзяць твае секунды? — пытаецца Калюня.

— Чаго захацеў! Хіба іх можна ўбачыць?

— А ты ж казаў!

— Мала што казаў!.. Давай лепш паглядзім, як ходзікі ідуць.

Яська кратае маятнік. Нечакана ён застаецца ў яго руках. Яська палохаецца. Дзе ж маятнік вісеў? Мо на тым вунь кручку-малаточку? Канечне ж, на ім, дзе яму яшчэ вісець! Ён лёгка знімаецца і лёгка становіцца на месца. А калі так, дык яго можна зняць і адкласці ўбок, каб не замінаў.

На зубчыкі самага большага колца накінуты ланцужок. Яська асцярожна пачынае цягнуць за яго — ходзікі не ідуць. Здагадваецца крануць пальцам кручок, на якім вісеў маятнік. Кручок матлянуўся сюды-туды, у сярэдзіне ходзікаў штосьці ціха затахкала — цік-так.

— Ідуць! — крычаць хлопцы.

Папераменна, то Яська, то Калюня, цягнуць хлопцы за ланцужок, штурхаюць пальцам той кручок, і ходзікі, лежачы на стале, ціха тахкаюць.

Раптам ланцужок ірвецца. На нейкі момант яны абодва заміраюць ад страху. Дастукаліся! Што цяпер рабіць?

Першым ачомаўся Калюня.

— Адно ўсяго звяно разагнулася,— шэпча чамусьці ён.— Можна яго зноў змацаваць.

Яська ловіць канцы ланцужка, счапляе іх разагнутым звяном, спрабуе зубамі зноў яго закругліць. Тонкі дроцік выслізгвае з-пад зубоў, у роце непрыемна ад кіславатай жалезнай іржы, але ўрэшце ланцужок зноў цэлы.

Цяпер трэба пакласці яго на месца, надзець на зубчыкі большага жоўтага колца, але ён скручваецца і ніяк не кладзецца на месца. Яська памагае ножыкам — вострай дзюбкай. Лязо зрываецца, і Яська бачыць, што нейкае іншае, меншае жоўтае колца скрыўляецца. Ах, каб яно спрахла! А тут яшчэ Калюня са сваімі парадамі!

Яська, аднак, злуецца моўчкі і спрабуе выраўняць скрыўленае колца. Здаецца, крыху параўнела, такое як і было. Хуценька перакідвае ланцужок цераз воську, дзюбкай ножыка начэплівае на зубчыкі.

Трэба спяшацца. Кожную хвіліну можа прыйсці маці. Яська вешае на кручок маятнік, устаўляе шкельцы, прыкручвае цыферблат, навінчвае стрэлкі.

Нарэшце ходзікі на сцяне. Яська падцягвае ланцужок, штурхае маятнік. Ён некалькі разоў матлянуўся і спыніўся. Яська штурхае мацней, штурхае яшчэ і яшчэ

раз — маятнік, троху павагаўшыся, замірае, ходзікі ісці не хочуць...

І тут бразгае ў сенцах клямка. Яська і Калюня кідаюцца да стала і робяць выгляд, што даўно сядзяць над урокамі.

Маці зазірае цераз парог на іх, лагодна кажа:

— От, малайцы! Я ўжо бегла і думала, як вы тут... Ну, ладна, пайду кароўку даіць.

І тут раптам Зойка з ляжанкі — бух:

— А Яська з Калюнем ходзікі са сцяны знімалі!

— Нашто ж яны іх знімалі? Во, і не ідуць жа! — кажа маці, не так, пэўна, бачачы, што яны не ідуць, як не чуючы тахкання. Шкрабянуўшы чунямі аб анучу ля парога, яна заходзіць у хату, падыходзіць да ходзікаў.— І праўда ж, не ідуць! Пачынілі, чыншчыкі? — Яна, як нядаўна і Яська, спрабуе штурхануць маятнік, але ходзікі ўсё адно не цікаюць.— Як жа вас не біць? — кажа маці, павярнуўшыся да Яські і Калюні.— Ці ж то цацка? Ну, пачакайце, прыйдзе бацька, ён вам дасць!

Але Яську гэтая пагроза ўжо не палохае. Калі маці не ўсчала лупцоўкі, то — абышлося. Бацька хіба пасварыцца, а лупцаваць не будзе. Пабурчыць троху, а пасля зніме са сцяны гэтыя недарэчныя ходзікі, пакорпаецца ў іх, і яны зноў будуць цікаць, як і цікалі...

А цётка Марыля вярнулася дадому незадоўга да Новага года. Ніхто і не чакаў, што так хутка яна вернецца. Нават і сам дзядзька Паўлюк не чакаў. Год дык год. А яна і трох месяцаў там не прабыла.

Дзядзька Паўлюк разы са два ездзіў да цёткі Марылі. Першы раз, як з'ездзіў, дык расказваў, што жыве яна недзе пад Мінскам, у бараку, ходзіць на работу — выбіраць буракі і моркву, сеч капусту. Схуднела, казаў, троху, але прасіла не турбавацца, пра яе не думаць, адно наказвала берагчы дзяцей, і надта ж ужо дзякавала Паўліне — Яськавай маці. А пасля другіх адведак дзядзька Паўлюк гаварыў, што цётка Марыля ўжо ў самім Мінску, што там паўсюль расчышчаюць руіны і будуюць новыя дамы і што яго Марылю таксама водзяць разбіраць руіны і ставіць тыя дамы.

Збіраўся дзядзька Паўлюк ехаць да яе яшчэ раз, бліжэй пад Новы год, ажно яна сама нечакана дадому прыбілася.

Прыйшла яна ў вёску надвячоркам і адразу ж, не заходзячы да сябе ў хату, зайшла да іх, да Кузьміцкіх. Яська з Калюнем толькі што са школы прыйшлі і сядзелі за сталом — падвячоркавалі. Дык цётка Марыля не дала Калюню даесці. Абцярэпіла яго і Тоню, укленчыла перад імі і плакала.

А Яськава маці стаяла ля грубкі, глядзела на іх і таксама моўчкі плакала.

А пасля цётка Марыля падхапілася, хуценька апранула Калюню і Тоню і павяла іх дадому.

У другі раз цётка Марыля зайшла да іх позна ўвечары. І ўжо тады пасядзела з паўгадзіны. Была яна нейкая не такая, як раней. І Яська не мог даўмецца, што з ёй сталася, ажно пакуль яна не пачала папраўляць хустку на галаве. З-пад хусткі выбіліся кароткія чорныя касмылікі. І здагадаўся Яська: гэта ж цётка Марыля абстрыжана, і няйначай пад нажніцы, як і ён з Калюнем! Праз тое і выдавала яна не падобнай на сябе ранейшую — галава, нават у хустцы, як бы паменшала.

Маці аб нечым спытала яе, але цётка Марыля адно адмахнулася:

— Ай, не пытайся, Паўлінка! Жыць можна, але закажы, божа, каму туды трапляць!

Маці аддала ёй адзежкі, Тоніны цацкі і Калюневу торбачку са школьнымі прычындаламі. Прыціскаючы гэты хатулёк да грудзей, цётка Марыля з плачам гаварыла:

— Дзякуй табе, Паўлінка! За ўсё! І Пятровічу твайму! Справядлівы ён чалавек. Гэта ж каб не ён, быць там мне яшчэ б і быць... Дзякую, сястрыца! Жыва буду — аддзячу...

— От кінь ужо, Марылёк! Добра во ўсё, дык і добра, чаго ўжо тут...— маці як абняла яе.

Цётка Марыля пайшла з хаты...

Лягаючы спаць у той вечар, Яська па звычцы матлянуў пад коўдрай нагамі, каб дастаць Калюню, але ў нагах у яго нікога не было...

А на вуліцы, сярод сябрукоў, яны — Яська і Калюня — яшчэ доўга хадзілі ў братах-манахах...

## 3

...Калюня — не, ужо не Калюня, а Мікалай Паўлавіч Бурбоўскі — прыйшоў да нас, як і абяцаў, назаўтра і пазваніў у дзверы роўна ў сем — таксама, як дамаўляліся.

Стрэўшы яго дзе-небудзь на вуліцы, я, канечне, не пазнаў бы Калюню. Светла-карычневы кажушок — дублёнка, скураная гуральская шапка — з футрам і брыльком, яркі, з геаметрычным малюнкам, гальштук, джынсавая крэмавая сарочка, модныя чаравікі на высокай платформе, плюс да ўсяго вузенькія фацэтныя вусікі і такія ж фацэтныя, ніжэй мочак вушэй, бачкі — не, яго можна было б палічыць за мастака, калі б усё гэта не сядзела на ім так акуратна і фасоніста, альбо за работніка «Інтурыста», толькі не за загадчыка склада швейнага атэлье.

Ён пераступіў парог, пацiснуў далонь мне, пaздароўкаўся з Любай, па-шляхецку цмокнуўшы яе ў руку. Тут жа, у прыхожай, яшчэ не зняўшы з плячэй кажушка, спытаў:

— Ну, а дзе ж твае наследнікі?

Я гукнуў Аляксея і Сяргея.

Ён падаў ім руку, потым разгарнуў пакунак, які трымаў пад пахай,— у ім аказаліся два тамы «Графа Мантэ-Крыста», уручыў іх малодшаму, Сяргею, сказаўшы:

— Цукеркамі баяўся вас пакрыўдзіць, вы ўжо мужчыны. Мо гэта салідней будзе, га?

Распрануўшыся, скінуўшы чаравікі, ад чаго ён раптоўна зрабіўся меншы ростам і ўвогуле нейкім мізэрнейшым, бы падлетак (гэтаму спрыяла, пэўна, і кароткая, да пояса, замшавая, на маланцы, куртачка-пінжачок), ён сцепануў плячамі — як падбадзёрыў сябе ўсё адно:

— Ну, паказвай, Ваня, як жывеш, да якой кварціры на пятым дзесятку дажыўся!

Ён сам, быццам прыйшоў з канторы па абмене жылплошчай, зазірнуў у адзін пакой, у другі, трэці, прайшоў на кухню. Абход гэты зрабіў моўчкі. А калі мы ўрэшце апусціліся ў крэслы абапал шахматнага століка, ён сказаў:

— Ну што ж, кварцірка што нада. Каб яшчэ паркет... У мяне, Ваня, паркет. Сам паклаў... Куханька таксама малаватая, халадзільнік як слуп пасярод дарогі... Добра, што шафак і антрэсоляў шмат... У мяне, як абмяняліся, не было, сам парабіў... Ну, дык як, Ваня, чырыкаем-прыгаем?

— Бачыш жа,— развёў я рукамі.

— Бачу, бачу,— ён пабарабаніў пальцамі па падлакотніках крэсла.— Дык, значыць, настаўнічаеш? А жонка?

— Таксама.

— І колькі ўдваіх маеце?

— Як усе настаўнікі.

— А ўсё ж?

— Рублёў трыста.

— Усяго? — ён хмыкнуў, як учора хмыкаў у трубку.— Ярунда! Яно і відаць...

— Што відаць? — не зразумеў я.

Ён памуляўся, потым усміхнуўся:

— Ты, друг, выбачай, я чалавек просты, як разумею, так і кажу... Меблішка ў цябе, Ваня, прама скажу, замены просіць. Цяпер трэба, каб — шык, бляск быў. Каб адразу відаць, хто жыве...

Я таксама ўсміхнуўся:

— Усё гэта не так важна...

Але ён рашуча закруціў галавой:

— Не, не кажы, друг!

Я прамаўчаў. Не ведаю, якой яна павінна была б быць, гэтая сустрэча з Калюнем, аднак жа адчуваў, што нейкай іншай, не такой. З абдымкамі ці без абдымкаў, з колішнімі жартамі і кпінамі ці без іх, але нейкай усё ж інакшай. Хай сабе і ён даўно ўжо не Калюня, і я не колішні Яська, але ўсё ж, усё ж... Пры чым тут паркет, мае і жончыны заробкі?.. Ад усяго гэтага было мне неяк непамысна.

— Кніг, друг, у цябе шмат,— парушыў ён маўчанне.— Але, бачу, нейкія зборныя. Па адной купляў?

— Купляў. З гадоў студэнцтва,— адказаў я машынальна.

— Мне раней было не да кніг. Ды і не надта любіў я іх... Затое цяпер — разарыўся! Ніводнай падпіскі не прапускаю. Б'юць з паліц цэлымі батарэямі ў вочы!

Я, мусіць, ухмыльнуўся, і ён заўважыў тое, бо нечакана іншым крыху тонам дадаў:

— Студэнтка ж у мяне, Ілона, дачка. Для яе стараюся.

— Дачка студэнтка ўжо?

— Нявеста, друг!

— А жонка дзе робіць? — спытаў я, каб скіраваць гаворку на нешта іншае.

— Там жа, у атэлье. Швачкай. Яна ў мяне — майстар экстракласа. Да яе на чаргу запісваюцца...

— А ты, брат, малайчына! Выглядаеш хораша! — Я знячэўку ляпнуў яго па плячы.

Ён варухнуў тым удараным плячом, адказаў сумнавата:

— Не скажы! Утаміўся я, друг...

Люба паклікала нас за стол.

Яна сапраўды прымала Калюню «па першаму разраду» — падала на стол усё, што ашчадна зберагалася ў халадзільніку і ў кладоўцы-шафцы на выпадак добрага нечаканага госця. І Калюня ацаніў гэта. Сядаючы за стол, сказаў:

— Ці нада было так шчодра?

Выпілі па чарцы каньяку — за сустрэчу, за Альхоўку, за дзяцінства: аддалі, так сказаць, даніну недарэчнай модзе.

Еў Калюня мала. Крыху прыкусіў і зложыў рукі на стале — адна на адну. Нечакана прабубнеў-праспяваў:

— Альхоўка, Альхоўка, радная вінтоўка...

— Ваня мне шмат расказваў пра вас,— падтрымала яго Люба.— Як вы самакат рабілі, як спалі валетам і таўклі адзін аднаго нагамі...

— Было, было,— жмурыўся ён.— Цётка Паўліна нас тады частавала папружкай... А помніш, як Толю Маньчынаму кнот рабілі? — павярнуўся ён да мяне.

Я кіўнуў. Чаму ж не помню! Дурная гульня была. Вясковы ідыятызм. Таму, хто засынаў пад кустом, пасучы кароў, устаўлялі між пальцаў босай нагі жмут паперы і падпальвалі, і сонны пастух падхопліваўся, як уджалены, па-сапраўднаму падсмалены, і доўга трэпаў нагой — бы сабака лапай, што напаткаў на ляснай сцяжыне вожыка і спрабаваў каціць яго...

— Во хохма была! А помніш, друг, як Братачкаў Юзік Шпакавай пяту адсек?

Я зноў кіўнуў, хоць тады, памятаю, было не да смеху.

Мы тады былі ўжо ў сёмым класе, і прыслалі ў школу новую настаўніцу — Людмілу Рыгораўну Скварцову. Прыехала яна да нас у Альхоўку ажно з Мурама, з настаўніцкага інстытута. Прозвішча Шпакава далі ёй ужо ў Альхоўцы. Была яна маленькая ростам, не адрозніць ад сямікласніц, але ж надта прыгожанькая, і мы, хлапчукі, ці не ўсе ў яе хутка закахаліся. Юзік Братачкаў — таксама. Аднойчы ехаў ён верхам на кані — на тым паўсляпым Цупелі. Пабачыў, што наперадзе ідзе Шпакава з вучаніцамі, і рашыў фарсануць — пагнаў Цупеля проста на іх. Шпакава не паспела адскочыць убок, і Цупель адхапіў ёй падковай паўпяты, яна ледзь не сышла крывёю...

— Дзе зараз наша Шпакава — Людміла Рыгораўна?

— А хто яе ведае! Ты, друг, успомні, дзе мы самі за гэты час пабывалі! — Ён ямчэй уссеўся ў крэсле.— Ажно не верыцца!

— А дзе вы пабывалі? — спытала Люба, зноў наліваючы ў чаркі.

— Ды пабадзяўся па свеце... І на Алтаі быў, і ў Брацку, і ў Магадане... Атабарыўся быў на Чорным моры, нават дом там паставіў, думаў — назаўсёды, але пацягнула дадому. І жонка ўсё — дадому, дадому...

— Вы ў Сібіры жаніліся? І жонка сібірачка? — дапытвалася Люба.

— Жаніўся ў Сібіры, у Брацку, але жонка — не сібірачка. Беларуска там аказалася, са Смалявіцкага раёна... Вось і пераехалі ў Мінск. Абмянялі дом на кварціру. Паехалі пенсіянеры грэцца да мора, а нам яно абрыдла да чорцікаў...

Я запрасіў выпіць яшчэ па чарцы. Ён не надта ахвотна, аднак выпіў. Закусваючы, загаварыў да Любы:

— Ваш Ваня, Любоў Андрэеўна, пакрыўдзіўся на мяне, але вам я скажу... Я ў вас троху пабыў, а бачу, што Ваня такі ж, як і яго бацька...

Ён на хвіліну змоўк, пэўна, шукаючы слова, я не стрываў і спытаў:

— Які ж — такі?

— Ну, як табе сказаць... Занадта чэсны, ці што...

Адчуваючы, што пачынаю злавацца, і не зважаючы на папераджальныя знакі жонкі, я сказаў:

— Дык гэта што — блага?

Ён неяк няпэўна павёў плячамі:

— Чэснасцю, друг, сыты не будзеш... Ад такой чэснасці ў вас здохла Аўтарэня, чыё малако і я піў. А бацька твой, между прочым, быў тады старшынёй калгаса!

— Яна не здохла! Бацька яе дарэзаў! — запярэчыў я.

— Скажы гэта каму іншаму! — сказаў ён, як адрэзаў.— Не было чым карміць, Аўтарэня ўжо не ўставала, вось бацька і дарэзаў.

Я ўскіпеў:

— А калі матку тваю ратаваў, таксама быў занадта чэсны?

Ён хмыкнуў, прыпадняўся, пацягнуўся рукою цераз стол да мяне:

— Ваня, друг, хіба я сварыцца прыйшоў? Ты ж усё панімаеш! Ну што ты? Калі на тое пайшло, дык матка мая таксама дурная была. Другія кралі паболей — і ні-

чога, а яна... Эх, Ваня, ты думаеш, я Пятровіча, бацьку твайго, не паважаў? Ну што ты, друг...

Ён сеў, не забыўшыся падцягнуць, каб не вытыркнуліся на каленях, калашыны, зноў паклаў руку на руку. Павярнуўшыся пасля да Любы, спытаў:

— Закурыць дазволіце, Любоў Андрэеўна? Ну, то давай закурым, друг...— Ён дастаў цыгарэты і, прыкурыўшы, сказаў, як бы некага шкадуючы: — Ах, якія яны ўсе, інтэлігенты... Ім адно, а яны — пра другое...

Я таксама закурыў. Дурная, гарачлівая ў мяне натура. Як у бацькі. Тут Калюня праўду кажа. (Міколам зваць яго мне было ніякавата, а Мікалаем Паўлавічам — тым больш.) Не ўмею стрымлівацца. Вось Люба мая малайчына. Яна неяк адразу, як нюхам усё адно, распазнае чалавека і заўсёды знаходзіць з кожным адпаведны тон гаворкі. Яна і Калюню даўно раскусіла, аднак жа гаворыць з ім, быццам гэта ёй цікава і патрэбна, і мне дае знаць, каб не лез у бутэльку.

Я кашлянуў, зірнуў на Калюню, сказаў прымірэнча:

— Выбачай, брат, пагарачыўся. Успомніў тое, вось і...

Калюня ўжо глядзеў на мяне з ранейшай не то прыязнасцю, не то са шкадаваннем, загаварыў з перакананасцю:

— Я разумею, Ваня. А толькі ты — не ўспамінай! Забудзь, друг! Не было там нічога такога, каб памятаць.

— Памятаць трэба...

Люба не дала мне скончыць — закрыла рот сваёй даланёю, сказала:

— Помні, але — памаўчы.— І павярнулася да Калюні: — Дык што вы хацелі сказаць мне, Мікалай Паўлавіч?

Ён крутнуўся да яе:

— Я, Любоў Андрэеўна, па-сяброўску... Калі вы надумаецеся абзавесціся меблішкай, дык я магу...

— Вы можаце памагчы? — Люба спытала гэта так, быццам толькі і марыла пра тое, каб набыць новую мэблю.

— Калі трэба — магу, Любоў Андрэеўна. Дамовімся, што вам трэба, які гарнітурчык ці наборчык...

— А што ў вас?

Калюня адсунуўся ад стала, закінуў нагу на нагу:

— Бачыце, я з сабой у Мінск з абстаноўкі нічога не браў. Нічога, скажу вам, і браць не было. Усё маральна ўстарэла... Таму тут абстаўляю кватэру поўнасцю. У за-

лу ўзяў балгарскі гасціны гарнітур за дзве трыста... Бачылі мо — чорнага дрэва, з бронзавай акантоўкай і інкрустацыяй?.. Спальню ўзяў арабскую, яны былі тады, кухню — польскую... Ну, яшчэ «Тэмп» каляровы, «Рыгонду» для дачкі... Яна ў мяне музыкай цікавіцца...

— А дзе ты на ўсё гэта грошы ўзяў? — спытаў я, блазнуючы.

Калюня зразумеў, таксама расплыўся ва ўсмешцы:

— А ў каго іх сёння няма? Хіба толькі ў касіраў!

Дружна пасмяяліся ўтраіх.

— Так што, Любоў Андрэеўна, калі маеце жаданне — магу памагчы, пасадзейнічаць. Не сам, канечне. У жонкі такія кліенткі, што — з-пад зямлі дастануць, калі трэба...

— Дзякуем, Мікалай Паўлавіч,— шчыра сказала Люба.— Мы падумаем з Ванем.

— Падумайце, падумайце, такія справы з налёту не рашаюцца... І яшчэ, Любоў Андрэеўна, асабіста вам скажу.— Калюня нахіліўся да жонкі, па-змоўніцку засланяючыся ад мяне рукою.— Калі вам пашыць што трэба — калі ласка, прашу да маёй Соні. Не сама, дык скажа там каму, а ўсё будзе зроблена хутка і найлепшым чынам... Бывае і дэфіцыцік у нас... Ну, скажам, пёсіка на шапку ці на каўнерык не жадаеце? Ёсць і зараз — беленькі, з чорненькай спінкай... Вы не саромцеся. Па-сяброўску ўсё можна зрабіць...

— Дзякую, Мікалай Паўлавіч,— Люба мая ўся цвіла.— Пясец — мая мара! Паверыце, ад сораму часта хоць плач. Мае вучаніцы ўсе ў пясцах ходзяць, а іхняя настаўніца шмаруе шыю нутрыяй.

— Будзе, будзе вам пёсік!

Я напоўніў чаркі, прапанаваў:

— Давайце за яго — мякенькага, пушыстага!

Але Калюня адмовіўся:

— Не, Ваня, усё, сваю дозу я ўзяў. Дык, як кажуць, пара і чэсць знаць. Рады, што сустрэліся, што пазнаёміўся з тваёй Любоўю Андрэеўнай, з хлопцамі...

— А чаго так спяшацца? Столькі не бачыліся... Пасядзелі б яшчэ, пагаварылі б,— я ўсё ж павінен быў быць гаспадаром.

— Не, друг, дзякую. Заўтра ж на работу і табе і мне,— Калюня падняўся.— Так што — пара!

Але ў прыхожай ён раптам не стаў спяшацца: дастаў цыгарэту, закурыў, прыхінуўся плечуком да вушака дзвярэй. Я схадзіў у пакой, вынес попельніцу, паставіў яе на

тэлефонны столік, сам таксама закурыў і, як ён, паднёр плячамі сцяну.

— Вот так і жывём, Ваня.— Калюня абтрос у попельніцу нагар з цыгарэткі.— Што я хацеў яшчэ ў цябе спытаць? Ага, вот што, друг. У цябе часам знаёмых ва універсітэце няма? Зойка ваша казала, што нібыта ёсць...

Я ўжо ведаў, што будзе далей. Вельмі часта за такім пытаннем чуў я іншае, накшталт: «Дык ці не мог бы ты пагаварыць там...»

— Ёсць. Былы аднакурснік зараз там выкладае. А што?

— Панімаеш, друг, прама скажу — непрыемнасць маленькая ў мяне. Уткнуў дачку на вячэрняе, а яна, дурніца, двума хвастамі абрасла. Гразяцца сключыць... Ты б не мог там, ну, гэтаму свайму другу, шапнуць, каб ён слова закінуў? Панімаеш, дурніца! Не магла сказаць раней! Можна было б бюлетэньчык арганізаваць ці яшчэ тое-сёе...

— Пагаварыць магу, але абяцаць — увы, на жаль... Разумееш...

— Ды разумею! За мной не прападзе! Бурбоўскі нікога не падводзіў,— ён падсунуўся да мяне, дыхаў мне проста ў твар.— Раз я сказаў — усё! Верыш?

— Я не пра тое. Разумееш, не я там працую, а мой сябрук. А ён, як ты кажаш, занадта чэсны чалавек... Я, канечне, магу пагаварыць... Ты мне пазвані праз дні дватры...

— Добра, пазваню,— адказаў ён і пачаў апранацца. Праводзіць яго выйшла ў прыхожую Люба. Калюня падаў мне руку, пакланіўся жонцы і пайшоў. Да Любінай рукі на гэты раз не прыклаўся.

Калі заціхлі на лесвіцы яго крокі, мы з жонкай пераглянуліся і нечакана весела, ад душы зарагаталі.

— Чаго ты смяешся? Табе плакаць трэба! Ты ж усё хваліў сваіх альхоўцаў! — папікнула мяне Люба.

— Ён, Любачка, не альховец,— адказаў я. І ў сваю чаргу падкалоў яе: — Не насіць табе на шыі беленькага, з чорнай спінкай пёсіка!

— Не называй мяне Любачкай! — грымнула яна мяне па спіне. Ідучы ў пакой прыбіраць са стала, зноў уела: — Дзе ўжо, калі ты такі ж дурны, як і твой бацька!

— Ён не сказаў — дурны! — запратэставаў я.— І ты — не смей!

— Ты недачуў,— выходзячы да мяне з талеркамі, па-

цвельвалася жонка.— Ён сказаў: «Матка мая таксама дурная была...» Таксама — як хто? Як твой бацька! З'еў?

— Ах, нягоднік! Ах, прайдзісвет! — бушаваў я.— Трэба было пагладзіць яго па фізіяноміі!

Жонка смяялася.

Перад сном мы зноў успомнілі Калюню. Люба ўспомніла.

— А ведаеш, ён жа і прыходзіў толькі дзеля таго, каб твой аднакурснік памог ягонай дачцэ.

— Ды, здаецца, твая праўда,— адказаў я.— Прынамсі, пра пуд жыта, які калісь звёў нас, ён не ўспомніў...

Люба, па-дзіцячы кульнуўшыся на паралонавыя падушкі тахты, зробленай у гарадку з дзіўнай назвай Масты, усё ж пазайздросціла:

— А нехта спіць пад аксамітавым балдахінам пругкага і мяккага арабскага ложка...

Калюня праз тры дні не пазваніў. Не пазваніў ён і пазней.

# ЗА РУЖОВЫМІ ФІРАНКАМІ

Гэтых людзей я ведаю і не ведаю. Я мог бы дакладна назваць іхні адрас: вуліцу, нумар дома... Вось толькі наконт кватэры магу памыліцца, бо я ніколі не пераступаў яе парога. Але гэта — дробязь. Захацеўшы, адшукаць яе лёгка. Дастаткова таго, што я ведаю: кватэра гэта на апошнім, пятым паверсе і акно з балконам выходзіць на вуліцу.

Мабыць, я троху летуценнік. Вечарамі, калі аціхае гарадскі тлум, я люблю паблукаць па нашай вуліцы. Жыву я ў мікрараёне, на самай ускраіне, і вуліца наша не зусім і вуліца — аднабокая. Па адзін бок дамы ёсць, а па другі — няма. Там — поле, а далей, за ім — лясок. Блізка, як рукой падаць. Дык вось. Прайдуся я вуліцаю ў канец, а там зварачаю на сцяжынку, што бяжыць праз жытнёвы палетак, і — у лясок. Сяду на ўскрайку і на горад пазіраю. Лясок на пагорку, адтуль далёка відаць. А што відаць? Вядома, што: агні горада нашага. Мноства агнёў — ад краю і да краю. А найбліжэй — разнаколерныя квадраты вячэрніх вокнаў нашай аднабокай вуліцы. І сярод іх — ружаватая плямка таго крайняга акна на пятым паверсе шэрага панельнага — нібы складзенага з кардонных кубікаў — дома. Гляджу я на вячэрнія — адны зыркія, другія цьмяныя, заштораныя — вокны, і як бы нейкая трывога ў душы падымаецца. Хутчэй, пэўна, не трывога, а непакой якісьці, трымценне ўнутранае: гэта ж за кожнай плямкай-агеньчыкам — людзі! Хто вячэрае, хто чытае, хто тэлевізар глядзіць, хто малое люляе, а хто і сумуе, сварыцца, плача, бядуе-трывожыцца...

І вось — хочаце верце, хочаце не — здаецца мне, што відно мне адсюль і тое, што робіцца вунь за тым акном, у кватэры, ярка асветленай лямпай дзённага святла, і за тым, што ледзь мігціць блакітнаватым ззяннем — пэўна, у пакоі толькі і святла таго, што з вока-экрана якога-небудзь «Гарызонта» ці «Электрона»... А тое крайняе акно на пятым паверсе — найбольш для мяне знаёмае і, нібы сваё, прыцягальнае. Чым яно мяне прывабіла, пэўна не скажу. Вось кінулася чымсьці ў вочы з першага разу, з таго вечара, калі ўпершыню прывяла мяне сцяжына на ўзлесак. Мо тым, што крайняе яно? А мо ружовасцю сваіх фіранак прывабіла?

Тады, у той першы вечар, я яшчэ нічога не ведаў пра яго, пра кватэру, у якую праз тое акно зазірае сонца,

пра людзей, якія аблюбавалі ці, правільней будзе сказаць, усяліліся па ордэры ў тую кватэру. А зараз я зусім пэўна магу сказаць, што ведаю, хто там жыве, у той стандартнай двухпакаёвай кватэры, што яны за людзі, чым займаюцца, чым цікавяцца, што робяць удзень і ўвечары, калі на горад апускаецца змрок,— прынамсі, вось у сённяшні цёплы адвячорак пачатку ліпеня...

І калі хто-небудзь скажа, што я памыляюся, што ў той кватэры жывуць зусім іншыя людзі, я паверу толькі напалову. Значыць, тыя, мае знаёмыя, па нейкай прычыне памянялі месца жыхарства і цяпер жывуць недзе непадалёк, на іншай вуліцы нашага горада...

Бацька сядзіць у крэсле, уткнуўшыся ў газету.

Ён заўсёды, прыходзячы дадому, пераапранаецца і, у чаканні вячэры, бярэцца за газету. За доўгія гады і сам прызвычаіўся да такой завядзёнкі, і маці прывучыў, і яна без пільнай патрэбы не тузае яго ў гэтыя хвіліны. Чытае — хай чытае. Праўда, яна можа сяды-тады сказаць яму: «Жыў не будзеш, калі не паглядзіш сваёй «Праўды»!», але скажа гэта ўжо без злосці, а проста так, быццам нагадае, што змірыўшыся, яна ўсё ж лічыць, што занятак ягоны непатрэбны і марны. А бацька не зверне на гэта ўвагі. Ён прывык да газеты, і калі каторы вечар штосьці перашкодзіць яму пачытаць «сваю «Правду», дык адчувае сябе назаўтра непамысна — як быццам ён не пагаліўся, ці што? Пачынае чытаць ён «Правду» з апошняй старонкі — там можна знайсці фельетон ці гумарыстычнае апавяданне, рэпартаж з касмічнай арбіты ці артыкул з цыкла «Мое Отечество». Потым пералазіць на пятую старонку — «замежную», якую прачытвае ад радка да радка. На чацвёртай таксама шукае што-небудзь «замежнае», на другой і трэцяй яго пагляд прываблівають матэрыялы пра народны кантроль і пісьмы чытачоў. Урэшце, згортваючы газету пад патрабавальны покрык маці з кухні, кідае вокам на першую старонку.

Сёння ж яму не чытаецца. Водзіць па радках вачамі, але раз-пораз ловіць сябе на тым, што не даходзіць да яго тое, што бачаць вочы. Нешта як замінае яму.

У кепскім настроі прыйшоў сёння бацька дадому. Хоць ты і праўда вер той дурной прыкмеце! Прачнуўся раніцай, пайшоў у ванну мыцца, як раптам — спяваць яму захацелася. Закарцела, і ўсё тут. Убіліся ў галаву

словы: «Ой арол, мой арол, ты лятаеш высока...» Не так словы, як мелодыя, папеўка. Памыўся, пачаў шмараваць шчокі «Харкавам», а ў галаве ўсё тое ж: «Ты лятаеш высока, ты бываеш далёка». ...Ажно сарваліся з языка тыя словы. Ажно маці не стрывала: «Чаго гэта ты распеўся?» Ён не збянтэжыўся, але ўсё ж крутнуў галавой, праганяючы таго арла: жыло ў ім змалку, што ранішнія спевы — к вячэрнім непрыемнасцям. Смешна, вядома, але ж — дай веры: неяк так атрымлівалася, што яно як і спраўджвалася. Добра-добра ўсё, і раптам нешта благое ці непрыемнае знячэўку зваліцца, бы і праўда падсвядома было наклікана ранішнімі спевамі. І сёння — таксама. Пасля абеду запароў... шаблон для праверкі ходу рэйкі. Каб ужо што іншае, а то — шаблон! Быццам ніколі не рабіў яго! У яго ажно рукі задрыжалі. Доўга не мог супакоіцца. Трыццаць гадоў слясарнічае — і на табе! І адразу ранішні «арол» прыгадаўся. Няйначай праўду людзі кажуць: сам сабе і наспяваў... А пасля работы паклікалі ў партком, папрасілі выступіць у падшэфнай школе. Дык зноў жа: як хто за язык цягнуў! Пачаў зноў пра тое ж: што пара заняцца інструментальным цэхам, што аб культуры вытворчасці на машынабудаўнічым заводзе мяркуюць па культуры інструменталкі, што трэба неадкладна брацца за яго, за інструментальны цэх, хопіць яму туліцца ў цёмных і нізкіх, яшчэ ці не дарэвалюцыйных сценах. Ну, і пасварыўся...

З брыдкай, непрыемнай гарчэчай на душы прыйшоў дадому. І хутчэй схапіўся за газету, каб пазбыцца прыкрасці. Дык жа — дзе тут пачытаеш! Сын залёг пузам на тахту, ногі ўгору задзёр і магнітафон круціць. Надта ж яму весела! Дзе толькі і паназапісваў такіх енкаў і такога гвалту! І абавязкова на ўсю моц, каб вушы пазакладала!

Не вытрымлівае бацька, адрываецца ад газеты, паварочваецца да сына:

— Мацней нельга? Крутані, крутані, сынок, яшчэ трохý! Ты ж не на ўсю шпульку крутануў? Вось і дакруці! Хай і суседзі паслухаюць! Такая музыка!..

Сын хуценька паварочвае рукаятку, выключае магнітафон, зіркае на бацьку.

— Дальбог, паламаю! Я табе гэтую штуковіну купіў, я яе і ўграблю! Сцерпу няма! Вар'яцкі дом!.. Дык каб жа хоць што людскае круціў, а то ж... Пудзіла ты! Толькі і ўмееш лыткамі дрыгаць пад гэтыя енкі!

— А табе што — «Лявоніху» паставіць? Ці, можа, Русланаву? «Я на горку шла»?

— Эдзік, не выводзь з цярпення! Бо пакажу табе і «Лявоніху» і Русланаву!

— Ну вось, табе ўжо і Русланава не падабаецца... А я сур'ёзна, тата. Калі, думаю, майму дарагому татулю не даспадобы сіньёр Рафаэль, дык — будзь ласкавы: Русланава, кумір тваёй, татачка, маладосці.

Бацька падхопліваецца з крэсла, крычыць:

— Дальбог жа, паламаю! Абібок! Смаркач! Яшчэ здзекуешся?

Выходзіць з кухні маці і — накідваецца на бацьку:

— Ну чаго ты? Чаго ты да яго слепішся? Ну, абібок, ну, няўдаліца, яшчэ што? Лягчэй табе ад гэтага стала?

— Заступіся, заступіся! А як жа! Прыгалуб яшчэ, па галоўцы пагладзь, пашкадуй сыночка свайго!

— Такі ж твой, як і мой... А чаго крычаць? Чаго гвалт на ўвесь дом падымаць? Скажы па-чалавечы, калі што якое.

— Па-чалавечы? Хіба ж ён разумее па-чалавечы? Кол на галаве зачэсвай і то рады не дасі... Сказаў, каб енкі свае выключыў, дык — здзекуецца! Яму ўжо і бацька нішто! Во пустадомак, во ўдаўся сынок...

— Ты таксама добрая цаца! Як прыйшоў сёння ўзвінчаны, дык не супакоішся ніяк,— папікае маці. Потым кажа да сына: — А ты чаго разлёгся? Не абрыдла табе скрынка гэта? Штодня з ёю цацкаешся, ні хвіліны цішыні ў хаце! Купілі на сваю галаву! Схадзіў бы куды, калі рабіць няма чаго.

— Куды гэта — куды? — азываецца сын.— Без манет, мама, нікуды не пойдзеш. Хіба толькі туды, адкуль не вяртаюцца. А ў мяне ў кішэнях ні звону, ні шамацення. На цыгарэты няма.

Бацька зноў узгараецца:

— Ага, нават на цыгаркі няма? А дзе ж твой заробак? Што, хіба бацьку аддаў ці мацеры? Усё да капеечкі аддаў, а сабе нават на цыгаркі не пакінуў? Ай-яй-яй, які харошы ў мяне сынок! Вось бог паслаў анёлка... Што, можа, чакаеш, што раздобруся ды табе траяка дам, каб было з чым на вуліцу сашвэндацца?

Сын, усё лежачы на тахце, пасміхваецца:

— А мог бы і даць. Не чорту лысаму, а сыну.

— А кукіша не хочаш? За якую трасцу?

— Не крычы, тата. Усё і без крыку ясна: не дасі! Значыць, трэба абысціся.

— Ведаю, як ты абыходзішся! У мяне не выпрасіш, дык у маткі вымантачыш!.. Прэч з маіх вачэй, дармаед!

Сын, падымаючыся, намацваючы нагамі тэпці і падцягваючы штаны, гаворыць усё з тым жа пасміхам:

— Прыкра, канечне, што бацька не хоча ліцазрэць роднага сына, ды што зробіш. Знікаю, тата, зараз жа знікаю!

Ён ідзе ў спальню, зачыняе за сабой дзверы. Бацька зноў апускаецца ў крэсла, бярэ ў рукі газету, кажа да маці:

— А ты пазаступайся, пазаступайся. Маленькага шкадавала, пашкадуй і цяпер. Пашкадуй!

— Ну чаго ты заладзіў: пашкадуй, пашкадуй... Чаму ж ты як бацька не пагаворыш з ім спакойна, а ўсё — гыр ды гыр? А можа, бяда якая ў хлопца, нявыкрутка? Ты ж бацька!

— Я, ведама, бацька. Цяпер і ты гэта кажаш. А яму цяпер і на бацьку начхаць і на цябе. Чула, як гаворыць? «Кумір тваёй маладосці, татачка!..»

— А ты як на яго? Абібок! Смаркач! Яму ж, Андрэй, таксама крыўдна. Васемнаццаты пайшоў, а ты ўсё як на дзіця, як на малога!

— Ага, усяго васемнаццаты... Я ў пятнаццаць нароўні з мужчынамі ў полі араў, на сенакос хадзіў... Гэта ты, Тоня, усё глядзіш на яго, як на маленькага. «Сыночак, сыночак...» А гэты сыночак хутка і на галаву сядзе!

— Супакойся ты, Андрэй, супакойся. Што тое ўспамінаць? І ты ў пятнаццаць рабіў, і я ў лялькі не гуляла. Трэба было, дык і рабілі. Тыцкаць яму штораз пра тое мо і не трэба... І не такі ён ужо благі, Эдзік. Што ён такое і зрабіў? З работы сарваўся? Дык — ліха з ёй, з работай! Другой хіба не знойдзе?

— Не пра тое я, маці. Работу, ведама, знойдзе, хоць, здаецца мне, не надта ён яе і шукае... Не пра тое я... Кінуў школу, не схацеў у дзевяты хадзіць — ладна, змірыўся я. Думаў, канечне, што іначай будзе, што мо пасля школы ў інстытут пойдзе... Людзе тое замуства перашкодзіла, шкада дзеўкі было, не дурнейшая за іншых... А тут і ён, Эдзік, ды яшчэ па сваёй ахвоце! Але ж — змірыўся. Спадзяваўся, што паробіць, пасталее, сам зразумее, што да чаго. Ажно...

— Ну, а што — ажно? Ці ж ён украў што, ці, не дай бог, скалечыў каго? Ён жа хоча...

— Каб жа хацеў! Ты думаеш, не гаварыў я з ім? Уга, колькі разоў! А што толку? Ці я дурнець пад старасць пачынаю, ці гэта свет такі стаў, а не магу я, Тоня, зразумець. Сына роднага зразумець не магу. Гаворыць мне адно, а сам, бачу, пра нешта іншае думае. Ты, кажа, бацька, адстаў. Адстаў ад веку, ад прагрэсу, мысліш старымі катэгорыямі, жывеш уяўленнямі сваёй маладосці, а зараз век тэхнікі, эмоцыі даўно пара адкінуць... Ты, бацька, кажа, застаўся на ўсё жыццё рамантыкам, летуценнікам, а цяпер век практыцызму, чалавечай ініцыятывы, праяўлення індывідуальнасці... Нічога, Тоня, не разумею! І каб гэта хто іншы казаў, а то ж — сын. Жылі мы з табой, Тоня, жылі, працавалі, дзяцей гадавалі, стараліся, каб як найлепей усё было, а вось бачыш — аказваецца, адсталі.

— Ты супакойся, Андрэй, супакойся. І ціпэй кажы... Ну, ведама, мы з табой жылі, дык не пра тое думалі. Жылі, рабілі, не выстанчалі лішне, бо яно і не было за што выстанчаць, то адна дзірка, то другая — каб хаця залатаць... А цяперака ж, мусіць, і праўда век такі настаў, што і дзіця сваё не заўсёды зразумець можна. Леську во вазьмі. Якіх сем гадкоў, а паспрабуй давядзі ёй што! Яна ўжо табе ўсё ведае, ва ўсім разбіраецца. Я і ў пятнаццаць, пэўна, верыла, што дзяцей бусел прыносіць ці ў капусце іх знаходзяць, а яна? «Як выйду замуж, нараджу сабе дваіх — хлопчыка і дзяўчынку. Тата кажа, што ў нармальнай сям'і павінна быць двое дзяцей...» А пра маці сваю, пра Людку, што кажа? «Мая мама — тыповы прадстаўнік сучаснага мяшчанства!» Я і слоў такіх не ведаю...

— Леська — малайчына! Разумніцай расце... Вось толькі ладу між імі няма, маці, між Людай і Расціславам. Адкуль, ты думаеш, словы тыя? Відаць, Расціслаў казаў, а малая падхапіла. Яны ж усё падхопліваюць, малыя!

— Ну, бачыш! Росцік — не раўня Эдзіку, а таксама абы-што кажа.

— Абое рабое. Эдзік твой яшчэ мудрэй кажа. Часам, Тоня, аж боязна робіцца. Помню, на работу неяк разам ішлі. Там, ля трамвайнага прыпынку, новы дом якраз закладвалі. Дык ён і кажа: «Будуюць у нас, бацька, шмат, але паршыва...» Чаму гэта, кажу, паршыва? А ён: «А хіба ў нас кватэра? Квадратныя метры, а не кватэра. Катух, кажа, з санвузлом, а не кватэра». Не сцярпеў я.

А з зямлянак, кажу, трэба было вылазіць? Гарады, вёскі з папялішчаў падымаць трэба было, заводы і фабрыкі адбудоўваць? «Трэба, кажа, але — досыць, вылезлі, адбудаваліся, а мы па-ранейшаму карабкі складаем...» Адкуль гэта ў яго, Тоня?

— Не сам жа дадумаўся. Мо прачытаў дзе што... А можа ж, Андрэй, і праўду кажа?

— Можа, і праўду, маці, ды я не пра тое... Эх, маці, маці! Мусіць, мы і праўда з табой састарэлі, адсталі ад веку. Вось і ты ўжо мяне не разумееш. Прачытаў, пачуў, сам дадумаўся... Якая, Тоня, розніца? Ты мне скажы лепш, чаму ён так думае? Чаму гэта мы, калі ўсяляліся ў гэтыя квадратныя метры, у гэтыя няшчасныя катухі, нарадавацца не маглі, не верылі, што гэта мы з табой будзем жыць у такім палацы? Помніш, не забылася? А ён...

— Ну, яй-бо, Андрэй, нешта сёння з табой робіцца! Ну, блазнота яшчэ, балбоча абы-што, а ты ўжо ліха яго ведае што думаеш. Дурноцце яшчэ! Пасталее, пасур'ёзнее...

— Эх, Тоня, Тоня! Будзе яму і пяцьдзесят, а для цябе — усё адно блазноцце-дурноцце.

— А хай цябе, Андрэй, з тваім бурчэннем! Убіў сабе нешта ў галаву і чаўпеш, чаўпеш... Чытай лепей сваю газету! А мне на кухню пара, бо не паранее.

Ідзе маці на кухню, а бацька ўнурваецца ў газету. Толькі не турбуе яго ўжо тое, што на нейкім інданезійскім востраве, назву якога і вымавіць цяжка, знайшлі ў джунглях велічны каменны храм і што ў шматпакутным Ольстэры англійскія салдаты застрэлілі вадзіцеля грузавіка. Пра сваё думаецца. Пра Эдзіка, Люду з Расціславам, пра сябе з Тоняй. Дзіўна і не надта зразумела атрымліваецца. Тады, як дзеці малыя былі, як яны з Тоняй маладыя былі, хапала ім клопату і гора — гэта ж колькі гадоў пад чужой страхой жылі! Але ж — спадзяванак мелі: атрымаюць сваю хату, дзеці падрастуць... З гэтым спадзяванкам і жылі і працавалі. Сумленна працавалі — і ён і жонка. Сваё што не зроблена — такой бяды, а на рабоце, сярод людзей, трэба, каб усё добра было. Ці быў за трыццаць гадоў хоць адзін дзень, каб ён на работу праспаў ці прагуляў? Не, не было такога! Затое і шануюць яго на заводзе. Даўно ўжо ён Андрэем Кузьмічом ходзіць, не інакш. І ўзнагарод, званняў розных шмат мае — усіх адразу і не ўспомніць. І Тоня яго — такая ж.

Ужо і да пенсіі абодвум недалёка, а вось жа як не было, так і няма таго чаканага спакою, ціхамірнасці. Праўду людзі кажуць: малыя дзеці — малы клопат, а падрастуць... Бегалі ў школу, дык які там і клопат быў? Абы не хварэлі ды вучыліся. А цяпер да галавы не дабрацьé, як Людцы памагчы і якую Эдзіку раду даць...

Званок у дзверы перапыняе бацькавы думкі. Маці крычыць з кухні, бы ён не чуе:

— Ідзі адчыні! У мяне рукі заняты. Чуеш, Андрэй?

Бацька падымаецца, ідзе ў калідор, на хаду кажа:

— Чую, чую.

З калідора ён неўзабаве высоўваецца ў пакой спінаю, а за ім, прытанцоўваючы, заходзіць іх малады — амаль Эдзікаў равеснік — сусед. Ён ляскае ў далоні, спявае:

Если б я был султан,
Я б имел трех жен
И тройной красотой
Был бы окружен...

— Што здарылася, Рома? — пытае бацька.

— Дзядзька Андрэй, віншуйце! У мяне — сын! Разумееце — сын! — крычыць сусед.

— Віншую, Рома. Сын — гэта добра. Тым больш калі ён — першынец. Рады за цябе, Рома, ад душы рады.

— Дзядзька Андрэй, вы ўяўляеце? Паўтары гадзіны назад я стаў бацькам! Гэта што-небудзь ды значыць? Га, дзядзька Андрэй?

З кухні выходзіць маці з белымі ад мукі рукамі. Яна таксама кажа:

— І я рада, Ромачка! А як жа Нэлачка? Як малы? Ці ўсё ж хаця добра?

— Парадзіха адчувае сябе здавальняюча, Антаніна Васільеўна. І парадзіха і нованароджаны! Так мне сказалі.

— Ну, дык і дзякаваць богу, Ромачка!.. А ты, гляджу, ужо і выпіць на радасцях паспеў?

— Э, не, Антаніна Васільеўна, не! Але... Эўрыка! Добра, што напомнілі. Дзядзька Андрэй, га? То ж, мусіць, трэба? Дзе Эдзік? Вы не зачыняйцеся, я зараз, адна нага тут, другая там! — Сусед выбягае.

— Ашалеў хлопец ад радасці,— кажа маці.— Чакаў жа сына. Нэлка мне казала. Усё наказваў: прыеду забіраць з сынам.— І спахопліваецца: — А я, дурная, як хто за язык цягнуў, пра выпіўку ляпнула! Замест таго каб стрымаць...

Са спальні выходзіць сын, пытае:

— Што тут такое? Нехта, здаецца, выйграў па спортлато? Колькі, калі не сакрэт? На «Жыгулі» хопіць?

Маці смяецца:

— Але, выйграў. Рома. У яго сын.

— І з гэтага выпадку такі гвалт? Скажыце, калі ласка! Да трох мільярдаў двухногіх далучыўся яшчэ адзін, і гэта — радасць! — сын паціскае плячамі.

— Эдзік, прытрымай язык! — гаворыць бацька.

— Маўчу, тата, маўчу. Я проста не падумаў аб тым, што гэта нарадзіўся яшчэ адзін, няхай сабе будучы, рабочы чалавек, прадстаўнік яго вялікасці, так сказаць, стваральнік, каваль, будаўнік і гэтак далей.

— Эдуард! — бацька ўжо крычыць.

— Маўчу! Усё! Кропка!

— Маці, у мяне ёсць нервы ці няма? — паварочваецца бацька да маці.— Няўжо я павінен трываць гэта бясконца?

Маці падбягае да сына, хапае яго белай у муцэ рукой за вуха:

— Эдзік, што з табой рабіць? Мяне хоць пашкадуй, калі бацькі...

— Мама, я ж сказаў — кропка! Больш ні слова! Толькі здаецца мне...

Сын не дагаворвае — заходзіць сусед з падносам, на якім стаяць бутэлька балгарскага мускату, шклянкі, на сподачку — парэзаны сыр.

Сусед гаворыць:

— Антаніна Васільеўна, дзядзька Андрэй, Эдзік — прашу прычасціцца! За майго сына! Па грамульцы за яго чатыры тысячы дзвесце грамаў!

— Чатыры тысячы дзвесце? — перапытвае бацька.

— Чатыры дзвесце! І пяцьдзесят чатыры сантыметры росту! Вось які я маладзец!

— Не ты маладзец, а ў цябе маладзец, Ромачка! — выціраючы аб фартух рукі, кажа маці.

— Хлопец як мае быць! Хай расце здаровенькі! — бярэ бацька з падноса чарку.

— Хай жа ўсё будзе добра! — услед за бацькам прыгубляе чарку і маці.

— Шчаслівы чалавек! — сын таксама бярэ ў руку чарку.— Не, Рома, гэта я не пра цябе. Ты, прабач, само сабой малайчына, але шчаслівы чалавек — гэта твой сын. Вартасцей у яго яшчэ нямнога: чатыры тысячы дзвесце

грамаў і пяцьдзесят чатыры сантыметры. Але затое — ніводнай заганы. За беззаганнага чалавека, Рома!

— Дзякую, Эдзік! А вы, дзядзька Андрэй, чаго ж недапілі? Канчайце ўжо, канчайце, калі ласка!

— Табе ж, Ромачка, клопату цяпер будзе — о-ёй! — кажа маці.— Яшчэ ж, пэўна, і не куплялі нічога?

— Клопату, Антаніна Васільеўна, шмат, але я не бядую. Толькі што даў тэлеграму: заўтра прыедзе цешча. Усе клопаты яна возьме на сябе.

— Яшчэ раз віншую, сусед,— усміхаецца сын.— Цяпер ты ўрэшце зразумееш, які гэта дарагі, жаданы і незаменны чалавек у хаце — цешча!

— Правільна, Эдзік! Асабліва ж, брат, мая цешча. Што там дарагі і жаданы — залаты чалавек! Яна і дагэтуль мяне не крыўдзіла, а цяпер, калі нарадзіўся сын, мой сын, а яе ўнук, яна на руках мяне насіць будзе.

— Ну, а імя ўжо выбралі? — пытае маці.

— Прапановы, Антаніна Васільеўна, былі, але толькі прапановы. Прыедзе цешча, прывязу Нэлу з сынам, тады і будзем думаць. Збяром, так сказаць, сямейную раду.

— Правільна! — падхоплівае сын.— У чалавека ўсё павінна быць прыгожае: і душа, і адзенне, і імя... Гэта, тата, кажу не я. Гэта гаварыў нехта з вялікіх. Так што — не злуйся.

— Клоун ты, Эдзік,— адмахваецца ад яго бацька.

— Не, тата. Клоуны пацяшаюцца з іншых, хоць і здаецца ўсім, што ён пацяшае іх. А я пацяшаюся сам з сябе. Вас жа ўсіх, паверце, я глыбока паважаю і люблю.

— Ну, Эдзік, што за сверб у цябе? — не вытрымлівае і маці.— Праўду бацька кажа: трэба бобу жалезнага наесціся, каб нервы не лопнулі ад тваёй балбатні! Хоць бы во Ромы пастыдаўся.

— Дзядзька Андрэй,— кажа сусед,— а мо яшчэ па адной? Аднаму — грэшна, а сын усё-такі!

— Яно, Рома, як той казаў, ведама,— гаворыць бацька,— першынец, брат, дык дзела такое, што...

— Ну, завёў: яно дзела такое, як той казаў,— перадражнівае яго маці.— Адно ведама: хопіць! Прывет прынялі, і досыць. Будзе нагода яшчэ... А табе, Ромачка, скажу от што. Прыкмета такая ёсць, ну, завядзёнка, значыць. Пакуль сына не пабачыў, замочваць многа пельга. Панюхалі троху, і досыць. Мо і гэтага, на добры лад, не трэба было рабіць.

— А калі ж было бачыць, Антаніна Васільеўна? Мо заўтра ўжо ўпільную праз акно!

— Ну, дык і досыць! А ты, бацька, не забывайся таксама: заўтра не на пагулянку, а на работу.

— А што я, Тоня, такога кажу? Хіба я што такое? — кажа бацька.

— А нічога не трэба казаць,— абрывае яго маці і гаворыць да суседа: — Дзякуем, Ромачка! І яшчэ раз віншуем цябе. Ад усяго сэрца! Нэлачцы заўтра будзеш пісаць — перадавай прывітанне. Найбольш хай грудзі беражэ. Каб хаця не застудзілася. Лета — летам, але ж... І не пры Эдзіку будзе сказана — хай сцэджваецца. Малое-то, пэўна, спраўнае, але ўсё роўна. Каб малако ў грудзях не застойвалася.

— Гэтаму яе, маці, навучаць. Калі не ўрачы, дык іншыя кабеты. Будуць жа там і такія, што не ўпершыню.

— Навучаць! Збяруцца такія першародкі, дык навучаць! Хіба ж я не ведаю, не была там! — кажа маці.

— А хай цябе камар паказыча! — рагоча бацька.— Калі ты была там?!

Маці бянтэжыцца, гаворыць да суседа:

— От бачыш, Ромачка, яго ўжо і на жарты пацягнула. Ад адной чаркі.— І ківае на бацьку.— А каб жа яшчэ? Ай, бацька, бацька!

— То дзякую вам,— кажа сусед.— Пайду я. Першая бацькоўская ноч у мяне сёння.

— Яшчэ можаш спаць, Ромачка. Кукаваць пасля давядзецца. А сёння яшчэ можаш спаць,— гаворыць маці.

— Што ж, будзем адсыпацца, Антаніна Васільеўна. Хоць ці засну — не ведаю...

Бацька праводзіць суседа ў калідор. Вяртаючыся ў пакой, кажа:

— Вось Рома па-сапраўднаму і ачалавечыўся. Бач ты — сына займеў!

— А ты ўжо і расплыўся. Ледзь пра чарчыну заікнуўся, дык ты адразу — яно, ведама, не грэх,— перадражнівае яго маці.

— А яно, Тоня, і праўда не грэх. Дзела такое, што без чаркі не прынята,— памяркоўна адказвае бацька.

— А калі яна ў цябе за грэх лічылася? Калі б ні надарылася, заўсёды прычыну знойдзеш, граху не баішся.

Сын нечакана заступаецца за бацьку:

— Мама, ну навошта ж так? Чалавек зайшоў радасцю падзяліцца, а ты...

— Маўчы ўжо ты, гора маё! — маці махае на сына рукой.— Радасцю... Будзе радасці, як вырасце во такім, як ты! Такая ўжо вялікая радасць!

— Тоня, не трэба,— спыняе яе і бацька.— Чаго ж напрасліну казаць? Хай расце на здароўе. Рома — хлопец харошы, талковы, сур'ёзны...

— А божачкі! Што мне да твайго Ромы? Вы, гляджу, ці цяперся грызліся, а то спеліся, ледзь чаркай запахла!

— Мама, я ж толькі што казаў: усіх вас я люблю і шаную,— кажа сын.— І цябе, мамачка!

— Сціхні, балабон! Усё табе смешачкі! — ужо ці не сярдуе маці.

— Калі чалавек упершыню засмяяўся, ён стаў чалавекам, мама,— кажа сын.— А леў і яго таварышы не смяюцца і да гэтага часу!

— Цьфу! Што з вамі гаварыць? Я вунь праз вас вячэры сёння не згатую,— ідзе маці на кухню.

Бацька некаторы час маўчыць, потым кажа:

— Вось так, сынку, мы перашкодзілі маме згатаваць вячэру.

— Перашкодзілі, тата.

— І спеліся з табой вакол Ромавай чаркі.

— Спеліся, тата. Маме трэба верыць.

— Бачыш, ты ўсё разумееш. То, можа, пагамонім, пакуль вячэра паспее?

— Можна і пагаманіць.

— Толькі без выбрыкаў.

— Ты хацеў сказаць — сур'ёзна?

— Ага, сур'ёзна,— бацька сядае ў крэсла.— Ты таксама сядай, у нагах праўды няма.

— Дзякую, тата,— кажа сын і апускаецца на тахту.— Я ўвесь увага.

— А ты без выбрыкаў усё адно не ўмееш!

— Я сур'ёзна, тата. Слухаю цябе.

— Праўду маці кажа — балабон!.. Слухай, сынок. Калі ты школу кідаў, я, помніш, асабліва не ўпіраўся. Хочаш самастойнасці, на свой хлеб пайсці — ідзі, паспрабуй. Пайшоў на завод — ідзі, я не пярэчыў. Ведаў: там благому не навучаць. Ну, а цяпер што?

— А што цяпер?

— Што рабіць думаеш? З аднаго завода ўцёк, з другога... Мо хопіць, сынку?

— Мо і хопіць, тата.— Сын памаўчаў і нечакана спытаў: — А скажы мне, тата... Толькі не думай нічога бла-

гога. Скажы мне: раніцаю ты на работу з ахвотай, а радасцю ідзеш?

— А чаму ты пытаешся?

— Проста цікава мне, з якім настроем ідзеш ты раніцаю на работу.

— Не, сынок, ты не прыдурвайся, кажы, што ўдумаў.

— Нічога, тата. Проста — цікава мне.

— Цікава, кажаш? Калі сур'ёзна, сынку, дык — не ведаю. Ніколі не думаў пра гэта. Раней не да таго было, каб думаць, а цяпер... Звычка, сынок. Трэба, значыць, вось і ўстаеш, і ідзеш.

— Ага, звычка! Прывык уставаць раніцаю і ісці на работу... А калі ў мяне такой звычкі няма?

— І ў мяне не заўсёды была. Будзе, пачакай.

— А цяпер няма, і ўсё тут! Што тады?

— Што ты, як дзіця, заладзіў: няма і няма? Разуменне ж павінна быць! Трэба, значыць!

— Ты хочаш сказаць — абавязак?

—Ну а як жа! Што гэта за чалавек, калі ён без работы? Чалавеку без работы нельга!

— Трэба! Нельга!.. Як помню сябе, во такім яшчэ,— сын паказвае рукою на стол,— заўсёды гэтыя словы вымаўляліся побач. Гэта — трэба, тое — нельга, тое — трэба, гэта — нельга... З дня ў дзень, з году ў год: трэба — нельга, трэба — нельга!

— Ну а як жа, сынок? А што ты хацеў?

— Не хацеў, а хачу, тата!

— Што ж ты хочаш?

— Хачу калі-небудзь пачуць слова «можна»!

— Што — можна?

— Абы-што! Хоць бы якую дробязь, хоць бы што ерундовае, але — можна!

— Што — можна? Марожанае табе калісьці можна было, веласіпед — можна, цяпер вось — магнітафон можна... Што яшчэ?

— Тата, не пра грошы я!

— А пра што?

— Пра жыццё.

— Пра жыццё? Пра яго, сынок, трэба гаварыць прама, а не ўлукаткі.

— Можна і прама. Я хачу жыць так, як я хачу, а не так, як некаму трэба, каб я жыў.

— Каму гэта — некаму?

Сын маўчыць. Потым кажа:

— Ёсць каму.

— Каму ж усё-такі? — перапытвае бацька.— Мне? Маці? Чорту лысаму? І як жа ты хочаш жыць, сынок?

— А так, як хочацца.

— А як, як?

— Каб мяне не тузалі: трэба — нельга, трэба — нельга...

— Гэта я ўжо чуў. А калі ясней?

— Можна і ясней. Толькі ты не крыўдуй, тата... Я не хачу штодня хадзіць на завод, не хачу штодня ўлазіць там у прамасленую робу і гарбецъ гадзінамі над станком. Як ты, тата. Даруй, але паўтарыць тваё жыццё — такая перспектыва мяне не радуе!

— Та-а-к, сынок, та-а-к...— Бацька сашчэмлівае на каленях рукі і маўчыць. Маўчыць доўга. Урэшце кажа: — Значыць, мой лёс цябе не цешыць. Гм... Яно і праўда: чым ён можа цешыць? Трыццаць гадоў, як на завод прыйшоў, а ўсё — рабочы, звычайны рабочы, хоць і высокай кваліфікацыі. Ні майстрам не стаў, ні брыгадзірам...

— Я ж прасіў, тата, не крыўдаваць. Канечне, мог быць і майстрам, і брыгадзірам... Я ведаю, ты адмаўляўся!

— Кінь, сынок! Што ж тут крыўдаваць? Крыўдаваць позна. А я ж некалі думаў...

— Што ты думаў, тата? Што я ганаруся? Ах, мой тата — рабочы чалавек, рабочы-металіст! Гэта яго рукамі ствараецца набытак дзяржавы, гэта яго рукам абавязаны мы... Ох, тата, адстаём мы ад жыцця, ох, адстаём!

— Та-ак... А ты ведаеш, сынок, што мне зараз хочацца? Хочацца ўшчаміць цябе між ног, спусціць штаны і добра такі пачаставаць дзягаю!

— Ну, тата! Што ты кажаш? За маю шчырасць? Хіба ты так нічога і не зразумеў?

— Што яшчэ я павінен зразумець? Што?

Сын, адчуўшы, пэўна, нешта ў бацькавым голасе, бы завагаўся, аднак жа выпальвае:

— А тое! Ну, добра, папрацуеш ты яшчэ некалькі гадоў, а пасля? А пасля выправяць цябе на пенсію. Выправяць, канечне, урачыста. З аркестрам, з падарункам. Якую-небудзь лодку гумовую паднясуць табе: адпачывай, Андрэй Кузьміч, лаві рыбку! І ўсё. І бывай, Андрэй Кузьміч, кадравы рабочы, ветэран, болей ты нам не патрэбны...

— Сын! — крычыць, бы ў роспачы, бацька.— Хопіць!

Абодва доўга маўчаць.

Потым бацька ўздыхае:

— Я не ведаў, што ты такі жорсткі! Як ты можаш так? Я ж бацька, твой бацька!

— Даруй, тата. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць. Я — не жорсткі. Я люблю цябе, павер мне. Мне шкада цябе, але ж гэта — праўда.

— Што ты ведаеш аб праўдзе, сын?!

— Даруй, тата. Ты сам вучыў мяне заўсёды гаварыць праўду.

— Вучыў, сынок, вучыў. Але нечаму зусім іншаму. Мусіць, кепска вучыў.

— Даруй, тата.

— Даруй, даруй... Я — дарую. Бацькі ўсё даруюць... Толькі ж — чаго ты хочаш, хацеў бы я знаць!

— Не ведаю, тата.

— Не веру, сын. Ведаеш, ды баішся сказаць. Лынды біць ты хочаш, вось што!

— Не, тата. Я не хачу штодня хадзіць на завод не таму, што хачу біць лынды, як ты кажаш. Не такі я ўжо дурань. Я ўцёк з завода таму, што — нецікава. Кожны дзень адно і тое ж. Шасцяронкі, шасцяронкі, шасцяронкі... Станок — разумны, настроіш яго, і ён рэжа. А я? Дзеля чаго я? Каб зняць гатовую дэталь і паставіць новую загатоўку? Першыя тыдні гэта было цікава. А праз месяц, праз два? Даруй, тата, але дзецям і то час ад часу купляюць новыя цацкі, каб абуджаць у дзіцяці творчы пачатак.

— Усё ты ведаеш, усё разумееш. Нават і пра творчы пачатак у дзяцей недзе вычытаў! А ці падумаў, што гэты самы творчы пачатак абуджае ў дзіцяці не сама цацка, не сама па сабе?

— А што?

— Ты ж не дзіця, павінен разумець.

— Зноў павінен?.. А можа, я хачу рабіць тое, да чаго ляжыць душа?

— А да чаго яна ў цябе ляжыць?

— Каб жа я ведаў!

— Вось табе і маеш! А прэтэнзіі ў цябе — уга якія!

— Няма ў мяне ніякіх прэтэнзій. Я проста хачу жыць так, як людзі жывуць.

— Якія людзі? Як яны жывуць?

— А тыя, што жывуць самі па сабе, дзеля саміх сябе.

— А хіба гэта людзі, сынок?

— Тата, мы не на сходзе. Яны — людзі, яны самі жывуць і іншым даюць жыць.

— Ого, сынок, нават так? Радуеш ты мяне сёння.

— Тата, ну чаго ты? Што я такога сказаў? Ты многага не хочаш заўважаць, і табе цяжка зразумець...

— Што я не хачу заўважаць? Чаго я не магу зразумець? Я ведаю, сынок, што чалавек павінен працаваць. Каб быць чалавекам. Я ўсё жыццё рабіў. Сумленна рабіў тое, што ўмеў. А калі не ўмеў, дык вучыўся ад іншых.

— Я ведаю, тата, ты ўсё жыццё працаваў сумленна.

— Кінь, сынок! Ты кажаш, што я не хачу, не магу цябе зразумець. Ну а сам ты сябе разумееш? Мы з маткай стараліся, каб табе і Людзе было добра, каб вы не зазналі таго, што зазналі мы.

— Тата, я гэта ведаю! Толькі не трэба гаварыць пра лапці, пра чуні з трафейнай нямецкай аўтакамеры, у якіх ты прыехаў у горад. Ты ж цудоўна разумееш, што я ў лапцях хадзіць не буду!

— І дзякаваць богу, сынок! Дзеля гэтага мы з маткай і жылі і працавалі. Ніхто пра тое і не кажа. А вось адкуль у цябе гэтая фанабэрыя, гэтая пагарда да працы, да рабочага чалавека? Лапці — глупства, сынок, гэта гора наша былое. А работа? Як жа без яе? А вось жа здаецца мне, што каб можна было, каб грошы ні за што ні пра што даваліся, дык ты так бы і жыў, і думкі ў цябе не было б пра тое, што жыць так подла, брыдка.

— Але ж ёсць і такія, тата.

— Ёсць, сынок. Толькі — што з таго? Няўжо ты можаш пазайздросціць ім? Не жыццё гэта! Яны толькі здаюцца бесклапотнымі, шчаслівымі. А на самой справе іх ні на хвіліну не пакідае страх. Нутро іх бесперастанку точыць пражэрлівы чарвяк гэтага страху. І нутро тое робіцца паступова гнілым. Чалавек такі — як агурок-насеннік, што заляжаўся на градзе. Абалонь цвёрдая, а ўсярэдзіне — смярдзючае гніллё. Яны адзінокія, такія людзі, адзінокія душэўна, а гэта самая страшная адзінота.

— Ну, тата, ты і даеш! Былі б грошы, а сябры знойдуцца.

— Не сябры, сынок, а хаўруснікі. Хаўруснікі па бутэльцы, па гэтай самай душэўнай адзіноце.

— Ты філосаф, татачка! Сапраўдны лектар!

— Не прыкідвайся дурнем, сынок! Усё ты разумееш, а — выскаляешся!

— Разумею я, тата, адно: ты засмучаны. Што ў цябе

такі сын. А як бы добра было, каб ён пайшоў па тваіх слядах, каб стаў надзейным прадаўжальнікам нашай сямейнай рабочай дынастыі!

— Дурань ты, сынок!

— І на гэтым дзякуй, татачка!

Крыўдна, балюча бацьку. Вось табе і блазнота матчына. Такое бацьку гаварыць!.. Аднак жа добра, што не сарваўся, не кінуўся ўшчамляць яго між ног. Біццём не дакажаш. Не вучыў малога біццём, тым больш цяпер не будзеш. Шарсцістыя яны ўсе зараз. Ледзь што — на дыбкі. Толькі не верыць ён, што сын усё тое сур'ёзна казаў. Здзекаваўся з бацькі, ведама, але — без злосці. Ён жа ведае Эдзіка! Душа ў сына добрая. Чэсная душа. Вось толькі мітусні ў галаве шмат. Тыцкаецца, як сляпое кацяня. Казаў жа яму ісці да іх, у інструменталку, дык — упёрся! Бацька яму, ці бачыце, замінаць будзе, ён хоча самастойнасці... Але ж — такое бацьку ў вочы казаць! Што гэта ўсё ж — хлапечая гарэзлівасць ці чэрствасць?..

Сын, седзячы на тахце напроці бацькі, думае пра тое ж. Адчувае — перабаршчыў! Любіць ён бацьку і шануе па-свойму, але і пасміхваецца. Найперш з гэтай бацькавай дзівакаватай прасталінейнасці. Няма ў яго цяперашняй выкрутлівасці, спрытнасці. Шэрага не заўважае — толькі чорнае і белае. А колькі ж шэрага развялося! Толькі бацька не зважае, гне сваё. Трэба — вось і ўвесь ягоны адказ. А тое, што гэтае самае «трэба» можна па-рознаму ўспрымаць і рабіць, яму няўцям. Маці — не такая. Росціка Людчынага яны абое не любяць — і бацька і маці. Але бацька — адкрыта, як неўзлюбіў спачатку, дык і не хавае таго. А маці толькі мо сама сабе ў тым прызнаецца, больш нікому не пакажа, усё Росцік ды Росцік. А як жа — Людку ашчаслівіў!.. Але ж ці не за гэтую прамату ён і любіць бацьку найперш? І ці не таму карціць яму часам паназаляцца бацьку? Ён жа ведае наперад, што бацька скажа на ягоныя шпількі, а вось жа ўсё адно — быццам прыемна яму бачыць, як бацька злуецца і абураецца. Вось і цяпер. Мо досыць ужо, нацешыўся? Дзе там!

— Ведаеш, тата, кім бы я хацеў быць?

Бацька, набычыўшыся, маўчыць, але сын ведае, што ён слухае, і, напускаючы на твар найболей сур'ёзнасці, кажа:

— Пайшоў бы я, тата, у дворнікі. Цяпер гэта — прэ-

стыжная прафесія. Для інтэлігентаў. Зранку дзве гадзінкі дзеркачом памахаў — замест зарадкі, а потым цэлы дзень вольны: займайся духоўным узбагачэннем.

Бацька не азываецца. А сыну як бы тое і трэба — бацькава маўчанне свербу языку дадае.

— А яшчэ лепш, тата, прадаўцом стаць. Цяперашнім часам гэта, скажам шчыра, пасада міністэрская. Уяўляеш перспектыву? Іду я, скажам, па вуліцы, а да мяне падкочваецца гэтакі гладзенькі, кругленькі таварышок. «Эдуард Андрэевіч, выбачайце за турботы, ці не змаглі б вы зрабіць мне такую ласку — дастаць дублёначку? Неабавязкова канадскую, згодзен і на мангольскую і на балгарскую. Аддзячыць не паскуплюся...» Уяўляеш, тата?

Бацька ўрэшце не вытрымлівае, кідае коратка:

— Зубаскал ты, сынок!

— Ну, што ты, тата,— ледзь не лагодна адбрэхваецца сын.— Вышэйшы прэстыж! Выдумкі, скажаш? Дык вось табе газетны факт. Самы большы конкурс зараз не ў медыцынскі ці радыётэхнічны інстытуты, а ў народнагаспадарчы, на аддзяленне таваразнаўцаў. Вось табе і зубаскал! Проста ты нічога, акрамя свайго слясарніцтва, не заўважаеш. Дарэчы, слесар — таксама прэстыжная прафесія. Толькі не проста слесар, а — слесар-сантэхнік. Асабіста ведаю аднаго сантэхніка, які атрымлівае прафесарскі аклад — у трох месцах, канечне,— і мае ўласныя «Жыгулі».

— Вушы баляць, сынок.

— Закругляюся, тата. Апошняе, што хацеў бы табе сказаць. Заўтра я іду на работу.

— Няўжо?

— Як мама кажа — яй-бо!

— І куды ж? Дворнікам?

— Не ўгадаў. Вучнем у фотаатэлье.

— Чаго раптам?

— Тата, чаму раптам? Забыўся? Я яшчэ ў пятым класе хадзіў у фотагурток.

— Мо хоць на цыгарэты прасіць не будзеш.

— Як піць даць — не буду.

— А ўцячэш адтуль праз месяц ці праз два?

Адказаць сын не паспявае — у калідоры зноў звініць званок. Бацька падымаецца, кажа:

— Мусіць, зноў Раман...

Аднак гэта не Раман. Разам з бацькам у пакой з калідора заходзіць дзед. Ён перадае бацьку авоську і капол-

ку, сам сцягвае з плячэй пінжак. Падыходзіць да іх сын, выходзіць з кухні маці.

— Здарова, Тоня! Здароў, Эдзічак! — кажа дзед.

— Тата? Як гэта вы надумаліся? — падае яму руку маці.

— От надумаўся. Старая ўсё — з'ездзі. ды з'ездзі!.. Вазьмі во, Тоня, у Андрэя, а то яму прыставіць няма куды. Нічога такога ў гасцінец і нямашака. Масла крыху старая сабрала, яечак. А ў кашолцы ягады. Учора вырвалася, збегала ў Ельнік, пад пасёлак. На лякарства будзе.

Маці забірае ў бацькі авоську і кашолку, кажа:

— Дзякую, тата! Толькі нашто турбаваліся? Мама яшчэ ў Ельнік хадзіла! Гэта ж няблізкі свет... Купілі б на тое лякарства,— ідзе на кухню.

— А бо, Тонечка! — гаворыць ёй услед дзед.— Іх жа ў нас хоць граблямі грабі, а ты — купляць. Людзям на смех! Пад'ехалі б калі, дык за паўдня па пуду насабіралі б.

Кажучы гэта, дзед робіць крок на хату, але яго затрымлівае бацька, шэптам кажа:

— Боты знімі. А то яна,— ківае на кухню,— не ўпадабае. Во, тэпці ўссунь.

Дзед таропка адступае назад, таксама шэпча:

— А бо... Ці ж не наслядзіў хаця? Забываюся я ўсё на гэтыя гарадскія парадкі. Старая перад ад'ездам наказвала: не едзь у ботах, як мядзведзь, чаравікі казала абуць, але дзе я буду ў клёшах тых выходжваць?

— Ладна, тата, не турбуйся,— кажа бацька,— не наслядзіў.

— То ж і я думаю! На дварэ сухмень, а пакуль да вас дабярэшся, дык калі і была якая пясчынка, дык абабілася.

— Якая там пясчынка! Але ж — баба! Ты, тата, не думай нічога такога.

— А бо, сынку! Хіба ж я не разумею!

Дзед улазіць нагамі ў тэпці, ідзе на хату, сядае ў крэсла, якое яму падсоўвае Эдзік, кажа ўжо ўголас:

— Ух-ха-ха! З непрывычкі дык аж захакаўся, пакуль усцягнуўся. Каб жа троху ніжэй. А то ж усё роўна, як на тую Ванькову гару. Ідзеш-ідзеш, а ўсё канца няма. І табе ж, сынку, мусіць, цяжкавата ўжо стала на гэтыя вышкі штодня падымацца?

— Прывык, тата. Яно, ведама, высакавата, але затое і выгодна. Шуму, пылу меней, над галавой ніхто не затупае,— адказвае бацька.

— Дык яно ж, як той казаў, цёнгле так, адно на адно. Эдзіку во толькі, мусіць, усё роўна. Яшчэ і зарадка раніцай бясплатная. Га, унучак?

— Не скарджуся, дзеду!

— Ты яшчэ і бягом сюды-туды злятаеш.

— І носяцца,— махае рукой бацька.— Аж дом хадуном ходзіць. Калі дык і прыкрыкнеш на каторага падшыванца. Узімку канькі начэпіць і, як той падкаваны жарэбчык, па прыступках — бух-бух! Аж звон увушшу стаіць.

— Ну, дык то, пэўна, меншыя. Эдзік жа кавалер ужо.

— А розум адзін. Рогі павыраствалі — не падступіцца!

— Што ты хочаш, сынку. Калі цяперака і ў сяле, як ты кажаш, рагатыя сталі. Ні бацькоў не слухаюць, ні настаўнікаў. А от да вучобы дык менш прыткія сталі.

— Што ім вучоба! Яны змалку вучаныя! Бацьку бярупца павучаць.

— Тата, мы ж, здаецца, пагаварылі,— перапыняе бацьку сын.

— Знае кошка, чыё сала з'ела,— бурчыць бацька.

— Ну, ну, сынку, дарэмна хлопца не крыўдзь,— кажа дзед.— У ягоныя гады і ты не лепшы быў. У вас, праўда, у галаве адно было, у іх —другое, але ж... Адно каб нутро здаровае было. Успомні, сынку, Генуся Курашчупавага. Ад яго ж на сяле жыцця не было. Усе сады, бывала, абшастае, аблатошыць, ледзь толькі завязь завяжацца. Хто калі чакаў, што з яго чалавек будзе? А прыязджаў нядаўна да маткі На сваёй машыне, з жонкай і дзеткамі. Інжынерам стаў. От табе, сынку, і Курашчупаў Генусь!

— Яно ведама, тата. Але ж Генусь той не толькі па чужых садах лазіў. У чатырнаццаць ён ужо з коньмі ў калгасе рабіў.

— Чаму ж не помніць. Работа ў яго руках гарэла!

— Вось пра гэта і я кажу. І свайму пра гэта чаўплю, як Тоня кажа.

— Дык бо Эдзік зломак? Школу ж во не схацеў канчаць, каб толькі на завод хутчэй.

— Каб ведаў, на які завод яму хочацца, дык дзягу б зняў!

— Знімі цяпер! — кажа сын і, пакрыўджаны, ідзе ў спальню.

— Перастань, сынку. Чаго ты на яго так? — пытае дзед.

— Ёсць за што, тата. Гаварылі мы з ім тут. Якраз перад тваім прыходам. Хацеў пагаварыць. Дык хіба з ім пагаворыш? Бацькавы словы ад яго як гарох ад сценкі.

— Ай, ты ўжо, Андрэй, мусіць, дарма. Маладое, зялёнае яшчэ.

— Каб жа дарма, тата!

— Ну, але кінь. Іншым разам дагамоніце. А то ж, бачу, хлопец узвінчаны.

— Рана яму ўзвінчвацца. На маім хлебе сядзіць.

— Кінь, кажу, сынку! Хлеб цяперака такі, што і не паняць, хто на чыім сядзіць. Ён верабей яшчэ, пырх-пырх, а ты спакайнейшым будзь.

— Цяжка, тата, спакойным быць, калі... Ды ладна, не зараз пра тое. Вячэраць будзем.— Бацька ідзе да дзвярэй кухні, прыадчыняе іх, пытае: — Ну што, маці, скора ты? То нясі сюды, на хату. Госць жа ў нас.

— А бо, такі госць! — бянтэжыцца дзед.— Там бы перакусілі.

— Не, тут лацвей будзе. Там і цеснавата, і душна — духоўка доўга грэлася,— кажа бацька і сядае да стала.— Ну, то хваліся, тата, што там у вас новенькага, як мама?

— А, дзякаваць богу, яшчэ тупаем. На галаву толькі матка жаліцца. К вечару кажа, бы цвыркуны там канцэрты ладзяць. Заснуць доўга не можа. Фельчарка нейкага настою прапісала, таблетак розных — дробненькіх такіх, рознакалёрных, дык памагае трошку... А новенькага што ў нас будзе? Жывём памаленьку. Хваліся лепш сам, як вы тут маецеся.

— І ў нас тое самае, тата.

З кухні выходзіць маці, засцілае стол абрусам, пасля зноў ідзе на кухню, прыносіць і ставіць на стол хлебніцу, сподкі, чаркі, закусь.

— І мы ўжо, тата, у такім веку з маці, што нічога новага не можа быць. Жывём вось,— бацька разводзіць рукамі.

— А Люда як? Як яе Росцік, Леська? — пытае дзед.

— Так сабе. Леся восенню ў школку пойдзе. Харошая дзяўчынка. Прыбяжыць сюды, дык столькі нашчабеча — толькі слухай. Вершыкаў, песенак тых столькі ведае, што аж дзіва. Як тое ў галоўцы ўсё ўмяшчаецца! Я ўжо казаў Людзе: мо занадта яе муштруюць, каб не зашкодзіла часам малой.

— А ў мяне з бабай ні разу не была! Іншыя на ўсё лета прывозяць, рады збыць дзіцятка на лета да бабы

з дзедам, а Леська — ні разу, ні на адзін дзянёк... А як яны між сабою, Люда і Росцік?

— Жывуць... Так, здаецца, і добра ў іх усё, як збоку паглядзець. Са сваім дзіцем яно, бывае, цяжэй пагаварыць, чым з чужым чалавекам.

Маці, выходзячы з кухні, учула, пэўна, бацькавы словы, спытала:

— Ты пра каго гэта? Пра Люду з Росцікам? Не чапай ужо іх хаця! Эдзіка ўсё пораш, дык мо і вінаваты. А яны — хай людзі пазайздросцяць — добра жывуць.

— Я, Тоня, нічога такога. Тата пытаецца, дык я і кажу: быццам добра ўсё ў іх,— кажа бацька.

— А Людка так нідзе і не робіць? — пытае дзед.

— Дай ты веры! Гэта ж усё не пускае. Аж да плачу даходзіць. Люда рвецца, а ён не пускае. Кажа: жонка павінна быць маткай і гаспадыняй, грошы зарабляць — мужчынскі клопат. Калі жонка, кажа, на работу бегае, дык яна перастае быць маткай для дзіцяці, гаспадыняй у хаце і жонкай для мужа.

— Іш ты яго,— цмокае дзед.— А яно ж, сынку, быццам і праўду кажа, га?

— Ай, тата! Якая там праўда? Гэта ж не даўней. Што ёй рабіць днямі ў чатырох сценах? У печы паліць, свінням варыць, ваду насіць ці грады палоць?

— Яно, сынку, ведама. Гэта ў сяле работа цёнгле. А тут, на ўсім гатовым...

— Люда ж і кажа: як у турме. З кутка ў кут цалюткі дзень сноўдацца...

Маці, завіхаючыся ля стала, перапыняе:

— Я ж прашу, Андрэй, памаўчаў бы. Выйшла за добрага чалавека, дык хай не гнявіць бога. На які ляд ёй тая работа? Што, есці не хапае? Ці голая ходзіць? Хай хаця паносіць усё, што накупляў!

— Дык ніхто ж, Тонечка, як той казаў, нічога такога,— кажа дзед.— Жывуць ладна, то і добра.

— Не, тата, я ведаю, што кажу,— гаворыць маці.— Андрэй усё нешта... Усё яму нешта не тое і не так! А Росцік — пашукаць такога! Самастаяцельны, гарачкі ніколі не порыць, гарэлкі ў рот не бярэ, не тое што іншыя — апрагаюцца...

Сын, незаўважна выходзячы са спальні і прысаджваючыся да стала, кажа:

— Лепш ужо хай бы і напіўся калі, чым заўсёды святым быць!

— Эдзік, не пагляджу, што бацьку перарос! — прыкрыквае на яго маці.

— Памаўчы, Эдзік,— кажа і бацька.— Малады яшчэ...— І да маці: — Хопіць табе тупаць, сядай ужо.— Спахопліваецца: — Ты, Тоня, усяго наставіла, а таго самага...

— А хай на яго! — смяецца маці.— Але ж я забылася, дык вы затое не забудзецеся. Ого, калі тое было! — Яна падымаецца і ідзе на кухню.

— Мы тут з сынам узялі па кроплі,— кажа бацька да дзеда.— У суседа сын нарадзіўся, дык заходзіў. Вось маці крышачку з-за таго і злуецца.

— Яно ж, ведама, як у людзей водзіцца. Сын нарадзіўся — гэта ж свята ў чалавека.

Маці, ставячы на стол графінчык, памяркоўна кажа:

— Ты ўжо, Андрэй, лішняга не кажы. Іншы не глядзіць, свята ці не свята — абы набрацца! Не пра цябе кажу, але і ты памаўчы!

— Я маўчу, Тоня... Сядай во сама. Давайце па чарцы возьмем. За прыезд твой, тата. І вячэра гладзей пойдзе,— налівае ў чаркі.

— Мне, сынку, шмат не налівай. Так, панюхаць за кумпанію. Ты ўжо сам. І Тоня хай не аднекваецца,— кажа дзед.

— А не, тата, я таксама толькі за прывет,— пярэчыць маці.

Дзед бярэ чарку:

— Ну, то за ўсё, як той казаў, добрае! Хай харошае не ўцякае, а благое не прыліпае!

— Мацуйся, тата! — бацька куляе чарку ў рот.

— Хай яе немач возьме! — кажа дзед, выпіўшы.— Тая ж, ранейшая, дык, здаецца, мякчэйшая была. А гэтая настаяшчая гадаўка! Усяродку не так смаліць, як горла дзярэ!

— І падаражэла і пагорала,— ківае галавой бацька.

— Што падаражэла, сынку, то, мусіць, і правільна. Выкінуць пяцёрку каторы дык і падумае.

— І я тое ж кажу, тата,— кажа маці.— Хай бы і дзесяць рублёў бутэлька стала.

— Ну, дзесяць мо і занадта будзе, Тонечка. Калі-нікалі трэба ж і непітушчаму браць яе,— не згаджаецца дзед.

— Каб жа, тата, калі-нікалі!

— Ведама. У нас жа нядаўна вяселле было. Анісімаў меншы, што ў Германіі служыць афіцэрам, браў Ляк-

сандраву студэнтку. Дык Анісім і самагонкі трошку выціснуў, але ж і крамную браў. Казалі — тры скрынкі. А яшчэ — віна скрынку... А даўней жа, Тонечка, гэтага не было. Яно, ведама, і вяселляў такіх не збіралі, каб паўсяла гасцей, але ж і пілі, здаецца, не так. На трох мужчын пляшку гарэлкі гаспадар выставіць — гэта ўжо багатай гулянкай лічылася. Бабы тыя і зусім у рот не бралі. Ім бражкі якой ці квасу паставяць — от і ўсё.

— Дык жа, тата, не таму, што не пілі. Іншы б і хацеў пачаставаць гасцей, але дзе тое купіла было ўзяць? — кажа бацька.

— Ведама! Хто гэта быў такі багатыр, каб купіць столькі гары тае, як Анісім той самы? Усю гаспадарку рашыць, дык і то не хопіць.

— Анягож,— пагаджаецца бацька.— Дык ты, тата, так нічога і не расказаў, што там дома ў вёсцы робіцца.

— А што там робіцца? От Ганну Сымонаўну на пенсію праводзілі. У клубе вечар быў, з раёна начальства прыязджала.

— Дацыўкала, значыць, Ганна Сымонаўна да пенсіі, адвучыла нашых чырванаборцаў? Гэта ж калі яна прыехала? Я тады, здаецца, у чацвёрты клас хадзіў,— ці то сцвярджае, ці то перапытвае бацька.

— Акурат у чацвёртую групу бегаў,— кажа дзед.— Яна ж цябе, здаецца, і не вучыла ўжо, усё малодшыя групы вяла... І от жа скажы, сынку, які лёс чалавечы. Прыехала дзеўчынёхай, здалёку, са свету, і звекавала ў нас. І вайну ў нашым Чырвоным Бары перакідалася, і пасляваенную галадоўліцу, і во, бач, на пенсію выйшла. Бабулькай стала. Ідзе ў краму, дык прысядзе з бабамі дзе на лаўцы, пагамоніць, як бы раўня з раўнёю, а тыя ўсё — Ганна Сымонаўна ды Ганна Сымонаўна...

— Настаўніца ж! — зазначае бацька.

— Але, настаўніца. І не абы-якая, сынку, настаўніца. З цяперашнімі не зраўняць. І ў дзяцей у павазе была і ў сталых людзей. Яно і другое, Андрэй. Каторыя во пасля вайны папрыязджалі, а то і пазней, гадоў пятнаццаць якіх назад, а паглядзіш на іх — абáбіліся, апусціліся, што і не пазнаць, ці то свая вясковая лахудра, ці то настаўніца. А Ганна Сымонаўна заўсёды трымала марку. Усё жыццё, лічы, зжыла ў нас, а не скажы!

— Інтэлігентка, не то што,— зноў заўважае бацька.

— Я ж і кажу,— падхоплівае дзед.— А ці чуў ты, што брухмель наш, К'ясачка, зноў на машыну сеў?

— К'ясачка? Дык жа на пенсіі быў,— здзіўляецца бацька.

— Быў, а як жа! Пасядзеў дома нешта з год, а пасля да дырэктара саўхоза: давай машыну, і ўсё тут! І што ты думаеш? Даў яму машыну. Знайшлі старэнькую, ламачыну, можна сказаць, але ездзіць. Далёка нікуды не пасылаюць, а па саўхозе, ад фермы да фермы, соўгаецца... Неяк з лазні разам ішлі, дык казаў: «Рады, Кузьма, як дзіця. А то ж — паміраць сабраўся на пенсіі той. Сяду, кажа, за руль, дык аж душа пяе. Тут табе і бэльзінчыкам пахне, і ветрык праз бакавое шкельца павявае...»

— А стары ж ужо К'ясачка,— кажа бацька.— Я, помню, падшыванцам яшчэ быў, як ён першую палутарку ў вёску прыгнаў. Гэта ж, мусіць, з году трыццаць сёмага за рулём сядзіць?

— Не мусіць, а точна з трыццаць сёмага,— гаворыць дзед.— Бо як у трыццаць дзевятым нашы ў Заходнюю ішлі, дык К'ясачка з машынай пайшоў. А потым, вярнуўшыся, і на нямецкую вайну пайшоў. Ён жа мужчын у раён на сваёй палутарцы павёз.

— Скажы, тата, як шанцуе людзям. Дзве вайны прайшоў, а не шмарганула нават. Вось табе і К'ясачка!

— А не, сынку! Казаў — кантузіла, і вельмі моцна. Пад канец вайны ўжо, ля Берліна. Лячыўся доўга, казаў. Ты і сам жа павінен памятаць, як ён дадому прыйшоў. Помніш, усю зіму першую на печы адлежваўся, нічога не рабіў.

— Адкуль жа мне помніць, тата? Мяне тады ўжо дома не было.

— А бо, я і забыўся,— канфузіцца дзед.— Старасць — не радасць.

— Ну, тата, не грашы богу, як той казаў, ты яшчэ малайцом у мяне,— лашчыць дзеда сваім паглядам бацька.— Але ж загаманіліся мы, што і на яду і на чарку забыліся. Можа, яшчэ па адной возьмем, га? Дзе твая, тата? А ты, маці, куды сваю схавала? Седзячы ў сваёй хаце, ды яшчэ калі ёсць што і пры чым, можна выпіць,— налівае ў чаркі.— Падымайце, падымайце, я вам па кроплі ўсяго!

— Бяры, Тонечка,— кажа дзед.— У сваёй хаце і праўда не грэх.

— А хто ж кажа! — бярэ маці чарку.

Бацька, няўдала павярнуўшыся, скідвае са стала відэлец. Падымаючы яго, гаворыць:

— От, хтосьці спяшаецца.

— Мо Люда забяжыць? Даўнавата не была,— адзываецца маці.

— А й добра было б. Калі — ці цеперся — яе не бачыў. А Алеську ці пазнаю і саўсім! — уздыхае дзед.

— Расце малая,— гаворыць бацька.— Не ўгледзеў во, калі свае павырасталі. Ці даўно, здавалася б, Эдзік са шлейкамі бегаў, а ўжо з бацькам за чаркай сядзіць. А ўнучка нешта яшчэ хутчэй расце.

— Значыць, тата, старэеш,— кажа сын.

— Дзякую, сынок. Каб не сказаў, то і не ведаў бы. Ведама, старэю.— Бацька паварочваецца да дзеда.— Гэта ж цяпер успомню, тата, дык і не верыцца. Пагоніш, бывала, карову пасвіць, дык вечара таго прыждацца не можаш. Дзень — як год. Набегаешся так, што ног пад сабой не чуеш. А цяпер на работу і з работы — і па дні тым.

— Гэтак цёнгле, сынок,— падхоплівае дзед.— У мяне во вазьмі. Якая там работа — каля хаты што, на дрывотні ці ў гародзе корпаешся, а ўсё адно: як таго дня і не было, хоць і на нагах ад сонца да сонца.

— У саўгас ужо не ходзіш?

— Чаму ж не! Як папросіць брыгадзір, то і сцягаюся. То там трэба пасобіць, то ў іншым месцы. Апошнім часам лазню грэю. Яно і няцяжка. Вады ў цыстэрну маторчыкам накачаю, а там толькі дровы падкладвай. А зноў жа — дровы гатовыя. І парэзаныя і пacoланыя. Ну, а пасля білецікі прадаю. Дзесяць капеек заплаці — і хоць там усю ноч пялёхайся, парся-абліваўся. Вады і духу хапае. Яшчэ назаўтра ўранку сёй-той мыцца прыходзіць — хто ў дарозе быў ці так што не пусціла.

— Харошая штука — лазня! — пацягваецца бацька.— І не якая там, а наша, чырванаборская. Як успомню, ажно мурашкі па спіне забегаюць. Так бы, здаецца, венічкам сябе і пацягнуў бы. Ах, любата! А гэты бэйбус,— ківае на сына,— не любіць. Ёсць тут у нас, у горадзе, адна лазня хвалёная, з басейнам. Дык сабраліся адноечы схадзіць. Пайшлі ў духоўку, па-гарадскому ў парылку, дык толькі сораму набраўся: выскачыў адтуль Эдзік, як корак з бутэлькі.

— Ну, а што ты хочаш? Без прывычкі, без закалкі змалку дык і не ўседзіш, дух займе,— разважае дзед.— А я от у ванне вашай не магу. Неяк мыўся ў цябе, сынку, дык не прызнаўся тады — не мог, ледзьве вылез з яе.

Як паляжаў троху, дык як узяла мяне млявасць, аж уваччу пацямнела. Дык я вылез, на краёчку пасядзеў, аддыхаўся-ахаладзіўся... А дух — люблю!

— Дык жа во і Тоня — ніколі ў ванне не паляжыць. Пад душам толькі і мыецца. А то, кажа, сэрца заходзіцца, кругі ў вачах.

— Ці ж я выдумляю? — апраўдваецца маці.— Хацела б і я хоць раз так паляжаць-пабоўтацца, як ты, дык жа праўда не магу. Ён жа,— кажа яна да дзеда,— гадзіну будзе пялёхацца. Пасля вылезе, дык, не раўнуючы, як парсючок той, якога свежаваць сабраліся.

— Ну, от ты і скажаш — парсючок! — муляецца бацька.— Эдзік во кніжку ці газету ў рукі, ляжа ў ванне і чытае.

— Маладое, здаровае,— кажа дзед. І дадае: — А кажуць жа, што і шкодна, калі доўга ляжаць.

— Усё лішняе шкодна,— пагаджаецца бацька.— І курыва і чарка во гэтая. На сонцы папячыся лішне — і то шкодна.

— Яно ведама! Як той паляк міхалкавіцкі кажа: цо задужа, то не здрове,— дзед смяецца і кажа як сам сабе: — А і добра зрабіў, што паслухаўся старой ды прыехаў вас адведаць.

— Канечне, тата, добра,— гаворыць маці.— Нам жа да вас цяжэй выбрацца. То работа гэтая, то што іншае замінае.

— Ці ж мы са старой не разумеем! Таму баба мяне і ганяла: з'ездзі ды з'ездзі! І наказвала, каб хаця пра ўсё распытаў, як вы тут маецеся.

— А што ж у нас, тата, можа здарыцца? Жывём памаленьку. Я ўжо скора на пенсію пайду. Магла і пайсці ўжо, цэх наш лічыцца шкодны, але ж ніяк не рашаюся.

— Мая ж ты Тонечка, ці ж я не ведаю? Я ж, каб ты здарова была, баюся той пенсіі. Як прыйдзе паштарка, пенсію прынясе, дык мне бытта страшна. Заробленыя грошы — адно, а тыя, што па цэтліку прыносяць...

— Тата, ці даўно ты стаў палучаць тыя грошы? Ці ж яны не твае, не заробленыя? — перабівае дзеда бацька.

— Ведаю, сынку, што не ў доўг бяру, што ўжо не аддам іх, а от жа нешта душу вярэдзіць. Як бытта ты ўжо лішні нейкі. На табе, нябожа, і адчапіся!

— Ну што ты, тата!

— Не пра тое я, сынку. Ведаю, што не так сабе прыносяць іх, што заслужыў я тыя рублі, але ж... Прыйдзе

паштарка, распішашся ты ў цэтліку, і неяк раптам сумна стане. От, думаеш, і яшчэ адна рата скончылася...

— Яй-бо, тата, нешта я не магу зразумець. Ці чарка ўжо шкодзіць?

— А мой ты сынку, што ж тут не разумець? Чаму, скажы, твая Тоня не хоча на пенсію афармляцца? Лепш штораніцы на завод тэпаць, а толькі б не дома сядзець, чакаць яе, паганую...

— Ну, яно, ведама, тата... Я дык і думаць пра тое баюся. Сын во папракае: усё жыццё праслясарнічаў і ў начальнікі не выбіўся. А вось як падумаю, што некалі давядзецца кінуць гэтае сваё слясарніцтва, дык і душу захалоніць. Цяпер ты чалавек пры дзеле, да справы далучаны, а тады...

— От жа я і кажу, сынку! Мінуць таго нельга, але хай бы яно і не прыходзіла. Бо як спісаны ўсё адно салдат з давольсцвія... А на Эдзіка ты, сынку, дарэмна. Такога ён табе не мог сказаць. А калі па тваіх слядах не схацеў ісці, то што ж тут такога? Можа, і сам ты трошкі вінаваты ў тым.

— Чым жа я вінаваты, тата? Хіба я благому яго вучыў? Хіба ён не бачыў, які мой хлеб?

— І бачыў, і не бачыў. А калі бачыў, дык от, можа, і хочацца лягчэйшага. Мой хлеб, сынку, быў яшчэ цяжэйшы. Дык што ж — мне на цябе за гэта крыўдаваць? Ці табе на мяне?

— Вось ты куды, тата! Не пра лёгкі хлеб я, а пра лёгкія адносіны да жыцця!

— А ён што, Эдзік твой, крадзе, грошы фальшывыя робіць?

— Э-э, тата, ці самае гэта страшнае? Рабочы чалавек для яго ўжо нішто, яму ўжо, бач, сорамна быць простым рабочым.

— А хто ж ён сам, Эдзік твой? Які асэсар?

— Спытай у яго!

— І спытаю. Ану, унучак, кажы дзеду, хто ты такі ёсць?

— Вылюдак, дзеду.

— А калі сур'ёзна?

— Твой унук, дзеду.

— А за ўнукам што?

— Кіньце вы дзяцініцца! — як злуецца маці.— Што гэта на цябе найшло сёння, Андрэй? Звягаеш і звягаеш на хлопца. Пара ўжо і надакучыць.

— Ніхто, маці, не звягае. Крыўднавата мне, Тоня.

— А што ён табе такое сказаў? Хіба няпраўду? Ты слясарыш усё жыццё, дык хочаш, каб і ён? А можа, ён чаго цікавейшага хоча?

— Ты і праўда, сынку, не гарачыся. Маладому — маладое ў галаве. Ты не надта выбіраў работу сваю, а ім цяпер і выбраць можна,— кажа і дзед.

— Але, тата, але,— ківае, бы пагаджаецца, бацька.— Яны цяпер аж занадта пераборлівыя. Апрануцца — дык і то не дагадзіць. На танцы ў балетках-брызянтовіках не пойдзе! Ды што — на танцы! На вуліцу не выйдзе! А я — хадзіў. І на вуліцу, і на работу, і ў тэатр нават. Але ж — правільна! Я — хадзіў, а яму — нельга. Час не той. Ну, а кажушок яму вельмі патрэбны быў, калі паліто — па апошняй модзе! — летась пашыў? А куртка японская — не мог без яе абысціся? Бацька кажы ці не кажы, а ён сваё: «Усе ходзяць!»

— Дык жа і ходзяць жа! — гукае дзед.— Анэты Петручковай байстручок прыязджаў. Дык — у кажушку! Як начальнік які. А Эдзік чым горшы?

— Вось і Тоня так разважае: чым горшы? Можа, тата, і не горшы, але — ці лепшы? Байстручок той Анэцін у горад убіўся з сямю класамі, а глядзі — і школу вячэрнюю скончыў, і ў інстытуце вучыцца, і на заводзе ўжо начальнікам участка. Казаў мне, калі неяк разам у Чырвоны Бор ехалі.

— От табе і на! А я і не ведаў! — здзіўляецца дзед.— Дзіва што Анэта хваліцца ім — не нахваліцца! От табе і байстручок, от табе і Засмэрка! Яго ж усё Засмэркам малога дражнілі.

— Вось табе, тата, і не горшы!

Дзед трасе галавой:

— Што ты, сынку, хочаш? Таго бядота, сіроцтва надганяла. Чым яму Анэта магла тады памагчы? Самому трэба была старацца, у людзі выбівацца. На чужога дзядзьку не спадзяюцца.

— Таму і чалавекам стаў Засмэрка. А мой бэйбус...

— Ну, ціха, ціха,— махае дзед рукамі.— Дзіця яшчэ. Пойдзе ў салдаты, пасталее, розуму набярэцца...

— Але, тата, дзіцятка горкае... А дзе не трэба, дык ён самога міністра за пояс заткне. І гэта яму не так, і тое кепска. А скажы што, дык: «Адстаў ты, татачка, ад жыцця, мысліш старымі катэгорыямі...» І словы якія ведае! А што сам зрабіў, каб тое было так, а гэта лепшым стала?

— Паспею яшчэ, зраблю,— кажа сын.

— Вось, вось — паспею, зраблю! — перадражнівае бацька.— Колькі вас такіх развялося, што ўсё паспееце, зробіце? Скроні ссівеюць у каторага, а ён — паспею, зраблю яшчэ. Дудкі, даражэнькі, не паспееш, не зробіш!

— Ну, цішэй, не крычы, не на мітынгу,— злуецца відочна маці.— Ідзі лепш адчыні — звоніць нехта. Ці не Рома зноў?

Бацька ўстае, ідзе ў калідор. Чуваць, як ён адмыкае дзверы, як з кімсьці гаворыць.

Неўзабаве ў пакой заходзіць унучка, за ёю — дачка, потым ужо бацька.

— Здрастуйця! — кажа ўнучка.

— Добры вечар! — гаворыць дачка.

Дзед расцвітае:

— А-а-а, хто гэта да нас прыйшоў? Ідзі, ідзі, каза, сюды!

— Я ніякая не каза, а дзевачка Леся!

— Алеся? Такая вялікая? Не можа быць! — здзіўляецца роблена дзед.— Ну, ідзі да мяне, дай дзеду ручку!

— Ты не мой дзед. Во мой дзед! — унучка паказвае на бацьку.

— Правільна! — дзед ужо рагоча.— Гэта твой дзед. А я — другі дзед. Яшчэ большы дзед за гэтага дзеда!

— А двух дзядоў не бывае! — кажа ўнучка і бяжыць да маці: — Здрастуй, бабушка!

— Здрастуй, здрастуй, Лесечка! Да бабы з дзедам прыйшла? От разумніца мая, от малайчына!

— Добры вечар, дзядуля,— падыходзіць да дзеда дачка.— Прыехалі?

— Добра, унучачка, што зайшлі,— дзед падымаецца і цалуе яе ў лоб.— Я ўжо ўспамінаў вас, а вы і на паміне лёгкія. Гэта ж я і цябе даўно не бачыў, а Алеські і саўсім ужо не памятаў.

— Добры вечар, мамачка! — дачка падыходзіць да маці.

— Здарова, дачушка! А чаму ж без Росціка? Дзед во прыехаў.

— Яму часу няма, піша ўсё нешта,— гаворыць дачка.

— Кароль інфармацыі гоніць радкі! — іранізуе сын.

Маці махае на сына рукой, каб той памаўчаў, кажа да дачкі:

— То сядай, вячэрай, пакуль не акалела. А ты, Леська, будзеш есці? Мо катлетку?

— Не хачу!

— То, можа, што другое? Кілбаскі, сыру?

— Не хачу!

— Ну, то ідзі гуляй. Цацкі твае там, у шуфлядцы.

— Харашо, бабушка! — унучка бяжыць у спальню.

— Сядай, Люда, перакусі чаго,— кажа бацька.— Яшчэ ж, пэўна, не вячэралі?

— Дзякуй, тата. Не вельмі і хочацца, хоць і не вячэралі.

— А што маркотная? Ці здарылася што? — зноў кажа бацька.

— Не, тата, усё добра.

— А па-добраму што? — падае голас сын.— У караля інфармацыі сапсавалася «Опціма»?

— Адстань, Эдзька, не да жартаў! — кажа дачка.

— О, штосьці горшае! Няўжо запіў? — назаляецца сын.

— Эдзік, перастань,— кажа бацька.— І не куры тут. На балкон можаш выйсці.

— Слухаюся! — Сын выходзіць было на балкон, але пасля вяртаецца ў хату, прысланяецца да адчыненых балконных дзвярэй.

— А мо і праўда, дачушка, што здарылася? — пытае бацька.— Ты не сядзі склаўшы рукі, укусі чаго. Мы тут і па кроплі ўзялі за дзедаў прыезд. Мо і ты пакаштуеш?

— Не, тата, не магу.

— Ну, то еш тады. Катлеты смачныя, піражкі бяры. Ты ж такія любіш. А не, дык мяска, маці сама смажыла, не з кулінарыі.

— Дзякую, тата,— дачка кладзе на сподак піражок. Кажа да дзеда: — А як вы, дзядуля, як бабка?

— А дзякаваць богу, унучачка. Ківаемся памаленьку. Баба во ўгаварыла да вас пад'ехаць, праведаць, як вы тут. Крыўдзімся мы на вас, Людачка. Ні ты, ні Росцік ніколі да нас не падскочыце. І Алеські ні разу не прывезлі. Ці ж у нас ёй горай было б? І малачко свежанькае заўсёды, і яйка, і з грады што, ягадзіна якая...

— Расціслаў не хоча. Кажа — нашто вам лішні клопат.

— А бо, унучачка, які там клопат? Калі я куды адлучуся, дык баба дома, ля хаты. А то ж радасць якая! Суседзі і то ўжо кажуць: ну, Кузьма, унучка твая паняй вялікай, мусіць, задзелалася, што да дзеда з бабай не паказваецца.

— Вы ўжо скажаце, дзядуля!

— А і праўду кажуць,— кажа маці.— Чым не паня? За добрым чалавекам дык можна і папаняваць!

— Мама! — просіць дачка.

— Ці ж няпраўда, Людачка? Людзі зайздросцяць, от і гавораць.

— Ведама, гэта не абы-які чалавек. Граматны, культурны, не вахлак каторы, якому абы вочы заліць. І грошы ж, мусіць, добрыя мае? — кажа дзед.

— Ды хапае! Чужому ў рот не глядзяць! Па капейцы не адкладвае, каб жонцы якую абнову справіць,— гаворыць маці.

— Мама! — зноў кажа, бы просіць, дачка.

Умешваецца бацька, гаворыць:

— Ты, маці, гэта самае... Абнова — абновай, а... Мы з табой пражылі век, хоць абноў тых і небагата мелі.

— Памаўчаў бы лепей! — кідае яму маці.— Калі што сама купіла, дык і мела. А за табой целам бы свяціла... А Людачка таго клопату не ведае. Як свята якое ці што, дык Росцік сам здагадаецца, чым жонку парадаваць. І па модзе ўгадае, і па фігуры, і не абы-якую транту, а рэч купіць!

— Дык яно ж, як той казаў, жыві ды радуйся. Калі мужык жонку бачыць, дык жонка не плачыць, а смяецца і скачыць,— кажа дзед.

Дачка раптам аблакочваецца на стол і, заплакаўшы, крычыць:

— Перастаньце!..

— Людачка, дачушка, што з табой? — кідаецца да яе маці.

— Не трэба, дачка,— ціха гаворыць бацька.

— Вось табе і маеш! Гаварылі-гаварылі, а тут...— кажа збянтэжана дзед.

— Не стрымала слёз радасці,— кідае ад балкона сын.

— Эдзік! — сыкае на яго бацька.

— Перастань, дачушка,— кажа маці.— Мо што якое, дык чаго ж плакаць? Раскажы лепш, выгаварыся, не трымай за душой. Што ў вас прыключылася?

— Нічога, мама, нічога не здарылася, не прыключылася,— кажа дачка, выціраючы слёзы.— Толькі не магу я так больш. Не магу!

— Людачка, апомніся, што ты кажаш? Ці ж не табе ўсе падружкі зайздросцілі?

— Ніхто мне, мама, не зайздросціў. Смяяліся з мяне. Казалі: за польскага кавалера пайшла!..

— Гэта ад зайздрасці такое гаварылі. Гаварылі, а кожная б пабегла, каб браў!

— Не трэба, Тоня,— азываецца бацька.— Навошта абы-што казаць?

— Чаму абы-што? Для цябе ўсё дурнота, што ні скажу! Хіба ж забыўся ўжо? Як Росцік пачаў заходзіць да нас, дык Рытка, падружка Людзіна, што рабіла? З хаты не вылазіла! Усядзецца, ногі да клубоў пазагаляе і на яго зіркае.

— Мамачка, нічога такога не было! Рытка цярпець яго не магла. Злавалася, што цягаецца кожны дзень, займацца перашкаджае. Мы ж да экзаменаў рыхтаваліся.

— Маўчу, дачушка, маўчу. Хай мне, дурной, тое толькі здавалася! Цяпер ва ўсім я вінаватая!

— Ніхто цябе, Тоня, не вінаваціць,— кажа бацька.

— Я ведаю, усё ведаю! — крычыць маці.— Ты яго заўсёды не любіў. І супраць быў, не хацеў даччынога шчасця. А цяпер я вінаватая...

Маці падхопліваецца з-за стала і, закрываючы твар рукамі, ідзе на кухню.

Дачка, памаўчаўшы, гаворыць:

— Не трэба, тата. Ніхто не вінаваты. Я сама...

Бацька маўчыць. Ніякавата маўчаць дзед і сын.

Бацьку таксама ніякавата. Увесь час з той пары, як дачка выйшла замуж, ён быццам чакаў гэтай хвіліны. Нібы прадчуваў. Не хацеў ён таго ранняга і нечаканага даччынога замуства. Думаў: скончыць яна дзесяць, пойдзе вучыцца далей, настаўніцай будзе, як Ганна Сымонаўна ў іхнім Чырвоным Бары. Ён жа і сам, смешна прызнавацца цяпер каму-небудзь, марыў быць настаўнікам. Яму вайна перашкодзіла. А дачцэ? Зваліўся на галаву журналіст гэты! Здала дачка першы экзамен выпускны і на радасці трапіла з падружкамі на нейкі вечар ва універсітэце, і там прыслепіўся да яе журналіст гэты самы. Прыліп, як смоўж! Дамоў пачаў прыходзіць. І абкруціў дзяўчынку! Спіхнула экзамены і замуж выскачыла. Ён, бацька, спрабаваў супраціўляцца, дык жа — маці загарэлася, упадабала зяця: не станавіся напроці, мо лёс гэта, чалавек сталы, сур'ёзны, кватэру мае, дастатак, пры ім, калі толькі захоча сама, Людачка і вывучыцца, і ў людзі выйдзе... Вось ён і здаўся. А душа не пагаджалася, як прадчувала, што не тое нешта робіцца і не так. Гаварыў жа ён з гэтым нечаканым зяцем сваім. Дык жа — ні разу не сказаў, што любіць, што ўкляпаўся ў дзяўчыну па ву-

шы,— не! Іншае казаў: вы, Андрэй Кузьміч, не сумнявайцеся, вашай дачушкі я не пакрыўджу, зраблю ўсё, каб была яна шчаслівая. Вось і ашчаслівіў! Дачку ён сваю ведае. Каб нічога не было, дык і не заікнулася б. Зацятая яна па натуры. А тут — не магу больш... Ашчаслівіў... Гэта ж як хто тое шчасце разумее. Аднаму шчасце — калі душа ў душу, а другому — каб трантаў паболей, каб у хаце, як у людзей... Яны з маці некалі, здаецца, разумелі адно аднаго, не зважалі на тое, што не на ўсё выстанчала, што па чужых кутках туліліся. Такой бяды! Галоўнае — яны ўдваіх, і праз тое і цяплей ім, і сытней, і весялей. Толькі ж — ці стамілася маці, ці расслабілася, ці што іншае сталася, а з некаторай пары не пазнае ён сваёй Тоні. Як усё адно нейкая заўсёдная незадаволенасць ці зайздрасць апанавала ёю. Найперш — каб грошай ёй паболей. Каб хапала і на штодзённыя траты, і на кніжцы каб не меншала, каб лішнія нулі прыбаўляліся. Ужо і не ведае, ці супакоілася б яна, калі б ён прафесарскі аклад пачаў дадому прыносіць. І ці не з зяця пачалося ўсё? Дай веры, але ж як падумае, дык — з яго. А можа, і не з яго. Мо гэта проста збеглася адно к аднаму. Гэта ж як сверб нейкі па людзях пайшоў: каб дываны паўсюль, каб золата на пальцах блішчала, каб посуд дарагі за шклом... Ён жа раней думаў, што ў газетах працуюць толькі людзі са святымі помысламі. А як жа іначай? Калі іншых павучаць бярэшся, дык сам павінен быць лепшым за гэтых іншых. Аказваецца, памыляўся ён, хоць і пражыў нямала. Людзі — усюды людзі. І там, пэўна, не без вылюдка. Зяць мо і не здагадваецца, а — раскусіў ён яго. Мо і не подлы ён чалавек, зяць, аднак жа — няўдаліца. Работы сваёй не любіць. Проста — прыліп да яе, спакусіўшыся лёгкасцю заробкаў. Накрэмзаў нешта — палучы. Вось і крэмзае, каб зарабіць. А крэмзаецца цяжка, з натугай. Ні разу ж не напісаў такога, каб пагалоска пайшла, каб усе чыталі. Пстрычкі ўсё, якія — чытай ці не чытай. А пыхі — ёсць, не адбярэш. А як жа: журналіст! На пыху гэтую і дачка найперш клюнула. А цяпер вось і сама разабралася, што да чаго. І не цяпер, мусіць, а даўно ўжо, маўчала толькі. Пакуль не дапякло. А яно ж дапячэ, ведама. Хто ж вытрывае? Райскае жыццё для жонкі прыдумаў — на работу не пускае. Ну, тады, як Леська малая была,— ладна, хай пасядзіць з дзіцем, балазе на хлеб хапае. Дык і пасля: сядзі дома, будзь маткай і гаспадыняй. А што ж той матцы і гаспадыні рабіць днямі? На-

стояла на сваім, уткнулася касірам на вакзале, дык — поедам пачаў есці: позна вяртаецца, Леська не дагледжана. Кінула, зноў дома сядзела. У ваенкамат уладкавалася, работа лёгкая, паперкі падшываць, дык — зноў не даспадобы: мужчын там шмат! З прадаўшчыц таксама сарваў — сорамна яму, бач, што жонка прадаўшчыца, што кожны да яе дзевушкае. Так дачка да дваццаці пяці ні пры чым і ходзіць. І вучыцца не пускае. Позна, кажа, забылася ўсё, што і ведала. Дык а дзе ж ты раней быў?.. Восем гадоў пражылі. А цяпер во — не магу больш. І што параіш тут, якой рады дасі?

— Супакойся, дачушка,— кажа ўрэшце бацька.— Ты ж не казала ніколі нічога... Мо і гарачыцца не трэба? Як быццам добра ўсё было...

— Усё як быццам добра... Як быццам... Праўда твая, татачка! Усё быццам добра было...

— Ну, а што ж, дачушка?

— Чужы ён, тата. Увесь гэты час чужы!

— Вось табе маеш! Не ведаю, што і казаць. Не любіш яго?

— Не ведаю, тата.

— Ну... А ён цябе?

— Не ведаю, татачка. Нічога не ведаю! Ці ўмее ён любіць, ці любіў калі каго-небудзь — нічога не ведаю!

— Свае ўсе тут, дачушка, дык ты, гэта самае, не саромейся. На Эдзіка не зважай. Ён хоць і зубаскал, але ж брат твой...

— Леську ён быццам любіць. Хаця — не веру і ў гэтую яго любоў... Не хацела казаць вам, татачка, але скажу. Жонка ў яго была. Да мяне. Сын быў... Не казаў мне ні слова. Толькі нядаўна даведалася, выпадкова... За ўсе гэтыя гады сынам ні разу не пацікавіўся. Тая, першая, з гонарам была, ад аліментаў адмовілася, вось я і не ведала нічога... Што ж тут пра любоў гаварыць? Яму ўсё роўна, ёсць я ці няма. Ніколі не спытаецца, як я, што я, дзе была, што рабіла. Вячэру падала — і добра. І пра сябе ніколі нічога не раскажа...

— А раней, дачушка, напачатку?

— Не думала, тата, пра тое. Леська была маленькая, хварэла часта,— не было калі думаць... На работу не пускаў. «Я не мужчына, калі не пракармлю сям'і...» А больш яго нішто не турбавала. Я што скажу, ну, што сумна адной днямі ў хаце сядзець, што Леську можна было б у яслі ўладкаваць, дык зноў: «Жонка не павінна пра-

цаваць. Гэта наш сорам, што жанчыны на вуліцы заліваюць калдобіну асфальтам і поркаюцца з рыдлёўкай на будоўлі...»

— Бач ты яго — сорам! — круціць бацька галавой.— Можа, і сорам. Цяпер мы багатыя сталі, яно, гэта самае, можна было б і праўда... Але і надта разумныя ўсе парабіліся! Хай бы падумаў каторы... І сябры ў яго такія ж?

— У яго няма сяброў. Спытала аднойчы, чаму так, чаму ні мы ні да кога, ні да нас ніхто не заходзіць, дык цэлую лекцыю прачытаў. «У мяне ёсць калегі, саслужыўцы, а для сяброўства зараз няма адпаведных абставін, бо сяброўства вымагае шчырасці, даверу, а шчырасць у наш час не ў пашане...»

— Ого, цэлая філасофія!

— Яго філасофія, татачка! «Чалавек — прадукт пэўных акалічнасцей. А таму будзь ім, гэтым прадуктам, будзь, як усе. Надта не пніся, але і не адставай, і будзеш мець сытае і бесклапотнае існаванне...»

— А што я казаў, тата? — гукае ад балкона сын.— Будзь, як усе, аказваецца,— лозунг дня!

Бацька моўчкі адмахваецца ад назолы, кажа да дачкі:

— Мо ты, дачушка, гэта самае... У злосці, у раздражнёнасці можна ўсяго нагаварыць...

— Я, тата, супакоілася. Хопіць, нанервавалася. І маму папракала і сябе, што дурная была. Быццам хто розум адабраў, вочы завязаў... Пойдзе на работу раніцаю, а я... Дачакацца не магу. Звечарэ — я на балкон. Стаю і пазіраю: з якога боку ён паявіцца. Ці ад тралейбуса будзе ісці, ці ад аўтобуса. Часам і ацямнею там, на балконе. Не дачакаюся, спаць лягу, а заснуць ніяк не магу. Ледзь толькі якая легкавушка пад акном спыніцца, тармазамі скрыгатне, ці дзверцы ляпнуць — кулём на балкон: можа, ён прыехаў? А ён прыйдзе і не заўважыць нават, што я чакала яго, не спала... Якая я была дурная! Малілася на яго, як на бога! А ён.... Чэрствы, тата, чалавек. І хлус! Хлусіць усім, нават самому сабе!

Маці, зноў паяўляючыся ля стала, са слязьмі кажа:

— Апомніся, дачушка! Жыць жа трэба! Хоць дзеля Леські!

— Каб жа не Леська!.. А ўсё роўна, мамачка, хлус ён. Адчуваю, нутром чую: усё, што ні гаворыць, усё хлусня. Няма ў яго ні сваіх думак, татачка, ні філасофіі ніякай. Усё вычытанае, усё пачутае, усё пазычанае!

— Чалавек жа ён усё-ткі! — крычыць маці.— І цябе

не крыўдзіць, і на рабоце яго паважаюць, а там жа, у рэдакцыі, не дурныя людзі сядзяць!

— Мяне ён, мамачка, не крыўдзіць. Ён не пакрыўдзіць! Каб што нехта падумаў? Ён крыўдзіць не будзе! Ён будзе глядзець мне ў вочы і гаварыць: «Ты павінна мне быць удзячна ўжо толькі за тое, што жывеш у дастатку і ні аб чым не маеш клопатаў, я маю права разлічваць за гэта калі не на тваю любоў, дык хаця б на павагу...» Ён мае права разлічваць на маю павагу...

— Я, дзеткі, нешта не магу зразумець, пра што вы,— кажа маўчаўшы дасюль дзед.— Нешта ніяк не дапетру.

— Дапетрыць, тата, тут нялёгка,— уздыхае бацька.

— Што тут не разумець? Плюнь ты, Людка, на яго, і ўсё тут! — гучна гаворыць сын.

— Ручніком вось гэтым зараз рот табе заткну! — замахваецца на яго маці.

— Ты, унучак, памаўчы,— кажа дзед.— Плюнуць — яно лёгка, але ж... І собіла ж мне якраз у такую хвіліну пад'ехаць!

— Ну, чаго ты, тата? — кажа маці.— З кім не бывае? Ну, пасварыліся, не паладзілі між сабою, дык і што?

— Не сварыліся мы, мама,— падымае галаву дачка.

— А не сварыліся, дык чаго ты? Не трэба і табе, дачушка, такой разумнай быць! Не тое сказаў, не так пагля-дзеў!.. Тваё дзела — бабскае. Іншы жонку на порхаўку саб'е — і нічога, і жывуць. А Росцік твой цябе калі пальцам крануў? Не! І не кране! Не такі ён чалавек. А калі што, дык — саступі. Усё ж ён галава ў хаце. І гаспадар і бацька!

— Не кажы, Тонечка! Надыдзь часу слова балючай раніць, чым пасак той,— кажа дзед.

— Памаўчалі б вы, тата! — агрызаецца маці.— Забыліся, як вы бабку пад п'яную руку гладзілі, як да суседзяў уцякала?!

— Тоня, не нясі лухты! — узвышае голас і бацька.— Здаецца ж, і баба не дурная, а таксама... Сядзь і памаўчы!.. І што думаеш рабіць, дачушка?

— Не ведаю, тата.

— Людка, зануда ён! Я даўно яго раскусіў! Пажывеш яшчэ — загнешся! Закон жа на тваім баку. І кватэра, і...

Бацька абрывае сына:

— Эдуард! — Памаўчаўшы, дадае, звяртаючыся да дачкі: — Я таксама не ведаю, дачушка. Калі што, дык, гэта самае, месца хопіць.

— Што ты гаворыш, Андрэй?! — маці зноў пускае слязу.

— Дзякую, тата,— шэпча дачка.— Пайду я, мусіць.

— Куды, чаго? Зайшла, дык пасядзі! — кажа бацька.

— Пасядзі, не спяшайся, дачушка,— падхопліваецца і маці.— І так рэдка заходзіш, а то зайшла і ўжо бяжыш. Леська вунь загулялася, дзякаваць богу.

— Не, мама, пайду. Бо зараз і ён сюды прыбяжыць. Я ж ведаю.

— То і добра, дачушка. Пасядзіць во з мужчынамі, пагамоніць. Сядзі ўжо!

— Але, пасядзі, дзіцятка. Не ў каго ж, а ў бацькавай хаце,— кажа дзед. І ўздыхае: — От бо яно цёнгле так. Адкуль ліха не чакаеш, адтуль яно прыходзіць. Я не пра Люду... Гэта ж ехала са мной Алена Каршакова. Да сына, да Аркадзя. Дык расказвала... Было ў Аркадзя дзве дачкі. Рашыўся замахнуцца на трэцяга. Усё на хлопца спадзяваўся. Ажно, дай ты рады, зноў дачка. І не адна, а дзве. Дык у Аркадзя, казала Алена, ледзь параліч не быў. У раддом не пайшоў. Так угневаўся на жонку! Суседкі і падружкі па рабоце бегалі парадзіху праведаць, а ён не пайшоў.

— Але ж і пашанцавала чалавеку,— падтрымлівае гаворку маці.

— Добрае шанцаванне! — ухмыляецца сын.

— Ды ўжо ж! Алена расказвала і бедавала: хаця б усё добра было ў іх. Аркадзя, казала, унурыўся: не яго блізняты. Кажа: у нашым родзе блізнят ні ў кога не было. А і сталы чалавек ужо, і не пустамалотак які.

— Яно, ведама, усё так, але і паспачуваць чалавеку можна,— кажа, як пасміхваецца, бацька.

— А божачкі мае — паспачуваць! Што, у яго калекі панароджваліся? — абураецца маці.

— От, бачыш, не была б жанчына! — гаворыць бацька.— Сына чалавек хацеў. Разумееш, мара такая была. А тут — няма і няма. Рашыўся мо ў апошні раз. Як кажуць, пан ці прапаў. І на табе — дачка! Мара лопнула, от што галоўнае.

— Дык жа за сваіх не прызнае,— пярэчыць маці.

— Гэта няйначай з гарачкі,— кажа бацька.

— Я дык і другое хацеў сказаць. У горадзе ды чацвёра дзяцей! Цяперака і ў сяле не надта знойдзеш па столькі. Перавяліся такія смельчакі,— гаворыць дзед.

— Электрычнасць, дзеду, і ў сяле ёсць,— смяецца Эдзік.

— Не зубаскаль, замалады яшчэ! — папікае яго маці.

— Яно так, тата,— кажа бацька.— Але ж гэта нам, пасляваеннаю пароаю, смеласці той трэба было пазычаць, каб разагнацца больш чым на двое. А цяпер смеласці асабліва не трэба, калі на стале ёсць і да стала.

— А от жа ўсё роўна — адно-два! — паказвае на пальцах дзед.

— Таму і вырастаюць рагатыя. Ведама: усё аднаму. Дзесяць, ды што дзесяць — пятнаццаць гадоў хлопцу, а бацькі ўсё дрыжаць, трасуцца над ім, каб нават вецер на яго не дзьмухнуў,— кажа бацька.

— Дык бо сваё дзіця! — маці паціскае плячамі.

— Сваё, ведама, не чужое,— пагаджаецца бацька.

— Дык чаго ж ты?

— Нічога, маці, нічога...

У калідоры звініць званок.

— Гэта ён,— кажа дачка.

Бацька робіць рух падняцца, але маці перапыняе яго:

— Сядзі, сядзі, я сама адчыню.

Яна ідзе ў калідор, адтуль чуцен яе голас:

— Дзе ж ім быць! Тут, у нас. Праходзь, Росцік, праходзь. Кузьма Паўлавіч прыехаў...

У пакой заходзіць зяць, здароўкаецца:

— Добры вечар у хату! Добры вечар, Кузьма Паўлавіч! — падае дзеду руку.— Добры вечар, Андрэй Кузьміч! Добры вечар, Эдуард! — Урэшце кажа да Люды: — А я чакаў, чакаў, думаў ужо, дзе вы прапалі? Няйначай, падумаў, вы тут і рашыў заглянуць...

Маці, ідучы за ім следам, кажа:

— Ну, а дзе ж яны будуць? Добра, што і сам не паленаваўся. Леська ў спальні, цацкамі сваімі занялася, а мы тут сядзім, гамонім. Сядай да стала. Каб яшчэ крышку, то і зусім спазніўся б. Мужчыны во ўжо ледзьве не апаражнілі пасудзіну. Налі Росціку, Андрэй!

— Дзякую, Антаніна Васільеўна,— зяць сядае за стол.— Вы ж ведаеце, які з мяне піток.

— І дзякаваць богу! А кампанію падтрымай.

— У гэтым дзеле, Антаніна Васільеўна, падтрымліваць кампанію якраз грэшна,— кажа зяць, але чарку ў руку бярэ.— Ваша здароўе, Кузьма Паўлавіч, за ваш прыезд!

— Дзякую на добрым слове,— кажа дзед.— Мы ўжо тут памаленьку-паціхеньку, але і сабраліся.

— Так ужо, тата, і сабраліся. Не было ад чаго сабірацца,— заўважае бацька.

— Ну, але ж, як мне, старому, дык і досыць...

Зяць асцярожнічае. Сёння ён прыйшоў сюды занепакоены. Учора яны з жонкай пасварыліся. Усчаў сварку не ён. І намеру такога не меў. У яе раптам мухі ў носе паявіліся. З парога — як абушком па галаве: «Давай разыдземся!» Ён не адразу і зразумеў, пра што яна. Перапытаў: што-што? «Я так больш не магу!» Яна так больш не можа! Яна, бачыце, гіне! Адчувае, як тупее з кожным днём, як страчвае паступова ўсё, што мела ў галаве і ў душы!.. А што яна мела, каб хто спытаў? Наіўныя зекры і адну сукенку, у якой бацька з маткай з радасцю выпхнулі з хаты! А іншыя за дочкамі тысячы даюць, кватэры і нават машыны... Тады пабегла без аглядкі, а цяпер яна, бач, паразумнела. Ён, аказваецца, зусім не той, за каго сябе выдаваў. Ёй, аказваецца, усё абрыдла. А што — абрыдла? Жыць за яго спіной, ні аб чым не думаць? Хай бы паспрабавала пабыць у яго скуры, хай бы хоць месяцдругі пакруцілася, як ён! Ён свету не бачыць, каб раздабыць лішнюю капейку, каб ёй і дачцэ можна было есці і апранаць што хочуць, каб у іх у хаце было не горш, чым у людзей. Хіба ён гультай, п'яніца, забулдыга? Яго на рабоце цэняць і паважаюць. А яна, бач, заўважыла, зразумела, што ён бездар і няўдачнік. Тады яна гэтага не заўважала. Тады яна на яго малілася. І ён, дурань, паверыў. Спадзяваўся, што яна заўсёды будзе глядзець на яго тымі ўлюбёнымі вачамі, будзе любоўна збіраць выразкі яго публікацый і акуратна падклейваць іх у альбомы — ён бачыў, як гэта робяць любячыя жонкі некаторых яго калег. Ён аднойчы апёкся, узяў адну разумніцу, нажыўся, таму і не стаў у другі раз шукаць сабе раўню, а выбраў яе, маладую, нявопытную. Лічыў, што так будзе найлепей. Каханне — глупства, выдумкі для бязвусых, ён ужо ў гэта не верыць. А яна любіць — тым лепш. З цягам часу калі і разлюбіць, дык — застанецца павага, а мо нават і боязь — як да старэйшага. І першыя колькі гадоў усё было менавіта так, як ён спадзяваўся. Яна чакала яго дома, як верная, адданая, паслухмяная сучачка. На работу не пускаў? І правільна рабіў! Там заўсёды знойдуцца сяброўкі, якія хутка адукуюць і навучаць — бабы цяпер пайшлі, не дай бог! Не бабы, а гладыятары ў спадніцах! Корчаць з сябе ліха яго ведае што! Раскамандаваліся! Сямейнымі палкаводцамі парабіліся!.. Вось і ён, як ні бярогся, не ўбярогся. Засвярбела і ў яе нутро! І ён ужо не проста абрыдлы і нялюбы — ён яшчэ і бездар, і няўдач-

нік. Быццам яна нешта ў тым разумее. Ён сам ведае, што ён — не геній. Геніяў — мала, ды і тыя напалову прыдуманыя. А ён працуе не горш за іншых. Выязджае на замалёўках і інфармацыях? Ну і што? Замалёўкі і інфармацыі таксама патрэбны ў газеце, не толькі нарысы і фельетоны. Можа быць, ён памыліўся, выбраўшы для сябе калісьці журналістыку, але неравучвацца позна, а больш ён нічога не ўмее. Ён гэта разумее і ні на што іншае не прэтэндуе, цягне сваё ярэмца. Як можа, як умее. Не заўсёды сумленна? Яго ніхто не злавіў на несумленнасці. У яго замалёўках толькі прозвішчы і лічбы? Без іх — нельга. Ад яго патрабуюць прозвішчаў і лічбаў. Лірыкі ад яго не чакаюць. Лірыкаў і без яго хапае. Часам ён не бачыць тых, пра каго піша? Ну і што? Газета чакаць не можа, досыць і тэлефона, каб сказаць пра чалавека некалькі добрых слоў. А крытыкай займацца ён не любіць. Ён не хоча лезці на ражон. Там, дзе крытыка, можна апячыся. А ён не хоча. Досыць, наапякаўся, як быў бязвусым і занадта порсткім. Ён даўно пераканаўся: пахвальба — гэта зберажоныя нервовыя клеткі, якія не аднаўляюцца. К таму ж пахвальба прыносіць чалавеку толькі карысць. І яму і тым, пра каго ён піша. Дык што ж тут несумленнага? Наадварот! Гэта яго лінія паводзін. Ён для сябе вызначыў жыць і працаваць так... І ў дачыненні да яе, да Люды, ён чэсны. Ён не здраджваў, не зневажаў яе, не пакрыкваў і не замахваўся, стараўся быць роўным і ў паводзінах і ў голасе. Не дужа пускаў яе ў сваю душу, не ва ўсім адкрываўся? Няпраўда! Усё, што лічыў патрэбным, ён ёй расказваў, а тое, што ёй ведаць не трэба,— значыць, не трэба. Будзе ведаць усё — хутка пастарэе! І вось — дачакаўся ўдзячнасці... І — пабегла сюды. Чаго? Шукаць спагады? Татачка яе — паспагадае! Ён — добры! Ён надта правільны! Ах, які правільны і разумны ў яго цесць! А зяця неўзлюбіў з самага пачатку. Заўсёды стараніўся, бы не заўважаў. І швагрок, гэты смаркач-нахабнік, услед за татачкам. З цешчай толькі і можна пагаварыць у гэтай хаце, яна адна цэніць яго дабрату і самаахвярнасць, хоць яна, шчыра сказаць, усяго толькі дурная баба... А тут, аказваецца, яшчэ і дзед, вясковы Саламон, такі ж правільны, як і яго сынок... Цікава, жонка што-небудзь паспела сказаць тут ці не? Разводу захацела! Яму толькі гэтага і не хапала! Не хапала, каб гэтая дурніца сапсавала яму жыццёпіс! Толькі ўзбіўся на адзел і — развод?.. Не, здаецца, нічога не сказала. Каб ска-

зала, дык швагрок не змоўчаў бы. Значыць, можна быць спакойным. А тое, што тут дзед, мо і на руку. Загаварыць трэба найперш з ім...

Закусваючы, зяць пытае:

— А пра што гамоніце, калі не сакрэт? Кузьма Паўлавіч навіны вясковыя расказвае? Чым там вёска дыхае, як ураджай сёлета?

— А дзякаваць, ніштаваты. Жыта дык і саўсім добрае... Яравых трошку не дабяром. Акрыялі, але вясной усё ж падсушыла лішне... Бульба бярэцца добра,— ахвотна расказвае дзед.

— Гэта — добра,— падхоплівае зяць.— Другі хлеб уродзіць, дык не страшна, калі і першага не дабяром крыху.

— Яно ведама. З бульбінай не прападзеш. І да капусты, і да агурка, і да скваркі,— пагаджаецца дзед.

— А настрой які ў вёсцы?

— Лета добрае, дык і настрой добры. Чаму ж яму не быць, таму настрою?

— Правільна, Кузьма Паўлавіч! Чаму ж яму не быць! І што тут дадаць можна? Правільна, хораша сказана.— Зяць смялей азірае застолле.— Люблю вясковага чалавека! Сама прастата і непасрэднасць. А яшчэ — мудрасць. Мудрасць, што ідзе ад зямлі.

— А бо! Як сказалася, так і добра,— як бянтэжыцца дзед.— Хто ўжо ў вёсцы і гаворыць так хораша?

— Э, не кажыце, Кузьма Паўлавіч! І вучоны так не скажа, як дзядзька які вясковы. Так адрэжа, што, як сказаў паэт, «тут ни убавить, ни прибавить»... А яшчэ што мяне ўражвае і захапляе ў вясковым чалавеку, дык гэта яго цярплівасць, я сказаў бы нават — самаахвярнасць.

— Зямля любіць цярплівых. І самаахвярных таксама,— бы сам сабе, кажа бацька.

— У тым і справа, Андрэй Кузьміч! Абсалютна правільна заўважылі,— падтаквае зяць.

— Яно ведама. На зямлі рабіць — гэта не тое, што вынь ды пакладзі. Тут і пацярпець часам трэба,— кажа дзед.

— І таму вельмі шкада, што ў апошні час характар вясковага чалавека імкліва мяняецца,— аблакочваецца зяць на стол.— Працэс гэты зразумелы. Век механізацыі і аўтаматызацыі урбанізуе і вёску. Вясковы спрадвечны ўклад жыцця рушыцца. Гэтага працэсу не спыніш і не адменіш. І ўсё ж... І ўсё ж нечага крыху і шкада. Шкада,

што разам з гэтым прагрэсам вясковы чалавек траціць нешта такое, што не кампенсуеш нічым іншым...

— Што ён такое траціць, гэты ваш вясковы чалавек? Тата, што ты такое страціў у апошнія гады? — ціха пытае бацька.

— Дарэмна іранізуеце, Андрэй Кузьміч,— як крыўдзіцца зяць.— Гаворка не пра Кузьму Паўлавіча. Ён ужо ў такім веку, што яму не пагражае ніякая дэвальвацыя. Я маю, Андрэй Кузьміч, на ўвазе маладзейшых. Іх ужо не вабіць зямля. Іх вабяць горад, дабрабыт, камфорт...

— Што ж у тым благога? Камфорт — хіба гэта кепска? Ты ж і сам во гадаваўся ў вёсцы, а, бач, атайбаваўся ў горадзе.

— Правільна, Андрэй Кузьміч, я таксама дзіця вёскі. Правільней будзе сказаць — не дзіця, а пасынак. Як і вы, Андрэй Кузьміч,— зяць стараецца патрапляць у тон.

— Я сябе пасынкам не лічыў і не лічу!

— Не лічыце? Што ж, магчыма. Мо вы і сапраўды захавалі з вёскай нейкую духоўную еднасць. У сэнсе псіхалагічным. Але факт застаецца фактам: зямлі здрадзілі!

— Дык жа, гэта самае, у свой час сёй-той нямала пастараўся дзеля таго, каб вёска займела сваіх пасынкаў. Андрэй мой не ад радасці ў горад падаўся, не хлеба лёгкага шукаў,— кажа дзед.

— Дык то некалі, Кузьма Паўлавіч. І ніхто Андрэя Кузьміча не асуджае і не папікае. А зараз, зараз? — актыўнічае зяць.

— А што зараз? Цяперака хто хоча — едзе, а хто не хоча — на зямлі робіць,— разводзіць дзед рукамі.

— А ці многа тых, што на зямлі робяць? — не здаецца зяць.

— Многа — мала, а зямля не пустуе. Хто ж на ёй робіць, як не маладыя? З мяне ды з іншых порхавак работнікі ўжо невялікія!

— Канечне, канечне... Я не абагульняю. Астаюцца і працуюць. І я пачаў гаворку зусім не пра гэта. Я гаварыў аб зменах у псіхалогіі вясковага чалавека. Сёння ён ужо зусім не такі, якім быў нейкі дзесятак гадоў назад.

— Што, горшы стаў? — раптам падае голас сын.

— Навошта ж так прамалінейна, Эдуард? Горшы ці лепшы — не ў гэтым справа. Мы не суддзі,— адказвае зяць.

— А ў чым жа?

— У тым, што урбанізацыя вёскі нясе ёй і пэўныя выгады, і пэўныя — на маю думку — страты, прытым непажаданыя.

— Ліха яго ведае, з вашай банізацыяй гэтай,— кажа дзед.— Як на мой дурны розум, дык людзі сталі жыць лепей. І тэлевізары ў кожнай хаце, і газплліткі, многія бабы ўжо і бялізну мыць развучыліся — машыны пакуплялі, на рэчку з пранікам, бадай, ніхто не ходзіць...

— Правільна,— падхоплівае зяць.— А вось акажыся ў вёсцы падарожны чалавек, дык начлег гэты чалавек знойдзе з цяжкасцю. А знойдзе, дык за начлег і за вячэру папросяць заплаціць. А раней селянін на грошы не квапіўся.

— Як каторы,— упарціцца дзед.— Каторы як раней кожнае каліва вішні лічыў, дык і цяперака лічыць. А каторы з чалавека за агурок ці за конаўку малака платы не браў, дык і цяперака не бярэ.

— Я кажу, Кузьма Паўлавіч, не пра некаторых, канкрэтных людзей, а ўвогуле. Быў селянін адзін, а зараз, мне здаецца, іншым стаў.

— Не ведаю, сынок, як там увогуле. Ты чалавек вучоны, шмат ездзіш, выпытваеш, запісваеш, мо табе і відней. А як па мне, дык якія нашы людзі былі, такімі і асталіся. Умелі паспагадаць чалавеку ў горы, тады, калі самі нічога не мелі, дык і цяперака, калі ў дастатку жыць сталі, таксама. І нашчот таго, што дабрэйшыя сталі ці паскуднейшыя... Мужык як быў мужыком, так мужыком і астаўся. Толькі не любіць, калі ім папіхаюць. Хітрэйшы, разумнейшы зрабіўся. Дзякаваць богу, як той казаў, радыё слухаем і газеты чытаем.

— Вось, Кузьма Паўлавіч, вы і самі прагаварыліся. Хітрэйшы мужык стаў!

— Дык а што ж? Што ў тым благога? Свет стаў хітрэйшы.

— Не хітрэйшы, тата, а разумнейшы,— кажа бацька.

— А не ўсё роўна? Дзе розум, там і хітрасць, як наш Мілок кажа. А йшчэ, сынку: як хто да мужыка, так і мужык да яго,— кажа дзед.

— Правільна, дзеду! — крычыць сын.— Ніхто не хоча, каб яго за дурня лічылі!

— А хто каго лічыць, Эдуард? — кажа зяць.

— Ды тут адзін расфіласофстваваўся,— угінае галаву ў плечы сын.

— Ну, ведаеш, Эдуард!

— А што? На злодзею шапка гарыць?

Сын не любіць Расціслава даўно. Спачатку гэта была чыста дзіцячая непрыязнь. За тое, што гэты чужы чалавек раптам забраў з хаты яго сястру. Сястра была старэйшая за яго на восем гадоў, і ён рос пад яе прыглядам. І вось нечакана яна пакінула яго аднаго, сам-насам. Тая непрыязнасць з гадамі не мінулася, а, наадварот, узмацнілася, перарасла ў адкрытую нелюбоў. Чаму так сталася, Эдуард наўрад ці ведаў і сам. Хутчэй за ўсё таму, што бачыў: не любіць зяця бацька і няма асаблівай радасці ў сястрыных вачах. А бацьку сын верыць. Бацька ўмее бачыць людзей. Ёсць у яго чуццё на добрага чалавека і на благога. Бацька паталагічна не церпіць няшчырасці. І ў яго, у сына, гэтая рыса — ад бацькі. Ледзь толькі адчуе, што чалавек гаворыць няпраўду, пачынае выкручвацца, гаварыць не тое, што думае, усярэдзіне ў яго пачынае як бы казытаць нешта, і ён ужо не можа стрымацца, каб не запярэчыць, не пагадзіцца.

Вось і зараз — не стрымаўся, уеў філосафа злодзеем.

Маці кінулася на паратунак зяцю:

— Эдзік, што ў цябе за натура такая? Адно і тое ж! Слова не дасі сказаць.

Маці злуецца ўсур'ёз. Сын некалі яе давядзе. Чаго, каб хто спытаў, лезе? Досыць і без яго! Яна, маці, злякалася, калі дачка знячэўку заплакала. Падумала, што і праўда здарылася нешта благое. А пасля паслухала блытаную даччыну гаворку і супакоілася: праз гэта людзі не разыходзяцца! Проста — абое надта разумныя! Ну, няхай зяць там нешта такое і зрабіў, дык — чаго ж дачка? Чаму не саступіла? А то ўжо — не магу так больш! А трэба не пра сябе, а пра Алеську думаць... І добра, што Росцік здагадаўся зайсці. Пасядзяць во разам, пагамоняць, дык і астынуць абое, калі што і было там у іх. Дык чаго ж сын лезе, куды яго не просяць?

— І праўда, Эдзічак, не задзірайся,— гаворыць і дзед.— А ты б, Росцік, лепш бы Алеськай пахваліўся, пра сябе што б расказаў. Я пасля б старую пацешыў.

— А што расказваць, Кузьма Паўлавіч? Жывём, хлеб жуём! Добра жывём — вось і расказ увесь. Як у вас кажуць: у хаце дастатак і ў сям'і парадак!

— Бач ты: як у нас кажуць. А ў вас жа як?

— Ну, Кузьма Паўлавіч, я ж без задняй думкі! — кажа зяць.

— Дык і я так, барані бог! Ці ў нас, ці ў вас — якая

розніца? Вы — разумнейшыя, мы — дурнейшыя, толькі і ўсяго,— пасміхваецца дзед.

— Ах, Кузьма Паўлавіч, Кузьма Паўлавіч! — уздыхае зяць.— Так яно і пачынаецца. Вы — нас, мы — вас пачынаем не разумець.

— Чаму ж...

Дзед хоча нешта запярэчыць, але яго рашуча перабівае маці:

— Тата, ну чаго і вы разумнікам сябе выстаўляеце? — І да зяця: — А ты б, Росцік, і праўда што-небудзь цікавае расказаў. Куды ездзіў, што бачыў...

— Паездкі, Антаніна Васільеўна,— мая работа. Што ж тут можа быць цікавага? Як нарыхтоўваюць у калгасе сянаж? Ці як бычкоў нагульваюць?

— Ну чаму ж? Дарога — гэта заўсёды нешта цікавае. Я ж, помню, як першы раз ехала поездам, як з бацькам пуцёўкі ў дом адпачынку палучылі, дык у дарозе больш нагледзелася, чым у тым доме адпачынку.

— Ладна, маці,— бы просіць яе памаўчаць бацька.

— Ладна-то ладна, але ж як так? Сабраліся, а пагаманіць быццам няма аб чым. Ці ж то чужыя? Люда як вады ў рот набрала, ты, Андрэй, насупіўся... Эдзік адно толькі ведае, што збрахнуць што...

— А ты б хацела, каб тут з дакладамі выступалі? — падколвае бацька.

— Ай, слухай, Андрэй, ужо і ты пад сына падрабляешся? — крыўдуе маці.— З дакладамі... Песню хоць бы спелі, ці што? Чарчына ж была!

— Ладна, маці. Якая тут песня?

— А мо і праўда? Леську паклічам,— падтрымлівае яе зяць.

— Хіба што Леську. Ёй можна спяваць. Як птушаняці,— кажа бацька.

— Таму птушаняці спаць даўно пара,— азываецца дачка.

Яна, як муж прыйшоў, слова не вымавіла. Мутарна ў яе на душы. Ішла сюды і сама не ведае чаго. Каб пажаліцца? Вось і пажалілася. А ці трэба было тое рабіць? Ды яшчэ пры дзеду? Калі і трэба было, дык не так. Не тое яна гаварыла. Што ёй да таго, які ён, што думае, што гаворыць, з кім сябруе? Галоўнае — не любіць яна яго. Даўно не любіць. І ці любіла? Каб любіла, дык ці зненавідзеўся б так? А цяпер жа не можа і чуць яго, і бачыць. Як зусім чужы зрабіўся. Ведае, што мо і кепска так ду-

маць, грэшна і сорамна, а не можа іначай. Адно стрымлівае — Леська, а то б даўно... Бацька — зразумеў. Ён — добры, чэсны. Ён — даруе. А маці? Маці — наўрад. Зяцёк ёй даражэйшы за дачку зрабіўся. Не, нічога благога яна не хоча думаць пра маці. Проста — не ведае яго маці. Усё Антаніна Васільеўна ды Антаніна Васільеўна... Вось і расплавілася маці: надта ж зяцёк уважны і культурны! А яна адчувае — ён можа і ўдарыць. Не замахваўся, пакуль яна пакорлівая ва ўсім была, пагаджалася, а заўпарціцца — не пабаіцца і ўдарыць, і ўся яго культура аблупіцца, як пабелка старая... Дарма яна заікалася. Трэба канчаткова для сябе ўсё вырашыць, а тады ўжо... А парашыць — не так і проста. Восем гадоў прайшло... Мутарна, непамысна дачцэ. Мо досыць сядзець тут і багамасіць попусту, як бабка любіць гаварыць? Вось яна і азвалася.

А зяць — тут як тут!

— То мо пойдзем, мамачка?

— А божа ж мой! Не паспелі ў хату зайсці, а — пойдзем ужо! Ці ж далёка? Выспіцца яшчэ шчабятуха! Гуляе во, дык хай і гуляе! — маці як загадвае.

І дзед угаворвае:

— А і праўда, дзеткі! Яшчэ не позна надта!

— Я чаю згатую. Пячэнне пякла. Як ведала ўсё роўна, што госці будуць. Сядзіце во, гаманіце, а я хуценька. А то — тэлевізар уключыце, мо што цікавае ідзе.— Маці выходзіць на кухню.

— Чаю мо і няблага будзе папіць,— гаворыць бацька.

— Чаму ж не,— пагаджаецца дзед.— Мы са старой толькі чаем і вячэраем. Калі малака пап'ём, а часцей — чай. Шклянку кіпню, лыжку варэння, пернік які — лепшай вячэры і не трэба.

— Гэта, Кузьма Паўлавіч, не чай,— прымірэнча кажа зяць.— Чай вунь ва ўзбекаў. Калі заварка паўгадзіны пастаяла, дык ужо гэта памыі, а не чай. Заварыў і тут жа налівай у шклянкі. Апякайся, а — пі! Вось гэта ў іх чаем завецца. І ў грузінаў гэтаксама, і ў азербайджанцаў...

— А хай іх, з тымі ўзбекамі! — махае дзед рукой.— У нас во чай п'ецца, каб сагрэцца, каб усярэдзіне пацяплела, а то ж... Кіно часам глядзіш. Сядзяць, смаляцца на сонцы і чай п'юць. Смокчуць і смокчуць і не млеюць...

— Звычка такая,— гаворыць бацька.— А яшчэ ж кажуць, што пасля чаю піць не так хочацца.

— Дай ты веры! Я ж, смейцеся ці не, а пасля чаю

абавязкова кубачак халоднай вады выпʼю. I старая гэтак жа,— смяецца дзед.

— Дык я ж таксама, тата! От не магу, каб халоднай вады пасля не глытнуць,— ківае бацька.

З кухні прыходзіць маці. Ставячы на стол сухарніцу з пячэннем і чайнік, кажа:

— Во, налівайце. Пячэнне каштуйце, не ведаю, ці ўдалося. Росцік, бяры, ты ж любіш!

— Дзякую, Антаніна Васільеўна, не адмоўлюся. Нідзе такога смачнага пячэння, як у вас, не еў!

— От і еш на здароўе! А ты, Людачка?

— Нешта не хочацца, мамачка.

— Дык хоць варэння вазьмі. У нас жа яго шмат. І сырыя цёртыя маліны ёсць... Сёлета, мусіць, варэння зусім варыць не буду — стаіць да лета, псуецца. Ні бацька, ні Эдзік яго не любяць... Хіба сырога чаго засыплю.

— Дык яно, Тонечка, і ў нас,— кажа дзед.— Колькі і цяперака яшчэ таго варэння! Хоць выкідай!.. Гэта ж колькі гадоў назад дык, здаецца, за маліну зʼеў бы, а цяперака дык і прыелася.

— А калі хто, тата, тое варэнне варыў даўней? Калі толькі на лякарства. А цяпер вёдрамі наварваюць,— заўважае бацька.

— Я ж і кажу. У нас жа, дальбог, мо з сотню літраў было. Хто ж яго паесць?

— Дзякаваць богу, адʼеліся людцы,— кажа маці.— І варэнне ўжо ў рот не лезе.

— Адʼеліся, Антаніна Васільеўна, аж занадта,— прыхлёбваючы з кубачка чай, гаворыць зяць.— Не толькі адʼеліся, але і абʼеліся. Калі столькі таўстуноў у нас было? Дзяўчаткі, глядзіш, маладзенькія, а ўкормленыя — асфальт прагінаецца.

— Дык мо і добра, сынку,— кажа дзед.— Ці ж лепш, калі рэбрамі брынчэлі?

— Хто кажа, Кузьма Паўлавіч! Але ж... Во, анекдот апошні. У амерыканца аднаго, які ў нас турыстам быў, спыталі, што запомнілася яму, якія ўражанні. Дык адказаў: «Усё ў вас добра, толькі мужчынам трэба часцей галіцца, а жанчынам не абʼядацца».

— Амерыканцы тыя таксама жаруць — дай бог! — гаворыць бацька.— У вайну яшчэ бачыў.

— Ай, што і казаць! — кажа маці.— Ёсць што есці, дык і ядуць.

— От гэта праўда, Тонечка! Лішняга, каб і хацеў, не

з’ясі. Колькі душа просіць,— зазначае дзед.— А тоўсты ці тонкі, дык... Адзін будзе тоўсты, а другі хоць і есць, а шчэпка шчэпкай.

— Яно так, але за гэтым мне бачыцца іншая праблема,— кажа зяць.— Абжорства ў літаральным сэнсе вядзе да абжорства духоўнага. У нас развялося процьма мяшчан — людзей, для якіх на першым плане ўласны дабрабыт, у тым ліку і ўласны страўнік. Людзі сталі зайздросныя, злыя і нахабныя...

— Так і ўсе людзі? — перапытвае бацька.— Не, даражэнькі, не ўсе і не так і шмат, як сяму-таму здаецца. Не ад цябе першага чую пра тое, і, не крыўдуй, толькі здаецца мне, што хто такое гаворыць, сам часцей за ўсё, як бы гэта сказаць...

— У таго ў самога пыса ў пер’і! — падказвае сын.

— Ну, Андрэй Кузьміч, не чакаў! Чэсна скажу, не чакаў! — усклікае зяць.

— Не пра цябе гаворка, Расціслаў. А толькі паўтару: іншых вінавацяць у грахах смяротных часцей за ўсё самі грэшнікі. Каб самім чысцейшымі выглядаць,— не здаецца бацька.

— Гэта точна, сынку,— гаворыць дзед.— Вазьмі нашу Халімоніху-Пліндачку. Сама ходзіць як апанча, спадніца, выбачайце, у г..., а іншых так абгаворыць, што хоць вушы затыкай.

— Ты, Росцік, не зважай,— кажа маці.— Бацька з дзедам ці мала чаго нагаворыць! Хочацца і ім сябе разумнымі выставіць... Чаю табе падліць?

— Дзякую, Антаніна Васільеўна, здаволіўся. А бацька з дзедам проста не хочуць зразумець мяне. Вы, Кузьма Паўлавіч, на вашу Халімоніху спасылаецеся. Але, выбачайце, што з яе возьмеш,.з бабы вясковай? А вы паглядзіце... Бачылі, як у магазіне людзі за дыванамі душацца ці за трантамі якімі? Уражанне такое, што свет клінам на тых трантах сышоўся. Не возьме каторая ці каторы — усё, канец, смерць ім!

— Яно праўда, душацца,— пагаджаецца бацька.— Але ж... Ну хоць бы азарт той ахвоты паддае. Адны стаяць у чарзе, дай і я пастаю. Грошай у людзей хапае зараз. А з другога боку, дык і іншае. Ну што ты зробіш, калі чалавек хоча, каб у яго ў хаце хораша было? Кабету вазьмі. Іншую не кармі, а дай адзецца. Так і тут. Час жа не той. Кватэры людзі палучаюць, дык хочуць, каб і ў кватэры было па-людску. А дываноў, як на тое ліха, не хапае

пакуль. Будзе ў дастатку, дык ляжаць будуць дываны твае і ніхто за імі душыцца не будзе.

— Хіба ж я гэтага не разумею, Андрэй Кузьміч? Асобныя факты ці з'явы заўсёды можна вытлумачыць. Куды цяжэй убачыць іх ва ўзаемасувязі, вызначыць тэндэнцыю іх развіцця, іх, калі хочаце, дыялектыку. Дык вось, калі разважаць у гэтым кірунку, то карціна вырысоўваецца іншая, якая прымушае задумацца.

— Якія там сувязі, як ты кажаш, якая там дыялектыка — у гэтым не мне разбірацца,— кажа бацька.— А разумею, што людзі сталі жыць лепей, багацей і культурней, вось і ўвесь гамон! Нябось, ты сам таксама хочаш, каб на падлозе ў цябе дыванок ляжаў, каб раніцаю ногі спусціць на цёпленькае і мякенькае. Дык чаму ж іншым гэтага не хацець? Ты дастаў той дыван лёгка, па званочку з рэдакцыі — Люда расказвала, а іншыя так не могуць, ім у чарзе пастаяць трэба.

— Дык я ж не зводжу праблему толькі да дываноў, Андрэй Кузьміч. Пры чым тут дываны?

— А што пры чым?

— З'ява, праблема!

— Хопіць, хопіць вам па-дурному спрачацца,— махае рукамі маці.— Няўжо іншай гаворкі няма?

— Мусіць, і праўда хопіць, Антаніна Васільеўна,— стомлена кажа зяць.— Ды нам, здаецца, пара. Як, мамачка? — паварочваецца ён да Люды.— Мо пойдзем? І позната ўжо, і ўвогуле... Бяры Леську, і пойдзем.

Дачка моўчкі падымаецца з-за стала і моўчкі ідзе ў спальню.

— Вось табе і маеш! Як сама выгнала з хаты,— маркоціцца маці.— А можа б, пасядзелі яшчэ? Леська гуляе...

— Не, Антаніна Васільеўна, дзякуем, пара! — Зяць выходзіць з-за стала, падыходзіць да дзеда.— Ну, Кузьма Паўлавіч, рады, што пабачыў Вас. Прывітанне ад усіх нас бабулі. Бывайце!

— Вы ж бы калі прыехалі ўсё ж. Старая абрадавалася б...

— Мо калі і зазірнём... Бывайце, Андрэй Кузьміч!

Са спальні выходзіць з унучкай дачка. Звяртаючыся да іх, зяць кажа:

— Вы гатовы? То пайшлі...

Дачка, зяць і ўнучка ідуць у калідор. Маці праводзіць іх. Потым вяртаецца да стала.

— Ну, маці, ты тут прыбірай, пасцялі дзеду, а мы на балкон выйдзем пакуль, падыхаем,— кажа бацька.

— А я пайду душ прыму,— гаворыць сын.

Бацька з дзедам выходзяць на балкон, гамоняць там.

— Чуеш, полем пахне? Як у сяле,— кажа дзед.

— Але ж... Выйду вось так калі ўначы, дык і перапёлку часам чую. І зязюлю колькі разоў чуў.

— О-хо-хо, сынку, такія дзялы ў вас... І Эдзік дарогі сваёй не знайшоў, і ў Люды не ўсё добра, пэўна... Выраслі, а ўсё бацьку галава баліць.

— Але, тата. І каго тут вінаваціць будзеш?

— Не яны, сынку, вінаватыя. Ты сябе вазьмі. Як толькі на ногі стаў, памочнікам маім быў. І карову папасвіць, і каня павадзіць, бульбу абганяючы, і палена дроў адрэзаць... Якая там і сіла была, а — памагаў. У вёсцы дык яно быццам так і трэба. Я ж цябе, не хвалюся, і не прымушаў надта, больш сам цягнуўся да тае работы.

— А тут, тата, прымушай ці не прымушай, а толку мала.

— Дык жа яно, сынку, жыццё такое. От ты падумай. Эдзік малы быў. Ну, а з малога і спрос малы. А падрастаць пачаў — што ён пра тваю работу ведаў? Ты раніцаю пойдзеш, вечарам прыйдзеш — от і ўсё. Дзе бацька робіць? На заводзе. А больш — нічога. А вясковае дзіця з першых дзён жыцця бацькоўскую навуку праходзіць. Там усё навідавоку. Я ж, бывала, куды ні пайду, дык і ты над рукою таўчэшся. Дровы з маткай пілуем — ты памагаеш, носіш, складаеш. Плот стаўлю — ты цвікі падаеш, малаток, штыкеціну мне патрымаеш. У поле еду — ты хоць за лейцы патрымаешся... Усё ж тое, сынку, не праходзіць бяccледна.

— А тут адно ведаюць: тата, дай!

— Горад ёсць горад. Але ж надта ты і не патураў ім, Людзе і Эдзіку. З заробку не вельмі напатураешся.

— Не я, дык маці песціла.

— Ну, а што ты хочаш? Маткі ўсе такія. Але ж, сынку, яно і іншае. Ну, от Эдзік твой. Няхай тое ў ім і ёсць троху, яны ўсе цяпер, маладыя, на пуп браць неахвотнікі, хай трактары робяць, кажуць. Ды ўсё ж, гляджу я, і сёння пабачыў, хлопец ён не дурны, галаву на плячах мае. Дармо, што Росцік вучоны, у рэдакцыі робіць, а Эдзік перад ім не пасаваў.

— Перад Росцікам! Ты спытаў бы, перад кім ён пасуе!

— Дык яно і няблага, сынку. За сябе таксама трэба ўмець пастаяць.

— Гледзячы дзе, тата, і гледзячы за што. А то ж...

— Ну, тое па маладосці. А хлопец усё ж кумекае сёетое. І шчыры ён у цябе. Яршысты — гэта праўда, але ж не манюка, што думае, тое і гаворыць.

— Гэтая яго яршыстасць во дзе ў мяне сядзіць!

— А ты спакайней з ім. І, гэта самае, сынку, без прынукі, без папрокаў, каб і яму крыўдна не было. Ён жа ў такім веку, што лічыць сябе пупам зямлі.

— Хто яго папракае, тата!

— А ты паслухай лепш і пагадзіся... І за Эдзіка асабліва не перажывай. Хлопец — яно хлопец, аперыцца. А вось Людачкі шкада мне, сынку.

— А што зробіш, тата? Сам вінаваты. Не спыніў тады Тоні. Не прыкрыкнуў па-мужчынску. А сэрцам адчуваў, што не тое нешта.

— І сябе не вінаваць, і на Тоню не кажы. Хто ж бо ведаў? Яно ж, кажысць, усё добра складвалася. Чалавек сталы, самастаяцельны. І грашовы. Другім скажы — што яшчэ трэба?.. Не любіць яго Люда. Паслухаў яе і чую: не любіць. А колькі ж таго жыцця было ў іх!

— І я, тата, пра тое ж. Выходзіла тады, дык спытаў: «Ці любіш хаця, дачушка?» А яна: «Вельмі, татачка!» Вось табе і вельмі...

— Дзявочае, сынку. Чымсьці спадабаўся, кінуўся ў вочы. Вось і падумала, убіла сабе ў галаву, што назаўсёды... Нейкі ж ён і праўда... Бытта і шчыра што кажа, а нешта як не тое... Мне, сынку, падумалася, ці добра ў яго на рабоце ўсё? Ну, ці палучаецца ў яго тая пісаніна? Нейкі ж бо ён злы, бытта пакрыўджаны на ўсіх.

— Хто яго ведае. Так-то піша, друкуецца. Газету мы выпісваем...

— І цябе во Андрэем Кузьмічом кліча, і Тоню...

— Па-інтэлігентнаму, тата.

— А колікі яму з інтэлігетнасцю гэтакай! Спрадвеку ў народзе зяць цешчу маткай кліча, а цесця — бацькам!

— Не было б горшай бяды, тата.

— А бо! Але ж гэта ўсё адно к аднаму складваецца. Гэта ж не так сабе, усё ад натуры ідзе.

— Пэўна ж!

— Сумнавата Людачцы з ім. Але ж, можа, як той казаў, перамелецца?

— Наўрад, тата.

Дзед маўчыць. Дзед засмучаны. Вось табе і прыехаў, вось табе і парадаваўся!..

Дармо, што казаў, быццам сюды яго баба выпхнула. Калі папраўдзе, дык гэта ён сам не адзін тыдзень дудзеў бабе, што трэба з'ездзіць да сына. І ў ягады яе ўчора ці не сілком выправіў, памеркаваўшы, што як прынясе ягад, дык ён паедзе пэўна ўжо, не адкладзе, як не раз перад тым, сваю паездку на потым.

Дзед любіў прыязджаць да сына. І тады, калі прычына была, і без асаблівай прычыны, калі, бывала, Андрэй доўга не агукаўся ні пісьмом, ні паштоўкай,— тады ён ехаў проста ў адведкі.

Памятае ён усе свае паездкі ў горад. Памятае, як ехаў на сынава вяселле. І як паклікала яго ў дарогу іншая радасная вестка — нарадзілася Люда, унучачка. І тады, калі яны ўжо ўтраіх — Андрэй, Тоня і малая Люда — перабіраліся з чужога кутка ў сваю, вось гэтую хату. І калі Людка выходзіла замуж. І апошнюю, нядаўнюю, перадмайскую паездку ў горад, калі старая выправіла яго купіць шпалеры.

І кожны раз, бываючы тут, дзед радаваўся за сына і ўнукаў, і вёз гэтую радасць дахаты, старой, каб і яна ўсцешылася, што ў сына ўсё добра, не горш, чым у людзей.

А чаму было і не радавацца? Заўсёды ў Андрэя ў хаце панаваў лад і парадак.

Раней, напачатку, цешыла дзеда хоць бы тое, што вельмі ж ласкава, як галубкі, гамоняць між сабою Андрэй і Тоня, што з вялікай цеплынёй і паразумеласцю зіркаюць адно на аднаго. Прыедзе дзед, паглядзіць на іх, паслухае, і так яму хораша на душы зробіцца, што, грэшна і смешна казаць, ажно пазайздросціць сыну, і са светлаю скрухаю падумае аб тым, што ў яго са старою нічога гэтага нібы і не было, і знячэўку засмуціцца быццам, і залуецца на сына: у каго ж гэта ён, каб хто сказаў, удаўся такі, што так дагаджае жонцы, і ці ж дабром хаця ўсё гэта скончыцца, і ці не абернецца гэта тым, што Тоня возьме верх над ім?!

Ліха яго ведае, чаму да яго прыходзілі часам такія думкі. Можа, таму, што сам ён і праўда не ведаў, мусіць, гэтакай зайздроснай цеплыні, гэтакай шчырай паразумеласці з жонкаю. Ажаніў яго бацька, ажаніў, не пытаючыся, хоча ён ці не хоча браць Марылю. Пэўна, і Марыля ішла за яго таксама без ахвоты. Вось так, без замілаван-

ня, яны пабраліся, без пяшчоты жыць пачалі, так і жыццё, можна сказаць, зжылі, хоць і не сварыліся надта, неяк пакрысе прыцершыся, прызвычаіўшыся, навучыўшыся не толькі не абражаць, але і шанаваць, нават шкадаваць, па-свойму любіць і аберагаць адно аднаго.

Зрэшты, не так часта і думаў ён пра гэта. Упершыню варухнулася гэтая думка шкадавання ў душы тут, у сына, абуджаная сынавым шчасцем, але як нечакана варухнулася, так нечакана і збегла ад яго, бо гады ягоныя ўжо былі не тыя — старэчыя, можна сказаць, гады.

А пасля і ў Андрэя з Тоняй усё тое неяк аціхла, адышло, прыхавалася, адцесненае будзённымі клопатамі, жыццёвымі турботамі, і дзед, прыязджаючы да сына, радаваўся ўжо таму, што сам ён, жонка і дзеці здаровыя, што жывуць яны ў дастатку, жывуць неяк надзейна, нібы не ў горадзе, на скупаватыя рублі, а ў вёсцы, пры сваім гародзе і жыўнасці. Радаваўся, па-старэчы больш кантактуючыся і гамонячы з унукам і ўнучкаю, чым з сынам і нявесткаю.

Сёння ён выправіўся да сына быццам проста ў адведкі, аднак жа меў у душы і адну думку-спадзяванку. Яна, гэтая думка, паклікала яго ў дарогу. Ехаў і ўсё меркаваў, як падступіцца з ёю да сына,— адразу, без падрыхтоўкі, ці мо спакваля, выведаўшы спачатку сынавы настроі і планы?

Гэта ж памерла нядаўна, з месяц назад, Міхаліна Каспяровічава. Ён і старая яго правялі набожчыцу на могілкі, пасля пасядзелі з людзьмі за жалобным сталом. А як дахаты ішлі, старая знячэўку вазьмі ды скажы: «Гэта ж і нам хутка збірацца...» Ён не збаяўся тых слоў, спакойна адказаў: «А ўжо ж, не вечныя ж...», а сам нечакана падумаў пра тое, што ж будзе з хатаю, з усёй сядзібаю, калі яны са старою выправяцца туды, куды сёння паехала Міхаліна. Яно і праўда, што ж будзе? Ну, год-другі Андрэй з Тоняй будуць прыязджаць, мо нават вясной пасадзяць адну-другую граду. А пасля? А пасля ўсё будзе пакрысе дзічэць і глушэць, паціху гніць, тлець і валіцца долу — і хата, і пуня, і хлеў, і паветка, і склеп на гародзе, і платы наўкруг сядзібы; укаржанеюць, здзічэюць і ўсохнуць яблыні, забуяе крапівай, чарнобылем і дзядоўнікам гарод, прападуць на ўзмежках вішні, кусты парэчак і агрэсту... А ён жа столькі сілы ўклаў ва ўсё гэта! Яшчэ ж зусім нядаўна, шэсць гадоў назад, даў хаце новы падруб, цэментаваны падмурак, уставіў новыя вок-

ны і дзверы, накрыў шыферам, вымайстраваў веранду — стаяць хаце яшчэ і стаяць; пуню і хлеў таксама накрыў шыферам, вымураваў склеп, выкінуўшы струхлелы драўляны зруб, паставіў цэментавыя слупкі, каб не мяняць плот праз кожныя тры-чатыры гады. Навошта ён рабіў усё гэта? Сам са старой мог бы дажыць веку і так, без лішніх турбот. Каб жа гэта яшчэ вёска была інакшая, што перспектыўнымі завуць, дык мо купіў бы ўсё гэта добры чалавек і жыў, а то ж... Каму спатрэбіцца яго хата, калі вунь колькі пустуе ўжо, гібее сіротамі?

І запала яму думка: угаварыць сына вярнуцца. Пакуль робіць — хай робіць, а як падыдзе пара на пенсію, хай вяртаецца сюды, на бацькава котлішча. А чаму б і не? Яны ж разам прыждуць пенсіі, Андрэй і Тоня, от хай і вяртаюцца. Гарадскую хату хай пакінуць Эдзіку, а самі — сюды! Павінен сын паслухацца. Гэта ж каторы ў горадзе нарадзіўся, во ўжо як і Эдзік іхні, дык таму, вядома, рашыцца на такі крок нялёгка.

Андрэй жа і Тоня яго ў вёсцы выраслі, чаго ж ім палохацца? Ці ж тут не лепей, чым у горадзе?

Тут во і дыхаць ёсць чым, і ўлетку нагой босай ёсць дзе ступіць, і ў лес па ягадзіну ці па грыб шторанак схадзіць...

Старой не стаў нічога гаварыць. Парашыў: з'ездзіць, пагаворыць з сынам, тады скажа. Ці абрадуе, ці...

Суцяшаў сам сябе, што павінен згадзіцца сын. Ён жа і касіць умее, і з плугам прайсціся, і іншую вясковую работу рабіць не забыўся.

Думаў так і здзіўляўся, чаму гэта ні разу, за ўсе гады пасля таго, як пайшоў сын у горад, яны не гаварылі пра гэта. Няўжо сыну ніколі не снілася родная вёска, колішнія суседзі? Быць таго не можа! Пэўна ж, не адзін раз прыгадваў і лес, і аселіцу, і сцежкі, па якіх у маленстве бегаў, і не адзін раз шчымела ў яго ад гэтых успамінаў душа, а не гаварыў пра гэта, бо саромеўся, бянтэжыўся прызнацца, каб не падумаў ніхто, нават і бацька родны, што — шкадуе, што хоць і жыве ў горадзе, а душою — тут, у роднай вёсцы? А можа ж, якраз так яно і ёсць. Можа, Андрэй і па сённяшні бачыць, як узыходзіць сонца над Чырвоным Борам і як заходзіць яно за хмызнякамі на Каралёвых дадатках. Гэта ж кажуць, што праз усё жыццё чалавек памятае свае ўзыходы і заходы сонца і з цяжкасцю прывыкае да таго, дзе, у якім баку ўстае і сядае сонца, трапляючы на новае месца жыхарства...

Ну, а сам ён — чаму таксама ніколі не загаварыў пра тое з сынам? Зноў жа, ліха яго ведае, чаму! Няйначай, баяўся збянтэжыць сына. Баяўся, што сын можа пакрыўдзіцца ці нават раззлавацца. Яны ж усе, у горадзе, надта нервовыя, ледзь што не па-іхняму — адразу ж псіхуюць, хапаюцца за сэрца...

Вось табе і прыехаў, вось і пагаварыў!..

А ўсё ж нібы добра пачыналася. Сварка Андрэя з Эдзікам — не ў знак. Тым больш прытушыў ён сварку тую, вячэраць селі спакойна. Дык жа... Хто чакаў, што Люда такое скажа, прыйшоўшы? Яны са старой і падумаць нічога такога не маглі. Гэта ж толькі і гаворкі было, што Люда паняй стала, што жыве, як у бога за пазухай. Ажно вунь як напанявала яна... Куды ж тут было лезці ўжо яму са сваёю гаворкаю! Не да таго цяпер Андрэю. І сёння, і доўга яшчэ будзе не да таго. Лепш пачакаць ужо, іншым разам пагаманіць. Толькі ж — ці будзе ён, гэты іншы раз? Ці падаруюць яму гэты іншы раз яго восемдзесят?

Уздыхнуў дзед, сказаў:

— О-хо-хо... Хітрая штука жыццё, сынку. Цяжка было, гаротна — ну дык на тое ж вайна, бясхлебіца пасляваенная. Спадзяваліся, што лепшага прыжджэмся. І, дзякаваць, прыждаліся. І ціха, і мірна, і сытна, і мітрэнгі, клопату таго былога нямашака. Усяго хапае. Жыві, кажысць, і бога не гняві, песні спявай. Дык жа — не! Нешта іншае муляе, турбуе. Не тое, дык другое. Хай яго ліха!

— А што ж ты хацеў, тата? Без клопату не можа чалавек. Няма клопату — няма і чалавека. А пакуль жыве, дык і муляе, як ты кажаш, нешта.

— Яно ведама! Але ж клопат клопату — розніца. Калі дзіця тваё галоднае, а ты не ведаеш, чым накарміць яго,— то адзін клопат. Горкі, сынку, клопат, хай яго людцы больш не ведаюць. А сёння ж каб лепей было — адзін клопат.

— Горш не будзе, тата.

— А не будзе горай, дык ляпей будзе. Ці ж не так?

— Праўда, тата.

— Ну, то і бедаваць, можа, не трэба, сынку?.. Спаць пойдзем. Табе на работу, а я ж думаю заўтра і дадому.

— Глядзі сам, тата. Дома ж таксама нічога не гарыць.

— Не гарыць, але ж... Старая будзе думаць, чаго загуляўся.

— Глядзі, тата. Мог бы і пагасцяваць троху.

— Зімою ўжо мо калі, сынку. Цяпер не да гасцявання.

— Табе, тата, і зімою не будзе калі.

— А хай яго, калі ж, пакуль жывеш, дык і робіш нешта.

— Яно так...

Некаторы час акно на пятым паверсе свяцілася. Па фіранцы сюд-туд мільгацеў цень — відаць, дзед клаўся спаць на крэсла-раскладанак.

Урэшце акно пагасла, каб заўтра загарэцца — ад промняў сонца.

# ЗМЕСТ

## АПАВЯДАННІ



## АПОВЕСЦІ

**Гіль М.**

Г 47 Камандзіроўка ў Вішанькі: Апавяданні, аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 316 с.: 1 л. партр.

У кнігу «Камандзіроўка ў Вішанькі» пісьменнік Мікола Гіль уключыў лепшыя апавяданні і аповесці з сваіх зборнікаў: «Ранішнія сны» (1973), «Тацянін чэрвень» (1978) і «Пуд жыта» (1982). У цэнтры ўвагі аўтара — людзі, іх жыццё, клопаты, радасці і цяжкасці, праблема ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей, выхаванне моладзі, маральна-этычныя канфлікты, якія ўзнікаюць на стыку горада і вёскі. Многія творы падкупляюць сваёй жыццёвай праўдай.

Г $\frac{4702120200-060}{М\ 302(03)-87}$ 123—87 **ББК 84 Бел 7**

Николай Семенович Гиль
КОМАНДИРОВКА В ВИШЕНКИ
Рассказы, повести

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *А. А. Сляпцова*. Мастак *Ю. А. Модлінскі*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктар *І. М. Паланейчык*.

ІБ № 2768

Здадзена ў набор 01.07.86. Падп. да друку 26.02.87. АТ 07567. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 16,91. Ул.-выд. арк. 18,22. Тыраж 4600 экз. Зак. 2609. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

**У 1986 годзе**
**выдавецтва «Мастацкая літаратура»**
**выпусціла ў свет паўторным выданнем**
**наступныя кнігі беларускіх пісьменнікаў**

А. Іваноў. **На Далёкім Усходзе.** Раман. 15 арк., на рус. мове.

А. Капусцін. **Гудок далёкага поезда.** Аповесці і апавяданні. 19 арк., на бел. мове.

М. Кругавых. **Дарога ў мужнасць. Зоркі ў імгле.** Раман, аповесць. 32 арк., на рус. мове.

Э. Ялугін. **Астравы. Апошні князь.** Раман. Аповесць. 27 арк., на рус. мове.

Кнігі можна набыць у Кнігарні пісьменніка (Мінск, вул. Казлова, 2) і ў магазінах кнігагандлю рэспублікі.